

НІНА СТУЖЫНСКАЯ

# БЕЛАРУСЬ МЯЦЕЖНАЯ:

## з гісторыі ўзброенага антысавецкага супраціву ў 20-я гг. XX стагоддзя

Серия ТАКАЯ ИСТОРИЯ

Мінск
Выдавец Вараксін А.М.
2012

Ніна СТУЖЫНСКАЯ

# БЕЛАРУСЬ МЯЦЕЖНАЯ:

## З гісторыі ўзброенага антысавецкага супраціву ў 20-я гг. XX стагоддзя

Мінск
Выдавец Вараксін А.М.
2012

УДК 94(476)"192"
ББК 63.3(4Беи)61
С88

Серыя «ТАКАЯ ГІСТОРЫЯ»
заснавана ў 2011 годзе

Рэдактар серыі:
*Раман Міхайлавіч Цымбераў*

**Стужынская**, Н. І.
С88 Беларусь мяцежная : з гісторыі ўзброенага антысавецкага супраціву ў 20-я гг. ХХ стагоддзя / Ніна Стужынская. – Мінск : А. М. Вараксін – 362 с. – (Серыя «ТАКАЯ ГІСТОРЫЯ»).

ISBN 978-985-7035-04-5.

Праца кандыдата гістарычных навук Н.Стужынскай прысвечана маладаследаваным і малавядомым падзеям Беларускага Рэзістанса: Слуцкаму паўстанню і дзейнасці антысавецкай партызанкі ў 20-я гады ХХ ст. У дадатку прадстаўлены матэрыялы, якія адлюстроўваюць тагачасную барацьбу.

Разлічана на шырокае кола чытачоў.

**УДК 94(476)"192"**
**ББК 63.3(4Беи)61**

**ISBN 978-985-7035-04-5**



# УСТУП

Першае выданне кнігі «Беларусь мяцежная» пабачыла свет дзесяць год таму. За мінулы час тэма антысавецкага супраціву не была забытая, з'явіліся новыя даследаванні, грунтоўныя зборнікі дакументаў, што дазволіла на падставе новых матэрыялаў і фактаў выправіць памылкі, прапанаваць новыя сюжэты. Трэба, аднак, заўважыць, што гісторыя нацыянальнага вызвольнага руху па-ранейшаму знаходзіцца на перыферыі гістарычнай навукі і асветніцтва.

Агульным месцам стала сцвярджэнне, што ўласная гісторыя адыгрывае каласальную ролю пры станаўленні нацыянальнай самасвядомасці і легітымізуе высілкі сучасных эліт, скіраваных на дзяржаўнае і нацыянальнае будаўніцтва. Але для большасці беларусаў сапраўдная гісторыя — *terra incognita*. Па меры таго як у СССР умацоўвалася таталітарная сістэма з уласцівай ёй цягай да палітычна-ідэалагічнай аднастайнасці, ў беларускай савецкай гістарыяграфіі ў якасці адзіна дапушчальнай сцвердзілася марксісцка-ленінская ідэалогія, якая абмяжоўвала навуковую творчасць рамкамі класавага падыходу.

На працягу 1930-х і наступных гадоў адбылося паступовае выцясненне нацыянальнай праблематыкі за рамкі навукі, пакрысе яна была ператворана ў аб'ект пазанавуковых прапагандысцкіх маніпуляцый афіцыёзных ідэолагаў. Абслугоўваючы рэпрэсіўную кампанію барацьбы з гэтак званым нацыянал-дэмакратызмам, аўтары такога кшталту агульна клеймавалі беларускі нацыянальна-вызвольны рух як «контррэвалюцыйны», «антынародны», тым самым фактычна адмаўлялі саму ідэю самавызначэння беларускага народа, а яе носьбітаў — беларускіх палітыкаў — адраджэнцаў — прыраўнялі да фашыстаў.

Гісторыя нацыянальнага руху ў Беларусі была схавана за крымінальнымі выразамі і жорсткімі палітычнымі і ідэалагічнымі штампамі. Гісторык часцяком выконваў ролю суддзі і пракурора адначасова. Працы насілі абразлівы, выкрывальніцкі характар у адносінах да сваёй айчыннай гісторыі і мала набліжалі да яе зместу і сутнасці. Пошукі гістарычнай праўды, любыя адхіленні

ад афіцыйнай версіі былі справаю небяспечнай, пагражальнай не толькі для жыццёвага камфорту, але і самога жыцця.

Такім чынам народ быў пазбаўлены гістарычнай памяці, што, натуральна, паўплывала на выбар каштоўнасных арыенціраў.

Неаб'ектыўны падыход да асвятлення многіх старонак нацыянальнай гісторыі, забарона шматлікіх тэмаў, знікненне ўласна беларускай гісторыі ў агульнай імперска-савецкай версіі, згодніцтва беларускіх гісторыкаў паспрыяла таму, што навакольны свет так-сама перастаў адэкватна ўспрымаць Беларусь як самабытную і самадастатковую краіну. Слабы інтарэс, няведанне фактаў з гісторыі краіны і нежаданне адыходзшць ад надакучлівых, але звыклых штампаў, назіраюцца нават у новых даследаваннях.

Доўгія гады усе матэрыялы, якія сведчылі пра «несавецкасць і антысавецкасць» беларускай гісторыі, пра імкненне народа да незалежнасці і самастойнага дзяржаўнага існавання, былі схаваныя ў архівах і адмысловых аддзелах бібліятэк за грыфамі «сакрэтна». На працягу вельмі кароткага тэрміну, у 90-я гады мінулага стагоддзя, даследчыкі скарысталіся магчымасцю зазірнуць у спецсховішчы. Менавіта ў гэтыя гады з'явіліся працы па гісторыі нацыянальнага і дзяржаўнага будаўніцтва, антысавецкага супраціву. Упершыню на старонках друкаваных выданняў прэзентаваліся новыя персоны, носьбіты нацыянальнай і нацыянальна-вызваленчай ідэі, тыя, хто меў амбіцыі на гістарычную актыўнасць і на пабудову нацыянальнай дзяржавы.

Тым не менш факт відавочны — беларускую гісторыю ўжо ў большасці «дасталі» з рускай і савецкай, а таксама са спецсховішчаў і нават з крымінальных спраў архіва Камітэта дзяржбяспекі Беларусі. Удзельнікі нацыянальна-дзяржаўнатворчага працэсу, кіраўнікі ўзброенай апазіцыі, стваральнікі дэмакратычных нацыянальных партый і арганізацый з'явіліся ў гістарычных творах, дэманструючы розныя формы палітычнай барацьбы, ад парламенцкіх да тэрарыстычных. Пра што і даведаўся чытач з гэтай новай літаратуры. А потым пачаў сумнявацца ў адвечнай памяркоўнасці і рахманасці беларусаў. Цэлы пласт невядомых падзей, імёнаў хаваўся за архіўнымі бар'ерамі. Між тым гэта тыя веды, якія здольныя змяніць свядомасць і грамадзянскую пазіцыю.

Слушнай падаецца выснова, што «скаргі на недаробленасць беларускай нацыі на самой справе хутчэй за усё ёсць скаргамі на





слабасць, неўкаранёнасць нацыянальнага міфу». Альтэрнатыва савецкім міфам ёсць. Пачатак ёй быў пакладзены яшчэ падчас другой хвалі Адраджэння. Сама па сабе гісторыя, якую стварылі адраджэнцы, — ужо падмурак абсалютна іншай, несавецкай версіі гісторыі, прывабнай міфалогіі на добрым грунце реальнай гісторыі.

Іншая справа, што для давядзення гэтай гісторыі да масавай свядомасці беларускім прагрэсістам новай хвалі не хапіла часу. Новыя гістарычныя веды з вялікай цяжкасцю прабіваліся да чытача. Перыяд, калі нацыянальная антымаскоўская і антысавецкая тэматыка не мела перашкодаў, быў вельмі кароткім, не больш за пяць год — першая палова 90-х. Са зменамі ў кіраўніцтве краіны кола часу закруцілася назад, Беларусь вярнулася ў савецкія часы. Адраджэнцкая гістарычная канцэпцыя засталася запатрабаванай толькі вузкім колам спажыўцоў і не трапіла ў падручнікі. У масавай свядомасці працягвалі дамінаваць савецкія міфы пра рэспубліку-партызанку, як своеасаблівая кампенсацыя за невыразнасць беларускай савецкай гісторыі.

Параўнанне з іншымі дзяржавамі Усходняй Еўропы, якія сталі на шлях пераўтварэнняў, паказвае, што Беларусь уяўляе ўнікальны выпадак: толькі тут дзяржава і нацыя яшчэ не злучыліся. Толькі тут гістарычная палітыка арыентуецца на інтарэсы суседняй краіны і «савецкія» задачы.

Істотная акалічнасць на шляху дэсаветызацыі свядомасці беларускага грамадства — наяўнасць непрымірымых супрацьлеглых пазіцый у гісторыкаў.

На жаль, дыскусіі ажыццяўляюцца не на навуковым полі, а хутчэй на палітычным. Цэлы шэраг тэмаў знікае са старонак друку, такіх, як нацыянальнае будаўніцтва, узброеная антысавецкая апазіцыя, палітычныя рэпрэсіі і інш., якія кардынальна адрозніваюць пазіцыю Беларусі па гэтых пытаннях. Беларусь па-свойму перажыла драмы і трагедыі ХХ стагоддзя. Вельмі рэдка да гэтых праблем звяртаюцца незалежныя СМІ, зона ўплыву якіх даволі абмежаваная.

Навукоўцы папярэджваюць аб сур'ёзных для грамадства наступствах з-за парушэння сістэмнасці гістарычнай асветы. Прычынай яе малаэфэктыўнай дзеяздольнасці з'яўляецца фрагментарнасць (з-за пошукаў ідэалагічна бяспечных тэмаў), сувязь паміж акадэмічнай навукай, папулярызацыяй і гістарычнай аду-

кацыяй вельмі слабая. Гістарычная навука, якая пакідае вялізныя «белыя плямы», не можа служыць добрай глебай для росквіту прафесійнай папулярызатарскай дзейнасці і не мае аўтарытэту, каб супрацьстаяць непрафесійнаму палітыканству.

Прафесійныя гісторыкі ў сучасных умовах не ў стане пераламіць і выдаліць з грамадскай свядомасці фальшывыя стэрэатыпы. Уплыў савецкай гістарыяграфіі на гуманітарнае самаадчуванне беларусаў непараўнальна мацнейшы, чым гістарыяграфіі нацыянальнай.

Тым не менш пагружэнне ў тэмы малавядомыя, але вельмі важныя для нацыянальнай гісторыі патрэбна для таго, каб яшчэ раз падкрэсліць яе абсалютную «рэспектабельнасць» і незаменнасць для пабудовы беларускага дома і развіцця народа.

## Агляд «мяцежнай» гістарыяграфіі

Гэтая вайна для грамадзян Беларусі з прычыны ідэалагічных афіцыйных пераваг, у якія тэма змагання за незалежнасць і дзяржаўнасць не ўпісалася, і сёння адна з так званых «невядомых». Яна мела каласальны размах у 20-я гады XX стагоддзя ў самых розных кутках былой Расійскай імперыі, у тым ліку і Беларусі. Савецкая гістарыяграфія масавы рух супраціву падавала як звычайную крымінальшчыну з палітычнай афарбоўкай: «палітычны бандытызм», «кулацка-шляхецкая контррэвалюцыя» і г. д. Інакш і не магло быць: гісторыю пісалі пераможцы ці па іх загадзе.

Постсацыялістычная гістарыяграфія нарэшце адмовілася ад стэрэатыпу называць бандытызмам масавую барацьбу сялян супраць палітыкі ваеннага камунізму і карных метадаў кіравання вёскай. А ўзброены пратэст асноўнай масы насельніцтва супраць дзяржаўнага прыгнёту перастала зводзіць да крымінальных дзеянняў, як гэта рабіў савецкі афіцыёз. Паступова гісторыкі адмовіліся ад надакучлівых стэрэатыпаў і ў ацэнцы выступленняў як кулацкіх, бандыцкіх.

Даследчыкі, пазбаўленыя партыйнага кантролю, прыйшлі да высновы, што сяляне змагаліся за сваё традыцыйнае існаванне і разам з тым адстойвалі карэнныя эканамічныя інтарэсы вёскі. Моцныя хвалі сялянскіх паўстанняў на Віцебшчыне, Магілёўшчыне, Гомельшчыне і ў цэнтральнай Беларусі, як і антонаўскі рух на Тамбоўшчыне, махноўскі — ва Украіне, басмачоўскі — у Сярэд-





няй Азіі былі народнымі войнамі не толькі супраць улады, але і за права жыць па-свойму, за радзіму, вялікую і малую.

Пры знаёмстве з праблемай яшчэ ў «даперабудовачную эпоху» не магла не бянтэжыць адна сур'ёзная акалічнасць. Калі ўсе гэтыя людзі, якія паўсталі супраць новай улады, — бандыты, дык чаму іх так многа? Бо крымінальшчык — асоба ў нармальным грамадстве хутчэй выключэнне, чым правіла. Цэлыя губерні былі «заражоныя бандытызмам», як пісалі газеты таго часу. А каб знішчыць паўстанцтва і партызанскі рух, улада вымушана была задзейнічаць велізарны карны аппарат, з рэгулярнай арміяй уключна.

Рускі гісторык М. Кубанін яшчэ ў 1926 годзе падлічыў, што ў Тамбоўскай губерні 25—30% насельніцтва ўдзельнічала ў паўстанні, па-сутнасці, усе дарослые мужчыны пайшлі ў армію Антонава. Аналагічнае адбывалася і ў Беларусі: на Случчыне ў 1920-я гады, на Ігуменшчыне ў 1921 годзе і ў іншых месцах.

Сялянская партызанка была накіравана, у адпаведнасці з сялянскім менталітэтам, супраць «чужынцаў». Сялянскі паўстанец, партызан-зялёнадубец — гэта ў першую чаргу абаронца сваёй малой радзімы, вёскі, дома, уласнасці, маёмасці. Яго ворагамі былі тыя, хто рабіў на гэта замах. Са зброяй у руках ён змагаўся супраць захопнікаў.

Гісторыя антынямецкай і антыпольскай партызанкі даволі дэталёва распрацавана ў беларускай гістарычнай літаратуры. У значна меншай ступені даследавана праблема антысавецкага руху. Яна была схавана за крымінальнымі выразамі і жорсткімі палітызаванымі абвінавачаннямі. Згодна з класавым падыходам, гэтай праблеме, па сутнасці, было адмоўлена ў аб'ектыўным разглядзе і адпаведнай гістарычнай ацэнцы.

Першымі аб падзеях напісалі непасрэдныя ўдзельнікі, чырвоныя камандзіры, пераможцы.[1] Яны прапагандавалі вопыт ваеннай і палітычнай барацьбы з міжнароднай контррэвалюцыяй і бандытызмам, аналізавалі планы савецкага камандавання і ход ваенных падзей, прычыны і характар паўстанняў, сацыяльны склад партызанкі, яе дзеянні. Параўноўваючы з літаратураю наступных гадоў, творамі прафесійных гісторыкаў, трэба адзначыць фактaлагічную і нават ацэначную каштоўнасць першых прац.

Упершыню тэрмін «бандытызм» з'явіўся на старонках гэтых публікацый, але яму далі выразнае і змястоўнае тлумачэнне. Пад

бандытызмам меліся на ўвазе сялянскія паўстанні і партызанка, скіраваныя супраць савецкай улады.[2] Вайскоўцы былі пазбаўлены палітычных сантыментаў, называлі рэчы сваімі імёнамі.

Потым амаль на 25 год тэма знікла, як і шмат іншых праблем гісторыі. Праўда, у 1932 годзе з'явілася кніга А. Зіміёнкі «Оккупация и интервенция в Белоруссии», якая закранула праблему супраціву, але, па сутнасці, аўтар выкарыстаў справаздачу аб барацьбе з бандытызмам са зборніка «Советская Белоруссия» (Мінск, 1922). Усталяванне новай, савецкай, улады адбылося шляхам маштабных рэпрэсій на вёсцы — галоўная і відавочная выснова са зместу гэтага матэрыялу.

Яшчэ больш выразны негатыўны характар набылі ацэнкі сялянскага руху ў дысертацыі А. Сідарэнкі. Цікава, што ён ужывае тэрмін «сялянская вайна», як быццам не звяртаючы ўвагі на яго шырокі ўсеабдымны сэнс. Калі «бандытызм» і «бандыты» — з'ява не тыповая ва ўмовах агульнай задаволенасці новай уладаю, чаму паўстанцтва набірае маштаб вайны? На гэтае лагічнае пытанне, якое вынікае з даследавання, у аўтара няма адказу.[3]

З пачатку 1960-х — часу максімальнага пацяплення і падабенства лібералізацыі ў паслясталінскі час — і да канца 1970-х гадоў з'яўляецца большасць літаратуры па праблемах разглядаемага перыяду, друкуюцца зборнікі дакументаў і матэрыялаў, мемуары, раманы і аповяды, біяграфіі «ўсмірыльнікаў» і г. д.[4]

Гэты перыяд па-свойму вельмі плённы: у навуковы абарот ўвайшлі розныя тыпы крыніц і многія раней невядомыя факты, гісторыкі зрабілі максімум магчымага ў асэнсаванні прычын і вынікаў, наколькі дазвалялі тагачасны партыйна-ідэалагічны дыктат. З гэтых прац вынікае, што:

- па беларускай вёсцы пасля Кастрычніка пракацілася хваля сапраўднай «кулацкай» (дакладней, сялянскай) вайны;
- барацьба за ажыццяўленне ідэі Беларускай Народнай Рэспублікі была палітычнай платформай значнай часткі беларускага Рэзыстанса;
- рух супраціву меў сваіх арганізатараў — партый, органаў самакіравання, нацыянальных камітэтаў, лідараў працэсу самарэалізацыі і самаарганізацыі і г. д.;
- сутнасць гэтай гістарычнай з'явы была добра «ўпакавана» ў ідэалагічную абгортку «палітычны бандытызм».





Пэўным чынам, вынікам развіцця праблемы ў рамках класавага падыходу можна лічыць працу А. Г. Хахлова. Нягледзячы на цалкам адмоўныя палітычныя (не гістарычныя) ацэнкі, кніга — каштоўная крыніца фактаў, якія сабраў і абагульніў аўтар. Цікава, што яны з'яўляюцца вельмі красамоўным сведчаннем адваротных высноў, чым тыя, што прапанаваў чытачам аўтар. Свядома ці не, але А. Г. Хахлоў дае магчымасць уявіць моц народнага супраціву. Лічбы, просты пералік паўстанняў, партызанскіх аддзелаў даюць маштабную карціну супраціву. Такім чынам, здабыткі савецкай гістарыяграфіі, калі не закранаць ацэначнага боку, не згубілі сваёй каштоўнасці і цяпер.[5]

Другая палова 1980-х гадоў унесла пэўныя змены і дыферэнцыяцыю ў распрацоўку тэмы нацыянальна-дэмакратычнага руху. У навуковы ўжытак былі ўведзены матэрыялы мясцовых архіваў; тэма набыла выразна нацыянальны характар. Антысавецкая барацьба небальшавіцкіх (непралетарскіх) партый разглядаецца як самастойная палітычная з'ява, а не як частка ці працяг Белага руху. Дастаткова грунтоўна прадстаўлены гісторыя палітычных партый нацыянальна-дэмакратычнага руху ў гады грамадзянскай вайны, лёсы арганізацый і кіраўнікоў апазіцыі.[6]

У гэтыя гады назіраецца ўсплёск увагі да гісторыі Слуцкага паўстання як найбольш важнай і яскравай падзеі беларускага антысавецкага супраціву. [7] На фоне глабальных геапалітычных зменаў пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя, з'яўленне на палітычнай мапе незалежнай Рэспублікі Беларусь, цікавасць да гісторыі змагання за дзяржаўнасць і незалежнасць краіны абсалютна натуральная. Тэма выявіла дыяметральна розныя падыходы, палітычныя перавагі і памкненні, актуалізавала пошукі новых крыніц.[8]

У 1990-я гады апусціліся архіўныя бар'еры, праца ў дакументальных сховішчах прынесла новыя веды, мноства каларытных фактаў і падрабязнасцей. Гэта кардынальна змяніла якасць ведаў пра тую эпоху. На жаль, для Беларусі чарговая «адліга» была вельмі кароткай. Тэма антысавецкага супраціву зноў патрапіла ў абцугі афіцыйнай кансерватыўна-камуністычнай ідэалогіі, асноўныя пастулаты якой выкарыстоўваюцца ў якасці ідэалагічнага падмурка сучаснага рэжыму.

Цяжка зразумець логіку падыходаў у афіцыйнай беларускай гістарыяграфіі, калі ў яе аснову пакладзены антынацыянальныя па сутнасці негатыўныя ацэнкі асноўных палітычных акцый і пад-

зей з гісторыі змагання за незалежнасць і дзяржаўнасць Беларусі. Як гэта суадносіцца з інтарэсамі сучаснай незалежнай Беларусі, афіцыёз якой працягвае абапірацца на даўно спарахнелую імперскую версію з савецкага мінулага, якая і зараз, а тым больш у гістарычнай перспектыве, адмаўляе права народа Беларусі на дзяржаўнасць і незалежнасць. Пытанне з шэрагу рытарычных. Хаця недарэчнасць такога падыходу да ўласнай гісторыі не толькі відавочна, але і зневажальна з пункту гледжання грамадзянскай і патрыятычнай пазіцыі.

Тэма антысавецкага супраціву застаецца па-за межамі афіцыйнай гістарычнай навукі. Ідэалагічныя перавагі, панаванне ў афіцыйнай гісторыі Беларусі гістарыяграфічных дасягненняў савецкага часу сур'ёзна замінаюць развіццю палітычнай гісторыі Беларусі ў новай палітычнай і геапалітычнай рэчаіснасці. Тэма знікла са спісу дысертацыйных даследаванняў, са старонак падручнікаў і навуковых прац. Аднак праблема мае сталы інтарэс у грамадстве, які падаграецца шырокай прысутнасцю тэмы ў сучасных расійскай і польскай гістарыяграфіях і шматварыянтнасцю поглядаў на яе розныя аспекты. Намаганнямі гісторыкаў дэмакратычных поглядаў з'явіліся шэраг зборнікаў дакументальных крыніц, змястоўныя публікацыі і пераклады прац польскіх гісторыкаў у межах грамадскіх праектаў.[9]

### ***Крыніцы. Заўвагі***


1. *Кудрявцев Н. Борьба с Булак-Балаховичем || Революция и война. 1920. № 3; Ягодкин В. Бандитизм на Западном фронте || Пропагандист. 1921. № 1; Венц ов С. И. Бандитизм в Белоруссии и организация борьбы с ним || Красная армия. 1921. № 9; Какурин Н. Е. Организация борьбы с бандитизмом по опыту Тамбовского и Витебского командования || Военная наука и революция. 1922. № 1; Тухачевский М. Н. Борьба с контрреволюционными восстаниями || Война и революция. 1926. № 7, 8, 9; Пухов Г. С. Бандитизм и борьба с ним на Западном фронте || Толмачевец. 1926. № 5—6.*
2. *Тухачевский М. Борьба с контрреволюционными восстаниями || Война и революция. 1926. Кн. 9. С. 11.*
3. *Сидоренко А. И. Классовая борьба в белорусской деревне в первый год восстановительного периода (1921 г.) |Диссертация. Мн., 1950.*
4. *Игнатенко И. М. Переход к нэпу в Гомельской губернии || Уч. зап. БГУ, вып. 22, сер. историческая. 1955; Шкляр М. С. Борьба Компартии Белоруссии за укрепление союза рабочего класса и трудящегося крестьянства в восстановительный период (1921—1925 гг.). Мн., 1960; Круталевіч В. А. Без народнай апоры || Полымя. 1967. № 2; ён жа. От войны к миру || Нёман, 1968. № 3, 4; Козлов В. С. Политорганы РККА в борьбе за упрочение Советской власти в Белоруссии (окт. 1920—1922 гг.) || Автореф. дисс... на соиск. науч. степ. канд. ист. наук. Л., 1972; Мухачёв Ю. В. Провал «новой тактики» российской контрреволюции во время перехода к нэпу (1921—1922 гг.) || Автореф. дисс... на соиск. науч. степ. канд. ист. наук. М., 1978; Сташкевіч М. Непазбежнае банкруцтва. Мн., 1974; ён жа. На защите идей Октября. Из истории идейно-политической борьбы в Белоруссии в годы гражданской войны (1919—1920 гг.). Мн., 1978; Хохлов А. Г. Коммунистические части особого назначения в Белоруссии. Мн., 1974; Петриков П. Т. Ревкомы Белоруссии. Мн., 1975; Селіванаў А. А. Гістарычная літаратура аб барацьбе за савецкую ўладу ў Беларусі (1950—1877 гг.) || Весці АН БССР. Сер. грамад. навук, 1978. № 6; Почанин С. З. Историей обречённые. Мн., 1977 і інш.*
5. *Хохлов А. Г. Крах антисоветского бандитизма в Белоруссии в 1918—1925 годах. Мн., 1981.*
6. *Сташкевич Н.С. Идеологическая работа большевиков Белоруссии в годы гражданской войны (1919—1920 гг.) || Автореф. дисс. учен. степ. канд. ист. наук. — Мн., 1973; ён жа. На пути к истине: Из истории национально-освободительного движения в Белоруссии. 1917 год. Мн., 1983; Ён жа. Приговор революции: крушение антисоветского движения в Белоруссии. 1917—1925. Мн., 1985; ён жа. Общественное движение в Белоруссии: основные идейные течения и партии || Автореф. дисс. д-ра ист. наук. Мн., 1990.; Михнюк В.Н. Антон Луцкевич: материалы следственного дела НКВД БССР. Мн., 1997; Ладысеў У., Брыгадзін П. Рада БНР пасля Рыжскага дагавора 1921 г., ці канец нацыянальнага рамантызму || Беларускі гістарычны часопіс. 1997. № 1; Брыгадзін П., Ладысеў У. Іменем беларускага народу... || Беларуская мінуўшчына. 1997. № 2.*
7. *Грыцкевіч А. П. Вакол «Слуцкага паўстання». Мн., 1987; ён жа. Крушение коварных планов || Вечерний Минск. 1988. 20 октября; ён жа. Слуцкае паўстанне || Спадчына. 1993. № 2; ён жа. Пра падзеі на Случчыне ў 1920 г. || Слуцкі край. 1992. 5, 9, 16 снежня; ён жа. Слуцк. 1920. Збройны чын у барацьбе за незалежнасць || Добры вечар. 1992. 1, 2, 4 снежня; Ліступаценка З. Сведчаць падзеі || Слуцкі край. 1992. 23 снежня; Соловьёв А. Семи хозяевам служа || Слуцкі край. 1993. 8 снежня; ён жа. Слуцк. Ноябрь 1920 || Советская Белоруссия. 1992. 24 ноября; Сазонаў А. Слуцкі збройны чын || Слуцкі край. 1993. 28 лістапада; Тургай У. В. Слуцкае паўстанне: арганізатары і ўдзельнікі || Мінская праўда. 1994. 20, 22 снежня; Цімкевіч У. Калі б без ваяўнічасці || Слуцкі край. 1992. 5 снежня; Стужынская Н. І. Як случакі баранілі свой дом || Голас Радзімы. 1994. 15—31 снежня. 1995. 2 студзеня — 17 лютага;*

*яна ж. Dei minoris || Літаратура і мастацтва. 1995. 24 лістапада; яна ж. Слуцкі паўстанец || Літаратура і мастацтва. 1996. 12 сакавіка; яна ж. Белорусская антибольшевистская оппозиция и политические репрессии 20-х годов || Материалы Международной конференции «Политический сыск в России. История и современность». Санкт-Петербург. 1996; Ахвяравана Слуцкаму паўстанню || Спадчына. 1996. № 4. С. 133—137, і інш.*

8. *Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакументах і ўспамінах. Уклад. Ул. Ляхоўскі, Ул. Міхнюк, А. Гесь. Мн., 2001, Мн., 2006;*
9. *Гісторыя, якой няма ў падручніках. Матэрыялы навук.-практ. канферэнцыі. Мінск. 27 красавіка 2002 г. Мн., 2002; Беларусь у XX стагоддзі. Сб. науч. работ. Вып. 2. Мн., 2003. Узброены супраціў ва Усходняй Беларусі (20—30-я гады XX ст.). Дакументы і матэрыялы. Укладальнік і аўтар прадмовы Пушкін І.А. Магілёў, 2003, Мн., 2009; Пашкевіч А.В., Чарнякевіч А.М. Атаман Дзяргач: невядомыя староні біяграфіі, ці да гісторыі палітычнага авантурызму ў беларускім нацыянальным руху || Берасцейскі хранограф. Зб. навук. прац. Вып. 4. Брэст, 2004. С. 93—96; Стужынская Н. Беларусь мяцежная. З гісторыі антысавецкага ўзброенага супраціву. 20-я гады XX ст. Вільня, 2000; яна ж. Непарадны герой беларускай атаманшчыны || Arche. 2009. № 1—2. С. 218—248; яна ж. Из истории белорусской конспирации: «Зеленый Дуб» || Партизанская и повстанческая борьба: опыт и уроки XX столетия. Доклады Академии военных наук. Военная история. № 3. Саратов, 2009. С. 59—63; Грицкевич А.П. Западный фронт РСФСР. 1918—1920. Борьба между Россией и Польшей за Белоруссию. Мн., 2010; Гамулка К. Паміж Польшчай і Расіяй. Беларусь у канцэпцыях польскіх палітычных фарміраванняў 1918—1922. Вільня, 2008; Латышонак А. Жаўнеры БНР. Вільня, 2009; і інш.*

ЧАСТКА I

# Абурэнне на глебе разбурэння

## 1. Рэпрэсіўная эканоміка

Чаму масавыя паўстанні сялянства сталі фактам рэчаіснасці пачатку 20-х гадо ў мінулага стагоддзя? Якія сацыяльныя і палітычныя абставіны прывялі беларускую вёску ў раз'юшаны стан?

У савецкай гістарыяграфіі быў набор неабходных простых тлумачэнняў. Палітыка першых гадоў савецкай улады, г. зв. ваеннага камунізму, была цяжкая для сялянства, але была выклікана неабходнасцю класавага змагання, барацьбой пралетарыяту за перамогу ў грамадзянскай вайне, якая была навязана звергнутымі эксплуататарамі. Гэтая перамога была патрэбна самому сялянству. Савецкая ўлада, бальшавікі, нягледзячы на асобныя нетыповыя адхіленні, дзейнічалі на вёсцы правільна, своечасова і абгрунтавана, вось толькі эсеры і кулакі змаглі падбіць частку падманутага імі сялянства на мяцяжы.

«З'яўленне бандытызма і рост яго актыўнасці... выклікана цэлым шэрагам прычын і ў першую чаргу варожымі адносінамі да савецкай улады кулацтва», — тлумачылі ўзнікненне гэтай сацыяльнай з'явы беларускія аўтары. На якой глебе вырасла варожасць? Хто такія кулакі і чаму яны былі супраць новай улады? Ярлыкі, якія навешваліся на цэлыя групы насельніцтва, пазбаўлялі ад неабходнасці тлумачэнняў і пошукаў прычын і наступстваў з'яў. Не ў пашане былі лічбы. Які адсотак насельніцтва апынуўся ў паўстанцкіх фармаваннях? Уся вёска, большая частка сялян ці нязначная колькасць, г. зв. «отребье»? Для аб'ектыўнай ацэнкі падзей такія пытанні вельмі важныя. Сярод іншых прычын гісторыкі адзначалі дэзерцірства і памежнае становішча Беларусі. Дэзерцірства канстатавалася як факт без разгляду прычын. Наяўнасць дэзерціраў у шэрагах паўстанцаў тлумачылася іх адсталымі поглядамі, амаральнымі і нават крымінальнымі

паводзінамі. Як галоўны аргумент падавалася думка вядомага бальшавіка А. Мяснікова, які воляй лёсу апынуўся ў рэвалюцыйныя часы на Заходнім фронце. Людзей, якія пазбягалі мабілізацыі ў Чырвоную армію, галоўны ленінец у Беларусі залічыў у «правакатары, здраднікі, марадзёры» і г. д. [1]

Безумоўна, блізкасць граніцы пэўным чынам паўплывала на развіццё руху супраціву, але высновы аб «імпартным» яго характары, як гэта рабіла большасць тагачасных аўтараў, беспадстаўныя. Гэта былі такія хітрыкі з фактамі, паўтор тлумачэнняў вайскоўцаў і карнікаў: усе праблемы былі з-за мяжы, і цэнтры «бандытызму», Пінск, Лунінец, Маладзечна, Нясвіж, таксама не беларускія.[2] У Беларусі былі свае глыбокія прычыны паўстанцтва эканамічнага, палітычнага, сацыяльнага і нацыянальнага характару. Не прышлыя з замежжа, а мясцовыя людзі складалі шэрагі антыбальшавіцкай партызанкі, якая вылучыла са свайго асяроддзя правадыроў, атаманаў. Сёння да тых, хто хоць крыху знаёмы з гісторыяй паслякастрычніцкага дзесяцігоддзя і мае жаданне справядлівай аб'ектыўнай яе ацэнкі, дайшла іншая, значна больш поўная і праўдзівая паслядоўнасць і прычыннасць тых падзей: непасрэднай і фактычна адзінай віноўніцай сялянскага ўзброеннага пратэсту была бальшавіцкая палітыка ў вёсцы ўвогуле.

І самі творцы Кастрычніцкай рэвалюцыі гэта добра разумелі. Не выпадкова на месцы, каб зрабіць палёгку малапісьменным камісарам (на Віцебшчыне так рабілі), улады з Петраграда высылалі адмысловыя анкеты, у якіх ЧК патрабавала:

> *«Указывать все причины экономического или политического характера, которыми была вызвана данная вспышка, действиями и распоряжениями существующей власти, поведением агентов местной власти, введением хлебной монополии, продовольственным кризисом, мобилизацией и чрезвычайным 10-миллиардным налогом и прочим недовольством, общей политикой Советской власти».* [3]

Такім чынам, анкета адначасова давала пералік прычын. Адказ быў, як правіла, абагульняльным:

> *«Причина восстания — недовольство Советской властью в целом».* [4]

Эканамічны авантурызм, палітычнае насілле і нацыянальны нігілізм новай улады не маглі не выклікаць супраціўленне вёскі.





Адна з галоўных узбуджальных прычын — сумна вядомая харчразвёрстка. Харчразвёрстка была ўведзена яшчэ царскім урадам у часы 1-й сусветнай вайны. Цяжар павялічваўся год ад году. Беларуская вёска была спустошана і знясілена шматгадовым станам вайны, акупацыямі, шматлікімі арміямі. Нічым неабмежаваная, толькі ўзрастаючымі патрабаваннямі, харчразвёрстка ў разглядаемы час ператварылася ў непасільны цяжар. Выканаць яе на 100 адсоткаў, нягледзячы на велізарны ціск улады, амаль ніколі не ўдавалася. Сабраць падатак, напрыклад, у 546 галоў жывёлы для жыхароў Віцебскага павета, толькі за адзін месяц — красавік 1919 г. — было проста немагчыма.[5]

Вельмі характэрны дакумент таго часу — зварот сялян, у дадзеным выпадку Увалокскага сельскага савета Старасельскай воласці ў мясцовы рэўкам:

> *«Мы нашли возможным, идя навстречу советской власти, разверстать 1050 пудов хлеба, который своими трудами выполнили добровольно, а больше ни в коем случае выполнить не можем ... ежели все выполним, то на весну поля останутся незасеянными и мы все погибнем... Через наш район переправлялись все войсковые части на фронт. У нас все отобрали и съели, и к тому же получился большой неурожай по случаю засухи (1920 года. — Н.С.). И по сему просим продовольственный комитет не разорять нас вконец, не оставлять нас без куска хлеба и без семян. Если наше воззвание не примете во внимание, то делайте сами, как знаете...»*[6]

Крык адчаю — гэты зварот да ўлад, і галоўнае, без асаблівай надзеі на паразуменне. Падобнымі скаргамі былі завалены валасныя, павятовыя і вышэйшыя органы ўлады.[7]

Нягледзячы на патрабаванні вышэйшага ваеннага кіраўніцтва Заходняга фронту, якое кантралявала выкананне агульнага нарыхтоўчага плана, праявіць у харчовай палітыцы «революционную стойкость и изобретательность», на 100 адсоткаў харчразвёрстка галоднага 1920 года не была выканана. Мясцовая ўлада тлумачыла гэта тым, што «у большинства крестьян нет хлеба, некоторые отдают даже последние семена, доказательством чему служит частое поступление на ссыпные пункты отборного зерна». [8]

У лютым 1921 года Наркамхарчбел (народны камісар па харчаванню Беларусі) Адамайціс згадзіўся на выкананне хаця б

75 адсоткаў развёрсткі восеньскага задання. Ён канстатаваў, што «заготовки к объему задания ничтожны».[9]

Галоўнымі метадамі выканання развёрсткі былі пагрозы, запалохванне, рэпрэсіі. Так, загад № 4 па харчоваму камітэту за подпісамі старшыні рэўкама Беларусі А. Чарвякова, камісара па харчу І. Адамайціса і камісара па земляробству Ул. Ігнатоўскага аб'яўляў па ўсёй тэрыторыі Беларусі «Неделю продовольствия» (па сутнасці, арганізаванае адначасовае адабранне харчу) і абяцаў тым, хто будзе супрацьстаяць гэтаму мерапрыемству, арышт і канфіскацыю маёмасці.[10]

Наступны загад ужо больш дэталізаваў формы пакаранняў:

> *«Всякие отказы от немедленного выполнения разверстки гражданами деревень будут считаться неподчинением советской власти и беспощадно караться. Председателям сельсоветов немедленно таковых арестовывать и направлять в Минск для заключения в Минскую тюрьму. В случаях уклонения деревни от выполнения разверстки немедленно арестовывать председателей сельсоветов, кулацкие контрреволюционные элементы… В случае дальнейшего упорного уклонения приступить к немедленной конфискации причитающегося по разверстке продуктов и скота, а также лишить их прав на получение продуктов городского производства…»[11]*

Трэба адзначыць, што апошняя пагроза была пустым гукам, вёска даўно нічога не атрымлівала ад разбуранага вайной горада. Сяляне скардзіліся, што звычайны нож у кааператыве каштуе 2000 руб., у той час як карову аддавалі за тыя ж грошы.[12]

Выканаць падатковыя патрабаванні ўлады было рэальна немагчыма. Нават толькі пералік прадуктаў і прадметаў першай неабходнасці, якія падлягалі развёрстцы, уражвае. Жывёла ці мяса жывёлы, яйкі, масла, бульба, рыба, мёд, гародніна, сушаныя ягады і грыбы, лён, пянька, воўна, скуры жывёл, валёнкі і лапці — на ўсё гэта існаваў так званы надзвычайна-рэвалюцыйны падатак.[13] Для паспяховага выканання плана нарыхтовак абутку, а лічбы былі даведзены немалыя, толькі па Віцебскаму павету, напрыклад, 95310 пар лапцей, на адну валасць — прыкладна 4500—4700 пар. І зразумела, што за невыкананне плана, «за непринятие мер... все ответственные лица будут арестованы и препровождены в распоряжение Губчекавалап» (існаваў і такі надзвычайны орган па лапцях і валёнках).[14]





У Гомельскай губерні трэба было здаць 13 розных падаткаў з 18 відаў прадукцыі сялянскай гаспадаркі.[15]

Нягледзячы на тое што ўся жывёла да апошняй курыцы была ўзята на ўлік і аб мерах па выкананні сметанковага і яечнага падатку трэба было дакладваць кожныя пяць дзён Чарвякову і Адамайтысу, а харчкамісіі фармаваліся «из лучших элементов», падатак на масла і яйкі быў правалены.[16] Нават У. І. Ленін даслаў у наркамхарч тэлеграму, у якой выказаў сваё абурэнне.[17]

Наркам харчу Беларусі адрэагаваў імгненна, на месцы паляцелі пагражальныя тэлеграмы з пытаннямі наконт своечасова прынятых мераў. «Прибегали ли вы к закрытию рынков, передавали ли суду революционного военного трибунала как неплательщиков налогов, так и членов волостных сельских советов за халатное отношение к работе...» Але пагрозы, закрыццё кірмашоў, напружаная дзейнасць ваенрэвтрыбуналаў і заградаддзелаў не давалі жаданых вынікаў.

> *«Наряд на масло выполнить не можем, так как скот забран, т. е. уже мобилизован, сено тоже забрано и солома также, оставшийся скот кормить нечем».*

Прыкладна такія, як з Паташэнскага раёна, атрымлівалі ўлады лісты з месцаў.[18] Сяляне ўжо не звярталі ўвагі на заклінанні з Мінска:

> *«Неисполнение сего равносильно уклонению от ударно-боевых заданий» — пісалі ў лістах з Мінска.[19]*

Харчразвёрстка — гэта, як гаварылі ў вёсцы, бяда, але не ўся. Сялян пужала і абурала адсутнасць нават бачнасці парадку і законнасці ў падатковай палітыцы ўлады. Вёска пакутавала ад г. зв. саманарыхтовак (звыш плана), якімі грашылі і агенты харчовай камісіі, і міліцыя, і вайскоўцы, асабліва апошнія. У камітэт па харчу з месцаў патокам ляцелі тэлеграмы і лісты са скаргамі на вайсковых рабаўнікоў. У скаргах пералічаны «доблесныя» часткі конна-кубанскай 8-й, 10-й, 48-й дывізій.[20] Незаконнымі рэквізіцыямі займаліся вайсковыя часткі XV арміі, што дыслакавалася на Віцебшчыне.[21] Паўсюдна на сялянскіх сходах у Барысаўскім павеце гучалі словы крыўды на нахабныя дзеянні харчаддзелаў 6-й дывізіі,

*«которые разъезжают по деревням, терроризируют население тем, что ищут дезертиров по сундукам и разным узелкам, разрывая и раскапывая содержимое... во многих случаях забирая наиболее лучшие вещи».*[22]

Часовыя гаспадары ў Беларусі, арэне ваенных дзеянняў, увесь час мяняліся. Усе рабавалі. Але ёсць магчымасць параўнаць апетыты акупантаў. Валасныя зямельныя аддзелы збіралі дадзеныя аб колькасці коней напярэдадні веснавога севу 1921 года і адначасова правялі апытанне, колькі ўзялі чырвонаармейцы, палякі і «бандыты-контррэвалюцыянеры». Беларучская воласць, напрыклад, дала такія звесткі:

*«Чырвоная Армія рэквізавала 157 коней, палякі і бандыты — 57».* [23]

На 10 выпадкаў рэквізіцый чырвонаармейцамі прыпадала 2 паборы палякамі і «бандытамі» — падлічылі ў Меркавічскім сельсавеце.[24]

Справядліва будзе адзначыць —з гэтым злом улады спрабавалі змагацца. Камандарм Заходняга фронту М. Тухачэўскі патрабаваў справы марадзёраў перадаваць ЧК і асобным аддзелам для жорсткага рэагавання. Намеснік старшыні СНК І. Адамовіч вымушаны быў патрабаваць ад камандзіра 2-й дывізіі пакарання злачынцаў судом ваенрэвтрыбунала за свавольства і рабаўніцтва ў вёсках Мінскага павета.[25] Каб суцішыць хвалю абурэння на тэрыторыі дыслакацыі XVI арміі быў распаўсюджаны загад за подпісам намесніка старшыні Рэвваенсавета (РВС) Э. Склянскага, які абяцаў вяртанне адабранага.

*«Смело требуйте законных вознаграждений в случае реквизиции, пусть никто не останется обиженным...»*[26]

Канешне, пры агульным жабрацтве, галоднай, кепска апранутай і амаль разутай арміі, абяцанні засталіся на паперы, эфектнай, але пустой дэкларацыяй.

На ўсё хадайніцтва сялян аб залічэнні ў падатак узятых вайскоўцамі прадуктаў, адзення, абутку і іншага харчовыя камітэты адказвалі адмоўна.[27]

У выніку канфіскацыі, рэквізіцый і мабілізацый вёска засталася амаль без сродкаў вытворчасці, коней і насення.[28]





І нягледзячы на такое гаротнае становішча, сяляне з вялікім недаверам аднесліся да г. зв. «посевкомов», якія арганізоўвала ўлада вясной 1921 года з мэтай дапамагчы засеяць надзелы. Намер саветаў правесці падворнае апытанне, каб высветліць наяўнасць насення і магчымасці гаспадаркі ў пасяўную кампанію, канчаткова адштурхнуў вяскоўцаў ад зноў створаных камітэтаў.

Маючы горкі вопыт, сяляне лічылі:

*«Теперь дадите нам семена, потом трижды возьмете... загнали нас под камень».*[29]

Такі настрой варожасці і недаверу панаваў вясной 1921 года на Гомельшчыне, дзе хвалямі раскацілася партызанка, якая ў народзе атрымала назву галакоўшчына.

Другой паншчынай называлі сяляне прымусовую работу па нарыхтоўцы паліва, ачыстцы лясоў, рамонту дарог, мастоў і г. д. Хутка і самі мясцовыя ўлады прыйшлі да высновы аб неабяспецы гэтых трудмабілізацый для сялянскай гаспадаркі. Ча-



**Такъ большевистскіе карательные отряды изъ латышей и китайцевъ насильственн[о] отбираютъ хлѣбъ, разоряютъ деревни и разстрѣливаютъ крестьянъ.**

стыя адлучкі гаспадара з дому, а яшчэ і падчас выканання гужавой павіннасці, вялі гаспадаркі да заняпаду, вельмі негатыўна адбіваліся на сельгасвытворчасці ў цэлым. Пленум Мінскага павятовага выканкама 19 мая 1921 года пастанавіў вызваліць сялян ад трудпавіннасцей і стварыць спецыяльныя рабочыя дружыны, тым больш што для выканання большай часткі працы патрабаваліся спецыялісты.

Аднак слушная прапанова з месца не мела падтрымкі наверсе. Прэзідыум Цэнтральнага выканаўчага камітэта (ЦВК) у адказ выказаў «свое изумление» (у тэксце дакумента гэта слова нават падкрэслена) по поводу совершенно недопустимого решения пленума». Савецкая ўлада, на думку партыйных кіраўнікоў, не можа адмовіцца ад прымусовай працы грамадзян, паколькі гэта праца бясплатная, а рабочыя дружыны будуць патрабаваць забеспячэння. Урадаўцы выказалі спадзяванне, што новая эканамічная палітыка прынясе значную палёгку ў цяжкое становішча селяніна.[30]

Што нэп, фіксаваны налог нясуць змены ў лепшы бок, сялянства адразу і не заўважыла. Таму 1921 год — год упартых мяцяжоў.

*Гэта адзначылі і прадстаўнікі ўлады. Канстатаваў старшыня Гомельскай ГубЧК:*

*«В связи с введением натурального налога настроение крестьянства (у нашым прыкладзе Чавускага павета) несколько улучшается, но все же большинство относится к нему недоверчиво, говорят, что нас теперь подстрекают, чтобы мы засеяли всю посевную площадь, а наступит осень, придут отряды в деревню и все заберут».*[31]

Беларуская вёска доўга не ведала памераў падатку і сяляне небеспадстаўна падазравалі, што ён не меншы за існуючыя пабо-ры. Толькі 30 ліпеня 1921 года на Беларусі была распаўсюджана пастанова ЦВК за подпісам А. Чарвякова. Яна прадпісвала ў тэрмін ад 7 да 12 жніўня б. г. скласці спісы па сельсаветах, налічыць харчпадаткі і правесці праверку ў валасных выканкамах. З 17 па 20 жніўня ўлады павінны былі аб'явіць кожнаму плацельшчыку памеры яго падатку. З 20 жніўня па 1 верасня ўсё насельніцтва было абавязана здаць у нарыхтоўчыя канторы жыта і пшаніцы не менш за 15 адсоткаў агульнай колькасці падатку на хлеб і бульбу.[32]

Такім чынам, становішча праяснілася толькі к новаму ўраджаю.





А вось ад памераў падатку сялянства літаральна застагнала. У Мінск пасыпаліся лісты, іх тысячы, амаль ва ўсіх — скаргі на несправядліва налічаны падатак у бок, вядома, безпадстаўнага павелічэння. Сяляне разгублена адзначалі яго непасільнасць. Нават было створана бюро па разглядзе скаргаў пры Мінскім харчовым камітэце. Як правіла, просьбы аб памяншэнні падатку не задавальняліся. Рэквізаваны вайскоўцамі харч у залік не браўся. «В ходатайстве отказать, предложить налог внести полностью», — звычайная форма адмовы.[33]

Мала ці многа патрабавала савецкая дзяржава? Рабіць высновы можна на прыкладах, якіх вялікая колькасць захавалася ў архівах. Так, жыхар Воратаўскага сельсавета Верлінскай воласці Ігуменскага павета Фёдар Антонаў, 27 год, меўшы зямлі ворыўнай 31/2 дзесяціны і 1/2 дзесяціны сенакосу, едакоў 3 душы, з іх працаздольны — адзін, павінен быў здаць 18 пудоў 30 фунтаў збожжа ў падатак 1922 года. Уплаціў только 3 пуды 38 фунтаў. На пытанне суда, чаму не заплаціў: селянін адказаў, што не меў магчымасці. Суду была прадстаўлена вопісь маёмасці. Гэты пералік сведчыць, што сапраўды выкананне падатку было за межамі магчымасці маладога гаспадара, маёмасць якога складалі хата, сарай, пуня, карова, парася, авечка, жыта 7 пудоў, аўса 5, ячменю 3, бульбы 25 (насенне).[34]

Селянін вёскі Кленікі (Ігуменскі павет) Феліцыян Арцымовіч павінен быў выплаціць 83 пуда падатку 1922—1923 года. Ён меў 4,5 дзесяціны зямлі і, як засведчыла камісія, што прыехала для канфіскацыі маёмасці за нявыплату, «разрушенный дом и сарай, одну корову белую и одну свинью и поросят 6 штук». Камісія прыйшла да высновы, што пастанову суда выканаць няма магчымасці «ввиду совершенно бедного положения...» гаспадара і ўзбудзіла хадайніцтва перад павятовай харчкамісіяй «об изъятии всего участка земли в госфонд, т. к. ни отрабатывать, ни выполнять налог он не в состоянии». Такім чынам, вельмі хутка гаспадар быў пазбаўлены маёмасці і ператварыўся ў парабка.[35]

Маючы на мэце зніжэнне памераў падатку, сяляне ішлі на розныя хітрыкі. Найбольш паспаўсюджаны прыём — утойванне плошчаў зямлі і павелічэнне колькасці едакоў. Але ўлада пільна сачыла за падаткаплацельшчыкамі і патрабавала «виновных немедленно предавать суду реввоентрибунала». Прыгаворы па такіх

справах для запалохвання насельніцтва шырока друкавалі ў газетах.[36]

Шматлікія пагражальныя загады і інструкцыі, шумлівая кампанія выкрывання неплацельшчыкаў у прэсе сведчылі, што спагнанне падаткаў было вельмі нялёгкай справай. Масква патрабавала нешта несусветнае, не ўлічваючы магчымасці, хутчэй немагчымасці, зруйнаванага шматгадовымі войнамі краю. Урад савецкай Беларусі неаднойчы звяртаўся ў цэнтр з просьбай паменшыць падатак. Старшыня беларускага ўрада А. Чарвякоў пераконваў маскоўскіх гаспадароў, асцярожна ўпікаючы, што цэнтр не аказваў ніякай эканамічнай дапамогі:

*«Сельское хозяйство окончательно разорено. В истекшем году (1921-м. — Н.С.) мы в Белоруссии были представлены сами себе… Кулаков у нас уже нет, а есть лишь труженики».*[37]

У 1922 годзе становішча не нашмат палепшылася, афіцыйна канстатуецца цяжкі харчовы крызіс. Загады савецкага кіраўніцтва, разасланыя па паветах, патрабавалі «принять чрезвычайные репрессивные меры...». Павятовае начальства ў сваю чаргу накіроўвала ў воласці дэталёва распісаныя пагрозы пакарання. Наступны дакумент настолькі тыповы па змесце, характэрны для тых часоў, што ёсць сэнс прывесці яго цалкам. Папера накіроўвалася Вітунічскаму старшыні выканкама і харчоваму інспектару.

*«Последние проценты выполнять трудно, но выполнять их нужно любой ценой, каких бы то ни было усилий и жертв… Все должны быть на ногах день и ночь и твердо без малейшей слабости держать руководство, никаким просьбам, ни слезам не придавать значения. Наоборот, всех просящих немедленно садить под арест, пусть будут жертвы, но этим покажете всей волости, что нужно выполнять, а то за беднячком стоит кулачок и тоже плачет».*[38]

Для больш эфектыўнай арганізацыі працы падатковай службы былі створаны валасныя харчовыя тройкі і ўдарныя групы, якія дасылалі пагрозы і патрабаванні міліцыянерам і старшыням сельсаветаў, заклінаючы непасрэдных выканаўцаў «железной рукой и энергией взыскивать причитающийся продналог». [39]

У сакавіку 1924 года Самахвалавіцкі валасны выканкам пастанавіў аддаць пад суд 155 грамадзян. Напружана працавалі сесіі суда ў Валасевічскай, Бярэзінскай, Дзмітравічскай, Ухваль-





скай валасцях Барысаўскага павета. На розныя тэрміны зняволення і іншыя пакаранні былі асуджаны старшыні валасных выканкамаў і сельсаветаў «за бездеятельность и халатное отношение к выполнению продналога».[40]

Пакаранні былі не проста пагрозай, а на самой справе разбуралі сялянскую гаспадарку і сям'ю. Напрыклад, Іван Кажарскі, селянін з Валасевіцкай воласці быў асуджаны на 6 месяцаў зняволення, канфіскацыі «рудога каня і рабой каровы» і выплаце падатку з маёмасці. Яго суседу Цімафею Тамашэўскаму прысудзілі выплату падатку ў трайным памеры і г. д.

А селянін з хутара Мар'яліва Бараўлянскага сельсавета Мацей Арцышэўскі па прысуду нарсуда павінен быў развітацца з канём-каштанкай, кабыліцаю 3 гадоў, каровай чорнай, быком, пяццю гадавалымі свіннямі, чатырма авечкамі, каб выплаціць падатак у колькасці 511 пудоў 8 фунтаў. Праўда, міліцыянеры, якія трапілі на хутар для выканання рашэння суда, з пералічанай жывёлы знайшлі толькі дзве авечкі і адну свінню. А гаспадар збег у лес, яго чакаў новы суд за ўтоўванне маёмасці.[41] І такія прыклады можна прыводзіць бясконца. Мелі рацыю сяляне, калі, параўноваючы харчразвёрстку з фіксаваным падаткам, нявесела жартавалі: «Раней пень біў Івана, а цяпер Іван будзе біцца аб пень». [42]

Гвалт і тэрор сталі асноўнымі сродкамі выканання эканамічных задач. Вёска не багацела. У 1924, параўнальна спакойным, годзе падаткавая кампанія прайшла боль-менш паспяхова. Але ў дакладах з месцаў адзначалася, што адносіны насельніцтва да савецкай улады варожыя. «Причина одна, — тлумачыў старшыня Хаценчыцкага выканкама, — тяжесть налогового пресса по сравнению с мощьностью хозяйств. Население поголовно нуждается...» Старшыня скардзіўся, што «несознательность и бедность» — галоўныя перашкоды для савецай працы.[43]

Крыніцы малююць карціну агульнага пагаршэння становішча беларускай вёскі. Людзі выжывалі з апошніх сіл. Аб жабрацкім стане гаспадаркі і настроях адчаю сярод вяскоўцаў сведчыць тагачасная перапіска. Лісты, якія людзі дасылалі замежным сваякам, уважліва чыталі ў ДПУ. Студэнт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, паходжаннем з вёскі Вялешына Слуцкай акругі Сяргей Піліпчык быў асуджаны на 3 гады канцлагера ў 1924 годзе за тое, што паскардзіўся братам, якія выехалі ў Амерыку, на безнадзейна цяжкае жыццё. Будучы аграном пісаў:

*«Становішча селяніна такое, што не то сядзець, не то ў лес бегчы. Харчпадатку 6 чырвонцаў, а пуд жыта 55—60 кап. Каб купіць плуг і барану трэба аддаць увесь ураджай... Жывыя паміраюць з голаду і холаду...»*[44]

І гэта ў той час, калі дабро, адабранае і звезенае добраахвотна на зборныя пункты, г. зв. нарыхтоўчыя канторы, гінула і марнавалася без дагляду. Безгаспадарчасць новых уладароў здзіўляла і абурала. Селянін, шануючы час, прыязджаў у кантору ў 5—6 гадзін раніцы. Вароты адчынялі ж не раней, чым а 12-й. Збіраліся чэргі, узнікалі натоўпы. Часцяком п'яны нарыхтоўшчык ганьбіў сабраўшыхся, лаяўся на людзей. А мог і ад'ехаць да багатага шляхціца на абед, прымушаючы людзей марнаваць цэлы дзень. Улік падаткаў ажыццяўляўся дрэнна. Сена прымалася «на глазок». Сялян падманвалі, абвешвалі. Сэрца гаспадара аблівалася крывёю, калі бачаў, што фураж і сена ляжаць пад адкрытым небам, псуецца пад дажджом ці гіне ў агні. Пры перагонах і пагрузках у вагоны жывёла разбягалася, хварэла і прападала. Дрэва, цвікі, мяхі, якія з вялікімі цяжкасцямі збіраліся, з лёгкасцю раскрадаліся. Прыклады безгаспадарчасці і безадказнасці паказвалі Койданаўская і Мінская нарыхтоўчыя канторы, ды і ў іншых справы ішлі ня лепшым чынам.[45]

Абагульненне вынікаў працы — гэта было новым, нязвыклым і непрымальным для селяніна-гаспадара. Вёска прыходзіла ў заняпад ва ўмовах актыўнай несвабоды і агрэсіўных абмежаванняў. Новы лад дэманстраваў першыя прыклады эканамічнай бязглуздзіцы.

## Крыніцы, заўвагі

1. *Хохлов А. Г. Крах антисоветского бандитизма в Белоруссии. 1917—1925 гг. С. 19.*
2. *Кароткі нарыс гісторыі міліцыі Беларусі. Мн., 1927. С. 41.*
3. *ДАВВ, ф. 1821, воп. 1, спр. 344, арк. 5; спр. 215, арк. 21.*
4. *Тамсама.*
5. *Тамсама.*
6. *Тамсама, ф. 92, воп. 1, спр. 98, арк. б/н.*
7. *Тамсама, ф. 98, воп. 1, спр. 21, арк. 13; ф. 1821, воп. 1, спр. 436, арк. 32,33; ДАМВ, 1, спр. 7, арк. 48.*
8. *ДАМВ, ф. 9, воп. 1, спр. 7, арк. 47.*





9. *Тамсама, а. 48; сп. 9, а. 25*
10. *Тамсама, ф. 42, воп. 1, сп. 10, а. 8.*
11. *Тамсама, ф. 44, воп. 1, сп. 2, а. 8.*
12. *ДАМВ, ф. 42, воп. 1, спр. 9, арк. 29.*
13. *ДАВВ, ф. 92, воп. 1, спр. 98, арк. б/н; ф. 98, воп. 1, спр. 21, арк. 13,15,17; ф. 1821, воп. 1, спр. 436, арк. 26,27; ДАМВ, ф. 9, воп. 1, спр. 7, арк. 17.*
14. *ДАВВ, ф. 92, воп. 1, спр. 98, арк. б/н.*
15. *ДАГВ, ф. 135, воп. 1, спр. 83, арк. 28.*
16. *ДАМВ, ф. 9, воп. 1, спр. 7, арк. 117, 195.*
17. *ДАВВ., ф. 92, воп. 1, спр. 21, арх. б/н.*
18. *Тамсама, ф. 9, воп. 1, сп. 7, а. 136.*
19. *Тамсама, ф. 9, воп. 1, сп. 9, а. 4,5,6.*
20. *Тамсама, ф. 1821, воп. 1, сп. 271, а. 57.*
21. *ДАВВ, ф. 42, воп. 1, сп. 9, а. 29.*
22. *ДАВВ, ф. 37, воп. 1, сп. 3, а. 132.*
23. *Тамсама, а. 128.*
24. *Тамсама, ф. 9, воп. 1, спр. 8, арк. 9.*
25. *Тамсама, ф. 6, воп. 1, спр. 1, арк. 6.*
26. *ДАВВ, ф. 1821, воп. 1, спр. 9, арк. 26.*
27. *ДАМВ, ф. 9, воп. 1, спр. 9, арк. 90.*
28. *НАРБ, ф. 60, воп. 3, спр. 823, арк. 34.*
29. *ДАМВ, ф. 9, воп. 1, спр. 9, арк. 88—90.*
30. *НАРБ, ф. 60, воп. 3, спр. 823, арк. 34.*
31. *ДАМВ, ф. 9, воп. 1, спр. 9, арк. 111.*
32. *Тамсама, спр. 7, арк. 257—263, 266—296.*
33. *Тамсама. арк. 258.*
34. *Тамсама, ф. 34, воп. 1, спр. 7, арк. 13.*
35. *Тамсама, спр. 23, арк. 13.*
36. *Тамсама, ф. 34, воп. 1, спр. 7, арк. 136; спр. 3, арк. 165.*
37. *Тамсама, ф. 9, воп. 1, спр. 6, арк. 14.*
38. *Тамсама, ф. 44, воп. 1, спр. 79, арк. 40.*
39. *Тамсама, ф. 35, воп. 1, спр. 64, арк. 77.*
40. *Тамсама, арк. 84, 85; ф. 9, воп. 1, спр. 37, арк. 263.*
41. *Тамсама, ф. 1306, воп. 1, спр. 1, арк. 170, 188—191; ф. 9, воп. 1, спр. 37, арк. 50,57.*
42. *НАРБ, ф. 60, воп. 3, спр. 834, арк. 34.*
43. *ДАМВ, ф. 9, воп. 1, спр. 44, арк. 40.*
44. *Архіў КДБ РБ.*
45. *ДАМВ, ф. 9, воп. 1, спр. 7, арк. 233, 234, 249; спр. 5, арк. 22.*

## 2. Рэпетыцыя калектывізацыі

Беларуская вёска была вельмі незадаволена эканамічнымі эксперыментамі новай улады. Вопыт першых гадоў будаўніцтва дзяржаўнай сацыялістычнай сельскай гаспадаркі прынёс сумныя вынікі. Толькі ў Мінскім павеце было нацыяналізавана пад саўгасы 47 маёнткаў, «дзе ўсё было ўзята на ўлік...»[1] Спрабавалі ўтварыць чырвонаармейскія гаспадаркі (г. зв. «красхозы»), але даволі беспаспяхова. Наватворы хутка развальваліся. Маёнткі, што выдзяляліся пад савецкую форму гаспадарання, былі ў заняпадзе, маёмасць жа дэпартаванага з Беларусі насельніцтва «за бандытызм» канфіскоўвалася, новым гаспадарам «на пракорм» пакідалі дробязі.[2] Тым не менш стан іх быў такі, што яны нагадвалі «багадзельні».

На месцах спрабавалі раскрыць прычыны няўдач. А паколькі аграрнымі пытаннямі ў Беларусі займаліся ў першую чаргу вайскоўцы, ім належала і першая спроба аналізу. Аб тым, што армейскае кіраўніцтва шукала вінаватых, сведчыць загад № 637 ад 4 чэрвеня 1920 г., які падпісалі камандуючы арміямі Заходняга фронту Тухачэўскі, сябра РВС Мулін, начальнік савецкага аддзела арміі Рэгінгольд:

> *«...Земельная политика проводится чрезвычайно неумело... особенно в деле организации коммунистических и советских хозяйств. Упомянутая форма землепользования есть одно из основных начал перехода к коммунистическому возделыванию земли и как таковая должна служить для окружающего населения, пользующегося раздробленной формой обработки, непреложным доказательством необходимости перехода к коммунальному производству во всех отраслях крестьянского хозяйства... Однако в ряде уездов постановка коммунальных хозяйств неудовлетворительна. В результате получается отвращение к коммунам всего окружающего населения...»*[3]

У загадзе былі пералічаны і прычыны непрывабнасці камун. Па-першае, вінаваты «неблагонадежные лица», «совершенно неудачный состав коммун, сплошь и рядом ничего не понимающих в земледельческом труде и занимающихся спекуляцией». Па-другое, адсутнасць з боку рэвалюцыйных камітэтаў «контроля, хозяйского глаза, любовного отношения к сельскому хозяйству».





Загад прадугледжваў і меры барацьбы з безгаспадарчасцю новых «гаспадароў» зямлі і маёмасці. Сэнс парад быў просты: «установить благонадежность личного состава... провести чистку... в необходимых случаях ставить комиссаров».[4] Адказ на галоўнае пытанне, «что требуется для поднятия коммун на должную высоту», згодна з загадам павінна была даць кожная гаспадарка асобна. Якія прапановы зрабілі першыя камунары і саўгаснікі, невядома.

А вось другі гістарычны дакумент — «Пратакол пасяджэння Мінскага павятовага выканкама ад 28 кастрычніка 1921 г.» — такама сведчыць, што (цытую) «положение совхозов скверное».[5] Прамоўца, загадчык зямельнага аддзела тав. Ткачэвіч спрабаваў акрэсліць прычыны такога становішча:

> *«Совхозы, чтобы быть производительными, должны иметь все, а у нас как раз ничего нет. Были какие-то чесоточные лошади, да и то без хомутов».*[6]

Куды ж падзелася дабро былых гаспадароў маёнткаў? З прамовы таго ж Ткачэвіча можна даведацца, што саўгаснікі, гэты вясковы пралетарыят, былыя парабкі, зямлю не засявалі, бязбожна кралі, паказвалі дурны прыклад сялянам.

І яшчэ адну прычыну, вельмі красамоўную для ўсяго савецкага перыяду, назваў тав. Ткачэвіч:

> *«Печальное их (саўгасаў. — Н.С.) состояние зависит еще от того, что там слишком много начальников и мало работников».*[7]

На прыканцы пасяджэння ён атрымаў пытанне, як кажуць, «на засыпку», ад чальца Мінскага выканкама тав. Пульмана:

> *«Что нам в будущем дадут совхозы, ведь они ничего не дают нам, а только наоборот требуют от нас».*[8]

Тав. Пульман, сам таго не ведаючы, задаў гістарычнае пытанне, на якое за ўвесь савецкі перыяд не удалося адшукаць станоўчы адказ.

У 1921 годзе ў Мінскім павеце было створана 5 арцелей, 3 камуны і 34 саўгасы. Аналізуючы вынікі іх вытворчасці, той жа прамоўца не стрымаўся:

> *«...Идейного в них ничего нет, а все — фикция (!)».* [9]

І дзеля гэтай «фікцыі» курочылі спрадвечны лад жыцця вёскі.

Летам 1920 года валасныя рэўкамы ўшчыльную ўзяліся за справу арганізацыі калектыўных гаспадарак. На месцы былі разасланы прапановы «в самый кратчайший срок доставить... сведения о количестве лиц, желающих получить землю для обработки коммунально, артельно или коллективно».[10] Сяляне, у асноўным, адмаўляліся. Так, на цэлы стос папер перапіскі паміж Беларуцкім валасным кіраўніцтвам і сельсаветамі прыпадае толькі некалькі, да дзесятка, станоўчых адказаў: 6 сямей вёскі Паперня, не маючых увогуле зямельнага надзелу згадзіліся на калектыўную форму гаспадарання. Па 8 сямей яшчэ з трох вёсак. Большасць адмоўных лістоў пракладна такога зместу:

> *«Граждане дер. Мочаны изъявляют желание обрабатывать землю по-прежнему определенный им кусок земли каждому в собственность».*[11]

> *«Деревня Ковшево не желает работать в артелях».*[12]

> *«Кто имеет чем обрабатывать, тот желает получить количество земли отдельно» — адказалі жыхары вёскі Лускава, Вячанскі вясковы камітэт зверху на афіцыйнай паперы наклаў рэзалюцыю «Не желают».*[13]

Вясной 1921 года паўстаўшыя сяляне Гомельшчыны заяўлялі:

> *«Не суйте нам коллективов и совхозов, дайте нам реформ Западной Европы, разбейте на хутора и поселки» (з інфармацыйнай даведкі Гомельскай губчк).*[14]

Відавочна, што ідэя калектыўнай працы на агульнай зямлі сярод вяскоўцаў не знаходзіла прыхільнікаў. Улады на гэты конт таксама не цешыліся ілюзіямі. У 1920 годзе на месцы, амаль у кожны валасны выканкам, была разаслана брашурка-агітка вядомага функцыянера камуністычнай партыі М. Асінскага, якая падводзіла некаторыя вынікі сацыялістычных эксперыментаў на вёсцы:

> *«...Деревня сама по себе оказалась к социализму очень равнодушной. Она решительно отвергла коммунию».*

Тым не менш новая ўлада катэгарычна адмовілася ад падтрымкі індывідуальнай гаспадаркі, гэта не адпавядала палітычнаму курсу новай маскоўскай улады. Для рабоча-сялянскай улады да часу нязменным быў курс «серадняка» пры вялікай заклапочанасці,





каб ён, гэты «сярадняк» не перарос у кулака. І мяжа паміж гэтымі паняццямі была вельмі ўмоўная.

Цікава, што будаўніцтва сацыялізму ў вёсцы ўлада звязвала з «наглядной пропагандой социализма при помощи совхозов и добровольческих коммун и артелей». Але хутка савецкія сельскагаспадарчыя маякі прынеслі суцэльныя расчараванні. Прадукцыі ад іх недачакаліся. Па-ранейшаму галоўнай крыніцай хлеба заставаліся аднаасобныя гаспадаркі. Асінскі рабіў выснову:

> *«А взгляд на них (саўгасы і калгасы. — Н.С.), как на «зерновые фабрики», прибежище от продовольственного кризиса, или как на магниты, привлекающие крестьян в лоно социализма надо оставить».*[16]

Ім адводзілася роля «узла государственного регулирования»,[17] ці, прасцей кажучы, апарата прымусу. Гэтую галоўную думку і давялі да мясцовага кіраўніцтва. Не хлеб, не багатая вёска былі мэтамі новых рэфарматараў, а стварэнне жорсткай сістэмы падпарадкавання, знішчэнне гаспадара.

А для рэалізацыі абавязковых планаў і норм, у тым ліку па стварэнні калектыўных гаспадарак, рэкамендавалася прымяняць дзяржаўны прымус і прэміраванне, рэпрэсіі і штрафныя нарады, маёмасныя канфіскацыі і г. д. Для эфектыўнай працы сістэмы прымусу прапаноўвалася ўтварыць асобыя сесіі рэўтрыбуналаў, па ўзоры спецыяльных харчовых сесій.[18]

І пры самых надзвычайных мерах, нават пад кантролем ваенных камісараў, савецкая гаспадарка так і не стала ўзорам для пераймання, але ўвачавідкі ілюстравала развал і заняпад вёскі. Ураджай калектыўных гаспадарак заставаўся пад снегам. Жывёла ў саўгасах гінула ад хвароб і недагляду. Саўгасныя палеткі араліся і засяваліся з дапамогай прыгоннай працы затрыманых ці добраахвотна з'явіўшыхся дэзерціраў і сялян, якіх, пагражаючы зброяй, прымушалі да працы на зямлі савецкіх гаспадарак. Абураныя сяляне пыталіся, чым адрозніваецца бальшавіцкі сацыялізм ад прыгоннага права.

Часовую надзвычайнасць у адносінах дзяржавы і сялянства, горада і вёскі можна было б перацярпець, але «ваенны камунізм» быў сутнасцю бальшавіцкай праграмы «загона рабочых і сялян у камуністычнае царства»; ён, як сістэма мер дзяржаўнага неэканамічнага прымусу, стаў лепшым спосабам хуткага развалу

гаспадаркі. Першая ахвяра «ваеннага камунізму» — прамысловы сектар. Прамысловая вытворчасць і перапрацоўка скараціліся ў сотні разоў. Больш устойлівая па сваёй прыродзе сялянская гаспадарка пратрымалася больш, але ў 1920 годзе падышла да смяротнай рысы. Нават страты за тры гады Першай сусветнай вайны былі непараўнальнымі з трыма сезонамі кіравання бальшавікоў.

Рэзкае скарачэнне плошчаў пасеваў, мнагакратнае памяншэнне праходзіла на фоне агульнай прымітывізацыі і архаізацыі землеўладання і арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці. Год за годам падала ўраджайнасць і, нягледзячы на ўзрастаючыя развёрстныя заданні і ўдасканаленне механізма адабрання, скараціліся дзяржаўныя нарыхтоўкі прадуктаў. Сяляне выкарыстоўвалі ў ежу лебяду і кару. Адсутнасць свабоднага гандлю і стымулаў развіцця селянскай гаспадаркі, трудмабілізацыі і іншыя новыя формы кіравання былі пазбаўлены здаровага эканамічнага і проста чалавечага сэнсу, а ў спалучэнні з якасцю тагачасных «будаўнікоў камунізму», былі першапрычынай пастаяннай дэзарганізацыі эканомікі.

Селянін не мог без горычы і адчаю глядзець на тое, як аднятыя ў яго хлеб, бульба гніюць на зсыпных пунктах, раскрадаюцца на ўсім шляху да месца прызначэння, як калечыцца рэквізаваная жывёла, як безгаспадарча жывуць навязаныя «ўзорныя» камуны і саўгасы, якія нават партыйныя кіраўнікі называлі «скандальнымі маёнткамі», як бязладна арганізавана праца г. зв. трудмабілізаваных... Вёска адказвала на ўсе гэтыя перамены і павароты жыцця працяглым упартым супрацівам.

## Крыніцы, заўвагі


1. ДАМВ, ф. 9, воп. 1, спр. 6, арк. 12, 24
2. ДАМВ, ф. 1, воп. 1, спр. 6, арк. 12.
3. Тамсама, ф. 294, воп. 1, спр. 29, арк. 10.
4. Тамсама, арк. 12.
5. Тамсама, ф. 9, воп. 1, спр. 6, арк. 28.
6. Тамсама.
7. Тамсама.
8. Тамсама.
9. Тамсама.
10. Тамсама, ф. 37, воп. 1, спр. 4, арк. 12.
11. Тамсама.







12. Тамсама, арк. 20.
13. Тамсама, арк. 13
14. НАРБ, ф. 60, воп. 3, спр. 283, арк. 12.
15. Осинский Н. Государственное регулирование крестьянского хозяйства. М., 1920. С. 1.
16. Тамсама.
17. Тамсама.


## 3. Твары ўлады

Адна з прычын упартага супраціўлення — незадаволенасць мясцовага насельніцтва, так бы мовіць, якасцю новай улады. Гэтую прычыну адзначалі амаль усе сучаснікі з розных бакоў, у першую чаргу чырвоныя камандзіры, прадстаўнікі спецслужбаў, што займаліся знішчэннем паўстанцаў. Красамоўныя высновы наконт галоўных віноўнікаў зялёнага паўстання ў Дзісненскім і Браслаўскім паветах Віленскай губерні ў чэрвені 1919 года зрабіў віленскі губернскі ваенны камісар у сваім дакладзе ў савет абароны Літвы і Беларусі. Даклад прадугледжваў абавязковую частку, якую патрабавала савецкае кіраўніцтва, — пералік і аналіз прычын паўстання. Камісар, як бачна, не меў намеру хаваць праўду аб становішчы ў мяцежных паветах. Даклад малюе жахлівую карціну свавольства і шматлікіх злачынстваў мясцовай улады.

*«Бессистемные реквизиции, конфискации, грабежи под фирмой коммунистов (стыль і тэрміналогія дакументаў захоўваецца. — Н.С.), беспричинные расстрелы были главным занятием многих волостных исполкомов, проводивших это по указаниям Дисненского уездного исполкома. Все постановления проводились именем коммунистов, коммунистических ячеек.*

*Особенно неистовствовала одна из таковых ячеек в местечке Шарковщина, ставшего одним из главных пунктов белогвардейского выступления. Председатель этой ячейки, он же председатель исполкома и военком Молявка со своими сподвижниками выписывался (так у тэксце. — Н.С.) председателем уездного исполкома в Дисну для расстрелов, которые проводились здесь без суда, когда красноармейцы и милиция отказывались их проводить... Шарковской ячейки боялась вся округа».*[1]

Аналізуючы прычыны ўпартасці і працягласці зялёнага руху ў Гомельскай губерні ў сакавіку-красавіку 1921 года, старшыня

ГубЧК Розенберг адзначаў адсутнасць даверу з боку насельніцтва да камуністычных ячэек і тое здзіўленне, што панавала сярод сялян, памерамі крадзяжу і злоўжыванняў савецкіх служачых. «...Они (сяляне. — *Н.С.*) спрашивают, в чьих руках все это, что так воруют», — пісаў у сваім дакладзе галоўны чэкіст губерні, адначасова скардзячыся на адсутнасць «честных и опытных партийных работников». Сярод галоўных «недахопаў» савецкай работы, якія выклікалі справядлівае абурэнне мясцовых людзей, Розенберг вымушаны быў пералічыць: «бездеятельность, расхлябанность, халатность, хищения, приписки».[2]

Распаўсюджаная з'ява — спекуляцыя, хабарніцтва мела характар паўсядзеннасці сярод шматлікай арміі савслужачых, кантралёраў, нарыхтоўшчыкаў і г. д. Некаторыя статыстычныя даныя, што прыводзіць у сваім дакладзе старшыня ГубЧК, красамоўна сведчаць аб нізкай якасці ўлады, амаральнасці паводзін яе прадстаўнікоў.

> «*Дел по бандитизму — 15, контрреволюции — 22 ... преступлениям по должности — 29, превышению власти — 8, взяточничеству — 3, спекуляции — 8*».

Трэба падкрэсліць, што ўсе гэтыя злачынствы ЧК выкрыла за двухтыднёвы тэрмін, з 1 па 15 красавіка 1921 года.[3]

> «*Значительная доля вины за восстание* (ў Мглінскім павеце. — Н.С.) *ложится на местные органы в связи с их бездеятельностью и злоупотреблением...*»

Гэтую выснову зрабіў прадстаўнік Рэўваенсавета 16-й арміі, які прыбыў у красавіку 1920 года ў Гомель для высвятлення прычын 10-тысячнага паўстання.[4]

Паўстанне ў Быхаўскім павеце, на падаўленне якога спатрэбіліся намаганні цэлай вайсковай брыгады на працягу вясны 1920 года, успыхнула «из-за слабости местной власти, неумело подходившей к населению и не пользовавшейся авторитетом», — сцвярджаў камісар гэтай брыгады. Вайсковец пералічваў «грахі» мясцовых саветаў:

> «*Много втесалось в органы преступного элемента, который занимался хулиганством, пьянством, игнорировали интересы местного населения*».[5]





Бывала і так, што «змагара» з бандытызмам (у разглядаемым выпадку — старшыня Суражскага выканкама), які меў звычку без суда і следства расстрэльваць «на месте преступления» не толькі сялян, але і падазроных старшынь мясцовых саветаў, тэрмінова адхілялі ад улады за «жизнь совершенно не подобающую коммунисту и будучи в последнее время задержанным на улице в пьяном виде отрядом Витгубчека». Вышэйшая ўладная інстанцыя палічыла ўвогуле за лепшае ліквідаваць гэты орган савецкай улады, змяніўшы яго на рэўкам.[6]

Справядлівае абурэнне выклікалі паводзіны супрацоўнікаў міліцыі. За ёй цягнуўся вялікі шлейф грахоў: збіванне вяскоўцаў, пагрозы расстрэламі, беспадстаўныя арышты і вобыскі. Падчас апошніх мерапрыемстваў нямала дабра прыліпала да рук абаронцаў парадку. Для выканання службовых абавязкаў міліцыянеры канфіскоўвалі ў сялян коней, але нярэдка прадавалі жывёлу ў суседніх вёсках.[7]

Хутка набытыя дыктатарскія звычкі, нястрыманасць і непрыстойнасць паводзін, п'янства, хабарніцтва трымаючых уладу раздражнялі людзей. У шмат якіх выпадках такія праявы былі апошняй кропляй і цярпліўцы-сяляне хапаліся за зброю. Аднак справядліва зазначыць — нованароджаная сістэма спрабавала весці барацьбу са злоўжываннямі мясцовых уладароў, выкарыстоўваючы ў першую чаргу ЧК і іншыя рэпрэсіўныя і кантрольныя органы, праўда, даволі беспаспяхова. Неаднаразова гэта спрабаваў рабіць М. Тухачэўскі, заклікаючы ЧК арыштоўваць чырвонаармейцаў, якія літаральна тэрарызавалі мясцовае насельніцтва.

Агульны партрэт гэтых новых людзей новай дзяржавы прыкладна такі: нараджэнне і дзяцінства ў вёсцы 1890—1900 гадоў, мабілізацыя ў армію ці перамяшчэнне ў горад у міжваенны перыяд, фронт ці тылавы гарнізон, завод ці праца дробнага слугачага ў 1917 годзе — вось тыповыя вехі небагатых біяграфій большасці герояў рэвалюцыйнай, савецкай і сацыялістычнай перабудовы. Вёска, ЦПШ, 2—3 класы пачатковай вучэльні, «універсітэты» казармы і гарадскіх вуліц сталі асновай іх культуры, а вайна сабрала і перамяшала людзей. Чалавеку са зброяй яна прывіла пачуцці жорсткасці, стаднасці, прыгнечанасці перад фізічнай сілай, інстынкт самазахавання, пасяліла ў душы сумнеў у каштоўнасцях маралі і права. Як бачым, прыстойны разум-

ны савецкі работнік быў хутчэй выключэннем, чым правілам. Звычайнымі якасцямі «совбура», «комбура» (тэрміналогія тых гадоў), чэкіста, камбедаўца, ваенкома, рэўкамаўца і г. д. былі непісьменнасць, фанаберыя, п'янства, хабарніцтва. Падчас стрэкапытаўскага мяцяжа паўстанцы так характарызавалі ўладу:

> *«Мы, мужики, рабочие в солдатских шинелях, наши враги — отбросы всех слоев населения, объединенные наживой».*[8]

Такім чынам, для новай улады таксама не існавала прававых і маральных абмежаванняў у дасягненні сваіх мэтаў. Як правіла, асабістая матывацыя, а не ідэйныя перакананні былі рухавіком непрыгожых і нават крывавых учынкаў.

У Беларусі, дзе вялікую колькасць гарадскога і местачковага насельніцтва (да 60%) складалі яўрэі, сацыяльнае супрацьстаянне мела выразныя рысы нацыянальнага канфлікту. Дарэчы, самі бальшавікі не схільны былі хаваць ці замоўчваць «антыяўрэйскую праблему». Аналізуючы прычыну паўстанцтва ў 1919 годзе, партыйныя кіраўнікі не абмінулі і гэты момант. Вядомы ў беларусі бальшавік Пінсан зрабіў высновы пра характар Стракапытаўскага мяцяжа. Ён тлумачыў адну з прычын мяцяжа:

> *«События в Гомеле носят антисемитский характер. Город населен большей частью евреями, ответственные посты занимали также они, значит удар контрреволюции обрушился на евреев».*[9]

Нядобрыя настроі насельніцтва назіраў і Г. Лялевіч, гомельскі партыйны актывіст. Падчас уздыму партызанкі ў 1921 годзе пад кіраўніцтвам Івана Галака шырока распаўсюджваліся заклікі знішчаць яўрэйскую ўладу. Атаман заклікаў сялян не хавацца ў лясах, «спасая свою жизнь от ига жидовской коммунистической проклятай власти...». «Смутному глухому недовольству крестьян соответствовали и смутные, дикие лозунги бандитов», — падсумаваў Лялевіч, які цалкам змясціў тэкст адозвы Галака ў сваім артыкуле.[10]

Яўрэйскі аддзел Наркамнаца (Народнага камісарыята па справах нацыянальнасцяў) патрабаваў неадкладных мер па ліквідацыі аддзела Галака, «сметающего целые еврейские местечки і грозящего дезорганизацией всей советской работы».[11] Пастановы валасных сходаў адзначалі колькасную перавагу асобаў яўрэйскай нацыянальнасці ва ўладных структурах. «Мы негодуем, что евреи стоят у власти», — выказаліся ўдзельнікі агульнага сходу





Радунскай воласці мяцежнага Себежскага павета (19.05.1919 г.) і запатрабавалі пазбавіць іх грамадзянскіх правоў і пасад ад пісара да камісара.[12]

Ксенафобія ў адносінах да яўрэйскага насельніцтва — лагічны вынік метанакіраванай палітыкі і прававой практыкі царскай Расіі. Трэба зазначыць, што антысеміцкія настроі былі больш распаўсюджаны ва Усходняй Беларусі, дзе антысавецкія акцыі адбываліся ў агульнарасійскім рэчышчы, беларускі нацыянальны складнік у якіх быў малазаўважным ці адсутнічаў увогуле. У народных рухах у абарону Беларускай Народнай Рэспублікі, напрыклад на Случчыне, выпадкі пераследу па нацыянальнай прыкмеце не назіраліся. Наадварот, хапае прыкладаў дапамогі паўстанцам з боку заможных мясцовых яўрэяў. Рэдкія выпадкі мелі месца толькі пасля паўстання, у час жорсткага пераследу ўладамі яго ўдзельнікаў. Слуцкае паўстанне адбылося з дакладнымі мэтамі абароны сваёй дзяржаўнасці. Грамадзянства яўрэяў і другіх народаў у межах БНР было натуральным. Шматнацыянальнасны чыннік Беларусі ўлічваўся палітыкамі і выкарыстоўваўся ў стратэгіях дасягнення галоўнай мэты.

Яшчэ тагачасныя пераможцы шукалі карані антысемітызму ў differentiation розных сацыяльных праблемах. «Галак призывает бить евреев. На самом деле Галак борется не с евреями, а с советской властью, с коммунистической партией, трудящимися массами», — знайшоў галоўную прычыну крывавага канфлікту паміж асобнымі групамі насельніцтва Лялевіч.

Такім чынам сама ўлада спараджала напружанасць і агрэсію ў грамадстве.[13]

Адштурхнула сялянства і антыцаркоўная палітыка савецкай улады. Нярэдка паўстанні ўзначальвалі святары, як каталіцкія, так і праваслаўныя. Такія акцыі насілі ўпарты і працяглы характар, шматлюднасць была іх адметнай рысай. Як, напрыклад, у Дзісненскім і Браслаўскім паветах, дзе сялян да ўзброенага выступу заклікаў ксёндз Буклярэвіч. З амбона слуцкага праваслаўнага храма бласлявіў паўстанцаў айцец Мікалай (Шамяціла). Вялікая колькасць святароў удзельнічала ў Вяліжскім паўстанні.

У савецкія газеты грамадзяне пасылалі праклёны і пагрозы ў адрас канкрэтных прадстаўнікоў улады за праяўленую актыўнасць у царкоўных рэквізіцыях. «Моя рука не дрогнет убить и растерзать тебя, негодяя, грабителя православной церкви! Все вы враги на-

рода...» — папярэдзіў невядомы мсціўца наркамваенмора Беларусі Іосіфа Адамовіча.[14]

Агрэсіўны атэізм, варожыя дзеянні ў адносінах да царквы і кліра не садзейнічалі лаяльнаму стаўленню насельніцтва да ўлады.

Непавага да саветаў, а дакладней, неўспрыманне іх як легітымнай улады, адносіны да іх як да часовай з'явы, выклікалі імкненне грамадзян да стварэння выбарных народных органаў кіравання. На гэтую асаблівасць развіцця палітычных падзей у Беларусі звярнуў увагу ў свой час М. Тухачэўскі, камандуючы Заходнім фронтам, у складзе якога 16-я армія выконвала рэпрэсіўныя функцыі ў адносінах да мясцовага люду.

> *«Прежде всего крестьянство стремится сорганизовать свою собственную местную власть, которая постепенно расширяясь, принимает формы местной государственной власти. Иногда такая нарождающаяся власть стремится расшириться и охватить всю страну».*[15]

Яскравы прыклад для падмацавання разважанняў камандарма ў тагачаснай беларускай рэчаіснасці — дзейнасць Нацыянальнага камітэта Случчыны, які сфармуляваў агульнабеларускія мэты і задачы на час паўстання 1920 года і на пэрспектыву. «...А иногда они тупо ограничиваются своими местными интересами – непосредственной защиты местной крестьянской собственности», — адзначыў абмежаванасць стратэгіі большасці паўстанцкіх асяродкаў Тухачэўскі. У такіх выпадках улада праіснуе нядоўга, – лічыў ён, — бо адсутнасць вонкавай падтрымкі, малая колькасць сіл вядзе да паразы.

Трэба мець на ўвазе, што рэальная ўлада ў межах Беларусі належала вайскоўцам. Адпаведныя аддзелы штаба Заходняга фронту рэгламентавалі амаль усе бакі цывільнага жыцця, нават аграрныя пераўтварэнні. Ваенная дыктатура найлепшым чынам адпавядала ажыццяўленню ўсёй сістэмы мер дзяржаўнага неэканамічнага прымусу. Да валасной і нават павятовай улады вайсковае кіраўніцтва ставілася без належнай павагі. Скрозь адбываліся арышты старшынь і чальцоў выканкамаў, адхіленне іх ад пасад, замена савецкіх органаў рэўкамамі. З месцаў скардзіліся, што вайскоўцы «суют нос не в свое дело», не рэагуюць на загады і мерапрыемствы ўлады, злоўжываюць саманарыхтоўкамі прадуктаў.[16]





Істотны момант для разумення ўзаемадзеяння ўладаў і мясцовага насельніцтва: прадстаўнікі навастворанных саветаў рознага ўзроўню былі ў асноўным з людзей прышлых. Яны не ведалі ні мовы, ні мясцовых звычаяў, не цікавіліся інтарэсамі тутэйшых. «Навалач», як называлі іх мясцовыя жыхары, была правадніком рэпрэсіўнай палітыкі цэнтра, «чужынцы» не мелі ўплыву і падтрымкі насельніцтва. Менавіта вясковыя старшыні, большасць з якіх не магла ў адносінах да аднавяскоўцаў ажыццяўляць карныя загады, трапілі пад рэпрэсіі.

М. Тухачэўскі слушна заўважыў — вёска спрабавала ўтварыць мясцовае самакіраванне. Так, сяляне Беларуцкай воласці сабралі сход «па патрабаванню грамадзян воласці, таму, што ў гэты час у нас форменнае безуладдзе... нам пажадана, каб службовыя асобы былі намі ж абраныя, а не па назначэнню, як, напрыклад, у нас быў старшыня валаснога рэўкама, нехта Мікалай Хозік, невядома адкуль і хто такі, які неміласэрна нас крыўдзіў і падабраў без нашай згоды і выбару членаў, якія толькі ўсяляк шкодзілі нам».[17]

Моцную незадаволенасць сялянства выклікала распаўсюджаная практыка забеспячэння карных аддзелаў за кошт насельніцтва. Існавала такая форма пакарання за несвоечасовае выкананне падаткаў і падтрымку «бандытызму» — расквартараванне ў вёсцы галодных і разутых чырвонаармейцаў. Як адзначаў М. Тухачэўскі, салдаты някепска ўладкоўваліся на ўтрыманні вяскоўцаў і гублялі сваю баявую форму. «...І только небольшая часть действительно вела боевые операции», — падсумаваў негатыўныя наступствы для баявых якасцей чырвонаармейцаў камандарм. Гэтак званая сістэма акупацыйных гарнізонаў дорага каштавала сялянам. Паўсядзённы досвед падказваў вяскоўцам, што ствараецца дзяржава з супрацьлеглымі народу інтарэсамі.

У тыя няпростыя часы агульнага заняпаду і хаосу народ усё часцей выказвае думку аб дзяржаўнай самастойнасці з усімі яе атрыбутамі: уласным войскам і ўрадам. Можна нават вызначыць часовы рубеж, калі гэтая думка аформілася ў рэзалюцыях народных сходаў у валасцях і паветах, пастановах і прапановах, якія накіроўваліся ў цэнтральныя органы ўлады. Увосень 1920 года пракацілася шырокая хваля падзей, што сведчылі аб пэўнай спеласці незалежніцкіх дзяржаўных тэндэнцый. Мірным, дэ-

макратычным шляхам на агульных сходах людзі выказвалі сваю волю. На беспартыйнай канферэнцыі ў Валасевічах (Барысаўскі павет), што адбылася 31 кастрычніка 1920 года, сяляне разважалі:

*«Пры самавызначэнні трэба звярнуць увагу на тое, што Беларусь — краіна бедная. Значыць, ёй неабходна да каго-небудзь далучыцца, але ў такі час трэба глядзець, каб далучэнне не заняволіла нас... ва ўсякім выпадку не можа быць і размовы аб чым-небудзь іншым, акрамя самастойнасці Беларусі, не маючы ніякай сувязі з Польшчай і савецкай уладаю...»*[18]

Палітычныя крокі беларусаў адразу не былі звязаны з агрэсіяй. На канферэнцыі ў Халопенічах сяляне аб'явілі:

*«Жадаем мірным шляхам вызваліць Беларусь ад польскіх і савецкіх войскаў і даць ёй магчымасць самавызначыцца без чыёй там ні было дыктатуры».*[19]

Зыходзячы са свайго горкага вопыту жыцця на акупаванай тэрыторыі, насельніцтва скрозь патрабавала волі і незалежнасці. Нядзіўна, што найбольш папулярным лозунгам Слуцкага паўстання быў лозунг: «Супраць паноў і камуністаў».

Архіўныя дакументы мясцовых рэвалюцыйных камітэтаў сведчаць аб незалежніцкай нацыянальнай стратэгіі ў беларускай палітыцы. На ўсіх сходах і канферэнцыях гучалі словы абурэння падзелам Беларусі на тры часткі. «Такі падзел беларускіх працоўных мас і займаемых імі зямель ёсць гвалт над волею беларускага народа», — выказалі свой погляд на сквапную палітыку дзяржаў-суседак сяляне Астрашыцка-Гарадоцкай воласці.[20] Яны патрабавалі раўнапраўнага ўдзелу прадстаўнікоў Беларусі за сталом Рыжскіх перагавораў, справядліва бачачы за фактам няўдзелу ўшчымленне праў і непавагу да цэлага народа. Адным з патрабаванняў, што гучала на гэтых сходах, было замацаванае ў пратаколах рашэнне аб утварэнні ўласнай арміі, «якая толькі адна зможа зразумець правільна інтарэсы працоўнага беларускага народа і весці ўнутраную і вонкавую абарону Беларускай Рэспублікі».[21]

Безумоўна, выяўленні нацыянальных і незалежніцкіх амбіцый, імкненні да дзяржаўнай самастойнасці — вынік мэтанакіраванай прапагандысцкай і арганізацыйнай працы палітычных сіл. На Міншчыне шмат дзе ў вёсках дзейнічалі першасныя ячэйкі Беларускай партыі эсэраў. З поспехам працавалі інструктары партыі, як правіла, з ліку мясцовых настаўнікаў, валасных і павятовых служачых, былых вайскоўцаў.

Улада ўсяляк абмяжоўвала дзейнасць эсэраў, перашкаджала выступленням на сходах. Пад пільным вокам рэўкамаўцаў прымаліся рэзалюцыі і зацвярджаліся заклікі накшталт «Да здравствует всемирная революция!», «Да здравствуют великие вожди революции тов. Ленин и Троцкий» і інш. Аднак не прайшло і два тыдні пасля сходу, дзе прымаліся заклікі ў гонар пралетарскіх правадыроў, як у тую ж Беларуч прыехала палымяная эсэрка Палута Бадунова. С самага пачатку на сходзе прадстаўнікі з Масквы і супрацоўнікі валаснога рэўкама не давалі ёй слова.

Аднак дэлегаты з'езда абурыліся, што «камуністы ей, беларуске, забараняюць гаварыць са сваім народам беларускім», і пажадалі паслухаць яе прамову. Менавіта яе прапановы былі ўнесены ў рэзалюцыю схода. Нягледзячы на перашкоды маскоўскіх чыноў, дэлегатам на з'езд саветаў Беларусі быў абраны вядомы эсэр Яўсей Трафімаў. Рэзалюцыя засведчыла, што сяляне выказаліся за аб'яднанне беларускіх зямель у этнаграфічных межах і стварэнне беларускай арміі. Асобным пунктам было ўнесена патрабаванне «для не прысутнасці беларускай дэлегацыі на перамовах у Рызе «для абароны інтарэсаў Беларускай Рэспублікі». Удзельнікі павятовага сходу настойліва запатрабавалі спынення непасільных пабораў і рэквізіцый, якія, на іх думку, да шчэнту разбурылі гаспадарку Беларусі.[22]

Такім чынам, рэчаіснасць засведчыла, што ў Беларусі вызначыўся пэўны вектар палітычных імкненняў і пераваг. Праз эканамічную неабходнасць людзі прыходзілі да высновы аб неабходнасці пабудовы беларускага дзяржаўнага дома.

## Крыніцы, заўвагі

1. *Стужынская Н. 1919 год: паўстанне ў Дзісненскім і Браслаўскім паветах // Народная воля. 1998. 26 мая. НАРБ, ф. 60, воп. 3, спр. 821, арк. 4;*
2. *Тамсама, спр. 823, арк. 34.*
3. *Тамсама, арк. 38.*
4. *ДАГВ, ф. 24, воп. 1, спр. 67, арк. 20.*
5. *Бриль И. Политическая подготовка летней операции 16-й армии в 1920 г. // Война и революция. 1926. № 11. С. 90; ДАМВ, ф. 294, воп. 1, спр. 29, арк. 6.*

6. ДАВВ, ф. 56, воп. 5, спр. 2, арк. 2.
7. Тамсама, ф. 1821, воп. 1, спр. 344, арк. 22,28; ДАМВ, ф. 9, воп. 1, спр. 5, арк. 7,8.
8. НАРБ, ф. 60, воп. 1, спр. 814, арк. 16.
9. Тамсама, ф. 60, воп. 3, спр. 13, арк. 11.
10. Лелевич Г. Бандитизм в Гомельской губернии весной 1921 г. // Известия Гомельского комитета РКП. 1921. № 9—10. С. 4.
11. НАРБ, ф. 60, воп. 3, спр. 828, арк. 21.
12. ДАВВ, ф. 1821, воп. 1, спр. 344, арк. 37.
13. НАРБ, ф. 60, воп. 3, спр. 834, арк. 47.
14. Тамсама, спр. 842, арк. 5.
15. Тухачевский М. Н. Борьба с контрреволюционными восстаниями // Война и революция. 1926. № 7. С. 6.
16. ДАМВ, ф. 9, воп. 1, спр. 8, арк. 2; спр. 44, арк. 40.
17. Тамсама, ф. 37, воп. 1, спр. 2, арк. 2.
18. ДАМВ, ф. 42, воп. 1, спр. 9, арк. 29.
19. НАРБ, ф. 60, воп. 3, спр. 770, арк. 75—76.
20. Тамсама, арк. 76.
21. ДАМВ, ф. 37, воп. 1, спр. 2, арк. 3.
22. Тамсама, арк. 6,7.

ЧАСТКА II

# Слуцкае паўстанне

## 1. «Крымінальная гісторыя»

За савецкім часам гісторыя Слуцкага паўстання абрасла ідэалагічна-тэндэнцыйнымі ацэнкамі і крымінальнымі штампамі. Тэма была засакрэчана на доўгія гады і схавана ў спецархівах. Гісторыя шырокага народнага ўздыму супраць савецкай улады ніяк не спалучалася з казкамі партыйнага афіцыёзу аб агульным замілаванні і ўсеабдымнай радасці, якую быццам бы выклікала ўсталяванне бальшавіцкага рэжыму ў Беларусі. Па сутнасці, гісторыя паўстання засталася на старонках крымінальных спраў, сабрана і запісана следчымі і былымі ўдзельнікамі, кіраўнікамі і шараговымі. Як ні дзіўна, не ўсе тыя падзеі зніклі з народнай памяці.

На пачатку 90-х гадоў у Інстытут гісторыі Акадэміі навук Беларусі прыйшла жанчына сталага ўзросту, вельмі стомленая, але не зломленая жыццём. Ірына Аляксандраўна Маркевіч, даведаўшыся, што антысавецкая сялянская партызанка — на той момант (пазней тэма зноў была прыбрана з афіцыйных навуковых планаў) прадмет даследавання, прасіла дапамагчы знайсці звесткі пра яе бацьку, удзельніка Слуцкага паўстання. Толькі за тое, што Аляксандр Маркевіч тры снежаньскія тыдні 1920 года праслужыў каптэнармусам у Слуцкім палку, а потым прайшоў курс падрыхтоўкі ў вайсковай школе Лодзі і меў намер стаць афіцэрам арміі незалежнай БНР, ён сам, яго бацькі, жонка, дзеці, шматлікія сваякі, нават стрыечныя былі знішчаны ў ГУЛАГУ.

Аляксандр Маркевіч быў асуджаны ў 1929 годзе на тры гады высылкі на Салаўкі, але дамоў не вярнуўся. Дачка так і не даведалася, дзе бацька знайшоў апошні прытулак. Не вярнуліся і яго «падзельшчыкі» па крымінальнай справе, 14 чалавек былых навучэнцаў слуцкай гімназіі і семінарыі, а потым курсантаў, як і А. Маркевіч, вайсковых школ Лодзі і Варшавы, што марылі насіць



*Аляксандр Маркевіч, каптэнармус Слуцкага палка. Здымак 1920 г.*

пагоны беларускага афіцэра з вы-яваю Пагоні.

Як ні намагаліся даследчыкі, але нават слядоў на Салаўках бы-лога каптэнармуса Слуцкага палка не знайшлі. Аднак крымінальная справа А. Маркевіча і яго сяброў і паплечнікаў — Ф. Арцыховіча, А. Бараноўскага, М. Міхайлоўскага і іншых — дала выразную карціну шырокага ўдзелу слуцкай моладзі ў тых падзеях. Узрост, пахо-джанне, адукацыйны ўзровень, палітычныя перакананні зга-даных случакоў адлюстроўвае крымінальная справа.

А куды яны зніклі? На конт гэ-тага ёсць вусная версія, якая пра-гучала падчас размовы з дачкой удзельніка гістарычнай падзеі, так званай лістападаўскай справы, Нічыпара Мяцельскага — Алены Нічыпараўны. З мястэчка Пясочнае (былы Слуцкі павет), дзе жылі яе сваякі, аднаму хлопцу пашчасціла вывучыцца на лётчыка. У 30-я гады ён перавозіў грузы на Салаўкі, дзе і перажыў самае вялікае ў сваім жыцці душэўнае ўзрушенне. Пасля прызямлен-ня на выспе яго самалёт адразу абступіў натоўп. Пакуль лётчык здзіўлена разглядаў абарваных, здзічэлых людзей, тыя схапілі, разадралі на кавалкі і з'елі яго чацвераногага сябра — сабачку-дварняка, які выкаціўся ўслед за гаспадаром з самалёта і меў намер павітаць людзей брэхам.



*Філімон Арцыховіч. 1929 г.*

Не паспеў лётчык апамятац-ца, як з натоўпу да яго наблізіўся шкілет. «Я цябе пазнаў, — за-гаварыў цень чалавека, — ты пясочанскі хлопец, я тваіх бацькоў





ведаю». Ён назваў сябе і мясцо-васць, дзе раней гаспадарыў. Усё, што было з сабою, да апошняга кавалка хлеба раздаў землякам лётчык, а калі прыехаў дамоў, не ўстрымаўся, расказаў пра гаротнікаў сваякам.



*М. Міхайлоўскі*

Слуцкая гісторыя складаецца з асобных маленькіх гісторый, аповядаў пра людскія лёсы. Іх тысячы, дзесяткі тысяч, адна за адну чапляюцца, пераплятаюцца, ствараючы агульную, у асноўным з «успамінаў», што пакінулі вязні ЧК—ОГПУ—НКВД у розныя гады. Арыштоўваць случакоў пачалі адразу, з вясны 1921 года, як вярталіся дамоў з польскіх лагераў для інтэрнаваных. Судзілі за незаконны пераход мяжы. Вялікіх тэрмінаў зняволення ўлада не давала, абмяжоўвалася штрафамі. Не хапіла б турмаў, каб забяспечыць месцамі ўсіх, хто вярнуўся.

Можна ўявіць сабе гэтую колькасць люду, калі ў паўстанні прынялі ўдзел амаль усе вясковыя дарослыя мужчыны, асабліва моладзь. Аб гэтым сведчаць спісы ўдзельнікаў паўстання з вё-сак Сарагі, Востраў-Боркі, Шышчыцы, Ленькі, Машчыцы і г. д. З вёскі Шышчыцы, напрыклад, толькі адзін з мужчынскай грама-ды трапіў у Чырвоную армію, астатнія 72 дэзерціравалі і запісаліся добраахвотнікамі ў Брыгаду БНР на чале з капітанам Анупрэем Няронскім (пазней ён зойме пасаду начальніка гаспадаркі Бры-гады). Яны папоўнілі ў Семежава Слуцкі полк. Аб гэтым факце Няронскі паведаміць падчас арышту ў 1932 годзе.

Улетку 1921 года былі арыштаваны і асуджаны на розныя тэрміны зняволення актывісты нацыянальнага руху ў Чапліцкай і Вызнянскай воласці. Асобы аддзел памежнікаў Заходняга фронту паклапаціўся сабраць багаты матэрыял пра дзейнасць стваральнікаў народнай міліцыі і Першай Брыгады БНР Міхася Бірыча, Петры Еўстрада, братоў Богданаў і іншых.

Адначасова, у ліпені 1921 года, у Слуцку адбыўся працэс беларускіх эсэраў, арганізатараў паўстання. У спецсховішчах

Масквы захоўваецца 167 тамоў гэтай справы. Увосень 1921 года — яшчэ адзін суд у Слуцку. Падрабязнасці невядомыя, бо да гэтага часу няма доступу да дакументаў. Эсэры Рыгор Будавей, Васіль Цішкевіч, Уладзімір Грушэўскі, сёстры Людміла і Марыя Стагановіч, сябры першаснай ячэйкі Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў у вёсцы Старыца атрымалі розныя пакаранні, яшчэ даволі мяккія.

І далей пакацілася кола рэпрэсій. Гучны працэс адбыўся ў снежні 1925 года. Савецкая ўлада судзіла камандзіра Слуцкага палка Ахрэма Гаўрыловіча, лётчыка Сяргеенку і ўжо згаданага А. Маркевіча (гэта была яго першая судзімасць).

У лютым наступнага 1926 года далёка за межамі Беларусі разнеслася рэха лістападаўскай справы. Улада распачала сапраўднае паляванне на былых удзельнікаў антысавецкага руху. Розгалас у прэсе меў на мэце распаўсюдзіць пагрозу і запалохаць людзей.

У 1928 годзе — арышты былых курсантаў вайсковых школ, так званых «балахоўскіх». Кіраўнікі паўстання Павел Жаўрыд і Уладзімір Пракулевіч будуць даваць паказанні об слуцкіх падзеях у 1930 годзе падчас сумнавядомага працэсу «СВБ» — «Саюза вызвалення Беларусі». Чаму ў гэтым выпадку ўлада так спазнілася з арыштам? Відавочна, ёй патрэбны быў час для ўмацавання.

Да часу рэжым гуляў у беларусізацыю, рабіў выгляд, што даруе грахі беларускім палітыкам, выманьваў з-за мяжы. Але пройдзе яшчэ дзесяць год, і літасці не будзе нікому. У тым ліку і пачынальнікам рэпрэсій.

Так званы «БНЦ» — «Беларускі нацыянальны цэнтр» — энкавэдысты прыдумаюць у 1934 годзе. Гэта была расправа над дзеячамі, што нейкі час пасля Слуцкага паўстання рабілі беларускую палітыку ў Празе і іншых замежных цэнтрах. Іх таксама ўлады змаглі выманіць, каб знішчыць.

Апошніх случакоў, хто яшчэ захаваўся ў цывільным жыцці, ГУЛАГ падбіраў у 37, 38, 39-м. Найбольш жорсткая расправа напаткала Марка Асвяцімскага, старшыню Слуцкай арганізацыі БПС-Р і яе сакратара Андрэя Бараноўскага — расстрэл. Вядомага случака Сяргея Бусла і Янку Пешку (ён жа зялёнадубец Густалес) схапілі адразу, як толькі Чырвоная армія ў верасні 1939 года ўвайшла ў Вільню. Аперацыя выконвалася ў вельмі сціслыя тэрміны, пратаколы затрымання і іншыя дакументы афармілі толькі праз месяц, сабраўшы ўсіх сваіх ахвяр у Вілейскай вязніцы.





Кіраўнік карнай сістэмы ў Беларусі, сам Лаўрэнцій Цанава сачыў за аперацыяй захопу.

Усе случакі, якія вярнуліся на Беларусь добраахвотна ці прымусова, прайшлі праз ГУЛАГ. Удзелу ў Слуцкім паўстанні — гэтага «граха маладосці» — савецкая ўлада не даравала.

Такім чынам, крымінальныя справы случакоў — адна з найбольш грунтоўных і багатых на факты крыніц. Частка матэрыялаў ужо ўвайшла ў адмысловы зборнік дакументаў з каментарамі даследчыкаў, вельмі неабходных для гэтых даволі спецыфічных матэрыялаў.

## 2. Перад выбарам. Чаму менавіта ў Слуцку?

Слуцк — адметны ў Беларусі горад з трывалымі культурнымі і гаспадарчымі традыцыямі. У горадзе і мястэчках высокі адсотак насельніцтва складалі яўрэі — гандляры і прадпрымальнікі. Рухавіком сацыяльных працэсаў, натхняльнікам жыццёвага выбару выступала даволі шматлікая праваслаўная шляхта. Случчына — край заможных і сярэдняга дастатку сялян, жытніца Міншчыны — за гады няспыннай вайны карміла шмат армій: расійскую, нямецкую, польскую, зноў расійскую і г. д. Першую сусветную вайну слуцкія гаспадары вытрымалі, пахіснуліся толькі ў першыя гады бальшавіцкага ўладарання. Страты ад першых камуністычных эксперыментаў і палітыкі ўсеагульнага рабаўніцтва былі непараўнальныя з ваеннымі.

Тагачаснае становішча павета было вельмі складаным. Магутныя суседкі Беларусі — Расія і Польшча — шляхам вайны імкнуліся задаволіць свае інтарэсы. Пасля разгрому савецкіх войскаў пад Варшавай у жніўні 1920 года Чырвоная армія пачала адступаць на ўсход, саступаючы польскім войскам тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. У Рызе ішлі мірныя перамовы паміж урадавымі дэлегацыямі Савецкай Расіі і Савецкай Украіны з аднаго боку і Польшчы — з другога. Калі спачатку кіраўнік савецкай дэлегацыі Адольф Іофэ і нагадваў пра неабходнасць паразумення на прынцыпах рэалізацыі права на самавызначэнне народаў, Беларусі ў тым ліку, то падчас працы камісіі па вызначэнні межаў ён цынічна заявіў, што для польскага боку лепш, каб беларускіх дэлегатаў на перамовах не было. І паколькі

тэрыторыя Беларусі з'яўляецца спрэчнай, «дамова павінна быць заключана за кошт Беларусі, а не Польшчы», — заявіў савецкі прадстаўнік.

Такім чынам, Саветы вырашылі адмовіцца ад прынцыпу самавызначэння і пагадзіліся на падзел Беларусі. Нават прадстаўніка БССР А. Чарвякова ў Рыгу не дапусцілі, нягледзячы на вялікую хвалю народнага абурэння, што пракацілася па беларускай зямлі. Савецкая Расія была гатова, калі спатрэбіцца, перадаць усю тэрыторыю Беларусі Польшчы. Але польскі бок быў не ў стане прыняць такую «ахвяру», каб не стварыць сабе «беларускай праблемы».[1]

12 кастрычніка 1920 года быў падпісаны дагавор аб замірэнні і прэлімінарных умовах міру. Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна адыходзілі да Польшчы. Тым не менш начальнік Польскай дзяржавы і галоўнакамандуючы Ю. Пілсудскі аддаў загад сваім войскам прасоўвацца далей і пасля замірэння. 15 кастрычніка быў заняты Мінск, але паводле ўмоў пагаднення 17 кастрычніка польскія войскі пакінулі горад. Баі з чырвонымі з пераменным поспехам вяліся да 18 кастрычніка. Чырвоныя былі адкінутыя за 25 вёрст на ўсход ад Слуцка.[2]

Час знаходжання на гэтым абшары польскіх аддзелаў імкнуліся выкарыстаць беларускія незалежніцкія партыі і арганізацыі. Галоўнай іх мэтай было ўтварэнне палітычнага прадстаўніцтва беларускага народа. Сведка і актыўны ўдзельнік палітычнай чыннасці Уладзімір Пракулевіч пакінуў, ужо ў якасці вязня, даволі падрабязнае апавяданне аб падзеях.

> *«В городе жизнь замерла, глубокая тишина царила на улицах, — успамінаў ён тыя кастрычніцкія дні, — общественные и государственные организации не функционируют, прекратилась и торговая деятельность. Город обезлюдел».*

Але, як сведчыў Пракулевіч, разгубленасць хутка прайшла. Аднавілася дзейнасць Нацыянальнага камітэта, які ў перамовах з прадстаўніком польскай улады ў Слуцку, камандзірам 11-й дывізіі палкоўнікам Ясінскім высветліў, што лёс павета канчаткова не вырашаны, ад случакоў чакаюць «просьбы» аб далучэнні да Польшчы.

Палякі распаўсюджвалі падрыхтаваныя «ўхвалы» з наступным тэкстам: «Мы, жыхары (назва вёскі і воласці), прызнаём за





нашу родную маці Польшчу і просім Польшчу прыняць нас ва ўлонне сваё». Нахабнае распаўсюджванне паланафільскіх улётак выклікала актыўны пратэст і супрацьдзеянні Нацыянальнага камітэта Случчыны, «ухвалы» стараліся перахапіць. Польскіх агентаў затрымлівала беларуская міліцыя. У адказ міліцыянераў арыштоўвала польская ўлада. На хадайніцтва камітэта аб іх вызваленні жандары адказвалі: «Кульку ім у лэб». Тым не менш, адчуваючы падтрымку большасці насельніцтва, якое зусім не жадала апынуцца пад польскім дахам, Нацыянальны камітэт настойліва даказваў незаконнасць гэтай агітацыі. Урэшце міліцыянераў адпусцілі.

Патрыятычная пастава мясцовага сялянства, няпэўнае становішча паміж двума варожымі бакамі, якія былі вельмі заняты вырашэннем асабістых праблем, падштурхоўвалі да пошукаў самастойнага палітычнага шляху.

Безумоўна, прыхільнікі незалежнасці Беларусі ў першую чаргу ўлічвалі нявызначанасць палітычнай сітуацыі ў Еўропе. Беларускае пытанне толькі пачало абмяркоўвацца ў пэўных колах Антанты, і ўзброеная барацьба за незалежнасць павінна была паўплываць на яго рашэнне, тым больш і першы пункт Рыжскай дамовы фармальна сведчыў аб прызнанні расійскім і польскім бокам суверэнітэту Беларусі. Беларуская грамадскасць спадзявалася, што яе незадаволенасць гвалтоўным падзелам Беларусі на дзве часткі будзе пачутая ў Еўропе і выклікае паразуменне.


**Станіслаў Булак-Балаховіч летам 1920 г.**

Быў пэўны разлік на слабасць саветаў. Армія Урангеля яшчэ вяла баі, рыхтавалі сілы Булак-Балаховіч, Пятлюра, Пермыкін. Гэта ваеннае супрацьстаянне, на думку пэўных палітычных колаў, можна было ўжыць на сваю карысць. Узмацненне рэпрэсіўнай палітыкі савецкай улады, што выявілася ў павелічэнні харчразвёрсткі і ўбольш жорсткіх мерах, чым раней, у расстрэ-

лах на скорую руку з любой, нават дробнай нагоды. Пагражальная інфармацыя пра забойствы мірных жыхароў, спісы ахвяр, што аператыўна вывешваліся ў людных месцах горада і павета, павялічвалі крытычную масу выбуху.

Да канфліктаў з новай уладай прыводзілі нахабныя паводзіны і рабаўніцтва чырвоных вайсковых аддзелаў, якія размяшчаліся па павету «па прынцыпу акупацыйных гарнізонаў». Гэта ўдалае вынаходніцтва М. Тухачэўскага, на той момант галоўнакамандуючага Заходнім фронтам, падштурхнула сялян да высновы, што паратунку ад хаосу, зневажання, рабунку трэба шукаць у самастойнай незалежнай дзяржаве з уласным войскам і ўрадам.

Агульнае становішча на Беларусі вызначаецца ў той момант, па словах аднаго з удзельнікаў беларускага незалежніцкага руху, «пашырэннем нацыянальнай свядомасці сярод сялянскіх мас», іх глыбокай зацікаўленасцю ў будаванні Беларускай дзяржаўнасці і тымі сацыяльнымі здабыткамі, што магла ім даць незалежнасць.[3]

Дэлегаты з месцаў, што сабраліся на з'езд напярэдадні паўстання, разважалі, маўляў, не трэба вялікіх палітыкаў Вітэ і Сталыпіных. Беларусь — краіна невялікая і людзі самі ў стане ўправіцца. А калі трэба плаціць падаткі, то лепш свайму ураду і свайму войску...[4] «Сяляне ўсе, як адзін, выказаліся, што час настаў падняць сцяг змагання за незалежнасць Бацькаўшчыны», — пісаў у сваіх «Успамінах Слуцкага паўстанца» ўдзельнік з'езду Сяргей Бусел.[5] «Нацыяналістычныя настроі насельніцтва былі дастаткова моцныя, можна было разлічваць на поспех», — сведчыў на допыце Уладзімір Пракулевіч.

Сярод іншых прычын ён зазначыў: незадаволенасць сялянства харчразвёрсткай і шматлікімі рэквізіцыямі, нежаданне служыць у Чырвонай арміі.[6] Лозунгі, з якімі яна крочыла на Захад, — «Да здравствует мировая революция! Да здравствует Советская власть во всем мире! Да здравствует советская Польша!» — не натхнялі мясцовае насельніцтва.[7] Дэзерцірства з Чырвонай арміі мела каласальныя памеры. Гэта была адна з вельмі распаўсюджаных формаў супраціўлення новай уладзе. У. Пракулевіч пісаў, успамінаючы восень 1920 года:

*«Грамадны натоўп дзезерціраў Чырвонай арміі, часткова ўзброеных, цэлымі аддзеламі прыходзілі ў свае родныя месцы... актыўна выяўлялі антысавецкія настроі».*[8]





Высвятляе пытанне прычын слуцкіх падзей яшчэ адно красамоўнае сведчанне, якое ў архіве КДБ пакінуў вязень Салавецкага лагера, а да гэтага — удзельнік Слуцкага паўстання, курсант Лодзінскай вайсковай школы (так званай балахоўскай) Аляксандр Бараноўскі:

*«Весткі аб расстрэлах практычна ўсіх, хто дасягнуў мабілізацыйнага ўзросту і не служыў у Чырвонай арміі, аб закрыцці ўчэбных устаноў, зверствах над насельніцтвам, рабаваннях і гвалце прынялі каласальныя памеры... насельніцтва не верыла ў магчымасць аднаўлення польскай улады, да і не жадала яе, а савецкая ўлада... была страшная».*[9]

Пра панічныя настроі, што ахапілі сялян перад прыходам чырвоных, згадваў і Пётра Еўстрад, адзін з ваяроў-га Грозаўскага палка, калі пасля арышту ў 1921 годзе давялося тлумачыць чэкістам прычыны яго і яго сяброў выбару.[10]

Добра памятала жахі мабілізацыі ў Чырвоную армію жыхарка вёскі Варкавічы, 97-гадовая Аўгіння Грыцкевіч (Мошка). Яна з хваляваннем, гаворачы пра мінуўшчыну, узгадала выпадкі забойства маладых людзей падчас гвалтоўнага запісу ў чырвонае войска. «Накінуўшы пятлю на шыю, хлапчука цягнулі праз ганак і маглі задушыць», — успаміналі тагачасную бяду равесніца стагоддзя (успаміны запісаны ў 1997 г.).[11] Маці юнакоў прызыўнога ўзросту прасілі сваіх дзяцей ісці ў сваё Беларускае войска і хавацца ад чырвонай мабілізацыі.

Як бачым, не ў апошнюю чаргу страх, інстынкт самазахавання вымушалі пакідаць роднае гняздоўе, браць у рукі зброю. Высакародныя матывы носьбітаў ідэй незалежнасці і дзяржаўнасці, даволі канкрэтныя планы тагачасных палітыкаў, зямныя інтарэсы беларускіх сялян — усе гэта і шмат чаго іншага, не менш важнага — прадэманстраваў Слуцкі збройны чын.

Гэта падзея — своеасаблівая кульмінацыя сялянскай антысавецкай вайны ў Беларусі. На шляху нацыянальнага вызваленчага руху яна была найбольш масавай, палітычна прадстаўнічай, найлепш арганізаванай у ланцугу ўзброеных і іншых акцый. Адчуванне сябе часткай маштабнага працэсу змагання за самастойнасць Беларусі падштурхоўвала паўстанцаў да рашучых крокаў.

На другі дзень з'езда Случчыны перад дэлегатамі выступіў арганізатар слуцкай народнай міліцыі і паўстанцкіх аддзелаў паручнік Ян Мацэлі. Заклікаючы да ўзброенага супраціву, ён

давёў да ведама прысутных аб шматлікіх паўстаннях супраць саветаў на Міншчыне. Як сведчаць архіўныя крыніцы, Мацэлі гаварыў праўду.

Так, 28 кастрычніка 1920 года (звярніце ўвагу на дату!) А. Чарвякову, які ў той час узначальваў рэўкам Савецкай Беларусі, паступіла інфармацыя барысаўскага камісара аб становішчы ў павеце:

*«Зялёная армія ў Барысаўскім павеце разраслася да неймаверных памераў. Няма ні воднай валасці, дзе не было б банд. Вельмі шмат іх у валасцях, дзе есць для іх прыродныя схованкі... Па чутках, ва ўсім павеце некалькі тысяч бандытаў. У гэты час банды пачалі дзейнічаць адкрыта. Яны напалі на Гайна — Слабаду і мястэчка Плешчаніцы, апошняе пэўны час знаходзілася ў руках бандытаў».*[12]

Як засведчыла тая ж крыніца, Барысаўскі павет ахапіла дэзерцірства. Шэрагі чырвоных пакінуў увесь кавалерыйскі аддзел Барысаўскага ваенкамата, прыхапіўшы коней і зброю. З нававоранай у Барысаве савецкай міліцыі сышло 50% яе складу. Разбегліся ахоўнікі мясцовай турмы.

*«Банды перашкаджаюць ажыццяўленню ўсей палітычнай работы, харчовай і аграрнай палітыцы савецкай улады».*

Захоп населеных пунктаў і арганізацыя часовай улады — з'ява ў той час вельмі распаўсюджаная.

Палітычна актыўнае насельніцтва Беларусі хвалявалася з прычыны несправядлівых перамоў у Рызе.

На беспартыйнай канферэнцыі ў Халопенічах, як даносіў Чарвякову павятовы камісар, была прынята «рэзалюцыя, в которую ўнесены словы контррэвалюцыйнага пажадання: мірным шляхам вызваліць Беларусь ад польскіх і савецкіх войскаў і даць ей магчымасць самавызначэння без чыей бы то ні было дыктатуры». Літаральна, як у случакоў: «ні з Польшчай, ні з Масквой».[13] Вельмі падобную карціну падае і даклад ад 15 лістапада 1920 года ў Ваенрэўкам БССР аб стане ў Мінскім павеце.

*«...Насельніцтва некаторых валасцей, даведаўшыся аб самавызначэнні Беларусі, не жадае прызнаваць ніякай улады, апроч неіснуючага (для камісара ўрад, вядома, не існаваў) урада «незалежнай Беларусі» і адносіцца вельмі варожа да арганізуемых валасных рэўкамаў, заяўляя, што ўладу трэба выбіраць, а не прызначаць з Масквы».*[14]





У лістападзе пад бел-чырвона-белымі сцягамі паўсталі Пагарэльская і Якшыцкая воласці пад кіраўніцтвам ксяндза Варановіча. Такім чынам, у восень 1920 года незалежніцкі настрой панаваў сярод значнай часткі насельніцтва Беларусі.

## Крыніцы, заўвагі


1. *Грыцкевіч А. Слуцкае паўстанне 1920 г. — збройны чын у барацьбе за незалежнасць Беларусі // Спадчына, 1933. № 2. С. 3.*
2. *Гамулка К. Паміж Польшчай і Расіяй. Беларусь у канцэпцыях польскіх палітычных фарміраванняў. 1918—1922. Вільня. 2008. С. 122.*
3. *Даклад Рыгора Злоцкага Канстанціну Езавітаву «Паўстанчэскі рух на Беларусі» // Слуцкі збройны чын. 1920 г. У дакументах і ўспамінах. С. 150.*
4. *Архіў КДБ РБ. Крымінальная справа «СВБ». Паказанні Ул. Пракулевіча.*
5. *БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 56, арк. 157.*
6. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа «СВБ». Паказанні Ул. Пракулевіча.*
7. *ДАМВ, ф. 2, воп. 1, спр. 9, арк. 4.*
8. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа «СВБ». Паказанні Ул. Пракулевіча.*
9. *Тамсама, крымінальная справа Ф. Арцыховіча і інш.*
10. *ДАМВ, ф. 2024, воп. 1, спр. 8, арк. 64.*
11. *Асабісты архіў аўтара. Успаміны запісаны ў вёсцы Варкавічы Слуцкага раёна ў сакавіку 1997 г.*
12. *Слуцкі збройны чын 1920 г. С. 65. НАРБ. Ф. 8, воп. 1, спр. 1, арк. 42.*
13. *Тамсама, арк. 14.*
14. *НАРБ, ф. 8, воп. 1, спр. 1, арк. 81а.*


## 3. Слуцкая «Папараць-кветка»

Случчына мела каласальны нацыянальна-культурніцкі рэсурс. Менавіта ў Слуцку заквітнела цудоўная «Папараць-кветка», грамадска-палітычная маладзёжная арганізацыя. Гэта вельмі характэрная рыса таго часу — утварэнне культурна-асветніцкіх, прыродазнаўчых, грамадска-палітычных гурткоў. Яны з'яўляліся на высокай хвалі абуджанай нацыянальнай свядомасці. Моладзь адчула сваю нацыянальную прыналежнасць і распачала сапраўдную барацьбу за беларускасць.

«Беларускі гурток «Папараць-кветка» з'яўляецца падпораю ўсіх беларускіх арганізацый у Слуцку», — адзначалі вядучую ролю арганізацыі ў нацыянальнай справе тагачасныя сродкі масавай

інфармацыі.[1] Слуцкая «Папараць-кветка» будзіла патрыятызм у маладых сэрцах.

Ініцыятарам яе ўтварэння быў Сяргей Бусел, здольны да навукі, жвавы хлопец, любімы вучань дырэктара слуцкай гімназіі Радаслава Астроўскага. Разам са старэйшым сябрам Фабіянам Шантырам і Янкам Ракуцька, вучнем слуцкай тэхнічнай школы, ён браўся аб'яднаць моладзь Случчыны для агульнай культурнай і нацыянальнай працы. Імпрэзы, што яны наладзілі, адразу сталі вельмі папулярнымі. На вечарынках гучала беларускае слова, беларускія песні. Сур'ёзна абмяркоўваліся літаратурныя творы. Ставілі спектаклі самі і з дапамогаю артыстаў з Мінска.



***Сяргей Бусел, сябра Рады Случчыны***

Неаднаразова па запрашэнні «Папараць-кветкі» прыязджала ў Слуцк капэла Уладзіміра Тэраўскага, у складзе якой былі, як высветліцца з часам, будучыя паўстанцы і баевікі «Зялёнага Дуба».

18 лістапада 1919 г. Беларуская Школьная рада Меншчыны зацвердзіла Статут Слуцкага Беларускага культурна-асветніцкага («прасьветнага», як пісалі і гаварылі на той час) гуртка «Папараць-кветка». Адраджэнне культуры Бацькаўшчыны і выхаванне свядомых грамадзян і патрыётаў прэзентаваліся арганізатарамі як галоўные задачы (заданні) аб'яднання. Дакумент вызначаў працэдуру ўступлення ў гурток, прапісваў правы і абавязкі чальцоў. З сямі сяброў на агульным сходзе выбіралася праўленне тэрмінам на паўгода. «Папараць-кветка», згодна са Статутам, магла ініцыяваць стварэнне гурткоў па ўсяму Слуцкаму павету, закладаць курсы беларусазнаўства «дзеля ізучэньня эканамічнага, гістарычнага і культурнага жыцьця Беларусі».[2] Структура наватворанай арганізацыі адпавядала яе мэтам і задачам.

З лекцыямі аб адметнасці і самабытнасці беларускай гісторыі перад моладдзю выступалі вядомыя палітычныя і грамадскія дзеячы. Пачэснымі сябрамі «Папараць-кветкі» былі абраны





вядомыя случакі, актыўныя эсэры Уладзімір Пракулевіч, Павел Жаўрыд, Марк Асвяцімскі, Андрэй Бараноўскі. Дарэчы, апошні ў 1919 годзе ўзначаліў «Папараць-кветку» і кіраваў ёю да вясны 1922 года, пакуль яна не была зліквідавана Слуцкім аддзелам народнай адукацыі.

Моладзь не цуралася палітыкі. На ўсіх пасяджэннях Слуцкага Нацыянальнага камітэта прысутнічалі сябры праўлення «Папараць-кветкі», часцей за ўсё Бараноўскі і Бусел.[3] Такая шырокая дзейнасць слуцкай моладзі не засталася па-за ўвагай грамадскасці.

Варта прывесці водгук на выхад часопіса арганізацыі, які надрукавала газета «Беларусь» 15 лістапада 1919 года пад красамоўным загалоўкам «Моладзь ідзе!».

*«Перада мной ляжыць беларускі часопіс «Наша каляіна», — пачаў аўтар, пазначыўшы сваё імя літарамі К-а (вялікая верагоднасць — Купала), — выдана яна ў Слуцку. Слуцк — павятовы гарадок — куды яму, здавалася бы лезьці ў людзі; да яшчэ з сваёй газэтай! Аднак палез. Беларуская душа, як бачым, жывучая, творчая, як яе не заганяй ў казіны рог, а яна збудзіцца і затрапечацца. Мала таго: гэты часопіс з'яўляецца органам беларускай нацыянальнай злучнасці «Кветка Папараці», каторая сваю чыннасць пашырыла на ўвесь Слуцкі павет і нават далей за яго межы. Гэта папраўдзе, як і ў песьні спяваецца «А ў Слуцку на рыначку сталася праява!» Так, сябры, гэта вялікая праява! Адбудаваньне незалежнасці Беларускай дзяржавы бярэ ў свае рукі наша моладзь. Чэсць і слава табе, моладзь, паўстаючая з-пад беларускай саломеннай страхі! На бок з дарогі, панове і гаспада з Захаду і Усходу. Беларуская моладзь ідзе!»*



***Алесь Каўпак***

Дарэчы, збіраючы матэрыял для свайго часопіса, С. Бусел і яго сябры Янка Урбановіч і Янка Ракуцька дабраліся ў Мінск, наведалі Максіма Гарэцкага і Янку Купалу. Першы даў ім апавяданне, другі — два сваіх вершы. Вакол «Папараці» гуртавалася цудоўная моладзь.

Амаль усе з вёскі, сялянскія дзеці. Нядрэнна адукаваныя навучэнцы гімназіі, камерцыйнай і тэхнічнай вучэльняў Слуцка, семінарысты з Мінска і Нясвіжа аддалі перавагу дэмакратычнай незалежнай Беларусі.

З 1917 года крок за крокам паспяхова набывала вядомасць «Зарніца» — культурна-асветніцкі гурток з вёскі Старыца. Напярэдадні новага, 1918 года «Вольная Беларусь» надрукавала Статут арганізацыі і спіс 12 сяброў, сярод іх – будучыя актыўныя ўдзельнікі Слуцкага паўстання: Пётра Зянюк, настаўніцы Марыя і Людміла Стагановіч, Аляксандр і Іван Каўпакі[4], Сцяпан Верабей, Аляксандр Русаковіч, Язэп і Дзяніс Клюйко, Адам Чачко, якія ўзначаляць антысавецкія аддзелы ў 1921—1922 гадах.[5] Яшчэ ў лістападзе 1917 года яны выступілі з праграмай, якая прадугледжвала змаганне за аўтаномію Беларусі, беларускую мову ў школах і Беларускае войска.[6]

Галоўнаю турботаю «Зарніцы» было набыццё беларускіх кніжак. Сябры звярталіся нават у агітацыйна-выдавецкі аддзел Беларускага Нацыянальнага камітэта ў Петраградзе з просьбаю выслаць «накладною платаю» кніжкі Е. Канчара, Д. Сабалеўскага, матэрыялы Першага Беларускага кангрэса, штотыднёвік «Чырвоны шлях» і «Беларускую крыніцу».[7]

Літаратурныя, краязнаўчыя гурткі былі вельмі папулярнай формай нацыянальнай працы. Яны існавалі амаль у кожнай вёсцы, дзе была школа. Так, у вёсцы Гулевічы аформіўся гурток «Селянін».[8] Свая «Зарніца» запрацавала ў вёсцы Слабада-Кучынка. Яе зарганізаваў Адам Бабарэка. Нават вершы з'явіліся ў гонар асветнікаў-адраджэнцаў.[9] Грамадства адчула іх запатрабаванасць і ўплывовасць. Святар саборнай царквы ў Слуцку Шамеціла з амбону прамаўляў:

> *«Як зоркі ў небе ў цёмную ноч свецяць і паказваюць дарогу зблудзіўшаму чалавеку, так для вас гэтае зоркі ёсць беларускія культурна-прасветныя арганізацыі. Прыглядайцеся да іх і яны вам пакажуць шлях к лепшаму жыццю».*[10]

Паўсюдна на вёсках узнікалі гурткі рупліўцаў беларускай справы з цікавымі аптымістычнымі назвамі: «Вясковая зорка», «Полымя», «Бацькаўшчына».[11]

Вялікую ролю ў выхаванні пачуццяў нацыянальнай свядомасці і патрыятызму адыгралі павятовыя настаўніцкія курсы, якія падчас польскай акупацыі арганізаваў Слуцкі Нацыянальны камітэт.





Да таго моманту, як у Слуцк з'ехалася каля 200 настаўнікаў пачатковых школ, была зроблена велізарная падрыхтоўчая работа: падлічана колькасць ужо існаваўшых беларускіх школ у павеце, атрыманы дазвол польскай улады аб адкрыцці беларускіх школ.

Сярод настаўнікаў беларуская ўлада правяла шырокую тлумачальную працу аб неабходнасці і своечасовасці адукацыі на роднай мове. Сродкі на арганізацыю курсаў атрымалі ад Беларускага Нацыянальнага камітэта з Мінска. Пры дапамозе польскага школьнага інспектара настаўнікаў выклікалі ў Слуцк у Школьную Раду. Курсантам давялі, што будуць выкладацца беларуская мова, гісторыя беларускай літаратуры, гісторыя Беларусі, геаграфія, спевы, кааперацыя і іншыя прадметы.[12] Андрэю Бараноўскаму даручылі забеспячэнне курсаў памяшканнем, курсантаў — жыллём і харчаваннем. ЦК БПС-Р прыслаў лектараў. Беларускую мову і літаратуру чытаў Янка Станкевіч, гісторыю Беларусі — Уселавад Ігнатоўскі, геаграфію — Мікалай Азбукін. Некалькі лекцый па мовазнаўстве прачытаў Браніслаў Тарашкевіч.[13]

Для прапаганды сваёй партыйнай праграмы на курсах мэтанакіравана працавалі і агітавалі эсэры. У выніку былі створаны новыя арганізацыі ў вёсках Старыца, Гулевічы, Ячава... На гэтых самых курсах з мэтай аб'яднання настаўнікаў было ўтворана «Настаўніцкае кааператыўнае таварыства беларускай кнігі». Быў распрацаваны і зарэгістраваны статут таварыства, сабраны сціплыя сродкі. Сябры таварыства, паводле статута, павінны былі папулярызаваць і распаўсюджваць беларускую кнігу, выхоўваць любоў да роднага слова.

Такім чынам рыхтавалася духоўная глеба нацыянальнага ўздыму. Гэта была вялікая планамерная праца палітыкаў і грамадскіх дзеячаў таго часу.

## Крыніцы, заўвагі

1. *Допісы. // Беларускае жыцьцё. 1920. 28 студзеня. С. 7.*
2. *Слуцкі збройны чын 1920 г. С. 26; Архіў КДБ РБ, крымінальная справа А. Бараноўскага.*
3. *Тамсама.*
4. *Вольная Беларусь. 1917. 31 снежня.*
5. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа П. Бабарэкі.*
6. *Вольная Беларусь. 1917. 8 снежня.*
7. *Дзяржаўны архіў Ленінградскай вобласці, ф. 75, воп. 1, спр. 44, арк. 6.*

8. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа С. Бусла. БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 56, арк. 157.*
9. *Юрка Прышчэпа. Ахвярую гурткам «Зарніца» у вёсках Слабада-Кучынка і Старыца || Вольная Беларусь. 1918. 9 чэрвеня.*
10. *Беларускае жыццё. 1920. 28 студзеня.*
11. *Тамсама.*
12. *Беларусь. 1920. 7 красавіка.*
13. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа А. Бараноўскага.*

## 4. Слуцкі збройны чын: кіраўнікі, арганізатары

Асветніцка-выхаваўчая праца — гэта толькі адзін бок шматграннай дзейнасці Нацыянальнага камітэта Случчыны, які быў утвораны яшчэ ў 1918 годзе. Праўда, з вясны наступнага года нейкі час на Случчыне панаваў рэўкам, але нядоўга. Падчас другой польскай акупацыі дзейнасць Нацыянальнага камітэта была адноўлена. Мясцовы орган самакіравання паўстаў зноў намаганнямі яго чатырох чальцоў — П. Жаўрыда (старшыня), Ул. Пракулевіча, У. Дубіны (сакратар), пазней шляхам кааптацыі ўвялі Н. Смольскага, былога слуцкага казначэя.

Нацыянальны камітэт сачыў амаль за ўсімі бакамі грамадскага жыцця. Яго намаганнямі былі створаны розныя кааператыўныя саюзы, сябрамі якіх з'яўляліся жыхары Слуцка і навакольных вёсак. Кіраўнікі Нацкама, як правіла, уваходзілі ў кіраўніцтва гэтых саюзаў. Людзі прыходзілі да высновы, што яны самі някепска гаспадараць у сваім доме.

Прытрымліваючыся дэмакратычных прынцыпаў, шмат пытанняў камітэт выносіў на разгляд сходаў. Пошукі сродкаў на развіццё адукацыі і культуры, арганізацыя войска, утварэнне нацыянальных камітэтаў, органаў улады на месцах, — гэтыя і іншыя праблемы вырашаліся, як правіла, грамадою. Па прапанове камітэта збіраліся ахвяраванні для беспрацоўных, праводзіліся платныя спектаклі, аўкцыёны. Атрыманыя сродкі ішлі на закупку харчавання для тых, хто меў патрэбу ў дапамозе.

Шмат намаганняў прыкладаў Нацкам, каб бараніць насельніцтва ад рэпрэсіўнай палітыкі польскіх уладаў. Некалькі разоў акупанты спрабавалі разагнаць настаўніцкія курсы, учынялі





вобыскі, пагражалі арыштамі, але, як правіла, дыпламатычным шляхам перамоў канфлікты ўладжваліся.[1]

Такім чынам, Нацыянальны камітэт быў цэнтрам палітычнага і сацыяльнага жыцця, органам нацыянальнага дзяржаўнага кіравання. Відавочна, што развіццё нацыянальнага руху дасягнула той кропкі, калі з яго вылучаліся лідары, арганізатары. Ва ўмовах амаль няспыннай вайны, акупацыі (польскай, нямецкай, бальшавіцкай) гэтыя людзі рупіліся аб пабудове ўласнага дома, уладкаванасці сваёй малой радзімы. Яны шукалі выйсця.

Бальшыню прыхільнікаў узброенага змагання за незалежнасць аб'яднаў Слуцкі камітэт Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Наяўнасць гэтага палітычнага цэнтра забяспечыла арганізацыю паўстання, выпрацоўку стратэгічных мэтаў і тактычных крокаў. Менавіта БПС-Р арганізацыйна аформіла стыхійны сялянскі пратэст. Слуцкая арганізацыя мела моцны ўплыў і распаўсюджаную сетку сваіх структур і груп падтрымкі на месцах.



**Улас Дубіна**

Эсэры своечасова скарысталі шырокую хвалю незадаволенасці перамовамі ў Рызе. Яны прынялі зварот да насельніцтва Беларусі, у якім растлумачылі трагічны сэнс бессаромных дамоўленасцей: «Гэты мір штурхае беларускі народ на шлях упартай барацьбы, на шлях вайны за незалежнасць і недзялімасць сваёй Радзімы. Польшча і Расія, не маючы паміж сабою агульных межаў, вялі на працягу апошняга года разбуральную вайну на беларускай тэрыторыі; без удзелу прадстаўнікоў беларускага народа 12 кастрычніка падпісалі дамову аб прэлімінарным міры, на падставе якога Беларусь падзелена на дзве часткі».[2]

Улёткі эсэраў паведамлялі:

*«У абдымках польскага імперыялізму і шавінізму пакінута трэццяя частка беларускай тэрыторыі з насельніцтвам у 4 млн. жыхароў, сярод якіх палякаў ад 2 да 8%. Польшча на гэтыя*

*прадвечна беларускія землі не мае ні этнаграфічных, ні гістарычных правоў.*

*Савецкая Расія задаволілася 180 000 км² беларускай тэрыторыі з насельніцтвам у 8 млн. жыхароў. Незалежнасць Савецкай Беларусі — гэта фікцыя, якая прыкрывае сабою акупацыю беларускага народа расійскім цэнтралізмам. Мір гэты патаптаў святыя правы народаў на самавызначэнне. Гэты мір разрывае жывое цела беларускага народа і не дае яму так горача жаданых умоваў спакойнага стваральнага жыцця».*[3]

Слуцкія эсэры далучыліся да патрабаванняў беларускіх сацыялістаў, сацыял-дэмакратаў і сацыял-федэралістаў і іншых палітычных партый і плыняў перагледзець умовы прэлімінарнага міру і «ўстанавіць расійска-беларускія і беларуска-польскія межы на падставе этнаграфічных прызнакаў», ачысціць этнаграфічную тэрыторыю Беларусі ад польскіх і расійскіх акупацыйных войскаў.



**Павел Жаўрыд у гады Першай сусветнай вайны**

Моцную падтрымку случакі выказалі патрабаванням неўмяшальніцтва як Польшчы, так і Расіі ва ўнутраныя беларускія справы. Гэтыя стратэгічныя мэты сталі вядомы ў шырокіх колах грамадства. Яны сталі праграмай дзеянняў восені 1920 года.

«*Dei minoris* — малодшыя багі», — так, жартуючы, назвалі сябе кіраўнікі Нацыянальнага камітэта і арганізатары Слуцкага паўстання Павел Жаўрыд і Уладзімір Пракулевіч, саступаючы самую вышыню беларускага палітычнага Алімпа бацькам Адраджэння, нацыянальным стратэгам Вацлаву Ластоўскаму і братам Луцкевічам. Не хварэючы на амбіцыёзнасць, але адчуваючы сваю значнасць, самакаштоўнасць, яны залічылі сябе ў другі эшалон





тагачасных палітыкаў. Як быццам падкрэслілі, што яны — не тэарэтыкі, а выканаўцы.

Адна з галоўных постацей у гісторыі Слуцкага паўстання — Павел Якаўлевіч Жаўрыд. Ідэі, пошукі, справы гэтага чалавека знаёмыя, на жаль, толькі вузкаму колу гісторыкаў і нешматлікім аматарам нацыянальнай гісторыі. Па ўсіх канонах савецкай гістарыяграфіі і юрыспрудэнцыі ён — «дзяржаўны злачынец». Але пры ўсіх намаганнях зрабіць звычайнага крымінальніка з адукаванага юрыста, шляхетнага афіцэра, вядомага ў свой час палітыка, выхаваццеля і асветніка моладзі было даволі складана. Таму, каб не ўзнікала пытанняў, каб яго хутчэй забылі, імя Жаўрыда ўпарта замоўчвалася. Яго жыццё засталося ў невядомай нам доўгія гады сапраўднай гісторыі, у «паралельнай», якая была створана за савецкім часам, дзе яму (і шмат яшчэ каму) не было месца.

Жыццёвы шлях яго быў вельмі складаны. Наканавана было Паўлу Жаўрыду, як і ўсім тым, хто нарадзіўся напрыканцы мінулага стагоддзя ці на пачатку новага XX, гэта значыць — на мяжы, на пераломе — прайсці яго з вялікімі цяжкасцямі, у пошуках ісціны і барацьбе за ідэю. Нацыянальную.

Павел Жаўрыд нарадзіўся 1 чэрвеня 1889 года ў фальварку Цецераўка Слуцкага павета. Бацькі яго апрацоўвалі чужую зямлю, арэндаваную, бо сваёй зямлі не мелі. Жаўрыды паходзілі са збяднелай шляхты Целядавіцкай воласці. У 1905 годзе яго бацька, Якаў Жаўрыд, скарыстаўшы пазыку сялянскага банка, здзейсніў сваю даўнюю мару — набыў хутар Магільскі ў Старобінскай воласці, які да продажу належаў памешчыку Рэгелю. Сям'я такім чынам набыла 45 дзесяцін малапрыдатнай для земляробства зямлі. Вымушаныя плаціць немалыя грошы банку і не маючы па першым часе прыбытку ад зямлі, Жаўрыды натуральна галадалі. Дапамагчы сыну, які ў той час вучыўся, бацька не мог.

Адукацыю Павел пачаў набываць у народнай вучэльні Грэска. Працягваў вучыцца ў Слуцкай гімназіі. На хлеб зарабляў урокамі. Дапамагалі і сябры. У Слуцку Павел нейкі час карыстаўся гасціннасцю дома Асвяцімскіх. З Маркам Асвяцімскім, вядомым беларускім эсэрам, яшчэ доўгія гады будзе звязаны не толькі сяброўскімі адносінамі, але і агульнымі партыйнымі і грамадска-палітычнымі інтарэсамі.

Блізкае знаёмства адбылося і з Фабіянам Шантырам. Абодва захапіліся палітыкай. Не трэба забывацца, што юнацт-

ва гэтых людзей прыпадае на гады першай рускай рэвалюцыі. Гімназісты ўжо з 4-га класа збіралі нелегальныя сходы, распаўсюджвалі літаратуру і рабілі самі даклады на рэвалюцыйныя тэмы. Да рэвалюцыйнай справы шаснаццігадовы юнак ставіўся настолькі сур'ёзна, што гімназісты даюць яму мянушку «Арганізацыя». Але рэвалюцыйныя жарсці пакрысе сціхлі. Скончыўшы гімназію ў 1909 годзе, Павел паступае ў Варшаўскі універсітэт.[4]

На жаль, сведчанняў аб жыцці Паўла Жаўрыда захавалася няшмат. Большая частка фотаздымкаў, што знаходзяцца ў адным з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва музыкі, літаратуры і мастацтва, не ідэнтыфікавана. Сямейны альбом Жаўрыдаў прадстаўляе цудоўныя інтэлігентныя твары людзей выхаваных і адукаваных, сціплы, але добра ўладкаваны, цывілізаваны побыт дома, шляхетныя манеры і вытанчаны густ гаспадароў і іх гасцей.



*Павел Жаўрыд (з левага боку) з саслужыўцам у гады сусветнай вайны*





Напярэдадні Першай сусветнай вайны Жаўрыд — рэспектабельны, самавіты малады чалавек. Стомлены, стары не па гадах — на фотаздымку з крымінальнай справы 1930 года. Паміж імі адрэзак жыццёвага шляху даўжынёй усяго ў 14 год. Але за гэты час свет кардынальна змяніўся і ўмовы існавання людзей таксама. Праўда, Жаўрыд з тых людзей, хто спрабаваў супраціўляцца гэтым зменам, але яны набылі незваротны характар стыхійнага бедства.

Павел Жаўрыд — у пэўным сэнсе чалавек Першай сусветнай вайны. Гэтая падзея паклала пачатак агульнаму хаосу, узрушыла грамадства. Бессэнсоўныя перасоўванні агромністых людскіх натоўпаў Жаўрыд назіраў падчас службы ў так званай «паўночнай дапамозе» ўцекачам з тэрыторыі Заходняга фронту. Вялікую колькасць беларусаў тая вайна раскідала па свеце. На фронт ён не трапіў. Службу праходзіў спачатку ў Цвяры, потым вучыўся ў Віленскай вайсковай вучэльні, якая ў той час знаходзілася ў Палтаве. Там і даведаўся аб адрачэнні цара і ўсталяванні ўлады Часовага ўраду. Пасля заканчэння вучобы апынуўся яшчэ далей ад дома, у Туркестане. Неўтаймаваны арганізатар і асветнік, ён чытае жаўнерам лекцыі па расійскай гісторыі, стварае камісію па культурным выхаванні, абіраецца ў Казалінскі савет. Як дэпутат адчуваў пэўныя цяжкасці, бо не ведаў кыргызскай мовы.

У жніўні 1917 года полк, у якім служыў Жаўрыд, накіроўваецца на Румынскі фронт. Тут хутка ён быў абраны старшынёй палкавога камітэта. Беларусы Румынскага фронту дэлегіравалі яго на I Беларускі кангрэс, але ў тэрмін у Мінск ён не дабраўся з-за транспартных цяжкасцей і паспеў толькі на самы канец работы з'езда. На фронт больш не вярнуўся. Старая армія развалілася. Кастрычнік і нямецкую акупацыю пераседзеў на бацькоўскім хутары.

З прыходам у Слуцк савецкай улады пайшоў да яе на службу, атрымаўшы прапанову заняць месца юрыдычнага кансультанта зямельнага аддзела. Але адносіны з новаю ўладай не заладзіліся з самага пачатку.

Старшыня Цэнтральнага Бюро Камуністычнай партыі Карл Ландэр уключыў Жаўрыда ў склад рэвізійнай камісіі па праверцы дзейнасці Слуцкай ЧК. Пранiклівы рэвізор выкрыў шматлікія злоўжыванні. Чэкісты не прамінулі адпомсціць, арыштавалі быццам бы за сувязь з Дзянікіным. Да белага руху Жаўрыд не меў дачынення, тым не менш апынуўся ў Слуцкай турме, а з падыходам

польскай арміі — у Бабруйскай крэпасці і далей — у Смаленскай ЧК. Змог вярнуцца ў родны Слуцк у студзені 1919 года разам з польскімі закладнікамі, якіх польскі бок вымяняў на расійскіх зняволеных.

На радзіме яго ўжо чакалі. Завочна абралі старшынёй Нацыянальнага камітэта. Ведаючы яго незвычайную грамадскую



BIEŁARUSKI KAMITET
ŭ Waršawi

5-lutego 21

№ 155

344 37

UPOWAŻNIENIE.

Komitet Białoruski w Warszawie, na podstawie § 1 statutu naszego, zatwierdzonego przez Ministerstwo Spraw Wewnętrznych dn. 17 października 1919 r. Nr. P.Z.2961 /Nr.związkowy 115/, upoważnia obywatela Białorusi p. PAWŁA ŻAWRYDA do zorganizowania i otwarcia w mieście Słonimie ziemi Grodzieńskiej oddziału Białoruskiego Komitetu Warszawskiego.-

PREZES KOMITETU BIAŁORUSKIEGO

SEKRETARZ KOMITETU

*Пасведчанне сябра Беларускага камітэта Паўла Жаўрыда. 05.02.1921*





і палітычную актыўнасць яшчэ з часоў першай рускай рэвалюцыі, случакі зрабілі свядомы выбар.

Баронячы насельніцтва ад пераследу польскіх уладаў, дамагаючыся вызвалення арыштаваных, патрабуючы матэрыяльнай і вайсковай дапамогі, Жаўрыд быў сапраўдным дыпламатам. Не псуючы адносінаў ні з кіраўніком Слуцкай дэфензівы Сабескім, ні з камандзірам 11-й польскай дывізіі, што займала тэрыторыю павета, палкоўнікам Ясінскім, Жаўрыд і ўзначалены ім Нацыянальны камітэт захоўвалі самастойны палітычны курс.

Якраз за дзень да адкрыцця з'езда Случчыны, 13 лістапада, Жаўрыд вярнуўся з Варшавы, дзе спрабаваў вызначыць лёс павета, сустракаўся з сябрамі беларускага ўраду — Найвышэйшай Радай, ад якой атрымаў прадстаўнічыя паўнамоцтвы камісара. У Слуцку яго чакаў граф Чапскі. Ён прыехаў даведацца аб настроі ў павеце. У адказ на пытанне графа, з кім случакі, Жаўрыд моўчкі паказаў пячатку Рады з літарамі Б. Н. Р. — Беларуская Народная Рэспубліка. Не гаворачы ні слова, граф устаў і пакінуў пакой. Ні з Польшчай, ні з Масквою, а з беларускім народам — крэда гэтага чалавека і яго сяброў. У гарачы момант падрыхтоўкі арміі паўстання Жаўрыд змог згуртаваць вакол сябе людзей адметных.

Слуцкай гісторыі належыць і асоба Уладзіміра Пракулевіча. Малавядомая таксама, бо заслона жорсткіх стэрэатыпаў сталіншчыны і наступнае замоўчванне і гэтую постаць схавалі ў цемры няведання. Ён заўсёды быў побач з Жаўрыдам. Яны — аднадумцы, аднапартыйцы, калегі і сваякі. Жаўрыд пабраўся з сястрой Пракулевіча.

Кіраўнік і арганізатар паўстанцкага руху Уладзімір Міхайлавіч Пракулевіч нарадзіўся ў 1887 годзе ў мястэчку Красналукі Барысаўскага павета ў сям'і пісара і настаўніцы. Веды набываў спачатку ў Смаленскай гімназіі, потым, з 1908 па 1912 гады ў Маскоўскім універсітэце на юрыдычным факультэце. У Маскве далучыўся да сацыял-дэмакратычнага руху. Вярнуўшыся ў Барысаў, спачатку ўвайшоў у гарадскую арганізацыю Бунда, потым разам з аднадумцамі заснаваў Барысаўскую групу РСДРП. З арганізацыяй Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў стаў адным з актыўных яе сяброў.

Не выпадкова, што на Случчыне, куды трапіў пасля назначэння суддзёю ў мястэчка Вызна (цяпер — Чырвоная Слабада), адразу блізка сышоўся з эсэрам Жаўрыдам і яго паплечнікамі. Адной-

чы перакрыжаваўшыся, іх жыццёвыя шляхі сышліся. Пракулевіч, перакананы эсэр, не быў схільны высвятляць адносіны з савецкай уладай шляхам ваеннага канфлікту. На з'ездзе Случчыны ён выступіў з палымянай прамовай, заклікаючы абмежавацца ўтварэннем органаў мясцовай улады, дэманстрацыяй сіл міліцыі і не даводзіць справу да баявых сутычак. Але падпарадкаваўся рашэнню большасці дэлегатаў з'езда — рыхтаваць узброенае супраціўленне і не дапусціць Чырвоную армію ў павет.[5]

Ужо цытаваліся вытрымкі з «нарыса» Уладзіміра Пракулевіча па гісторыі Слуцкага паўстання. Чалавек ён быў змястоўны. Калі адкінуць у бок няшчырыя ацэнкі (у 1930 годзе ўжо трэба было думаць і дбаць аб захаванні жыцця), нарыс, безумоўна з'яўляецца каштоўнай крыніцай для даследавання падзеі. Аб'ектыўныя гісторыкі звернуць увагу на багацце фактычнага матэрыялу, паслядоўнасць падзей, вялікую колькасць імёнаў і прозвішчаў удзельнікаў, разумеючы, што ацэнкі з'явіліся пад уціскам следчага і пагрозай смерці.




**Уладзімір Пракулевіч. Здымак з судовай справы. 1930-я гг.**





Гэты дакумент і іншыя крыніцы былых сакрэтных спецсховішчаў прадстаўляюць шмат гульцоў гарачай восені 1920 года і не менш пякучай рэчаіснасці 1921-га. Гэта — прыхільнікі жорсткіх ваенных метадаў, тэрору і дыверсій — вайскоўцы Антон Самусевіч, Іван Мацэлі, Павел Бранавіцкі з аднаго боку і праваднікі больш памяркоўных палітычных рашэнняў — Васіль Русак, Юліян Сасноўскі, Аляксей Кабычкін і шмат хто іншы. Маючы адзіную стратэгічную мэту, гэтыя людзі прапаноўвалі розныя шляхі яе дасягнення.

Вялікі ўплыў на вызначэнне пазіцыі пэўнай часткі паўстанцаў меў генерал Булак-Балаховіч. Ён прапаноўваў сваю падтрымку пры ўмове прызнання яго палітычнага і ваеннага верхавенства. Нацыянальны камітэт адмовіўся ад паслуг генерала і тых палітычных колаў, якія гуртаваліся вакол яго. Аднак значная частка случакоў спадзявалася на магчымы хаўрус з генералам. Ваенны ў першую чаргу.

### Крыніцы, заўвагі

1. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа «СВБ». Паказанні Ул. Пракулевіча, П. Жаўрыда, У. Дубіны.*
2. *БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 243, арк. 97.*
3. *Тамсама.*
4. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа «СВБ». Паказанні П. Жаўрыда.*
5. *Тамсама, паказанні Ул. Пракулевіча.*

## 5. Нязгода

Пасля адыходу чырвоных жыццё ў горадзе пакрысе наладжвалася. З дазволу акупацыйных уладаў пачало дзейнічаць гарадское самакіраванне, але чальцы яго адразу прызналі прыгрымадскае самакіраванне, але чальцы яго адразу прызналі прыярытэт Нацыянальнага камітэта. Праблем хапала. Колькасць жыхароў горада і павета ўзрасла нашмат. На Случчыне асела не менш за пяць тысяч дэзерціраў з Чырвонай арміі. Адусюль сцякаліся афіцэры і жаўнеры. Вярталіся ў свае мясціны былыя дзянікінцы. Пасля паражэння спяшаліся да мяжы балахоўцы. Атмасфера распалялася. Разгараліся палітычныя спрэчкі. Ад На-

цыянальнага камітэта людзі патрабавалі арганізацыі абароны Случчыны.

З аднаго боку раздаваліся галасы аб стварэнні ў Слуцку новых балахоўскіх аддзелаў. З другога — толькі самастойных фарміраванняў.

Першыя спадзяваліся на дапамогу Польшчы. У невялікай колькасці, але ж былі сярод іх прыхільнікі дзяржаўнага саюза з заходняй суседкай. Большасць гэтай плыні мела надзею, праўда, даволі хісткую, адносна прыстойных паводзін Польшчы ў вырашэнні беларускіх праблем. Пад уздзеяннем прапаганды «федэралісцкай канцэпцыі» ў беларускім дэмлагеры сфарміравалася паланафільскае крыло.

Паводзіны палітыкаў, якія спрабавалі разыграць польскую карту, можна зразумець. Яны лічылі, што Польшча, якая нядаўна цяжкім шляхам барацьбы набыла незалежнасць, зацікаўлена ў тым, каб мець буфер — тэрыторыю самастойнай Беларусі паміж сабою і чырвонаю Масквою. Новы склад камітэта меў намер звярнуцца з просьбай аб дапамозе да таго народа, які нядаўна сам здабыў сабе вольнасць, да народа, які таксама змагаўся з бальшавікамі, што хацелі пазбавіць яго гэтай вольнасці.

Другая групоўка, а гэта ў асноўным эсэры, стаяла на цвёрдых незалежніцкіх пазіцыях — «Супраць паноў і камуністаў».[1]

Гэтае супрацьстаянне лідараў і арганізатараў паўстання самым негатыўным чынам паўплывала на ход падзей. Толькі згода беларускіх дзеячаў, якія рабілі вялікую палітыку ў тыя часы, магчыма, прынесла б поспех.

Між тым абедзве групоўкі вымагалі ад Нацыянальнага камітэта пэўных палітычных дэкларацый. Старшыня камітэта Павел Жаўрыд выехаў у Варшаву з мэтай атрымаць кансультацыі Найвышэйшай Рады. Сустракаўся з Тарашкевічам, Дубейкоўскім, Смолічам, якія рэкамендавалі ўзяць ініцыятыву фармавання вайсковых частак у свае рукі. У той час Найвышэйшая Рада на перамовы з Булак-Балаховічам не ішла, хоць генерал гэтага дамагаўся. Палітычную кан'юнктуру Рада лічыла спрыяльнай для абвяшчэння самастойнай Рэспублікі, яна спадзявалася на падтрымку Польшчы, лозунгам якой аб роўнасці народаў яшчэ верыла.

Пэўная частка случакоў мела намер стварыць з Булак-Балаховічам адзіны антыбальшавіцкі фронт і актыўна дзейнічала ў гэтым кірунку. Паланафільцы са слуцкім доктарам Арсенем Паўлюкевічам на чале вырашылі абнавіць склад незгаворлівага Нацыянальнага камітэта. Для дасягнення гэтай мэты 5 лістапада склікалі сход случакоў. Зацікаўленых сабралася каля 500 чалавек.[2]







Арсень Паўлюкевіч

Уладзімір Пракулевіч і Станіслаў Петрашкевіч прыйшлі на сход у той самы момант, калі выбары новых чальцоў у склад Нацыянальнага камітэта былі завершаны. Яны паспяшаліся аб'явіць пратэст незаконным дзеяннем паланафільскага крыла. Толькі з'езд Случчыны меў права змяніць склад камітэта. Тым не менш у той жа дзень у памяшканні Нацыянальнага камітэта з'явіліся выбраныя сходам асобы: Паўлюкевіч, Мацэлі, Кабычкін, Раковіч, Анцыповіч. Яны патрабавалі прызнання сваіх паўнамоцтваў. Старыя чальцы камітэта былі вымушаны згадзіцца на кааптацыю трох новых чальцоў, якія атрымалі на сходзе большасць галасоў. Такім чынам, у склад увайшлі Паўлюкевіч, Мацэлі і Раковіч.

Новыя чальцы адразу пачалі патрабаваць абмеркавання злабадзённых пытанняў: аб адносінах да Польшчы, аб неабходнасці стварэння ўласных узброеных сіл і народнай міліцыі. Міліцыя, дарэчы, ужо існавала, яна была арганізавана ў асноўным намаганнямі паручніка Мацэлі і актыўна дзейнічала ў правінцыі, адчыняла вярбовачныя пункты. Былы склад Нацыянальнага камітэта не пажадаў прызнаць генерала Булак-Балаховіча як галоўнакамандуючага ўзброенымі сіламі. 7 лістапада У. Пракулевіч, С. Петрашкевіч, Н. Смольскі выйшлі са складу ўзноўленага камітэта. Улас Дубіна застаўся і нейкі час падтрымліваў блок Паўлюкевіча—Мацэлі.

Між тым у Слуцк прыехалі чальцы ранейшага складу Нацкамітэта: эсэры Васіль Русак, Сяргей Бусел, Марк Асвяцімскі. Пагадненне з новым складам не адбылося. Старыя чальцы пачалі

працаваць ва ўмовах амаль канспіратыўных. Непаразуменні паміж групоўкамі паглыбляліся.

### Крыніцы, заўвагі

1. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа «СВБ». Паказанні Ул. Пракулевіча, П. Жаўрыда, С. Бусла, Ю. Лістапада і інш.*
2. *Тамсама, крымінальная справа «СВБ». Паказанні Ул. Пракулевіча.*

## 6. З'езд Случчыны

Нявырашаныя праблемы абедзве групоўкі выносілі на з'езд. Па вёсках раз'ехаліся інструктары для падрыхтоўкі вялікага сходу. На месцах выбіралі дэлегатаў, высвятлялі настрой насельніцтва. За тры дні да адкрыцця прадстаўнічага з'езда вярнуліся інструктары. Яны засведчылі агульнае панаванне антысавецкіх настрояў і адначасова адсутнасць выразнай цягі да Польшчы. Людзі імкнуліся да дзяржаўнай самастойнасці.

Модус прадстаўніцтва на з'ездзе быў вызначаны так: па 5 чалавек ад 15 валасцей, па 2 — ад культурна-асветніцкіх, эканамічных і іншых арганізацый, па адным ад прафесійных груп настаўнікаў, юрыстаў, па адным — ад рэлігійных канфесій (праваслаўнай, каталіцкай, іўдзейскай). Усяго 115 чалавек.[1]

На жаль, анкеты ўдзельнікамі з'езда не запаўняліся, таму прааналізаваць склад даволі цяжка. Але дакладна вядома, што выбіралі, як правіла, людзей пісьменных, аўтарытэтных, з ліку настаўнікаў, мясцовых чыноўнікаў, сялян, якія з вайны вярнуліся афіцэрамі. Ад Пукаўскай воласці, напрыклад, былі дэлегіраваны настаўнікі Пётра Бабарэка, Іван Каўпак, Пётра Зянюк. Апошні, дарэчы, да прыходу палякаў быў старшынёю Пукаўскага валаснога выканкама і меў вопыт кіравання.[2]

Задача склікання з'езда была ў значнай меры аблегчана папярэдняй арганізацыйнай работай Нацыянальнага камітэта. Замест прызначаных польскай адміністрацыяй войтаў у валасцях і солтысаў у вёсках былі абраны беларускія камітэты.

З заданнем арганізаваць дэмакратычныя выбары ў валасныя органы ўлады ад Нацкама на месцы выязджалі Васіль Русак,





Васіль Цішкевіч, Уладзімір Грушэўскі. Улас Дубіна праводзіў сход у Цараўскай воласці, Пагосце, Старобіне, Мелкавічах. Сяляне выбіралі сваіх прадстаўнікоў у мясцовыя камітэты, выказвалі словы падтрымкі ў адказ на заклікі ствараць уласную армію для абароны Бацькаўшчыны. Грамадзянскую ўладу ў-га Грозаўскай, Цімкавіцкай, Пукаўскай, Грэскай і Вызнянскай валасцях дапамагаў ствараць Пётра Бабарэка са сваімі паплечнікамі.

Сяргей Бусел працаваў інструктарам Нацкама ў Быстрыцкай, Раманаўскай і Ленінскай валасцях. Як правіла, тыя, каго выбіралі ў мясцовыя органы кіравання, адначасова былі дэлегіраваны на павятовы з'езд.[3]

Польскія ўлады не перашкаджалі скліканню з'езда Случчыны, таму што канчаткова мір з савецкай Расіяй яшчэ не быў падпісаны і ў Рызе працягваліся мірныя перамовы. Выступленні супраць саветаў былі на карысць Польшчы.

З'езд Случчыны адбыўся 14—15 лістапада ў Слуцку. У зале, па ўспамінах удзельнікаў панаваў святочны і рашучы настрой. Дэлегаты сур'ёзна паставіліся да працэдуры правядзення схо-


14

БЕЛАРУСКІ Культурна-Прасьветнь МАГІЛЕУСКІ ГУРТОК „АСЬВЕТА" РАДА ГУРТКА
14 лістападу 1921 г.
№ 140
г. Магілеў.

ПАСЬВЕДЧЭНЬНЕ.

Прэд,лунік гэтага БАБАРЭЧЫК ПЯТРУСЬ есьцьсапраўды сябра ГУРТКА АСЬВЕТЫ і пісар РАДЫ ГУРТКА, што прыкладам печаці і подпісамі сьведчыцца.

СТАРШЫНЯ [подпіс]

ПІСАР [подпіс]

**Пасведчанне чальца гуртка «Асьвета» Пётры Бабарэкі, удзельніка Слуцкага паўстання**

ду. Па выніках галасавання ў прэзідыум былі абраны В. Русак (старшыня), П. Жаўрыд, Ул. Пракулевіч, У. Дубіна і І. Урбановіч (сакратары). А. Паўлюкевіч паспрабаваў пратэставаць, але другое галасаванне не змяніла складу прэзідыума. Па яго выніках у склад прэзідыума ўвайшлі тыя самыя людзі, толькі старшынёй быў абраны П. Жаўрыд.

Як засведчыў Ул. Пракулевіч, пратаколы з'езда былі ў яго адабраныя падчас арышту польскімі жандарамі ў красавіку 1921 года ў Вільні, але развіццё падзей можна прасачыць па іншых крыніцах. Увесь першы дзень гучала інфармацыя з месцаў. Спачатку адчувалася некаторая стрыманасць і асцярожнасць з прычыны нявызначанасці становішча, але ўсё мацней выказвалася думка аб неабходнасці самастойнага гаспадарання ў сваім доме. Вялікае абурэнне выказалі сяляне шматлікімі павіннасцямі: вайсковай, коннай, працоўнай, харчовай і г. д. Харчразвёрстка на бульбу, мяса, масла, яйкі, воўну разбурала гаспадарку. Харчаддзелы бралі як мага больш. Узамен — нічога. Адзін за адным выступалі пакрыўджаныя сяляне, выказваліся супраць чужой улады і толькі за тую, якую самі будуць выбіраць.

У парадку другога дня з'езда стаялі даклад Нацкамітэта і пытанне сучаснага моманту. З дакладам выступіў доктар А. Паўлюкевіч, які далажыў прысутным аб ходзе падрыхтоўкі ваеннай акцыі. Услед за ім гарачую агітацыйную прамову трымаў паручнік Мацэлі. Ён заклікаў не марудзіць і разварнуць фронт супраць бальшавікоў. Катэгарычна супраць баявой акцыі як бессэнсоўнай і крывавай выказаўся Няронскі, дэлегат з Вызны. (Не блытаць з іншым Няронскім, сябрам Рады, загадчыкам гаспадаркі Брыгады).[4] Успамінаў у ДПУ Ул. Пракулевіч:

*«И в тот момент запылённые эффектно влетают на сцену делегаты, вернувшиеся от Балаховича, капитан Самусевич и Крыжановский, а с ними двоюродный брат «батьки».*[5] *Не обращая внимания на протесты президиума, предлагавшего записаться в очередь и не прерывать порядка дня, они апеллируют к съезду. Порядок дня прерывается, собрание желает выслушать новоприбывших, которых встретило овациями, когда узнало, что это делегация от Балаховича.*

*Выслушаны они были в чрезвычайной тишине, прерываемой громкими аплодисментами...»*[6]





Нягледзячы на эсэраўскую непрыхільнасць, «сялянскі бацька» карыстаўся вялікаю папулярнасцю. Шмат хто з сялянаў, запісваючыся ў Слуцкую Брыгаду, быў упэўнены, што ідзе пад штандары генерала Булак-Балаховіча.

Далі слова Антону Самусевічу. Ён падзяліўся ўражаннямі ад сустрэч з генералам, падкрэсліў, што Булак-Балаховіч беларус па паходжанні і па духу. Яго армія рушыць пад сцягам незалежнай Беларусі, за зямлю і волю сялянству. Самусевіч паведаміў, што войска моцнае, хутка расце колькасна, папулярнае сярод беларусаў. Самусевіч далажыў таксама, што «бацька» даручыў яму сфарміраваць тут, на Случчыне, вайсковую адзінку.



Язэп (Юзік) Балаховіч

Потым зачыталі заклікі і дэкларацыі Булак-Балаховіча, яго палітычнага саюзніка Б. Савінкава і Беларускага Палітычнага Камітэта за подпісам старшыні БПК Вячаслава Адамовіча і Паўла Алексюка.

Шмат пытанняў дэлегаты мелі да Язэпа (Юзіка) Балаховіча. Ён растлумачыў, што генерал з'яўляецца галоўнакамандуючым усіх узброеных сіл Беларусі, колькасць якіх дасягае 60 тысяч чалавек, нядрэнна ўзброеных. Войска мае артылерыю, кавалерыю, багатую амуніцыю.

Баявы дух ахапіў сход. Падалося, што вось-вось і саветы сканаюць. Спрэчкі ўзмацняліся.

Прэзідыум вымушаны быў звярнуць увагу ўсіх прысутных на тое, што яны не на мітынгу і трэба вярнуцца да дзелавога абмеркавання пытанняў. Дачакаўшыся цішыні, заяву зрабіў П. Жаўрыд. Ён зачытаў мандат паўнамоцнага камісара ўрада БНР ад Найвышэйшай Рады, растлумачыў пазіцыі Рады адносна Б. Савінкава, абаронцы «адзінай і недзялімай», і П. Алексюка, на яго думку, палітычнага авантурыста, які не мае шырокай падтрымкі беларускіх колаў. А яго заяву аб фарміраванні ваенных сіл БНР сустрэлі моцнымі воплескамі.

Аналізуючы ход з'езда, нельга не прыйсці да высновы, што галоўная турбота прысутных — гэта арганізацыя барацьбы з саветамі, а з кім заключыць хаўрус — для большыні такой праблемы не існавала.

Дыскусійным было пытанне: аб'яўляць Случчыну незалежнай рэспублікай ці часткай БНР. Апошні пункт гледжання, не вельмі прыемны для Польшчы, адстойвалі эсэры. Іх пазіцыя перамагла. Гэта знайшло адлюстраванне ў рэзалюцыі, побач, дарэчы, з ухваламі ў адрас Пілсудскага і Балаховіча. З'езд не падтрымаў прапанову Ул. Пракулевіча абмежавацца толькі ўзброенай дэманстрацыяй сіл народнай міліцыі, калі прыйдуць Саветы, не выходзячы з горада і не распачынаючы баявых дзеянняў. Настрой быў адзіны — ваяваць![7]

Урэшце з'езд прызнаў Случчыну часткай БНР, выбраў Раду, якой перадаў усю ўладу і даручыў арганізацыю вайсковых адзінак. У Раду Случчыны ўвайшлі 17 чалавек: П. Жаўрыд, А. Паўлюкевіч, І. Мацэлі, У. Дубіна, В. Русак, Ц. Раковіч, Радзюк, Ю. Сасноўскі, Я. Біруковіч, Ю. Лістапад, А. Анцыповіч, Барысавец, Ул. Пракулевіч, Рабы, П. Бабарэка, А. Каўпак, А. Няронскі. Кандыдатамі былі абраны Маліноўскі, Ц. Мяшэчак, П. Валоцька, М. Міхайлоўскі, Дзятловіч.[8]

Тыдзень пасля з'езда Слуцк бурліў. Працягваліся перамовы з палкоўнікам Ясінскім. Польскія ўлады чакалі запрашэнняў яшчэ пагасцяваць у павеце. Але з'езд расчараваў іх, выявіўшы свой незалежніцкі твар, нягледзячы на ўпартыя намаганні правага боку. Аднак перавага незалежнікаў была мінімальнай. Пры галасаванні за кандыдатуру старшыні Прэзідыума Рады Пракулевіч атрымаў усяго на адзін голас больш у параўнанні з Паўлюкевічам. 17 лістапада Прэзідыум Рады — Пракулевіч (старшыня), Паўлюкевіч, Жаўрыд, Рабы, Русак, Біруковіч і Сасноўскі — пачаў працаваць.

Для кіраўніцтва ўсімі бакамі сацыяльнага жыцця былі арганізаваны камісіі: юрыдычная, фінансавая, зямельная і харчовая. Паспелі нават выдаць першы загад аб нацыяналізацыі лясных багаццяў Случчыны. Гэты загад забараняў вывозіць за межы павета збожжа, жывёлу і г. д. Назіраць за выкананнем загадаў Прэзідыума павінны былі валасныя рады. Кароткі тэрмін знаходжання ў Слуцку не дазволіў засяродзіць увагу на мірнай працы.





Тым не менш хутка змянілі ўладу. Замест польскай адміністрацыі пачалі дзейнічаць нацыянальныя камітэты. У воласці па даручэнні Рады ехалі яе сябры, праводзілі тлумачальную працу па мясцовых выбарах, зацвярджалі склад камітэтаў. Арыштаваны ў 1922 годзе Пётра Бабарэка вымушаны быў давесці да ведама чэкістаў:

> *«При распределении обязанностей между членами Рады мне была поручена организация гражданской власти в Грозовской, Пуковской, Греской, Вызненской и Тимковичской волостях...»*[9]

Улас Дубіна, таксама сябра слуцкай Рады, з той самай мэтай быў накіраваны ў Старобінскую і Цараўскую воласці. Адначасова пасланцы займаліся мабілізацыяй моладзі ў войска. Ваенныя пытанні трэба было вырашаць першапачаткова.[10]

23 лістапада польскія ўлады паведамілі, што пакідаюць Слуцк. Гараджане спачатку запанікавалі, потым абурыліся, зразумеўшы, што палякі не далі ні часу, ні магчымасці ўмацавацца нацыянальнаму руху, сабраць сілы. Рада надрукавала паведамленне аб сваёй эвакуацыі і заклік запісвацца ў добраахвотніцкія аддзелы. Хутка быў прыняты зварот да савецкага ўрада.

Ноту ўручылі савецкім прадстаўнікам пры 11-й польскай дывізіі для перадачы па назначэнні. У дэкларацыі за подпісамі Пракулевіча, Жаўрыда, Русака, Сасноўскага і Радзюка гаварылася:

> *«У момант самавызначэння ўсіх народаў і змагання за сваю самастойнасць і свабоду Беларуская Рада Случчыны выконвае волю сялянства, паслаўшага яе і даверыўшага ёй абарону незалежнасці нашай Бацькаўшчыны Беларусі, заяўляе ўсяму свету аб намаганнях, намерах беларускага сялянства, аб тым, што Беларусь павінна быць вольнаю незалежнаю рэспублікай у яе этнаграфічных межах. Абвяшчаючы аб гэтым і з'яўляючыся выразнікам волі народаў, слуцкая Рада дэкларуе цвёрда стаяць за незалежнасць роднай Беларусі і бараніць інтарэсы сялянства ад гвалту з боку іншаземных захопнікаў і ў выпадку патрэбы нават сілаю зброі, нягледзячы на колькасную перавагу ворага, думаючы, што наша справа — справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе».*[11]

Рада Случчыны пратэставала супраць намеру савецкіх уладаў заняць Слуцк пасля адыходу польскіх войскаў, спасылаючыся на пастановы Рыжскай канферэнцыі аб прызнанні самавызначэння народаў.

Адначасова Рада звярталася да дэмакратыі ўсяго свету з пратэстам супраць падзелу незалежнай БНР.

*«З'езд катэгарычна пратэстуе проці акупацыі родных земель чужацкім наездам і проці самазваннай савецкай улады, як урад Кнорына і іншыя, якія наўтвараліся на Беларусі. Бацькаўшчына наша зруйнавана чужынцамі, якія нішчаць яе і дагэтуль. Мы, аддаючы справе адбудаваньня нашай Бацькаўшчыны ўсе нашы сілы і жыццё, звяртаемся да ўсяго свету і саюзу народаў аб дапамозе ў стварэнні нашай вайсковай сілы».*[12]

Прыняцце ўхвалы на з'ездзе суправаджалася моцнымі воплескамі і заклікамі: «Няхай жыве вольная незалежная дэмакратычная БНР у яе этнаграфічных межах!», «Няхай жыве беларускі народ!», «Няхай жыве Беларуская армія!» і г. д.

Эвакуацыя Слуцка скончылася 24 лістапада. Адным з апошніх горад пакідаў Пракулевіч. Каля будынка, што займала Рада, эсэр Куніцкі раскідваў антыбальшавіцкія адозвы. Рушылі на Семежава.

### Крыніцы, заўвагі


1. *Слуцкі збройны чын. 1920. С 232.*
2. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа П. Бабарэкі, Ю. Лістапада, У. Дубіны.*
3. *Тамсама.*
4. *Тамсама, крымінальная справа «СВБ». Паказанні Ул. Пракулевіча, П. Жаўрыда, Ю. Лістапада.*
5. *Ю. Балаховіч у 1922 годзе быў забіты чырвонымі партызанамі ў Белавежскай пушчы.*
6. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа «СВБ». Паказанні Ул. Пракулевіча.*
7. *Тамсама.*
8. *ДАРФ, ф. 5875, вып. 1, спр. 24, арк. 15. Спіс удакладнены па ўласнаручных запісах Васіля Русака. Піліп Валоцька загінуў 27 лістапада 1920 г.*
9. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа П. Бабарэкі.*
10. *Тамсама, крымінальная справа У. Дубіны.*
11. *ДАРФ, ф. 5875, воп. 1, спр. 24, арк. 14.*
12. *БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 243, арк. 80.*






## 7. Арганізацыя войска

Ініцыятыва арганізацыі ўзброеных сілаў зыходзіла ў першую чаргу ад учарашніх афіцэраў арміі Булак-Балаховіча і яго прыхільнікаў. Амаль на кожным пасяджэнні Прэзідыума Рады Паўлюкевіч уздымаў пытанне аб запрашэнні «бацькі» ў якасці ваеннага кіраўніка. «Сялянскі правадыр» пасля паражэння яго палескага паходу не губляў надзеі ўзначаліць паўстанцкі рух на Случчыне. У ваенную тройку Нацыянальнага камітэта першага складу, дзе большасць належала балахоўцам, увайшлі І. Мацэлі, Бачко, А. Анцыповіч. Потым, пасля змены кіраўніцтва Нацкамітэта, зменіцца і яе склад. У яе ўвойдуць П. Жаўрыд, А. Анцыповіч, П. Чайка. Намаганнямі паручніка Мацэлі ў павеце была арганізавана народная міліцыя, якая з'явілася грунтам для фарміравання войска БНР. Першапачаткова яна налічвала да 5 тысяч чалавек.[1]

Маючы досвед і незалежніцкія перакананні, некаторыя афіцэры выступілі ініцыятарамі фарміравання баявых адзінак. Актыўную працу па ўтварэнні коннага палка разгарнуў капітан Антон Самусевіч, вярнуўшыся на радзіму ў Слуцк у жніўні 1920 года. Неблагі арганізатар, ён сагітаваў у полк каля 2,5 тысяч чалавек. Спадзеючыся на матэрыяльную падтрымку С. Булак-Балаховіча, Самусевіч хуценька з'ездзіў да бацькі ў Тураў, а потым і ў Лунінец. Прасіў зброі, амуніцыі, абмундзіравання. Але Начальнік Беларускай дзяржавы, як абвясціў сябе Булак-Балаховіч па прыкладзе Ю. Пілсудскага, абышоўся аднымі абяцанкамі.

Уся дапамога склала 30 тысяч польскіх марак. Булак-Балаховіч прызначыў Самусевіча камандзірам першага Слуцкага (Самусевіч называе его Беларускім) палка, але эсэраўская частка Рады Слуцкай не дала згоды на гэтае прызначэнне. Самусевіч здаў кіраўніцтва Паўлу Чайке, які працягваў справы арганізацыі палка. Прыняць камандаванне іншым палком Самусевіч адмовіўся з-за недахопу, як ён сам патлумачыў, самага неабходнага.

22 лістапада былі размеркаваны камандзірскія пасады і аб'яўлены загадам па Слуцкаму палку I Брыгады стральцоў БНР. Камандзірам першага батальёна быў прызначаны падпалкоўнік А. Гаўрыловіч, другога — капітан А. Сокал-Катылоўскі, трэцяга — капітан А. Каўпак. Пасаду начальніка гаспадарчай часці заняў прапаршчык Кашкарэвіч. Паручнік Кахановіч выконваў




Рэгіён Слуцкага паўстання






Рэгіён Слуцкага паўстання

абавязкі ад'ютанта. Роты ўзначалілі: 1-ю — паручнік Гузней; 4-ю — Аляксандр Савановіч; 5-ю — паручнік Павел Бранавіцкі; 6-ю — падпаручнік Кернажыцкі; імёны камандзіраў 2, 3, 7, 8, 9-й пакуль невядомыя. Дзесяць чалавек склалі кулямётную каманду. Аддзел выведкі ўзначаліў падпрапаршчык Шымански. Пасля арышту брыгаднай контрвыведкай камандзіра палка П. Чайкі па падазрэнні ў здрадзе, яго пасаду заняў Ахрэм (Эфраім) Гаўрыловіч, афіцэр Беларускай Вайсковай камісіі.[2]

Другі полк Слуцкай Брыгады пачаў фарміравацца ў м. Грозава (адкуль і назва палка — Грозаўскі). З 17 па 19 лістапада запіс добраахвотнікаў праводзіў камендант Грозава паручнік Пётра Бабарэка, які меў загад ад Рады Случчыны праводзіць мабілізацыю моладзі і накіроўваць яе ў Слуцк. Вярбовачны пункт месціўся ў доме грозаўскага гаспадара Хрушчыка (палац князёў Радзівілаў).

Па паказаннях Бабарэкі, ход мабілізацыі кантраляваў камандзір польскага палка, які нават правяраў змест зваротаў і пракламацый да насельніцтва. Пётра Бабарэка раз'язджаў на чале коннага аддзела па вёсках, ён і яго памочнікі Іван Русаковіч, Пётра Зянюк, Вітко, Бычак, Мяцельскі развозілі загады Рады, расклейвалі пракламацыі. Збіралі людзей на мітынгі, тлумачылі сутнасць падзей, палымяна заклікалі бараніць сваю зямлю «ад бальшавіцкай навалы». Многа запісвалася дэзерціраў з Чырвонай арміі і моладзі з навучальных устаноў.[3]

Хутка імя Бабарэкі і яго дзейнасць сталі шырока вядомыя. У адзін з тых лістападаўскіх дзён да Сяргея Бусла, які ў той момант быў дома ў вёсцы Сукаўчыцы, забег сябра, настаўнік з вёскі Гулевічы, ён жа кіраўнік эсэраўскай ячэйкі Язэп Сукала. Ён паведаміў, што «па валасцях ездзіць нейкі беларускі дзеяч Бабарэка, запісвае ў войска». А тут і суседка ўварвалася ў хату з сярдзітым пытаннем да Сяргея: «Чаго ты тут сядзіш? У Слуцку збіраецца Беларусь!»

Вясковая грамада, жадаючы ведаць навіны, не пашкадавала фурманкі і выправіла хлопцаў у павет.[4]

Тут яны сустрэліся з Бабарэкам, які прывёў свой аддзел у Слуцк. Далей справай фарміравання Грозаўскага палка займаліся афіцэры Беларускай Вайсковай камісіі: Семяняка (Сямёнік), Арцышэўскі, Новік і інш.

Яшчэ да Слуцкіх падзей на Беларусі шырокую вядомасць набыло імя Лукаша Сямёніка. Яго партызанскі аддзел змагаўся





з нямецкімі акупантамі. Пасля адыходу немцаў і да прыходу бальшавікоў сяляне абралі Сямёніка ваенкамам у Халопеніцкай воласці, адкуль, дарэчы, ён быў родам. З прыходам бальшавікоў Сямёніка арыштавалі. Падчас этапу з Мінскай вязніцы ў Барысаўскую атаман уцёк. Барысаўскі рэўваентрыбунал завочна асудзіў яго на смерць. Аднак газета «Беларускае жыццё» за 9 лютага 1920 года паведаміла, што Лукаш Сямёнік утварыў аддзел з дэзерціраў (газета змясціла фотаздымак яго аддзела); некаторы час трымаў уладу ў Халопеніцкай, Красналуцкай і Зачысценскай валасцях Барысаўскага павета. Пазбягаючы разгрому аддзела, адышоў у лясы пад Смалявічы. З арганізацыяй Беларускай Вайсковай камісіі ўвайшоў у яе склад.

Слуцкая Брыгада была пяхотнай, два яе палкі падзяляліся на батальёны і роты. У яе складзе знаходзіліся конны аддзел, палкавыя абозы і збройная майстэрня. Асобна ад Брыгады былі арганізаваны яшчэ дзве роты. Адной з іх камандаваў Іван Копец. Штаб выдаваў загады па Брыгадзе і палках, загады рэгістраваліся ў спецыяльнай кнізе.

Хутка былі размеркаваны іншыя абавязкі і пасады. Палявы шпіталь разгарнуў доктар А. Паўлюкевіч. Вайсковы суд узначаліў Я. Біруковіч. Багдановіч заняў пасаду ваеннага пракурора, А. Кабычкін — абаронцы ў судзе.

Каманды, справаздачы вяліся выключна на беларускай мове. Нашыўкі ў камандзіраў былі з «конікамі» — Пагоняй. Надзявалі таксама бел-чырвона-белыя павязкі.

На фронт у Семежава БВК накіравала 20 афіцэраў, але да месца яны не даехалі. Зрабіўшы прыпынак у Баранавічах, дзе знаходзілася камендатура Рады для сувязі з БВК і Найвышэйшай Радай, яны вярнуліся назад, незадаволеныя эсэраўскай перавагаю ў кіраўніцтве.[5]

Па першым часе Брыгада забяспечвалася правіянтам даволі арганізавана. Рада мела штаб інструктараў, якія раз'язджалі па вёсках, вялі агітацыю і збіралі добраахвотныя ахвяраванні правіянтам. Абавязкі інструктараў выконвалі Улас і Міна Дубіны, Юрка Лістапад, малодшы Сасноўскі, Цімафей Мяшэчак, браты Мікалай і Ілля Ракі. Ехалі, звычайна, у родныя мясціны, дзе іх ведалі і давяралі іх словам.

Па бальшыні вяскоўцы добраахвотна давалі неабходнае. Толькі на мяса павіннасць была прымусовая. Ад вёскі дастаўлялі 2—

3 галавы буйной жывёлы ці замянялі дробнай. За мяса выдаваліся рэквізіцыйныя квіткі, што з'яўлялася абавязацельствам Рады ў будучым кампенсаваць страты. Кармілі ваяроў няблага.

Аднак запасаў гаспадарчы аддзел не зрабіў. Хутка паўстала праблема з харчаваннем і фуражом для коней. Выратаваліся тым, што пачалі ўжываць збожжа і сена кінутых гаспадарамі маёнткаў. Да нарыхтоўкі прадуктаў прыцягваліся ваеннапалонныя і ўцекачы, у мясцовых гаспадароў яны малацілі збожжа, пяклі хлеб і г. д.[6]

Праблема будавання сваёй арміі вырашалася і з другога боку. Афіцэрскія кадры дазволіла рыхтаваць Польшча ў вайсковых школах Варшавы, Быдгашча, Лодзі. У дэкрэце галоўнакамандуючага польскай арміі пра беларускі звяз гаварылася:

> *«...Дазваляецца пры Варшаўскай Школе Падхарунжых арганізаваць беларускі з'вяз дзеля падрыхтоўкі афіцэрскіх кадраў для беларускага войска. Кандыдатаў у з'вяз дасць Беларуская вайсковая Камісія». Далей у гэтым жа дэкрэце паведамлялася, што «у сваім нутраным жыцьці беларускі з'вяз можа ўжываць сваю родную мову. Выклады тэарэтычныя, як і практычныя заняткі з галіны вайсковае веды, беларускі з'вяз будзе праходзіць і з сваімі польскімі сябрамі ў мове польскай».*[7]

БВК, афіцэры якой адыгралі значную ролю ў пабудове І Брыгады БНР, яшчэ ў снежні 1919 года пераехала з Вільні ў Мінск. Польскія акупацыйныя ўлады прызначылі на гаспадаранне Камісіі гатэль «Гарні». Адразу ж, у снежні, з'явіліся ў мінскіх і віленскіх газетах адозвы да беларускага жыхарства. Яны заклікалі беларусаў прыбываць у Мінск для ўступлення ў беларускія вайсковыя аддзелы, створаныя БВК.

> *«Праз некалькі дзён пасля надрукавання адозвы БВК усе калідоры гатэля «Гарні» запоўніліся ахвотнікамі ў беларускае войска, — успамінаў член камісіі Франц Кушаль, — з грамады прыбылых былі выбраны трыццаць маладых хлопцаў, што адказвалі ўмовам, вызначаным для кандыдатаў у школу падхарунжых. Яны былі арганізаваны ў асобны аддзел».*[8]

Ад'езд гэтага першага аддзела быў прызначаны на палову студзеня 1920 года. Час яшчэ быў. Яго выкарыстала Камісія для арганізацыі курсаў беларусазнаўства. У адной з мінскіх школ неўзабаве пачаліся лекцыі па гісторыі беларускага Адраджэння, беларускай мове і літаратуры. Чытаў іх Алесь Гарун.





У студзені асобы аддзел маладых беларусаў пад камандаю беларускага афіцэра капітана Талькоўскага быў адпраўлены ў Варшаву, у школу падхарунжых. У гэтую школу, якая пазней была перавезена ў Востраў Камарова, прымаліся кандыдаты з сярэдняй адукацыяй.

У ваенны час курс навукі трываў 6 месяцаў, са школы выходзілі падхарунжыя, якія служылі нейкі час у арміі і атрымлівалі званне падпаручніка. У мірны час вучыліся два гады і выходзілі адразу падпаручнікамі.



**Алесь Гарун**

Другая школа падхарунжых для падафіцэраў была ў Быдгашчы, на Памор'і. Задача гэтай школы была даць магчымасць навучэнцам, якія не маюць сярэдняй адукацыі, але выяўляюць здольнасці для навукі і вайсковай справы, здабыць афіцэрскі чын. Курс навучання ў гэтай школе быў чатырохгадовы, прычым два першыя гады прысвячаліся папаўненню агульных ведаў курсантаў. У гэтую школу быў адпраўлены яшчэ адзін аддзел з сарака беларускіх хлапчукоў.

Франц Кушаль, які ад БВК меў заданне курыраваць беларускія звязы, успамінаў:

> *«Хлопцы нашыя, як з першага з'вязу, так і з другога, ехалі ў Варшаву і Быдгошч з вялікаю ахвотаю, з вераю ў тое, што стануць неўзабаве беларускімі афіцэрамі і спрычыняцца да пабудовы беларускага нацыянальнага войска. Капітан Талькоўскі, камандзір з'вязу пры Варшаўскай школе падхарунжых, акуратна прысылаў у БВК рапарты аб навуцы і паводзінах беларускіх кандыдатаў. Усе нашы будучыя афіцэры вучыліся і трымаліся вельмі добра».*[9]

18 лістапада 1920 года беларускіх юнкераў наведала дэлегацыя амерыканскіх беларусаў. Яна звярнула ўвагу на выдатны выгляд і выпраўку беларускіх юнакоў і выказалася за тое, каб усяляк дапамагаць стварэнню беларускага нацыянальнага войска.[10]

Першы беларускі звяз скончыў курс пры Варшаўскай школе якраз падчас мірных перамоваў у Рызе. Як вядома, бальшавіц-

кая дэлегацыя дамагалася ад польскага ўраду згоды на неадкладнае ліквідаванне ўсіх няпольскіх вайсковых фармiраванняў. Капітан Талькоўскі з новаспечанымі падхарунжымі быў накіраваны ў Лодзь, у распараджэнне БВК. Тут іх чакала вялікае расчараванне. Мары маладых беларускіх камандзіраў аб выхаванні імі жаўнераў-патрыётаў не здзейсніліся і пакінулі пачуццё крыўды. У Лодзь прыбыў польскі маёр на чале ліквідацыйнай камісіі, якая ўзялася расфарміроўваць два беларускія батальёны, што стаялі ў Лодзі.

Загад аб ліквідацыі, аднак, дазваляў афіцэрам і падхарунжым перайсці на службу ў польскую армію. З афіцэраў БВК ніхто не згадзіўся на знак пратэсту супраць ліквідацыі беларускіх батальёнаў. З падхарунжых перайшлі некалькі чалавек. Астатнія вярнуліся дамоў. Тым не менш, нягледзячы на ўсе сумныя абставіны, БВК дабілася прыёму ў Варшаўскую і Быдгошчскую школы яшчэ аднаго беларускага аддзела.

Франц Кушаль успамінаў, што неяк у 1920 годзе, яшчэ перад выхадам загаду аб ліквідацыі няпольскіх вайсковых аддзелаў, аднойчы раніцаю ў канцылярыю БВК увайшло адразу чалавек сорак юнакоў, апраненых у кажухі і бравэркі ды моцна ўкарэлыя сялянскія боты. Увайшоўшы, яны стоўпіліся грамадкаю пад сцяною і маўчалі. Раптам ад грамады аддзяліўся чалавек у шынялі расейскага афіцэра і адрапартаваў:

> *«Ротмістр Мірановіч прывёз з Слуцкай паўстанцкай Брыгады кандыдатаў у школу падхарунжых. Усе яны скончылі Слуцкую беларускую гімназію і штаб паўстанцкай Брыгады накіраваў іх пад маёю камандаю ў Беларускую Вайсковую Камісію дзеля адаслання ў школу падхарунжых у Варшаве, як другі беларускі з'вяз».*[11]

Назаўтра юнакоў выправілі ў Варшаву, аднак хутка яны вярнуліся. Ротмістр Мірановіч паведаміў БВК, што камандзір школы палкоўнік Младзяноўскі адмовіўся прыняць новы беларускі з'вяз, спасылаючыся на загад Міністэрства вайсковых спраў. І толькі пасля хадайніцтва БВК і асабіста Ф. Кушаля перад Ю. Пілсудскім два беларускія аддзелы атрымалі дазвол прайсці курс навучання ў вайсковых школах. Кандыдатаў набіралі ў Мінскай і Нясвіжскай семінарыях, але ў асноўным сярод вучняў старэйшых класаў Слуцкай гімназіі і Слуцкага рэальнага вучылішча.





З паказанняў у ДПУ былога курсанта Піліпа Лемеша:

> *«В 1920 г., когда пришли поляки, я не отступил с красными... Снова стал учиться. К нам в реальное училище пришел офицер Белорусской белой армии и предложил ехать в офицерскую школу, после его предложения начали записываться... Всех на автомобилях направили в город Барановичи, оттуда поездом в Варшаву, а потом в Лодзь... Там уже были те, кто поехал раньше...»*[12]



Андрэй Чыж

Лемеш быў якраз у той групе, якую сустракаў Ф. Кушаль. Андрэй Чыж, сын селяніна з вёскі Іграева, у 1920 годзе навучэнец 7-га класа Слуцкай гімназіі, таксама вымушаны быў успомніць:

> *«К нам в гимназию начали приходить офицеры и агитировать гимназистов поступать в офицерскую школу. Многие начали записываться... Когда мы записались, то всех из города Слуцка отвезли на станцию Синявка на автомобилях. Было всего около 80 человек. Оттуда пошли в город Барановичи. В Барановичах посадили на поезд и направили в город Лодзь...»*[13]

Па ўспамінах курсантаў, гэтым наборам моладзі ў вайсковую школу кіраваў Павел Якаўлевіч Жаўрыд, пляменнік якога Юліян Жаўрыд запісаўся ў школу адным з першых.

Пра тое, як праходзіў набор у мястэчку Семежава, вымушаны былі распавядаць следчаму ДПУ Кірыла Пратасевіч і Міхась Лушчыцкі.

> *«В местечке Семежево формировалась балаховская армия (І Брыгада стральцоў БНР. — Н.С.), а также БВК проводила набор в школу. Загодя появились объявления о наборе. Вербовал молодёжь капитан Борик. Те, кто имел четыре класса и более, начали записываться. Запись проводилась в доме учителя Лущицкого. В м. Семежево были одни сутки. Всех принятых отправили в город Лодзь».*

Былыя курсанты Лодзінскай школы сведчылі, што камісія запісвала не ўсіх жадаючых:

*«Есиповича и Трушко не приняли за недостатком образования (скончылі адзін клас гімназіі. — Н.С.), и они остались в Белорусской армии».*

Дарэчы будзе заўважыць, што ў гэтых маладых случакоў быў выбар. Паводле ўспамінаў удзельнікаў падзей, адны запісваліся ў «міліцыю беларусаў», другія — «у балахоўцы», трэція — «у Семежаўскую армію» (Брыгаду БНР. — *Н.С.*), чацвертыя — у асноўным найбольш адукаваная і патрыятычна настроеная частка моладзі — пажадалі надзець мундзір афіцэра арміі незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Прынамсі, менавіта перспектыва самастойнай дэмакратычнай Беларускай дзяржавы, як дружна паказалі яны на следстве, і сабрала іх у Лодзі.[14]



**Міхась Лушчыцкі**

Іх не цікавіў разнабой думак сярод ваенных і палітычных настаўнікаў. І для Рады Случчыны, і для генерала Булак-Балаховіча, якія ніяк не знаходзілі агульнай мовы, неадкладнай задачай з'яўлялася фарміраванне нацыянальнага войска. У яго шэрагі імкнуліся маладыя людзі. Безумоўна, незалежнасць Бацькаўшчыны — гэта тая высакародная мэта, высокі пабуджальны матыў, які вызначыў учынкі і дзеянні юнакоў.

Былі абставіны і менш узнёслыя, але ў жыцці не менш істотныя. З паказанняў Кірылы Пратасевіча:

*«Поляки ночью оставили нашу местность, но красные ещё не пришли... Меня разбудил односельчанин и сказал: давай убегай, а то придут красные и нас расстреляют. В подтверждение сказал, что его свояк был в Слуцке и видел объявления о том, что расстреливают тех, кто не служил в Красной армии, как дезертиров. Уходить меня уговаривали соседи и мать Арциховича Хима...»*





Аляксандр Маркевіч таксама зазначыў:

*«Я бы не пошел, но начали пугать, что товарищи расстреливают...»*[15]

Страх перад нязванай, нежаданай уладай, інстынкт самазахавання вымушалі пакідаць роднае гняздоўе. Але не без жорсткага супраціўлення. Можна меркаваць па ўскосных «доказах», што нашы героі ў сілу сваіх перакананняў, тэмпераменту, маладосці, нарэшце, не маглі застацца ўбаку ад галоўнай падзеі — Слуцкага паўстання. Гэтую «віну» з падследных прызнаў за сабой толькі Аляксандр Маркевіч, і то таму, што ў 1925 годзе быў судзімы за гэты «ўчынак» Вярхоўным судом БССР разам (далей цытата з матэрыялаў следства) «с командиром Белого Белорусского полка Гавриловичем и Сергеенко, жителем города Слуцка, за военные действия против Советской власти в период 1920 года после заключения перемирия с поляками в нейтральной полосе». Астатнія ж катэгарычна адмаўлялі свой удзел у паўстанні. Аднак расказ курсанта Івана Карафы-Корбута дае некаторыя падставы думаць пра адваротнае.



**Іван Трушко**

З пратакола допыту:

*«После долгого запирательства и отказа, выдуманных легенд Караффа-Корбут показал, что «сын селяніна, але па саслоўі дваранін...» в Красную армию не пошел, был дезертиром, в 1919 году присоединился к Легии русских офицеров, где встретил немало земляков (усё тыя ж, случкія. — Н.С.), после её разоружения сидел в польском лагере. Когда вернулся, то узнал от земляков, что по мирному договору с Польшей местность перешла к красным... В Слуцке, Семежеве и других местах произошло восстание против красных, и там начала руководить Рада... Между красными и войсками повстанцев идут бои. Слуцк снова занят красными войсками, и они всех расстреливают, и ехать мне домой не*

*советовали, а постановили ехать в Лодзь, куда после восстания забрали многих учащихся из Слуцка и района и посылают учиться в Лодзь в военную школу Булак-Балаховича».* Карафа-Корбут прыехаў у Лодзь, дзе *«нашел военную комиссию, которая принимала в балаховскую офицерскую школу, предъявил документы, после чего был зачислен...»*[16]

Па ўсім бачна, што гэты другі набор у школу праводзіўся на працягу кастрычніка — пачатку снежня 1920 года ў розных месцах — Слуцку і Слуцкім павеце, Мінску, Нясвіжы (пра гэта ёсць сведчанні мінскіх і нясвіжскіх семінарыстаў), Лодзі.

Пра тое, чаму і як вучылі ў Лодзінскай школе, успаміналі вельмі скупа: «абмундзіравалі, навучалі ваеннаму строю». Школа мела аддзяленне, дзе выкладалі на беларускай мове, што для навучэнцаў было вельмі важна («поступали в белорусскую балаховскую школу, в которую вербовала Белорусская Рада»), — гэта падкрэслівалі ўсе курсанты, удакладняючы тым самым, што не да палякаў ішлі на службу.

Аб гэтай школе ў Лодзі цікавыя ўспаміны пакінуў вядомы польскі пісьменнік Мар'ян Брандыс.[17] Мар'яну было крыху больш за дзесяць гадоў, калі ў сакавіку ці красавіку 1920 года маёр Білік з камендатуры горада прывёў да іх (дом бацькоў М. Брандыса знаходзіўся ў Лодзі па вуліцы Пшеязд № 20. — *Н.С.*) на кватэру чужога афіцэра ў круглай жорсткай фуражцы з карычневым скураным казырком, у карычнева-аліўкавым мундзіры, не падобным ні на адзін знаёмы яму польскі мундзір.

Маёр прадставіў: «Гэта не рускі, гэта — беларус, паручнік Сцяпан Савіцкі з добраахвотніцкай беларускай дывізіі генерала Булак-Балаховіча. Яны нашы саюзнікі і памагаюць біць бальшавікоў. Пасля сканчэння вайны яны хочуць стварыць Каралеўства Беларусі». «Я ведаў, — распавядаў М. Брандыс, — што паручнік Сцяпан вучыў на невядомых мне пляцах ваеннай справе новых салдат Каралеўства Беларусі».

У паручніка быў самавар. Над ложкам вісела карта Еўропы, алоўкам была выдзелена тэрыторыя Беларусі. Малы Мар'ян карту кепска разумеў. Невядомае Каралеўства Беларусь у яго думках месцілася за тымі дзвярыма, што вялі ў пакой паручніка Савіцкага. У шуфлядах стала Сцяпан хаваў форменныя гузікі, шнуры, крыжы на ланцужках, круглыя медалі, ордэнскія калодкі, бел-чырвона-





белыя стужкі. Да Савіцкага ў госці прыходзілі беларускія афіцэры, часцяком спявалі песню «А хто там ідзе?..».

Часцей за ўсіх прыходзіў капітан Коршук з сынам. Яны былі з-пад Баранавічаў, жонку Коршука забілі бальшавікі. Мар'ян запомніў, што гэты афіцэр да вайны быў загадчыкам школы ў сваёй вёсцы. Польскаму юнаку вельмі падабалася песня, што спявалі госці іх кватаранта:

*Балахович-Булак,*
*Атаман наш лихой,*
*Только слово скажи —*
*Мы пойдем за тобой.*

Мабілізаваная са Слуцка і павета моладзь у Лодзі правучылася каля двух месяцаў. У пачатку 1921 года курсантаў падзялілі на дзве групы. Асобы, якія мелі 6 класаў і больш, накіроўваліся ў Варшаўскую афіцэрскую школу, 4 класы — Быдгашч. У Варшаўскай школе тэрмін навучання быў вызначаны ад паўгода да 8 месяцаў, у Быдгашчы — год, але потым прадоўжылі да палутара. У Варшаву паехала каля 30 чалавек, у Быдгашч — каля 20. Астатнія раз'ехаліся хто куды. Адны, нелегальна перайшоўшы мяжу, вярнуліся на радзіму, іншыя засталіся ў Польшчы, трэція — зноў далучыліся да паўстанцкага руху.

У Варшаўскай афіцэрскай школе вучыліся (не ўсе, праўда, яе закончылі) юнакі са Случчыны: Кухто, Ліхадзіеўскі, Чыж, Шамяціла, Залескі, Вечар-Шчарбовіч, Калядка, Бараноўскі, Шулякоўскі, Янкоўскі і іншыя. У Быдгашч тыдні на два-тры пазней паехалі Арцыховіч, Пратасевіч, Лушчыцкі, Фядзюшка, Новік, Бачко, Карафа-Корбут і іншыя.

Наступныя падзеі не садзейнічалі ўздыму патрыятычных настрояў. І ў Варшаве, і ў Быдгашчы навучалі на польскай мове, рыхтавалі па праграме польскіх кадэтаў, хоць беларусы і былі вылучаны ў асобны звяз. Курсантам выдалі новае абмундзіраванне ахоўнага колеру, на пагонах літары «О», што азначала «школа афіцэраў», і выява дубовага лістка з мячом. Пятліцы былі абшыты жоўтым кантам, на фуражцы — выява польскага белага арла. Так падрабязна апісаў па патрабаванні следчага свой мундзір курсанта Кірыла Пратасевіч, які, па ўласным прызнанні, доўга захоўваў фотаздымак слуцкіх хлопцаў, што навучаліся ў Быдгашчы. Калі

пачаліся арышты, ён і іншыя, хто меў фотаздымкі, палічылі за лепшае знішчыць «рэчавы доказ».[18]

Ненадзейнасць і незразумеласць перспектывы навучання случакі адчулі вельмі хутка. Праз паўгода рознымі шляхамі яны імкнуліся на радзіму.

У лістападзе 1921 года курсанты ў Быдгашчы былі прыведзены да прысягі, аднак беларусы праваслаўнага веравызнання прысягаць Польскай дзяржаве адмовіліся, пасля чаго са школы былі звольнены. Дарэчы, Рыгор Калядка, былы курсант Лодзінскай, потым Варшаўскай школы, які пасля вяртання на радзіму быў прызваны ў Чырвоную армію і прыведзены да прысягі 1 мая 1922 года ў Смаленску пасля заканчэння ваенна-інжынерных курсаў, адмовіўся прысягаць і саветам.

Ваеннае міністэрства Польшчы не перашкаджала і тым, хто хацеў пайсці раней. Выпраўлялі партыямі па 2—3 чалавекі. «Я попал в третью партию, — успамінаў Карафа-Корбут, — и был уволен вместе с Бачко и Лемешем в мае 1921 г., направились сразу в Лодзь. Однако там нашей части уже не было».[19]



Барыс Шамяціла

Мясцовыя жыхары дапамагалі перайсці мяжу, дабрацца да дому. Многія з курсантаў, што вярнуліся ў БССР, у 1922—1924 гады былі асуджаны за нелегальны пераход граніцы, пераследаваліся як дэзерціры, адбывалі пакаранне ў турмах. Зноў перажылі мабілізацыю ў Чырвоную армію.

Пасля таго як знялі ваенны мундзір (беларускі, польскі, савецкі), лёсы іх склаліся па-рознаму. Большасць не адрывалася ад зямлі, жыла на гаспадарцы. Некаторыя скончылі савецкія ВНУ, настаўнічалі, працавалі медыкамі, эканамістамі і г. д. Разам былі (не ўсе, вядома) сабраны зноў у сценах ДПУ Беларусі ў красавіку—маі 1929 года, дзе вымушаны былі ўспомніць недалёкае мінулае, высокія мары юнацтва, імкненне паслужыць незалежнай дэма-





кратычнай Бацькаўшчыне. Потым — стандартнае абвінавачванне ў шпіянажы на карысць буржуазнай Польшчы і высылка на Салаўкі тэрмінам на тры гады.

Далейшы лёс большасці з асуджаных не прасочваецца. Вядома толькі, што пасля адбывання пакарання ў Салавецкім лагеры (СЛАГу) на радзіму (у Бабруйск) вярнуўся Язэп Сукала, у Новасібірскую вобласць на жыхарства быў сасланы Барыс Шамяціла.

Мінчанка Ірына Аляксандраўна Маркевіч і сёння не можа адшукаць сляды свайго бацькі Аляксандра Маркевіча, таксама былога вязня СЛАГу. Звестак пра яго і іншых «падзельшчыкаў» Філімона Арцыховіча пакуль няма.

## Крыніцы, заўвагі


1. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа «СВБ». Па паказаннях Ул. Пракулевіча, П. Жаўрыда, П. Чайкі.*
2. *Тамсама. Па матэрыялах крымінальных спраў А. Самусевіча, Ул. Пракулевіча, У. Дубіны.*
3. *Тамсама, крымінальная справа П. Бабарэкі.*
4. *БДА МЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 56, арк. 157.*
5. *Архіў КДБ РБ, па матэрыялах крымінальных спраў С. Бусла, П. Бабарэкі, Ул. Пракулевіча, Ю. Лістапада і інш.*
6. *Тамсама.*
7. *Кушаль Ф. Падрэзаныя крылы // Беларуская моладзь. 1964. № 22. С. 3.*
8. *Тамсама. С. 4.*
9. *Тамсама.*
10. *НАРБ, ф. 60, воп. 3. спр. 843, арк. 20.*
11. *Кушаль Ф. Падрэзаныя крылы. С. 4.*
12. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа Ф. Арцыховіча, А. Маркевіча і інш.*
13. *Тамсама.*
14. *Тамсама.*
15. *Тамсама.*
16. *Тамсама, крымінальная справа Ул. Карафы-Корбута.*
17. *Marian Brandys. Straznik Krolewskiego Grobu. Iskry. Warszawa, 1984.*
18. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа К. Пратасевіча і інш.*
19. *Тамсама, крымінальная справа Ул. Карафы-Корбута.*

## 8. Здраднік ці ахвяра абставін?

У гісторыі Слуцкага паўстання здрада Паўла Чайкі, камандзіра Слуцкага палка, факт даволі вядомы. Здрада — з'ява заўсёды прыкрая, якія б матывы яе ні выклікалі. Першы камандзір Слуцкага палка, чалавек, якому было даручана фарміраванне гэтай баявой адзінкі, — і здрадзіў! Чаму так адбылося? Наколькі справядлівыя гістарычныя ацэнкі гэтага ўчынку? Простая канстатацыя факта не задавальняе. Трэба аб'ектыўна прааналізаваць гэты выпадак, і галоўнае, у сувязі з падзеямі і абставінамі.

Высвятленне гісторыі лепш пачаць з трагічнага фіналу жыцця Паўла Чайкі. Сумны канец адлюстроўваюць наступныя дакументы:

*«Заключение от 7 января 1921 г. военследователя Особого отдела ВЧК при РВС 16-й армии (прозвішча следчага): виновен и расстрелять».*

*«Выписка из заседания тройки особого отдела 16-й армии. 7 января 1921 г. П. Чайка обвиняется в измене Советской власти и организации белогвардейского полка. Приговаривается к высшей мере наказания. Начальник — Ольский»* (Хутка Ян Ольскі зойме пасаду старшыні ЧК Беларусі. — Н.С.).

*Начальнику ОО 16-й армии. Рапорт.*

*Доношу, что согласно предписанию Вашего от 8 января с.г. и постановлению «тройки» Особотдела от 7 января с.г. о расстреле Чайки Павла Петровича, 31 года за преступления против Советской власти, последнее приведено в исполнение 9 января с.г. в 3 часа ночи. 9 января 1921 г.».*[1]

Вось як нечакана павярнуўся лёс. Здрадзіў адным, расстралялі іншыя, але за тое самае — за здраду. Справа «па абвінавачванню Чайкі Паўла Пятровіча ў службе ў арміі Слуцкай Беларускай Рады» (такую назву мае дакумент) змясцілася ўсяго на 18 аркушах.

Час быў ваенны, следчыя ЧК шмат не пісалі. Але ж сёе-тое з жыцця Паўла Чайкі можна ўведаць; дарэчы, большая частка дакументаў напісана ім уласнаручна.

Нарадзіўся 21 чэрвеня 1889 года ў вёсцы Лютовічы Вызнянскай воласці Слуцкага павета. Сялянская сям'я з 6 чалавек мела ўсяго 12 дзесяцін зямлі. Тры з іх выдзелілі Паўлу, калі ён ажаніўся.





У пошуках лепшай долі сям'я яшчэ да пачатку Першай сусветнай вайны апынулася на Далёкім Усходзе. У 1909 годзе Павел вытрымаў іспыты за 6 класаў гімназіі ва Уладзівастоку. Праз тры гады скончыў Іркуцкую вайсковую вучэльню. Да вайны служыў у Херсоне і Варонежы. У час Першай сусветнай вайны — афіцэр сувязі. За баявыя заслугі быў узнагароджаны ордэнамі 4-й і 3-й ступені Святой Ганны, 3-й ступені Станіслава і 4-й — Уладзіміра. Даслужыўся да чыну штабс-капітана. На фронце быў абраны сябрам салдацкага камітэта корпуса. Пасля развалу старой расійскай арміі вярнуўся дамоў, у Лютовічы, маючы пэўны багаж палітычных поглядаў (і, трэба дадаць, як і той бязладны час, даволі няўстойлівых і хаатычных).

Чайка сведчыў, што належаў да партыі эсэраў, але напрыканцы 1918 года выйшаў з яе шэрагаў, аб чым паведаміў праз газету «Бядняк». Гэты крок можна зразумець. У той час ён служыў памочнікам Слуцкага ваеннага камісара (пры чырвоных), пачаў схіляцца да бальшавікоў.

Тым не менш з прыходам палякаў у Чырвонай арміі не застаўся, а, як большыня случакоў, дэзерціраваў. Следчаму свае паводзіны тлумачыў працяглай хваробай на тыф. Але гэтая прычына дэзерцірства знайшлася амаль ва ўсіх, хто не хацеў адступаць з Чырвонай арміяй. 19 лістапада 1920 года Павел Чайка быў мабілізаваны Слуцкай Радай. Па 27 лістапада займаўся фарміраваннем палка.

У Асобаддзеле ЧК Чайка сведчыў, што ў Брыгаду пайшоў не добраахвотна, а пад пагрозай быць інтэрніраваным у польскі лагер для ваеннапалонных. Ці быў ён шчырым, калі гаварыў гэта следчаму? Хутчэй за ўсё — шукаў падставы, каб змякчыць «віну».

Адразу пасля Слуцкага з'езда Чайка ўвайшоў у склад ваеннай тройкі (Жаўрыд, Анцыповіч, Чайка), якая мела задачу ў сціслыя тэрміны вырашыць пытанне аб стварэнні войска. Ці можна быць ініцыятарам і арганізатарам пад прымусам? Чэкісты і не паверылі, асудзілі за «арганізацыю белага войска».

Са справы вынікае, што ўсе абавязкі афіцэра Слуцкай Брыгады Павел Чайка выконваў добраахвотна і свядома. Намаганнямі Слуцкай Рады, арганізатараў войска і яго асабістымі сфарміраваўся Слуцкі полк. Справа ладзілася.

Але сутнасць адзінства ў Слуцкай Радзе, наяўнасць дзвюх плыняў — балахоўскай (паланафільскай) і эсэраўскай (неза-

лежніцкай) — у кіраўніцтве паўстаннем, нават у штабе Брыгады, дзе большыню складалі афіцэры-балахоўцы, дэзарыентавала людзей, сеяла разгубленасць, выбівала грунт з-пад ног. Кожная з груповак прэтэндавала на вяршэнства. І тыя, і іншыя шукалі падставу, каб высветліць адносіны і пакончыць з хісткім двоеўладдзем.

На жаль, гэтая непрымірымая канфрантацыя вельмі адмоўна адбілася як на выніках паўстання, так і на лёсе асобных людзей. Першымі рассячы вузел праблемных дачыненняў з эсэраўскай вярхушкай Слуцкай Рады паспрабавалі балахоўцы. Начальнік контрвыведкі паручнік А. Мірановіч затрымаў ліст камандзіра Слуцкага палка Паўла Чайкі да былога супрацоўніка і сябра, ваенкома Вызнянскай воласці Кастуся Кецкі, эсэра, дарэчы. На жаль, галоўны дакумент, ліст Чайкі, які б пацвердзіў яго віну ці зняў яе, не знойдзены. Наконт зместу ліста існуе некалькі версій.

Сам Чайка на допыце сведчыў, што меў на мэце папярэдзіць Кецку аб велізарнай колькасці дэзерціраў з Бабруйскага, Слуцкага паветаў, якія цэлымі натоўпамі ўліваліся ў паўстанцкую Брыгаду. Галоўную прычыну гэтай з'явы Чайка бачыў у пагрозах арыштаў і расстрэлаў, якіх не шкадавалі чырвоныя камандзіры. І ён параіў былому сябру не пужаць людзей і не правакаваць такім чынам шматлікія ахвяры. У шчаслівы збег падзей як баявы афіцэр, франтавік ён не верыў.

Чайка быў незадаволены станам спраў у паўстанцкім штабе і палітычнымі гульнямі кіраўнікоў, прасіў у сябра парады і дапамогі. Такім чынам выказаўся аб змесце злашчаснага ліста Уладзімір Пракулевіч:

*«Я и Жаврид видели, как его повели в контрразведку. Последние слова, которые мы услышали, были: «Жаврид, спаси меня!»»*

Арыштаваны разлічваў на дапамогу Паўла Жаўрыда, ён спадзяваўся, што камісар Найвышэйшай Рады справядліва разбярэцца ў яго канфлікце з контрвыведкай, гэтым неафіцыйным штабам Булак-Балаховіча ў Слуцку.

Рэч у тым, што намаганнямі эсэраўскай часткі Рады Чайка атрымаў пасаду камандзіра Слуцкага палка насуперак жаданню іншага боку бачыць на гэтай пасадзе капітана А. Самусевіча. Дапамогі Чайка не дачакаўся. Жаўрыд у дзень арышту ад'ехаў у Варшаву па грошы. Пракулевіч, назіраючы ўзмацненне балахоўцаў, сабраў аднадумцаў на тайны сход. Пакуль абмяркоўвалі невыносны стан расколу і шляхі выйсця, Чайка пасля пяці дзён арышту, у ноч з 2 на 3 снежня 1920 года ўцёк, дарэчы, з дапамогай афіцэра контрвыведкі Мірончыка, які паспачуваў былому камандзіру.





Трэба зазначыць, што ў Асобы аддзел ВЧК пры 16-й арміі Чайка трапіў 12 снежня. Дзе быў дзесяць дзён, што рабіў, на якім баку шукаў прытулку — невядома. (Яшчэ адна акалічнасць — справа па абвінавачванні асабістамі распачата толькі 27 снежня. Пятнаццаць дзён на яго не звярталі ўвагі. Цікава, чаму? Можа не ведалі, хто трапіў да іх?)

Тым часам выпадак з Чайкай дапамог эсэрам перахапіць ініцыятыву. На сходзе па прапанове Пракулевіча вырашылі арыштаваць і судзіць камандзіра Брыгады Анцыповіча, начальніка выведкі Мірановіча і яго памочніка Рэўта. Першага за тое, што «не мог трымаць лінію Рады». Фармальнай зачэпкай для арышту двух іншых быў праступак Чайкі. Сход пастанавіў прызначыць на пасаду камандзіра Брыгады Антона Сокал-Кутылоўскага. Контрвыведку ўзначаліў афіцэр Беларускай Вайсковай камісіі Янушэнка.

3 снежня правялі арышты, на наступны дзень судзілі. Анцыповіча разжалавалі ў шараговыя, Мірончыка і Рэўта знялі з пасадаў. Дарэчы, апошні таксама хутка трапіў у ЧК і быў расстраляны. Паўлюкевіч і Мацэлі вымушаны былі падпарадкавацца Радзе. Тым больш што Пракулевіч, каб мець узброеную падтрымку, аддаў загад камандзіру батальёна А. Каўпаку зняцца з пазіцыі і з аддзелам у 80 чалавек прыбыць у Семежава, дзе разбіраліся з балахоўцамі. І гэта ў той час, калі праціўнік перамагаў.

Гісторыя здрады Паўла Чайкі — гэта толькі вонкавы бок падзеі. Няхай ускосна, але ў першую чаргу здрада хавалася ў бязглуздых амбіцыях і ўпартым нежаданні шукаць згоды, у непрадуманых паводзінах палітыкаў.

### Крыніцы, заўвагі

1. *Раздзел напісаны па матэрыялах крымінальнай справы Паўла Чайкі архіва КДБ РБ.*

## 9. На фронце

Пасля таго як польскія вайсковыя аддзелы пакінулі Слуцк, ваенная стаўка была перанесена ў Семежава. У мястэчка прыбыла Рада. Адусюль сцякаліся людзі. Па даных Пракулевіча, іх сабралася да 15 тысяч чалавек. Шмат з іх, не прыпыняючыся, рухаліся на Польшчу.

Напрыканцы лістапада ў Семежаве з'явіліся чалец Найвышэйшай Рады К. Цярэшчанка, старшыня Беларускай Вайсковай камісіі А. Якубецкі і штабс-капітан А. Борык. Правялі некалькі пасяджэнняў вузкім колам. Борык рашуча выступіў супраць дапамогі з боку Булак-Балаховіча. З прамовы Цярэшчанкі паўстанцы даведаліся, што не толькі ў Польшчы, але і ў шырокіх еўрапейскіх колах грамадства загаварылі аб паўстанцкім незалежніцкім руху ў Беларусі. Паўстанне павінна было прадэманстраваць рашучасць беларусаў дабіцца незалежнасці. «Мы хацелі, аднак, каб свет крыху падумаў аб нас. Чаму аб Літве, Латвіі, Польшчы клапоцяцца заходнія дзяржавы, а Беларусь пакідаюць сваёй долі?»



*Кузьма Цярэшчанка, прадстаўнік Найвышэйшай Рады БНР у Слуцку і Семежава, старшыня Часовага Белнацкама ў Мінску, 1920-я гг.*

Было запланавана стварыць для паўстанцаў друкарню. Польскія ўлады далі дазвол на адкрыццё яе ў Слоніме. Для працы туды быў накіраваны М. Касцевіч. Пакуль справы з друкарняй не вырашаліся, абмежаваліся гектографам. Выдалі дэкларацыю Рады, некалькі зваротаў да грамадзян, чырвонаармейцаў, сялян. Памножылі «Пагоню» Максіма Багдановіча, песню-гімн «Ад веку мы спалі» разам з нотамі. Мелі намер арганізаваць курсы беларусазнаўства.[1]

На другі дзень госці прымалі парад беларускіх аддзелаў. Паўстанцы з бел-чырвона-белымі нашыўкамі замест пагонаў





прайшлі з песнямі па плошчы. Цярэшчанка вельмі расчуліўся. Паўстанцы ішлі ў бой.

У канцы лістапада 1920 года Першы Слуцкі полк займаў участак ад Семежава да Вызны працягласцю прыкладна 20 кіламетраў. Баявыя дзеянні пачаліся 27 лістапада. Аддзелы 6-й роты Слуцкага палка на чале з падпаручнікам Н. Кернажыцкім падчас выведкі ў раёне вёсак Быстрыца, Верамейчыкі, Васільчыцы і Чарнагубава сустрэліся з бальшавіцкім выведвальным аддзелам. У выніку сутычкі захапілі палонных, ад якіх даведаліся аб размяшчэнні чырвоных. Працяглы бой завязаўся каля Васільчыц, бальшавіцкія аддзелы адышлі. Адзін са стральцоў быў цяжка паранены. Чырвонаармейцы згубілі трох забітых, трох параненых і адзін трапіў у палон.

Вёскі Лютовічы і Дашнава занялі пасля баёў аддзелы 5-й роты на чале з падпаручнікам Клішэвічам. У палон узялі пяць чырвонаармейцаў. 7-я і 8-я роты змагаліся за вёску Мацкевічы. У напрамку Капыля занялі таксама вёску Цімкавічы (аддзелы Грозаўскага палка). Страты былі з абодвух бакоў.

30 лістапада вялі баі на ўсход ад Слуцка ў раёне вёскі Ужыца (Бабруйскі павет). Чырвоныя аддзелы ўпарта абаранялі падыходы да чыгункі, падцягнулі новыя сілы.



*Макар Касцевіч (Макар Краўцоў)*

У Семежава тым часам усё прыбывалі ўцекачы, дэзерціры, ваеннапалонныя. Тых, хто паходзіў з беларускіх губерняў, не затрымлівалі, рэгістравалі і адпускалі. Частка з іх выконвала працу ў маёнтках, дзе ў асноўным паўстанцы бралі хлеб. Калі пачалося адступленне з Семежава, гэтыя людзі самі выстраіліся ў рады і пацягнуліся ўслед за адыходзячымі паўстанцамі.

Уцекачоў з расійскіх губерняў адпраўлялі ў польскія канцэнтрацыйныя лагеры згодна з дамовай з польскім ваенным кіраўніцтвам. Камуністаў, чырвоных камандзіраў, камісараў, як

правіла, расстрэльвалі па рашэнні ваенна-палявога суда ці па загадзе камандзіра брыгады. Васіль Русак сведчыў, што ўсяго расстралялі такім чынам 18 чалавек, у тым ліку чальцоў Вызнянскага рэўкама.

24 лістапада пачаўся запіс добраахвотнікаў у Брыгаду. Між тым узмацніліся непаразуменні паміж Радай і штабам паўстанцаў. Ваенныя бачылі, што на матэрыяльную дапамогу Найвышэйшай Рады разлічваць не даводзіцца. Узрастала колькасць прыхільнікаў Булак-Балаховіча, армія якога да гэтага часу была ўжо інтэрнавана, але генерал меў неблагія матэрыяльныя магчымасці. На ваенныя нарады штаб пазбягаў запрашаць чальцоў Рады, ігнараваў камісара Найвышэйшай Рады. Для сувязі штаба Брыгады з Радай абралі Ю. Сасноўскага. Абвастрэнне адносінаў вылілася ў адкрыты канфлікт, закладнікамі якога былі камандзіры Брыгады.

Камандаванне 16-й Чырвонай арміі вырашыла ачысціць нейтральную зону ад паўстанцаў. 4 снежня з раніцы ў яе межы былі ўведзены часці 8-й і 17-й дывізій. Кіраўніцтва барацьбой з паўстанцамі было ўскладзена на Рэўваенсавет 16-й арміі з падначаленнем яму ўсіх аддзелаў унутранай службы, губчэка, асобых аддзелаў і загараджальных аддзелаў. Пераадолеўшы ўпартае супраціўленне паўстанцкіх аддзелаў, чырвоныя занялі Вызну. 7 снежня пацяснілі паўстанцаў з Семежава.[2]

Стаўка і Рада перабраліся ў Подчыцы. Вёска знаходзілася ў нейтральнай зоне, у дзвюх вярстах ад савецкай граніцы. Тым часам адчулі недахоп харчу. Мясцовае насельніцтва не было такім шчодрым, як у Семежаве. Папрокі ў адрас Рады, што не змагла стварыць запасаў, узмацніліся. Канфлікт паміж штабам і чальцамі Рады — эсэрамі паглыбляўся, што адмоўна адбівалася на ходзе баявых дзеянняў. У Подчыцах доўга не затрымаліся, зноў пераехалі ў глыб нейтральнай зоны.

Наступным прыпынкам, дзе пратрымаліся да 15 снежня, былі Грыцэвічы.

Становішча ўскладнялася. Людзей касіў тыф. Брыгада стала падобная на качэўніцкі лазарэт. Пры гэтым адчуваўся вялікі недахоп харчу і лекаў. Як успамінаў Ул. Пракулевіч:

> *«Все мы, Жаврид, Якубецкий и я, крутились в поисках хлеба. Якубецкий вел переговоры с несвижским войтом об отпуске нам продуктов. Войт сначала спросил у варшавского руководства. Те отказали».*[3]





Паўстанцы былі вымушаны пачаць рэквізіцыі ў насельніцтва. Войта за непадпарадкаванне і прыхаванне харчу і падводаў Грыцэвіч распарадзіўся пакараць 25 ударамі бізуна. Аднойчы аддзел паўстанцаў сутыкнуўся з абозам, які вёз у Польшчу прадукты. Як высветлілі, агенты польскага інтэнданцтва рэквізавалі іх у насельніцтва Слуцкага павета. Спасылаючыся на загад Рады № 1, які забараняў вываз прадуктаў са Случчыны, ваяры адабралі нарабаванае. Адбыўся вялікі скандал з мясцовай уладай. Умяшаліся жандары і мясцовы войт Чарноцкі, тым не менш прадукты не вярнулі.

На жаль, здараліся прыкрыя выпадкі рабаўніцтва мясцовага насельніцтва. Так, А. Мірановіч, адхілены раней ад пасады начальніка контрвыведкі, атрымаў ад польскіх уладаў дазвол на фарміраванне коннага партызанскага аддзела. Людзей ён сабраў выпадковых. Частка гэтага аддзела ноччу напала на вёску Малыя Ражаны, абрабавала сялян. Забралі грошы і 10 коней.

Але суд Брыгады адрэагаваў адразу. Рабаўнікі былі жорстка пакараныя ў прысутнасці вяскоўцаў. Двух з іх — І. Мірончыка, які служыў у контрвыведцы Брыгады, і памочніка начальніка міліцыі (прозвішча невядома) — расстралялі як ініцыятараў грабяжу. Астатнім прапанавалі заключэнне ў польскія турмы (была дамова Беларускай Вайсковай камісіі, што асуджаныя судом Брыгады будуць адбываць тэрмін пакарання ў польскіх турмах за адсутнасцю ўласных) ці публічнае пакаранне бізунамі (25 удараў). Усе аддалі перавагу фізічнай экзекуцыі. І ў гледачоў з'явілася магчымасць назіраць незвычайнае відовішча ў польскім стылі.[4] м

Сутычкі з Чырвонай арміяй адбываліся ўвесь час. Звычайна гэта былі начныя налёты. 10 снежня быў учынены напад на вёскі Крывасёлкі і Навасёлкі, у ноч на 12-е — на вёску Старынь. Паўстанцы паспрабавалі адцясніць часці Чырвонай арміі. 12 снежня яны занялі Семежава, пры гэтым захапілі вялікія запасы снарадаў. Прыклад мужнасці прадэманстравалі стральцы 2-й роты Слуцкага палка, якой камандаваў паручнік А. Курыловіч. 17 снежня зноў былі ў Вызне, 19 адступілі, 20 снежня вымушаны былі пакінуць Семежава.[5]

Слабым месцам паўстанцаў была нястача зброі. Спачатку налічвалася ўсяго 300 карабінаў, якія былі перададзены польскімі ўладамі, і 500 вінтовак, якія прынеслі самі паўстанцы. Частка зброі была атрымана ад дэзерціраў або ўзята ў якасці трафеяў. Уся-

го ў снежні Брыгада мела ўжо 2000 вінтовак і 10 кулямётаў. Гэта было непараўнальна з добрым узбраеннем рэгулярных частак Чырвонай арміі. Нават шэсць браневікоў бралі ўдзел у наступленні на Слуцк. Удзельнік падзей успамінаў: «Без аружжа, без патронаў паўстанцы біліся, як львы. Роты паўстанцаў выходзілі на пазіцыі, маючы 30—40 стрэльбаў на роту, бо больш не было... пасланцы Брыгады прывезлі (ад Булак-Балаховіча. — *Н.С.*) шмат аружжа і баявога снараджэння, але было ўжо позна».[6]



***Андрэй Якубецкі***

Па стратэгічных меркаваннях камандаванне вырашыла перанесці стаўку на Палессе, у вёску Морач, што знаходзілася таксама ў нейтральнай зоне ў адной вярсце ад савецкай граніцы.

17 снежня Найвышэйшая Рада распарадзілася аб прызначэнні Андрэя Якубецкага Галоўнакамандуючым войскамі БНР. Загад № 1 за яго подпісам заклікаў «весці барацьбу, пакуль беларус не стане гаспадаром на сваёй зямлі», «да поўнага вызвалення Бацькаўшчыны ад захопнікаў», «ад ярма чужых народаў» і г. д. (загад быў надрукаваны ў «Беларускім слове» ад 6 студзеня 1921 года).

Другі і апошні загад Якубецкага як галоўнакамандуючага быў аб узнагародзе за баявыя заслугі афіцэраў Брыгады: Я. Залескага, А. Курыловіча, А. Бранавіцкага, Я. Багушэвіча, А. Міхновіча, П. Яновіча, Я. Сямашкі, Н. Кернажыцкага, І. Копеца.

У Морачы высвятленне адносін працягвалася. Вёска блізка знаходзілася ад Лунінца, былой стаўкі Булак-Балаховіча. Тут заставаліся яго аддзелы і склады са зброяй і амуніцыяй. Ул. Пракулевіч даведаўся, што балахоўцы рыхтавалі захоп штаба Брыгады. У шпіталі А. Паўлюкевіча хаваўся брат генерала Язэп Булак-Балаховіч. Дайшлі чуткі, што С. Булак-Балаховіч і чальцы БПК вырашылі арыштаваць Пракулевіча, Жаўрыда і Якубецкага, абвінавачваючы іх у паражэнні.





Для арышту эсэраўскай часткі Рады з Лунінца выйшаў аддзел Дзямідава ў колькасці 500 чалавек.

Але зводзіць рахункі ўжо не было часу. Часці паўстанцаў адступалі. З дня на дзень чырвоных чакалі ў нейтральнай зоне. Нехта прынёс навіну, што згодна з дамовай паміж Расіяй і Польшчай на Рыжскай канферэнцыі савецкія войскі атрымалі дазвол увайсці ў нейтральную зону на 77 гадзін «для ачысткі зоны ад бандытызму», таму спяшаліся.

Адыходзілі ў Заастравечча, у вёску на беразе Лані, пакідаючы за сабою трупы рэўкамаўцаў, расстраляных у ноч адступлення. Гэта былі людзі не мясцовыя, яны прыйшлі здалёк, некаторы час уладарылі ў Вызне па загадзе камандавання Чырвонай арміі.

У Заастравеччы сход афіцэраў выказаў недавер Радзе, абвінавацію ў здрадзе, адсутнасці дапамогі з боку ўрада БНР, няздольнасці забяспечыць паўстанцаў зброяй і харчам. Раду абвінавачвалі ва ўсіх няўдачах. Наступны і апошні прыпынак зрабілі ў Баранавічах. Тут чакалі прадстаўнікоў Найвышэйшай Рады.

Перад ад'ездам з Заастравечча прыхавалі дзве скрыні ручных бомбаў, каб не засталіся балахоўцам, — тыя самастойна пачалі ўтвараць партызанскія аддзелы. Бомбы потым знойдуць чырвоныя і пакараюць вяскоўцаў.



***Капітан Мікола Дзямідаў***

Нарада ў Баранавічах, на якой прысутнічалі Цярэшчанка, Жаўрыд, Пракулевіч, Якубецкі, вырашыла ліквідаваць паўстанцкую акцыю. Жаўрыд паехаў далей у Варшаву, каб распрацаваць план ліквідацыі рэшткаў Брыгады і ўмовы інтэрнавання. Брыгада павінна была адначасова перайсці польскую мяжу і быць інтэрнавана як армія БНР.

У стаўцы гэта рашэнне не было падтрымана большай часткай афіцэраў, якія настойвалі на працягу барацьбы з чырвонымі шляхам стварэння нерэгулярных дыверсійных аддзелаў. Тым не

менш пастанова аб ліквідаванні Брыгады была прынята. 28 снежня перайшлі мяжу і былі інтэрнаваны больш за 1,5 тысячы чалавек (па даных Ул. Пракулевіча). Рада Случчыны знаходзілася ў Баранавічах яшчэ месяц. Ад яе імя ў студзені 1921 года была прынята рэзалюцыя, якая, падводзячы вынікі падзеі, канстатавала:

1. Польшча аніякай адчувальнай дапамогі паўстанцам не аказала, наадварот, чыніла перашкоды.
2. Адзіным правамоцным урадам прызнаецца ковенскі ўрад БНР, астатнія — урад Кнорына, Найвышэйшая Рада, Беларускі Палітычны камітэт на чале з В. Адамовічам — незаконныя.
3. Генерал Булак-Балаховіч не мае законнага і маральнага права кіраваць беларускімі ваеннымі спалучэннямі, як самазванец і пагромшчык.

Гэтую пастанову Рады падтрымалі толькo 9 чалавек з 17. За апошнім подпісам — Івана Каўпака — Пракулевічу давялося ехаць у Нясвіж. Каўпак збіраўся ўжо «дахаты», як і бальшыня з паўстанцаў. Такім чынам, і напрыканцы акцыі не была дасягнута згода і не было выпрацавана кампраміснае рашэнне.

Частка Слуцкай Брыгады (каля 400 чалавек) на чале з афіцэрамі засталася ў нейтральнай зоне для працягу ваенных дзеянняў партызанскага характару. Некаторыя аддзелы ўвайшлі ў склад «Зялёнага Дуба», як, напрыклад, Паўла Бранавіцкага, Антона Самусевіча, Івана Мацэлі, Цімафея Хвядашчэні і інш. Барацьба працягвалася. Змянілася толькі форма супраціву. На змену паўстанцтву прыйшла антысавецкая партызанка і тэрор.

На беларускай нацыянальна-палітычнай нарадзе ў Празе 29 верасня 1921 года была прынята рэзалюцыя «Аб Слуцкім паўстанні». Падзея характарызавалася як «нацыянальнае паўстанне за незалежнасць Беларусі», «супраць Масквы» і «супраць Варшавы».

### *Крыніцы, заўвагі*

1. *Архіў КДБ РБ. Крымінальная справа «СВБ», паказанні Ул. Пракулевіча, П. Жаўрыда.*
2. *НА РБ. Ф. 60, воп. 3, спр. 843, арк. 22.*
3. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа «СВБ». Паказанні Ул. Пракулевіча.*





4. *Тамсама.*
5. *Тамсама, паказанні Я. Лагіновіча-Корчыка.*
6. *«Грамадзскі голас». 1925. 10 снежня.*

## 10. Інтэрнаваныя

Як засведчыў «камунікат штабу войск беларускіх», 28 снежня 1 Слуцкая Брыгада стральцоў войск БНР спыніла бой.[1] Пэўны час абяззброеныя польскімі ўладамі ваяры знаходзіліся ў м. Сіняўка, затым частка іх перадыслакавалася ў Вільню і ўвайшла ў Беларускі батальён войскаў генерала Жэлігоўскага. Камандаваў новай вайсковай адзінкай палкоўнік Гапановіч. Кіруючыя пасады ў батальёне занялі таксама афіцэры Брыгады. Першую роту ўзначаліў Сяргей Бусел. Камандзірам яшчэ адной стаў Антон Понтус. Беларускі батальён у Лодзі таксама папоўніла моладзь са Слуцкага палка.[2] Але хутка, літаральна праз два месяцы і тыя, і іншыя апынуліся ў лагерах Беластока і Брэст-Літоўска, 64 случакі склалі першую кампанію ў лагеры для інтэрнаваных у Дарагуску. З Лодзі частка адразу вярнулася дамоў.

Інтэрнаваных размясцілі ў лагеры, абнесеным у колькі радоў калючым дротам, пад дахамі кволых пабудоў — баракаў. Становішча ўчарашніх паўстанцаў не вельмі адрознівалася ад стану ваеннапалонных. Не дазвалялася выходзіць за межы лагера. Паручнік Іван Шурпа, які выконваў абавязкі камандзіра з беларускага боку, нават намаляваў і распаўсюдзіў схему межаў. Усё жыццё сканцэнтравалася на невялічкай тэрыторыі паміж станцыяй Дарагуск, чыгункай і балотам. За дрот выходзіць было катэгарычна забаронена.[3]

Да 20 красавіка 1921 года (да ліквідацыі кіраўніцтва кампаніі інтэрнаваных) усімі бакамі лагернага жыцця распараджаўся польскі бок. Толькі пасля згаданай даты каманда ўнутраным распарадкам перайшла да беларускага кіраўніцтва. Уся адказнасць за арганізацыю лагернага побыту была ўскладзена на камандзіра 1 Брыгады стральцоў войска БНР капітана А. Сокал-Кутылоўскага. Яго намеснікам быў прызначаны капітан Залескі. На кожным вуглу ўжо не стаялі польскія вартавыя. Але палёгка была толькі ў межах лагера. Выхад за вароты дазваляўся пасля 9-й гадзіны вечара па спецыяльным дакуменце.[4] Жорстка каралі за самавольны

сыход з лагера. Дэзерціраў лавілі. Нават у пачатку траўня ящчэ гвалтоўна вярталі за дрот.

Першы загад па кампаніі інтэрнаваных за подпісам афіцэра БВК, камандзіра кампаніі Івана Шурпы з'явіўся 1 сакавіка 1921 года. Загады, дарэчы, вызначалі ўсе бакі жыцця паўстанцаў «за дротам». Штодзённа назначаліся дзяржурныя па лагеры і кухні. § 5 загада № 1 паведаміў аб раскладзе дня.

За адсутнасць на вячэрняй праверцы чакала сур'ёзнае пакаранне. За парадкам сачылі дружыновыя, назначаныя загадам № 2.[4] Жаўнеры, што складалі першую кампанію, былі падзелены па тры дружыны. Першую ўзначаліў плютановы Самойлік, другую — сяржант Тамашынскі, трэцюю — жаўнер Ліхадзіеўскі.

Загады сведчаць аб сур'ёзным пакаранні за недысцыплінаванасць. «За неадданне ўстаноўленага гонару афіцэру караю 1 гадзінай карнага цьвічэння», «За самавольны уход з муштры і за невыкананне загаду» — арышт на 3 дні. 9 сакавіка прыбыла новая група жаўнераў з Беластока. 205 чалавек былі залічаны на ўсе віды давольства. З імі прыйшлі афіцэры 1 Брыгады стральцоў БНР: капітаны Язэп Залескі і Язэп Багушэвіч, паручнік Антон Крукоўскі, падпаручнікі Аляксандр Саваневіч і Сяргей Рогач.

Усе вайсковыя аддзелы, якія ўвайшлі ў склад кампаніі інтэрнаваных, захавалі свой ранейшы распарадак, свае адзінкі і назвы. Польскім кіраўніцтвам было адразу зазначана, што «падафіцэры і жаўнеры не маюць а ні малейшага падабенства жаўнерскага выгляду». «Дысцыпліна і вайсковая муштра адсутнічае...», «гамоняць сплошь па-расійску, што робіць надта дрэннае ўражанне».[6]

Для выпраўлення сітуацыі з дысцыплінай і лепшага прахаджэння вайсковай муштры ўсіх жаўнераў падзялілі на тры вучэбныя кампаніі, кампаніі на ўзводы, секцыі і г. д. Інструктарамі муштры былі назначаны сяржант Шчэнснік, плютановы Самойлік, капрал Сухоцкі, жаўнеры Варанецкі, Ліхадзіеўскі, Шчурко.

Муштра адбывалася на вучэбным пляцы пад асабістымназіраннем І. Шурпы. Афіцэрам таксама было прапанавана «штодзень з'яўляцца на вучэбны пляц для вайсковае муштры», прынятай у Беларускім войску. Хадзіць за снеданнем, абедам, вячэрай, а таксама на працу, вучэнні, у лазню кіраўніцтва патрабавала строем «у шыхту», пад камандай. Іван Шурпа клапаціўся паўсядзённа аб палітычным і маральным абліччы сваіх шарагоовых.





вых. Як мог вырашаў моўную праблему, у тым ліку і з дапамогай загадаў.

На камандныя пасады назначаліся толькі тыя, хто найлепш асвоіць вайсковую муштру Беларускага войска. Шараговым за добрые паводзіны і добрае веданне вайсковай службы давалі званне капрала (прыклад Васіля Варанецкага).[7]

Наладзіць гаспадарку было вельмі няпроста. Інтэрнаваныя скардзіліся на адсутнасць ежы, бялізны, вопраткі. Работа не аплочвалася. Не хапала неабходнага. Не было нават сталовай. Каб падтрымаць неабходны парадак, І. Шурпа патрабаваў харчавацца у бараках у адзін час і ўсім разам.[8]

Інтэрнаваныя былі абмежаваны ў сваіх магчымасцях знайсці дадаткова прадукты харчавання. Існаваў спецыяльны загад, які забараняў лавіць рыбу. За яго парушэнне былі пакараны шараговыя Мошек Фельдман, Франек Мікіцюк, Якуб Лерух.[9]

Не хаваючы задавальнення, савецкія газеты смакавалі цяжкасці побыту інтэрнаваных у польскіх лагерах.

> *«Баракі драўляныя, напалову ўраслі ў зямлю, з дзюркамі ў сценах і столі. Даўжыня кожнага барака — у 30 крокаў, шырыня — 20 крокаў. Падлога ў большасці зямляная. У некаторых бараках ёсць матрацы з саломы, у большасці — голыя нары. Норму паліва не даюць. У выніку — холад, хваробы, тыф».*[10]

Хворых амаль штодзённа накіроўвалі ў «ізбу хворых» у суправаджэнні афіцэра. Шпіталь знаходзіўся ў Жырардаве. Дактароў у лагерах не хапала. Хворыя часта знаходзіліся побач са здаровымі. Камандзіры строга сачылі за чысцінёю, што ва ўмовах распаўсюджання тыфу і іншых інфекцыйных хваробаў было неабходнаю мераю. За бруд у бараках і на тэрыторыі лагера аб'яўляліся вымовы.[11]

Уся нялёгкая гаспадарчая справа была ўскладзена на плечы так званага гаспадарчага афіцэра Беларускай брыгады падпаручніка Сямашкі.

Нягледзячы на ўмовы няволі і дрэнны побыт, культурнае жыццё не заціхала. Працавала бібліятэка, якую ўзначальваў Іван Маеўскі. У велікодныя святы (каталіцкія і праваслаўныя) у Брыгадзе адбываліся богаслужэнні. Вучэбную каманду строілі на пляцы для віншаванняў. Пісьмова віталі жаўнераў старшыня БВК А. Якубецкі і сябра БВК Якабіні. Ладзіць вечарыны дапамагаў

аддзел асветы БВК. З Васілём Русаком на чале падрыхтавалі і разыгралі на сцэне дзве камедыі — «Міхалка» і «Па рэвізіі». Невядомы карэспандэнт з ліку інтэрнаваных з захапленнем пісаў аб падзеях вечара велікоднага дня 17 красавіка:

*«Не маючы ніякіх крыніц, адкуль можна дастаць усё патрэбнае для сцэны, усе-такі зрабілі больш, чым можна было зрабіць, і паставілі спектакль у хораша дэкараванай ельнікамі і хвоямі залі»* [12]

Гасцямі беларускага вечара былі камандзір абозу, усе тутэйшыя польскія афіцэры з жонкамі і польскія жаўнеры, а таксама ў залі сабралася шмат цывільнай публікі, мясцовыя яўрэі і ўкраінцы. У спектаклях было занята амаль усё беларускае кіраўніцтва. У камедыі «Міхалка» ролю пана Карыты выканаў паручнік Шурпа, Міхалкі — жаўнер Самойлік. Удзячная публіка адзначыла добрае выкананне камедыі «Па рэвізіі» і акцёрскае майстэрства капітана Залескага, паручніка Сямашкі, прадстаўніка БВК Русака.



**Васіль Русак**

Моцна ўзнялі настрой прысутных з густам выкананыя спевы і дэкламацыі. «Хор пад кіраўніцтвам спрактыкаванага рэгента паручніка Сямашкі выканаў некалькі беларускіх песень... а пасля былі прадэкламаваны панам Русаком і некаторымі інтэрнаванымі афіцэрамі вершы Я. Коласа, Я. Купалы і А. Гаруна, — паведаміў чытачам «Нашай Думкі» адзін з удзельнікаў вечарыны. Уся культурніцкая праца была прасякнута «шчырым каханнем усяго свайго роднага» і цвёрдым намерам прэзентаваць чужынцам «сваю мову, сваіх паэтаў, літаратуру».[13]

З 10 траўня пачаўся працэс афіцыйнага звальнення. Першымі на радзіму выправіліся Сцяпан Самойлік, Васіль Варанецкі, Аляксей Сідарэвіч, Захар Шчурко. За імі паехалі ўжо дзесяткі





случакоў. Тыя, што засталіся, уступалі ў арганізаваныя II аддзелам 4-й арміі генерала Скерскага работніцкія дружыны, якія займаліся самымі рознымі справамі, напрыклад, адбудовай мастоў і рамонтам дарог у прыфрантавой паласе. З найбольш надзейных і антыбальшавіцкі настроеных асобаў ствараліся дыверсійныя групы, якія перакідваліся на бальшавіцкі бок з мэтаю падтрымання партызанска-паўстанцкай дзейнасці ў раёнах Слуцка і Бабруйска. Польскія ўлады лічылі, што яны маюць права арганізоўваць падобнага роду неканвенцыйныя акцыі, бо падобнымі метадамі ўжо здаўна карыстаўся савецкі бок, які высылаў дыверсійна-баявыя групы на тэрыторыі, кантраляваныя палякамі.[14]



**Капітан Іван (Ян) Мацэлі**

Пасля падпісання ў Рызе мірнага трактата паміж Польшчай і Савецкай Расіяй новая палітычная сітуацыя патрабавала вырашэння беларускай праблемы. Згодна з умовамі дагавора ніводзін з бакоў-удзельнікаў не мог падтрымліваць на сваёй тэрыторыі дзеянняў, супярэчных інтарэсам іншага боку. Польскія палітычныя сілы націскалі на вайсковыя ўлады дзеля таго, каб тыя спынілі падтрымку беларускіх антыбальшавіцкіх акцыяў. У выніку Галоўнае кіраўніцтва Войска Польскага аддало камандзіру 4-й арміі загад распусціць усе беларускія арганізацыі па абшарах дзеяння яго арміі. Усе дыверсійныя групы меліся быць раззброенымі, а работніцкія дружыны — распушчанымі. Іх удзельнікаў рэкамендавалася ў меру магчымасці выслаць за межы Польшчы,[15] што і было зроблена. Такім чынам яны апынуліся на шляху ў ГУЛАГ.

## Крыніцы, заўвагі

1. *БДА МЛіМ. Ф. 3, воп. 1, спр. 158, арк. 66.*
2. *Архіў КДБ РБ. Крымінальная справа С. Бусла.*

3. БДА МЛіМ. Ф. 3, воп. 1, спр. 165, арк. 4, 4 аб.
4. Тамсама. А. 41.
5. Тамсама. А. 6.
6. Тамсама. А. 12.
7. Тамсама. А. 13, 16.
8. Тамсама. А. 8.
9. Тамсама. Спр. 164, арк. 3.
10. «Савецкая Беларусь», 4 лютага 1921 года.
11. БДА МЛіМ. Ф. 3, воп. 1, спр., арк. 6.
12. «Наша Думка», 6 траўня 1921 г.
13. Тамсама.
14. Збігнеў Карпус, Вальдэмар Рэзмер. Слуцкае паўстанне 1920 г. у святле польскіх вайсковых матэрыялаў // Наша слова. 1996. № 45. С. 4.
15. Тамсама.

ЧАСТКА III

# Рэпрэсіі і працяг супраціву

## 1. Рэпрэсіі

Для сваёй абароны дыктатура пралетарыяту вельмі хутка стварыла моцны карны апарат.[1] Па сутнасці, уся уладная вертыкаль мела адной з галоўных сваіх функцый — знішчэнне апазіцыі ў сціслыя тэрміны. Барацьба вялася ў некалькіх накірунках. Эканамічная рэформа прадугледжвала замену харчразвёрсткі фіксаваным падаткам. Актывізавалася ідэалагічная служба па шырокім інфармаванні насельніцтва пра перавагі савецкага строя. Ў месцах актыўнага супраціву, як, напрыклад, на Случчыне, хадзіў агітацыйны бронецягнік, ладзіліся мітынгі і сходы з мэтай выкрыцця замежных ворагаў і мясцовых «бандытаў».[2] Адчыняліся хаты-чытальні, арганізоўваліся гурткі для распаўсюджвання новай ідэалогіі. Партыйны апарат узяў пад пільны кантроль працэс барацьбы за свядомасць тутэйшых. З мэтай прадухіліць налёты дыверсійных аддзелаў з тэрыторыі Польшчы напружана працавалі дыпламаты. Дзесяткі нот пратэсту былі накіраваны ў адрас польскага ўрада супраць падтрымкі ім палітычных банд. Арганізацыя знішчэння палітычнай апазіцыі па лініі спецслужбаў, выведкі і контрвыведкі мела адчувальныя поспехі.

Галоўнай формай змагання заставалася ўзброенае падаўленне паўстанцтва і партызанкі сіламі не толькі адмысловых аддзелаў, як ЧОН (часткі асобага прызначэння), заградаддзелы, але у першую чаргу рэгулярнай арміі. Раз'яднаныя высілкі розных уладных структур доўга не давалі пажаданага плёну. Узброены супраціў заставаўся сур'ёзным фактарам палітычнай і эканамічнай бяспекі. Негатыўны досвед быў прааналізаваны і ў выніку быў створаны галоўны орган «для планомерной и быстрой борьбы с бандитизмом на территории Белоруссии» — Рэўваенсавет (РВС) Мінскага раёна. У яго склад увайшлі народны камісар ваенных і ўнутраных спраў І. А. Адамовіч, камандуючы войск у Беларусі І. П. Убарэвіч

і старшыня ЧК Беларусі Я. К. Ольскі. РВС былі падпарадкаваны ўсе палявыя войскі Чырвонай арміі, аддзелы ЧК, міліцыі, ЧОН, якія знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі, а таксама палітычныя і карныя органы.

21 жніўня 1921 года была арганізавана падобная структура з аналагічнымі задачамі — РВС Віцебскага раёна ў складзе вайсковых кіраўнікоў Н. І. Какурына, П. Шварца і прадстаўнікоў мясцовых партыйных і карных органаў.

Адмысловым загадам РВС Мінскага раёна ад 11 ліпеня 1921 года ў Беларусі ўводзілася ваеннае становішча. Партызаны (бандыты), якія не жадалі добраахвотна скласці зброю, былі аб'яўлены па-за законам і падлягалі расстрэлу без суда і следства.[3] Сем'і «злосных бандытаў» згодна з загадам былі асуджаны на арышт і маёмасць — на канфіскацыю.

Беларусь была падзелена на шэсць боеўчасткаў, якія супадалі з межамі паветаў. Кіраўніку гэтай новай тэрытарыяльнай адзінкі падпарадкоўваліся ўсе вайсковыя часткі, міліцыя і апарат павятовых ваенкаматаў. Кожны ўчастак складаўся з больш дробных падраздзяленняў, апорнымі пунктамі якіх былі акупацыйныя гарнізоны. У найбольш «заражаных бандытызмам» мясцовасцях былі раскіданы лятучыя і знішчальныя аддзелы колькасцю да 50 чалавек з куляметамі.[4]

Апроч таго, у паветах ствараліся г. зв. паліткамісіі (палітычныя камісіі) у складзе сакратара павятовага камітэта камуністычнай партыі, старшыні выканаўчага камітэта, начальніка боеўчастка, ваенкама, загадчыка палітбюро і начальніка асобага аддзела штаба.

У аснову працы паліткамісій былі пакладзены жорсткія паслядоўныя выключна карныя метады выкаранення супраціву. Адзін з найбольш эфектыўных прыёмаў — выгнанне з радзімы. Механізмы дзеяння калектыўнага рэпрэсіўнага органа знайшлі яскравае адлюстраванне ў архіўных, адкрытых у часы перабудовы, дакументах.

З сакрэтных сховішчаў на дзённае святло з'явіліся цэлыя стосы замацаваных на паперы сведчанняў трагічнага лёсу слуцкіх паўстанцаў. На пажоўклых ад часу аркушах адмысловага фонду № 1842 са збораў Дзяржаўнага архіва Мінскай вобласці[5] разліта цэлае мора чалавечых пакут. 16 жніўня 1921 года, як вынікае з пратакола, ужо чацвёртае пасяджэнне Слуцкай павятовай паліткамісіі разглядала праблему пакарання ўпартага свавольнага



**Секретно.** 164

# Периодическая

Разведывательная сводка

**О БАНДИТИЗМЕ.-**

**Разведывательного Отдела Штаба Войск Минскаго Района.**

За период с 1 Ноября по 5-е декабря 1921 года.

96

5-го деабкря 1921 года.

№ 0564 /раз/ инф.

гор. Минск.

Профтехнич. школа зак. №6690

*Зводка штаба войск Мінскага раёна*

насельніцтва. У склад гэтага рэпрэсіўнага органа ўваходзілі старшыня павятовага выканкама (на гэты момант Слуцкі выканкам і паліткамісію ўзначальваў нейкі «тов. Владимиров»), сакратар мясцовага партыйнага камітэта, ваенны камісар, іншыя ваенныя, партыйныя і савецкія начальнікі. У той дзень вырашаліся пытанні:

*«1. О выселении семейств бандитов (чытай — паўстанцаў) за пределы Западного фронта. 2. О порядке их выселения. Единогласно постановили:*

*Семейство бандита Николая Белодедова, происходящего из деревни Закальное Заболотской волости, выселить в Архангельскую губернию, имущество конфисковать...»*

Такі ж лёс чакаў «семейство бандита Павла Броневицкого из граждан деревни Завщицы Старобинской волости, Митрофана Богдана из деревни Рачкавичи Чаплицкой волости, Ивана Копотя с хутора Ржавка Гресской волости, Иосифа Скоробогатого с хутора Березовый Угол Гресской волости». Начальніку палітбюро (спецыяльны аддзел у павятовай міліцыі) даручалася ў двухдзённы тэрмін сабраць дакладныя звесткі аб складзе сем'яў, якія падлягаюць высылцы, аб колькасці маёмасці. Сакратару павятовага камітэта Ахманаву прадпісвалася:

*«Выделить четырех товарищей для командирования по месту жительства семейств бандитов, для конфискации их имущества и распределения с председателями волостных исполкомов и сельсоветов между семействами красноармейцев и демобилизованных».*

Далей падзеі развіваліся згодна з пратаколам. Ужо на наступны дзень начальнік штаба Заходняга фронту камісар Вянцоў адсылае дэпешу начальніку боеўчастка 5 (Слуцкі павет), у якой патрабуе «срочного распоряжения о наряде на два вагона на станцию Слуцк к 15 часам (высяленне меркавалася ажыццявіць 20 жніўня 1921 года. — *Н.С.*) ...для эвакуации семей бандитов в Архангельскую губернию». Сакратар паліткамісіі ўдакладніў, што:

*«Всех членов семей будет до 30 человек, продовольствия и вещей будут иметь около 120 пудов. Выселяемым разрешается иметь с собою 12 личных вещей на одну семью (?!) и продовольствия на каждого едока на месяц».*





Шлях гэтым людзям, пазбаўленым дома і радзімы, прадбачыўся няблізкі.

Праўда, запланаваныя тэрміны, што тыпова для сістэмы, якая нараджалася, зрываліся. Старшыня паліткамісіі Уладзіміраў спяшаецца паведаміць у штаб войск Мінскага раёна, што «к выселению семейств бандитов приступят 25 августа, к тому дню будут нужны вагоны». Згодна з бальшавіцкай логікай, бацька павінен быў несці адказнасць за сына, сын — за бацьку, жонка — за мужа, брат — за брата і г. д. Так, за ўзброенае супраціўленне, у чым улады абвінавацілі Іосіфа Скрабагатава, пацярпелі не толькі яго жонка і дзеці, але і стары бацька. Дом і гаспадарка старога былі разбураны, а сам ён высланы з родных мясцін на поўнач Расіі.



**Узвод 4-га батальёна спецыяльнага прызначэння. Мінск, 1922 г.**

У справе «О выселении семейств бандитов» захаваўся мандат, уладальнік якога (нехта Бяльчыцкі) быў камандзіраваны ў Грэскі павет «для приведения в исполнение постановления политкомиссии». Трэба адзначыць, што ў мандаце спіс асоб, якія падлягаюць высяленню, прыкметна папоўніўся з дня пасяджэння. Прынамсі, што ні дакумент у гэтай справе, то новыя імёны ахвяр. Да гвалтоўнага высялення «рыхтавалі» па прысудах рэўтрыбуналаў, пастановамі асобых армейскіх аддзелаў і г. д. Першапачаткова названая колькасць «30» усё ўзрастала.

Але і 25 жніўня вагоны на адрас Архангельскай ЧК не пайшлі: не ўсіх сабралі, не ва ўсіх адабралі маёмасць.

А між тым прыгаданы Бяльчыцкі паспеў прыехаць на месца і напісаць падрабязную справаздачу аб зробленым. «Прибыл 21 августа в Гресский волревком... с председателем ревкома тов. Душевским отправились на хутор Ржавка к бандиту Ивану Копотю». Упаўнаважаны выявіў, што Копаць не такі багаты, як меркавалі павятовыя ўлады.

> *«...Вместо 4-х лошадей оказалась только одна, а вместо семи коров — две коровы и одна телка».*

Застаецца толькі гадаць, куды падзелася астатняя жывёла. Ці была яна ўвогуле ў такой колькасці? Найбольш праўдападобна, што гаспадар у чаканні няпрошаных гасцей пусціў каштоўнае роў пад нож. Дакументы сведчаць, што найбольш каштоўнае з канфіскаванага — коні, павозкі, буйная рагатая жывёла — паступала ў распараджэнне павятовага, радзей — губернскага начальства. Для размеркавання паміж сем'ямі «беднейших красноармейцев» заставалася зусім няшмат. З маёмасці Антаніна Цвіркі аматары дармаўшчыны атрымалі «два пальто, семь кож, две овцы». У справаздачы Бяльчыцкага паведамлялася таксама, што «мать бандита Копотя была доставлена в уездную политкомиссию». У разрабаваную хату пасялілі прышлых дэмабілізаваных чырвонаармейцаў.

> *«Для их прокормления оставили 4 борозды картошки. Остальное имущество доставили в волревком».*

Сям'я Скорабагатава з пяці чалавек была адпраўлена ў Слуцкую палiткамісію. Новыя гаспадары, якім улады пакінулі на пракорм «10 гусей и одну свинью», аселі на жыхарства. Апусцелы, разбураны хутар Цвіркі заняла сям'я парабка. Жонка і дзеці гаспадара хутара (6 чалавек) былі адпраўлены ў павет, дзе ўсіх рэпрэсіраваных збіралі разам для пагрузкі ў вагоны і адпраўкі «по адресу Архангельской ЧК», як сведчыць дакумент за нумарам 4 разглядаемай намі справы «О выселении...».

Не ўсе з асуджаных на ссыланне скараліся са сваім лёсам. Так, сям'я Мітрафана Богдана пайшла ў лес, забраўшы па магчымасці ўсю маёмасць. Людзі палічылі за лепшае ўцякаць у Польшчу, чым ехаць на поўнач. Савецкая ўлада аб'явіла іх «па-за законам»





і распарадзілася, «если таковые придут в деревню, немедленно арестовать и доставить в ПОО № 4» (Памежны асобы аддзел г. Слуцка — *Н.С.*).

Новыя старонкі справы знаёмяць з новымі ахвярамі трагедыі. 2 верасня (1921 г.) слуцкая палiткамісія паведаміла штабу:

> *«Для выселения вновь намечено 16 семейств... политбюро заканчивает обвинительный материал. Вагоны будут требоваться, когда семейства будут сгруппированы в Слуцке. При требовании будет указано количество людей и имущества».*

Асуджаныя на ссылку звярталіся да ўлады аб памілаванні.

З заявы Аляксандра Сасноўскага, жыхара хутара Плянты Старобінскай воласці, у палiткамісію пры Слуцкім выканкаме ад 11 кастрычніка 1921 года:

> *«2 октября с.г. меня арестовали и конфисковали все мое имущество... приказали садиться на воз и не дали мне ничего съестного... сидел с женой и детьми неделю в Старобине. По дороге в Слуцк просил у знакомого хлеба.*
>
> *В Слуцке меня опять не допросили. За что страдаю с детками? Старался, чтобы себе и власти хлеба было в достатке. В прошлом году выполнил разверстку, хотя она была тяжелая, едва дождали нового хлеба, а теперь весь продналог выполнил... у меня только жена и трое маленьких детей, бандитов нет. Пусть спросят у людей в деревне, кроме тех, которые после конфискации воспользовались моим добром...*
>
> *Прошу разобраться в моей вине и отпустить меня одного попросить у знакомых хлеба и для детей чего-нибудь. Мне с детками маленькими очень трудно, от своего добра пришлось терпеть голод, придется терпеть и холод».*



**Камера у Мінскай турме. 1920-е гг.**

Рэзалюцыя на заяве Сасноўскага сведчыць аб тым, што ўлада не пашкадавала яго дзяцей.

Спрабавалі пераканаць павятовую паліткамісію, якая асудзіла іх на высяленне, аднавяскоўцы А. Сасноўскага Франц і Казімера Шыдлоўскія, Сямён Сасноўскі, Антон і Валяр'ян Ярмолінскія, Ганна Скалабан і Ефрасіння Храловіч:

*«Вины за собой не чувствуем. Выселения не заслуживаем. Мы люди трудовые. Последние две находились в услужении у землевладльцев-католиков ради куска хлеба. Среди нас старики и дети. Тяжело нести незаслуженную кару. Высылка в чужой край хуже смерти. Пощадите невинных людей и несчастных детей!»*

Не пашкадавалі! Антон Іванавіч Ярмолінскі, 76 гадоў, прасіў дазволу на пераезд у Дзякавіцкую валасць Мазырскага павета: «Хоть помру там, где прошла большая часть моей жизни». Не дазволілі. Глухія былі камісары і да просьбаў аднасяльчан, асуджаных на выгнанне. Людзі ў той час яшчэ не баяліся пастаяць за бліжняга, паспачуваць суседу. Праз дзесяць гадоў такога ўжо не назіралася. Страх перасіліў міласэрнасць. А вось у 1921 годзе ўсе



**Супрацоўнікі ЧК г. Бабруйска. 1920-е гг.**





жыхары Гладкоўска-Шабунскага сельсавета на чале з яго старшынёй Ісідорам Аляхновічам ручаліся за Ярмолінскіх, Шыдлоўскіх, Сасноўскіх і прасілі аб іх вызваленні. З суседніх валасцей і сёлаў адгукнуліся людзі на бяду.

*«Мы, граждане села Завишии Вызнянской волости, просим за бывшего соседа Франца Шидловского, он не из тех, кого обыкновенно называют паном, относился к гражданам по-товарищески. Со своим племянником, ушедшим за границу, был в раздоре».*

Абставіны вымушалі людзей ачарняць блізкіх, хоць і гэтая хлусня ўратаванню не садзейнічала.

А вось рэзалюцыя (приговор) Крывіцкага сельскага таварыства Старобінскай воласці.

*«1921 года, октября 12-го дня. Мы, нижеподписавшиеся, граждане деревни Кривичи даем настоящий приговор гражданину хутора Плянты — Липники Валерьяну Ярмолинскому и его семейству: сыну Владиславу и дочерьми Брониславе, Мальвине, Станиславе, Евгении в том, что они люди честные, в политические дела не вмешивались. Вредным человеком он никогда не был, что и удостоверяем своими подписями».*

Аднак савецкая ўлада палічыла іх небяспечнымі.

Многія з людзей, асабліва адукаваных, разумелі ўвесь жах таго, што адбываецца, спрабавалі хоць неяк перасцерагчы ўлады. Дармаўшчына, раздача насельніцтву канфіскаванай маёмасці дэмаралізуе грамадзян, правакуе да лёгкай нажывы, нараджае жаданне будаваць свой дабрабыт на чужым горы, стварае цэлыя шэрагі яўных і тайных даносчыкаў, якія ўжо грызуцца між сабою з-за чужой маёмасці, — пра гэта пісаў старшыня Слуцкага выканкама ветэрынарны ўрач 42-га Старобінскага ўчастка К. Шукевіч.

Пра маштабы гвалтоўнага высялення сялян меркаваць па дакументах дадзенага фонду цяжка. Статыстычныя дадзеныя разрозненыя і сціплыя. Добра захаваліся толькі дакументы, якія адлюстроўваюць падзеі ў Слуцкім павеце. Таму першапачаткова склалася ўражанне, што рэпрэсіі тут — помста бальшавікоў за падзеі лістапада—снежня 1920 года і ўпартае супраціўленне случакоў рэжыму вясной—летам 1921 года.

Аднак вось дакумент, які сведчыць пра тое, што 31 жніўня 1921 года начальнік штаба фронту Жыхалёў патрабаваў ад старшынь



Схема арганізацыі цэнтральнага органа па барацьбе з бандытызмам на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь





паліткамісій усіх 6 «боеучастков» падрабязных звестак аб ходзе высылкі і канфіскацыі маёмасці.

10 кастрычніка ваенкам Вейржыхоўскі з штаба фронту ад старшынь усіх шасці павятовых паліткамісій да 24 гадзін таксама запатрабаваў дакладныя дадзеныя аб выгнанніках па наступных пунктах:

*«1) какое количество лиц подлежит выселению из пределов боеучастка (уезда), указав количество мужчин, женщин, детей отдельно; 2) сколько из них трудоспособных или нетрудоспособных; 3) какое количество груза должно быть перевезено с ними (в пудах)».*

У гэтай жа тэлефанаграме штаба паведамлялася, што тэрміны высялення зноў адсоўваюцца на два тыдні, таму «если предназначенных к выселению негде держать (цытую дакумент. — *Н.С.*), их надлежит направлять в Минск для помещения в концлагерь».

Другі пункт у гэтым дакуменце невыпадковы. Як гэта ні дзіка, сем'і дзялілі. Як правіла, працаздольныя мужчыны, радзей — жанчыны, якія не мелі маленькіх дзяцей, адпраўляліся ў Архангельск на тэрмін не меньш чым год. На конт гэтага ўсе павятовыя савецкія, партыйныя і ваенныя начальнікі атрымалі тэлеграму, якая змяшчае ўказанне намесніка старшыні сакрэтнага аператыўнага ўпраўлення ВЧК за № 143378/с ад 24 верасня 1921 года.

Тых, хто не падлягаў ссылцы ў Архангельскую губерню, накіроўвалі ў распараджэнне Валагодскай губЧК. Для гэтых няшчасных людзей ваенкам Янсан 18 кастрычніка 1921 года папрасіў падагнаць да пунктаў пагрузкі 30 вагонаў «по следующему расчету: на ст. Минск — 12 вагонов, ст. Бобруйск — 5 вагонов, ст. Пуховичи — 6 вагонов, ст. Слуцк — 2 вагона (в который раз! — *Н.С.*), ст. Калинковичи — 1 вагон». Дакумент настолькі красамоўны, што каментарыі, пэўна, лішнія. Колькі ахвяр, колькі пакут, слёз! Гэта 1921 год, не 1937-ы, грамадзянская вайна закончылася ці працягваецца? Каго з кім? Новай улады з народам?

Рэжым жорстка помсціў за супраціў, выкараняў усе памкненні да незалежнага самастойнага гаспадарства, да пабудовы ўласнага беларускага дома.

### Крыніцы, заўвагі

1. *Пытанні арганізацыі адмысловага карнага апарата і дзяржаўнай сістэмы па ліквідацыі паўстанцтва ў гэтай працы закрануты толькі ў агульных рысах. Праблема, безумоўна, патрабуе грунтоўнага разгляду.*
2. *Звезда. 1921. 3 августа.*
3. *Звезда. 1921. 13 июля.*
4. *Е. Марьенков. Бандитизм в Белоруссии и борьба с ним. С. 171.*
5. *Нарыс напісаны на падставе матэрыялаў гэтага фонду.*

## 2. Лістападаўшчына

Так званая «лістападаўская справа» наўпрост звязана з гісторыяй Слуцкага збройнага чыну. Праз невялікі адрэзак часу пасля паўстання шэрагі маладзёжнага супраціву папоўніліся былымі падлеткамі. Сумны досвед папярэднікаў іх не спыніў. Лістападаўцы далі прыклад арганізаванага змагання ва ўмовах, здавалася б, безнадзейных. З моманту Слуцкага паўстання савецкая ўлада ўжо набрала моц і ўдасканаліла рэпрэсіўны апарат. Учынак моладзі нарабіў вялікага шуму ў краіне і за яе межамі. Неаднаразова акцыя моладзі прыцягвала ўвагу самых розных людзей с самай рознай матывацыяй. Ёсць сэнс прасачыць факты з'яўлення ў інфармацыйнай прасторы гэтай «справы».



***Юрка Лістапад. Здымак 1918—1920 гг.***

10 снежня 1925 года ў мінскіх газетах з заявай аб выкрыцці «контррэвалюцыйнай групы ў Слуцкай і Менскай акругах» выступіў намеснік старшыні ДПУ Беларусі Іосіф Апанскі. У сакавіку наступнага года судовы працэс над лістападаўцамі вельмі падрабязна асвятляўся ў рэспубліканскай прэсе. У сакавіку 1943 года ў «Беларускай газеце», што выходзіла ў акупаваным немцамі Мінску, з'явіўся артыкул «З мінулых дзён» за подпісам Р. Крушына (сапраўднае





прозвішча Р. Казак, удзельнік, як пабачым далей, гэтых самых «мінулых падзей»).

У сувязі з кампаніяй рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій, крымінальная «Лістападаўская справа» разглядалася Мінскай абласной пракуратурай. У той жа час на старонках часопіса «Полымя» з'явіліся публікацыі Сымона Скаруліса «Лістападаўская справа» і Якуб Колас. Працяг трагедыі» (Полымя, 1992, № 4; 1994, № 3). Пракуратура незалежнай Беларусі адмовіла лістападаўцам у рэабілітацыі. Яны па-ранейшаму, згодна з заключэннем пракуратуры, «обвинялись в соответствии с материалами дела правильно».

Вялікі розгалас у грамадстве выклікаў артыкул навукоўца-гісторыка Г. Д. Кнацько «Лістападаўцы» («Народная газета», 25 жніўня 1994 г.). Увагу даследчыцы прыцягнуў дакумент, які сведчыў, што па слядах публікацыі былога сябра маладзёжнай групы Р. Крушыны ў «Беларускай газеце» савецкія спецслужбы зрабілі адпаведныя высновы. Адзін з лістападаўцаў, Нічыпар Лукіч Мяцельскі быў знойдзены асобым аддзелам партызанскай брыгады ў вёсцы Цітва Рудзенскага раёна, дзе, дарэчы, ён працаваў у школе ўсе гады пасля вызвалення, і расстраляны 6 красавіка 1943 года. Г. Д. Кнацько ставіць вострае пытанне: ці не быў артыкул Р. Крушыны правакацыйным, і выклікаць расправу над гэтымі людзьмі — ці не галоўная яго мэта? Пытанні, пытанні, іх вельмі шмат у гэтай гісторыі.



***Марыя Стагановіч (Лістапад) з сяброўкай. 1925 г.***

Часткова праліваюць святло на таямніцы, звязаныя з лістападаўцамі, тры крымінальныя справы асобы, па прозвішчы якой справа атрымала сваю назву — Георгія Лістапада.

Пасля артыкула Г. Д. Кнацько адгукнуліся дзеці былых асуджаных па лістападаўскай справе. Дачка Нічыпара Мяцельскага, Алена Нічыпараўна, не паверыла, што яе бацька ў маладосці быў актывістам вызвольнага руху. Яна была вельмі маленькая,

калі ён быў забіты савецкімі партызанамі. Маці Алены ніколі не ўзгадвала прычыны і абставіны смерці мужа. Дзеці выраслі перакананыя, што бацька быў звычайным савецкім чалавекам. І першай іх рэакцыей на публікацыі пра лістападаўцаў было абурэнне. Хутка эмоцыі змяніліся жаданнем ведаць гістарычную праўду і дачакацца адпаведнай справядлівай ацэнкі грамадствам падзей, — удзельнікамі якіх былі іх бацькі.

У жніўні 1925 года ў вёсках Селішча, Еўлічы, Дарасіно, Вялікая Сліва, Каты на тэлеграфных слупах былі расклеены антысавецкія адозвы. ДПУ распачало следства. Пункты распаўсюджання антысаветчыны былі адзначаны на адмыслова падрыхтаванай мапе. Побач з назвамі вёсак следчы напісаў прозвішчы людзей з эсэраўскім ці яшчэ якім антысавецкім мінулым. Таму спачатку былі затрыманы падазроныя асобы: жыхары вёскі Ісерна Улас Дубіна і Мікалай Чапурко. Але хутка былыя эсэры былі вызвалены. Следчыя не знайшлі фактаў іх дачынення да чарговай гучнай справы.



**Юрка Лістапад з жонкай Марыяй. Слуцк, 1925 г.**

Лёс лістападаўцаў таксама звязаны з гэтымі курсамі. Лістапад выкладаў беларускую мову, а Нічыпар Мяцельскі, Міхась Дземідовіч, Міхась Макарэня, Мікалай Казак — тыя, хто разам з ім селі на лаву падсудных, былі яго вучні.

Вёскі, дзе спецорганы знайшлі ў 1925 годзе «контррэвалюцыю», і раней лічыліся небяспечнымі і палітычна ненадзейнымі. Так, мужчынская большасць узгаданай вёскі Сёлішча ў лістападзе 1920 года апынулася ў шэрагах паўстанцаў. Селішчанская моладзь — Міхась Міхайлоўскі, Кірыла Пратасевіч, Язэп Дзядзюшка, Філімон Арцыховіч і іншыя навучэнцы Слуцкай гімназіі запісаліся ў г. зв. «балахоўскія» вайсковыя школы.





У Еўлічах і наваколлі дзейнічаў аддзел Банадыся Казака. Ён са сваімі партызанамі заўсёды знаходзіў прытулак і харчаванне ў мясцовых сялян.

Сяляне мелі магчымасць у тыя жнівеньскія дні прачытаць звароты наступнага зместу:

*Сяляне. Браты родныя. Абрыдла нам панаваньне чужынцаў: камуністаў і паноў. У часе будучай вайны нам трэба паўстаць і збудаваць вольную незалежную Беларусь.*

*Вазваніе!*

*Таварышы, раней нас душыў пан, а цяпер душыць бальшавік. Сяляне, годзі вам спаць! Прачніцеся! Годзі езьдзіць па вашым карку жыдом. Ськіньце ўсіх. Збудуйце свой уласны кут. Зрабіце Беларусь вольнай. Зрабіце сваю ўладу, а не жыдоўскую. Аб'яднайцеся!*

На другіх слупах можна было прачытаць і больш аб'ёмныя звароты. Юнакі нагадвалі пра ахвяры палітычных і эканамічных рэпрэсій:

*«Браты-сяляне! На вашых вачах адбылася рэвалюцыя. Вы бачылі тое, што не бачылі вашы дзеды. Семь гадоў пануюць у нас бальшавікі. За гэты час колькі вашых сыноў і братоў пайшло на тот свет. Колькі знішчана дабра, спалена будоўлі, адабрана ад вас коней, кароў...»*

Улётка заклікала да аб'яднання і калектыўнага непадпарадкавання ўладзе:

*«Сяляне! Гуртуйцеся целымі вёскамі і не плаціце падаткаў... кіньце сварыцца! Арганізуйцеся ў сялянскі хаўрус!»*

Называлі сапраўдных ворагаў, палымяна заклікалі адозвы:

*«Ваш вораг не сусед, а бальшавік! Зноў турмы запоўнены сялянамі за падатак і інш. Зноў селянін павінен знімаць шапку перад савецкім панам! Далоў новых паноў — камуністаў!»*

Аўтары ўлётак прадэманстравалі веданне і разуменне палітычнага моманту, глыбокую патрыятычную паставу.

*«Нас сілком падзялілі. Адну частку Беларусі душаць польскія паны, а другую — маскоўскія бальшавікі. Нашай працай, працай гаротнага беларускага селяніна кормяцца ўсе дармаеды! Сяляне падумайце над праўдаю! Далоў ашуканцаў і далоў паноў-камуністаў. Мы хочам быць самі над сабою гаспадарамі... Жыве Беларусь!»*

Бальшавіцкая ўлада адрэагавала імгненна: знайсці і знішчыць «контрреволюционное гнездо». Упаўнаважаны Слуцкага акружнога аддзела ДПУ Беларусі Траяноўскі 18 кастрычніка прымае пастанову аб арышце жыхароў вёскі Панічы Міхася Дземідовіча і мястэчка Пагост — Ціта Курбыкі, настаўніка школы. Апошні судом будзе апраўданы і выступіць у якасці сведкі, выкажа незадаволенасць паводзінамі юнакоў-летуценнікаў, якія ад мары перайшлі да дзеянняў у абсалютна непадыходзячы для гэтага час.

Вялікія намаганні ДПУ прыклала для надання працэсу як мага большага розгаласу. Да следства і суда былі прыцягнуты вядомыя ў Беларусі людзі: М. Гарэцкі, Зм. Жылуновіч, П. Жаўрыд. Спачатку, што відавочна, быў намер сабраць «кампрамат» на знакамітага паэта Якуба Коласа. Справа ў тым, шго ў арыштаваных Макарэні і Мяцельскага знайшлі яго лісты. Абодва — яго вучні, у 1924 годзе паэт выкладаў на слуцкіх настаўніцкіх курсах беларускую мову. Яны звярталіся да дзядзькі Якуба з просьбамі аб дапамозе пры працаўладкаванні. Клапатлівы і ўважлівы да спраў моладзі, ён нікому не адмаўляў у дапамозе. Прымаў юнакоў у сябе дома, карміў, пакідаў на начлег. Так прыхільна Колас сустрэў Нічыпара Мяцельскага, калі ён прыехаў у Мінск даведацца пра курсы беларусазнаўства і паказаць знакамітаму песняру свае вершы. Як у ваду глядзеў Колас, калі перасцерагаў хлопца і раіў Мяцельскаму не пісаць палітычных вершаў.

Ведаў Колас і Георгія (Юрку) Іванавіча Лістапада, разам працавалі ў Слуцку на курсах. Цаніў яго, як добрага выкладчыка і беларусазнаўцу. Паказанні пісьменніка падчас следства былі вельмі стрыманымі, нікому не нанеслі шкоды.

Арыштаваныя юнакі ў адзін голас заявілі, што лічаць Якуба Коласа «першым нацыяналістам» (у сэнсе сапраўдным беларусам), для абуджэння беларускай свядомасці моладзі, яны перакананы, трэба чытаць творы Коласа. Паказанні сведак,Максіма Гарэцкага і Паўла Жаўрыда, таксама не мелі на мэце пагоршыць становішча падсудных. Яны добра ведалі Лістапада па ранейшых сумесных палітычных справах.

*«Лістапада мы лічылі ідэйным нацыяналістам. Случакоў (удзельнікаў Слуцкага паўстання. — Н.С.) шанавалі».*

На супрацоўніцтва з паланафільцам П. Алексюком, на думку Гарэцкага, Лістапад згадзіўся з прычыны матэрыяльных праблем.





Не перабольшваў ролю Лістапада ў Слуцкім паўстанні, а наадварот, адмаўляў яму у актыўнасці пад час падзей, якімі вельмі цікавілася следства, Павел Жаўрыд. Ён таксама зазначыў, што ў 1921 годзе ў Вільні настаўнікі былі без працы, ішлі да тых, хто адчыняў беларускія школы. Ад польскіх уладаў толькі арганізацыя П. Алексюка «Краевая сувязь» мела дазвол на адкрыццё школ. Да яго і вымушаны былі пайсці Лістапад у той час. Лістапад лічыўся сярод беларусаў «чалавекам сумленным...» — падкрэсліў Жаўрыд.

Не ўсе сведкі і прамоўцы паводзілі сябе так прыстойна. Вельмі абцяжарыла становішча падсудных палітычная экспертыза па справе «лістападаўшчына» Зм. Жылуновіча. Лістапад, паводле яго вываду, «адыграў значную ролю ў дапамозе чыннасці паўстанцаў», мэтай якіх было «не дапусціць у Случчыну Чырвонай Арміі і Савецкай улады», стварыўшы праз паўстанне «Вольную незалежную



***Нічыпар Мяцельскі (стаіць першы злева) з жонкай (сядзіць унізе злева) сярод настаўнікаў (1931 г.)***

Беларусь»... Гэта была праўда, але не на карысць... Змест улётак і часопіса «Наша слова» ён знайшоў «контррэвалюцыйным і пагромным»... Калі б ведаў Зміцер Фёдаравіч, што хутка і сам зойме

месца ахвяры... З планаў ДПУ раздуць справу на ўсю Беларусь нічога не атрымалася, прыйшлося абмежавацца памерамі аднаго раёна, Слуцкага.

23 кастрычніка арыштавалі Георгія Лістапада і Мікалая Казака. 26 кастрычніка — Нічыпара Мяцельскага і Міхася Макарэвіча. Вобыск у Лістапада амаль нічога на даў. Знайшлі толькі фотаздымкі Я. Коласа, часопіс «Вольная Беларусь» за 1918 год (рэд. Я. Лёсік), працы самога Лістапада і яго ліставанне з рознымі людзьмі.

Галоўны «кампрамат» знайшлі ў Міхася Макарэні — рукапісны часопіс «Наша слова». Маладым людзям моцна карцела пакласці свае думкі на паперу. Для гэтай мэты і аб'ядналіся ў так званае «Беларускае выдавецкае таварыства «Згода»» (вельмі красамоўная назва для нясхільных да салідарнасці беларусаў). Як сведчыць прадмова, выдаўцы мелі сваёй мэтай «высвятленне розных галін літаратуры... гісторыі, палітыкі, культуры». Лічылі неабходным у першую чаргу расказаць аб сабе, сваіх поглядах, жыццёвых планах. Часопіс змяшчаў не толькі вострую крытыку рэчаіснасці, але і прапановы, як яе змяніць і палепшыць. Галоўнымі аб'яднальнымі лозунгамі маладых аўтараў былі — «Няхай жыве вольная Беларусь!» і «Роднае слова — пашырайся!». У якасці ўступнага слова творцы часопіса выкарысталі вядомы верш Янкі Купалы «Роднае слова». Ад іх — «песняроў-вызваліцеляў» імкнуліся яны прыняць эстафету змагання.

Першыя старонкі часопіса знаёмяць з жыццяпісам «кожнага з чальцоў таварыства «Згоды»». Міхась Дземідовіч пад псеўданімам Пачатковы Міхась змясціў кароткі нарыс свайго жыцця.

*«Нарадзіўся 24 чэрвеня 1905 г. у невялікім засценку Панічы (назвы родных мясцін зашыфраваны) Слуцкага павету Меншчыны ў небагатай сям'і хлебароба. Раней бацькі мае жылі у вёсцы Мікалаеўшчына, але у 1894 годзе пачулі аб продажы зямлі ў двары нейкай князёўны Панічы, прадаюць свой кавалак зямлі у Мікалаеўшчыне Міцкевічу, дзеду беларускага паэта Я. Коласа — Міцкевіча і перабіраюцца на жыццё ў Панічы. Пад наглядам бацькі і маці Міхась хутка уцяміў літары і прайшоўшы лемантар, на другую зіму пайшоў вучыцца па хатах у сваім засценку разам з другімі хлапцамі».*

Потым юнак набываў адукацыю ў народнай школе м. Пагост, сельскай Даросінскай школе. Увосень 1918 года паступіў у Слуцкую расійскую мужчынскую гімназію. Хвароба памяшала вучобе.





Праз год скончыў валасную Пагоскую гімназію. Увосень 1924 г. паступіў на агульнаадукацыйныя курсы ў Слуцку. Дарэчы, там усе нашы героі і сустрэліся.

Наступны «кароткі нарыс жыцця» на старонках часопіса пакінулі Апавядальнік Алесь і Малы Язэп (браты Рыгор і Мікалай Казакі). Браты нарадзіліся (старэйшы 20 лістапада 1907 года, малодшы 20 кастрычніка 1908 года) у сям'і паштовага чыноўніка ў Вільні. «Узгадаваліся з калыскі на расійскай і нямецкай мовах». «Сваёй-жа роднай беларускай мовы не чулі ніводнага слова... Вясковага жыцця зусім не ведалі». Першая сусветная вайнаператварыла іх родны горад у лазарэт. «Паветра напоўнілася пахам крыві, стагнанннем, крыкамі і плачам». Такія ўспаміны захаваліся з дзяцінства. Сям'я знайшла прытулак у свайго дзеда ў вёсцы Еўлічы Слуцкага павета. Тут сутыкнуліся з сялянскім цяжкім побытам, першы раз пачулі роднае слова.

Але вайна пагнала далей. Пасля вандровак па расійскіх гарадах прыпыніліся ў Разані, дзе браты пачалі вучыцца ў г. зв. «Пушкінскай вучэльні», трохгадовай народнай школе, потым працягвалі навучанне у Разанскай гімназіі. У 1918 годзе пачаўся голад. У пошуках паратунку сям'я Казакоў вярнулася на Беларусь, у Еўлічы, дзе пасля адыходу немцаў запанавала савецкая ўлада. Калі новая ўлада «занялася хатнімі справамі», як зазначылі браты, у Слуцкай гімназіі пачалі вучыць на беларускай мове. Захапленне хлапчукоў родным словам, як ні крыўдна, не падзялялі бацькі. Яны адцураліся ад яе. Сышлі з сцежкі роднай, блукаючы на чужынскай невядомай дарозе, — з горыччу запісалі юнакі. Затое паразуменне знайшлі сярод сваіх сакурснікаў.

Моўную праблему ўздымае і аўтар наступнага «абеглага саманарыса жыцця» Самотны Міхась, ён жа Міхась Макарэня, ураджэнец вёскі Сухаўцы Слуцкага павета. Ён таксама быў навучэнец Слуцкай расійскай мужчынскай гімназіі, пачынаў вучыцца яшчэ тады, калі беларуская мова не ўжывалася.

*«Калі сам гаварыў на ей, то ўсе смяяліся з мяне... і толькі ў 1923 годзе пад уплывам аднае асобы (хто гэта асоба, не цяжка здагадацца) я зрабіўся гэтакім і цяпер толькі пазнаў сапраўднае жыцце».*

Іншыя крыніцы дапаўняюць кароткія жыццяпісы юнакоў. Небагатыя бацькі першага аўтара Міхася Дземідовіча мелі пяць

дзесяцін зямлі і дванаццаць душ едакоў, працаздольныя былі толькі бацька і старэйшая сястра Міхася.

Як прызнаўся ў час следства, «пісаў адозвы супраць савецкай улады таму, што блага жылося. Савецкая улада не звяртае ўвагі на беднату. З курсаў звольнілі за невыплату грошай за навучэння. Хадзіў босым. Сярод сакурснікаў быў адметны. Кепска вучыўся па матэматыцы, вусна сказаць нічога не мог, як засведчыў Ціт Курбыка, але пісаў вельмі па-мастацку, таму Лістапад адносіўся да яго прыхільна. На курсах лічыўся лепшым беларусазнаўцам. Астатняе да яго, як да каменя нічога не прыставала», — здзіўляўся Курбыка.

Пасля арышту адразу прызнаўся, што пісаў і расклейваў адозвы разам з вучнем Слуцкіх курсаў Дубоўскім вакол вёскі Пагост. Тэкст улёткі супадае з думкамі з яго нататніка.

> *«Супраць волі сціскаецца сэрца, калі бачыш увесь здзек над сялянамі. Калі ж Беларусь пабачыш ты ўдзячнасць за сваю цяжкую працу? Помста, помста неабходна! Вочы нам адкрыліся, туман пачаў рассейвацца. Мы ў рэшты-рэшт убачылі ўсю праўду... Мы скінем гэтае ярмо...»*

У будучым Міхась бачыў сябе сялянскім правадыром. З пісьма Ціту Курбыке (знайшлі пры вобыску):

> *«Народ наш у няволі. Аб'яднаць народ нам (!?) дапамогуць нацыя і рэлігія. Трэба падтрымліваць беларускі рух нават сярод буржуяў і паноў».*

З усіх духоўных каштоўнасцей малады палітык прыярытэт надаваў нацыянальнай ідэі. У тым жа лісце да Курбыкі разважаў, што лозунг, вакол якога ўзнялі партыйцы лямант — «Лицом к деревне» на самай справе — пусты гук.

Ставіўся з павагай да рускіх класікаў. Пры вобыску ў бацькавай хаце ў Панічах знайшлі творы Горкага, Пушкіна, Гогаля, Ганчарова, Крапоткіна («Хлеб і воля»).

Маючы на ўвазе некаторыя дзівосы ў яго характары, менавіта да Міхася Дземідовіча ў камеру падсадзілі нейкага Лукашова, які старанна вучыў хлопца, што казаць і што пісаць, асабліва пра Якуба Коласа і Юрку Лістапада. Але ў лютым 1926 года, напярэдадні суда, Дземідовіч адмовіўся ад сваіх ранейшых паказанняў, спасылаючыся на прымус з боку Лукашова і запужванні расстрэлам





і арыштам бацькоў. Падкрэслім, што гэтаму контррэвалюцыянеру было 20 год, калі ён паўстаў перад савецкай фемідай.

Наступным «дзяржаўным злачынцам», таксама аўтарам часопіса — братам Рыгору і Мікалаю Казакам было адпаведна 18 і 17. Рыгор Казак (Апавядальнік Алесь), ён жа Рыгор Крушына, аўтар ужо ўзгаданага артыкула ў «Беларускай газеце», што выходзіла ў акупаваным нямецкімі фашыстамі Мінску. У 1925 годзе ён, навучэнец Мінскага педтэхнікума пасля першага допыту 25 кастрычніка быў з-пад арышту вызвалены. Са слоў Рыгора следчы запісаў наступнае:

> *«...В 1924—25 учебном я, учась на Слуцких общеобразовательных курсах, участвовал в легальном кружке по беларусоведению, старшиной коего был Макарэня Михаил, секретарем — Демидович Михаил. С течением времени из указанного кружка выделился нелегальный антисоветский кружок, в состав которого входили: Макареня, Демидович, Казак Николай, Ничипор Мяцельский и др., чьих фамилий не знаю. Макареня и меня вербовал в этот кружок. Макареня говорил мне, что у них имеются револьверы, хотел дать и мне оружие, но я отказался. Брату моему Макареня оружие показывал действительно. Цель кружка — создание незалежной Вольной Белоруссии. Макареня был в тесной связи и даже в дружбе с Листопадом, и я подозреваю, что Листопад идейно влиял на Слуцкую молодежь, пошедшую по нелегальной дороге...»*



Рыгор Казак (Р. Крушына). Здымак канца 1920-х гг.

Наколькі задаволілі следчага паказанні Рыгора Казака, невядома. Гледзячы на змест, можна меркаваць, што тэкст склаў сам следчы, а юнак толькі падпісаў паперу. Рыгор скардзіўся, што за выхад з гуртка яму пагражалі і называлі «здрадчыкам». Месца на лаве падсуднага зойме яго малодшы брат Мікалай, які заявіць следчаму, што ў адозвах «як думаў так і пісаў» і расклейваць не баяўся, бо савецкая ўлада дае свабоду слова.

Сям'я Казакоў была небагатая, на 4 чалавекі 4 дзесяціны дрэннай зямлі і вельмі вялікі падатак — тры рублі. Слуцкая школьная рада вымагала вялікія грошы за навучанне. Бачыў, што на курсах мала сялянскіх дзяцей, у асноўным з багатых яўрэйскіх «спекулянтаў і лавачнікаў». На курсах мала ўжывалася беларуская мова. Мікалай тлумачыў прычыну стварэння часопіса тым, што рэдкалегія сценгазеты «Чырвоны курсант» не хацела змяшчаць творы на беларускай мове.

Свае важкія прычыны выступіць з пратэстам супраць улады былі ў дзевятнадцацігадовага Міхася Макарэні, які заявіў на судзе:

*«...быў супраць парадкаў, таму што бачыў, як савецкія аддзельныя адказныя прадстаўнікі, асабліва партыйныя, не лічыліся з інтарэсамі бедных сялян. Адзін з такіх пабіў маці. Жыццё бацькі дрэннае. Ён не меў магчымасці ў 23—24 гадах заплаціць падаткі. Па суду спагналі ў два разы больш...»*

А ў дзённіку, што быў знойдзены пры вобыску (разам з адозвамі і пісьмамі Казакоў і Мяцельскага) запісаў:

*«Цяпер становіцца ясным, што ніякага раўнапраўя няма. Раўнапраўе толькі на паперы. Не скінуў савецкай улады, не будзе раўнапраўя. ...Там пачынаецца класавая барацьба, дзе аднаму класу (пралетарыяту) даюць большыя правы».*

На пытанне следчага, каго ён лічыць сапраўдным беларусам і каго не сапраўдным (дарэчы, гэтае пытанне задавалася кожнаму арыштаванаму) Макарэня адказваў, што «хто прызнае беларускую мову і літаратуру, сваю культуру — сапраўдны беларус. Толькі з дапамогай сваёй мовы народ можа ўзняцца». «Несапраўдныя — гэта тыя, хто па нацыянальнасці беларусы, але супраць беларускай мовы». У пісьмах да сяброў (братоў Казакоў, Мяцельскага) распавядаў, як доўга пераконваў сялян Бесядзіч (Лагойскі р-н), дзе працаваў настаўнікам, у неабходнасці вучыць дзяцей на роднай мове, тым больш, што, захапляўся Міхась, самі яны гавораць на мове чыстай, «як у даўнейшых беларускіх кніжках».

У Бесядзічах, дзе юнак збіраўся выхоўваць сапраўдных беларусаў-незалежнікаў (аб гэтым намеры ён паведмляў у пісьме Мікалаю Казаку):

*«...Культуры толька: вяршкі... некаторыя камсамольцы пьюць самагон і не ходзяць у хату-чытальню».*





*«Сельрада добрая (праўда, толькі пісар. — Н.С.), а старшыня такі гад...»*

З гонарам пісаў сябрам, што ў яго школе «летась быў сам Я. Купала».

З самой справы вынікае, што натхніцелем учынку моладзі быў крыху старэйшы за астатніх Нічыпар Мяцельскі. Можна меркаваць, што менавіта ён падпісваўся проста літарай «Н» ці псеўданімам Н. Смутны. Яму належыць шэраг артыкулаў з крытыкай палітычнай рэчаіснасці: «Камуністычны інтэрнацыянал», «Што трэба беларусу?» і інш. Свайго жыццяпісу Мяцельскі ў «Нашым слове» не пакінуў. Вядома, што ён нарадзіўся ў весцы Сукаўчыцы Слуцкага павета, адкуль, дарэчы, паходзіў актыўны ўдзельнік Слуцкага паўстання Сяргей Бусел. Пасля заканчэння слуцкіх курсаў працаваў настаўнікам у Кавалевічах Шацкага раёна.

Аб выразных апазіцыйных настроях маладога настаўніка да рэчаіснасці сведчыць яго дзённік. Чэкісты пераклалі дакумент на рускую мову. Запісы тычыліся становішча вёскі, сацыяльных праблем грамадства. Галоўны клопат свядомай моладзі, лічыў Мяцельскі, падрыхтавацца да будучых ваенных канфліктаў, у якія, ён быў перакананы, будзе ўцягнуты СССР.

*«...З першых дзен вайны прыдзецца весці наступную працу: — неабходна выкарыстаць усе элементы незадаволеных савецкай уладай; — з чальцоў аддзела ствараць сапраўдна свядомых беларусаў...», што можна зрабіць з дапамогаю асветніцтва.*

Асобныя аддзелы павінны аб'яднацца ў войска і арганізаваць штаб, які павінен выпрацаваць агульны план барацьбы і нацыянальную ідэю. Адчуваецца, што падлеткам Нічыпарназіраў праявы партызанкі.

*«Уся наша праца павінна праходзіць пад лозунгам «За свабоду!». Свабода слова і друку, свабода веравызнання — вось гарантыя ад прыгнёта, ад крыўды, улады... Да чаго апусціўся наш народ! Кучка рознага зброда адабрала у народа галоўнае — волю...» — запісаў свае думкі настаўнік.*

Ён марыць аб захопе ўлады сялянамі... Але разумее, што гэта толькі мара.

*«Сялянскі рух вельмі слабы... Нам прыдзецца шмат працаваць...»*

*«Савецкая ўлада зусім не адпавядае сваёй назве — «рабоче-сялянской»... Гэта толькі шыльда (Далей Мяцельскі прыводзіць доказы недэмакратычнасці выбараў)».*

*«Больш справядлівыя выбары праходзяць у капіталістычных странах», — лічыць ён і падрабязна запісвае свае прапановы рэфармавання выбарчай сістэмы.*

*«Гэты роздум мае сваёю мэтай высветліць усе тыя заданні свядомага беларуса, жадаючага працаваць на карысць Бацькаўшчыны... і паказаць шлях свядомаму беларусу, па якому трэба ісці працаваць...»*

*На думку лідара, «першае і агульнае заданне — разумець селяніна, ведаць яго эканамічныя, культурныя і духоўныя патрэбы. Без гэтага немагчыма лічыць сябе сапраўдным сынам вёскі.*

*А першы абавязак — гэта звярнуць увагу на самога сябе, выхаваць сябе ў пэўным напрамку, пашырыць свой маральны светапогляд. Трэба навучыцца быць далікатным, праўдзівым, і галоўнае — навучыцца шчыра кахаць чалавека... Трэба навучыцца так падыходзіць к селяніну, каб ён мог смела адчыніць сваю душу, паказаць болькі свайго серца...*

*...Трэба перакаваць селяніна ў патрэбнасці арганізавання, трэба будзіць думку аб вялікай карысці ўзаемнай дапамогі, як матэрыяльнай, так і духоўнай».*

Увогуле трэба зазначыць, што сярод «вещдоков» шмат аналітычных запісаў, змест і высновы якіх пакідаюць моцныя ўражанні, шмат вершаў. Прырода, побыт роднай вёскі, замалёўкі з паўсядзённаці сялянскай працы і г. д. адлюстраваліся ў творах юнакоў. Але большасць вершаў маюць палітычны змест і характар заклікаў да актыўнага супраціву. Напрыклад:

**РАНЕЙ І ЦЯПЕР**

(разважанні мужыка)

*Скінуў я кайданы*
*Іх надзелі жыды*
*Зноў на мяне*
*...*





**ХТО ТАКІЯ?**

(сатыра)

*Хто сядзіць у самаходзе*
*Гэтак паважна і чынна,*
*Хто крыкунчык у народзе*
*Адгадай сукіна-сына?*
*Камунар!*
*У каго «сабачка» з боку,*
*Ад якое гінуць людзі?*
*Хто баіцца зрабіць кроку*
*За «свабоду» ставіць грудзі?*
*Камісар!*
*Хто згубіў у народзе веру,*
*Жар чужой рукой зграбаё,*
*Піша тое на паперы, —*
*Што на свеце не бывае?*
*Камуніст!*
*«Вызваліцель» хто сялянства,*
*Што падатак выціскае,*
*Хто найгоршы нават панства*
*Дым у вочы усім пускае.*
*Камуніст!*

*Апавядальнік Алесь. 30.04.1925 г.*

**СКАРГА НА ЛЁС**

(прызыў)

*Панавалі паны,*
*Усё забралі яны,*
*Камуністы пануюць*
*Народ весь гвалтуюць.*
*Хочам*
*збудаваць*
*Мы ўласны свой кут*
*Чужаземных гасцей*
*Непатрэбна нам тут!*

*Малы Язэп. 11.04.1925 г.*

**ЗМАГАЙСЯ ЗА ЛЕПШАЕ ЖЫЦЦЁ**
(прызыў селяніна)

*Селянін! Бяры ты сякеру*
*Пракладай сабе прасторны шлях*
*Ты моцны, магутны — я веру*
*Не перамогуць ні расіяц, ні лях.*
*Апавядальнік Алесь. 15.04.25 г.*

**КРЫЎДЗІЦЬ КОЖНЫ ЦЯБЕ**
*Як жывёла жывеш!*
*Эй, сялянскі сынок!*
*Ты не плач, не сумуй*
*Хто пакрыўдзіць цябе*
*Таму не даруй!*
*Малы Язэп. 11.06.1925 г.*

Вельмі небяспечныя вершы, яскравае сведчанне аб сапраўдных настроях моладзі і адносін да ўлады. Такая крытыка вельмі дорага ім каштавала.



**Юрка Лістапад з дачкой Нінай. Здымак 1929 г.**

Якую ж ролю адыграў у гэтай гісторыі Георгій Лістапад? На судзе было абвешчана:

*«Имеются данные, уличающие Листопада в участии в организации действий в направлении свержения советской власти путем массового возбуждения населения... Имеются данные, уличающие Листопада в работе разведывательных органах в Польше».*

Аднак доказы такіх высноў цяжка адшукаць на старонках крымінальнай справы. Улётак Лістапад не пісаў, не распаўсюджваў. Не ўдзельнічаў у «выданні» часопіса «Наша слова». Нават невядома (не даказана), чытаў Лістапад часопіс ці





не. Дземідовіч даваў яму нейкі сшытак і прасіў ацаніць, але, як засведчыў Георгій Іванавіч, адразу не знайшоў часу і паклаў гэты сшытак разам з іншымі. А калі прыбег бацька Мікалая Казака і сказаў, што сына арыштавалі, то кінуў гэты небяспечны часопіс у агонь. Хлопцы адмовіліся прызнаць за Лістападам хаця б частку віны.



**Сямейнае фота: Н. Мяцельскі з жонкай і сынам. Здымак пачатку 1940-х гадоў.**

Як сведчыў Мікалай Казак:

*«Лістапад ідэйна ўплываў на слуцкую моладзь. Вучні называлі яго патрыётам».*

Найбольш верагодна, што Лістапад быў пакараны хутчэй за ўсё як аўтарытэтны настаўнік, уплывовы, ідэйны выхавацель маладых патрыётаў. Старэйшы за астатніх (ён нарадзіўся ў вёсцы Варкавічы Слуцкага павета ў 1897 годзе, дарэчы, у беднай сялянскай сям'і), ён меў пэўнае мінулае, якое вельмі не падабалася ўладам. Гэтае мінулае і не даравала ўлада.

Лістапад прымаў заўважны ўдзел у Слуцкім паўстанні; па прапанове вядомага эсэра Васіля Русака, быў абраны ў Слуцкую Раду. Як сведчыў Павел Жаўрыд, і раней Лістапад часцяком заходзіў у Нацкамітэт, пытаўся аб справах, раіўся наконт школьных і іншых спраў.

Падчас паўстання адказваў за забеспячэнне стральцоў Слуцкай Брыгады харчаваннем. Тры дні ад пачатку акцыі, як сведчыў ён



Сямейнае фота: Ю. Лістапад з жонкай Марыяй і дачкой Нінай. 1929 г.





сам, прымаў ад насельніцтва бульбу, збожжа, капусту і інш. У Семежаве займаўся справамі арганізацыі вайсковых адзінак. У Грыцэвічах, наступным пункце, куды адступілі паўстанцы, Лістападу давялося адшукваць лекі. Стральцы хварэлі на тыф.

Па даручэнні Рады ездзіў у Варшаву за грашыма.

Пасля паражэння паўстання і інтэрнавання Першай Брыгады ВНР у Польшчы, арганізатары падзеі працягвалі палітычную дзейнасць у Вільні. Там жа апынуўся і Лістапад. Яго турботамі былі адчынены беларускія школы ў Вілейскім і Ашмянскім паветах. Па прапанове С. Рак-Міхайлоўскага займаў пасаду школьнага інструктара і сакратара Віленскіх настаўніцкіх курсаў.

Вельмі актыўна Лістапад супрацоўнічаў з беларускімі газетамі «Еднасць», «Беларускія ведамасці», «Наша думка». Як удзельнік Слуцкага паўстання Георгій Іванавіч быў запрошаны на свята, прысвечанае першай гадавіне падзеі. Быў на банкеце і атрымаў значок паўстанца (бел-чырвона-белую стужку). Але беларускі рух ішоў да заняпаду. Нязгода паміж кіраўнікамі, непрыхільныя адносіны польскіх улад вымушалі пакідаць Вільню.

Паміж вучнямі хадзілі чуткі, што іх настаўнік — былы зялёнадубец, што ён расказваў некаму аб сваім удзеле ў адным з аддзелаў «Зялёнага Дуба». На судзе з'явіўся нехта невядомы, хто распавядаў, шго бачыў Лістапада ў Глуску падчас нападу на горад польскага аддзела. Але сяляне з яго роднай вёскі засведчылі, што ў гэты час Георгій Іванавіч у Варкавічах адчыніў школу, якой раней не было. Заняткі праводзіў у хаце свайго бацькі. Плату браў невялікую — па пуду бульбы і 30 фунтаў жыта за навучальны год.

Двойчы Лістапад у свой віленскі перыяд арыштоўваўся польскімі ўладамі. Не маючы дакументаў, быў вымушаны хавацца і ў ліпені 1922 рода нелегальна перайшоў мяжу. У тыя гады шмат хто з беларусаў вярнуўся дахаты. За мяжой радзімы яны нікому былі непатрэбны.

Як перабежчык Лістапад адсядзеў 11 сутак арышту і заплаціў 50 рублёў штрафу.

У 1922 годзе атрымаў назначэнне на працу ў Слуцкую сямігодку. Выкладаў, як ужо было ўзгадана, на Слуцкіх агульнаадукацыйных курсах. Нават на судовым працэсе загадчык курсаў Кулагін не сказаў нічога кепскага пра яго працу, «лічыўся вельмі патрабавальным выкладчыкам, ураджанне ад яго лекцый было заўсёды самае лепшае».

Пад яго ўплывам вучні стварылі гурток беларусазнаўства і запрасілі Лістапада ў якасці кіраўніка. Ён патрабаваў ад іх размаўляць толькі па беларуску (тут трэба зазначыць, што менавіта ў гэты час пачалася згодна з законам беларусізацыя навучальнага працэсу), шчыра дапамагаў вучням і выкладчыкам у авалодванні мовай.

Цікавыя даклады рабілі чальцы гуртка. Напрыклад, «Культурны стан Беларусі напярэдадні лютаўскай рэвалюцыі», «Правапіс беларускай мовы», «Свядомае адраджэнне», «Стара-шляхецкая рамантыка» і г. д. Ад яго хацелі пачуць параду, неслі свае творы для прагляду, як было ў выпадку з часопісам «Наша слова».



ДУБЛИКАТ.

ВОЕННЫЙ ТРИБУНАЛ
БЕЛОРУССКОГО
ВОЕННОГО ОКРУГА

„12“ сентября 1959 г.
№ 1633.
гор. Минск

СПРАВКА

Дело по обвинению ЛИСТОПАДА Георгия Ивановича, 1897 года рождения,

пересмотрено Военным Трибуналом Белорусского военного округа „11“ сентября 1956 г.

Постановление от „31“ марта 1938 г. в отношении ЛИСТОПАДА Георгия Ивановича

отменено и дело за отсутствием состава преступления прекращено.
ЛИСТОПАД Георгий Иванович реабилитирован посмертно.

Зам. Председатель Военного Трибунала
Белорусского военного округа
полковник юстиции /КОРОВСКИЙ/

Зак. 487

*Даведка аб рэабілітацыі Г. І. Лістапада па другой крымінальнай справе (1959 г.)*

Дык ці была створана контррэвалюцыйная арганізацыя? Калі прасачыць падзеі і дакументальныя сведчанні, нельга не прыйсці да высновы, што быў хутчэй за ўсё невялікі гурток літаратурнага





і палітычнага накірунку нацыянальна свядомай моладзі, якая мела намер (марыла) стварыць палітычную арганізацыю.

Гэты намер, планы, выкарыстоўваючы досвед грамадзянскай вайны, ва ўмовах якой прайшло дзяцінства лістападаўцаў, паклалі на паперу. Распаўсюджанне ўлётак — першы і апошні крок дзейнасці. Змест адозваў, як стрэл, быў ашаламляльна моцным.

Гэта было сведчанне супраціўлення, заклік грамадства да актыўных дзеянняў супраць улады. Учынак у традыцыях слуцкіх паўстанцаў, апошнія праявы сялянскай вайны*.

* Нарыс «Лістападаўцы» напісаны на падставе матэрыялаў крымінальных спраў Г. І. Лістапада і пазначаных у тэксце прац.

ЧАСТКА IV

# «Зялёны Дуб»

Беларуская сялянская партыя «Зялёнага Дуба» — ваенна-палітычная арганізацыя — актыўна дзейнічала ў паслякастрычніцкі перыяд і вызначылася ўпартым і выразным антыбальшавізмам. Зялёнадубцы, як і слуцкія паўстанцы, — героі вельмі няпростага, у поўнай меры неасэнсаванага часу грамадзянскіх канфліктаў і ваеннага супрацьстаяння: Першай сусветнай вайны, Кастрычніка 1917 года і ўсяго таго, што адбылося потым. І ў першую чаргу гэта людзі з фронту грамадзянскай вайны, якая не спынілася для іх і праз дзесяцігоддзі, нават тады, калі ў паветры ўжо адчуўся подых новай катастрофы. Напісаная ў СССР гісторыя грамадзянскай вайны «поистине легендарна».

Па сутнасці, гэта была не гісторыя вайны і трагедыі грамадства, а прапаганда афіцыйнай версіі, стварэнне і пасляховае ўкараненне міфа аб чырвоных героях-пераможцах, азвярэлых залатапагонніках, кулаках і бандытах. На гэты міф працавалі паліткантроль, партцэнзура, спецсховішча, грыфы «сакрэтна» і «зусім сакрэтна». Нават храналогія падзей, згодна з якой грамадзянская вайна пачалася ў чэрвені 1918 года мяцяжом эсэраў на Волзе і скончылася разгромам Врангеля ў лістападзе 1920 года, атаясамлівала барацьбу на лініях фронту з трагедыяй грамадзянскага канфлікту.

Такую скажоную храналогію, з якой доўгія гады маўкліва пагаджаліся савецкія гісторыкі, вынаходзілі з мэтаю схаваць сапраўдны сэнс падзей. Яна не лічылася з тым фактам, што ў лістападзе 1920 года толькі пачынаецца найбольш важная стадыя вайны савецкай ўлады з сялянскімі паўстанцамі і антысавецкай партызанкай. Гісторыкі, якія вызваліліся ад парткантролю, хутка разгледзелі гэту асаблівасць і адсунулі часовую мяжу па 1922 год.





«Зялёны Дуб» паўстаў менавіта на гэтай, сялянскай, стадыі вайны, як актыўны ўдзельнік яе беларускага антыбальшавіцкага фронту. Гэта вайна толькі ў пэўнай ступені была для зялёнадубцаў грамадзянскай. Час пераменаў яны, прадстаўнікі беларускага нацыянальнага руху, паспрабавалі выкарыстаць для рэалізацыі сваіх палітычных праграм, як гэта рабілі іншыя нацыянальныя эліты ва ўмовах упадку Расійскай імперыі, якая дагэтуль цвёрдай рукой трымала народы ў межах сваёй дзяржаўнасці. Для іх вайна была сродкам ажыццяўлення курсу на дзяржаўную і тэрытарыяльную самастойнасць.

«Зялёны Дуб», які паўстаў са стыхійнага сялянскага руху, у першай палове 1920-х гадоў выконваў ролю арганізатара і каардынатара антысавецкай, так званай зялёнай партызанкі. Зялёнадубская гісторыя, як і гісторыя Слуцкага паўстання, — частка Беларускага Рэзыстанса — антысавецкага супраціву на Беларусі, малавядомая старонка нацыянальнай гісторыі.

## 1. «Зялёны Дуб» на старонках друкаваных выданняў

З моманту ўзнікнення «Зялёны Дуб» выклікаў да сябе значную ўвагу і інтарэс палітыкаў, вайскоўцаў, прэсы, гісторыкаў і літаратараў, што можна прасачыць па друкаваных выданнях таго часу. А яны сведчаць, што «Зялёны Дуб» як суб'ект ваенна-палітычнай гісторыі адразу набыў даволі шырокую вядомасць. Аб гэтым паклапаціліся ў першую чаргу самі зялёнадубцы. У 1919 годзе на старонках беларускіх нацыянальных газет з'явіліся нарысы з жыцця і баявой паўсядзённасці зялёных партызан.[1] Упершыню тут быў паказаны ўнутраны фронт супраціву саветам і персанальна ваяры арміі «Зялёнага Дуба».

Аўтарам друкаванага з нумара ў нумар дзённіка «Зялёнага Дуба» быў сам кіраўнік антысавецкай партызанкі, вядомы ў беларускіх нацыянальных колах пісьменнік і драматург Вячаслаў Адамовіч-малодшы (Дзяргач). Назва балотнай птушкі выкарыстоўвалася ім як партыйная і атаманская мянушка. Яго нарысы — адна з нешматлікіх крыніц антысавецкай партызанкі, якую пасля сябе пакінуў сведка і актыўны удзельнік падзей, у пэўным сэнсе іх арганізатар. Элемент самалюбавання і спробы ўпрыгожыць пар-

тызанскую паўсядзеннасць, безумоўна, прысутнічаюць на старонках твора, як і перакананасць у неабходнасці і запатрабаванасці сваёй справы.

Еўрапейскія газеты з канца 1920 года пачалі пісаць аб «невядомых зялёных мсціўцах» і «барацьбітах за незалежнасць Беларусі», руская эмігранцкая прэса — аб «беларускіх тэрарыстах», а савецкія выданні — пра «бандытаў».

Па часе гэты інфармацыйны «выбух» невыпадковы. Восень 1920 года — пэўная мяжа ў антыбальшавіцкім руху, пачатак новага палітычнага курсу, скіраванага на вядзенне арганізаванай партызанскай вайны супраць саветаў на савецкай тэрыторыі. У кастрычніку 1920 года быў афармлены палітычны хаўрус паміж буйнейшай расійскай антысавецкай арганізацыяй «Народный союз защиты родины и свободы» (НСЗРС) на чале з Барысам Савінкавым з аднаго боку і Беларускім Палітычным Камітэтам (БПК), які ў той час аб'яднаў прыхільнікаў узброенага змагання з саветамі, — з другога.

З гэтага моманту і на працягу наступнага года савінкаўскія газеты «За Свободу» і «Крестьянская Русь» пачынаюць рэкламаваць «Зялёны Дуб». Не абміналі яго ўвагаю і ўчарашнія паплечнікі, якіх паспяхова перавярбоўвалі спецслужбы розных краін, у тым ліку Савецкай Расіі. Яны спяшаліся адхрысціцца ад сваіх былых хаўруснікаў і навыперадкі выкрывалі антысавецкія арганізацыі, як «аппараты шпионажа против Советской России и обслуживания бюро иностранных разведок».[2] Так прэзентаваў сваіх паплечнікаў па НСЗРС і хаўруснікаў вядомы ў эмігранцкіх колах былы афіцэр рускай арміі, адзін са стваральнікаў сеткі антысавецкай узброенай апазіцыі на Гомельшчыне і нават сябра Барыса Савінкава Павел Селянінаў-Аперпут.

Тым не менш ён адзначыў ролю зялёнадубцаў як заступнікаў сялян у неаб'яўленай вайне паміж мясцовым насельніцтвам і аддзеламі Чырвонай арміі за правы на жыццё і маёмасць. Зялёнадубцы ратавалі жыхароў, якія сталі ахвярамі Рыжскай дамовы і апынуліся ў нямірным памежжы, ад мабілізацый у Чырвоную армію і рознакаляровых рабаўнікоў.[3]

Тэма антыбальшавіцкай партызанкі перыядычна траплялa на старонкі ўплывовых еўрапейскіх газет. Нягледзячы на гучныя назвы, кшталту «Рускія Робін-Гуды», тагачасныя СМІ спрабавалі аналізаваць гэтую палітычную з'яву з розных бакоў,






Экземпляр № 90 СЕКРЕТНО

Периодическая Разведывательная

СВОДКА

О БАНДИТИЗМЕ

ШТАБА ВОЙСК МИНСКОГО РАЙОНА.

за период с 5-го июля по 5-е августа 1921 г.

Августа 1921 года.

№ 0116 /раз/инф.

г. Минск.

***Перыядычная зводка разведупраўлення штаба войск Мінскага раёна. Жнівень 1921 г.***

падсумоўваючы шматлікія факты і паказчыкі, ацэньваючы перспектывы. Так, газета «Times» (17 чэрвеня 1922 года) у вялікім артыкуле, прысвечаным партызанцы ў Беларусі і Украіне, у першую чаргу адзначыла, што асвятленне падзей у савецкай прэсе вельмі далёкае ад аб'ектыўнасці і падаецца толькі ў рубрыцы «Бандытызм».[4] Арыентуючыся на заходняга чытача, газета паспрабавала атрымаць інфармацыю з першых рук, узяўшы інтэрв'ю ў атамана Кудзеяра.[5] Пасля гутаркі карэспандэнт «Times» зрабіў выснову:

*«Отряды зелёных формируются в основном из дезертиров Красной армии, из крестьян, которые потеряли все свое имущество из-за конфискаций и продовольственного налога, а также людей, которые не имеют ничего по милости большевиков...»*

# ГРАЖДАНЕ!

Русская революція низвергла враждебнаго на-
роду царя, а вмѣстѣ съ нимъ министровъ, которые
продавали Россію, царскихъ губернаторовъ, кото-
рые душили народъ, шпіоновъ, которые губили
армію.

Революція дала вамъ свободу, дала возможность
селамъ и городамъ управлять всѣми общественны-
ми дѣлами по волѣ самого населенія, сняла всякія
стѣсненія съ крестьянъ, открыла путь всѣмъ и ка-
ждому къ наукѣ, свободнымъ промысламъ, устрани-
ла помѣщиковъ, дала крестьянамъ землю, а рабо-
чимъ хорошій заработокъ.

Сотни лѣтъ стоналъ подъ царскимъ ярмомъ
народъ, поколѣнія ждали, когда придетъ день осво-
божденія.

Революція принесла освобожденіе, но народъ,
не привыкшій держать власть въ своихъ рукахъ,
довѣрился пришельцамъ изъ Германіи — Троцкому,
Ленину и многимъ другимъ, которыхъ привезъ въ
Россію германскій генеральный штабъ, и они укра-
ли у народа ту свободу, за которую боролись ваши
дѣды и отцы, за которую пролили столько крови,
за которую умирали по тюрьмамъ и въ каторгѣ.

Ленинъ и Троцкій назвали себя коммунистами
и всю Россію покрыли своими чиновниками, кото-
рые, хотя и называются комиссарами и коммуни-
стами, но ведутъ себя какъ самые худшіе полицей-
скіе урядники.

При Ленинѣ и Троцкомъ народъ не имѣетъ
своей воли. На все есть приказъ коммунистовъ.
Коммунисты, какъ и царскіе чиновники, говорятъ
о благахъ народа и грабятъ и убиваютъ народъ
такъ же, какъ и они.

Почему же молчитъ народъ? Такъ молчитъ,
какъ молчалъ при царскихъ чиновникахъ?

Одинъ только разъ, въ Мартѣ 1917 года, на-
родъ заговорилъ. Заговорилъ, чтобы добыть въ
революціи лучшую долю.

Но революцію большевики обманули и погубили.

Развѣ народъ на это согласенъ, развѣ онъ мо-
жетъ допустить, чтобы коммунисты захватили его



добро, раздавали золото нѣмцамъ, какъ это сдѣла-
ли они въ Брестѣ? Чтобы капиталы и государ-
ственную казну они забрали себѣ и народу не дали
ничего?

Для того ли поколѣнія народныя работали, что-
бы большевики-коммунисты имѣли деньги нанимать
карательные отряды для расправы съ непокорными
крестьянами?

Если хочетъ народъ свободы и лучшей доли,
онъ долженъ взять всю власть въ свои руки, имѣть
управителей по волѣ своей, нещадно ихъ гнать,
когда они не оправдаютъ довѣрія народнаго.

Народъ долженъ самъ собою править, править
черезъ своихъ представителей, избранныхъ всеоб-
щимъ голосованіемъ. Это называется народоправ-
ствомъ. Счастливы только тѣ народы, которые уста-
новили у себя народоправство.

Народоправство можно установить только че-
резъ Учредительное Всенародное Собраніе.

Революція вела васъ къ народоправству, а вы
отдали себя во власть коммунистовъ-комиссаровъ.

Они васъ захватили и сдѣлали васъ рабами.

Держатъ они васъ въ повиновеніи при помощи
наемной коммуны.

Дала ли вамъ счастье коммуна? Сдѣлала она
васъ сильными и здоровыми?

Доколѣ же вы будете терпѣть эту жестокую
власть?

**Берите оружіе въ руки, поддерживайте другъ друга, какъ братъ брата, установите собственный порядокъ!**

**Уничтожайте коммуну и комиссаровъ!**

**Да сгинутъ они, какъ сгинула царская власть, да здравствуетъ народная революція!**

№ 60. Изданіе Русскаго Политическаго Комитета.

Зварот НСЗРС

*«Атаманы и батьки — это белые царские чиновники и офицеры, даже сельские священники, которые поднялись на московского антихриста...»*

Атаман Кудзеяр быў прэзентаваны чытачу, як тыповы кіраўнік зялёнай партызанкі: былы афіцэр царскай арміі, адукаваны чалавек, за плячыма якога вайсковая вучэльня і франты Першай сусветнай вайны, камандзір спалучэння некалькіх партызанскіх аддзелаў, арганізатар новай адміністрацыі на часова занятых тэрыторыях Міншчыны. Гэтая невялічкая армія мела базы на мяжы, якая ненатуральна ўзнікла пасля Рыжскага падзелу, і свае школы інструктараў, дзе рыхтаваліся кіраўнікі партызанкі. Са слоў Кудзеяра, журналіст зрабіў выснову аб распаўсюджанасці і своеасаблівасці мясцовых структур «Зялёнага Дуба».

*«Это — не кочевники, они хозяева. Ночью они собираются в ранее обусловленном месте, чтобы уничтожить сборщика налогов или красноармейский отряд, а на второй день снова косят или пашут».*

Абсалютна тыя ж рысы і асаблівасці сялянскага супраціву заўважыў у свой час і М. Тухачэўскі, уціхамірнік беларускай партызанкі ўвосень 1920 года. Ён звярнуў увагу на маштабнасць гэтага працэсу на Беларусі і наяўнасць арганізаваных кіруючых цэнтраў.[6]

Цікавасць да беларускага пытання не знікала і ў наступныя гады. Напрыклад, швейцарскі рэдактар газеты «Journal de Genev» сп. Мартэн з мэтаю атрымання інфармацыі вандраваў па замежных цэнтрах беларускай палітыкі, завітаў спачатку, што лагічна, у Вільню. Яго выданне цікавілася беларускім рухам у БССР і за яе межамі, канфесійнымі пытаннямі, уплывам на беларускую рэчаіснасць розных акупацыйных рэжымаў.[7]

Чарговы ўсплёск увагі з боку сродкаў масавай інфармацыі да падзей у Беларусі назіраўся ў сувязі са справаю Барыса Каўэрды. Гісторыя забойства паўнамоцнага прадстаўніка СССР у Польшчы Пятра Войкава беларускім юнаком з Вільні ў чэрвені 1927 года літаральна запаланіла старонкі газет і часопісаў. Праўда, назва арганізацыі амаль не фігуравала побач з маладым тэрарыстам. Аднак імёны людзей, з якімі быў звязаны малады Каўэрда, сведчаць аб тым, што ён выйшаў з апазіцыйнага беларускага асяродку. Яго бацька — Сапрон Каўэрда, вядомы і ўплывовы ў нацыянальных



# Штаб Войск Минрайона

## Борьба с бандитизмом в Белоруссии.

## ОЧЕРК I.

**Борьба с бандитизмом за время до учреждения Ревоенсовета Минрайона.**

*(с 1 Мая по 8 Июня 1921 года).*

Составил по материалам Штаба Войск Минрайона Начальник Военно-Исторического Статистического Отделения Оперативного Управления Штавойск Минрайона тов. **МОЛОДЦЫГИН.**

Под редакцией Начальника Штаба Войск тов. ВЕНЦОВА.

№_____(о п)

гор. Минск

„ « Сентября 1921 г.

Профтехнич. школа зак. № 5370

***Вокладка аналітычнай даведкі штаба войск Мінскага раёна «Барацьба з бандытызмам у Беларусі». Верасень 1921 г.***

колах палітык і аб'ект пільнай увагі спецслужбаў СССР.[8] Кавэрда-старэйшы ўшчыльную супрацоўнічаў з «Зялёным Дубам» і арганізацыяй Барыса Савінкава, пры падтрымцы апошняга ў 1922 годзе выдаваў газету «Крестьянская Русь».

Сярод іншых людзей, якія стваралі кола выхаваццелей, супрацоўнікаў і знаёмых Барыса Кавэрды — дзеячы беларускай справы Вячаслаў Адамовіч (Дзяргач), Арсень Паўлюкевіч, князь Друцкі-Падбярэзскі, былы атаман — зеленадубец Іўжэнка і інш.

Напрыканцы 1920-х гадоў «Зялёны Дуб» зноў пад пільнай увагай прэсы. Большасць еўрапейскіх газет падхапіла сенсацыйную заяву румынскага журналіста Дземенітру: кіраўнік «Зялёнага Дуба» — атаман Дзяргач — агент савецкай тайнай паліцыі. Гісторыя набыла гучны рэзананс і не знікала са старонак прэсы. Вядомы расійскі палітык і маральны аўтарытэт у эміграцыйных асяродках Уладзімір Бурцаў разбіраўся ў бруднай справе і па сутнасці выратаваў жыццё і рэпутацыю Дзергача.[9] Трэба дадаць, што вядомы эсэр неаднаразова на старонках свайго часопіса «Былое» ўзгадваў «змагароў за дэмакратыю ў Беларусі» зялёнадубцаў — братоў Караткевічаў, абодвух Адамовічаў і інш.

«Зялёны Дуб» з арэны еўрапейскай палітыкі і расійскіх інтарэсаў не знік і ў пачатку 1930-х гадоў. Сведчанне гэтаму знаходзім у перапісцы рэдактараў парыжскіх рускіх выданняў з кіраўніцтвам манархічных расійскіх арганізацый. Тэрорны патэнцыял «Зялёнага Дуба» і сітуацыя ў савецкай Беларусі, як асноўнай тэрыторыі для здзяйснення дыверсійных акцый, цікавілі палітыкаў.[10]

Да ўвядзення цэнзурных абмежаванняў у 1926 годзе «Зялёны Дуб» раз-пораз з'яўляўся на старонках савецкага друку. Гэта быў час пэўнага плюралізму на старонках газет. Прэса дэманстравала адсутнасць жорсткай цэнзуры, разумны інтарэс да палітычнага праціўніка і вострае жаданне ганьбіць і выкрываць. Газетныя старонкі былі арэнаю змагання з «Зялёным Дубам» высокіх дзяржаўных і партыйных чыноў. Аб перамогах на гэтым фронце ахвотна дакладвалі ваенныя і палітычныя кіраўнікі.

Асабліва шмат увагі надавала апазіцыйнай арганізацыі газета «Звезда» — орган беларускіх камуністаў. Яна пільна сачыла за навінамі, што з'яўляліся ў еўрапейскіх СМІ, часцяком перадрукоўвала матэрыялы, даючы пры гэтым далёкія ад аб'ектыўнасці абразлівыя каментары. Журналісты, так бы мовіць, яшчэ пачатковай савецкай школы не шкадавалі чорнай фарбы,





прэзентуючы беларускую нацыянальную апазіцыю: «офицерские банды», «грязный нарост на теле Советской Белоруссии», «тёмные элементы» і г. д.[11] Аднак за лаянкай у прэсе ўгадваліся жаданне мець як мага больш інфармацыі і спробы разабрацца ў розных плынях стракатай беларускай «контррэвалюцыі».

Бальшавіцкія аналітыкі яшчэ не саромеліся карыстацца інфармацыяй варшаўскага агенцтва «Руспрэсс», савінкаўскай «Свободы» («За Свободу»), «Виленского утра», «Рижского курьера» і іншых замежных газет. «Звезда», напрыклад, на падставе замежных матэрыялаў знайшла тое агульнае, што аб'ядноўвала ўсе беларускія палітычныя партыі: стварэнне незалежнай Беларускай рэспублікі. Услед за Паўлам Алексюком, сябрам БПК, інтэрв'ю якога яна змясціла на сваіх старонках, рупар мінскіх камуністаў падзяліў беларускую апазіцыю па спосабах дасягнення асноўнай мэты на тры лагеры:

1) Крайне левыя, якія ўлічваюць палітычныя і дзяржаўныя інтарэсы Савецкай Расіі.

2) Незалежныя, якія арыентуюцца толькі на ўласныя магчымасці ў змаганні за незалежную Беларусь.

3) Паланафільскія партыі, якія звязваюць свае надзеі з начальнікам Польскай дзяржавы панам Пілсудскім. У гэты лагер пілсудчыкаў газета аднесла і Беларускі Палітычны Камітэт, хоць і паведаміла аб яго намеры ажыццяўляць шматварыянтную палітыку, шукаць падтрымку і паразуменне з Літвою, Украінаю і іншымі дзяржавамі. Газета падкрэсліла, што галоўныя надзеі новы апазіцыйны Камітэт ускладае на партызанскі рух зялёнадубцаў.[12] Тая ж «Звезда» настойліва абвяргала інфармацыю аб паўстаннях беларускіх сялян:

> *«Наряду с копенгагенскими, стокгольмскими и гельсингфорскими выдумками польская печать — вся без исключения — измышляет ежедневно десятки сообщений о восстаниях на всей территории Белоруссии... Всякое нападение какой-нибудь банды на пограничную деревушку освещается в «официальных сообщениях Белорусского повстанческого штаба» как «огромная победа над Красной Армией». Под крупным титулом «повстанческое движение» рассказывается явная чушь о «зелёной армии», поддерживаемой будто кем-то, о таинственных зеленодубцах, якобы поддерживающих в Белоруссии повстанцев».*[13]

| Район расположения. | Наименование банды. | Численный состав. | Пулеметов. | Автоматов. | Время обнаружения. | Источник сведений. | Примечание. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Внутренний бандитизм.** | | | | | | | |
| **Минская губерния.** | | | | | | | |
| Мозырский уезд . . . | Банда Шевченко. | 40 | — | — | 13/9 | Агент. | |
| „ „ . . | Банды Богалевича. | 30 | — | — | 7/9 | „ | |
| „ „ . . | „ нев. глав. | 60 | — | — | 8/9 | „ | |
| „ „ . . | „ нев. глав. | 20 | — | — | 8/9<br>10/9 | М. ж.<br>В. раз | |
| „ „ . . | „ Грача. | 50 | — | — | 3/9 | Агент. | |
| „ „ . . | „ Дешипа. | ? | — | — | 3/9 | „ | |
| „ „ . . | „ Новицкого. | 35 | — | — | 8/9 | „ | |
| „ „ . . | „ Гераська. | 40 | — | — | 5/9 | „ | |
| „ „ . . | Банда Хомутовского | ? | — | — | 23/8 | „ | Орг. Зеленодубцев. |
| „ „ . . | „ нев. глав. | ? | — | — | 2/9 | „ | |
| Итого в Мозырском у. | Около. | 275 | — | — | — | — | |
| **Гомельская губерн.** | | | | | | | |
| Быховский уезд . . . | Банда нев. глав. | 15 | — | — | 31/8 | М. вл. | |
| Чауский уезд . . . | „ „ „ | 8 | — | — | 25/8 | „ | |
| Речицкий уезд . . . | „ „ „ | 12 | — | — | 5/9 | В. св. | |

*Інфармацыйная табліца пра асабовы склад і месцы дыслакацыі беларускіх партызанаў паводле разведупраўлення штаба Заходняга фронта (1921 г.)*





Зневажальны стыль інфармацыі тым не менш знаёміў чытача з фактычнымі падзеямі.

Справа ў тым, што еўрапейскія і беларускія нацыянальныя газеты змяшчалі на працягу снежня 1920 года і са спазненнем, у студзені 1921 года, інфармацыю аб Слуцкім паўстанні, у якім зялёнадубцы прынялі актыўны ўдзел. Нельга сказаць, што бальшавіцкая ўлада не мела іншых крыніц інфармацыі аб баявых падзеях у Слуцкім павеце, як толькі замежная прэса. Дастаткова звярнуцца да тагачасных паведамленняў самых розных савецкіх структур са Слуцкага павета, каб прыйсці да высновы, што для ўлады бальшавікоў слуцкія падзеі не былі інфармацыйнай нечаканасцю.[14]

Але бальшавіцкія сродкі інфармацыі (потым гэтую традыцыю паспяхова працягнула савецкая гістарыяграфія) займелі звычку простага ігнаравання падзей і фактаў. Праўда, калі-нікалі «Звезде» дазвалялася пісаць пра «банды зялёнадубцаў» з абавязковай агаворкай, што «белая пресса распространяет фантастические слухи о «зеленодубцах», действующих на белорусском фронте». У поўнай ступені яшчэ несавецкі чытач 1921 года, які не адчуў усю моц ціску бальшавізму на сваю свядомасць і падсвядомасць, меў магчымасць атрымаць звесткі, няхай сабе і са слоўцам «якобы», аб «тайной организации «Зелёный Дуб», возникшей по типу тайной политической военной организации». Газета таксама паведамляла, што «вооружённые силы зеленодубцев, якобы организованные по системе пятёрок насчитывали первоначально около 300 человек... развернулись в «I Бригаду Войск БНР» в составе нескольких тысяч человек...»[15]

Тут трэба патлумачыць, што гэтае газетнае паведамленне, пададзенае як малаверагоднае, на самай справе парушыла толькі паслядоўнасць падзей. Фактычна пасля паразы Слуцкага паўстання частка I Брыгады стральцоў БНР увайшлі ў «Зялёны Дуб».

На працягу ўсяго 1921 года бальшавіцкі друк перыядычна змяшчае выкрывальніцкія матэрыялы аб дзейнасці «Зялёнага Дуба». Адзін з бальшавіцкіх кіраўнікоў Вільгельм Кнорын са старонак «Звезды» распавядаў, што «Зялёны Дуб» цесна звязаны з беларускімі эсэрамі і сябруе з арганізацыяй Барыса Савінкава. Галоўным кіраўніком «Зялёнага Дуба» Кнорын лічыў Караткевіча. Невядома, праўда, каго ён меў на ўвазе — Мяфодзія ці аднаго з яго

братоў (Іван і Петр). Караткевічы паходзілі з вёскі Глебава Рудня Брожскай воласці Бабруйскага павета, з сям'і селяніна серэдняга дастатку, а не кулака-шляхціца, як пісала «Звезда».[16]

Дзякуючы газеце стала вядома, што яны прайшлі франты Першай сусветнай вайны, даслужыліся да капітанскіх пагонаў, варожа сустрэлі новую ўладу. Мяфодзій, атаман аднаго з буйнейшых партызанскіх аддзелаў, быў забіты чырвонымі ў ліпені 1921 года, пра што падрабязна распавяла тая ж «Звезда». Калі Кнорын пісаў свой артыкул, аднаго з Караткевічаў ужо не было ў жывых. Праўда, у архіўных крыніцах ёсць даныя, што другія браты ўзначальвалі буйныя аддзелы «Зялёнага Дуба» на працягу 1924—1926 гадоў.[17]

Як бачым, маючы на мэце выкрывальніцтва і запалохванне, бальшавіцкая прэса паслядоўна стварала непрывабны партрэт узброенага беларускага апазіцыянера, але ж адначасова падавала багатую інфармацыю. Хутка ўлада зразумела, што факт нават з адмоўнай адзнакай ёсць яго вялікасць факт і забараніла ўсялякія ўзгадкі пра «бандытызм». І калі на працягу 1922—1925 гадоў газеты яшчэ змяшчаюць матэрыялы, — у асноўным адкрытых пакаральных судоў над партызанамі-зялёнадубцамі, то з лістапада 1926 года такія матэрыялы амаль знікаюць.

Падставаю для поўнага замоўчвання якіх бы там ні было фактаў і падзей з'явілася сакрэтнае распараджэнне наступнага зместу:

> *«За апошні час у прэсе сталі сустракацца паведамленні аб бандыцкіх наскоках. Галоўлітбел катэгарычна прапануе ні ў якім разе не змяшчаць падобных вестак, якія б яны характар ні насілі, крымінальны ці палітычны, без адпаведнага пагаднення з мясцовымі органамі ДПУ, а ў Менску непасрэдна з Галоўлітбелам».[18]*

Знявага змянілася замоўчваннем на доўгія гады.

«Зялёны Дуб» фігуруе ў спецыяльных аналітычных матэрыялах, на старонках вайсковых часопісаў. Былыя кіраўнікі Чырвонай арміі дзяліліся досведам недаўняга мінулага і асаблівасцямі карных аперацый у Беларусі. Добрасумленна знаёмілі слухачоў савецкіх вайсковых устаноў з палітычнымі і ваеннымі працаўнікамі.

> *«Уже осенью 1920 г. в погранполосе Западного фронта на территории Польши создаётся целый ряд политических организаций по образцу «Союза спасения Родины», который возглавил Борис Савинков, «Белорусского политического комитета»*




КР.

СОВЕРШЕННО СЕКРЕТНО. КОПИЯ.

ИНО ОГПУ

№-017965 от ...

Из Ковно. 19/XI-24г.

т. Артузову,
т. Медведю,
т. Берзину,
т. Баранскому,
к делу.

Начинф:

Особоупол.:

Генералом Булак-Балаховичом поручено атаману АДАМОВИЧУ /псевдоним Дергач/ сорганизовать в районе расположения его отряда /Противо-партизанского/ отряд особого назначения для нападения на Сов.границу. Для этой цели Дергач выделил из своего отряда, стоящего в местечке МИР и его районе, 18 человек, под командой своего помощника ФЕДОРОВА, который будет считаться начальником группы активных действий. Отряд Федорова будет находиться в районе м-ка Мир. Второй отряд под командой Степана [illegible], организован около Радошкович. В этом отряде 14 человек. Цель та же. В обоих отрядах за исключением Начальников, т.е. ФЕДОРОВА и [illegible], все люди его осадники /самоохрана/ или же из демобилизованных военных, преимущественно из глубины Польши-Галиции и [illegible]. [illegible] подтверждается, что лиц местного происхождения, [illegible] начальников отрядов, не имеется.

[illegible] ноября на станции [illegible], около м-ка Мир, были произведены два нападения и в результате Дергач был ранен легко в плечо. Дергач взят на подводе в сопровождении Федорова и 4-х человек из своего отряда. Из сопровождающих ранен Голомбовский — осадник из под Радошкович в руку и Хмелевский в ногу. Хмелевский военный из 1-го полка уланов, Петроковск. Оба раненые отправлены в Барановичи в госпиталь.

С подлинным верно:

***Данясенне агента замежнага аддзела ДПУ СССР***

*и организации «Зелёного Дуба» во главе с генералом Адамовичем. Две последние организации (як удакладніў аўтар артыкула, былы кіраўнік штабу Заходняга фронту Пухаў) создавались под чисто националистическим флагом единой свободной Белоруссии».*[19]

Высока ацэньваючы сваю перамогу, былыя вайскоўцы не маглі не адзначаць палітычную і ваенную значнасць нядаўняга праціўніка. Інакш паўстае пытанне, з кім змагалася рэгулярная армія? На жаль, традыцыя аб'ектыўнай ацэнкі варожага боку, увагі і павагі да супрацьлеглых палітычных мэтаў і праграм надоўга знікла з расійскай гістарыяграфіі.

Савецкія і сучасныя рускія выданні маюць грэх вельмі паверхоўнага разгляду праблемы і паспешлівых высноў аб адсут-



1923 г.

КОНТР-РЕВОЛЮЦИЯ

§ 7.

На задание IУ-го Отд.КРОГПУБЕЛ за № 38 и на задание II-Отд.КРОГПУБЕЛ за № 5.получены сведения 26/II-23г.что на хуторе Домхов /не ориентировано/Лунинецкого уезда,находится штаб капитана КОРОТКЕВИЧА,брат которого убит в 1921году Красным отрядом в Бобруйском уезде.Штаб состоит из 12-ти человек.Общая численность его организации 151 человек,из коих 7 человек этой организации расположены на хутор Ровное ,/не ориентировано/под руководством Морочского священника,74 человека,- в дер. Березняки,/что 10 верст юго-зап.Мороч/,под руководством некоего ВУБОВСКОГО,который состоит на службе в польской армии,40 человек в дер.Бутча,под руководством БРОНЕВИЦКОГО Павла.В дер.Маково /не ориентировано/расположен отряд жандармерии ,который оказывает содействие в снабжении банд КОРОТКЕВИЧА,комендантом этого отряда КРАСОВСКИЙ,житель местечка [illegible].

27/I-23 года капитан КОРОТКЕВИЧ возвратился со с'езда из Варшавы.В"Красной Воле" находится банда [illegible] численностью- 60 человек,под руководством ИСКРИЦКОГО Павла,также главарь этой банды поручик [illegible]СКИЙ ,кличка -КУЛЕВСКИЙ, -жит.города Мозыря.По прибытии со с'езда КОРОТКЕВИЧЕ и отдано распоряжение о формировании бандотрядов.

25/I-1923 года [illegible] об'явлено добровольное поступление на службу в местные отряды на шесть месяцев.

***Данясенне агента замежнага аддзела ДПУ СССР***





насці палітычных амбіцый і несамастойнасці палітычнага курсу беларускіх нацыянальных арганізацый і рухаў. Беларуская сялянская партыя «Зялёны Дуб» — палітычны саюзнік і раўнапраўны баявы партнёр расійскіх антысавецкіх арганізацый ад манархістаў да сацыялістаў — разглядалася як арганізацыя, што склалася «из остатков организаций белорусских буржуазных националистов... во главе с неким Дергачом-Адамовичем, и которая содержалась за счёт так называемого "комитета защиты восточных кресов и польской разведслужбы"».[20]

Тут трэба ўдакладніць, што крыніцы фінансавання ў «Зялёнага Дуба» былі розныя, у тым ліку і агульныя з расійскімі манархісцкімі арганізацыямі. А некаторыя сябры названай арганізацыі мелі зацікаўленасць у абароне і вяртанні сваёй маёмасці па абодва бакі мяжы.

Ператварэнне расійскага імперскага цэнтра ў савецкую паліцэйскую дзяржаву, безумоўна, спрыяла разбурэнню сістэмы старых сувязей «ускраіна — цэнтр» і з'яўленню ў гэтай сістэме новых шматвектарных якасцей, агрэсіўных у тым ліку, скіраваных на разбурэнне. Але ж антыбальшавізм і антысаветызм былі настолькі шырокай платформай для кааліцый рознага кшталту, што дазвалялі часова адсунуць імперскія і антыімперскія настроі. Адмаўляючы так званым «этнічным пасынкам імперыі» ў здольнасці вырашаць нацыянальныя і дзяржаўныя пытанні, расійскія аўтары не прызналі тагачасныя нацыянальныя эліты паўнапраўнымі партнёрамі на палітычнай арэне барацьбы з бальшавізмам.[21]

Неаб'ектыўны, зняважлівы падыход да пытання нацыянальных рэвалюцый замінае сур'ёзнаму аналізу сепаратысцкіх і антыкаланіяльных рухаў у разглядаемы час і зводзіць шматграннасць праблемы да «эскалаций агрессивно-параноидального национализма».[22] Таму носьбіты ідэй беларускай незалежнасці і дзяржаўнасці пазбаўлены сур'ёзнай увагі расійскіх даследчыкаў і згадваюцца толькі ў кантэксце аналізу распаду імперыі.

Палітычныя хаўруснікі зялёнадубцаў з ліку белага генералітэту і зялёных братоў заўсёды былі на старонках твораў рускай літаратуры як дзеючыя асобы палітычнага працэсу ў акадэмічных даследаваннях, як героі захапляльных палітычных дэтэктываў і баевікоў у масавай літаратуры. Дастаткова толькі ўзгадаць колішні гучны поспех кнігі В. Ардамацкага «Возмездие» і фільма «Операция «Трест»». На пачатку 1990-х

падобныя сюжэты пачалі з'яўляцца і ў Беларусі. На фоне шматлікіх выкрывальных публікацый аб ахвярах палітычных рэпрэсій спатрэбіўся твор пра самаадданую працу многіх і многіх чэкістаў па знішчэнні ворагаў савецкай улады.

*«Толькі ў чорных фарбах паказваецца даваенная гісторыя, — з пачуццём глыбокага шкадавання адзначаў аўтар прадмовы да актуальнай публікацыі Г. Лавіцкі, намеснік старшыні КДБ РБ. — Нярэдка стала з'яўляцца неправераная, тэндэнцыйная, а часам яўна ачарняльная інфармацыя».*[24]

Сітуацыю павінна была выправіць новая аповесць на чэкісцкую тэму.

Ужо сучасная «Звязда» на працягу сакавіка—красавіка 1991 года інтрыгавала чытача «матэрыяламі з архіваў КДБ», друкуючы чарговы «крах» у традыцыйным рэчышчы. Маючы на мэце паказаць увесь маштаб намаганняў спецслужбаў, іх шматлікасць і добрую падрыхтаванасць, аўтар супрацьпаставіў доблесным чэкістам нацыяналістаў-антысаветчыкаў.

Арганізацыя «Зялёны Дуб» у аповесці «Крах «Зялёнага Дуба»» Іллі Барысава, былога супрацоўніка органаў, выглядала звычайным крымінальным асяродкам без палітычнай праграмы і грамадскіх прынцыпаў: рабавалі і безупынна пілі гарэлку, спявалі ганебныя песні. Ці то па недасведчанасці, ці то знарок у шэраг непрыстойных музычных твораў аўтар залічыў баявы марш ваяроў беларускай партызанкі «Ад веку мы спалі».[24] На такі немастацкі прыём яшчэ ў 1962 годзе звярнуў увагу генерал-лейтэнант А. У. Тадорскі, адзначаючы няўдалыя характарыстыкі лідараў белага і зялёнага руху ў тагачаснай літаратуры.

*«Не следует наших врагов показывать людьми безвольными, неопытными, глупыми. Если они были такими, тогда почему затянулась борьба с ними, да и большой ли честью было разгромить такого противника».*[25]

Але аповесць Барысава з'явілася ў час, калі грамадства крытычна паставілася да адзінай і навязлівай савецкай версіі гісторыі і з вострай цікавасцю ўспрымала здабытую ў спецсховішчах невядомую да таго гісторыю апазіцыйнага руху.

Дзякуючы новым публікацыям, гісторыя барацьбы за савецкую ўладу набыла персаніфікацыю не толькі ў асобах змагароў за яе, але і супраць. У жанры палітычнага дэтэктыва ў друку з'яўляюцца





сюжэты і дакументальныя сведчанні змагання «Зялёнага Дуба» за Бацькаўшчыну.[26]

## Крыніцы, заўвагі


1. *Адамовіч В. Адзін дзень у арміі «Зялёнага Дуба» // Звон. 1919. 22 верасня; Ён жа. З днеўніка арміі «Зялёнага Дуба» // Звон. 1919. 20 кастрычніка; Беларусь. 1919. 29, 30 кастрычніка.*
2. *Селянинов-Опперпут П. Народный Союз Защиты Родины и Свободы (Воспоминания). Берлин, 1922. С. 4.*
3. *Тамсама. С. 12.*
4. *Артыкул у перакладзе на рускую мову быў надрукаваны ў газеце «За свободу». 22 чэрвеня 1922 г.*
5. *Сапраўднае прозвішча ці яшчэ адзін псеўданім палкоўніка: Суеўскі.*
6. *Тухачевский М. Н. Борьба с контрреволюционными восстаниями // Война и революция. 1926, № 5—6. С. 9.*
7. *«За свободу». 1925. 22 июля.*
8. *Архіў КДБ РБ. З агентурных данясенняў 20-х гадоў.*
9. *ДА РФ, ф. 5802, воп. 1, спр. 341, арк. 10.*
10. *Тамсама, арк. 20.*
11. *Звезда. 1921. 21 января.*
12. *Звезда. 1921. 19 января.*
13. *Тамсама.*
14. *НАРБ, ф. 13, воп. 1, спр. 13, арк. 27, 28; ф. 34, воп. 1, спр. 282, арк. 2; ф. 4, воп. 1, спр. 282, арк. 77; ф. 13, воп. 2, спр. 5, арк. 94, 96. «Звезда». 1921. 27 января.*
15. *Звезда. 1921. 21 января.*
16. *Звезда. 1921. 31 июля.*
17. *Архіў КДБ РБ. З агентурных данясенняў.*
18. *НАРБ, ф. 4, воп. 16, спр. 33, арк. 159.*
19. *Пухов Г. С. Бандитизм и борьба с ним на Западном фронте // Толмачёвец. 1926. № 5. С. 6.*
20. *Голинков Д. П. Крушение антисоветского подполья в СССР. М. 1975. С. 474.*
21. *Булдаков В. Красная смута. М., 1997. С. 141.*
22. *Тамсама. С. 143.*
23. *Звязда. 1991. 15 сакавіка.*
24. *Архіў КДБ РБ. Крымінальная справа Ул. Ксяневіча.*
25. *Цыт. па: Ушаков А. И. История гражданской войны в литературе русского зарубежья. М., 1993. С. 18.*

26. *Гл. Стужынская Н. І. Сялянская вайна на Беларусі // Звязда. 1991. 28 мая; яна ж. Невядомая вайна. Антыбальшавіцкі рух на Беларусі (1917—1925) // Голас Радзімы. 1994. 23, 24 чэрвеня; яна ж. Зялёнадубцы і іншыя // Літаратура і мастацтва. 1994. 16 снежня; яна ж. Трагедыя зеленадубцаў // Беларускі гістарычны часопіс. 1996. № 1. С. 31—42. Касинская А. (Стужинская Н.), Крапивин С. Визит дамы // Народная газета. 1997. 11—12 кастрычніка і інш.*

## 2. Аб часе ўтварэння і палітычных праграмах «ЗД»

«Беларуская сялянская партыя «Зялёнага Дуба» існавала яшчэ ў царскі час як палескае зямляцтва студэнцкай моладзі, народжанай на Палессі (з 1910 года)», — адказаў на пытанне аб часе ўзнікнення «Зялёнага Дуба» кіраўнік арганізацыі Вячаслаў Адамовіч — атаман Дзяргач, паклаўшы тым самым канец пакутлівым пошукам даследчыкаў.[1] «Галоўнай яе дзейнасцю была арганізацыя сельскіх кааператываў, збіранне песень, паданняў ды іншага, што мае дачыненне да жыцця Беларускага народу», — падкрэсліў ён непалітычны першапачаткова характар грамадскага маладзёжнага аб'яднання.

Але хутка свет выбухне Першай сусветнай вайной, Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцыямі. Людзі не паспявалі асэнсоўваць новыя рэаліі сацыяльнага перавароту. У Расіі, як лёд па вясне, разбуралася старая сістэма ўлады, абуджаючы адначасова нацыянальныя і дзяржаўныя амбіцыі народаў, даючы элітам нацыянальных рухаў вялікую надзею на рэалізацыю сваіх нацыянальных праграм, на перамогу.

Бальшавікі, яшчэ нядаўна безапеляцыйныя ў сваім лозунгу самавызначэння нацый, ухапіўшы ўладу, таксама праявілі жорсткую волю да захавання тэрыторыі ў межах былой імперыі. Гэтыя праграмныя манеўры выклікалі хуткі працэс палітызацыі нацый і ўтварэння нацыянальных палітычных партый. Нацыянальнае пытанне становіцца сродкам для разбурэння ненавіснай улады. Уся энергія народа, стомленага ад вайны і хаосу, скіравалася ў рэчышча барацьбы за пабудову нацыянальнага дома, у якім прастыя людзі ўжо бачылі прытулак для безканфліктнага жыцця, што яскрава засведчыла Слуцкае паўстанне.





З пачатку 1918 года «Зялёны Дуб» выказваецца за ўтварэнне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

Зялёнадубцы, як і іншыя прадстаўнікі нацыянальна-вызвольнага руху, далі права беларусам звацца палітычнай нацыяй. Дарэчы, у гэты час «беларус» азначала хутчэй палітычную, чым нацыянальную прыналежнасць. Партыя «Зялёнага Дуба» выступіла супраць тых сіл Расіі, якія жорстка і метадычна выкаранялі беларускі нацыянальна-культурны пачатак і выціскалі мясцовых з палітычнага і эканамічнага ўласнага поля.

«Зялёны Дуб» выкарыстоўваў умовы супрацьстаяння вялікіх дзяржаў для маніфестацыі нацыянальных імкненняў утварэння асабістай дзяржавы. Відавочныя прэтэнзіі «Зялёнага Дуба» на прадстаўніцтва сваёй нацыі як ў сістэме палітычных саюзаў, так і ў варагуючых асяродках, якія склаліся ў той самы час у Расіі і Еўропе.

У верасні—кастрычніку 1919 года Вячаслаў Адамовіч шырока інфармуе грамадства аб дзейнасці зялёнадубцаў на абшарах Беларусі. З гэтага часу польскі бок прызнае факт існавання «Зялёнага Дуба» і вызначае яго палітычны твар.

*«Пачатак (арганізацыі «Зялёны Дуб». — Н.С.) бярэ з таго часу, калі расійская армія пад ціскам нямецкіх войск пакінула беларускую тэрыторыю. Салдаты і тыя з беларусаў, хто падлягаў прызыву, але не пажадаў служыць ніводнаму з бакоў, арганізавалі ў лясах свае аддзелы, якія атрымалі назву «зялёных». Першапачаткова гэта былі дэзерціры без пэўных планаў дзеяння, але з пэўнай палітычнай і нацыянальнай афарбоўкай. У перыяд бальшавіцкай акупацыі ў 1918—1919 гадах «зялёныя» праводзілі дыверсійныя акцыі. З цягам часу беларускія дзеячы стараліся ўзяць гэты рух у свае рукі. У 1919 годзе ўзнікла Беларуская сялянская партыя «Зялёны Дуб», якая імкнулася да стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі, звязанай з Польшчай.*



**Уладзімір Ксяневіч-Грач. Здымак 1924 г**

*Партыя... стварала аддзелы сумесна з польскімі вайскоўцамі супраць бальшавікоў і іх прыхільнікаў...»*[2]

«Зялёны Дуб», такім чынам, займае пэўнае месца ва ўзброенай апазіцыі. Канчаткова працэс пабудовы палітычнай арганізацыі можна лічыць завершаным толькі ўвосень 1920 года. У кастрычніку—лістападзе структурна афармляецца Галоўны штаб партызанскіх аддзелаў з Уладзімірам Ксяневічам (партыйны псеўданім — Грач) на чале. 26 лістапада 1920 года прымаецца Статут Беларускай сялянскай партыі «Зялёнага Дуба».[3]




**Іван Пешка-Густалес, ад'ютант «ЗД». Фота 1939 г.**

«Зялёны Дуб» вылучае сялянства як самастойную палітычную сілу, на якую кладзецца ўвесь цяжар вырашэння асноўнай задачы. Галоўны будаўнік далейшага лёсу дзяржавы, на думку аўтараў Статута, — сялянства ў хаўрусе з дэмакратычнай інтэлігенцыяй. Дакумент сведчыць аб спадзяваннях на трэцюю «народную сялянскую рэвалюцыю», аб якой марылі амаль усе вядомыя палітыкі





таго часу — ад Мілюкова да Савінкава, і беларускія не былі выключэннем у агульным захапленні планамі сялянскай вайны.

Не трэба забывацца, што сялянская партыя «Зялёнага Дуба» — арганізацыя часу жорсткага грамадзянскага супрацьстаяння, калі палітычныя пытанні вырашаліся шляхам адкрытых узброеных



ПРОГРАММА

Русской народной Добровольческой армiи

Русская народная добровольческая армiя

1. Мы будемъ вести непримиримую борьбу съ большевизмомъ во имя народнаго начала, ибо идея большевизма, не говоря о ея нравственной и государственной несостоятельности, въ корнѣ противорѣчитъ дѣлу народному.

Мы стремимся къ освобожденiю Россiи отъ всѣхъ насильниковъ, самозванно распоряжающихся достоянiемъ народа и не дающихъ ему свободы выявить собственную волю къ устроенiю своей жизни.

и кончая наступленiемъ Сѣверо-Западной армiи въ Октябрѣ 1919 года, неудачу за неудачей.

Поэтому способы борьбы съ совѣтской Россiей должны быть измѣнены кореннымъ образомъ.

Борьба съ большевизмомъ должна совершаться исключительно на добровольческомъ началѣ. Это подразумѣваетъ полную свободу выбора — итти съ нами или нѣтъ. . Но разъ вступившiй подъ наши знамене отдаетъ себя всецѣло на служенiе общему дѣлу

***Праграма Рускай народнай добраахвотніцкай арміі генерала Булак-Балаховіча***

канфліктаў. Адсюль — «недахоп» дэмакратыі ў арганізацыйнай пабудове і пытаннях аб прыёме ў партыю; наданне вялікіх паўнамоцтваў атаману і абмежаванне функцый Вялікага сходу. Усе надзённыя пытанні адбудавання грамадства, на думку зялёнадубцаў, павінен быў вырашыць Устаноўчы Сойм пасля перамогі над бальшавікамі.

Тэкст Статута захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, фонд 456, воп. 1, спр. 1. Адна справа складае ўвесь

фонд. Але бачна, што не адразу дакумент набыў асобнае існаванне. Першы аркуш Статута мае нумары 1, 7, 98, зноў 1. Гэта сведчыць аб тым, што дакумент вандраваў па фондах і справах. Магчыма, ён быў дадаткам, ці, лепш сказаць, «вещдоком» у крымінальных справах зялёнадубцаў, таму першая старонка мае № 98. Тэкст рукапісны. Можна асцярожна меркаваць, што напісаны ён рукою Янкі Пешкі (ен жа Густалес), ад'ютанта Галоўнага штаба «Зялёнага Дуба». Янка вучыўся ў Мінскай духоўнай семінарыі і адначасова набываў веды ў гуртку беларусазнаўства, які ў семінарыі арганізаваў будучы атаман Дзяргач. Добра ведаў родную мову. Дакумент мае 11 старонак і выглядае як чарнавік. Але ён можа быць і адзіным, улічваючы ўмовы і абставіны, у якіх ён нарадзіўся.



Доверенность

Я нижеподписавшийся, Командир Белорусских партизанских отрядов поручик Хведощеня, получивший деньги в сумме 1.102.804 марки и 80 пен. (один миллион сто две тысячи восемьсот четыре марки 80 пен.) на ликвидацию Минского партизанского отряда от Русского Эвакуационного Комитета в Польше (Особая Комиссия Управления по делам интернированных в Калише) доверяю получить Адъютанту Белорусских партизанских отрядов Корнельскому Апреля 10 дня 1921 г.

Атаман партызанскіх атрадаў

Пор. Хведощеня

Пасведчанне атамана Ц. Хвядашчэні





Статут зацверджаны дзвюма пячаткамі. У сярэдзіне адной з іх пад выяваю Пагоні чэрап і скрыжаваныя косці. У той час гэта быў даволі распаўсюджаны сімвал на штандарах, улётках, пячатках і г. д. ваенных і партызанскіх фарміраванняў, якія абралі для сябе дыверсійныя і тэрарыстычныя формы барацьбы. Гэты ўстрашальны малюнак маглі бачыць на штандарах дывізіі «смерці» і праграмных дакументах арміі генерала Булак-Балаховіча. Назва «дывізія смерці» азначала, што вайскоўцы не мелі альтэрнатывы, толькі смерць (не маглі ўцячы, не маглі патрапіць у палон).

Адабраць жыццё ў ваяра ці партызана мог суд гонару за нешляхетныя паводзіны. На гэтую ўмову згаджаліся самі вайскоўцы, аб чым сведчылі іх распіскі. Напрыклад, у «Зялёным Дубе» такія распіскі захоўваў Вячаслаў Адамовіч-старэйшы, бацька атамана Дзергача. Яшчэ ў лютым 1918 года паручнік Хвядашчэня зацвярджаў спісы Менскага Беларускага нацыянальнага палка пячаткаю з выяваю Пагоні (зверху) і чэрапа са скрыжаванымі касцямі (унізе). Адначасова штаб «Зялёнага Дуба» і атаман карысталіся пячаткаю з малюнкам трох дубовых лісцікаў, што адпавядала назве арганізацыі.

Статут мае суправаджальны запіс — своеасаблівае бласлаўленне Вячаслава Адамовіча-старэйшага (аўтограф). На той момант ён займаў пасаду Міністра ўнутраных спраў ва ўрадзе пры штабе генерала С. Булак-Балаховіча. Па сутнасці, гэты ліст В. Адамовіча — наказ «праўдзівай нацыянальнай Беларускай сялянскай партыі, адпавядаючай цяжару варункаў, у якіх знаходзіцца наша Бацькаўшчына... працягваць змаганне далей».

Цікава, што арганізацыя заявіла пра сябе як партыя. Такім чынам у стваральнікаў быў разлік на шматбаковую палітычную дзейнасць. С самага пачатку яны не планавалі быць толькі ўзброенай абслугай чыіх бы то ні было інтарэсаў.




Пячатка «ЗД»

Восень 1920 года — час вызначальных падзей: падрыхтоўкі і ажыццяўлення Палескага пахода генерала Станіслава Булак-

Балаховіча, разгортвання Слуцкага фронту барацьбы за незалежную самастойную Беларусь.

Безумоўна, гэтыя падзеі супалі ў часе невыпадкова. Беларускія палітыкі актыўна шукалі шляхі развязвання палітычных праблем унутры, паміж нацыянальнымі сіламі, і звонку, праз кантакты з кіраўніцтвам акупацыйных рэжімаў. Балахоўскія сілы, што цярпелі паразу, ўліваліся ў слуцкія палкі, паўстанцы, якія не здабылі перамогі, — гэты ланцуг не перарваўся. Палітыкі і вайскоўцы прыклалі ўсе намаганні, каб захаваць баявую моц ужо пад шатамі «Зялёнага Дуба».

Яшчэ аддзелы Булак-Балаховіча не пераступілі тагачаснай дзяржаўнай мяжы, а Беларускі Палітычны Камітэт, які паўстаў з мэтаю забяспечыць палітычную і грамадскую падтрымку ваеннай акцыі генерала, звярнуўся да зялёнадубцаў з заклікам.

«Зялёнадубцы! Браты! Апошні час нашай барацьбы прабіў. Цяпер — ці ніколі!» — пытанне гучала рубам.



Інструкцыя

Начальнікам Беларускіх партызанскіх Атрадаў "Зялёнага дуба", існуючым на терене Беларускай народнай рэспублікі

§1.

Кожны начальнік падтрымлівае ў сваім атрадзе моцную дысцыпліну і беспашчадна карае смерцю партызанаў, якія не спаўняюць яго службовыя наказы.

§2.

Начальнік не дапускае ніякіх самаўласных рэквізіцый у сялян, захватаў прыватнай уласнасці і іх прыватнага дабра. Увага: Уся бальшавіцкая ўласнасць, дзе б яна не знаходзілася, можа быць рэквізавана ва ўсякі час і разглядаецца як вайсковая здабыча.

§3.

Усе атрады стараюцца заставацца ў тых раёнах, якія назначаны дзеля іх дзейнасці. Але ў момант дзейнасці дзеля каардынавання супольных дзействій могуць выбіраць [illegible] на свайму разуменню.

§4.

[illegible] суязь з суседнімі партызанскімі атрадамі, аб чым і аб сваёй дзейнасці пасылаюць данясеньня да Галоўнага штабу.

§5.

[illegible] усе камуністы і [illegible] караюцца смерцю, жаўнеры распускаюцца па хатам. Вайсковая маёмтнасць, [illegible] абоз паступае ў поўную уласнасць партызан. Лішка аружжа перадаецца сялянам дзеля арганізацыі народных дружын.

§6.

[illegible] чэкі, члены РТ, Бальшавіцкія агітатары без усякай пашчады знішчаюцца усё і што пры іх знаходзіцца канфіскуецца.

§7.

[illegible] проці партызан караюцца смерцю.

§8.

[illegible] начальнік атраду зараз жа ліквідуе усе іспалкомы [illegible] бальшавіцкія інстытуты [illegible] і прызыва насельніцтва [illegible] часоў бальшавіцкай навалы і народныя дружыны дзеля барацьбы з бальшавікамі.

§9.

[illegible] агентаў ЦК ЗД працуючых у яго раёне.

§10.

[illegible] з рэгулярнымі войскамі начальнік партызанскіх [illegible] спаўняць вайсковыя наказы, выданыя Начальнікам рэгулярных войск.

§11.

[illegible] начальнік атраду [illegible] з сельскімі [illegible] памагчымасці павінны даваць партызанам дапамогу.

§12.

За [illegible] гэтай Інструкцыі начальнікі атрадаў будуць падлягаць ваенна-палявому суду.

Атаман Беларускіх партызанскіх Атрадаў Дзяргач

Ад'ютант, капітан Корч

*Інструкцыя кіраўнікам партызанскіх аддзелаў «ЗД».*
*З матэрыялаў выставы «Беларускі рэзыстанс»*





*«Настаў гістарычны, адпаведны час вызваленьня роднай зямелькі ад бальшавіцкай апекі, ад з'дзеку і гвалтаў камісараў, ад таго крывавага тэрору, які запанаваў з таго часу, як прыйшлі да нас маскоўскіе бальшавікі...»* (стыль і правапіс крыніцы захаваны).

У адозве падкрэслівалася, што «мы, Беларусы, так сама, як і іншыя народы здатны да незалежнага жыцьця і больш ня пусцім нікога чужога гаспадарыць на нашай зямельцы». Аўтары звароту далі зразумець партызанам, што высока цэняць іх баявы досвед, набыты ў змаганні з бальшавікамі «ў лясох і балотах Палесься, у Барысаўскім павеце, у Смаленшчыне і іншых мяйсцох...»[4]

Не забыліся і пра ўдзячнасць нашчадкаў:

*«Каб гісторыя на сваіх страніцах залатымі літэрамі выдрукавала імя Зеленадубцаў, ратаваўшых сваю Бацькаўшчыну ад чужынцаў і падняўшых штандар яе вольнасці і незалежнасці!»*

Рупар БПК, баявы лісток «Звястун», рэдагаваў і выдаваў які Дзяргач, трэба адзначыць, умела знаходзіў шляхі да розуму і сэрцаў людзей, высокімі і пафаснымі словамі стараўся зачапіць нацыянальныя, рэлігійныя і грамадзянскія пачуцці. Бачна, што ён сам захапляўся тымі ідэямі, якімі натхняў ваяроў.

*«Хто верыць у Бога,*

*Хто лічыць сябе беларусам і жадае шчасьця сваей матцы — Незалежнай Беларусі,*

*Хто хоча спакойнай працы і лепшага жыцця,*

*Хто проці гвалтаў над спакойнымі жыхарамі, проці крывавага тэрору, з'дзеку чрэзвычаек і камісараў, хто проці грабежства чужога дабра… Усе тыя, не трацячы ні воднай хвіліны павінны спяшацца да Бацькі…*

*Хай жа па усей Беларусі прагрыміць наш кліч!»*[5]

Паўстанцы шчыра адгукнуліся на заклік БПК і генерала Булак-Балаховіча. Да яго войска далучыліся аддзелы Георгія Моніча, Янкі Галака, братоў Пруднікавых, Піменавых і інш.

«Зялёны Дуб» з самага пачатку плануецца як вайсковая структура Беларускага Палітычнага Камітэта. З паказанняў аднаго з атаманаў зялёнадубцаў — Міхася Крука, што пакінуў у ДПУ

цікавы дакумент пад назваю «Кароткі нарыс дзейнасці «Зялёнага Дуба» за 1920—1922 гг.», вынікае, што ў БПК спачатку ўвайшлі «такія значныя асобы», як Вячаслаў Адамовіч, Дзяргач, Язэп Сянкевіч, Яўген Міткевіч. Павел Аляксюк уступіў у Камітэт крыху пазней, у самым пачатку «Палескай вайны» генерала Булак-Балаховіча.

Згаданы Міхась Крук добраахвотна ў 1922 годзе прапанаваў свае паслугі ДПУ. І зразумела, што характарыстыкі, дадзеныя ім сябрам БПК і зялёнадубцам, не выклікаюць даверу, але ж цікава зазірнуць у яго твор, першы, дарэчы, у гістарыяграфіі зялёнадубцаў.

Чорнай фарбы былы атаман Крук, вядома ж, не шкадаваў, каб запляміць сваіх паплечнікаў і спадабацца следчым, але разам з абвінавачваннямі ў беспрынцыповасці, адсутнасці арганізатарскіх здольнасцяў і агульнай прыдуркаватасці Крук адзначыў:

> *«Председатель БПК полковник Вячеслав Антонович Адамович, 60 лет, белорус по происхождению и убеждению, человек честный, идейный, утопист и оптимист одновременно...»*

> *«Сын его, Вячеслав Вячеславович Адамович, атаман «Зялёнага Дуба», очень похож на отца... Способный терпеливо ждать нужного момента, стойко переносить лишения, безмерно добрый, мечтатель. Одет в лохмотья, никогда не придавал значения одежде».*

> *«Сенкевич, один из самых солидных сотрудников Комитета, человек разумный и гордый, материально обеспечен, сын помещика. Белорусскую справу с пользой объединял с коммерцией в Германии».* [6]

Грамадскае і палітычнае забеспячэнне Палескага паходу Булак-Балаховіча — першая буйная палітычная акцыя БПК. Збіранне сіл зялёнадубцаў у адзін кулак, падпарадкаванне атаманскай вольніцы і скіраванне яе ў адно рэчышча — другі выдатны крок гэтых беларускіх палітыкаў.

Яшчэ сялянскі правадыр збіраў сілы пад свае сцягі і вёў перамовы аб палітычным саюзе з Барысам Савінкавым, а газета «Новое Варшавское слово» надрукавала тэлеграму на адрас старшыні Расійскага Палітычнага Камітэта Б. Савінкава і камандуючага Добраахвотніцкай арміі Булак-Балаховіча.





> *«Пакутуя пад ігам захопнікаў-бальшавікоў беларускі народ кліча (армію Булак-Балаховіча) дапамагчы яму вызваліцца і здзейсніць запаветную мару многіх пакаленняў аб самастойнай дэмакратычнай Беларусі».*

Падпісалі гэты зварот старшыня БПК Вячаслаў Адамовіч (старэйшы), сябры Камітэта і Рады БНР Язэп Сянкевіч і Павел Аляксюк, а таксама камандзір групы мінскіх партызанскіх аддзелаў паручнік Ц. Хвядашчэня і прадстаўнікі зялёнадубцаў ад Мінскай губерні — Дзмітрыеў і Цяшэнка, ад Магілёўскай — Калінін, ад Смаленскай і Віцебскай — Зянкевіч і Глінскі.

12 кастрычніка 1920 года БПК заключыў пагадненне з С. Булак-Балаховічам. У сваім лісце да генерала сябры Камітэта пісалі, што яны падтрымліваюць армію генерала, у якой служыць шмат беларусаў. Яны перакананыя, што гэта армія прынясе Беларусі «сапраўдную вольнасць і магчымасць стварэння свайго дзяржаўнага быту». БПК абавязаўся весці сярод беларусаў у Польшчы вярбоўку ў беларускую армію, што будзе створана Булак-Балаховічам, а ён павінен у сваю чаргу перадаць гэтаму Камітэту грамадзянскую ўладу. БПК устанавіў кантакт з Б. Савінкавым, каб весці агульную барацьбу супраць савецкай улады.

> *«С самага пачатку БПК прыклаў вялікіе высілкі для вылучення з расійскай арміі беларускага элементу. Камітэт устаў на грунт лаяльнай супольнай працы з Барысам Савінкавым пры ў мове абсалютнага ўстрымання ад усялякай расійскай прапаганды на беларускай тэрыторыі».* [7]

Але Б. Савінкаў і ягоныя паплечнікі паставіліся непрыхільна да намаганняў П. Алексюка і В. Адамовіча стварыць у Мазыры, куды 12 лістапада прыбыў генерал С. Булак-Балаховіч, новы беларускі ўрад.

Тым не менш Аляксюк і Адамовіч паспяшаліся прыехаць з Варшавы ў Мазыр і менавіта яны прапанавалі Булак-Балаховічу пасаду «кіраўніка дзяржавы». Новастворaны Мазырскі ўрад БНР узначаліў Вячаслаў Адамовіч, старшыня БПК. Намеснікам старшыні ўрада і міністрам замежных спраў быў прызначаны народны сацыяліст Павел Аляксюк, міністрам адукацыі — Радаслаў Астроўскі, міністрам абароны — палкоўнік Бяляеў, міністрам фінансаў і прамысловасці — Язэп Сянкевіч.

Урад аб’явіў наступную палітычную праграму: барацьба за незалежнасць БНР і скліканне ў бліжэйшы час Устаноўчага сойму; зямельная рэформа з умовай абмежаванай зямельнай уласнасці; пабудова беларускай дзяржаўнасці ў саюзе з Польшчай і г. д.

На жаль, час поспеху генерала быў вельмі кароткі, перамога хутка перайшла на другі бок. Праграмы засталіся на паперы. Але сур’ёзнасць намераў засведчылі паштовыя маркі, якія паспелі надрукаваць часовыя ўрадоўцы.

З цягам часу кардынальна змяніліся адносіны з Польшчай. Антыбеларуская палітыка польскіх уладаў вымушала шукаць іншай тактыкі для дасягнення галоўнай стратэгічнай мэты. Абставіны дыктавалі свае ўмовы. Увосень 1921 года палякі ўжо не хавалі непрыхільнасці і насцярогі ў адносінах да «Зялёнага Дуба» і іншых антысавецкіх беларускіх арганізацый.

> *«Беларуская справа адна з сур’ёзных балячак Навагрудскай акругі, патрабуе рашэння тым ці іншым шляхам», — зрабіў выснову аддзел бяспекі ўрада ваяводы.*[8]

Польская выведка засцерагала ўлады, агент даносіў (рапарт датуецца вераснем 1921 года):

> *«Першая мэта беларускага партызанскага руху — выклікаць паўстанне ў Савецкай Беларусі, але ён з’яўляецца пачаткам вайсковай сілы, якая падрыхтуе паўстанне і ў Польшчы. Мэта — паўстанне не толькі ў Расіі, але і ў паветах Гродзенскім, Дрысненскім, Нясвіжскім... Архірэй беларускі ў Віленскім павеце, наведаўшы Маладзечна, благаславіў Чэслава Адамовіча-Дзергача на барацьбу, пасля чаго атрымаў каштоўную карціну».*[9]
>
> (Пераклад с польскай мовы)

У снежні 1921 года БПК быў, па сутнасці, зліквідаваны, Дзяргач высланы у лагер Тухоля, а потым у Стшалкава. Арганізацыя панесла сур’ёзныя страты.[10] Польскія ўлады распачалі зачыстку 150 км паласы ўздоўж новай мяжы і шукалі падставы для высылкі белых афіцэраў, балахоўцаў і зялёнадубцаў. Пераходы на савецкі бок былі дазволены толькі праз тры пункты: Турмонт, Лунінец, Маладзечна.

> *«...Партызанка (штабы ў Луніну, Баранавічах, Лахве) робіць напады на бальшавікоў, а таксама варожа настроена да польскіх уладаў і праводзіць агітацыйную работу сярод люду Беларусі».*[11]



# ПРЫКАЗ

## Народнай Ахвотніцкай Арміі, Селянскім і Партызанскім адрадам.

Апошнімі часамі даззнано, што не толькі камуністы, а і савецкіе служачые займаюцца правакацыяй паміж Народнай Ахвотніцкай Арміі. Пад той час, калі у Саудэпіі выдаюцца савецкім урадам прыказы аб зьнішчажэньні спрыяючых Народнаму руху, высылаюцца камуністычные палачы—кітайцы раастралівацъ семействы служачых у Народнай Ахвотніцкай Арміі, канфіскуецца іх меньне і ні у чым нявінных старыкоў, кабет і нат дзяцей трымаюць у страшэнных цяжкіх варунках у турмах, зьверска зьдзекаваюцца над імі і растралёваюць, кіраунікі антыбальшавіцкаго руху да гэтаго часу не прынімалі ніякіх рашучых спосабау проці камуністау, якіе засталіся на мейсцох, занятых Народнай Ахвотніцкай Арміяй. На жаль сам Народ пачау пагромы і самочынныя расправы, каб адамсьціц убіуцам—камуністам за соткі і тысячы нявінна загубленых душ; але дзеля таго, што ад пагромау і самачыннай расправы часта церпяць нявінные жыхары, а спэцыяльныя камуністычныя разбойніцкія шайкі, прыкрываючыся, як гэто ужо даказано, нашым імянем, далей вядуць сваю шкодную для Народу работу, то выдаушы прыказы, якіе бароняць спакойных жыхарэу, у тым ліку і аурэяу і назначаючы за усякі гвалт над спакойным жыхаром кару сьмерці у Маей Арміі, прыказываю цяпер дзеля болып інтэнсыунай барацьбы з камуністамі і іх здраднымі арудамі, ось што:

1) Усіх злоуляных з аружжам у руках камуністау разстралівацъ на мейсцы.

2) Пасьля занятия Маімі вайскамі якой колечы мейсцовасьці, усе члены камуністычнай партыі, усе спрыяючые камуністам, а так сама усе служачые у савецкіх установах павінны явіцца у 24 гадзіны да начальніка гарнізону, або да вайсковаго камэнданта свайго селеньня, калі ж іх у гэтым селеньні німа,—то да бліжэйшаго начальніка гарнізону, або да военнаго камэнданта гэтай мейсцовасьці для атрыманьня рэгістрацыйных дакумэнтау.

3) Камуністы, якіе не вялі аружнай барацьбы, а так сама жэ вайскова служачые, запісаные у камуністычную партыю,—будуць абароняны ад усялякіх гвалтау і павінны знаходзіцца—покуль следство не разбяра ступені іх праступку перад Народным судам—пад надзорам вайсковай, або цывільнай уласьці.

Усе мабілізаваные камуністамі красноармейцы, не выдзеляючы і каманднаго саставу, здаушыеся без бою, або па сваей ахвоте перайшоушые на страну Народнай Ахвотніцкай Арміі, дэмабілізуюцца і распушчаюцца да дому, тые ж з паміж іх, каторые захочуць пайсьці ахвотнікамі у Народную Ахвотніцкую Армію, будуць прыняты тудымы—як браты.

Што да служачых у савецкіх установах, то шмат з паміж іх не маюць нічога супольнаго з камуністамі, часта браты і сестры афіцэрау і салдатау Народнай Ахвотніцкай Арміі,—не павінны быць саусім напаставаны і пасьля патрэбнай рэгістрацыі мусяць быць саусім звольнены, апроча тых, за каторымі лічуцца праступкі камуністычнаго характару.

4). Усе незявіушыеся аб'яуляюцца уне закону.

5) Хто пераховывае незявіушыхся, атказывае за пераховыванье сваім жыцьцем і меньнем.

6) Аружжо—якое ні было б—павінно быць прэдстаулено у 24 гадзіны начальніку гарнізону, або вайсковаму камэнданту на мейсцы, або бліжэйшаму гэтай мейсцовасьці для рэгістрацыі.

Аружжо, адабранае ад бальшавікоў, будзе раздадзено тым цывільным асобам, якія карыстна памагалі у барацьбе Майго войска з бальшавікамі.

7) Права меці аружже маюць усе чыны Народнай Ахвотніцкай Арміі, а так сама і тые, якіе паводлуг праграмы Народнай Ахвотніцкай Арміі будуць дэмабілізаваны і будуць лічыцца у Народным апалчэнні—сваей мейсцовасьці для абароны сваіх селеній і спакойных жыхароу ад гвалтау і грабежства.

8) Усе, не прэдставіушые аружжа у назначаны тэрмін для рэгістрацыі, будуць аддадзены пад вайскова—палявы суд.

Прыказ падпісау Камандуючы Народнай
Ахвотніцкай Арміяй,
Генерал-Маіор Булак-Балаховіч.

***Загад сялянскім і партызанскім аддзелам генерала Булак-Балаховіча***

Палякі ўсё больш схіляюцца разглядаць справу беларускую як камуністычна-беларускую.

За лідарамі пільна сачылі. Асаблівую ўвагу выклікала новая арганізацыя Народны хаўрус «За Бацькаўшчыну», якая паўстала намаганнямі случакоў А. Паўлюкевіча, палкоўніка Бранавіцкага, капітана Яновіча.

У студзені 1922 года арганізатары зрабілі заяву аб сваіх галоўных мэтах:

*«Вызваленне Бацькаўшчыны з рук камуністаў, утварэнне Незалежнай Непадзельнай Беларусі ў яе этнаграфічных межах...»*

Форма барацьбы прызнавалася толькі актыўная — рэвалюцыйная, як са зброяй у руках, так і іншымі сродкамі.[12] Да новай арганізацыі далучыўся вядомы атаман Цімафей Хвядашчэня і ўсклаў на сябе абавязкі начальніка штаба ўзброеных сіл.[13]

Пераважная колькасць Народнага Хаўрусу склалася з былых сяброў БПК, з якога тыя былі быццам выдалены за сімпатыі да Расіі (версія вельмі сумнеўная) ці сышлі самі. Справаздача польскага аддзела бяспекі зазначыла таксама адсутнасць грашовых рэсурсаў і няздольнасць Хаўрусу арганізаваць шырокія народныя масы.[14]

*«Беларусы незадаволены падаткамі, асабліва зернем, гвалтоўнай паланізацыяй школы, апалячваннем беларусаў, высылкаю балахоўцаў у Расію...» — засведчылі настроі беларускага насельніцтва адпаведныя службы.*

*«Лідары беларускага руху патрабуюць бязмежнай самастойнасці... Доктар Паўлюкевіч выказваецца: лепш далучыцца да Расіі, чым польскае ярмо».[15]*

З гэтага моманту рэпрэсіі з боку польскіх уладаў узмацняюцца. Міністэрства ўнутраных спраў арганізавала патаемныя праверкі дзейнасці беларускіх арганізацый. Доктар А. Паўлюкевіч быў арыштаваны і чакаў судовага разгляду. У адносінах да «Зялёнага Дуба» аддзелы бяспекі ваяводстваў зрабілі жорсткія высновы:

*«Праграма гэтай партыі змяніла свой ранейшы накірунак, і яна стала выразным ворагам польскасці, у значнай ступені ідэнтыфікуючы сябе з праграмай В. Ластоўскага...»[16]*





Хаця баявая дзейнасць «Зялёнага Дуба» ажыццяўлялася на тэрыторыі Савецкай Беларусі, аднак службы бяспекі Польшчы бачылі пагрозу ў самым факце існавання гэтай арганізацыі, што, безумоўна, мела падставы. «Арганізацыя мае ў агульнай колькасці 48 аддзелаў па 120 чалавек у кожным, акрамя таго існуюць 25 тэрарыстычных баявых аддзелаў», — палохала Варшаву мясцовая адміністрацыя.[17] Як вынік сапсаваных адносінаў з Польшчай з'яўляецца ўсходні вектар палітыкі «Зялёнага Дуба». Кіраўніцтва спрабуе намацаць магчымыя кропкі супрацоўніцтва з другімі палітычнымі сіламі. У жніўні 1922 года з прапановаю арганізаваць антыпольскія паўстанні па тэрыторыі Заходняй Беларусі ў ДПУ з'яўляецца атаман Крук. Перад гэтым ён паспрабаваў захапіць уладу ў «зялёных», сабраў на сход з дзесятак атаманаў, незадаволеных Дзергачом.

*«...Мне удалось убедить их в невозможности существования автономной Белоруссии и благодаря открытому шантажу собравшейся группой Дергач был отстранен от атаманства...»[18]*

М. Крук спрабаваў наладзіць кантакты з савецкай місіяй у Варшаве, прапануючы свае паслугі. Трэба сказаць, што ў савецкае прадстаўніцтва наведваліся і іншыя вядомыя фігуры антысавецкага руху, якія на той момант знаходзіліся ў Варшаве.

У ліпені 1922 года Галіна Кузьменка, жонка Н. Махно, вяла перамовы з савецкай місіяй. Ад імя мужа яна прапаноўвала план змовы супраць польскай улады і падрыхтоўкі паўстання ва Усходняй Галіцыі. Цікава, што пасярэднікам паміж Махно, які сядзеў у той час у Стшалкаве (як, дарэчы, і Дзяргач), быў адзін з баевікоў «Зялёнага Дуба» І. Шуляк (сапраўднае прозвішча А. Пашкевіч, вядомы яшчэ як Антоній Касінскі).[19]

Прапановы Крука ў ДПУ сустрэлі вельмі стрымана. Гэтая ўстанова праз сваіх агентаў хутка высветліла, што перабежчык не меў ад партыі ніякіх паўнамоцтваў весці «переговоры с советской властью на предмет перенесения штаба «Зелёного Дуба» в Белоруссию для борьбы с белополяками... Впечатление же произвёл проходимца, авантюриста и человека без всякой общественной ценности», — падсумаваў следчы.[20] М. Крук быў расстраляны ў Мінску за антысавецкую дзейнасць.[21] Ахвяраю яго няўдалай авантуры стаў Антон Самусевіч, які зразумеў сутнасць справы

толькі ў Мінскай турме. Зрабіўшы падкоп, ён спрабаваў уцячы і быў расстраляны.[22]

Цікава, што ад імя кіраўніцтва «ЗД» у гэтым жа 1922 годзе беларускаму афіцыйнаму боку былі зроблены прапановы аб стварэнні супольнага антыпольскага блока. Крымінальная справа Ксеневіча-Грача мае дакументальныя дадаткі з іншых крыніц, сярод якіх лісты атамана «ЗД» за 1922 год да ўрада Беларусі. На першы погляд аўтографы Дзергача сведчаць пра кардынальную змену курса і саюзнікаў. Але з Мінска на лісты не адгукнуліся. Як сведчаць агентурныя матэрыялы, побач з Дзергачом заўсёды быў крот, які меў з атаманам сяброўскія адносіны і быў у курсе спраў. Нехта Ракоўскі акуратна дакладаў усе падрабязнасці дзейнасці і жыцця


БЕЛАРУСКАЯ ...нская Партыя ЗЯЛЕНАГО ДУБА
BEŁARUSKAJA ...lanskaja Partyja ZIALIENAGO DUBA
№
192

Ліст Дзергача ў ЦК Кампартыі Беларусі (1922 г.)





лунінецкага партызанскага цэнтра. Такім чынам, гульня з чэкістамі магла праходзіць толькі па іх правілах.[23]

З матэрыялаў следства вынікае, што пасля шматразовых допытаў Ксяневіч прызнаўся, што план распрацаваны з ведама II аддзела Польгенштаба і з мэтаю справакаваць беларускі ўрад. Задача была няпростая: атрымаць згоду на арганізацыю партызанскіх аддзелаў на тэрыторыі Польшчы, выясніць месцы знаходжання складоў зброі (савецкай). Спецслужбы, г. зв. «двуйка», зацікаўлена была ў канкрэтных дакументальных сведчаннях парушэнняў савецкім бокам Рыжскіх пагадненняў. II аддзел ПГШ такім чынам даказаў бы факт фарміравання банд (савецкіх) для налётаў на тэрыторыю Польшчы і прадставіў бы адпаведныя дакументы ў міжнародныя арганізацыі.

З 1924 года «ЗД» ушчыльную супрацоўнічае з адной з манархічных арганізацый «Брацтва Рускай праўды» (БРП). Пры гэтым палітычныя перакананні і перавагі ў зялёнадубцаў не змяніліся. Але рэлігійны праваслаўны складнік значна павялічыўся ў агітацыйнай і прапагандысцкай працы.

У другой палове 20-х гадоў «ЗД» страціў былую моц. Невялікія групы партызан выкарыстоўваліся замежнымі антысавецкімі арганізацыямі як баявы тэрарыстычны рэсурс.

## Крыніцы, заўвагі


1. *Адамовіч Вячаслаў—Дзяргач. Даклад па Беларускім пытаньні ў Польшчы. 27—2—1929 г. Данцыг. Копія зроблена з арыгінальнага рукапісу Дзергача 9 лістапада 1965 года. Рукапіс захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы ў Лондане.*
2. *Krotki zarys Zagadnienia Białoruskiego. Warszawa, dnia 31 stycznia 1928. ss. 98—99.*
3. *НАРБ, ф. 456, воп. 1, спр. 1.*
4. *Звястун. 1920. 5 лістапада.*
5. *Тамсама, 25 лістапада.*
6. *Архіў КДБ РБ. Крымінальная справа М. Крука. 5.*
7. *AAN. TSK. 99. s. 6*
8. *ДАГВ, ф. 662, воп. 3, спр. 1, арк. 67.*
9. *Тамсама.*
10. *Тамсама, арк. 164.*
11. *ДАБВ, ф. 2001, воп. 4, спр. 230, арк. 68.*
12. *ДАГВ, ф. 551, воп. 1, спр. 32, арк. 9.*

13. Архіў КДБ, крымінальная справа Ул. Ксяневіча.
14. ДАБВ, ф. 67, воп. 1, спр. 11, арк. 64.
15. ДАГВ, ф. 662, воп. 3, спр. 9, арк. 4, спр. 1, арк. 164.
16. ДАБВ, ф. 67, воп. 1, спр. 11, арк. 64.
17. Тамсама.
18. Архіў КДБ РБ, крымінальная справа М. Крука і інш.
19. За свободу. 1923. 28 ноября.
20. Архіў КДБ РБ. Крымінальная справа М. Крука і інш.
21. М. Крук, сапр. Канстанцін Апалонавіч Ведзюкоў нарадзіўся ў Казані ў 1892 г. у сям'і надворнага саветніка. Удзельнік антысавецкага паўстання ў Глухаве. Служыў у белай арміі, у С. Петлюры, у Чырвонай арміі. Дэзерціраваў і ўцёк у Польшчу. У газеце «Виленское утро» пісаў пад псеўданімам Вадзім Халодны. Архіў КДБ РБ. Крымінальная справа М. Крука і інш.
22. Тамсама, крымінальная справа А. Самусевіча.
23. Тамсама, крымінальная справа Ул. Ксяневіча.

## 3. Галоўны штаб партызанскіх аддзелаў: склад, функцыі

Для каардынацыі дзейнасці партызанскіх аддзелаў на тэрыторыі Савецкай Беларусі ўвосень 1920 года быў створаны Галоўны штаб «Зялёнага Дуба».



Мікалай Крывашэін-Корч, ад'ютант «ЗД». Фота каля 1921 г.

У склад штаба і кіруючых органаў у асноўным уваходзілі вайскоўцы, прадстаўнікі інтэлігенцыі, учарашнія вучні. Абавязкі першага ад'ютанта выконваў студэнт Мікалай Крывашэін, партыйная мянушка Корч, другога — былы семінарыст Іван Пешка (Густалес). Ролю ідэолага і тэарэтыка выконваў пісьменнік Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.).[1] Дарэчы, у склад «Зялёнага Дуба» ўваходзіў і яго сын.

Пытаннямі забеспячэння зялёнадубскіх аддзелаў займаўся палкоўнік Уладзімір Жукоўскі, былы балахоўскі афіцэр, а да





таго — настаўнік.[2] Было створана яшчэ інфармацыйнае бюро, куды ўвайшлі семінарысты Іван Струкоўскі, Міхась Басевіч, Іван Лямбовіч.

Галоўны штаб на момант фарміравання знаходзіўся ў Лунінцы. Тут аддзелы камплектаваліся, узбройваліся, адсюль накіроўваліся для баявых дзеянняў у розныя куткі Савецкай Беларусі. У маёнтак Бор, што каля вёскі Вялікія Чучавічы, у розныя часы на адпачынак і пераўзбраенне прыходзілі аддзелы палкоўнікаў Ул. Жукоўскага, А. Касінскага, братоў капітанаў Караткевічаў, капітана Казлоўскага, паручнікаў Юшчанкі, Цярэнц'ева, Лебедзева, Красоўскага, Хвядашчэні (ён жа Вішнеўскі, Кулеўскі), братоў Бранавіцкіх і інш.

Пра тое, як паўставаў новы цэнтр супраціву ў Лунінцы пасля паражэння папярэдніх буйных антыбальшавіцкіх акцый, уласнаручна напісаў у 1939 годзе вязень унутранай турмы НКВД, г. зв. «амерыканкі», Пешка-Густалес. Палітычны шлях Янкі пачаўся ў Мінскай семінарыі і меў працяг на настаўніцкіх курсах у 1920 годзе ў Слуцку. Ён успамінаў, што Дзяргач праводзіў арганізацыйную працу сярод настаўнікаў, спрабуючы пераканаць іх у неабходнасці добрых дачыненняў з палякамі, якія, спадзяваўся Дзяргач, дапамогуць адрадзіць Беларусь.

Падчас адступлення польскай арміі з імі адступілі верныя нацыянальнай ідэі капітан Борык, паручнік Хвядашчэня, моладзь з ліку студэнтаў і семінарыстаў — Іван Лямбовіч, Міхась Басевіч, Іван Струкоўскі, Сяргей Бусел. Са старэйшых Густалес успомніў Арсеня Паўлюкевіча і паручніка Мацэлі. Калі пачалося адступленне, да якога далучыўся і ён са сваімі сябрамі па семінарыі, то папаўзла чутка, што ёсць надзея — на Палессі ўтвараюцца беларускія вайсковыя часткі, да якіх трэба далучыцца і якія падтрымлівае польскі ўрад. Гэта ўзняло настрой моладзі. Правадыры запэўнівалі, што барацьба беларусаў з Чырвой арміяй яшчэ наперадзе і будзе мець поспех.[3]



Капітан Цімох Хвядашчэня

Пешка пазначыў галоўныя вехі свайго шляху да Лунінца: Слуцк — Семежава — Вызна — Леніна — Давыд-Гарадок. Узгадаў пра ўпартую і працяглую баявую сутычку з чырвонымі каля Морачы. Аддзел случакоў дасягаў 200 чалавек, падчас бою паўстанцамі кіравалі афіцэры Маліноўскі і Абрамаў. Чырвоныя выцеснілі іх у Давыд-Гарадок. Тут случакоў і балахоўцаў, што далучыліся да іх, абяззброілі палякі.

У Давыд-Гарадку, як засведчыў Густалес на допыце, з прамовай выступіў А. Паўлюкевіч. Ён гаварыў: заваюем Беларусь, вызвалім яе ад палякаў і бальшавікоў. За ім Павел Аляксюк таксама казаў, што хаця гэта беларускае войска і абяззброілі, тым не менш барацьбу супраць чырвоных трэба весці і заваёўваць Беларусь розным чынам, а палякі цяпер дапамогуць. Хутка тут з'явіліся афіцэры: Караткевіч, Кахановіч, Абрамаў, Таалат-Кепш, Іўжэнка. Усе часці накіроўваліся ў Лунінец.

З уласнаручных паказанняў Пешкі-Густалеса:


Białoruska Komisja Wojskowa.
Dekret Naczelnego Wodza W. P. z dn. 22/x 1919 r. № 3760/l
№ leg. 1096
Data wystawienia Grudnia 1920
LEGITYMACJA.
Kapitana Boryka Antonego
№ leg. 10…
Podpis właściciela
Borуka kpt.

Пасведчанне сябра БВК Антона Борыка





*«На входе в Лунинец нас встретили зелёные белорусы (так у тэксце. — Н.С.). Ими руководил Адамович. Он уведомил, что в Лунинце находится главная белорусская часть зелёной армии и необходимо присоединиться к новому военному центру. Обходя прибывших, Адамович узнавал своих знакомых, узнал и меня. Он называл нас своими земляками, пригласил к себе на квартиру для отдыха. Говорил, что очень рад встрече с нами. Мы спросили, каким образом он попал в Лунинец. Он отвечал: такая судьба! Скоро познакомил нас со своим окружением: полковником Ксеневичем-Грачом, адъютантом Кривошеиным-Корчом, Антоном Касинским, Хаткевичем, которые вместе с Дергачом составили штаб зелёной армии или «Зелёнага Дуба». Также сказал, что есть уже военные отделы, которые этому штабу подчиняются...»*[4]

За арганізацыяй і дзейнасцю Галоўнага штаба пільна сачыў старшыня Беларускага Палітычнага Камітэта. Як «успамінаў» Грач, Адамовіч-старэйшы дапамагаў афармляць партыйныя дакументы, рабіць пячаткі. З ім вырашаліся пытанні аб складзе штаба, яго функцыях. Шмат хто з чальцоў БПК былі зялёнадубцамі і наадварот. Так, атаман Дзяргач уваходзіў у БПК, яго ад'ютант Густалес з'яўляўся адначасова сакратаром канцылярыі БПК і Галоўнага штаба «Зялёнага Дуба».

Пасведчанні камандзіраў партызанскіх аддзелаў, падпісаныя Булак-Балаховічам, давалі магчымасць атрымліваць правіянт з польскіх інтэнданцкіх складаў у Баранавічах. Пытанні аб забеспячэнні арганізацыі ўсім неабходным, як сведчыў Грач, вырашаліся вельмі цяжка. Палякі давалі мала і неахвотна. Па прызнанні шэфа Галоўнага штаба зялёнадубцы часцяком галадалі, частаваліся адной гарбатай. Добра, калі была магчымасць налавіць рыбы, памяняць тытунь на хлеб. Прадуктамі зрэдку дапамагаў Р. Астроўскі. Ён нейкі час займаў пасаду кіраўніка амерыканскай кухні для дзяцей у Пінску. Лекі аднойчы атрымалі ад місіі амерыканскага Чырвонага Крыжа, да якой вымушаны быў звярнуцца Грач. Партызаны хварэлі на тыф.

Грошай за ўвесь час у Лунінцы не атрымалі ўвогуле, а трэба было купляць патроны, стрэльбы, дакументы. З мэтай пошуку сродкаў зялёнадубцы гандлявалі, і на савецкім баку таксама папросту займаліся кантрабандай. Тут трэба сказаць, што спекуляцыя (у той час сэнс гэтага слова быў крыху іншым) і кантрабанда была добрым «дахам» для выведвальнай працы як для зялёнадубцаў,

так і для савецкіх чэкістаў. Каб вырашыць грашовыя пытанні, займаліся прыпіскамі, павялічвалі ў некалькі разоў колькасць людзей у аддзелах. Атрыманым за мёртвыя душы правіянтам гандлявалі на рынках Лунінца і Пінска, мянялі ў мясцовых яўрэяў на другія патрэбныя рэчы.

Галоўны штаб кантраляваў амаль усе бакі баявой і арганізацыйнай дзейнасці Беларускай сялянскай партыі «Зялёны



*Мікалай Крывашэін-Корч (у цэнтры), ад'ютант «ЗД». Фота 1921 г.*





Дуб». Задачам штаба адпавядаў яго склад з чатырох аддзелаў: аператыўнага, агентурнага, прапагандысцкага і дыпламатычнага.[6]

Штаб забяспечваў зялёнадубцаў асабістымі дакументамі, прапускамі, літарамі (пасведчаннямі) на праезд, сачыў за друкаваннем бланкаў, інструкцый, зваротаў да сяброў партыі і насельніцтва, прадстаўляў інтарэсы партыі ў перамовах з палітычнымі і ваеннымі дзеячамі Польшчы, Францыі, былой царскай Расіі.

Здабыванне неабходнага для існавання і баявой дзейнасці арганізацыі патрабавала каласальных высілкаў, але галоўныя намаганні штаба былі скіраваны на каардынацыю ўзаемадзеяння і супрацоўніцтва партызанскіх аддзелаў.

На працягу 1921 года Галоўны штаб размяркоўваў сілы, складаў планы і вызначаў геаграфію баявых акцый. Як правіла, кожны атаман меў сваю тэрыторыю. Атаман Дзяргач (ён жа Грозны, Іван Бурылка) аперыраваў на правым беразе Прыпяці, на Мазыршчыне. М. Жылінскі, Г. Канапацкі — на Ігуменшчыне. Атаманы Вдовін, Жывіца, І. Мацэлі — на Случчыне, браты Караткевічы — у Бабруйскім павеце і г. д.

Зялёнадубцы прынялі ўдзел у Слуцкім паўстанні. Некаторыя падрабязнасці тых дзён высвятляюць «успаміны» Ксяневіча-Грача. Як сведчыць Грач, зялёнадубцы не раз пасылалі паўстанцам зброю, якую атрымлівалі ад палякаў. Гэта была зброя інтэрнаваных балахоўскіх аддзелаў. «Зялёны Дуб» аказаў дапамогу і выбуховымі рэчывамі, іх было дастаткова на бронецягніку «Балаховец». Праўда, палякі ўжо ўзялі яго маёмасць на ўлік, але «крадзяжу» выбуховых рэчываў не супрацьдзейнічалі. За адну ноч зялёнадубцы даставілі іх паўстанцам.

Грач падкрэсліваў, што дапамога случакам абмяжоўвалася толькі зброяй, што ў Слуцк з мэтай наладжвання сувязі былі накіраваны ўсяго 10 чалавек. Але між іншым ён гаворыць, што ў той жа час штаб камплектаваў аддзелы па 20—25 чалавек і накіроўваў іх у Чучавічы, адтуль на Сіняўку — Семежава. Сам Дзяргач на чале аддзела ў 60 чалавек дзейнічаў у раёне Мілкавічы — Старобін.[5]

Пасля разгрому 1 Слуцкай Брыгады ўсе намаганні партыі былі скіраваны на збіранне і канцэнтрацыю сваіх сіл.

У 1921 годзе арганізацыя перажывае кульмінацыю сваёй дзейнасці. С цягам часу антысавецкая партызанка страціла сваю

моц і арганізаванасць. Змянілася і роля Галоўнага штаба. Пасля арышту Ул. Ксяневіча пасаду начальніка зойме капітан Яноўскі. Але пра дзейнасць гэтай структуры ўжо пасля 1923 года мала вядома.



P L E N I P O T E N C J A.

Niniejszym powierza się ppłk. MICHAŁOWI KRUK- członkowi Centralnego Komitetu Wykonawczego Białoruskiej Sielańskiej Partji " Zielonego Dębu"- prowadzenie pertraktacji z Naczelnym Dowództwem i Ministerjum Spraw Wewnętrznych Rzeczypospolitej Polskiej w sprawie interesów i żądań wyżej wspomianych organizacji.

W razie odmowy Rządu na propozycje i żądania upełnomocnionemu ppłk. MICHAŁOWI KRUK, upoważnia się tegoż postępować według własnej orjentacji.-

Prezes C.I.K.B.S.P.Z.D. Ataman Z.D.

Szef Kancelarji Szef Sztabu

Adjutant

*Пасведчанне атамана Крука з подпісамі кіраўнікоў штаба «ЗД»*





### Крыніцы, заўвагі

1. *Перш чым увайсці ў склад штаба, пісьменнік пехатою адбыў марш з арміяй Булак-Балаховіча на поўдзень Беларусі. Побач з генералам быў у Пінску і Лунінцы. Пэўны час супрацоўнічаў у яго газеце «Звястун» (рэдагаваў газету Дзяргач). Пасля паражэння разам з сябрамі БПК выехаў у Варшаву. Памёр 23 лютага 1922 г.*
2. *Уладзімір Жукоўскі ў войску генерала Булак-Балаховіча кіраваў чыгуначным рухам. Да гэтага ўвосень 1920 г. на чале партызанскага аддзела ваяваў з чырвонымі ў Якшыцкай, Гарадзецкай і Пагарэльскай валасцях Ігуменскага павета. У 1922—24 гг. пад выглядам народнага настаўніка з горада Лунінца Кісялёва праводзіў арганізацыйную і дыверсійную работу ў Барысаўскім і Мазырскім паветах. Некаторы час жыў у мястэчку Азарычы.*
3. *Архіў КДБ РБ. Крымінальная справа І. Пешкі.*
4. *Тамсама.*
5. *Тамсама. Крымінальная справа Ул. Ксяневіча.*
6. *Сидоренко А. И. Классовая борьба в белорусской деревне в первый год восстановительного периода (1921 г.). — Мн., 1950. С. 153.*

## 4. Хаўруснікі «ЗД»

### «Народный союз защиты Родины и Свободы»

Антыбеларуская палітыка польскіх уладаў, што выяўлялася ў гвалтоўнай паланізацыі беларускага насельніцтва, закрыцці беларускіх школ, пераследзе беларускіх палітыкаў і ў іншых антынацыянальных акцыях, вымушала «ЗД» мяняць тактыку і хаўруснікаў. Пэўны час беларуская ўзброеная апазіцыя мела падтрымку польскага армейскага кіраўніцтва і спецслужбаў, якія разлічвалі выкарыстаць яе у выпадку адкрытага ваеннага канфлікту з чырвонай Расіяй. Але з узнікненнем больш-менш стабільных адносін у рамках Рыжскай дамовы не толькі ўладавыя колы, але і атачэнне Пілсудскага лічылі беларускую палітычную і баявую актыўнасць шкоднай. Уласныя амбіцыі беларускіх палітыкаў сустракалі «халоднае непаразуменне» ваенных і адкрытую варожасць польскага ўрада.

Падчас папярэдніх перамоў у Рызе, увосень 1920 года, у «ЗД» з'яўляюцца новыя саюзнікі. Зацікаўлены ва ўзмацненні антысавецкага фронту і адначасова ў аслабленні беларускіх незалежнікаў,

польскі бок садзейнічаў стварэнню часовых саюзаў паміж рознымі антысавецкімі групоўкамі, якія знайшлі прытулак на польскай тэрыторыі. Адным з асноўных саюзнікаў беларускіх арганізацый стаў Рускі палітычны камітэт (пазней — Народны саюз абароны радзімы і свабоды), з якім у іх супалі кароткатэрміновыя задачы лакальнай вайны з саветамі. «БПК зыходзіў з іншых матываў», — слушна заўважыў невядомы аналітык Беларускай ЧК, падсумоўваючы вынікі працы свайго ведамства за 1921 год, — але сышоўся з Саюзам у сваёй асноўнай мэце — знішчэнні Рабо-ча-Сялянскай улады».[1]

Для беларускай апазіцыі, пазбаўленай еўрапейскай увагі, а значыцца і грошай, планы рускага палітыка прышліся даспадобы, а яго магчымасці і высокія сувязі разглядаліся як канал фінансавання. Поспеху, разлічваў Савінкаў, паспрыяе простая формула з трох складнікаў: сялянства, моцны лідар і замежная дапамога. Такіх высноў прытрымлівася і зялёнадубцы. На актыўнасць сялянства разлічвала большасць беларускіх палітыкаў.

Умовы палітычных і вайсковых саюзаў дыктавалі артыкулы Рыжскага дагавора. Менавіта гэты дакумент, які на пэўны час змяніў геапалітычныя ўмовы і парэзаў тэрыторыю Беларусі на два амаль роўныя кавалкі, прымушаў антысавецкую апазіцыю, «сыноў і пасынкаў» Расійскай імперыі аб'яднацца і апрануць на пэўны час «беларускі плашчык».[2]

Ініцыятыва Пілсудскага заахвоціць дзве арганізацыі, БПК і РПК, да партнёрства ў палітычнай справе знайшла ў іх лідараў паразуменне. Савінкаў пазней узгадваў, што менавіта начальнік Польскай дзяржавы быў пасярэднікам паміж імі. Перамовы пачаліся ў час падрыхтоўкі ваеннай акцыі генерала Булак-Балаховіча, у якой абодва бакі прынялі самы актыўны ўдзел. Палітычныя пункты пагаднення аб супрацоўніцтве склаліся на падставе прызнання незалежнасці Беларускай дзяржавы, зыходзячы з права ўсіх народаў былой імперыі на самавызначэнне. Канчатковыя формы ўзаемаадносін паміж Беларуссю і Расіяй павінен быў вызначыць Устаноўчы сход прадстаўнікоў краін, або ўпаўнаважаныя імі ўрады. Абедзве арганізацыі «выказалі ўпэўненасць, што гэтыя формы будуць адпавядаць іх жыццёвым інтарэсам».[3]

Цалкам дамова была прапісана ў асцярожных і дыпламатычных фармулёўках і давала магчымасці палітычных манеўраў кож-





наму з бакоў у сваіх інтарэсах. Стратэгічныя мэты беларускіх незалежнікаў і расійскіх вялікадзяржаўнікаў былі, зразумела, розныя, але бліжэйшыя задачы на кароткі час аб'ядналі і расійскіх палітыкаў, і беларускіх баевікоў.

Пагардлівыя ацэнкі ў адрас беларускіх саюзнікаў, што дазволіў сабе потым Савінкаў, вязень Лубянкі, высветлілі яго сапраўдную сутнасць сібарыта ў рызах народнага заступніка, што шукаў вінаватых у сваім падзенні.[4]

Адносіны даверу і шчырага супрацоўніцтва з савінкаўскімі арганізацыямі так і не склаліся. Звадкі і ўзброеныя разборкі паміж саюзнікамі былі звычайнай справай. Уладзімір Ксяневіч (Грач), які перайшоў на савецкі бок у 1924 годзе, падчас следства ў ДПУ паказаў, што саюзнікі хапаліся за зброю з любой дробнай нагоды, каб высветліць адносіны.

Звязаныя рыжскімі пагадненнямі палякі патрабавалі ад замежных вайсковых фарміраванняў устрымацца ад баявых акцый на савецкім баку, а пакуль збіраць сілы, час патраціць на баявую падрыхтоўку.

> *«Обстоятельства наши осложнялись еще больше соседством в Лунинце савинковской организации, — «ўспамінаў» начальнік штаба «ЗД». — Они выступали активно (з дыверсіямі на савецкім баку. — Н.С.) и заражали наших людей. Когда мы начали получать провиант с польских интендантских складов, стали примазываться савинковские люди, такие как полковник Войцеховский (наступнае імя неразборліва. — Н.С.), Гинтовт и др. Начались интриги. Савинковцы нам очень вредили и доносили на нас в польский штаб всякую чушь».*[5]

У сітуацыі надта абмежаваных рэсурсаў саюзнікі змагаліся за доступ да іх самымі нядобрымі сродкамі. Палкоўнік Вайцахоўскі быў цяжка паранены атаманам падчас «сужыцельства» партнёрскіх арганізацый у Лунінцы. Побытавая драбяза — хлопцы сустрэліся ў доме фельчара Лішчука, бацькі мясцовай прыгажуні, — дала нагоду крывавай сутычцы. Вайцахоўскі апынуўся ў шпіталі. Справу замялі апекуны з Варшавы. Стралялі і ў Дзергача. Па агентурных дадзеных, замах на яго жыццё быў здзейснены савінкаўцамі ў Варшаве ў красавіку 1921 года.

НСЗРС працягваў пошукі больш гнуткіх саюзнікаў. У сярэдзіне 1921 года да баявога саюзу далучылася частка беларускіх эсэраў. Больш за палову года таму, ў разгары палітычнага і ўзброенага

змагання падчас Слуцкага паўстання і Палескага паходу супраць Чырвонай арміі, яны былі вельмі ўпартыя ў сваёй варожасці да Булак-Балаховіча. Адпаведныя ацэнкі былі агучаны ў адмысловых рэзалюцыях і пастановах.

Інтарэсы беларускіх эсэраў на агульнай нарадзе прадстаўляў Яўген Злоцкі ад імя Беларускага Ваенна-палітычнага Цэнтра і беларускага ўрада Вацлава Ластоўскага, што на той момант месціўся ў Коўна.

Праграма, якая засведчыла цеснае партнёрства паміж пашыраным складам беларускіх зялёных і Народным Саюзам Абароны Радзімы і Свабоды, была прынята 21 чэрвеня 1921 года на агульным з'ездзе прадстаўнікоў Саюза, зялёных і паўстанцкіх арганізацый, дапоўненая і зацверджаная дэлегатамі. Устанаўленне дэмакратычнага рэспубліканскага ладу на асновах народаўладдзя аб'яўлялася галоўнай мэтай хаўруснікаў. Права на самастойнае дзяржаўнае існаванне прызнавалася «за ўсімі народамі і абласцямі, якія раней уваходзілі ў склад былой Расійскай імпэрыі, якія ўжо стварылі ці ствараюць уласную дзяржаву...».[6]

Партнёры не адкідалі магчымасці «цеснага свабодна заключанага дзяржаўнага палітычнага і гаспадарчага саюза паміж імі». Устаноўчы сход, галоўны орган улады, павінен быў абірацца на падставе агульнага, роўнага, прамога і таемнага галасавання. Рашуча адмяталіся ўсе спробы вяртання цара і старых парадкаў.

З іншых сацыяльных рэформ былі прапісаны адмена ўсіх камуністычных дэкрэтаў землекарыстання, дэмабілізацыя Чырвонай арміі і вызваленне сялян з рабства. Баевікі былі не супраць «адраджэння свабоднай таргоўлі і прамысловасці пад кантролем дзяржаўнай дэмакратычнай улады».[7]

Асобная рэзалюцыя была прынята ў адносінах да знешніх саюзнікаў. Усю дзейнасць планавалася праводзіць у цесным кантакце з былымі саюзнікамі, з Францыяй і Польшчай.

Яшчэ раз былі прааналізаваны і зацверджаны асноўныя дамоўленасці па тактыцы. Было вырашана выйсці за рамкі тайнай арганізацыі і адмовіцца ад тактыкі змовы, шукаць новыя сілы для ўтварэння новых структур і баявых аддзелаў. Новастворанвя структуры, згодна з вынікамі нарады, набывалі шырокую самастойнасць. Яны не павінны былі спяшацца з усталяваннем сувязей з цэнтральнымі органамі. Арганізацыі аднаго раёна аперыравання, якія не падазраюць аб існаванні адзін аднаго, на думку хаўруснікаў, больш абаронены ад правалу, чым сетка партнёраў. Была забаронена перапіска паміж сябрамі і арганізацыямі, складанне спісаў удзельнікаў супраціву, пісьмовыя справаздачы. Сумесныя дзеянні планаваліся толькі ў момант агульных выступленняў. Дэлегаты скончылі паседжанне на ўзнеслай ноце:

> *«Советская власть не признает закона — ей понятна только сила. Сама держится только террорам, расстрелами, угрозами. Ответим тем же самым! Террор — террору...»*[8]

Змаганне за «Трэцюю Новую Расію» прадугледжвала «непрымірымую барацьбу з камуністычнымі ўладамі сіламі ўзброенага рускага народа і пры поўным адмаўленні ад узброенага ўмяшальніцтва інтэрвентаў. Савінкаў прапанаваў адмежавацца і ад белых генералаў. Маючы досвед палітычнага супрацоўніцтва з Беларускім палітычным камітэтам і ваеннага з генералам Булак-Балаховічам, ён добра ведаў нядобразычлівыя адносіны мясцовага люду да чужынцаў. Цярпець беларусаў трэба было яшчэ і таму, што ў 1921 годзе польскі ўрад, манеўруя паміж артыкуламі Рыжскай дамовы, вырашыў надаць палітычнаму курсу падтрымкі замежнай контррэвалюцыі беларускі нацыянальны колер. Прыярытэты пры размеркаванні рэсурсаў перайшлі да зялёнадубцаў.

Улетку 1921 года ўжо сумеснымі намаганнямі працягвалася арганізацыйная дзейнасць: вярбоўка, фарміраванне і забеспячэнне аддзелаў, якія падлягалі адпраўцы на савецкую тэрыторыю. Вярбоўка ў партызанскія аддзелы працягвалася ва ўсіх найбольш буйных гарадках і мястэчках памежнай паласы, пры гэтым насіла адкрыты характар. Як даносіла савецкая выведка, на пачатку жніўня ў Лідзе на рыначнай плошчы працаваў вярбовачны пункт, агенты адкрыта агітавалі ўступаць у партызанскія аддзелы. Паспяхова справа фарміравання аддзелаў ішла ў Радашковічах і Ракаве, дзе агітацыяй займаліся мясцовыя жыхары Баршчэвіч і Янушкевіч. Апошні, дарэчы, узначаліў аддзел і пэўны час аперыраваў у ваколіцах Ракава. Капітан Сівашоў займаўся мабілізацыяй у Стоўбцах. У Рубяжэвічах і Лунінцы запіс у аддзелы праводзілі палкоўнікі Андрыеўскі і Міхайлоўскі.

Як адзначыла тая ж крыніца, асабліва не хаваючыся, агенты саюзнікаў вербавалі і на савецкай тэрыторыі: у Койданаве, Мінску, Смаленску. Адной з найбольш буйных груповак было аб'яднанне пад кіраўніцтвам слуцкага паўстанцтва Івана Мацэлі.

Яна дзялілася на аддзелы паручніка Мірановіча і капітана Канстанцінава. Атрад першага дыслакаваўся ўздоўж мяжы з Мазырскім паветам, другі — насупраць Ігуменскага.

Галоўны палітычны штаб аб’яднаных антысавецкіх сіл размесціўся ў Лідзе. Штаб займаўся распрацоўкай стратэгічных планаў, размеркаваннем зброі і правіянту.[9] Фарміраванне агентурнай сеткі ажыццяўлялася пад кіраўніцтвам Інфармацыйнага бюро на чале з малодшым братам Барыса Савінкава Віктарам. Інфармбюро падтрымлівала рабочыя кантакты з 2-м аддзелам ПГШ і кіраўніцтвам французскай ваеннай місіі ў Польшчы. Па лініі мяжы дзейнічалі памежныя пасты бюро ў Нясвіжы, Лунінцы, Ракаве, Маладзечне, Глыбокім, Стаўбцах. Кожнаму кіраўніку паста падпарадкоўваліся два агента, якія рабілі як мінімум два паходы ў месяц на савецкі бок.[8]

Арганізацыйна-інфармацыйныя пункты мелі абавязкі наладжвання сувязі з супрацьбальшавіцкімі сіламі Расіі, садзейнічання арганізацыі і аб’яднання іх з мэтай падрыхтоўкі агульнага і адначасовага паўстання (рэвалюцыі) супраць савецкай улады. У адмысловай інструкцыі для кіраўнікоў пастоў былі прапісаны задачы новастворaных структур: распаўсюджанне ў савецкай Расіі агітацыйнай літаратуры; дакладнае паведамленне НСРАС аб падзеях у Расіі; садзейнічанне пераходу мяжы агентам арганізацыі.

Ад новастворaных аддзелаў адрозніваліся балахоўцы. Іх фарміраванні складаліся з былых афіцэраў і жаўнераў арміі генерала Булак-Балаховіча і актыўна папаўняліся навабранцамі. Падчас падрыхтоўкі агульнага паўстання ўлетку 1921 года ў раёне Дзісны балахоўцы праводзілі мабілізацыю маладых людзей 1898—1900 гадоў. Новые фарміраванні эшалонамі накіроўваліся праз Баранавічы ў Лунінец, дзе з іх сфарміравалі аддзел колькасцю ў 1 тысячу пад выглядам аднаго з падраздзяленняў «Татарскай Язды», узброілі вінтоўкамі і кулямётамі. У планах было, што фарміраванне ўзначаліць капітан Караткевіч. Падобныя адзінкі ўзначалілі палкоўнік Жукоўскі, капітан Фёдараў, атаманы Дзяргач і Іўжэнка. Балахоўскія аддзелы ўспрымаліся праціўнікам як рэгулярныя часткі.[10]

Атаманы аддзелаў, якія пагадзіліся каардынаваць сваю дзейнасць з НСЗРС, атрымлівалі інструкцыі Савінкава. Напады на савецкія ўстановы, асабліва выканкамы, забойства камуністаў і прадстаўнікоў габрэйскага насельніцтва, знішчэнне аб’ектаў





гаспадаркі падаваліся першаснымі задачамі. Для арганізацыі тэрактаў на чыгунцы існаваў адмысловы план з пазначанымі на мапе месцамі. Інструкцыі Саюза і «ЗД» забаранялі тэрарэстычныя акцыі супраць мясцовага насельніцтва.[11]

Часткай стратэгічнага плана было стварэнне эфектыўных камунікацый і пабудова моцных структур. Сувязь ладзілася і падтрымлівалася ў першую чаргу з паўстанцкімі аддзеламі з мэтай абмежаваць свавольства атаманаў, устрымаць ад несвоечасовых выступаў, усталяваць сувязь паміж асобнымі партызанскімі адзінкамі і аб’яднаць іх на базе агульнай праграмы. Сувязь з паўстанцкімі аддзеламі працавала праз кантактныя асобы ў вёсках. Пры пасярэдніцтве сялян будаваліся этапныя лініі сувязі.

Садзейнічанне паляпшэнню арганізацыі існуючых структур і падрыхтоўка да стварэння новых таксама разглядалася кіраўніцтвам як важны накірунак працы.

У агульную сетку ўзаемадзеяння ўцягваліся мясцовыя зялёныя аддзелы, здольныя дзейнічаць у якасці самастойных баявых адзінак ці асобных дружын асобага прызначэння, а менавіта: А) тэрарыстычныя, для нападу на цэнтры савецкага кіравання — штабы, рэўкамы і г. д.; Б) чыгуначныя дружыны, якія з пачаткам паўстання будуць узрываць масты, разбураць дарогі, рваць тэлеграфную і тэлефонную сувязь; В) дружыны для знішчэння транспартаў і абозаў Чырвонай арміі, выяўлення і паланення «жывой сувязі», чырвонай агентуры, кур’ераў і пасыльных.

Асаблівую ўвагу надавалі саюзнікі арганізацыі агентурнай працы ў Чырвонай арміі. Укаранёныя агенты павінны былі «весці энэргічную прапаганду дэмакратычных ідэй» і ствараць групы, здольныя ў патрэбны момант знішчаць камуністаў і камісараў.[12]

Для пабудовы арганізацый (камітэтаў) на месцах належала прытрымлівацца адпаведнага плана. Губернскі арганізатар падпарадкоўваў сабе павятовых кіраўнікоў. Яны ў сваю чаргу аб’ядноўвалі вясковых актывістаў. «Усе гэтыя арганізатары павінны былі ў момант паўстання ўзяць на сябе кіраўніцтва ваеннымі дзеяннямі партызанскіх аддзелаў».[13]

Арганізацыі будаваліся ўжо апрабаваным спосабам — пяцёркамі. Ніхто не павінен быў ведаць больш за чатырох сяброў сваёй баявой адзінкі. Інструкцыі прадпісвалі кожнаму кіраўніку пяцёркі ў час агульнай мабілізацыі прывесці сваіх людзей на зборны пункт. Месца збору вызначалася павятовым кіраўніком. Кож-

ны павет складаў свой партызанскі аддзел. У выпадку, калі аддзел дасягаў большай, чым запланавана, колькасці, ён дзяліўся, і наадварот, пры недастатковай — далучаўся да іншых. Апрача такіх баявых адзінак, належала ствараць асобыя дружыны, функцыі якіх былі ўжо прапісаны ў першым раздзеле дакумента.

Найбольш моцнымі савецкімі часцямі, папярэджвала тая ж крыніца, з'яўляюца аддзелы ЧК (чрэзвычайкі). Іх належала знішчаць адразу.

Гарадскія камітэты ствараліся паводле ўзору сялянскіх — пяцёркамі і згодна з тэрытарыяльным прынцыпам — па раёнах. І канешне, асноўны клопат і ўмова поспеху — узгодненыя дзеянні праз разгалінаваную і добра наладжаную сувязь, яшчэ раз падкрэслівалася ў разасланых патрабаваннях.

Намаганні па стварэнні разгалінаванай сеткі Саюза на тэрыторыі Беларусі мелі плён. Камітэты хутка памнажаліся і ахаплівалі ўсё новыя паветы, воласці, мястэчкі, вёскі. У Мінску, Гомелі, Магілёве, Барысаве, Ігумене, Полацку, Оршы, Лепелі, Дрысе да супрацоўніцтва былі далучаны афіцэры Чырвонай арміі, служачыя выканкамаў, ваенкаматаў, судоў, турэмных службаў, гараджане і сяляне. Напрыклад, у Мінску існавала чатыры самастойныя ячэйкі. Адтуль, як адзначыў у сваім дакладзе кіраўнік Паўночнай паласы Народнага саюза Анатоль Арлянінаў, паступала вельмі каштоўная інфармацыя.[14]

У агульный стратэгіі саюзнікаў кіраўнік «ЗД» Дзяргач адказваў за паўдзённа-ўсходні накірунак. Ён меў мандат (сведкі бачылі — з пячаткай і подпісам «бацькі») на пыдрыхтоўку паўстання ў Мазырскім і Оўруцкім паветах ад генерала Булак-Балаховіча, што было ў рэчышчы агульных планаў аб'яднанай апазіцыі.[15] Актывізацыю дзейнасці «Зялёнага Дуба» зафіксавалі зводкі савецкіх спецорганаў за чэрвень-жнівень 1921 года.

Па данясеннях начальніка міліцыі 5-га раёна (Мазырскі павет), на падначаленай яму тэрыторыі на другую палову чэрвеня 1921 года прыпадае пік актыўнасці «банды з мясцовых жыхароў Рэчыцкай і Капаткевічскай валасцей Мазырскага і Скародненскай воласці Овручскага паветаў на чале з атаманам Грозным». Ён жа, высветлілі чэкісты, вядомы як Дзяргач, і ў гэтых мясцінах як Сапоненка. Гучная акцыя, абрабаванне пасажырскага парахода «Вера», які накіроўваўся з Кіева ў Мазыр, 16 чэрвеня была здзейснена аб'яднанымі сіламі зялёнадубцаў і ўкраінскіх партызан аддзела атамана Струка.[13]

У раёне Камаровіч, што ў трыццаці вярстах ад возера Князь, шчыравала група выведнікаў «ЗД» з мэтаю высветліць месцазнаходджанне чырвоных часцей. Па словах перабежчыка, кіраваў выведаддзелам Дзяргач-Грозны. Мясцовы люд чуў яшчэ пра Івана Бурылку. Аднак чырвоная выведка выкрыла, што Бурылка — зусім не Бурылка, а ўсё той жа Дзяргач.

У раёне вёскі Ленчыцы, як даносіла агентура, актыўна дзейнічала «шайка Дзергача» колькасцю 26 чалавек. Яго памочнік Цярэшчанка ў гэты час накіраваўся ў родны горад Ельск з мэтаю папаўнення шэрагаў партызанкі і мабілізацыі гараджан для супраціву савецкай уладзе. З мэтаю арганізацыі тэракта на чыгунцы ў гэтым раёне прыбыла група баевікоў на чале з добра вядомым у гэтых мясцінах Багалевічам. Яго людзі адзначыліся і ў раёне вёскі Убібачкі, што ў 20 вёрстах на паўночны ўсход ад таго ж сакральнага для Дзергача месца — возера Князь. Тут быў арганізаваны цэнтр забеспячэння зброяй і другім неабходным для баявой «работы». Сюды наведваліся атаманы — браты Філіповічы і вядомы кіраўнік вайсковай выведкі Слуцкага збройнага чыну Антон Мірановіч.

Сваю дзейнасць з «ЗД» каардынаваў і нейкі Парфіен (Парфіян), што з аддзелам аперыраваў блізу мястэчка Лельчыцы.[14]

Партызаны, дарэчы, былі няблага ўзброены вінтоўкамі і рэвальверамі. Аддзел Багалевіча на спецзаданне быў экіпіраваны аўтаматамі. На буйныя акцыі аддзелы фарміраваліся ў асноўным з афіцэраў, забяспечваліся добрай зброяй.

Па закардонных звестках і данясеннях польскай выведкі, якая, са свайго боку, таксама не пакідала па-за ўвагаю беспакойных хаўруснікаў, у жніўні — верасні аператыўны штаб савінкаўцаў і зялёнадубцаў знаходзіўся ў Маладзечне, але «птушкі» Дзергача амаль не затрымліваліся ў цэнтры. Наогул, ствараецца ўражанне, што шматаблічны Дзяргач пад рознымі мянушкамі з'яўляўся паўсюдна.

Асноўныя ўзброеныя сілы антысавецкай партызанкі гнездаваліся недалёка ад базы, у мястэчку Радашковічы. Па інфармацыі беларускіх спецслужбаў, падрыхтаванай для ВЧК, сюды накіроўваліся інструктары Народнага Саюза, у вялікай колькасці звозілася адмысловая літаратура.[15]

Для аператыўных зносін з базамі за мяжой існавалі адмысловыя «вокны». Дзяржаўная граніца дрэнна ахоўвалася і была даволі празрыстай. Для адпачынку, лячэння параненых, папаўнення баявымі і прапагандысцкімі рэсурсамі партызаны мелі магчымасць у патрэбны час вярнуцца ў лагер. Так, 10 жніўня аддзел Дзергача перайшоў мяжу ў Дзякавіцкай воласці Мазырскага павета, дзе было, такбы мовіць, яго асабістае акно. А 25 жніўня па інфармацыі ЧК ССРБ баевікі вярнуліся. У Маскву паляцела зводка навін:

> *«В районе Мозыря наблюдается усиление активности банд, в большом количестве распространяются прокламации, листовки савинковского НСЗРС».*

Пункты пераходу былі таксама ў Старобінскай воласці і па лініі чыгункі Мінск — Баранавічы. Вельмі папулярным аж да затрымання Барыса Савінкава быў пераход у раёне Заслаўя. Як зразумелі потым ахвяры чэкісцкіх інтрыг — не акно, а пастка.

Разлік саюзнікаў на ўсенароднае паўстанне не спраўдзіўся. Адбыліся змены ў тактыцы. Баявыя дзеянні з другой паловы жніўня сканцэнтраваліся бліжэй да граніцы. У прыгранічную тэрыторыю пасунуліся многія аддзелы. Атаманы Рабцэвіч, Зайцаў, Перакатаў, Удовін, Рудакоўскі і іншыя перадыслакавалі свае сілы на недалёкую адлегласць ад партызанскіх штабоў. Тэракты здзяйсняліся ўздож мяжы. Атрады пранікалі на савецкі бок, знішчалі пагранзаставы, гаспадарчыя аб’екты, савецкія і партыйныя ўстановы, рабавалі цягнікі і параходы. Паласа ў 50 кіламетраў была своеасаблівым фронтам, дзе разгарнуліся сапраўдныя баявыя дзеянні. Гарады і мястэчкі пераходзілі з рук у рукі.

Напад на Негарэлае, заходні фарпост саветаў пасля падзелу Беларусі, сур’ёзна ўзрушыў кіраўніцтва Беларускага ЧК. Уначы 13 жніўня 50 чалавек напалі на памежнае мястэчка і затрымаліся тут амаль на тыдзень. Захоп Койданава дэзарганізаваў працу савецкага памежнага паста на працяглы тэрмін. Дыверсанты разабралі тэхнічнае абсталяванне.

Слабае месца структурнай пабудовы НСЗРС беларускія чэкісты намацалі ў Гомелі. У губернскі камітэт Саюза быў укаранёны агент. Узяўшы ў рукі нітку савінкаўскага «клубка», органы ВЧК на працягу 1921 года знішчылі амаль усе структуры Заходняга абласнога камітэта. Каля ста яго супрацоўнікаў, у тым ліку губернскі і павятовы ваенкамы, камендант горада, закардонныя кур’еры і іншыя далучаныя да Саюза людзі былі арыштаваны гомельскімі чэкістамі.





У сувязі з пачаткам паспяховай аперацыі, што атрымала назву «Крот», у Гомель завіталі супрацоўнікі Асобага аддзела ВЧК Сяргей Пузіцкі і Ігнацый Сасноўскі (Добржынскі), у недалёкім мінулым афіцэр польскай арміі, перабежчык на савецкі бок. Менавіта Сасноўскі-Добржынскі схіліў да супрацоўніцтва з чэкістамі Эдуарда Аперпута, адну з ключавых фігур у шырока вядомай контрвыведвальнай аперацыі 20-х гадоў мінулага стагоддзя — «Трэст».

Аперацыя «Крот» паклала пачатак бліскучай чэкісцкай кар’еры вельмі юнага на той момант Навума Эйцінгона. Ён ўдзельнічаў у распрацоўцы і здзяйсненні аперацыі па затрыманні кіраўніка Заходняга камітэта, чальца Усерасійскага камітэта НСЗРС Эдуарда Аперпута. Царскі афіцэр, пасля рэвалюцыі ён служыў то белым, то чырвоным. Нарэшце, хісткага ў палітычных поглядах вайскоўца знайшоў Барыс Савінкаў. Ужо ў студзені 1921 года паўстаў Гомельскі губернскі камітэт НСЗРС і некалькі павятовых яго аддзяленняў.[17]

Не менш вядомы ў гісторыі, чым кіраўнік Саюза, авантурыст і правакатар, які меў добры тузін мянушак (Упелінш, Касаткін, Стаўніц, Селянінаў і г. д.), Аперпут, як вынікае са справы, «сваімі паказаннямі даў ключ да раскрыцця і ліквідацыі ўсіх савінкаўскіх арганізацый у межах Заходняга фронту».[18] У вялікай ступені верагодна, што ён садзейнічаў трагічнаму фіналу зялёнадубскай аперацыі ў Мінску ўлетку 1921 года.

Абагульненая зводка ЧК Беларусі за тэрмін з 15 жніўня па 1 верасня 1921 года пад адмысловай назвай «Крот», падрыхтаваная для маскоўскіх калег, крок за крокам апісвае намаганні мясцовых чэкістаў па ліквідацыі контррэвалюцыйных арганізацый у Беларусі. Агентурныя данясенні сведчылі пра тое, што ў Мінску і губерні дзейнічае камітэт Саюза. Але выкрыць арганізацыю ўдалося, як прызналі чэкісты, толькі пасля тэлеграмы з Гомеля, атрыманай у траўні, з інфармацыяй аб явачных адрасах у Мінску і паролях. У мэтах праверкі на пазначаныя кватэры спачатку былі накіраваны сексоты (сакрэтныя супрацоўнікі). Паролі, як

высветлілі засланцы, былі сапраўднымі і, больш за тое, далі магчымасць візіцёрам атрымаць па тры мільёны савецкімі знакамі «на справу змагання з саветамі». Гаспадары праваленых явак былі арыштаваны. На адной з кватэр з «гомельскага спісу» і быў затрыманы ўсюдыісны Аперпут.[19]

Два месяцы ва ўнутранай турме на Лубянцы хапіла, каб Аперпут змяніў погляды, прозвішча і гаспадароў. Цьмяная душа, асоба без пэўных каштоўнасных арыенціраў, ужо 7 ліпеня ён, ахоплены адчаем і страхам, звяртаецца да начальніка Асобага аддзела ВЧК Менжынскага. «Непарыўны ланцуг прыгодаў і нябяспекі, — скардзіўся вязень, — у рэшце рэшт так расшаталі мае нервы, што прытрымліваецца спакойнага ладу жыцця я не ў стане». Гэту нервовую энергію, запэўніў вязень Менжынскага, ён гатовы патраціць на ліквідацыю сваіх учарашніх партнераў: «савінкаўскія арганізацыі, польскую выведку, часткова французскую выведку...» Для здзяйснення такіх глабальных планаў Аперпут прасіў дазволу на месяц выехаць у Польшчу. Даставаў чэкістаў істэрыкамі, пагражаў «разбіць галаву аб сцяну ці перарэзаць глотку шклом».[20]

Улічваючы трагічныя наступствы яго здрады для беларускіх арганізацый, з вялікім шкадаваннем можна казаць аб тым, што яго абяцанкі самагубства не здзейсніліся. За мяжу авантурыста не выпусцілі, але ўдала выкарысталі на сваёй тэрыторыі. Артыстычная натура, ён рэалізаваў сваю гіперактыўнасць у ролі аднаго з чальцоў «Трэста». Жыццё завярцелася, як вестэрн. Містыфікацыя чэкістаў уцягвала ўсё новых і новых людзей.

Між тым клубок падзей раскручваўся далей. Буйная арганізацыя НСЗРС была выкрыта ў Ігумене. У гэтым павятовым цэнтры амаль уся кіруючая вярхушка была ў камітэце Саюза. Змоўшчыкі паспелі распрацаваць план захопу горада. Нягледзячы на тое, што ігуменская арганізацыя афармілася толькі ў траўні 1921 года, яна паспела абрасці «падсобнымі» ячэйкамі ў Клінскай і Глівенскай валасцях. Асабісты выкрылі цесную сувязь ігуменскіх супрацоўнікоў з Барысаўскім ваенкаматам. Наступнай ахвярай стала арганізацыя ў Велічанскай воласці Барысаўскага павета на чале з паручнікам Катам. 22 чалавекі разам з кіраўніком, капітанам Зайцавым, былі арыштаваны блізу мястэчка Беразіно.

Старэйшая арганізацыя, якая дзейнічала больш за паўтара года ў Капцэвіцкай воласці Мазырскага павета (тэрыторыя адказнасці





Дзергача), таксама панесла вялікія страты: 22 чалавекі былі затрыманы, у схованках была знойдзена адмысловая літаратура і агітацыйныя матэрыялы, чыстыя бланкі з пячаткамі савецкіх устаноў. Слуцкі і Бабруйскі паветы, адкуль паступілі ўжо адпаведныя сігналы аб наяўнасці структур Саюза, пільныя чэкісты «ўзялі ў распрацоўку».[21]

Краты заводзіліся паўсюдна. Савецкая контрвыведка ў 1920—1921 гадах ажыццявіла масавую перавярбоўку польскіх выведнікаў, а потым выкарыстала іх, і не ў якасці агентаў-двайнікоў, а як кадравых супрацоўнікаў ЧК. Перабежчыкі, дарэчы, ўратавалі штаб Тухачэўскага і яго самога ад палону ў раёне Мінска. Яшчэ адзін «крот», Станіслаў Глінскі,[22] які таксама «ўпісаў яркую старонку ў гісторыю знешняй выведкі», глыбока «падкапаў» арганізацыю Саюза ў Аршанскім і Горацкім паветах Магілёўскай губерні. На працягу 1921—1922 гадоў губернскі камітэт быў разбураны. Ў якасці прадстаўніка прыдуманай чэкістамі антысавецкай арганізацыі «Ліберальные дэмакраты» ён наведваў паўстанцкія аддзелы па яўках, перахопленых чэкістамі, «прымаў удзел у ліквідацыі аднаго з такіх колькасцю 500 чалавек...». Савінкаўцы хаваліся «на глухім хутары ў Горацкім раёне Магілёўскай губерні», дзе і знайшоў іх агент.

Вынікам працы асабістаў Беларускай ЧК быў разгром арганізацыі Саюза ў гэтым рэгіёне і гучны працэс савінкаўцаў, г. зв. «працэс 32-х», шырока разрэкламаваны ў прэсе. «Полесская правда» ў верасні 1922 года друкавала матэрыялы судовага разгляду справы, падрыхтаванай Гомельскім губернскім рэўтрыбуналам. На лаве падсудных апынуліся саўдзельнікі НСЗРС, «цэлая калекцыя «былых»», як вызначыла газета склад партызанкі.

У 1922 годзе раз-пораз узнікалі планы арганізацыі агульнага паўстання, нават вызначаліся тэрміны паходаў. Савінкаў яшчэ спрабаваў аб'яднаць антысавецкія сілы для шырокага паўстанцва на савецкай тэрыторыі, але марна. Планы не здзейсніліся. Атрады Пермыкіна, Паўлоўскага, Вайцахоўскага, Васільева, Жылінскага, Хвядашчэні, Караткевіча і іншых пераходзілі мяжу і на савецкай тэрыторыі спрабавалі распаліць полымя агульнага паўстання. Але вынікі аперацый не дасягалі жаданага маштабу. Недахоп фінансавання і забеспячэння аддзелаў самым неабходным прыводзілі да таго, што фармаванні былі слабымі, сустрэч

з рэгулярнымі часцямі яны пазбягалі. Барацьба абмяжоўвалася рэйдамі па тылах Чырвонай арміі. Сяляне пад пагрозай масавых і жорсткіх рэпрэсій ухіляліся ад падтрымкі партызанкі. Зацяты антысемітызм некаторых атаманаў таксама не садзейнічаў іх папулярнасці.

### Крыніцы, заўвагі

1. *НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 283, арк. 34.*
2. *Тамсама, арк. 152; ДА РФ, ф. 6990, воп. 1, спр. 2, арк. 269 адвар.*
3. *«Свобода». 1920. 11 ноября.*
4. *За свободу. 1924. 30 августа.*
5. *Архіў КДБ, крымінальная справа Ул. Ксяневіча.*
6. *ДАРФ, ф. 5872, воп. 1, спр. 2, арк. 1.*
7. *Тамсама.*
8. *НАРБ, ф. 4 воп. 1, спр. 289, арк. 9.*
9. *ДАРФ, ф. 5866, воп. 1, спр. 18, арк. 2—4.*
10. *НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 289, арк. 8, 21.*
11. *ДАБВ, ф. 2031, воп. 1, спр. 69, арк. 48.*
12. *Тамсама, арк. 48 адвар. 12. ДАРФ, ф. 5866, воп. 1, спр. 18, арк. 5.*
13. *НАРБ,ф. 4, воп. 1, спр. 282, арк. 86.*
14. *Тамсама, арк. 79.*
15. *Тамсама, арк. 107 адвар.*
16. *Тамсама, арк. 99, 100.*
17. *П. Селянинов-Опперпут. Народный Союз Защиты и Родины и Свободы. (Воспоминания). Берлин. 1922. С. 10.*
18. *НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 282, арк. 107 адвар.*
19. *Тамсама.*
20. *Шенталинский В. Свой среди своих. Новый мир. 1996. № 7. С. 43.*
21. *НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 282, арк. 107 адвар.*
22. *С. М. Глінскі нарадзіўся ў 1894 годзе ў Варшаве ў сям'і чыгуначніка. Бацька, Марцін Тамашавіч, быў актывістам сацыял-дэмакратычнай партыі Каралеўства Польскага. У 1911 годзе з Варшавы пераехаў у Сібір, куды быў сасланы бацька за палітычную дзейнасць. У разглядаемы час, з верасня 1920 года Глінскі — памочнік начальніка па агентурнай рабоце Асобага аддзела 16-й арміі, удзельнік аперацыі савецкіх спецслужбаў «Сіндыкат -2», якая, як вядома, скончылася арыштам Б Савінкава. У чэрвені 1921 года ён становіцца начальнікам Асобаддзела пры Беларускай ЧК, а яшчэ праз месяц — упаўнаважаным Ударнай групы па распрацоўцы замежных місій у Беларусі. Владимир Карпов. Неизвестный разведчик Глинский. // Рассекречено внешней разведкой. М., 2003. С. 68.*





## «Братство русской правды»

Расійская эмігранцкая паводка ўзбурліла ў чарговы раз. Напрыканцы 1927 года ў еўрапейскіх газетах разгарэўся грандыёзны скандал. Румынскі журналіст Уладзімір Дземенітру публічна абвінавацiў Вячаслава Адамовіча-Дзергача ў сувязях з савецкімі спецслужбамі.[1] Выпадак, улічваючы ролю Дзергача ў агульных антысавецкіх арганізацыях, вельмі прыкры і зусім нешараговы, каб пакінуць яго незаўважным. Толькі нядаўна антысавецкая эміграцыя была літаральна агаломшана прызнаннямі правакатара Аперпута. Гэтак званы «Трэст», як выявілася, быў на самай справе ўдалай інсцэніроўкай савецкіх чэкістаў з мэтай выкарыстання замежных цэнтраў у сваіх планах. Разбурэнне містыфікацыі выклікала непапраўныя маральныя і арганізацыйныя страты. Верагодна, што беларускі атаман трапіў у хітрасплеценае павуцінне. Хаця і сам быў майстрам імітацый.

Эмігранцкія газеты «Руль», «За свободу», польская прэса пільна сачылі за падзеямі. Журналіст Дземенітру быў вельмі настойлівым у арганізацыі антыдзергачоўскай кампаніі, рассылаючы гучныя заявы ў газеты. Падобна на тое, што надаць «справе Дзергача» як мага больш шырокі розгалас была адна з мэтаў гэтай кампаніі.

«ЗД» далучыўся да «Брацтва рускай праўды» ледзь не з самага запачаткавання арганізацыі. Брацтва было заснавана прадстаўнікамі вышэйшых арыстакратычных колаў Расіі, блізкіх да трона: герцагам Г. Лейхтенбергскім, князем А. Лівенам, генералам П. Красновым, літаратарам С. Сакаловым-Крэчатавым (Крэчатам) у 1921 годзе. Новая арганізацыя не мела выразнай праграмы і па сутнасці адмовілася ад адзінай ідэйнай платформы. Інакш і не магло быць: Брацтва сабрала пад свой «дах» рознакаляровыя палітычныя сілы.

Аб накірунках дзейнасці арганізацыі сведчылі лозунгі, накшталт «Всероссийская национальная революция», «Православная Христианская Русь», «Земля крестьянам» і г. д. Галоўны праграмны дакумент БРП — Канстытуцыя — меў эклектычны характар радыкальнай антысавецкай арганізацыі. Друкаваны орган Брацтва, «Русская правда», дэкларавaў, што братчыкі — манархісты. Артыкулы газеты былі напісаны псеўданародный, лубочнай мовай, рабілі ўражанне несур'ёзных твораў. Накшталт: «Крестьянство! Валом вали за твоим родным Братством Русской Правды!» Выданне прадназначалася для распаўсюджання ў СССР.

З 1922 года Дзяргач актыўна прапаноўвае зялёнадубцам супрацоўніцтва з «БРП». На гэты момант можна сказаць, што кантакты з савінкаўскай арганізацыяй былі вельмі рэдкімі. Як каардынуючы цэнтр НСЗРС практычна не дзейнічаў.

Да канца незразумела матывацыя гэтага новага палітычнага шлюбу, але нелагічная на першы погляд сувязь была найбольш працяглай і спынілася з сыходам БРП з палітычнай сцэны. Трэба сказаць, што ў гэты час і манархісты былі не такія зацятыя ў пытанні аднаўлення імперыі, рэстаўрацыйныя імкненні пакрысе сціхлі. Некаторыя лідары пайшлі так далёка, што прызналі права паўстаўшых дзяржаў пасля развалу Расійскай імпэрыі на незалежнасць.

У Данцыг, дзе жыў Дзяргач з сям'ёй, з'ехаліся прадстаўнікі кіраўніцтва БРП, г. зв. Вялікага Круга і аўтарытэтныя назіральнікі ад грамадскасці. З Парыжа, адклаўшы справы, паспяшаўся вядомы выкрывальнік здраднікаў і правакатараў, выдавец і журналіст Уладзімір Бурцаў. Па дамоўленасці бакоў ён быў абраны старшынёй суда гонару. Тэрмінова спатрэбіліся яго досвед і чуццё спрактыкаванага эксперта ў такіх далікатных справах.

Яшчэ да прыезду ў Данцыг Бурцаў разаслаў СМІ, што «па фактах, якія ён дакладна мае» абвінавачанні ў адрас Дзергача ні на чым не грунтуюцца.[2] Румын, аднак, не суняўся. У лісце ў газету «Руль» ён выказаў пратэст супраць заўчасных рэабілітацыйных выступаў Ул. Бурцава і С. Мельгунова. Вядомы палітык і гісторык Сяргей Мельгуноў не хаваў скептычных адносін да Брацтва і яго быццам маштабнай тэрарыстычнай дзейнасці ў СССР, не верыў гісторыям пра перамогі паўстанцаў, пра якія трубіла прэса.[3] Тым не менш аўтар нашумелай кнігі «Красный террор» за Дзергачом не знайшоў віны.

Адмова ўплывовых людзей выступіць на працэсе на баку Дземенітру па яго запрашэнні высветліла хісткасць пазіцыі журналіста і недавер дасведчаных асоб да яго заяў. Яму нічога не заставалася, як пагадзіцца з кандыдатурай Бурцава. Трэцейскі суд узначаліў брат № 1 Брацтва. Следства, што было наладжана напярэдадні працэса, склада злачынства ў дзейнасці атамана не знайшло. Гэтую выснову і зацвердзіў старшыня суда гонару.

Па вяртанні ў Парыж Бурцаў даў інтэрв'ю карэспандэнту агенцва «Русспресс». Стары эсэр заявіў:





*«Обвинение Адамовича в провокации лишено каких бы то ни было оснований, выдумки злостных авантюристов и агентов ГПУ. Слухи эти дошли до меня еще недели за две до того, как они появились в печати».*[4]

Бурцаву падказалі імя «аднаго авантурыста», які распускаў пліткі пра Адамовіча, за што быў моцна пабіты атаманам. Такім чынам, актыўнасць Дземенітру вызначалася зусім не жаданнем праўды, спрытны газетчык працаваў па замове нейкага зацікаўленага боку.

Польская выведка захавала вельмі важную і цікавую для нашай гісторыі перапіску Дзергача з сябрам і «братам» па арганізацыі Іванам Пешкам (Густалесам) за красавік 1928 года. Ледзь не кожны тыдзень атаман дасылаў у Вільню на Звярынец, дзе ў дамовай царкве Янка служыў псаломшчыкам, ліст з навінамі і дарученнямі. Не абмінуў Дзяргач і жорсткі «чорны піяр» у СМІ. Узгадаў Дзяргач непрыемнасці:

*«Чуў, што па справе нас і цябе цягалі, ну да Усявышні літасцівы. Засцерагайся якаўлеўскай шайкі, там сядзяць правакатар на правакатары. На гэтых днях адбудзецца мой ганаровы суд, ужо прыехаў Бурцаў, які ўступіўся за мяне. Па заканчэнні пацягну ў суд Якаўлева і Бутурліна, адвучу пісаць брахню».*[5]

Такім чынам, для Дзергача крыніца абвінавачанняў не была вялікім сакрэтам.

Газета «Новая Россія», выдаўцом якой быў есаул Міхаіл Якаўлеў, на працягу 1927 года не шкадавала выкрывальніцкіх падрабязнасцей пра віленскае «гняздо агентаў» савецкіх спецслужбаў. Палітычныя махляры, інфарматары ДПУ разам з ідэалістамі і юнакамі-летуценнікамі складалі, як пераконвала якаўлеўская газета, Віленскі аддзел Брацтва. Пасля затрымання Дзергача і яго паплечнікаў у Данцыгу па рашэнні Вялікага Круга пачалі следства. Брат № 1 даведаўся, што «ЗД» было ўцягнута ў канфлікт варагуючых бакоў у групе Якаўлева. У 1926 годзе абвастрыліся адносіны паміж Якаўлевым і баевіком яго арганізацыі Фёдарам Грыгор'евым. Апошні звярнуўся ў «ЗД» і падзяліўся нейкімі непрыгожымі сакрэтамі свайго шэфа.

Баючыся шырокага розгаласу, Якаўлеў накіраваў балбатлівага супрацоўніка ў СССР з выведзаданнем. Але ўжо на мяжы агента затрымалі, з чаго ён зрабіў выснову, што яго чакалі. Грыгор'ева

судзілі за шпіянаж на карысць Польшчы і пасадзілі на тры гады. Цікава, што ён пісаў някепскія нарысы пра становішча ў савецкім Мінску і дасылаў у газеты.[6] У траўні 1928 года ён быў вызвалены (ці то ў выніку абмена, ці то яшчэ па якім сцэнарэ), па вяртанні ў Вільню ўчарашні вязень мінскай турмы даведаўся, што есаул пазбавіў яго маёмасці. Да ўсяго, газеты пачалі лямантаваць, што ён агент ДПУ. У хуткім часе яго выслалі з Вільні.[7]

Трэба сказаць, недавер і ўзаемныя абвінавачанні пасля перажытага шоку ад праўды «Трэста» набылі ў эміграцыйных колах характар эпідэміі. Хаця падставы для трывогі ў грамадстве былі: свядома ці не, стала ці часова, але кантакты з ДПУ з рознымі мэтамі, відавочна, мелі шмат хто з фігурантаў. Справа была толькі ў тым, хто першы пачынаў крычаць «Дзяржы злодзея!».

Раз-пораз засланцоў у Брацтва выкрывалі. У 1927 годзе гэта быў нейкі Брук. У наступным, калі разбіраліся з Дзергачом, за адным разам знайшлі крата па прозвішчы (хутчэй за ўсе, несапраўдным) Рыхтэр, які, па словах брата № 1, «круціўся ў тых краяхі і ўціраў ачкі Адамовічу (і Дземенітру таксама)». Правакатар не стаў чакаць суда, імгненна знік з Данцыга і схаваўся ў Варшаве, як меркавалі ў БРП, пад крылом польскай выведкі. «Русская правда» ўздагон надрукавала рашэнне завочнага партызанскага суда аб смяротным пакаранні.[8]

Можна меркаваць, што полем сутыкнення інтарэсаў кіраўнікоў шматлікіх груповак магла быць выбарчая кампанія ў Віленскую думу. Выбары былі прызначаны на 19 чэрвеня 1927 года. Актывісты рускіх грамадскіх аб'яднанняў Бутурлін і Емяльянаў увайшлі ў якасці кандыдатаў у «Аб'яднаны руска-беларускі выбарчы камітэт у Вільне». Магло мець месца і саперніцтва ў рамках адной арганізацыі за ўплыў і рэсурсы. Пасля тэракта Кавэрды польская паліцыя здзейсніла масавыя арышты больш-менш заўважных у палітыцы рускіх і беларускіх дзеячаў. Былі затрыманы чальцы Віленскага аддзялення БРП Аляксандр Бажаранаў, Ганна Карабовіч, Вячаслаў Адамовіч і інш.

СМІ таксама падалі навіну, што мясцовая паліцыя выкрыла тэрарыстычную арганізацыю манархістаў, кіраўніком якой быў названы Якаўлеў. Між іншым адзначалася, што есаул карыстаецца «сімпатыяй сярод рускай моладзі. Чалавек энэргічны і вялікі энтузіяст».[9] Тут, сярод кампліментаў быў прыхаваны намёк на сувязь есаула з арганізатарамі замаху на савецкага ўпаўнаважанага



## Голосуйте за № 22.

# ПРОГРАММА

## „Зеленаго Дуба" и бѣлорусских Безпартійных Активистов.

1. Територіальная автономія для Бѣлоруссіи,
2. Защита и поддержка религій.
3. Школы на родном языкѣ. Агрономическіе курсы для сельских хозяев, учительскія семинаріи.
4. **Аграрная реформа.** Надѣленіе землей безземельных и малоземельных граждан, способных к землѣдельческому труду
   При парцеляціи должны быть приняты во вниманіе в первую очередь интересы мѣстнаго населенія.
   Организація землѣдѣльческих союзов, инструкторскихъ курсов, опытных хозяйств — чтобы поднять и улучшить сельское хозяйство.
5. Возстановленіе на государственный счет разрушенных во время войны сельских хозяйств, мѣстечек и городов. Отпуск лѣса селянам в кредит.
   Ссуды для покупки живого и мертваго инвентаря.
6. Матеріальная и моральная поддержка сельской кооперации.
7. Поддержка промыслов и торговли. Открытіе коммерческих и ремесленных школ и курсов.
8. 8-часовой рабочій день. Обезпеченіе рабочих при несчастных случаях, при болѣзни и на старость.
9. Забота о народном здравіи. Больницы и санитарные пункты. Гигіена и санитарія в деревнѣ.
10. Страхованіе сельских хозяйств от огня и неурожая.
11. Соціальное обезпеченіе старости и инвалидов.
12. Проведеніе в жизнь Польской Конституціи во всем ея объемѣ.

**Бѣлор. Центр. Выборный Комитет**

**„Зеленаго Дуба" и Безпартійных Активистов.**

*Выбарчая праграма «ЗД»*

прадстаўніка СССР у Варшаве Пятра Войкава. Няма сумневу, Дзяргач таксама меў прэтэнзіі на лідарства.

Старшыня суда гонару быў перакананы:

*«Адамович — рядовой член БРП, давно работает в его рядах, под его контролем и пользуется полным доверием».*

Газетчыкі, падсумаваў ён, толькі перапісалі адзін у аднаго плёткі з бруднай крыніцы. Бурцаў выказаў упэўненасць, што газеты, якія распаўсюдзілі дэзінфармацыю, таксама аператыўна надрукуюць яго катэгарычны пратэст. На абарону інтарэсаў кіраўніка «ЗД» мабілізаваліcь і яго паплечнікі. Яны мэтанакіравана прыехалі ў Данцыг, каб падтрымаць свайго атамана. І не з пустымі рукамі. Хлопцы прывезлі польскія, беларускія і рускія газеты, дзе ўзгадваліся гісторыі іх змагання.

Падобна на тое, што зялёнадубцы пераканалі эсэраўскага «следапыта». Ён паверыў, што гісторыі акружных атаманаў Кліма, Шагуна, Крэчата праўдзівы. «Я сустракаў людзей, якія асабіста ведалі Шагуна і размаўляў з тымі, хто быў у яго аддзелах, — напісаў пра свае высновы Бурцаў брату № 1.[10] Сам палітык не хаваў сваіх адмоўных адносін да праграмы і тактыкі Брацтва. Праціўнік «стараржымнага манархізма», Бурцаў крытычна паставіўся да намераў арганізатараў бачыць у якасці духоўных лідараў БРП мітрапаліта Антонія, вялікага князя Мікалая Мікалаевіча. Тым не менш у палымянай дыскусіі, якая і зараз не сціхла, што ёсць на самай справе БРП — фантом ці глыбока заканспіраваная, але дзеючая арганізацыя — ён падтрымаў братчыкаў. Дарэчы, Дзяргач меў перапіску з мітрапалітам Галіцкім і Кіеўскім Антоніем (Храпавіцкім), супрацоўнічаў з часопісам «Церковный вестник», запрашаў і Густалеса дасылаць матэрыялы для друку.[11]

Пешка пад псеўданімам Густалес актыўна далучыўся да справы БРП у 1924 годзе. Да яго ў Блошнікі (Язненская валасць Дзісненскага павета), дзе зялёнадубец служыў псаломшчыкам у вясковай царкве, завіталі кіраўнікі «ЗД», усе буйныя «птушкі» — Дзяргач, Грач і Крэчат (Ярашэвіч) — і ўгаварылі вярнуцца да актыўнай працы. З праграмай і гісторыяй БРП пазнаёміў Адамовіч-старэйшы. Ён пералічыў з дзесятак прозвішчаў уплывовых у антысавецкіх колах людзей, якія падтрымліваюць Брацтва, і намаляваў перспектывы супрацоўніцтва з ім. Для Янкі, як чалавека веруючага, важным аргументам было даравання грахоў





за дзейнасць ад імя БРП. Ён не меў схільнасці да баявой працы і пагадзіўся на пасаду загадчыка літаратурнага аддзела, адказнага за атрыманне, захоўванне і размеркаванне адмысловай літаратуры Брацтва па Віленскай акрузе.

Яшчэ аднаго патэнцыйнага «брата» Дзяргач знайшоў у вёсцы Гаўрыльчыцы. Яфім Гашко, таксама зялёнадубец, які пагадзіўся на супрацу з Брацтвам, адразу быў прадстаўлены і начальніку Віленскай экспазітуры палкоўніку Грабоўскаму. За суразмоўцамі назіраў савецкі агент, які афіцыйна служыў у экспазітуры горада Лунінца і дасылаў інфармацыю ў Маскву. З данясенняў вынікае, што шпіён меў сяброўскія адносіны з Дзяргачом. Той нават рабіў яму розныя прапановы аб супрацы.[12]

Актыўнае ліставанне атамана са шматлікімі адрасатамі, перапіска польскіх спецслужбаў, якія пільна сачылі за ім і яго «братамі», дае багата фактаў для знаёмства з лёсамі людзей, што былі ўцягнуты ў «брацкі» праект змагання з саветамі і ўсведамлення тых пакручастых падзей. Праўда, перапіска — нялёгкая для даследавання крыніца. Алегорыі, псеўданімы, патаемныя знакі, якімі карысталіся карэспандэнты, магчыма, не ўяўлялі вялікіх перашкод для польскіх спецслужбаў, але дадаюць сёння праблем гісторыкам.

Тым не менш лісты Дзергача высвятляюць некаторыя аспекты дзейнасці арганізацыі за перыяд 1928—1932 гадоў. Распаўсюджанне адмысловай літаратуры, а гэта — газета БРП «Русская правда», звароты да сялян і чырвонаармейцаў, улёткі, рознага кшталту інфармацыйныя лісткі — з'яўлялася вельмі важным накірункам працы, у якую былі ангажаваны віленскія братчыкі. Значную дапамогу ў «асветніцкай дзейнасці» БРП аказвала праваслаўная царква. «Даведайся, калі ласка адрасы псаломшчыкаў і бацюшкаў... Віленскай епархіі, — падказваў Дзяргач Густалесу шляхі выканання асноўных задач яго аддзела, — асабліва Дзісненскага, Віленскага, Данілавічскага, Свянцяцскага, Ашмянскага і Маладзечанскага паветаў».[13]

Ва ўласнаручных паказаннях Пешка, у 1939 годзе вязень беларускіх спецслужбаў, пацвердзіў, што ён атрымліваў валізы з прапагандысцкімі матэрыяламі з Берліна і Бруселя і размяркоўваў іх па структурных аддзяленнях у Варшаве, Белавежы, Лідзе, Баранавічах, Лунінцы, Пінске, Брэст-Літоўску, Маладзечне.[14] Але арганізацыя не абмяжоўвалася толькі «літаратурнай» працай.

Агент № 1 віленскай экспазітуры падсумаваў вынікі назірання за братчыкамі ў рэфераце ад 30 красавіка 1928 года:

*«У ваяводстве Палескім акцыі БРП маюць больш важны характар, апроч распаўсюджання літаратуры і збірання складак, заўважаны спробы стварэння лакальных адзінак Брацтва ў вёсках паблізу савецкай мяжы і ўзбраення новых «братоў», што сведчыць пра фарміраванне баявых дружын БРП на тэрыторыі Польшчы».*[15] *(пераклад з польскай мовы)*

На мэты БРП збіраліся складкі праз «Расійскую Вызвольную Казну», у асноўным, сярод прадстаўнікоў расійскай супольнасці ў акрузе. Не было вялікага сакрэту для спецслужбаў, што сродкі здабываліся і шляхам вырабу і распаўсюджання фальшывых чырвонцаў, якія завозіліся ў краіны, памежныя з СССР, а потым і ў Саюз. Яшчэ адзін канал заробку — гандаль інфармацыяй, запатрабаванай выведкамі. Гэты хадавы тавар братчыкі прапаноўвалі ангельскай, нямецкай, польскай выведкам. Інструкцыі для чальцоў арганізацыі мелі рэкамендацыі завязваць цесныя дзелавыя стасункі з выведкамі тых краін, дзе братчыкі стала пражывалі. Такім чынам яны разлічвалі на палегку пры пераходзе граніцы з СССР і фінансавую падзяку за агентурныя матэрыялы.[16]

12 траўня 1932 года ў Косаўскім павеце тайная паліцыя затрымала нейкага Герасіма Рубаніка, жыхара фальварка Сярэдні Бор Лунінецкага павета. Пры ім была знойдзена літаратура БРП. Ён назваўся братам № 65 Аляксандраўскага акруговага аддзела. Палітычная паліцыя высветліла, што пакункі з літаратурай паступаюць на адрас кіраўніка павятовай арганізацыі БРП, сталага мяшканца вёскі Гаўрыльчыцы Лунінецкага павета — Яфіма Гашко. Багаж з адозвамі і ўлёткамі (у паліцыі падлічылі — больш за 8000 асобнікаў) ад акруговага кіраўніка Аляксандра Мельнікава накіроўваўся на той самы адрас. Гашко пры затрыманні запэўніў прадстаўніка ўрада ваяводства, што згодна з інструкцыяй братчыкі абсалютна лаяльны да польскага ўрада. Літаратура прызначана для распаўсюджання ў Савецкім Саюзе.

Брат № 16 (гэты нумар меў Яфім Гашко) нават у крызісны для арганізацыі 1933 год здолеў прывесці ў арганізацыю 200 чалавек, у асноўным эмігрантаў з Расіі. Яны гатовыя хоць сёння ісці ў СССР, тлумачыў Гашко ў паліцыі, каб распаўсюдзіць адозвы і ўлёткі Брацтва. Чальцы БРП мусяць праводзіць дыверсіі і тэрарыстычныя акцыі, але не бліжэй чым 50 км ад мяжы. На выпадак





баявых вылазак на савецкую тэрыторыю фарміраваліся адмысловыя адзінкі. Польская выведка высветліла таксама, што апошнім часам (чэрвень 1933 года) 17 асоб былі заангажаваны праз Гашко да акцый Брацтва. 10 чалавек былі забяспечаны рэвальверамі. Магчыма, што сярод новых братоў з'явіўся і Аляксандр Палтаржыцкі, пасведчанне на яго імя за № 50 знайшлося ўлетку 2010 года недалёка ад склепа шляхцянкі Феліцыі Дваракоўскай на старых могілках вёскі Бостынь Лунінецкага раёна.

Як паведамілі супрацоўнікі Лунінецкага краязнаўчага музея, дакумент мае подпісы начальніка аддзела, брата № 31 і сакратара, брата № 409.[17]

Той факт, што большасць братчыкаў аказвалі паслугі польскай выведцы ў Лунінцы, забяспечвала адносную свабоду ў межах Польшчы, але не пазбаўляла ад настойлівай апекі польскіх спецслужбаў.

Лунінецкі кіраўнік БРП Гашко трымаў сувязь з Мельнікавым і прадстаўніком Брацтва ў Баранавічах Рыгорам Сушчэнем.[18]

Галоўным рэзідэнтам БРП у Пінску, таксама былым цэнтры беларускай партызанкі, быў інжэнер Канстанцін Пятроўскі. Ён належаў да радыкальнага крыла рускай пінскай калоніі, якая мела варожае стаўленне да польскай дзяржаўнасці. Пятроўскі актыўна друкаваў у мясцовых выданнях «Под небом Полесья» і «Пинском голосе» пафасныя артыкулы на тэму народнай самасвядомасці палешукоў у традыцыйным праваслаўным рэчышчы. Чалавек заможны, ён ахвяраваў БРП за год (1930) 1340 долараў. Грошы па тых часах немалыя.

Суседам Пятроўскага, які меў маёнтак у Драгічынскім павеце, быў родны брат аднаго з галоўных функцыянераў БРП Сяргея Палеолага Барыс Палеолаг. Таму не выпадкова, што ў Пінску сабралася немалая колькасць «братчыкаў», сярод якіх адзначыліся былы слуцкі паўстанец, зялёнадубец, паэт Міхаіл Ключановіч, пінскія манархісты Сямён Брадовіч і Зміцер Капацынскі. На думку даследчыка А. Ільіна, апошнія мелі дачыненне да падрыхтоўкі забойства Кавэрдай савецкага дыпламатычнага прадстаўніка ў Варшаве П. Войкава.[19]

Вільня, Данцыг, Рыга — улюбеныя месцы для тагачасных міжнародных аферыстаў. Блізкая мяжа — для іх уратавальны круг. Сюды польскія ўлады высылал эмігрантаў. Польшча пасля Рыжскай дамовы насцярожана паставілася да ўцекачоў з усходу.

Антысавецкія акцыі маглі разбурыць хісткі мір. Справа Барыса Кавэрды засведчыла, што Польшча не баіцца страціць імідж дэмакратычнай гасціннай дзяржавы, жорстка перасякае спробы ўзрушыць становішча пасля Рыгі.

У неспакойны 1928 год СМІ пачалі энергічна абмяркоўваць «бомбу», кінутую польскімі журналістамі ў інфармацыйную прастору. Увосень палітычныя плёткі закруціліся вакол версіі магчымых геапалітычных зменаў у Еўропе, пагрозы чацвёртага падзелу Польшчы. Аўтар сенсацыйных заяў, які схаваўся за крыптанімам W. I., свярджаў, што існуе змова нямецкіх нацыяналістаў і рускіх манархістаў супраць інтарэсаў Польшчы. Інтрыга была яшчэ і ў тым, што гэты антыпольскі хаўрус быццам дзейнічаў у кантакце з агентамі ДПУ. Той, хто ўкінуў гэту навіну, яўна разлічваў на рост напружанасці ў краіне, на ўзмацненне ўціску з польскага боку на антысавецкія колы.

Невядомы, які раздаваў інтэрв'ю, прывёў аргументы гэтай на першы погляд неверагоднай версіі. Матывацыя ў бакоў розныя, але мэта агульная. Немцы імкнуцца да вяртання ўсходніх правінцый і нават больш — да далучэння Літвы да сваіх тэрыторый. Рускія манархісты змагаюцца з бальшавізмам і мараць аб адраджэнні манархіі ў Расіі. Да таго ж абодва бакі не вераць, што саветы можна перамагчы знутры. Галоўныя спадзяванні змоўшчыкі ўскладалі на знешнюю інтэрвенцыю. Абвастрэнне сітуацыі ў Польшчы, якая ў вачах еўрапейскага абываццеля мела імідж фарпоста перад бальшавіцкай пагрозай, было ім на руку.

Інтарэсы бальшавікоў у гэтай групоўцы вызначаліся ідэяй сусветнай рэвалюцыі. Пераможная вайна з Польшчай, па іх разліках, была б першым яе этапам. Таямнічы суразмоўца падсумаваў:

> *«Мы стремимся к одной цели. Мы, русские монархисты, монархисты немецкие и… большевики … Мы исходим из разных предпосылок, но придем к общему результату. Кто победит?»*

Пасля паразы ці аслаблення Польшчы еўрапейскі «мандат змагара з бальшавізмам» і адпаведна доступ да рэсурсаў, на думку таямнічага суразмоўцы, атрымае Нямеччына.

У бурлівай Еўропе такіх груповак авантурыстаў было вялікае мноства. Але ў публікацыі канкрэтна ўзгадвалася БРП, як арганізацыя, цесна звязаная з генеральным штабам Нямеччыны і «густа перапоўненая агентамі ДПУ».[20] У сувязях з савецкімі





спецслужбамі былі абвінавачаны кіраўнік цэнтра БРП у Берліне Кольберг, прадстаўнік Брацтва ў Гданьску нейкі Абрыкосаў, сваяк вядомага маскоўскага гандляра. У заблытаны лабірынт шпіёнскіх інтрыг трапіў і «ЗД». Дзяргач, прадстаўнік БРП у Вільні, якога польскія ўлады выслалі з Польшчы пасля тэрарыстычнай акцыі Кавэрды, мае стасункі з мінскім ДПУ, свярджалі аўтары публікацыі. «Уся яго гульня была разлічана на канфлікт паміж Польшчай і СССР».[21] Улічваючы настроі Дзергача і тую ролю, на якую ён быў вымушаны пагадзіцца ў арганізацыі, гэта ў вялікай ступені верагодна. Пагардлівыя адносіны братоў першай дзесяткі не садзейнічалі адносінам даверу і падтрымкі. Выказваў незадаволенасць былымі хаўруснікамі і сам ужо былы на гэты момант брат № 1 Георгій (С. Сакалоў):

> *«...По своим личным качествам (годным для работы ТАМ, но совсем не годным в сложной обстановке такого зарубежного гнезда, как Данциг) Адамович для Братства был ровно ни за чем в дальнейшие годы не нужен. Карта давно выкинутая из колоды».*[22]

У верасні 1932 года быў выкрыты агент ДПУ А. Кольберг, брат Верны, адзін з кіраўнікоў Берлінскага аддзялення Брацтва. Такім чынам, часткова факты з інтэрв'ю чатырохгадовай даўнасці падцвердзіліся. Трэба сказаць, што ў гэты час стасункі «ЗД» з кіраўніцтвам БРП амаль спыніліся. На конт гэтага С. Сакалоў, які пасля скандалу з выкрыццём Кольберга падаў у адстаўку, пісаў Бурцаву:

> *«За ряд последних лет отношение Братства к зеленодубцам постепенно сошло на нет, ибо сами они как организация ослабели, раскололись, пошли в большинстве своем по «самостийной» дороге, перестали тяготеть к идейной связи с Братством…»*[23]

Як вынікае, канфлікт поглядаў і ідэйных перакананняў заставаўся на працягу існавання гэтага саюза. З таго факта, што правакатар Кольберг кіраваў дзейнасцю аддзяленняў Брацтва на беларускіх тэрыторыях, паўстае пытанне, у які бок і на чыю карысць была скіравана праца першасных структур БРП, такіх, як віленская, пінская лунінецкая.

Са следчых матэрыялаў вынікае, што людзі працавалі аддана, не ведаючы гульняў спецслужбаў у верхніх эшалонах арганізацыі. Такім чынам, у саюзе з Брацтвам былыя зялёнадубцы, якія мелі

першапачаткова клопат выжыць і знайсці сродкі існавання, выконвалі ролю баявога кадра для акцый на савецкім баку.

Наёмнікі, яны мала ўплывалі на стратэгічныя рашэнні Вялікага Круга.

## Крыніцы, заўвагі


1. *За свободу. 1928. 7 апреля.*
2. *ДАРФ, ф. 5802, воп. 1, спр. 2247, арк. 1.*
3. *Борьба за Россию. 1928, 17 января.*
4. *ДАРФ, ф. 5802, воп. 1, спр. 2247, арк. 1.*
5. *CAW. — Oddzial ll Sztabu Generalnego. — Sygn. 1. 303. 4. 5303. — Dok. 374.*
6. *Борьба за Россию. 1927. 20 августа.*
7. *ДАРФ, ф. 5802, воп. 1, спр. 341, арк. 5.*
8. *Тамсама, арк. 10.*
9. *За свободу. 1927. 10 июня.*
10. *ДАРФ, ф. 5802, воп. 1, спр. 2247, арк. 1.*
11. *CAW. — 11 Odd…Sign. 1. 303. 4. 5303. — Dok. 374.*
12. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа Ул. Ксяневіча.*
13. *CAW. — 11 Odd…Sign. 1. 303. 4. 5303. — Dok. 374.*
14. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа А. Бажаранава.*
15. *CAW. — 11 Odd…Sign. 1. 303. 4. 5466. — К. 67—68.*
16. *Тамасама. К. 66.*
17. *Беларусь сегодня. 2010. 18 июня.*
18. *CAW. — 11 Odd…Sign. 1. 303. 4. 5466. — К. 65.*
19. *Гістарычная брама. 2004. № 1.*
20. *За свободу. 1928. 16 октября.*
21. *Тамсама.*
22. *ДАРФ, ф. 5802, воп. 1, спр. 341, арк. 10.*
23. *Тамсама.*


## 5. Атаманы, баевікі

Маючы дакументальныя сведчанні, нават персанальныя спісы ўдзельнікаў антыбальшавіцкай партызанкі, нецяжка ўявіць і сацыяльнае аблічча мяцежнікаў і іх лідараў. Зялёны рух слаба закрануў горад. Бо на яго развіццё моцна паўплываў фактар этнічна-тэрытарыяльнага размяшчэння насельніцтва: у моры беларускамоўнага аграрнага насельніцтва — руска-яўрэйскія гарады-анклавы і мястэчкі.





Вёска ў параўнанні з горадам была больш сацыяльна аднароднай і адзінай у сваіх гаспадарчых, культурных і сацыяльна-культурных паводзінах. Дзеянні паслякастрычніцкай дзяржавы ў вёсцы, нягледзячы на ўсе запэўніванні бальшавікоў, па вялікім рахунку класава дыферэнцыраваны не былі і шкодзілі ўсім маёмасным катэгорыям насельніцтва. Таму ў антысавецкім працэсе актыўна ці пасіўна прымалі ўдзел усе слаі сялянства, што фармальна праявілася ў стварэнні саюзаў працоўнага сялянства, у падтрымцы шырокімі коламі Беларускай сялянскай партыі «Зялёнага Дуба». Асноўны касцяк баявых сіл склалі дэзерціры і дэмабілізаваныя салдаты, вясковая моладзь — без падзелу на бедных, сярэдніх і кулакоў. Так, у шэрагах слуцкіх паўстанцаў і зялёнадубцаў асноўная маса — уладальнікі 6—10 дзесяцін зямлі (гл. дадатак).

Як сведчыць склад партызанкі на Ігуменшчыне, у яе ўваходзілі ў асноўным сяляне сярэдняга дастатку вёсак Рэпішча, Сёмкава Слабада, Французская і Зафранцузская Грэблі, Новая і Старая Дубравы, Волма, Усоха, Суціна, Турная Гара і інш. Сярод удзельнікаў толькі Віктар Замбржыцкі быў заможным, яго бацька меў 50 дзесяцін зямлі, астатнія — арэндатары ў сваёй большасці ці мелі ва ўласнасці не болей 15 дзесяцін.[1]

Па сваім характары агульнасялянскімі былі Вяліжскае, Парэчскае, Гарадоцкае паўстанні на Віцебшчыне, Мглінскае, Гарадзішчанскае і інш. ва Усходняй Беларусі, партызанскія рухі — галакоўшчына, жыгалаўшчына і інш. Актыўны ўдзельнік тых падзей мае дастаткова аднолькавыя рысы. Напрыклад, Піменаў Пракоп Данілавіч, 1883 года нараджэння, беларус, малапісьменны, паходзіў з вёскі Гарадзішча, што на Шклоўшчыне. Прыняў удзел у буйным паўстанні ў маі 1919 года, цэнтрам якога была яго родная вёска, а кіраўнікамі — яго браты. Маёмасны стан да 1917 года: 10 дзесяцін зямлі, 2 хаты, 2 пуні, 2 кані, 2 каровы, 3 свінні, 3 авечкі, 1 плуг, 1 барана. У сям'і 10 душ, з якіх 5 працаздольных. Калі маёмасць гаспадара падзяліць на колькасць едакоў, то нават да ліку заможных гэтую сям'ю цяжка аднесці. Наёмнай працай, як падкрэслена ў матэрыялах следства, ніколі Пракоп Піменаў не карыстаўся.[2] Трэба дадаць, што ён быў чалавекам глыбока рэлігійным, як і абодва яго браты.

Хваля пратэсту вынесла са сваёй глыбіні правадыроў і атаманаў. Гэтыя героі таго часу былі даволі тыповым прадуктам

зменлівай пострэвалюцыйнай рэчаіснасці. Сярод іх былі свядомыя і сапраўдныя барацьбіты за незалежнасць, за будучыню краіны. Іншыя апынуліся ў шэрагах змагароў у той ступені, у якой гэта дазваляла дабівацца ўлады, вядомасці і асабістага дастатку. Разам з сумленнымі людзьмі рэвалюцыйная хваля выплюхнула авантурыстаў і прайдзісветаў. Той час вылучыў і «маргіналаў», якія шукалі выйсце і магчымасці рэалізацыі сваёй сацыяльнай актыўнасці.

Трэба да ўсяго гэтага дадаць яшчэ незвычайныя арганізатарскія здольнасці, розум, волю, асабістую мужнасць і, вядома, маладосць.

У траўні 1920 года да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу — выязной сесіяй Рэвваентрыбунала 16-й арміі быў асуджаны Фёдар Васільевіч Пацёмкін, ураджэнец вёскі Жаралы Баханскай воласці Быхаўскага павета ва ўзросце 27 год.[3] Пацёмкін уяўляе сабою вельмі распаўсюджаны ў тыя гады прыклад мясцовага «бацькі». Па-першае, па ўзросту. Большасць паўстанцаў вельмі маладыя — крыху за дваццаць, радзей — крыху за трыццаць. Яны нарадзіліся ў апошнім дзесяцігоддзі XIX ці на самым пачатку XX стагоддзя. Атаману Галаку было 27 гадоў, Дзергачу — крыху за трыццаць, Міхасю Жылінскаму ў 1921 годзе, у той час, калі ён узначаліў паўстанцкі аддзел на Ігуменшчыне, — 23 гады. Яго брату, Тамашу, вядомаму дзеячу БПС-Р, арганізатару партызанкі на роднай Койданаўшчыне ў 1920-м — 27 гадоў.[4]

У спісе расстраляных ЧК «за бандытызм», змешчаным у газеце «Бедняк» за 13 жніўня 1921 года, самаму старэйшаму — шляхціцу з Бабруйскага павета Вульяну Саканоўскаму — 33 гады, самаму маладому з яго аддзела — 20 год. Сапраўды, рэвалюцыйная эпоха — эпоха маладых. Вядома, што бальшавіцкія ваенныя кіраўнікі не мелі вялікага жыццёвага досведу таксама (М. Тухачэўскаму, напрыклад, у 1920 годзе — 27 год). Але маладымі былі і тыя, хто актыўна супраціўляўся іх намеру перавярнуць свет. Экстрэмізм маладых — адметная рыса таго складанага пераломнага часу.

Кіраўнікі партызанкі былі ў асноўным сялянскага паходжання. Браты Караткевічы, браты Яськевічы, Георгій Моніч, Іван Ждановіч, Лукаш Сямёнік і іншыя вядомыя і невядомыя атаманы нарадзіліся і выхаваліся ў вёсцы. Сялянскі менталітэт абумовіў перакананні і паводзіны гэтых людзей. Шмат было з сем'яў святароў і вайскоўцаў. Бацька Адамовіча-старэйшага меў





духоўны сан. А сам Вячаслаў Антонавіч насіў пагоны палкоўніка царскай арміі. Браты Жыгалавы паходзілі з сям'і святара вёскі Бароды Вяліжскага павета. Сынам слуцкага святара быў Арсень Паўлюкевіч. Семінарысты Мінска і Нясвіжа, у асноўным самі папоўскія дзеці, прынялі ўдзел у Слуцкім паўстанні, а потым далучыліся да зялёнадубцаў.

Характэрная рыса ў агульным партрэце паўстанца-антысаветчыка — перанесеная хвароба на бальшавізм. Шмат хто з кіраўнікоў зялёнага руху нейкі час служыў у Чырвонай арміі. Ужо згаданы Фёдар Пацёмкін, абвінавачаны трыбуналам у контррэвалюцыйным выступленні і здрадзе, быў камандзірам 40-га асобнага (карнага) батальёна штаба 8-й дывізіі Чырвонай арміі. Чырвонымі камандзірамі ў розныя часы былі генерал Булак-Балаховіч, палкоўнік Адамовіч. Янка Галак камандаваў Бабруйскім палком Чырвонай арміі. Антысавецкую дзейнасць і абавязкі кіраўніка ваеннага камісарыята спалучаў М. Жылінскі. У апараце чырвоных ваенкаматаў служылі Г. Канапацкі, П. Жаўрыд, А. Ковель і іншыя. Хуткае расчараванне ў эканамічнай палітыцы новай улады, у першую чаргу — пакрыўджаныя пачуцці селяніна-гаспадара — матывавалі сыход з чырвоных.

Амаль усе ўдзельнікі паўстанцкага руху, перад усім — кіраўнікі, атаманы былі з мясцовых. Савецкая гістарыяграфія замацавала тэзіс аб «імпартным паходжанні бандытызму» ў Беларусі. На самай справе антыбальшавіцкая партызанка, як і антыпольская, як і супрацьнямецкая ў тыя гады была мясцовага паходжання. Аддзел Ф. Пацёмкіна складаўся з «несознательных» быхаўскіх сялян. Газета «Звезда» не хавала таго факту, што бальшыня партызан аддзела Мяфодзія Караткевіча — жыхары Бабруйскага павета Брожскай во́ласці, адкуль сам атаман быў родам.



*Палкоўнік Гасан Канапацкі, камандзір беларускіх частак Войска Польскага*

На сваёй зямлі змагаліся з бальшавіцкай уладай браты

Аляксандр, Кастусь і Уладзімір Жыгалавы, арганізатары так званай «жыгалаўшчыны» — руху ўзброенага сялянскага супраціўлення на працягу 1918—1922 гадоў у Парэчскім і Вяліжскім паветах Віцебскай губерні. Янка Галак быў родам з суседняй з Гомельшчынай Чарнігаўскай губерні.

Вялікі адбітак на гэтых людзей наклала вайна. Амаль усе яны — удзельнікі Першай сусветнай вайны і грамадзянскай. Кіраўнікі партызанкі, як правіла, былыя афіцэры царскай арміі ў невялікіх, за рэдкім выключэннем, чынах: капітаны, паручнікі, падпаручнікі. Ва ўмовах партызанскай вайны яны нядрэнна выкарысталі свой баявы досвед. Трэба зазначыць, што вайна ўнесла пэўныя карэктывы ў маральны і псіхалагічны стан людзей, паўплывала на палітычныя сімпатыі. Асоба, яе жыццё, здароўе страцілі каштоўнасць.

Чалавек са зброяй — галоўная постаць таго часу. Усе праблемы — палітычныя, эканамічныя, жыццёвыя — вырашаліся з яе дапамогаю.

Доўгі час афіцыйная гістарыяграфія пераконвала, што гэта «бандыты», маргіналы, «отребье», «отбросы» і г. д. На самай справе гэтыя людзі — вялікая частка таго грамадства, прадстаўнікі самых розных яго колаў. Сябрамі арганізацыі «Зялёны Дуб» былі прафесійныя вайскоўцы, настаўнікі, пісьменнікі, у тым ліку вядомыя, такія, як Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.); сяляне, былыя савецкія служачыя і нават чэкісты (Антон Касінскі — супрацоўнік Маладзечанскай ЧК у 1918 годзе). Да «ЗД» у пэўныя перыяды свайго жыцця далучаліся вядомыя навукоўцы, дзеячы культуры і беларускага тэатра (Р. Зямкевіч, Ул. Тэраўскі, В. А. Адамовіч і В. В. Адамовіч).



*Кіраўнік сялянскай партызанкі М.Д. Піменаў*

Людзі, веруючыя і бязбожнікі, апынуліся ў яго шэрагах; з богам у душы і сэрцы змагаліся за адраджэнне Бацькаўшчыны Уладзімір





А-7-1811



Граждане евреи.

Народный Союз Защиты Родины и Свободы подтверждает свой боевой приказ о разстрѣлѣ погромщиков.

Но он подтверждает также свой приказ о разстрѣлѣ коммунистов и добровольных их пособников.

Народный Союз не может принять на себя отвѣтственности за дѣйствія повстанческих отрядов, ему не подчиненных, но в отношеніи тѣх из них, которые позволят себѣ громить еврейское населеніе, он будет принимать такія же мѣры, какія он принимает в отношеніи враждебных ему войск.

Еврейскіе коммунистическіе отряды, а также тѣ національные еврейскіе отряды и отдѣльныя лица, которые, по каким бы то ни было побужденіям, окажут поддержку коммунистам в борьбѣ против Народнаго Союза, будут разстрѣливаться. В этом отношеніи евреи раздѣлят участь русских, латышей, украинцев, китайцев и других.

Еврейскіе вооруженные отряды, которые ставят своей задачей борьбу против погромщиков и грабителей, не имѣя в виду помогать коммунистам, будут в этой своей дѣятельности поддержаны отрядами Народнаго Союза.

Народный Союз Защиты Родины и Свободы.

Іюль 1921 г.

**Приказы Н. С. З. Р. и С. о разстрѣлах погромщиков.**

I.

По сектору N...

Настоящим приказываю всѣм начальникам партизанских отрядов, строжайше слѣдить за недопущеніем, со стороны отрядов, подчиненных Н. С. З. Р. и Св. и лиц, работающих в контактѣ с ним, агитаціи антиеврейскаго и погромнаго характера; уличенные в погромной агитаціи или в совершеніи погромов, исключаются из организаціи, а за фронтом — разстрѣливаются.

№ 25 от 21-го мая 1921 г.

II.

По всей организаціи.

Настоящим приказывается всѣм членам Нар. Союза З. Р. и Св. строжайше слѣдить за недопущеніем агитаціи антиеврейскаго и погромнаго характера; уличенные в погромной агитаціи или в совершеніи погромов разстрѣливаются.

23 мая 1921 г.

№ 114.

*Загады Саюза абароны Радзімы і свабоды*

Ксяневіч-Грач і Віктар Замбржыцкі, браты Піменавы, Франц Татур.

Дзеля ўласнага ўзбагачэння выкарыстоўвалі зброю нізкія асобы, якія заплямілі штандары «Зялёнага Дуба» яўрэйскімі пагромамі і рабаўніцтвам вяскоўцаў. Гэтыя людзі, як былы паручнік Канстанцін Сямёнаў, проста прызвычаіліся за гады няспыннай вайны да забойстваў, выпрацавалі адпаведны «стыль жыцця».[5]

Такім чынам, паводле сацыяльнага складу зялёная партызанка была ў асноўным сялянскай. У той жа час прадстаўляла амаль усе слаі грамадства.

Дарэчы, спробы аналізаваць склад зелёнага руху былі зроблены яшчэ ў тыя часы, калі партызанка дзейнічала. У аснову аналітыкі пакладзены сацыяльны досвед і матывацыя ўдзелу ў партызанскіх аддзелах. Вынікі працы былі прыведзены зацікаўленым установам і асобам вясной 1922 года, калі палітычныя, колькасныя і маральныя характарыстыкі руху відавочна змяніліся ў параўнанні з папярэднім годам — перыядам найвышэйшага ўздыму. Аналіз адлюстроўвае наяўнасць розных плыняў у партызанцы — як беспалітычных, так і крымінальных, як нацыянальных, так і «бесказяровых».

Даследчык, з савінкаўскіх штабных, капітан Арлянінаў, адвылучыў у асобную частку так званых хранічных дэзерціраў, адносна варожых да ўсіх, без пэўных палітычных праграм і выпрацаванай тактыкі. Галоўная мэта людзей, якія гуртаваліся вакол нефармальнага лідара, — ухіленне ад службы ў арміі, як у Чырвонай, так і ў іншых. Гэтая катэгорыя вельмі характэрна для Беларусі. Насельніцтва не жадала служыць у арміях чужынцаў і на працяглы тэрмін пакідаць дом і гаспадарку.

Ваенны аналітык звярнуў увагу таксама на наяўнасць крыміналу. «Асоциальный, но очень активный элемент: разобьет совет, перевешает коммунистов и вместе с тем организует еврейский погром, пограбит мужиков, наложит контрибуцию на деревню. Идейность его очень незначительная».[6]

Да апошняй катэгорыі «идейных и полезных» аўтар аднёс аддзелы «Зялёнага Дуба», падкрэсліўшы незалежніцкую афарбоўку іх палітычных настрояў.

Аўтар цытаванага дакумента слушна заўважыў, што адна з прычын арганізацыйнага і маральнага заняпаду партызанкі —





матэрыяльныя цяжкасці, напалову галоднае існаванне, адсутнасць сталых крыніц забеспячэння, што і штурхае да рабаўніцтва насельніцтва.

На думку эксперта, выправіць сітуацыю маглі б спецыяльна арганізаваныя групы ваенных спецыялістаў, якія ўзялі б на сябе кіраўніцтва мясцовымі аддзеламі і распачалі працэс аздараўлення. Аднак беларускія партызаны не мелі схільнасці давяраць чужынцам. З гэтага часу дзейнасць аддзелаў прымае ўсё больш замкнёны, самадастатковы характар сам-насам з уладаю.

### *Крыніцы, заўвагі*


1. *Згодна з аналізам анкет з крымінальных спраў архіва КДБ РБ.*
2. *Тыповы і далейшы лёс паўстанца. Тэрмін пакарання адбываў у Гомельскай турме. У 1933 г. быў асуджаны на 3 гады высылкі ў Казахстан за антыкалгасную прапаганду, дзе сляды знікаюць. Архіў КДБ РБ.*
3. *ДАМВ, ф. 294, воп. 1, спр. 29, арк. 6.*
4. *Архіў КДБ РБ, назіральная справа Тамаша Жылінскага.*
5. *Архіў КДБ РБ, крымінальныя справы Ул. Ксяневіча, П. і М. Піменавых, Ф. Татура і інш.*
6. *ДАРФ, ф. 5872, воп. 1, спр. 231, арк. 1.*


## 6. Атаман Дзяргач

Негледзячы на тое што імя Вячаслава Адамовіча (Дзергача) найчасцей сустракаецца на старонках рознага кшталту архіўных дакументаў, у першую чаргу — спецслужбаў, як савецкіх, так і польскіх, нават яго біяграфію паслядоўна скласці вельмі цяжка. І менавіта таму, што інфармацыя пра кіраўніка «Зялёнага Дуба» хаваецца ў асноўным у сакрэтных маладаступных сховішчах.

Захапленне палітыкай у сям'і Адамовічаў як бы традыцыйнае. Бацька Вячаслава — Вячаслаў (Вацлаў) Антонавіч, вядомы дзеяч беларускага нацыянальнага руху, адзін з лідараў яго правага паланафільскага крыла. Ён нарадзіўся ў горадзе Відзы Ковенскай губерні ў сям'і святара ў 1864 годзе. Ваенную кар'еру пачынаў падпрапаршчыкам пяхотнага Петразаводскага палка (па вайсковых спісах 1886 года).[1] Палкоўнік старой рускай арміі. Паводле агентурных дадзеных ДПУ, пэўны час Адамовіч-старэйшы

знаходзіўся на кіруючай пасадзе ў Чырвонай арміі — камандаваў Полацкім палком, з якім перайшоў на польскі бок у 1919 годзе.[2]

У 1907—1914 гадах — рэдактар-выдавец газеты «Северо-Западный телеграф» (Коўна), друкаваўся пад псеўданімам А. Карэцкі, А. Ільніцкі. У 1917 годзе — адзін з актывістаў Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ), Вялікай беларускай рады, Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. Кандыдат ад БСГ на выбарах ва Устаноўчы сход.[3]

Усё жыццё карыстаўся пільнай увагай спецслужбаў. Адна з крымінальных спраў архіва КДБ Беларусі змяшчае даведку, паводле якой Адамовіч працягваў нацыянальную справу да 1932—1933 гадоў. Быў знаёмы даволі блізка з Пілсудскім. Жыў у Вільні па адрасах: Снегавы завулак, 7; Гарбарская, 5; вул. Табезгаўзская, што на Новым свеце. Апошні прытулак — кватэра па вуліцы Вітольдавай, 36, дзе палітык памёр у 1938 годзе (па іншых крыніцах — у 1939). Перад сыходам у лепшы свет цяжка хварэў. За 6—7 год да смерці адышоў ад справы.[4]

У Мінску Адамовічы мелі ўласны дом па вуліцы Міхайлаўскай, 21, які пакінулі ўвосень 1920 года. Вярнуцца пад родны дах ні бацьку, ні сыну не давялося.[5]

На жаль, невядома імя маці Дзергача. У чэкісцкіх матэрыялах узгадваецца, што яна была побач з мужам Вячаславам Антонавічам і сынам Вячкам у гатэлі «Саскія» восенню 1920 года на момант арганізацыі Беларускага Палітычнага Камітэта. Нумар у гэтым гатэлі ў цэнтры Варшавы быў прытулкам для сям'і і бюро Камітэта.

Невядома таксама, калі дакладна нарадзіўся Адамовіч-малодшы. Некаторыя даследчыкі называюць 1890 год. Падобна, што так. Розныя крыніцы згадваюць розныя месцы нараджэння: Ашмяны і Коўна. В. Скалабан, аўтар артыкула, прысвечанага В. Адамовічу ў «Беларускай гістарычнай энцыклапедыі», выказаў небеспадстаўны сумнеў, што, магчыма, Вячаславу Адамовічу-старэйшаму прыпісваецца дзейнасць яго сына. Сапраўды, цяжка падзяліць гэтыя дзве постаці. Да таго ж блытаніну яны ўносілі зусім свядома. Так, напрыклад, увосень 1921 года арышт пагражаў Адамовічу-старэйшаму, быццам бы за парушэнні Рыжскай дамовы, але ў вязніцу Стшалкава патрапіў Адамовіч-малодшы, які хваляваўся за здароўе бацькі.[6] Нават почырк і подпіс пад дакументамі ў Адамовічаў былі амаль





аднолькавыя. Сын да бацькі звяртаўся, як правіла, Вячка.[7] Так звычайна называлі яго самаго блізкія людзі.

Да гэтага трэба дадаць, што Дзяргач меў двайнікоў. Сучаснікі, аднак, сцвярджаюць, што Дзяргач-атаман і пісьменнік — гэта Адамовіч-сын. Гэтыя сведчанні добра захаваліся, паколькі перш за гісторыкаў асобай атамана зацікавіліся спецслужбы. Інтарэс гэты быў трывалым. Амаль кожнага з удзельнікаў беларускага руху, хто ў 20—30-я гады трапляў у ДПУ-НКУС, прымушалі «ўспомніць» Дзергача. Паслядоўную і настойлівую цікавасць мелі да асобы атамана польскія спецслужбы як да супрацоўніка і як да палітычнага апазіцыянера, аб чым сведчаць польскія крыніцы.

Найбольш змястоўна як чалавека і палітычнага актывіста ў першыя паслярэвалюцыйныя гады прэзентуе Дзергача крымінальная справа ад'ютанта штаба «Зялёнага Дуба» Івана Пешкі-Густалеса (дакумент цытуецца на мове арыгінала):

> *«Я, Пешко Иван Митрофанович, в 1917 г. ученик духовной семинарии в Минске. В семинарии слышал только русскую речь. Впервые белорусское слово услышал от жителя города Минска Вячеслава Адамовича, который приходил в семинарию как вольнослушатель, изучал предметы средней школы. Это был первый для меня человек, который агитировал по-белорусски».*

Вячка скончыў Ковенскую гімназію і хутчэй за ўсё не меў патрэбы вывучаць школьны курс. Безумоўна, навучанне ў семінарыі мела палітычныя і асветніцкія мэты. За душы і свядомасць беларускіх хлопцаў, якія апынуліся ў выключна расійскім асяродку, трэба было змагацца. Вельмі хутка ён заваяваў сімпатыі моладзі. 25 семінарыстаў увайшлі ў арганізаваны ім беларускі гурток, сярод іх — будучыя слуцкія паўстанцы і зялёнадубцы. Праграму прынялі вельмі кароткую: змаганне за незалежную Беларусь і супраць саветаў.[8]

Духоўнымі і палітычнымі кіраўнікамі моладзь, што гуртавалася вакол Дзергача, лічыла Б. Тарашкевіча, У. Ігнатоўскага, П. Жаўрыда, Ф. Аляхновіча, А. Смоліча. Іван Пешка, добрасумленна выкладаючы іх на паперы для следчага ў кастрычніку 1939 года, успамінаў словы свайго настаўніка:

> *«Вячка доказывал, что революция не нужна, а необходимо всем белорусам свое национальное чувство проявить и Белоруссию организовать, самостоятельно и отдельно от России. Самое*

*подходящее для белорусов — это Белоруссия без большевиков. Все и во всех уголках должны стараться, чтобы Белоруссия была независимой».*

Следчы падсумаваў:

*«Организуемый и руководимый Адамовичем Вячеславом Вячеславовичем Белорусский кружок молодёжи распространял идеи образования отдельного белорусского государства без русских, а также недопущения советской власти в Белоруссии».[9]*

Цікава, што частка мінскіх семінарыстаў вясною 1920 года апынецца ў Слуцку і працягне навучанне на агульнаадукацыйных настаўніцкіх курсах, рыхтуючы рэзерв слуцкай паўстанцкай арміі.

У той самы час (красавік 1920 года) Дзяргач таксама ў Слуцку. Ён наведвае настаўніцкія курсы і гурток слуцкай моладзі «Папараць-кветка».

З паказанняў Андрэя Бараноўскага, сакратара Слуцкай арганізацыі БПС-Р, арыштаванага ў 1938 годзе:

*«Скоро от Белорусской Войсковой Комиссии в Слуцк приехал её агент, фамилии его не знаю, но которого называли Дергач. О цели своего приезда — организации вербовочной кампании для Войсковой комиссии в Слуцке — он доложил Слуцкому Национальному комитету, Жавриду, Петрашкевичу и Асветимскому. Комитет дал свое согласие, особенно на этом настаивал Жаврид... На Пролетарской улице была открыта контора по вербовке людей... повесили бел-чырвона-белы флаг и соответствующую вывеску. По волостям рассылали объявления о наборе офицеров и рядовых в Белорусскую армию. Люди начали приходить. Им объясняли необходимость создания белорусских военных формирований. Они заполняли нужные бланки, получали деньги и направлялись в Минск».[10]*

Дзяргач у той час — афіцэр БВК, яе Мінскага рэзерву. Зноў збірае людзей, агітуе, стварае вайсковыя адзінкі.

Шмат хто з сучаснікаў памятаў Дзергача як акцёра і спевака. Так, сябры мінскай зялёнадубскай арганізацыі ў адзін голас сцвярджалі, што знаёмства з ім адбылося менавіта ў хоры Уладзіміра Тэраўскага. Захапленне Дзергача беларускім тэатрам засведчылі Францішак Аляхновіч і Усевалад Фальскі ў сваіх паказаннях у ДПУ. Прозвішча Дзяргач (у рускіх крыніцах іншы раз сустракаецца ў перакладзе з беларускай — «Коростель»)





з'явілася нават не як атаманская мянушка, а як творчы і сцэнічны псеўданім.

І назва арганізацыі, якую ўзначаліў Дзяргач, нарадзілася не выпадкова. На адным з першых месцаў у рэпертуары капэлы пад кіраўніцтвам Тэраўскага была песня «Зялёны дубочак».[11] Падчас баявых вандровак атаман запісваў словы і музыку песень, народныя паданні і легенды. Тэкст песні «Весяліся, рвісь капыта», як сведчыць адпаведны запіс у нотным сшытку, належыць В. Адамовічу, а музыка — кіраўніку хора.[12] Па словах памочніка Тэраўскага Сяргея Ламакі, Дзяргач клапаціўся аб усім неабходным для капэлы, шукаў нават строі для спевакоў.

На працягу 1919—1920 гадоў Адамовіч-малодшы шмат друкуецца на старонках беларускіх выданняў: «Звон», «Беларусь», «Рунь».

Трэба сказаць, што сумяшчэнне палітычных і творчых роляў у тагачасным грамадстве — з'ява вельмі распаўсюджаная. Літаратурныя творы, выступленні на тэатральнай сцэне, — цудоўныя сродкі папулярызацыі асобы і камунікацыі ў розных асяродках. Шмат хто з вядомых атаманаў пісаў вершы і меў вядомасць добрага выканаўцы музычных твораў. Напрыклад, песні атамана Абярона моладзь Віцебшчыны перадавала з рук у рукі ў сшытках і ахвотна спявала на вяселлях. Вельмі жаданым госцем на вясковых святах быў атаман Георгій Моніч, аддзел якога аперыраваў на Міншчыне. Ён добра спяваў, танчыў і заўсёды быў верхаводам у моладзі. Лідарства падмацоўвалася пэўнымі асабістымі якасцямі і талентамі.



**Уладзімір Тэраўскі, кіраўнік хора**

Дзяргач выступае і як летапісец партызанскага руху. У дзённіку «Зялёнага Дуба» празрыста ўзгадвае палітычныя задачы партызанкі (за Бацькаўшчыну, вольную Беларусь, нацыянальнае Адраджэнне), ваенныя (абарона Палескай брамы), сацыяльныя (ратаванне людзей ад бальшавіцкага гвалту і рабаўніцтва). Уважлівы чы-

тач на старонках партызанскага жыццяпісу збярэ інфармацыю аб арганізацыі і структурах узброеннага ляснога супраціву, камунікацыях паміж імі.

Па-мастацку малююцца аўтарам жыццё і побыт партызанскага лагера (стана): харчаванне, адпачынак, адносіны ў калектыве.[13]

Чырвоныя камандзіры і камісары — таксама героі, лепш сказаць, антыгероі творчасці Дзергача. На доўгія гады праўдзівы, непрывабны, як і сама гэта вайна, вобраз бальшавікоў знік са старонак друку. Лакіраваныя, хлуслівыя партрэты бязгрэшных будзённых і варашылавых, вялікіх і малых, запаланілі ўсю савецкую літаратуру і кіно. Уся іх непрывабнасць засталася ў літаратурных і дакументальных сведчаннях часу, якімі з'яўляюцца партызанскія нарысы атамана.

Вядомых фактаў з асабістага жыцця атамана вельмі мала. У 1921 годзе загінула яго каханая жанчына — Ганна Доўгерт. Адважная выведчыца, яна неаднаразова пераходзіла мяжу, прыносіла каштоўную інфармацыю з Мінска. Жонкай Дзергача ў 1923 годзе стала Зіна, сыброў Ганны. Яшчэ адна неабыякавая да атамана жанчына, будучы ўжо жонкай маскоўскага вайсковага начальніка, не змагла адмовіць Дзергачу і ў «гонар кахання юнацтва» перадала яму праз «свайго чалавека» копію дыслакацыі Чырвонай арміі на 1925 год, нават даныя аб колькасці патронаў у падсумцы чырвонаармейца.[14]

Памянёны ўжо раней М. Крук у сваім «кароткім нарысе дзейнасці Зялёнага Дуба» нясла́віў усіх сваіх былых паплечнікаў, але для В. Адамовіча-малодшага знайшоў не толькі ганебныя словы. Ён прызнаў, што атаман цярплівы, добры і смелы. Па ўспамінах Ксяневіча-Грача, Дзяргач быў чалавекам вельмі камунікабельным, лёгка гасіў полымя канфліктаў, якія ўспыхвалі паміж ганарлівымі атаманамі.

Па ўсіх звестках, Дзяргач — чалавек, адданы сваёй працы, змаганню за лепшы лёс Бацькаўшчыны. Як паплечнік генерала Булак-Балаховіча, ён адразу пасля паражэння «бацькі» пачаў фарміраваць аддзелы з былых яго ваяроў і афіцэраў пад выглядам арганізацыі Лігі Паветранай Абароны. Ён зноў прымусіў гэтых людзей паверыць у свае сілы. Як кіраўнік «Зялёнага Дуба», працягваў гэтую справу арганізацыі баявых сіл, пры тым на высокім прафесійным узроўні. Яго аддзелы былі добра структураваныя, напалову ваенныя адзінкі па тыпу нацыянальнай гвардыі.





96

ПРОТОКОЛ ЗАСЕДАНИЯ
Временной Белорусской Рады от 27 января 1925 года.

На заседании присутствовали: Павлюкевич, Волейша, Соловей, Конопацкий, Каратнгин, Бильдзюкевич, Знамеровский, Костюкевич и Атаман Дергач.

Заседание открывается в 16 часов.

Председателем предоставляется слово атаману Дергачу, который информирует Раду о состоянии его отрядов, в которых в настоящее время находятся 62 человека. Дергач выражает благодарность Раде за присылку в его отряды охотников. В первую партию прибыло 8 человек, в вторую – 12 и в третью – 23 человека. Охотники подают большие надежды, так как очень старательны и проявляют инициативу. 16-го января его отрядом около Столбцов была задержана партия контрабандистов из 6 человек с товаром на сумму 2.000 рублей.

Дергач просит при приеме охотников опрашивать их гесторонне и лишь после выяснения их личности – принимать. Это необходимо, дабы избежать провокаторов. По словам Дергача к весне на Советской границе ожидается какие-то события, ибо, как войска, так и противо-партизанские отряды очень старательно к чему-то готовятся.

ПОСТАНОВИЛИ: Принять информационный доклад Дергача к сведению.

Павлюкевич докладывает Раде об окончательных результатах переговоров с Крессовым Комитетом. Предъявленные требования Крессового Комитета о вхождении их Представителя в Ревизионную Комиссию Рады с целью контролирования сумм, а также обязательное присутствие на заседаниях Рады представителей от Крессового Комитета Президиумом Рады приняты и подписаны временно, отпуск Раде сумм

*Копія пратакола часовай Беларускай Рады, якую перадаў замежны агент ДПУ. Далучана да справы Дзергача*

Дзяргач спрабаваў уплываць на палітыку польскіх уладаў у беларускім пытанні. На пачатку снежня 1924 года ў Лунінцы ён меў намер стварыць так званы Камітэт беларускіх спраў, які павінен быў, па яго задумцы, кантраляваць дзеянні прадстаўнікоў польскіх уладаў у адносінах да беларускага насельніцтва. Як пераканаы антысаветчык, у вёсцы Гаўрыльчыцы (побач з мяжой) стварыў нешта накшталт агентурнага бюро, якое павінна было сачыць за настроямі сялян у вёсках пагранпаласы, засылаць сваіх людзей у камуністычныя ячэйкі, агітаваць і арганізоўваць сялян за адзіную непадзельную Беларусь. (У адзінстве сіла беларусаў, — меркаваў атаман.) Агенты павінны былі выведваць, дзе знаходзяцца савецкія дыверсійныя аддзелы, іх колькасць і кірунак дзейнасці.[15] Безумоўна, ён меў арганізатарскі талент, быў здольны ў розных абставінах прыцягваць да сябе людзей.

Відавочна таксама, што жорсткі час адбіўся на характары гэтага маладога чалавека. У некаторых абставінах Дзяргач праяўляў палітычны экстрэмізм, недальнабачнасць. Ён мог быць вельмі




**Сяргей Бусел, сябра Рады Случчыны. Фота 1939 г.**





жорсткім і бязлітасным у адносінах да тых, каго лічыў ворагам. Прадстаўнікі розных беларускіх арганізацый у верасні 1925 года на сваім пасяджэнні разглядалі жахлівы выпадак забойства Дзергачом жанчыны, у асобе якой атаман западозрыў бальшавічку.

Вельмі паказальна, што вінаватым ён сябе не прызнаў, наадварот, палічыў за дасягненне, што выкрыў і знішчыў, па яго словах, «чарвяка, які тачыў арганізацыю знутры».[16] Магчыма, гэта была помста за трагічную смерць каханай Ганны, але вельмі лёгка ён вырашыў чужы лёс. Мабыць, нельга вырываць гэтых людзей з рамак таго часу. Яны — людзі вайны, вайны грамадзянскай. Каштоўнасцямі былі ідэі камуністычныя, манархічныя, нацыянальныя, а не жыццё асобнага чалавека. Дарэчы, не шкадавалі яны і асабістага жыцця.

Раз-пораз імя беларускага атамана ўсплывала ў еўрапейскай прэсе ў другой палове 20-х гадоў, у ліставанні дзеячаў эміграцыі ў 30-я гады. Арыштаваныя ў 1939 годзе Іван Пешка і Сяргей Бусел паказалі, што на момант пачатку Другой сусветнай вайны Дзяргач служыў псаломшчыкам у праваслаўнай царкве горада Данцыга. Паколькі імя Вячаслава Адамовіча нідзе не прамільгнула падчас вайны, можна з вялікаю асцярогаю меркаваць, што ён не мінуў ГУЛАГа. Шмат дакументаў архіва КДБ пазначаны рэкамендацыяй «да справы Дзергача».

## Крыніцы, заўвагі


1. *Згодна з даведкай Расійскага Дзяржаўнага Ваенна-гістарычнага архіва.*
2. *Архіў КДБ РБ. З агентурных даных.*
3. *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Мн., 1993. С. 44.*
4. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа А. Бажаранава.*
5. *Тамсама,крымінальная справа І. Пешкі.*
6. *Тамсама, крымінальная справа Ул. Ксяневіча.*
7. *Тамсама, крымінальная справа савінкаўцаў, 1921.*
8. *Тамсама, крымінальная справа І. Пешкі.*
9. *Тамсама.*
10. *Тамсама, крымінальная справа А. Бараноўскага.*
11. *Тамсама, крымінальная справа Ул. Тэраўскага; крымінальная справа савінкаўцаў, 1921.*
12. *Дзяржаўны музей Янкі Купалы. Асабісты фонд Кастуся Пуроўскага.*

13. *Адамовіч В. Адзін дзень у арміі Зялёнага Дуба // Звон. 1919. 22 верасня; 10 кастрычніка. Ён жа. З дзеўніка арміі Зялёнага Дуба // Беларусь. 1919. 29, 30 кастрычніка.*
14. *Архіў КДБ РБ. Аналітычная даведка «Белорусская организация в Польше».*
15. *Тамсама, крымінальная справа Ул. Ксеневіча.*
16. *Тамсама. З аператыўных дадзеных. Пратакол № 29/А Аб'яднанага пасяджэння Часовай Віленскай Беларускай Рады, Гродненскага часовага камітэта, Бельскага камітэта, прадстаўнікоў супрацьпартызанскіх аддзелаў і Сялянскага Саюза.*

## 7. Атаман Грач

У выніку знаёмства ў красавіку 2009 года (на жаль, толькі па тэлефоне) з унукам вядомага атамана Ксеневіча-Грача Юрыем Калюковым і далейшага супрацоўніцтва склалася новая дапоўненая, больш-менш набліжаная да праўдзівай, карціна жыцця зялёнадубца.

Сваю частку яго гісторыі я здабыла дастаткова даўно, у «ліхія» і вольныя 90-я, якія абрынулі архіўныя заслоны. У спецсховішчы КДБ РБ мне пашчасціла патрымаць у руках крымінальную справу па абвінавачванню У. Ф. Ксяневіча-Грача, кіраўніка Галоўнага штаба партызанскіх аддзелаў «Зялёнага Дуба». Гэтую, так бы мовіць, першую частку яго жыццяпісу склалі тут, у Мінску, вядомыя беларускія чэкісты. Спадар Каюкоў у сваю чаргу даслаў мне копію следчай справы № 10613 па абвінавачванню Ксяневіча В. Ф. па арт. 58—6, УК РСФСР. Гэта быў вынік плённай працы супрацоўнікаў Балейскага раённага аддзела УНКУС па Чыцінскай вобласці. Такім чынам, не прайшло і дзесяці год, як знайшлася крыніца з адлюстраваннем фінальнай часткі жыцця майго героя.

Дакументальныя каштоўнасці з цяжка даступнага для даследчыкаў архіва — пратаколы допытаў, паказанні, пісаныя ўласна, агентурныя данясенні, ліставанне зацікаўленых асобаў, фотаздымкі — датуюцца 1922—1925 гг. Беларуская справа была заведзена 12 чэрвеня 1925 года і за два тыдні падрыхтавана да суда. Але ў ёй сабраныя матэрыялы пра антысавецкую тэрарыстычную дзейнасць Грача з моманта ўступлення ў Беларускую сялянскую партыю «Зялёны Дуб» (восень 1920 г.) і да яго перахода ў Савецкую Беларусь у кастрычніку 1924 года.





Чыцінскія матэрыялы маюць крайнія даты: 25 студзеня 1938 — 4 ліпеня 1939 года.

Абедзве справы маюць аднолькавы вынік — прысуд да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу. Але ў 1925 годзе падсудны змог яго пазбегнуць, адклаўшы непазбежнае на 14 гадоў і заплаціўшы вельмі дарагую цану за памілаванне. Драма шэфа штаба «Зялёнага Дуба» была тэмай шэрагу гучных газетных публікацый у БССР на працягу 1925—1926 гадоў. Крыніц, як бачым, няшмат, таму што дзейнасць нашага героя была заканспіравана і звязана са сферамі зацікаўленасці выведак і контрвыведак. Гэты момант падкрэсліваю асобна для аматараў «чысціні жанру» і няздольных да аб'ектыўнай добразычлівай крытыкі. Нават зараз матэрыялы такіх гісторый цяжка адшукаць.

Да месца будзе падкрэсліць своеасаблівасць такога кшталту архіўных крыніц. Трэба памятаць, што дакумент з'яўляецца на свет ва ўмовах няшчырасці і жадання пазбегнуць праўды. Ісціна непажадана для абодвух бакоў. У следчага — адны мэты. У падследнага — іншыя. Дакумент, які называецца крымінальнай справай з адпаведным нумарам, пішацца ў сааўтарстве. У дадзеным выпадку гэта сумесны твор зялёнадубца Грача і следчага Афрыкана Пятрова. У гісторыі «Зялёнага Дуба» гэты чэкіст адыграе не апошнюю ролю і заслугоўвае быць узгаданым асобна. Упаўнаважаны АДПУ Беларусі Пятроў распрацоўваў амаль усе справы зялёнадубцаў. Грач з іх не першы. У 1921—22 гадах Пятроў вёў следства некалькіх атаманаў з Ігуменшчыны. У справе аднаго з іх, Уладзіміра Гаркавенкі, захавалася скарга на следчага ў вышэйшыя інстанцыі:

> *«Он, Петров, уже с утра не может без ненависти смотреть на подследственных и их родственников, страдая от желания опохмелиться».*[1]

Зялёнадубцы, якія складалі ліст, адзначылі неаб'ектыўнасць і жорсткасць следчага. Затое бездакорнымі паўстаюць вобразы слаўных дзяржынцаў са старонак літаратурных твораў пра добрых і справядлівых чэкістаў і крывавых бандытаў. Нарысы Іллі Барысава «пра падрыўную дзейнасць антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі «Зялёны Дуб» прэзентуюць стрыманага інтэлігентнага Пятрова, імпульсіўнага, але разумнага Генкіна (яму будзе перададзена крымінальная справа Грача) і іншых таксама выключна

пазітыўных. Назіраў за гульнёй з «вядомай птушкай» мудры і разважлівы Апанскі, дарэчы, на момант следства яму 27 год, на тры гады маладзейшы за Грача.



*Сямейнае фота атамана Грача з дочкамі Лізаветай і Алёнай і жонкай Ксеніяй. 1924 г.*

У выніку няпростага дыялогу Уладзіміра Францавіча з «інтэлігентным» Афрыканам Пятровым, настойлівай апрацоўкі душы і цела падследнага «імпульсіўным» Генкіным нарадзіўся своеасаблівы нарыс жыцця, сведчанне складанага лёсу чалавека, які трапіў разам з усім грамадствам у вялікі сацыяльны разлом.

## Фрагменты з асабістага жыцця

Уладзімір Францавіч Ксяневіч нарадзіўся ў чэрвені 1894 года ў весцы Альберцін недалёка ад горада Слоніма ў дваранскай сям'і. Бацька, Франц Людвігавіч Ксяневіч, — вайсковец, падпалкоўнік 118-га Шуйскага палка царскай арміі, у пачатку 20-х служыў у польскім войску. Грач у сваіх паказаннях узгадаў, што бацька





займаў пасаду каменданта горада Слоніма. Пра гады дзяцінства амаль нічога невядома. Няма дакладных звестак пра яго маці. Есць падстава думаць, што яна з дому Барысевічаў, паколькі родны дзядька Уладзіміра з боку маці звався Барысевіч Канстанцін Канстанцінавіч.

Пляменнік раз-пораз наведваў яго ў маёнтку ў мястэчку Каменскае каля Екацерынаслава. Доўгі час у вёсцы Малыя Гарадзяцічы, і да кастрычніцкага перавароту і пасля, жыў другі дзядька, брат бацькі, Іосіф Ксяневіч. Менавіта ў яго маёнтку знайшла прытулак сям'я атамана — жонка і дзеці — падчас яго баявых вандровак. На допыце 17 чэрвеня 1938 года Уладзімір Францавіч на загад следчага пералічыць сваякоў назваў сястру Венгржыноўскую (у замужжы) Яўгенію Францаўну, яна на той момант пражывала каля Лунінца. Прозвішчы стрыечных, каторых Ксяневіч меў шмат у Заходняй Беларусі і на савецкім баку, ён не памятаў. У Слоніме, Альберціне, Лунінцу, на мой погляд, варта было б пашукаць сляды сям'і, звесткі пра цікавыя нам персанажы, з тым каб дэталізаваць рэканструкцыю атаманскай гісторыі, сабраць і скласці з рознага кшталту фрагментаў, якія знаходзяцца, бывае, у самых нечаканых месцах.

Уладзімір спачатку скончыў кадэцкі корпус у Варшаве, потым Мікалаеўскую вайсковую вучэльню ў Пецярбургу, якраз напярэдадні Першай сусветнай вайны. У 1914-м па выхадзе з вучэльні быў накіраваны на германскі фронт. Ваяваў у складзе штурмавога батальёна VI арміі ў Румыніі. Там даведаўся і аб кастрычніцкіх падзеях у Расіі.

На фронце набыў спецыяльнасць сапёра і вайсковага будаўніка. У мірныя прамежкі часу будаваў масты пад Варшаваю, у Пружанах, Альшанах і іншых мясцінах.

Не зважаючы на вайну, у 1915 годзе ажаніўся ў вельмі маладым, насуперак традыцыям сям'і, узросце і нарадзіў дзвюх дачок — Лізавету (1916) і Алену (1919). Як звычайна, жонка, маці яго дзяцей, засталася ў цені свайго неардынарнага мужа. Аб ёй звестак мала. Большасць з іх на старонках пратакола, складзенага начальнікам Балейскага раённага аддзела УНКУС сяржантам дзяржбяспекі Чарамісіным. 25 студзеня 1939 года Ксенія Максімаўна, так яе звалі, праходзіла ў якасці адзінай сведкі па справе мужа. Яна нарадзілася ў 1889-м (у пратаколе памылкова пазначаны 1883 год), у Пецярбургскай губерні. Знаёмства мала-

дых людзей, хутчэй за ўсё, адбылося ў паўночнай сталіцы Расіі, дзе навучаўся малады шляхціц з Гарадзеншчыны. У першы свой адпачынак Уладзімір з фронту адразу накіраваўся у Маскву, куды пераехала каханая. Там пажаніліся. Мядовы месяц доўжыўся 15 дзён. Па ваенных часах — рэдкая ўдача. А потым малады муж заспяшаўся на месца службы ў свой 4-ты корпус пад Варшаву.

Наступным разам лес звёў іх на пачатку 1918 года ў Разані, дзе пасля развалу царскай арміі капітан Ксяневіч знайшоў жонку і дачку. Тут затрымаліся толькі на паўгода. Дачакаўшыся лета, рушылі на радзіму пад выглядам уцекачоў. Маладую сям'ю гасцінна прыняў дзядзька Іосіф. Як распавядала Ксенія Максімаўна следчаму, ужо ў верасні муж выехаў да сваякоў маці ў пошуках працы ў Екацерынаслаўскую губерню і знік на шэсць гадоў. У яго адсутнасць нарадзілася другая дачка. Праўда, у 1921-м Ксенія Максімаўна нечакана атрымала ад мужа ліст з Вільні. Ён пісаў, што хадайнічае перад польскім урадам аб дазволе аб'яднання з сям'ёй і раіў ёй звярнуцца да польскага консула ў Мінску. З матэрыялаў вынікае, што ў справе атамана было 15 лістоў да жонкі. Захаваўся толькі адзін. Астатнія адабралі падчас следства, а потым проста выкінулі. Палявы камандзір звяртаўся да каханай:

*«Мой милый славный друг, дорогая Киса. Отчего от тебя так долго нет письма? Чем это объясняется? Документы твои уже в Минске. Все, что от меня зависело, я сделал... Не подумай, дорогая, что я не хочу вас видеть, все, что я делаю, я делаю для нашего совместного счастья. Ждали так долго, подождем еще немного... До вашего приезда я постараюсь лучше устроиться, чтобы вы ни в чем не нуждались. Пиши мне почаще, моя радость, жду с нетерпением твоего письма... Целую тебя и деток. Не забывайте меня в молитвах... Да хранит вас Господь... Твой Вовик».*

Звычайны ліст клапатлівага бацькі і ўлюблёнага мужа.

Рэдка, але яны сустракаліся падчас яго баявых рэйдаў у Савецкую Беларусь. Мяркую, што дзейнасць мужа не была для яе вялікай таямніцай. Пасля пераходу Грача на савецкі бок Ксенію прывезлі ў Мінск, у ДПУ. Памочнік начальніка аддзела КРА (аддзел контррэвалюцыі) Дамберг спытаў яе, ці ведае яна чалавека па прозвішчу Грач. Пасля адмоўнага адказу жанчыны чэкіст паказаў «Кісе» яе любага «Вовіка». Яна вымушана была прызнаць у арыш-




Мой милый, славный друг, дорогая Киса! Отчего от тебя так долго нет письма? Чем это объяснить? Документы твои уже в Минске. Все что от меня зависело я сделал. Теперь Ты старайся. Устрой так чтобы весной могла бы приехать. Зимой не приезжай т. к. я не имею квартиры. Квартирный вопрос это самый больной вопрос. Кроме того я думаю весной уехать этой зимой и поступить на Библейские курсы под Варшавой. Перед своим отъездом сообщу тебе. Ты я мог приготовиться к Вашему приезду. Пиши мне теперь по адресу: Warszawa, ul. Wolska № 3 m. 5. WP. Zebrowskiemu dla WT. Кр— . Не подумай дорогая, что я не хочу вас видеть, но все что я делаю я делаю для нашего взаимного блага. Ждали так долго подождем еще немного. Будем надеяться на Господа и Он совершит. К вашему приезду я постараюсь устроиться лучше, даби вы ни в чем не нуждались. Пиши мне почаще моя радость. Жду с нетерпением твоего письма. Привет всем знакомым. Целую всех родственников. Целую тебя и деток. Не забывайте меня в молитвах ваших. Помните что все от Господа. Читаешь ли ты Евангелие? Читай, дорогая, там [illegible] силы для дальнейших трудов. Да хранит Вас Господь. Документы отосланы в Минск 8/XI до „Delegacji Polskiej do spraw Repatrjacji" – Пробл... ул. № 10. до № 52120.
21/XI Целую крепко Твой Вовик

*Ліст атамана Грача да жонкі. Аўтограф. Вільня, 1921 г.*

таваным свайго мужа, але сказала, што ніякага Грача не ведае. Мінская турма, куды змясцілі Ксяневіча-Грача, зноў разлучыла іх.

Пасля памілавання ў студзені 1927 года Ксяневіч вяртаецца ў сям'ю. Спрабуе жыць звычайным абывацелем, працуе тэхнікам-будаўніком у камунальнай гаспадарцы Мазыра. Але сумеснае жыццё не заладзілася. У снежні гэтага ж года ён кідае жонку і дзяцей і перабіраецца ў Оршу. Там знаходзіць прытулак у свайго сябра, агранома Неймана, і ўладкоўваецца на працу тэхнікам па школьнаму будаўніцтву пры акружным выканкаме. Ці то не вытрымаў атаман выпрабавання сямейным шчасцем, ці то з'явіліся абавязкі перад новымі гаспадарамі, якія «падаравалі» яму жыццё, — невядома. Дакладна можна сказаць, што сямейны разлад быў глыбокі, хаця і меў часовы характар. Ксяневічы развяліся.

Нейкая Пажыткова Сцепаніда, фельчарка вочнага аддзялення аршанскага шпіталя, стала новай жонкай Грача. Праўда, калі браць на веру матэрыялы следства, спачатку яго спакусілі зусім не жаночыя вартасці Сцепаніды, а яе агентурнае майстэрства і шырокія сувязі ў асяродку вайскоўцаў. Некалі нарачоная белагвардзейца, расстралянага чырвонымі, яна хутка захапілася былым зялёнадубцам і дапамагала яму ў контррэвалюцыйнай дзейнасці. Хутчэй за ўсё, следчы імправізаваў. Але Ксенія так проста не саступіла фельчарцы бацьку сваіх дзяцей. Яна прыязджала ў Оршу, мела жорсткую размову з разлучніцай. Паўплываў яе візіт на рашэнне Уладзіміра ці не, але ён вярнуўся ў сям'ю, якая кватаравала ў той час у Мінску.

Чытаючы матэрыялы следства, адчуваеш шмат разнастайных складаных пачуццяў, перажытых нешчасліваю жанчынаю. Яна сапромелася гэтых глыбока асабістых падрабязнасцей. Ёй непрыемна было пагаджацца са следчым, які вытанчана нахабна маніпуляваў спісам сапраўдных і прыдуманых захапленняў мужа. Спецслужбы заўсёды глыбока капаюць жыццё тых, хто меў неасцярожнасць трапіць у зону іх увагі. Чуткі, плёткі, даносы, сведчанні чалавечых слабасцей і не вельмі прыгожых паводзін — усё будзе скарыстана для знішчэння чалавека, яго годнасці і душы.

Але трэба заўважыць, Ксенія Максімаўна не дазволіла сабе ніводнага бруднага слова ў адрас мужа. Яна добра разумела, што не ўсё ведае з яго тайных спраў, і прыйшла яна на допыт, а не на споведзь, а следчы не святы айцец, а вораг сям'і, галоўнай яе каштоўнасці, якую яна ў тыя жахлівыя часы зберагала. Дастатко-





ва стрымана яна выказала здзіўленне наконт вялікай колькасці жанчын, з якімі, як навязліва падкрэсліваў следчы, яе муж «меў добрыя адносіны».

Прыгожы, калі меркаваць па фотаздымках, «высокі мужчына з пышнымі вусамі», так апісаў яго памежнік Кузьма Гарынцаў, які праводзіў затрыманне ў кастрычніку 1924-га. Моцны, упарты, імпульсіўны — па ўспамінах сучаснікаў — шляхетнага выгляду ў любых абставінах, Уладзімір Францавіч меў асобую прыцягальнасць для жанчын. Ён ніколі, нават у самых цяжкіх абставінах, не губляў цікавасці да іх. І яны былі ўдзячнымі ў адказ. У кожным новым месцы ён хутка абрастаў рамантычнымі сувязямі. Яму сімпатызавалі кватэрныя гаспадыні, кліенткі Ксеніі (яна была добраю краўчыхаю), супрацоўніцы, артысткі мясцовых тэатраў. Яго чакалі ў Мінску, Оршы, Мазыры, на Далёкім Усходзе. Праўда, імёны каханак і проста знаёмых жанчын з лёгкай рукі следчых Балея і Чыты склаліся ў спісы шпіёнак, тэрарыстак, пасобніц антысаветчыка.

Безумоўна, стракатая геаграфія вандровак вызначана іншымі прычынамі, чым сардэчныя схільнасці зялёнадубца. Пасля Оршы і нядоўгага затрымання ў Мінску апошнім беларускім горадам быў Чэрвень (Ігумен — у часы Грача-баевіка). Адтуль у 1931 годзе, атрымаўшы папярэдне згоду на працу «Дальбудаб'яднання», Ксяневіч выехаў на Далёкі Усход. Невядомыя нам абставіны прымусілі яго амаль адразу, праз тры тыдні, пакінуць Хабараўск, куды спачатку накіроўваўся ўцякач. Жонка прыехала следам і знайшла яго ў Благавешчанску, дзе яны стала пражылі чатыры гады.

Але нешта ці нехта перашкаджаў яму спыніцца, і ён працягваў свой рух далей і далей ад радзімы. Наступнае месца, дзе зачапіліся Ксяневічы ў 1935-м, — Срэценск, будаўніцтва верфі. А літаральна праз тры месяцы старэйшая дачка (у замужжы Савацеева) і зяць паклікалі іх да сябе ў пасёлак Балей пры золатаздабыўным камбінаце — г. зв. «Балейзолата». На вуліцы Вядзернікаўскай, № 20 з'явіліся новыя жыхары, а на камбінаце — новы тэхнік-нарміроўшчык.

Балей — месца надзвычай цікавае і адначасова няўтульнае для еўрапейца. Чыцінская вобласць займала другое месца ў былым СССР па золатаздабычы, што значна ўплывала на якасны склад насельніцтва. Разам з вялікай колькасцю палітрэпрэсаваных,

вязняў Бамлага, будаўнікоў галоўнага створа Байкала-Амурскай магістралі, багата было рознага кшталту крымінальшчыкаў і прайдзісветаў, якія сцягнуліся сюды ў спадзяванні лёгкай пажывы.

І ў палітычным сэнсе месца таксама не спрыяла спакойнаму жыццю. У 1920-я пад рэпрэсіі патрапіла большая частка дваран, духавенства, удзельнікаў белага руху і палітычных партый. У часы балейскага жыцця Ксяневічаў улады знішчалі сялянства і тых, хто захаваўся ў папярэдняе дзесяцігоддзе. У 1937—1938 гады рэпрэсіі сталі масавымі ў адносінах да ўсіх сацыяльных груп насельніцтва. Напружанасць на Забайкальскай мяжы значна вырасла пасля акупацыі Японіяй Маньчжурыі і стварэння марыянетачнай дзяржавы Маньчжоу-Го. Абвінавачанні ў шпіянажы на карысць Японіі і гэтай самай Маньчжоу-Го былі звычайнай практыкай службаў бяспекі. Заляцеўшы ў гэтыя мясціны па волі нядобрага лёсу, Грач быў проста асуджаны стаць агентам выведак гэтых краінаў. Што і адбылося.

## На шляху да Беларусі

З заканчэннем першай сусветнай вайны і развалам царскай арміі сярод маладых вайскоўцаў беларускага паходжання выспяваюць незалежніцкія дзяржаўныя амбіцыі. Патрапіўшы ў беспрэцэдэнтную перабудову свету, галоўнае апірышча яны знайшлі на радзіме. У гэтым сэнсе наш герой абсалютна тыповы прадукт пасляваеннай рэвалюцыйнай эпохі. Ён вяртаўся дамоў з Румынскага фронту.

Як вядома, менавіта там лёс і абставіны сабралі шмат беларусаў-вайскоўцаў, і большасць з іх у акопах пачала сваю патрыятычную нацыятворчую дзейнасць на карысць Бацькаўшчыны. Маладыя афіцэры палічылі нацыянальны чыннік галоўным у свой час, дзейным інструментам для самарэалізацыі і дасягнення вяршынь палітыкі. Нацыянальная ідэя перадавалася, як вірус, шмат хто на яе захварэў і заразіў вялікую прастору вакол сябе. Самасвядомасць прывяла да жадання палітычнага самавызначэння, а гэта дыктавала неабходнасць удзелу ў вайне за свае.

Ксяневіч меў шанец зрабіць кар'еру ў Чырвонай арміі. У Разані працаваў у губернскім ваенкамаце, але на пагоны не спакусіўся, застаўся чорнарабочым. Не стаў і белагвардзейцам. З прыходам





арміі Дзянікіна ў Екацерынаслаў улетку 1918-га (як раз у гэты час Ксяневіч знайшоў тут працу) яго мабілізавалі, і да разгрому генерала ён служыў ад'ютантам каменданта горада. У Каменскім, пад Екацерынаславам пражывала шмат палякаў. Пасля паражэння белых для спрыяння іх ад'езду на радзіму прыехаў прадстаўнік польскага консульства. Ён забяспечыў уцекачоў пасведчаннямі на права вяртання дамоў. Атрымаў дакументы і Ксяневіч. З польскім эшалонам праз Румынію ён вярнуўся ў Беларусь.

У акупаваным палякамі Мінску былы дзянікінец даведаўся аб пачатку фарміравання беларускай нацыянальнай арміі і дзейнасці Беларускай вайсковай камісіі па камплектаванні афіцэрскага рэзерву. «Я, як беларус, з чыста нацыяналістычных пачуццяў добраахвотна ўступіў у БВК», — патлумачыў следчаму ДПУ матывацыю свайго выбару. Але ўжо праз месяц новаспечаны беларускі афіцэр зразумеў, што гэта справа безвыніковая. Патранаж ПГШ, на яго думку, гарантаваў безвыніковасць праекта. Працягваючы вандроўку па арміях, на паўтара месяца Ксяневіч зачапіўся ў сапёрнай роце № 219 польскай арміі. Было б абсалютна зразумела і лагічна, калі б ён, выхадзец з польскага асяродку, там і застаўся.

Але, назіраючы рабаўніцтва маёмасці беларускага насельніцтва польскімі вайскоўцамі, ён адчуў сябе пакрыўджаным уласнікам. Крыўда яшчэ вырасла ў памерах, калі ён стаў сведкам, як той самы афіцэр, сквапны да дабра беларускага селяніна, пакараў галоднага жаўнера за спробу злавіць курыцу на польскай тэрыторыі. Браць можна толькі ў беларусаў — патлумачыў марадзёр.

Пра гэты выпадак, які падштурхнуў пакінуць польскую армію, негледзячы на тое што там служыў бацька, Грач распавёў на сваім першым судовым працэсе ў Мінску.[2] Відаць, што ён, шчыры ў сваіх аповядах, да канца не зразумеў, куды і да каго патрапіў, што саўдэпаўская зграя яго ўжо прыгаварыла, а яго нацыяналізм толькі абцяжарыў лёс.

Не зважаючы на недобразычлівую ў большасці сваёй аўдыторыю, ён пранікнёна ўспамінаў, як аднойчы маланка адкрыцця прыналежнасці к беларускаму народу прасякнула яго юнацкі розум. Чытаючы беларускі каляндар і разглядаючы малюнкі на яго старонках, малады шляхціц адчуў, што гэта яго мова, яго зямля, яго краіна.

Натоўп, які ламіўся ў залю суда мінскага дома культуры чэрвеньскім днём 1924 года паглядзець на польскага шпіёна,

наўрад ці зразумеў пафас прамовы падсуднага і сэнс дзіцячых адкрыццяў беларускага сусвету ў календары. «Калі вучыўся ў Варшаве, мяне прымалі за рускага, у Разані супрацоўнікі лічылі палякам, ні тым ні другім я не быў», — падкрэсліў свой беларускі патрыятызм Грач. Ён спадзяваўся, што адданасць беларускай ідэі ўратуе яго. Нацыянальная рыторыка, якую пачалі выкарыстоўваць улады, наяўнасць наверсе палітычнай піраміды Савецкай Беларусі нацыянал-камуністаў шмат каго дэзарыентавала. Ігнатоўскі, Чарвякоў мелі ў замежжы рэпутацыю прыстойных людзей. Ім верылі, да іх ішлі.

Грач уласнаручна, не хаваючыся, пісаў: «Я — нацыяналіст-беларус».[3] Зялёнадубец, атаман Міхаіл Крук, які стараўся ўсіх былых паплечнікаў у ДПУ выставіць «панскімі паслугачамі», і той заўважыў, што Грач «не выносіць нічога польскага, марыць аб незалежнай Беларусі».[4]

Ксяневіч памыліўся ў сваіх разліках на саюзнікаў-аднадумцаў сярод беларускіх бальшавікоў. Яны ўжо самі стаялі ў чарзе на знішчэнне пасля такіх, як ён. Беларусізацыя была цынічнай, часовай, з дазволу Масквы гульнёй, пасткаю для апазіцыйных дзеячаў замежжа.

Цікава, што ўсе пяць гадоў да арышту Грач свядома змагаўся з бальшавізмам. Уладу саветаў на роднай зямлі лічыў выпадковай з'явай, варожай сялянскай сутнасці беларуса. Горача жадаў палепшыць жыццё простых людзей, таму партыя Адамовічаў прывабіла сваёю назваю — «селянская». «Мяне заўсёды цягнула к маему цёмнаму народу», — пісаў вязень ДПУ. Паказальна, што выйсце з цемры і заняпаду баявы атаман бачыў, у першую чаргу, не праз вайну. Лічыў, што школа і толькі школа на роднай мове выратуе нацыю.[5]

Менавіта патрыятычная пастава прывяла Ксяневіча спачатку ў Гусарскі полк генерала Булак-Балаховіча, а потым на бронецягнік «Балаховец», які фарміраваўся ў Лунінцы, і нарэшце ў «Зялёны Дуб».

Не проста зразумець погляды шэфа Галоўнага штаба партызанскіх аддзелаў. Ён шмат шукаў — і сэнс жыцця, і кропку апоры, і стрыжань духоўнасці. У гарадзенскай турме, дзе адседзеў пяць месяцаў, глыбока вывучаў Евангелле. У маі 1923-га прыняў хрышчэнне ад Лукаша Дзекуць-Малея, вядомага беларускага пастыра Евангельскай царквы хрысціян-баптыстаў,





які паходзіў, дарэчы, са Слонімшчыны і вучыўся ў родным горадзе Ксяневіча. Будучы духоўны настаўнік быў на шэсць год старэйшы за Уладзіміра, але хутчэй за ўсё знаёмства іх пачалося з дзяцінства.

Можна меркаваць, што супрацоўніцтва беларускіх патрыётаў наладзілася ў Гродна. Палымяны пастыр, ініцыятар перакладу Бібліі на родную мову гуртаваў каля сябе ўсё больш шукальнікаў праўды і паразумення з гэтым складаным светам. У 1923-м Дзекуць-Малей разгарнуў працу ў Бярэсці. Вернікі знайшлі памяшканне для сходаў — падвал пад адной з гасцініц (зараз гэта Савецкая, дом № 13) і заснавалі там культурніцкую арганізацыю, што цікава, пад назваю «Беларуская хатка».[6] Гэта дало магчымасць наладзіць першыя кантакты з жыхарамі горада.

Такое спалучэнне ідэйных плыняў зусім невыпадкова: абедзве прабіваліся ў не вельмі спрыяльных умовах, адчувалі нястачу грамадскай і дзяржаўнай падтрымкі. Толькі горача перакана्ны ў неабходнасці нацыянальнага і духоўнага адраджэння свайго народа такі дзеяч, як Дзекуць-Малей, мог паўплываць на істотныя змены ў свядомасці былога баевіка. «Стары Адамовіч, жартуючы пачаў называць мяне святым, — успамінаў дэталі недалёкага мінулага падследны. — Я кінуў паліць, выпіваць». Далейшыя духоўныя пошукі, жаданне служыць Богу і людзям прывялі Ксяневіча ў Варшаўскую біблейскую школу, дзе ён вучыўся, вёў гаспадарку і выкладаў арыфметыку адначасова. Большыня слухачоў школы была малапісьменнай. Захапленне было сур'ёзным. Нават у лісце да жонкі адчуваецца ўзнёсласць рэлігійнага настрою. Ксяневіч прымаў удзел у шэрагу з'ездаў баптыстаў. Якія абставіны спынілі яго на гэтым шляху духоўнага пошуку, невядома, але, як ён сам засведчыў, у баптызме задавальнення не знайшоў. У анкетах пра веравызнанне пісаў «евангеліст».[7]

Згодна з дадзенымі выведкі Заходняга фронту, у верасні 1921 года палкоўнік Грач кіраваў групоўкай партызанскіх аддзелаў вядомых на Міншчыне атаманаў: Махоўчанкі, Лешчанкі, Тышкевіча, Кучынскага, Янушкевіча, Багалевіча, паручнікаў Палянскага, Дземеша, капітана Будкарскага. Агентура інфармавала, што аддзелы добра ўзброены, маюць выбуховыя рэчывы (піраксілін), рыхтуюць тэрарыстычныя акцыі ў Рэчыцы. Асобна была звернута ўвага на бездакорнасць падрыхтоўкі і надзейнасць саставу, у асноўным афіцэрскага.[8]

Але Грач у большасці спецыялізаваўся на выведаперацыях.
Хадзіў на савецкі бок адзін ці на чале невялікіх узброеных груп
(да дзевяці чалавек). Звычайная экіпіроўка выведчыкаў — рэваль-
веры, ручныя гранаты. Браць вінтоўкі, як зброю буйных памераў,
ён не дазваляў. Галоўнай мэтаю такіх вылазак было высвятленне
сітуацыі ў раёнах плануемых баявых акцый, збор інфармацыі пра
настроі мясцовага люду.

Адначасова кіраўнік штаба інспектаваў зялёнадубскія часткі,
забяспечваў палявых камандзіраў адмысловымі Інструкцыямі
кіраўніцтва «ЗД» для партызанскіх аддзелаў. Вёска Морач была
звычайным і надзейным месцам пераходу.

Нярэдка Грачу прыходзілася выконваць місію перагаворшчыка
паміж лідарамі буйных узброеных груповак. Пасля яўнага па-
гаршэння адносін з палякамі, асабліва турэмных адседак атаман
Дзяргач шукаў шляхі ўзаемадзеяння з атаманам Разумовічам-
Хмарай. Перамовы ішлі пра сумесныя акцыі супроць польскіх
вайсковых частак. Грач павінен быў перадаць партызанам Хмары
бутэльку з цыяністым каліем і забраць некалькі адзінак зброі.
Аднак арышты партызан не дазволілі планам ажыццявіцца. Змо-
ву выкрыла польская палітычная паліцыя. Пачалося бадзян-
не па турмах Бярэсця, Варшавы, Беластока. У апошнім «пры-
тулку» Ксяневіч сядзеў з арыштаванымі партызанамі атамана
Чорта, саюзніка Хмары. Падчас допыту іх жорстка збівалі. На-
рэшце зялёнадубца перавялі ў Гарадзенскую турму. У камеры
суседнічаў з камуністамі са Слуцка братамі Карасікамі і братамі
Бараноўскімі. У Грача, такім чынам, быў выбар паміж Еван-
геллем і камуністычным маніфестам. Рэпрэсіі, безумоўна, не
садзейнічалі паляпшэнню адносін з польскімі ўладамі.

## «Пералёт»

Увосень 1924-га жыццё Ксяневіча змянілася кардыналь-
на. Ён добраахвотна перайшоў на савецкі бок. Яго пер-
шая крымінальная справа пачынаецца з паведамлення, што
ў ноч з 7 на 8 кастрычніка ў вёсцы Верамейкі на 2-ю заставу
12-га Заслаўскага пагранаддзела з'явіўся нейкі Паляшук Уладзімір
Францавіч. Пры ім было пасведчанне на імя Грача, начальніка
Галоўнага штаба партызанскіх аддзелаў «ЗД». Ён рашуча
патрабаваў забяспечыць сустрэчу са знакавымі фігурамі тагачас-





най савецкай палітыкі — старшынёй Цэнтральнага выканаўчага
камітэта таварышам Чарвяковым і народным камісарам асветы
таварышам Ігнатоўскім. Безумоўна, яго накіравалі ў адпаведныя
службы бяспекі. З названымі дзеячамі пабачыцца не давялося.
Мяркую, што кіраўнік Савецкай Беларусі застаўся ў невядомасці,
хто і чаму да яго прыходзіў. А наркама Ігнатоўскага запрасілі даць
тлумачэнні з нагоды такіх дзіўных заяў візіцёра.

У першай уласнаручнай заяве Грач паведаміў, што ён афіцэр
і сын кадравага афіцэра. Вучоба ў вайсковых вучэльнях, са шкада-
ваннем адзначыў ён, адарвала яго ад рэальнага жыцця, што і пры-
вяло да памылковага палітычнага выбару. Але апошнія падзеі, зме-
ны ў жыцці па абодва бакі мяжы прымусілі перагледзець стаўленне
да савецкай улады. Ад сябе асобна і ад імя арганізацыі «ЗД» ён
звяртаецца да яе прадстаўнікоў з прапановаю аб супрацоўніцтве.
Ён запэўнівае патэнцыйных савецкіх хаўруснікаў у наяўнасці да-
статковай сілы і жаданні «быць карыснымі свайму народу ... мы
гатовыя на ўсё: перайсці мяжу і працаваць у савецкай Беларусі,
працягваць работу ў Польшчы ...Партыя гатова падрыхтаваць
паўстанне».

Дастаткова аптымістычны рэзвы тон гэтага звароту дае пад-
ставу думаць, што кіраўнік Галоўнага штаба баевікоў спадзяваўся
на добры прыём і паразуменне. Ён паверыў у папярэднюю
дамоўленасць. Грач патлумачыў, што «не ведае, з якой нагоды
камуніст Ігнатоўскі прапанаваў ім перамовы, але яны разлічваюць
на агульную незадаволенасць сялянства, на папулярнасць атама-
на Дзяргача і дапамогу савецкага ўрада».

Аднак дэ жа вю. За два гады да аперацыі «Пералёт», 30 жніўня
1922 года на савецкі пагранпост завітаў атаман Крук з жонкаю
і дзіцем. Парушальнік дзяржаўнай мяжы запатрабаваў сустрэ-
чы са старшынёй ДПУ Беларусі Я. Ольскім, каторы яго быццам
чакае. Крук настойваў на тым, што яго пераход падрыхтаваны
зацікаўленымі службамі.

Яшчэ ў пачатку года неаднаразова заўважалі, як Крук уваходзіў
у савецкую місію ў Варшаве. Ён і не хаваў свае цесныя стасункі з гэ-
тай установаю. З сакрэтнай даведкі ДПУ па справе Крука вынікае,
што прапановы аб паслугах і супрацоўніцтве ў гэты час літаральна
сыпаліся ад кіраўнікоў «ЗД» адна за другою. Так, у сакавіку замеж-
ны аддзел ДПУ (выведка) атрымаў афіцыйны ліст на бланку Ся-
лянскай партыі за подпісамі старшыні Дзяргача і чальцоў штаба,

у тым ліку і Грача. Аўтары звароту ўказвалі на змены ў палітычнай арыентацыі сваёй арганізацыі і прапаноўвалі разам «змагацца супроць панскага іга ў беларускіх паветах на польскім баку». У адказ чэкісты запатрабавалі прыслаць прадстаўніка «ЗД» для канкрэтнай размовы і нават гарантавалі пасрэдніку недатыкальнасць. Баевікі маўчалі да лета. У ліпеньскім пасланні атаманы папрасілі ДПУ накіраваць свайго чалавека ў Вільню «для аказання матэрыяльнай і духоўнай дапамогі».

З дапамогаю не спяшаліся, на тым ліставанне спынілася. Аднак 28 жніўня ў Мінску атрымалі тэлеграму начальніка сакрэтнага аператыўнага ўпраўлення ДПУ, у якой паведамлялася, што «днямі прыбудзе прадстаўнік Партызанскай арганізацыі «ЗД» Крук з некалькімі атаманамі для перамоў на прадмет перанясення штаба «ЗД» у Савецкую Беларусь». З Масквы далі ўказанні «ніякіх пагадненняў з імі не заключаць, высветліць дзейнасць арганізацыі, колькасць людзей, пункты пераправаў праз мяжу». Цесныя сувязі «ЗД» з 2-м аддзелам ПГШ не былі сакрэтам і «шчырыя» прапановы партызан выклікалі насцярогу. Услед прыйшло данясенне з Варшавы аб намерах Крука з рэкамендацыямі «шырока яго выкарыстаць». Вялікай выгады ДПУ ў асобе перабежчыка не знайшло, хаця ён старанна выпісваў адмоўныя характарыстыкі паплечнікаў і асноўныя этапы свайго жыццёвага шляху. Расчараваны следчы адзначыў, што падследны пакінуў «ўражанне прахадзімца, авантурыста і чалавека без усялякай грамадскай каштоўнасці».[9]

Як высветлілася, біяграфію Крук меў проста феерычную. Рускі, нарадзіўся ў 1892 годзе ў Казані ў сям'і надворнага саветніка, скончыў лясны інстытут. Служыў у белых, чырвоных, польскай паліцыі, 2-м аддзеле ПГШ. Сапраўднае імя і прозвішча — Канстанцін Апалонавіч Ведзюкоў — не ведала нават жонка. Прэтэнцыёзна — Вадзім Халодны — падпісваў свае опусы ў газеце «Новое утро». Пад гэтым псеўданімам выступаў на тэатральных падмостках. Такую асобу ў «ЗД» прывёў Антоній Касінскі, постаць таксама вельмі цьмяная. Толькі прозвішчаў выкарыстоўваў не менш пяці. Як Іван Шуляк, выконваў пасрэдніцкую ролю паміж Махно і савецкай місіяй у Варшаве. Сцэнар быў падобны на зялёнадубскі. Махноўцы ў выпадку савецкай падтрымкі быццам абяцалі арганізацыю антыпольскага паўстання на Галічыне.





Безумоўна, партызанка мела патрэбу ў лідарах пэўнага псіхалагічнага складу і прыцягвала да сябе людзей з авантурнай жылкай. Атаманшчына была і сродкам самазахоўвання і варыянтам самаарганізацыі некаторых груп насельніцтва па абодва бакі мяжы. «Палявыя камандзіры» ў гэты час амаль цалкам згубілі матэрыяльныя стымулы падтрымліваць польскія ўлады і адчувалі сябе дастаткова самастойнай палітычнай сілай. Адсюль і спробы гандлю з рознымі, нават супрацьлеглымі палітычнымі бакамі.

Самым вялікім расчараваннем чэкістаў у Мінску ў справе з Круком было тое, што гэты прайдзісвет, як высветлілася, ніякіх паўнамоцтваў ад кіраўніцтва «ЗД» не меў. Грач, дарэчы, ведаў, што Крук расстраляны 5 траўня 1923 года разам з атаманам Самусевічам (прозвішча сапраўднае) у мінскай турме. Тым не менш гісторыя паўтарылася.

Савецкая контрвыведка, не забываючы аб цесным супрацоўніцтве зялёнадубцаў з 2-м аддзелам ПГШ, паспрабавала падтрымаць гульню. Праз некалькі дзён да Дзергача быў накіраваны кур'ер з лістом ад Грача. «У Мінску быў прыняты, перамовы вёў згодна з заданнем, а для канчатковых перагавораў просіць (Грач. — *Н.С.*) прыбыць самаго Дзергача, а ў выпадку, калі яму не выпадае, прыслаць надзейнага чалавека...» — апісваў у справаздачы апякун Грача ходу распачатай інтрыгі.

У доказ сур'ёзных намераў гульцы з Вільні павінны былі прадставіць дакументы аб сваіх сувязях з польскай выведкай аж з 1920 года. Чэкісты (гуляць дык гуляць) нахабна патрабавалі інфармацыю пра Булак-Балаховіча і працу віленскай экспазітуры. Як вынікае далей з узгаданага дакумента, кур'ер вярнуўся ў Мінск праз шэсць дзён без доказаў злачыннай дзейнасці «ЗД» і 2-га аддзела, але з лістом Дзергача. Пасланне пераклалі на расейскую мову і далучылі да справаздачы ў Маскву.

«Дарагой Грачок! — бадзёра вітаў Дзяргач свайго паплечніка, — ліст твой атрымаў, усё, што ты пішаш, добра». Кепска было тое, што кур'ер не перадаў газет. (Уся друкаваная прадукцыя у той час — звыш запатрабаваная крыніца інфармацыі, у тым ліку і для выведкі.) Атаман запэўніваў магчымых хаўруснікаў у сваёй адданасці «справе рабочага класа» і, галоўнае, закінуў інфармацыю пра пераход выведчыкаў ад паручніка Зацвіліхоўскага Седзічына і Сакалова. Ліст да дарагога Грачка завяршыўся заклікам «Няхай жыве незалежная Бацькаўшчына ад польскай няволі!».

Ахоўнікі шэфа штаба «ЗД» успрынялі атаманскае пасланне як працяг гульні. Што асабліва натхняла — у лісце былі названы рэальныя імёны агентаў, былых савінкаўцаў. Ад імя Грача была складзена новая папера. Маральная, а галоўнае, матэрыяльная падтрымка была абяцана пры ўмове, калі кур'еру перададуць дакументы з інфармацыяй пра: 1) супрацоўніцтва «ЗД» з «двуйкай»; 2) 2-гі аддзел, яго склад, арганізцыю і сувязі; 3) дзейнасць генерала Булак-Балаховіча па фарміраванню дыверсійных банд для налёта на савецкую тэрыторыю і час плануемых аперацый; 4) іншых, каму даручана яшчэ арганізацыя падобных частак; 5) агентаў «двуйкі», якія будуць займацца гэтай справаю; 6) адносіны паміж Беларускім пасольскім клубам, іншымі беларускімі арганізацыямі з польскай выведкай і паліцыяй; 7) магчымасці «уліц» сваіх людзей у дыверсійныя аддзелы. Для эфектыўнай сувязі Грач раіў падабраць двух надзейных людзей і карыстацца пераходам на ўчастку мяжы Койданава — Радашковічы. На памежным пасту трэба было прасіць сустрэчы з Грачом і паказваць пропуск Дзергача.

Яшчэ ў першым лісце быў пазначаны адрас Дзергача ў Вільні. На гэты раз, як высвятляецца, вельмі дасведчаны выведчык, Станіслаў (так звалі пасрэдніка), адчуваючы небяспеку, сам не зайшоў у кватэру. Сустрэўшы дзесяцігадовую дзяўчынку, ён даў ёй грошы на марожанае і, назваўшы патрэбны адрас, папрасіў занесці паперку дзядзьку Арнольду (так звалі гаспадара кватэры). На словах перадаць, што дядзька Стась зайшоў у краму і хутка прыйдзе сам. Схаваўшыся за дрэвам у супрацьлеглым ад крамы баку, кур'ер пабачыў, што разам з дзяўчынкай выбеглі маладыя людзі і кінуліся ў краму. У іх намерах памыліцца было немагчыма. Відавочна, аблава! Пачакаўшы тры дні на тайнай кватэры, пакуль паліцыя перастала шукаць савецага шпіёна, Стась выбраўся з Вільні. Гульня скончылася.

Упартыя працяглыя допыты Грача, намаганні кіраўнікоў ДПУ Беларусі Генкіна, Ольскага далі патрэбныя вынікі. Ксяневіч прызнаўся, што аперацыя рыхтавалася па ініцыятыве і пад наглядам «двуйкі», якая імкнулася здабыць доказы арганізацыі антыпольскай партызанкі ў БССР. Каб апеляваць да міжнародных арганізацый, неабходны былі пераканаўчыя козыры. Але, як сцвярджаў вязень, намеры кіраўніцтва «ЗД» і яго асбістыя матывы былі невядомы польскім спецслужбам.





Адбылося выгаднае супадзенне інтарэсаў. Беларускі бок прагнуў таго ж самага — дакументальных сведчанняў парушення Польшчай Рыжскай дамовы. Для выкрывання планаў няшчырай суседкі Грач быў проста падарункам. Аперацыя «Пералёт», такім чынам, завершылася. У выніку закручастых інтрыг ахвярнай авечкай застаўся Уладзімір Ксяневіч, «пешка», як ён сам прызнаў, у гэтай гульні.

## Пастка

Як вынікае з аператыўных матэрыялаў на савецкім баку Грача чакалі. У той кастрычніцкі дзень памежнік Заслаўскай заставы Гарынцаў, назіраючы з вышкі за хутарамі за мяжою, заўважыў сігнал закардоннага агента Станіслава (па ўсім, у далейшым той самы кур'ер, што трымаў сувязь паміж асабістамі і Дзергачом). Узабраўшыся на дах дамка, ён рабіў выгляд, што чысціць комін.

Калі жэрдка з мятлою ў сажы была павернута ў бок Верамеек, а Станіслаў, скончыўшы працу, двойчы праводзіў праваю рукою па лбе, быццам выціраючы пот, і чухаў за вухам, гэта азначала, што мяркуецца пераход лазутчыка. Начальнік заставы, атрымўшы даклад пільнага памежніка, заспяшаўся на сустрэчу з рэзідэнтам. Перамовы са Станіславам мелі рэгулярны характар.

У ноч з 7-га на 8-е адпаведна былі размеркаваны дазоры, і Грач ледзь не наступіў на ляжачага пад кустом Кузьму Гарынцава, прабіраючыся праз мяжу.[10] Але перабежчык быў упэўнены, што ніхто яго не заўважыў. Для лепшага ўяўлення абставін пераходу неабходна ўзгадаць, што Грач перад рашучым крокам спыніўся ў мясцовага паліцыянта, а яго брат, супрацоўнік «двуйкі», дапамог зялёнадубцу дастацца на той бок. Магчыма, яго звалі Станіслаў. Па адной простай прычыне — на польскім баку было толькі два дамы.

Зараз і спецслужбы прагнуць вядомасці і народнай увагі. Пра сваё слаўнае мінулае пішуць ахвотна, раскрываюць сакрэтныя архівы, нават знешняй выведкі. Спалучыўшы рознага кшталту крыніцы, размеркаваўшы выяўленыя факты ў адпаведным часе і належнай прасторы, можна ўдала насяліць іх рэальнымі персанажамі, негледзячы на тое, што прафесія герояў патрабавала тайны. Узрастаючая дыстанцыя часу таксама паспрыяла іх адкрыццю. 100-гадовым чэкістам дазволілі ўспомніць мінулае. Іх

гісторыі часцяком адбываліся на беларускіх землях з удзелам нашых герояў.

У выніку старанных пошукаў знайшлося прозвішча неаднаразова ўзгаданага Станіслава. Польскі камуніст Станіслаў Мартынавіч (пэўна, сын Мартына) Глінскі, пачуханае вуха якога мела шмат для каго літаральна сакральны сэнс, з верасня 1920-га працаваў агентам Асобага аддзела 16-й арміі. Як вядома, на Заходнім фронце 16-я армія спецыялізавалася на рэпрэсіях супроць мясцовай узброенай апазіцыі. Асобы аддзел займаўся барацьбой з контррэвалюцыяй і шпіянажам, арганізоўваў агентурныя сеткі ў замежжы.

Паходжаннем з сям'і рабочага-чыгуначніка Варшавы, равеснік Ксяневіча, ён бездакорна выдаваў сябе за тутэйшага, нягледзячы на тое што спачатку бальшавіцкае падполле, а потым служба ў ЧК (Усерасійскай надзвычайнай камісіі) прымусіла да частых зменаў месца жыхарства: Іркуцк, Рыга, Сібірская магістраль, Урал і зноў захад — Мінск. (Амаль шлях Грача, толькі ў адваротным парадку.) Роля гэтага чалавека ў гісторыі зялёнадубцаў не выклікала больш пытанняў пасля знаёмства са спісам яго прафесійных дасягненняў. 29 жніўня 1921 года С. Глінскі быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга за № 49.[11] Улетку гэтага года была знішчана мінская арганізацыя «ЗД» і іх саюзнікі — савінкаўцы падчас падрыхтоўкі буйнамаштабнага антысавецкага паўстання ў Мінску, не ў апошнюю чаргу дзякуючы агентурнай дзейнасці будучага ардэнаносца. Ён сустракаўся напярэдадні ў ваколіцах Слуцка з прадстаўніком генерала Булак-Балаховіча і абмяркоўваў з ім планы арганізацыі паўстання і захопу Мінска.

Ахвярамі бліскучай шпіёнскай працы сталі каля паўсотні чалавек, асуджаных за тэрарызм і антысавецкую дзейнасць. У пастку, падрыхтаваную Глінскім, патрапілі і дзве дзяўчыны, паводле водгука паплечнікаў, выдатныя выведчыцы «ЗД» — Ганна Доўгерт і Ганна Бруевіч.[12] Безаглядны давер да яго прывёў да непапраўнай трагедыі. Яны прымалі яго за свайго, ведалі, як чалавека Барыса Савінкава, а не як начальніка Асобага аддзялення пры Беларускай ЧК, кім ён быў на самай справе.

Беларусь была тэрыторыяй, дзе розныя сілы актыўна гулялі ў аперацыю «Трэст». Гэта знакамітая містыфікацыя была прыдумана былым шэфам Асобага корпуса жандараў Уладзімірам Джункоўскім. Старшыня ВЧК Ф. Э. Дзяржынскі пераканаў яго





стаць кансультантам яго службы. Джункоўскі разам з начальнікам КРА Артузавым і распрацавалі аперацыі «Сіндыкат-2», «Трэст». Былы жандар патлумачыў чэкістам, што не варта бегаць за тэрарыстамі і контррэвалюцыянерамі-адзіночкамі. Неабходна ствараць арганізацыі-легенды з вядомых эміграцыі дзеячаў. Так нарадзіліся «Манархічная арганізацыя Цэнтральнай Расіі» (МОЦР), г. зв. «Ліберальныя дэмакраты» (ЛД), арганізацыі-заманухі, якія настойліва шукалі кантакты з антысавецкімі цэнтрамі замежжа. Аператыўная гульня доўжылася шэсць гадоў. Джункоўскі і Артузаў знаходзілі ўсё новых акцёраў.

Выдаваючы сябе за чальца легендзіраванай падпольнай арганізацыі «Ліберальныя дэмакраты», Глінскі інспектаваў аддзелы баевікоў. Даверaная асоба Савінкава, свой сярод зялёнадубцаў, ён адыграў злавесную ролю пасобніка іх правалу. С. Глінскі, адзін з актыўных выканаўцаў аперацыі «Сіндыкат-2», персанальна адказваў за пераход Барыса Савінкава і яго паплечнікаў на давераным яму ўчастку граніцы. З мэтай дасягнення паспяховага фіналу гульні са знакамітым тэрарыстам 16 чэрвеня 1922 года Глінскі быў прызначаны начальнікам Заслаўскага памежнага Асобага аддзялення. Ён забяспэчваў «калідор» для перадачы каштоўнага здабытку чэкістаў у Мінск.[13] Стась і Грачу «дапамог» пераадолець мяжу, якая, так сталася, перасекла жыццё Ксяневіча на дзве няроўныя і калі разабрацца, супрацьлеглыя часткі. Пад якім прозвішчам Грач ведаў Станіслава, застаецца таямніцай, але, безумоўна, яны былі добра знаёмыя.

Па нейкіх прычынах зялёнадубец падчас першага арышту ўтаіў, што меў яшчэ адну яўку ў Мінску, якую атрымаў ад Р. Астроўскага, — да П. Д. Мядзведзя, старшыні ДПУ Беларусі. Прызнанне Грача, зробленае ў 1938-м, ужо ніякім чынам не паўплывала на лёс чэкіста. Ён быў расстраляны ў лістападзе 1937 года. Піліп Дзям'янавіч Мядзведзь у аперацыі «Сіндзікат-2» прымаў самы непасрэдны ўдзел, можна сказаць, быў адной з ключавых фігур надзвычайнага фарсу. Мяркуючы па ўсім, Грач туга залез у павуцінне «Трэста». Кіраўніцтва «ЗД» само часцяком удала блефавала, складала сцэнары развіцця падзей на сваю карысць. Але ў выпадку з Ксяневічам шмат людзей, свядома ці не — пытанне зараз цяжка вырашальнае, удзельнічалі ў падрыхтаваных чэкісцкімі канструктарамі падзеях. Угаворвалі, падштурхоўвалі,

ствaралі праўдападобную легенду, накіроўвалі і суправаджалі... у пастку.

Лёс Савінкава, тлумачыў Грач чыцінскаму следчаму, падаў надзею на лепшае вырашенне яго жыццёвай калізіі. Як вядома, зорка рускага тэрору, хаўруснік зялёнадубцаў і знаёмец Уладзіміра Францавіча быў арыштаваны ў жніўні 1924 года. Савецкі справядлівы суд прадэманстраваў велікадушнасць, смяротная мера пакарання была зменена на дзесяцігадовы турэмны тэрмін. Пакаянныя прамовы Савінкава мелі каласальны рэзананс. Не ўсе яго паплечнікі верылі ў рэальнасць таго, што адбывалася. Аднак удар быў звышадчувальным.

> *«С белорусских окраин Польши сообщается, — адзначала адно з галоўных выданняў савецкай Беларусі «Звезда», — что среди сторонников Савинкова господствует полная растерянность. Можно предполагать, — смакавала перамогу газета, — что часть их пойдет по его следам и переменит свое отношение к советской власти».*[14]

Гульня працягвалася. Памілаванне фігуры такога маштабу было выдатным палітычным крокам. Адтэрміноўка пакарання спарадзіла ў часткі стомленых, расчараваных баевікоў хісткія надзеі на паразуменне з бальшавікамі. Грач, які паўтарыў шлях Савінкава літаральна па свежых слядах, ужо праз сем тыдняў, мог трапіць у палон такіх ілюзій.

Увогуле, меркаванняў з нагоды пераходу Грача на савецкі бок шмат. Прычыны падаюцца рознымі: са сфер вялікай палітыкі, геапалітыкі, міжнародных зносін і асабістых праблем, душэўных хістанняў. Ціск палітычных фактараў на яго лёс каласальны. А знаходжанне сям'і на савецкай тэрыторыі рабіла яго закладнікам вымушаных небяспечных крокаў. Дэзарыэнтуючы дзейнасць палітычнага праціўніка, савецкія спецслужбы адначасова намагаліся пераканаць антысавецкія «элементы» ў адсутнасці перспектыў барацьбы і ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы Савецкай дзяржавы. Паспяхова ажыццяўлялі перавярбоўку агентаў, карыстаючыся негатыўным уплывам на людзей розных фактараў. Непрыкаяннасць беспрацоўных і незапатрабаваных ваенных прафесіяналаў, палітычны ціск гаспадароў, што далі прытулак, а самае галоўнае — страта радзімы, сям'і — рабілі з іх лёгкую здабычу для спрактыкаваных паляўнічых. Ў сутыкненні чэсных і прыстойных людзей з мутнымі постмадэрнавымі правакатарамі





(што называецца нічога святога) першыя заўсёды застаюцца ў дурнях.

Прыхільнікі беларускага суверэнітэту патрапілі ў вельмі незайдросную сітуацыю падвоенага ціску. Пасля заключэння Рыжскай дамовы дзейнасць антысавецкай узброенай апазіцыі знаходзілася пад пільнай увагай савецкай і польскай уладаў. Для абодвух бакоў прыхільнікі незалежнасці, беларускай дзяржаўнасці былі прыкраю перашкодай імперскіх планаў. Яшчэ ўвосень 1921 года амаль усе лідары беларускай партызанкі на тэрыторыі Заходняй Беларусі былі арыштаваны і размеркаваны па польскіх турмах і лагерах, дзе знаходзіліся даволі працяглы час. На думку польскіх палітыкаў факт наяўнасці ваенных баз і шырокай баявой дзейнасці, якая практычна не магла быць закансціравана цалкам, пагражала канфліктам з Савецкай Расіяй.

Мяркуючы па ўсім, толькі распачатая саветамі партызанская вайна на акупаваных беларускіх тэрыторыях прадухіліла канчатковую расправу з антысавецкімі арганізацыямі. Пагромныя рэйды аддзелаў Мухі-Міхальскага (К. Арлоўскага), Смольскага (С. Ваўпшасава), Цвяткова (А. Рабцэвіча) і іншых кіраўнікоў антыпольскіх аддзелаў пасадзейнічалі вяртанню генерала Булак-Балаховіча да справы. Рэшткі зялёнадубцаў спатрэбіліся для фарміравання г. зв. супрацьпартызанскіх аддзелаў, мэтай якіх было знішчэнне партызанскіх груп, якія мелі базы на савецкай тэрыторыі Беларусі. Атаманы Дзяргач, Гаварухін, Караткевіч, Вішнеўскі (Хвядашчэня) і іншыя працягвалі змаганне супроць добра ўзброеных дыверсійных савецкіх аддзелаў.[15] З абодвух бакоў згодна з чужымі палітычнымі планамі беларускія партызаны уцягваліся ў грамадзянскую вайну.

Відавочным было глыбокае расчараванне беларускх арганізацый вынікамі партнёрства з польскімі палітыкамі і вайскоўцамі. Натуральна, што позіркі пакрыджаных накіроўваліся ў бок другіх магчымых хаўруснікаў: Нямеччыны, Ковенскай Літвы і нават саветаў. Абсалютна магчымай паўставала перспектыва выкарыстання імі беларускага пытання ў сваіх інтарэсах. Беларускія левыя палітыкі ўсё больш упэўнена заяўлялі, што «па той бок граніцы савецкі ўрад будуе новы дом для беларускага народа».[16] Савецкі Мінск не шкадаваў грошай на падтрымку лаяльных да камуністычнай улады палітычных партый і сродкаў масавай

інфармацыі ў Заходняй Беларусі. Яны сеялі ілюзіі беларускага адраджэння на савецкім усходзе.

Асяродкам выхавання левых перакананняў, радыкальных «чырвоных» поглядаў стала Віленская беларуская гімназія на чале з дырэктарам Радаславам Астроўскім. Не было вялікім сакрэтам, што гэта навучальная ўстанова атрымлівала грашовую дапамогу з Мінска.[17] Менавіта Астроўскі выступіў гарантам бяспекі Грача пры падрыхтоўцы і ажыццяўленні аперацыі «Пералёт». Дзяргач тлумачыў выведчыку, што дзеячы ў сталіцы Савецкай Беларусі і Астроўскі з сябрамі ў Вільне — адна «кампанія» («Трэст»?). Падчас асабістай сустрэчы напярэдадні адпраўкі на кардон ён даў Грачу адрасы кантактных асоб, параіў зялёнадубцу, як лепш дабрацца да Мінска, удакладніў маршрут.

Халодным душам для Грача сталі сцвярджэнне Ўсевалада Ігнатоўскага, што яго «справа пахне нейкай правакацыяй». Але потым наркам згадаў пра шчыльныя адносіны Астроўскага з віленскімі камуністамі і палічыў, што менавіта яны маглі накіраваць пасланца «ЗД» да нацыянал-камуністаў.

## Судовыя справы

У паўгалодным Мінску быў велізарны попыт на рознага кшталту відовішчы. Недахоп хлеба ўлады кампенсавалі велізарнай колькасцю палітычных шоу. Маштабаў 1937 года яшчэ не дасягнулі, але «кіно» пра шпіёнаў мінскія абываецелі маглі глядзець штотыдзень. Газета «Звезда» 25 чэрвеня 1925 года ў раздзеле «Сегодня в театре» і «Зрелища» сярод аб'яў пра запланаваныя пастаноўкі «Мессаліны» і «Балаганчыка» дала анонс «Суд. Дело польского шпиона Грача». Прагная да вострых эмоцый публіка а 6-й гадзіне вечара наступнага дня спяшалася запоўніць залу гарадскога Дома культуры. Ролю суддзі на гэтым спектаклі выконваў вельмі спрактыкаваны ў выкрыцці бандытаў тав. Пастрэйтар, дзяржаўны абвінаваўца — Канаплін, грамадскі — Панскі. Абаронцам быў прызначаны адвакат Крэйнес (ніхто, безумоўна, не хацеў па добрай воле выконваць гэту функцыю).

СМІ адзначылі, што падсудны «з інтэлігентным тварам, хітрымі вачыма, жвавы», распавядаў пра сябе і сваю арганізацыю даволі ахвотна, нават з азартам, як круціў стужку кіно перад цікаўнымі гледачамі, задаволенымі яго ўніжэннем. Яму не паверылі, калі ён





гаварыў пра сваю адданасць Бацькаўшчыне. «Ніякі ён не беларус, гаворыць з польскім акцэнтам», — вынеслі вердыкт прысутныя.[18] Яго разважанні пра нацыянальныя прыярытэты былі мала зразумелымі для новых савецкіх беларусаў.

Паўтарагадзінная прамова грамадскага абвінаваўцы Панскага скончылася высноваю, што «мы ў сучасны момант наўрад ці можам дазволіць сабе раскошу аднесціся паблажліва да Грача, калі ўжо новыя Грачы ліхаманкава рыхтуюцца да новых злачынстваў». Позна ноччу суддзя зачытаў прысуд да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу. Ксяневіч-Грач «прызнаваўся віноўным у арганізацыі ў контррэвалюцыйных мэтах узброеных паўстанняў для адарвання часткі Савецкай Беларусі, ў арганізацыі і ўдзеле ў шпіянажы».[19]



З В Е З Д А

роисшествия.

ие карманных воров.

участившимися в по... в Минске карманными ...озыском после принятых ...ан ряд воров, приехав...а гастроли—Милейков... к и другие.

рытые кражи.

...ому назад по Вокзальной ...сдании Серековой бы...а кража разных домаш...а крупную сумму де... раскрыта. Задержаны ...очкин и Жиглинский ...ащены потерпевшей.

**Суд.**

**Дело польск. шпиона Грача.**

26-го с. м. в Доме Культуры в 6 часов вечера начнется слушанием дело полковника Грача начальника штаба «Зеленого дуба».

**Сегодня в театрах.**

**Гостеатр.** 2-я гастроль ансамбля артистов б. Александринского театра—„Анна Кристи“.

**Красный зал.** Последний спектакль Ленинградского театра „Балаганчик“ — отборные номера всех программ.

Богушевского района, Богушевская ячейка.

Синицын Иван Артемович, крестьянин, работает на своем хозяйстве в дер. Малашки, Богушевского района, Богушевская ячейка.

Шнеерова Ханя Гиршевна, работница-чулочница, член ЛКСМБ с 1921 г., студентка Оршанского рабфака, ячейка рабфака.

Розман Хаим Абрамович, рабочий-сапожник, член ЛКСМБ с 1922 г., студент Оршанского рабфака, ячейка рабфака.

Шишков Василий Михайлович, рабочий-слесарь, член ЛКСМБ с 1924 г., студент Оршанского рабфака, ячейка рабфака.

Ковьков Марк Мартынович, крестьянин, работает на своем хозяйстве в м-ко Дубровно, Дубровенская ячейка.

Ровняк Самуил Моисеевич, рабочий-каменщик, красноармеец Н-го полка, бюро коллектива полка.

Рябков Сергей Александрович, крестьянин, красноармеец Н-го пол-

**...себелорусский шахматно-шашечный с'езд.**

...начались шахматные со... ский закончилась в ничью. Партия

*Аб'ява ў газеце «Звезда» напярэдадні суда*

«Звезда» 2 ліпеня паведаміла аб адтэрміноўцы прысуду Грачу, асуджанаму па 1-й частцы 56-га і 1-й частцы 66-га атыкулаў Крымінальнага кодэкса. Ксяневіч паўтарыў хадайніцтва аб памілаванні перад Цэнтральным выканаўчым камітэтам. Просьба

была напісана на імя А. Чарвякова. Грач шкадаваў, што стаў ахвяраю авантуры и раніцаю 28 ліпеня напісаў:

*«Я хотел бы свои знания, энергию и труд посвятить белорусскому народу и хоть немного загладить свою вину перед ним... мой приход был без злого умысла... Не такой я большой преступник и не провокатор».*

Наколькі шчыры быў Уладзімір Францавіч у сваіх пакутах? Хутчэй за ўсе страх перад смерцю кіраваў паводзінамі маладога мужчыны. Намеснік старшыні ЦВК Хацкевіч прыпыніў выкананне прыгавору Вярхоўнага Суда. Выпіска з пратакола № 5 ад 3 лютага 1927 года пасяджэння прэзідыума ЦВК БССР сведчыць пра тое, што хадайніцтва Грача аб памілаванні было задаволена. Цікава, што рашэнне прымалася больш чым паўтары гады. Вясною гэтага ж года Ксяневіч пакінуў мінскую турму. Было гэта вызваленнем ці падменай адной формы несвабоды на іншую — пытанне рытарычнае. Следчым Балея Грач прызнаўся, што жыццё, можна сказаць, падараваў яму І. К. Апанскі. Менавіта ён хадайнічаў перад уладамі аб памілаванні. Па усім вынікае, што намеснік старшыні ДПУ, адзін з асноўных трэстаўскіх гульцоў у Беларусі, спачатку прыклаў шмат намаганняў, каб выманіць Грача на савецкі бок. Іх супрацоўніцтва не мела працягу. У чэрвені 1927 года Апанскі загінуў пры невысветленых абставінах.[20]

Спрабуючы яшчэ раз у 1939 годзе пазбегнуь смерці, Ксяневіч праінфармаваў сібірскіх следчых аб сваіх паслугах беларускаму ДПУ і НКУС Благавешчанска. Нават прасіў падчас следства выклікаць супрацоўнікаў з гэтага горада, якія б пацвердзілі, што ён «састаяў на рабоце ў выведорганах і сваё мінулае намагаўся загладзіць». Паведаміў Грач і пра тое, што яму прапаноўвалі «работу» рэзідэнта за мяжой.

Выклікаць сведкаў не сталі: ці то іх ужо паспелі знішчыць, ці то энкавэдыстам былі нецікавы мінулыя заслугі падследнага. У даступных матэрыялах 20-х гадоў ёсць згадкі пра «дапамогу» Грача чэкістам. У Балеі ён сцвярджаў, што перадаваў беларускім спецслужбам інфармацыю аб плануемых налётах і адказных за акцыі персонах.

Папулярнымі сюжэтамі ў тагачасных савецкіх СМІ былі паву- чальныя гісторыі пра выкрыццё і раскаянне «бандытаў» і шпіёнаў. Як мінімум у дзвюох фігурыраваў былы кіраўнік штаба «ЗД». На-





прыканцы лютага 1925 года газеты шмат увагі і плошчы аддалі судовай справе над удзельнікамі ўзброенага нападу на мястэчка Койданава. Гэта тэрарыстычная акцыя супала ў часе з першай спробай Грача перайсці мяжу 2 кастрычніка. Менавіта з-за перастрэлкі на заставе ён вымушаны быў адкласці пераход на тыдзень.

Беларусь у тыя гады ператварылася ў палігон для высвятлення адносін паміж Рыжскімі дагаворшчыкамі. У Расіі жорстка і безаглядна ўсталёўваўся новы палітычны рэжым. Высілкі савецкай улады па знішчэнні палітычнай апазіцыі ўнутры краіны разам з патрабаваннямі да Польшчы раззбраення «незаконных вайсковых фарміраванняў» на падставе Рыжскай дамовы прывялі фактычна да адкрыцця новага фронту. У гэтую «малую вайну», большая частка якой разгарнулася на тэрыторыі Беларусі, было ўцягнута безліч народу, згуртаванага ў арганізацыі і паасобку.

27 лютага 1925 года ўлады арганізавалі буйнамаштабны паказальны працэс па выкрыванні правакацыйнай ролі 2-га аддзела Польскага генштаба. Жыхароў Рубяжэвіч Івана Гайдука і Яна Тарноўскага абвінавачвалі ў тым, што яны ў складзе ўзброенай групы, арганізаванай ПГШ, пад кіраўніцтвам польскага паручніка ў ноч на 2 кастрычніка 1924 года ў раёне хутара Сулы ўварваліся на тэрыторыю Беларусі.

З прамовы дзяржаўнага абвінаваўцы вынікала, што тэрарыстычная акцыя мела на мэце напад на Койданава, знішчэнне 13-га савецкага пагранаддзела, захоп дакументаў і вызваленне арыштаваных.

Для надання працэсу належнай помпы і палітычнага гучання з Масквы прыехаў пракурор Вышэйшага Суда РСФСР тав. Вышынскі. Яго зорка знішчальніка апанентаў толькі-толькі пачынала ўзыходзіць. Мясцовыя служыцелі Феміды паклапаціліся пра як мага больш шырокае асвятленне працэсу ў прэсе. У зале Вышэйшага Суда не ўмясціліся ўсе жадаючыя. У Крамлі сур'ёзна разлічвалі на міжнародны розгалас. Судзіў маладых хлапцоў, якім не пашчасціла пазбегнуць арышту і ўцячы за мяжу, Пастрэйтар. Грач упершыню ўдзельнічаў у савецкім працэсе дасягнення ісціны, ён выступаў у якасці сведкі.

Аддзел колькасцю 13 чалавек ішоў як на бой, — сурова паведаміў суду абвінаваўца, — трымаючы ў руках зброю і гранаты. Каля маёнтка Старынкі аддзел быў затрыманы савецкім

пагранпастом. Гадзіну доўжылася перастрэлка. У выніку Гайдук і Тарноўскі былі арыштаваны, астатнія разбегліся. Усіх, чырвонаармейцаў і баевікоў, уразіла гібель кіраўніка дыверсійнай групы Яна Камінскага. Ранены ў нагу паручнік паклаў сабе ў рот нейкія дакументы і паспрабаваў іх праглынуць, а потым выстралам у вісок падвёў рысу жыцця.

Нават Вышынскі адзначыў высакародны пастунак польскага афіцэра, адданасць яго прысязе і службоваму абавязку. «...Рашучы чалавек з пачуццём гонару», — не пашкадаваў ён добрых слоў у адрас ворага. Паперкі з рота дасталі і прадэманстравалі іх прысутным. Аб змесце такіх дарагіх дакументальных сведчанняў публіку не праінфарміравалі. Высокі маскоўскі госць паведаміў, што Ян Камінскі ў 1922 годзе (у той момант Грыльберг) ужо меў прысуд да расстрэлу ў савецкай Беларусі за шпіянаж, але потым у выніку палітычнага гандлю і абмену быў высланы ў Польшчу. Вышынскі меў задавальненне, цытуючы паказанні Камінскага з крымінальнай справы. Паручнік даваў пакаянныя прызнанні і не шкадаваў чорнай фарбы для характарыстыкі дзейнасці «двуйкі».

Абвінаваўца спаслаўся і на паказанні Ксяневіча-Грача. Апошні ў патрэбны момант распавёў у судзе пра сумесную аператыўную працу з Камінскім падчас знаходжання штаба «ЗД» у Маладзечне ў 1921 годзе, калі арганізацыя рыхтавалася да агульнага ўзброенага паўстання ў Беларусі. Грач знаў Яна пад прозвішчам Прухняк.[21]

Публіка нервова рэагавала на «ўспаміны» зялёнадубца пра напад на цягнік Баранавічы — Мінск, у якім ехала бальшавіцкая дэлегацыя. Польскай выведцы спатрэбіліся сапраўдныя дакументы. «Дарогі бандытызму прыводзяць да 2-га аддзела ПГШ», — падсумаваў пракурор пасля пераліку фактаў злачыннай дзейнасці «двуйкі». Спасылаючыся на паказанні Савінкава і Грача, Вышынскі з натхненнем дэманстраваў доказы ўдзелу польскай выведкі ў падрыхтоўцы нападу на Койданава. Нарэшце абагульніў: «Койданаўская справа закранула інтарэсы ўсяго СССР». Тут прысутныя зразумелі, што галоўны падсудны — Польскі Генеральны штаб і судовая пастаноўка мае на мэце абвінаваціць польскі бок у парушэннях Рыжскага пагаднення. Факты ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы Краіны Саветаў збіраліся для прад'яўлення ў міжнародныя арганізацыі. «Койданаўская іскра не запаліла вялікі пажар, — радаваўся дзяржаўны абвінаваўца, — ніякіх наступстваў для беларускіх сялян». А калі б савецкі аддзел даў сябе ўцягнуць





на польскую тэрыторыю? — імправізаваў Вышынскі. «О! — зала ўздрыгнула ад тэатральнага вокліча пракурора, — згарэлі б добрасуседскія адносіны, якія рашуча, упарта, настойліва будуем мы і ў некаторым сэнсе — польскі ўрад».

Віна за кепскія адносіны паміж дзяржаўнымі суседкамі была ўскладзена на Польскі генштаб. «Афіцыйныя ўлады тут ні пры чым, страляў сам ПГШ, — падкрэсліваў ён дуалізм палітыкі польскіх кіраўнікоў у адносінах да СССР.[22] Паказанні Грача спатрэбіліся для падмацавання гэтай палітычнай версіі Крамля.

Пастановачныя працэсы ў Мінску працягваліся. Суды праходзілі па знаёмаму сцэнару, з тым жа складам выканаўцаў. У газетах нават з'явілася рубрыка «Наёмнікі пана Карчэўскага» (польскі консул). Улады настойліва распальвалі шпіёнскія жарсці вакол польскай дыпламатычнай службы. Амаль на кожным працэсе ўзгадвалася імя Уладзіміра Ксяневіча ў звязку з правакацыйнай злавеснай роллю польскіх спецслужбаў.

У пошуках ціхага месца, як мага далей ад «польскіх шпіёнаў» і іх лоўчых, Грач апынуўся на Далёкім Усходзе. Як ён сам тлумачыў, «вядомасць» яго ў Беларусі перашкаджала наладзіць нармальнае жыццё. Раз-пораз сустракаўся з былымі паплечнікамі. У Мінску ў 1927 годзе сутыкнуўся з зялёнадубцам Антоніем Касінскім, які на той момант уладкаваўся на працу ў замежны аддзел дзяржаўнай бібліятэкі. У Мазыры заўважыў былога шафёра генерала Булак-Балаховіча.

Ці то настальгія не дала спакою быламу атаману, ці то прадчуванне блізкага канца, але ў 1937 годзе ён з Чыцінскай вобласці на кароткі час вярнуўся ў Мінск і завітаў у Слуцк. «Збіраўся знайсці былых удзельнікаў Слуцкай брыгады, інтэрнаванай палякамі, арганізаваць паўстанцкі аддзел», — запісаў следчы тлумачэнні Грача. Ад сваіх гераічных намераў на судзе падследны адмовіўся, спаслаўшыся на жорсткае абыходжанне падчас следства, здзекі і рэгулярныя пабоі.

Ксяневіч быў арыштаваны ў студзені 1938 года за шпіянаж. Першыя допыты пачаліся ў чэрвені. Па ўсім, балейскія службы чакалі матэрыялы з Беларусі. Галоўным момантам абвінавачання па-ранейшаму засталася яго зялёнадубская частка жыцця. 16 красавіка 1939 года ваенным трыбуналам Забайкальскай ваеннай акругі Ксяневічу Уладзіміру Францавічу быў вынесены смяротны прысуд з канфіскацыяй маёмасці.

Касацыйныя скаргі не далі станоўчага выніку. 1 ліпеня адмоўны адказ на просьбу аб памілаванні прыйшоў з прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. 4 ліпеня 1939 года прыгавор быў выкананы. У чыцінскіх курапатах, месцах масавых пахаванняў рэпрэсіраваных, застаўся атаман Грач. 29 жніўня 1991 года рэабілітаваны. Атаман Грач — герой з гістарычнай цені. Такія, як ён, выйшлі на паверхню з небыцця, калі грамадства прыйшло да высновы, што перамога, якая больш за 70 гадоў не падлягала сумневу, зусім не відавочная. Сістэма трэснула, і маладыя парасткі нацыяналізму засведчылі марнасць усіх папярэдніх намаганняў імперцаў.

Грач — не міт. Яго жыццяпіс склаўся не парадны. Ён быў з заўтрашняга дня, які для яго не наступіў. Праект пабудовы нацыянальнага дома быў адкладзены.

### Крыніцы, заўвагі

1. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа Ул. Гаркавенкі.*
2. *Звезда. 1925. 27 чэрвеня.*
3. *Архіў КДБ, крымінальная справа Ул. Ксяневіча.*
4. *Тамсама, крымінальная справа. М. Крука.*
5. *Тамсама, крымінальная справа Ул. Ксяневіча.*
6. *Степан Пекун. Лука Николаевич Дзекуць-Малей: Жизнь и служение. Роля асобы ў жыцці і дзейнасці хрысціянскіх цэркваў Беларусі ў XX стагоддзі. Зборнік артыкулаў па выніках цыкла семінараў у Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры з удзелам Беларускай Праваслаўнай Царквы, Каталіцкага Касцёла і Саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў. Мн., 2000. С. 123.*
7. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа Ул. Ксяневіча.*
8. *ДАРФ. Ф. 6990. воп. 1, спр. 2, арк. 267.*
9. *Архіў КДБ. Крымінальная справа М. Крука.*
10. *І. Барысаў. Крах «Зялёнага Дуба» // Звязда. 1991. 15 сакавіка.*
11. *www. whoiswho. ru/Russian/Password/journals/1198/…*
12. *Архіў КДБ РБ, крымінальная справа «Народнага саюза абароны радзімы і свабоды» і «Зялёнага Дуба». 1921 г.*
13. *Звезда. 1924. 5 верасня.*
14. *Архіў КДБ РБ, агентурныя дадзеныя. 1924 г.*
15. *За Свободу. 1924. 11 августа.*
16. *З успамінаў Соф'і Апанасаўны Грыц, навучэнкі Беларускай віленскай гімназіі ў 20-я гады мінулага стагоддзя. Запісаны ў 1998 годзе аўтарам, калі сведке было 94 гады.*





17. *Звезда. 1925. 27 июня.*
18. *Звезда. 1925. 29 июня.*
19. *М. Токарев. Как погиб один из организаторов операции «Трест» (о судьбе заместителя председателя ГПУ Беларуси И. К. Опанского. (1897—1927 // Советская Белоруссия. 1997. 26 июня.*
20. *Звезда. 1925. 28 февраля.*
21. *Тамсама.*
22. *Тамсама.*

## 8. Мінская арганізацыя «Зялёны Дуб» і Ганна Доўгерт

У лютым 1995 года пры агульнай распрацоўцы Цэнтральнага архіва ВЧК—ОГПУ—НКВД была знойдзена справа «шпіёнскай і тэрарыстычнай арганізацыі «Зялёны Дуб» (№ 52964) за 1921 год, а па сутнасці, гісторыя Мінскай арганізацыі «Зялёны Дуб». Спіс абвінавачаных налічваў 32 чалавекі.

Сярод іх Тэраўскі Уладзімір — кіраўнік знакамітага беларускага хору; Тэраўская Надзея, яго жонка; Фальскі Усевалад — наркам першага ўрада БССР у 1919 годзе, тэатральны дзеяч; Валачковіч Сямён — вядомы ў Мінску ўрач-псіхіятр, дзядзька Адамовіча-Дзергача. Пад нумарам 12 — Крывашэін Георгій, брат ст. ад'ютанта штаба «Зялёны Дуб» Мікалая Крывашэіна. За ім аж чатыры прадстаўнікі сям'і Кубараў, актыўных удзельнікаў хору Тэраўскага. Дваццаты ў спісе — Язэп Лёсік. Праўда, пазначана, што з-пад варты ён вызвалены.



Георгій Крывашэін, сябра мінскай арганізацыі «ЗД»

У спісе прозвішчы трынаццаці жанчын, дзве з іх атрымалі прысуд да расстрэлу. Першая з іх — Бруевіч Ганна Паўлаўна, 25 год, паходзіла з Магілёўскай губерні, Рагачоўскага павета, па прафесіі тэлеграфістка, служачая штаба Мінскага раёна, створанага ў мэтах барацьбы з бандытызмам. Другая — Зайцава Марыя Іванаўна,

яна ж Кавальчук Марыя, яна ж Ганна Тамашэўская, яна ж (і гэта сапраўднае) Доўгерт Ганна Антонаўна, заручоная атамана Дзергача. Як сведчылі амаль усе зялёнадубцы, лепшая з выведкі «Зялёнага Дуба».

Ганначку «здаў» савінкавец Арцыбашаў. Арцыбашаў — мянушка агента. Ён чакаў яе ў Радашковічах і разам з ёй перайшоў мяжу. Як адбыўся арышт, можна даведацца з даклада аператыўніка Піганава, які паінфармаваў, што па распараджэнні начальніка сакрэтнага асобаддзела пачалі сачыць за гр. Зайцавай Марыяй, якая, пакінуўшы дом на Старажоўскай вул., 29 жніўня зранку з гр. Дачнікам (Крывашэіным Георгіем — *Н.С.*) накіравалася да Траецкай плошчы і, не даходзячы да былога земскага шпіталя, развіталася і пакіравала ўпрочкі. Зайцава пайшла за горад; ідучы, баязліва аглядалася. Прайшла 18 вёрст і, магчыма, здагадалася, што за ёй сочаць, паспрабавала схавацца.

Рызыкуючы згубіць яе з вачэй, агенты падышлі і завялі размову. Адзін з агентаў, жадаючы быццам бы патрапіць да яе ў кампанію, спытаў: «Куды вы ідзяце, магчыма, нам па дарозе?» Яна адказала, што ідзе ў Заслаўе на палявыя работы. Агенты патрабавалі паказаць паперы. Тэрмін дакумента быў да 30 жніўня б. г. і заўтра павінен быў скончыцца. Ганна разгубілася і патлумачыла ім, што ідзе толькі на адзін дзень па прадукты. У адказ на просьбу аддаць усе паперы яна дастала з-пад пояса хустачку і развязала вузельчык. Там быў кавалачак нейкага рэчыва. У адказ на пытанне, што гэта, яна, блытаючыся, сказала, што збірае воск і будзе рабіць свечку. На самай справе гэта была атрута. На просьбы дзяўчыны адпусціць яе агенты не рэагавалі.

Справа Ганны Доўгерт — вельмі цікавая, адметная крыніца. У пяты том справы сабраны так званы агентурны матэрыял. Такога кшталту інфармацыя, як правіла, вельмі падрабязная і змястоўная, прывязаная да канкрэтнага месца і часу. Ганначка магла, канешне, шмат легендаў расказаць следчаму Візнеру, але ж ён ужо ведаў, каго затрымалі ў Заслаўі 29 жніўня.

З данясення агента Арцыбашава вынікала, што ён 10 чэрвеня б. г. пазнаёміўся з дзяўчынай, агентам партыі «Зялёны Дуб», нявестай Дзергача.

*«Она от Дергача знала, что я еду от Савинкова. От неё я узнал, что: 1. К границе в районе Молодечно должны прибыть 6 тыс. повстанцев из Силезии; 2. 47-й кресовый полк будет*





*передан зеленодубцам; 3. Командир 40-го особого батальона войск ЧК — агент зеленодубцев; 4. В Минске агенты «Зелёного Дуба» — Теравский, Фальский, полковник Иванов, Вангин, Кривошеин, сестра милосердия Молчанова».*

Арцыбашаў удакладніў, што Зайцава паведаміла аб плане выступлення на 1 верасня б. г. і што цяпер праводзіцца канцэнтрацыя ўсіх сіл зялёнадубцаў. Усе войскі Балаховіча, якія інтэрнаваны, перайдуць да іх. У Маладзечна са Слуцка прыехаў атаман Хвядашчэня. Зайцава прыйшла з мэтаю дастаць план абароны Мінска.

Наступны дакумент па справе «Прыгажуні» (мянушка Ганны па агентурнай распрацоўцы) — так званая агентурная запіска за подпісам О. К. З. — даволі падрабязна намаляваў недалёкае мінулае выведчыцы і яе маральнае аблічча. Прыгажуня прыбыла ў Мінск непасрэдна ад Б. Савінкава. Савінкаў яе ведаў асабіста і ў адносінах да яе быў даволі просты. Прыгажуня пры Керанскім жыла ў Кіеве, дзе пасля кастрычніцкага перавароту яе бацьку і брата расстралялі бальшавікі.

Пасля гэтага яна ўцякла, працавала ў падполлі, пры ўзнікненні на Украіне махноўшчыны служыла ў аддзеле Сакалоўскага і далей перайшла ў армію Пятлюры. Была інтэрніравана ў Польшчы, працяглы час пакутавала без прытулку, а потым паступіла на службу да Савінкава і ў «Зялёны Дуб». Дзяржмяжу перайшла ў жніўні 10 раз. Ад роду мае 21 год (на самай справе 20. — *Н.С.*). Пасведчанне, як паведамляў агент, носіць у вузельчыку правага рогу хустачкі, у другім вузельчыку — цыяністы калій, які яна, пэўна, мела намер прыняць пры арышце. Хустачку носіць з правага боку за карсажам. На безыменным пальцы рукі пярсцёнак чорнага колеру з конскага воласу, знак прыналежнасці да чарнасоценнай арганізацыі. Хаця не адмаўлялася ад моцных напояў, але маральна не сапсавана, перакананая прыхільніца «Саюза Радзімы і свабоды» і поўная помсты за расстрэл брата і бацькі.

Як высветлілі чэкісты, яе пераход праз мяжу тлумачыўся неабходнасцю: 1) праверыць агентуру; 2) наладзіць сувязь з мясцовымі шпіёнамі; 3) перадаць праз мяжу дакументы, сабраныя раней другімі асобамі. У сваіх дзеяннях, адзначылі агенты, смелая, рашучая, мае шырокае кола знаёмстваў у Мінску. Вельмі асцярожная. Апранута па-вясковаму. Ніколі горад не пераходзіць проста, а пятляе па пустых вуліцах.

Гэтая дзяўчынка з разбуранага сямейнага гнязда, як пазначана ў крымінальнай справе, — свядомая антыбальшавічка і перакананая дэмакратка. Анкета таксама паведаміла, што яна нарадзілася ў каталіцкай сям'і ў вёсцы Валокі Ашмянскага павета Віленскай губерні. Адукацыя хатняя. Бацька мяшчанскага саслоў'я, маці — са шляхты. Вельмі абцяжарыла яе віну і наблізіла сумны фінал тое, што Ганначка была нявестай Вячаслава Адамовіча, легендарнага атамана Дзергача, ды адной з самых удалых яго выведчыц. Ганна была арыштавана падчас дзесятай ходкі ў Савецкую Беларусь (штаб «Зялёнага Дуба» месціўся ў той час у Маладзечне).

Менавіта на верасень 1921 года аб'яднаная апазіцыя планавала агульнае паўстанне. У Мінск Ганна прыйшла даведацца, ці ўсё падрыхтавана да ўзброенага выступу. Але ад дзеячаў беларускай справы пачула, што яны займаюцца пераважна праблемамі мовы і культуры. Гарадская філія дэманстравала нерашучасць. Увосень 1921 года планы не здзейсніліся, арганізаванага шырокага паўстання не адбылося. Былі зліквідаваны па чарзе мясцовыя арганізацыі «Зялёнага Дуба» і камітэты Народнага Саюза ў Гомелі, Слуцку, Ігумене, Мінску. Некаторыя з удзельнікаў сустрэліся і пазнаёміліся ўжо ў Смаленскай катаржнай турме. Напрыклад, Тэраўскі і Фальскі з Пракопам Піменавым.

Пасля арышту Ганны чэкісты паслядоўна знішчылі мінскіх сяброў «Зялёнага Дуба» і іх прыхільнікаў. На лаве падсудных апынуліся прадстаўнікі самых розных слаёў тагачаснага Мінска: творчая і служачая інтэлігенцыя, духоўныя асобы, рабочыя. У некаторых выпадках — сем'і цалкам: Кубары, муж і жонка, Тэраўскія, муж і жонка і г. д.

У гэтай гісторыі сумны фінал. Ганна Доўгерт, Ганна Бруевіч, Георгій Крывашэін і Уладзімір Кубар былі расстраляны 19 кастрычніка 1921 года. Уладзіміру Тэраўскаму і Усеваладу Фальскаму расстрэл быў заменены на пяць гадоў катаржнай турмы.

## 9. Атаман Моніч

Праявы моцных характараў і чалавечых жарсцяў, пякучых амбіцый, што нараджаў той дзіўны час з мясцовымі асаблівасцямі, дэманструе не такая ўжо і далекая гісторыя атамана Моніча і яго паплечнікаў. Савецкая версія падзей выдавала іх выключна за





кепскіх хлопцаў, паколькі іх жыццёвыя арыенціры не супалі з патрабаваннямі новай улады.

Да сярэдзіны 1920-х гадоў няўлоўным, як паведамлялі газеты Савецкай Беларусі, заставаўся апошні «монічаўскі воўк» Дзямід Букаткін, першы намеснік і правая рука атамана ва ўсіх справах, у сваёй мясцовасці больш вядомы як Дзёмка Лісічанскі (па назве яго роднай вёскі).

Напрыканцы чэрвеня 1925 года халопеніцкая раённая міліцыя атрымала агентурнае паведамленне, што баевік, за якім адпаведныя службы палявалі ўжо працяглы час, ноч правядзе ў адной з вёсак раёна.[1] У хаце яго добрых знаёмых была падрыхтавана засада. Начны госць замест абдымкаў прыгажуні патрапіў у кайданы міліцыянтаў. Па ўсім, аперацыя па яго захопу была добра падрыхтавана, чалавек, вельмі блізкі Букаткіну, паспрыяў яго затрыманню. Партызан не паспеў зрабіць ніводнага стрэлу з абрэза (тады казалі — адрэз), хаця апошнія чатыры гады, адчуваючы гончых за спінаю, ні на хвіліну і нідзе зброі не пакідаў.

Пад узмоцненым канвоем Букаткін быў дастаўлены ў барысаўскі ДОПР (дом папраўчых работ). Яго чакаў «справядлівы пралетарскі суд». Калі ўлічваць «заслугі» Букаткіна перад савецкаю ўладаю, спадзявацца на яе літасць ні яму, ні другім паплечнікам Моніча, затрыманым у апошнім вольным для іх, 1925-м, не прыходзілася.

### Абрабаванне стагоддзя

Інфармацыю пра гэта здарэнне ў кастрычніку 1923 года шмат якія еўрапейскія газеты вынеслі на першую паласу. Пад Мінскам, на станцыі Прыяміна быў спынены і абрабаваны хуткі цягнік. Той самы, што звязваў савецкую сталіцу і варожы захад. «Адзінкай», як і зараз, цягнік выходзіў з Масквы і «двойкай» вяртаўся. Экспрэс сімвалізаваў стабільнасць і саліднасць набіраючай моц савецкай улады. Аксаміт, бронза, натуральная скура і чырвонае дрэва — аздабленне міжнародных вагонаў — адпавядала міжнародным стандартам. Цягнік дастаўляў да заходняй мяжы гаспадароў новага жыцця і дыпламатаў. Шыкоўна, камфортна і, здавалася б, бяспечна.

Прыгожую карцінку, аднак, сапсавала гучная акцыя, здзейсненая партызанскім аддзелам знакамітага Моніча. Пасля таго, што

адбылося на чыгунцы, імя атамана заўсёды звязвалася з «нашумелым абрабаваннем». Следчы паўнамоцнага прадстаўніцтва АДПУ па Заходняму краю Пржыбытка ўзнавіў карціну кастрычніцкага тэракта. Асобная ўдарная група па барацьбе з бандытызмам да новага, 1924 года ў асноўным пасабірала яго ўдзельнікаў і рэшткі нарабаванай маёмасці.[2]

10 кастрычніка ў 10 гадзін 55 хвілін на перагоне Крупкі — Бобр на 582-й вярсце цягнік, які наляцеў на рэйкавае пашкоджанне, пацярпеў крушэнне. Састаў разарваўся і адзін вагон перакуліўся на бок. Абышлося, на шчасце, без ахвяр. Сведка Камоцкі, рабочы-рамонтнік, быў першым, хто сустрэў партызан: «Вошли в будку и стали требовать инструменты. На мой вопрос, кто они — закричали, что они присланы из Польши перебить немного евреев. Когда я стал просить их не ломать рельсы, а позволить остановить поезд сигналом, — они ответили, что это не твое дело. Это нам не в первый раз».[3]

Цягнік адразу быў акружаны ўзброенымі людзьмі. Сярод усіх, як паказалі сведкі, вызначаўся чорны высокі мужчына інтэлігентнага выгляду, апрануты ў скураную тужурку. Ён увайшоў у міжнародны вагон і ветліва звярнуўся да прадстаўнікоў замежных місій, папрасіў не турбавацца. Дыпламатычны кур'ер італьянскага прадстаўніцтва Франк Мартыноцці пазней у сваіх паказаннях засведчыў, што ў дыпламатычны вагон рабаўнікі забягалі не адзін раз і, не звяртаючы асаблівай увагі на статус пасажыраў, вынеслі ўсё, што спадабалася.

Прыязнасць атаман выказаў прадстаўнікам польскага афіцыйнага боку. Ён звярнуўся да ваеннага аташэ па-польску і спытаў, ці ведае пан палкоўнік, што ў яго аддзеле ёсць людзі з Польшчы. У адказ пачуў, што так, для яго, супрацоўніка Польскага генеральнага штаба, гэта не навіна. Моніч прапанаваў афіцэру вярнуць адабранае яго жвавымі хлопцамі, але паляк адмовіўся — нічога істотнага.[4]

Пасля заканчэння «працы» баевікі сабраліся па свістку і зніклі. Для іх пошуку і затрымання ўлады накіравалі адмысловы аддзел, які лёгка з'арыентаваўся па слядах мясцовых тэрарыстаў — дарога была густа засеяна бутэлькамі ад партвейну (абрабавалі вагон-рэстаран), пачкамі з-пад ангельскіх папірос, шапкамі, кажухамі і часткамі другой вопраткі (пераапраналіся на хаду).





Неўзабаве чырвонаармейцы, абмінуўшы вёску Дзянісавічы, трапілі на хутар Яленкі. Жыхары паведамілі, што напярэдадні здарэння на суседні хутар Жаўняк Івана Бінкіса пад выглядам супрацоўнікаў міліцыі для збору харчпадатку з'явілася група мужчын. Апошні прызнаўся следчаму, што да яго раніцай 10 кастрычніка прыйшлі 12 чалавек, сказалі, што з аршанскай міліцыі, запатрабавалі самагон і закуску, ігралі на грамафоне. Трэба сказаць, што такія паводзіны прадстаўнікоў улады нікога не здзіўлялі, іх нахабства ў адносінах да мясцовага люду не мела межаў. У гэтым выпадку гаспадар добра ведаў сваіх гасцей. Бінкіс прынёс неабходныя рэчы (лапу і ключы) для развінчвання рэек. Ён жа паказаў дарогу.[5]

Беларускія газеты сарамліва ціха адгукнуліся на здарэнне. Праз месяц адпаведныя органы разабраліся, чыіх рук справа і куды знікла дабро пасажыраў нешчаслівага экспрэса. Следчыя



***Першы беларускі партызанскі аддзел Лукаша Семянюка (у цэнтры) 1920 г.***

развесілі аб'явы з патрабаваннем вярнуць нарабаванае. З дабром, аднак, сяляне развітвацца не спяшаліся. Толькі 18 снежня 1923 года начальнік Асобай групы АДПУ СССР Мартынаў занёс у пратакол факт першай яўкі грамадзяніна Асташкі з нарабаванымі рэчамі. Апошні прынёс 42 аршыны замежнага белага шоўку, 10 амерыканскіх долараў, купюру 50 тысяч польскіх марак і адзін чорны пінжак. У Мацкевіча Івана пры вобыску знайшлі 32 долара, 13649 італьянскіх лір, 330 тысяч аўстрыйскіх крон, 2 тысячы 200 польскіх марак. Большасць удзельнікаў акцыі да гэтага часу ўжо скарыстала свае здабыткі. «...Частку шоўка белага я даў схаваць свайму свату Івану, а 27 аршын прадаў Цадэку за 50 пудоў хлеба, за хлеб набыў жарабя. Яшчэ прадаў Ароніку Цадэку паліто чорнае летнее за 15 пудоў хлеба» — запісаў у пратакол следчы са слоў Рыгора Загалаўца. Усіх удзельнікаў теракта сабралі ў адмыслова падрыхтаваным памяшканні на станцыі Крупкі.

Увогуле, пажыва была немаленькая. Моніч і Букаткін на вячорках у весцы Бабарыкі перад анямелымі маладзёнамі прыгаршчамі дэманстравалі золата. Хлопцы здабылі нават какаін. Сярод нарабаваных рэчаў знайшлася валізка з 13 бляшанкамі нейкага дзіўнага парашку. Моніч раздаў кожнаму па адной і падказаў, «што гэта трэба нюхаць, затым рабіцца п'яным і вясёлым» (з паказанняў абвінавачванага Асінскага). Што ўдалося знайсці, органы адправілі ў Маскву.

Моніч, як паказалі сведкі, ад сваёй часткі адмовіўся на карысць сваёй партыі («ЗД»). «А калі хто будзе мець жаданне далучыцца да справы, то атрымае грошы і часовы прытулак у Польшчы», — заахвочваў ён вяскоўцаў. Пасля дзяльбы рэчы схавалі на хутары Якава Макарэвіча. Заплацілі гаспадару за ежу, выпіўку і разышліся.[6] Ненадоўга.

## Настаўнік, афіцэр, атаман

Малой радзімай атамана, адкуль ён с паплечнікамі распачаў малую вайну за вялікую радзіму Беларусь, была вёска Малыя Жабярычы Барысаўскага павета. Сялянскі сын, ён, не адарваўшыся ад родных каранёў, упарта прасоўваўся ўверх па сацыяльнай лесвіцы. Да вайны скончыў настаўніцкую семінарыю і два гады настаўнічаў. Падчас Першай сусветнай вайны за мужныя ўчынкі быў узнагароджаны двума Георгіеўскімі Крыжамі. Стаў афіцэрам.





Калі прыехаў на пабыўку ў родныя Жаберычы ў студзені 1917 года, бацька Адам Іванавіч, заможны, па мясцовых мерках, гаспадар, ужо меў планы ажаніць сына. Баявы афіцэр і георгіеўскі кавалер меўся пабрацца з Ядвігай Жукоўскай, дачкой мясцовага шляхціца — хто ж адмовіць герою! Асабістыя планы, аднак, спыніў бальшавіцкі пераварот. Моніч адразу выбраў антысавецкі фронт, нейкі час ён служыў у вайсковых частках генерала Урангеля.[7]

Не звіўшы сямейнага гнязда, Моніч так і застаўся вандроўнікам са зброяй у руках. Для яго з'явіўся новы фронт барацьбы, ужо не на абшарах Еўропы, а, такбы мовіць, хатні. Якое месца займалі няздзейсненыя асабістыя праекты ў яго выбары нямірнага жыццёвага шляху — цяжка адказаць адназначна, але безумоўна, яны мелі месца.



*Атаман Юрка Моніч (малюнак Алеся Пушкіна)*

Еўрапейскі франтавы досвед значна паўплываў на каштоўнасныя і палітычныя арыенціры маладога капітана. Назіраючы Еўропу, якая ў новым геапалітычным фармаце паўставала на абломках імперыі, ён вярнуўся з рашучасцю збудаваць уласны нацыянальны дом. Узначаліўшы актыўных праціўнікаў новай савецкай улады, ён стварыў свой механізм уплыву ў абмежаванай, але канкрэтнай прасторы. Чалавек з вялікай унутранай свабодай, ён прыцягваў да сябе такіх жа, хто не прымае рабства. На сваёй малой радзіме ён, такбы мовіць, стварыў сваю вольніцу, сваю дзяржаву.

Моніч змагаўся з бальшавікамі спачатку ў польскім легіёне, потым у арміі генерала Булак-Балаховіча і да таго моманту, як яго забілі ворагі, — на чале асобнага партызанскага антысавецкага аддзела, што і быў яго асабістым палітычным праектам.

Баявая дзейнасць Моніча пачыналася пад сцягамі знакамітага беларускага партызана Лукаша Семяняка (Сямёніка), які набыў

вядомасць у змаганні з нямецкімі акупантамі. У кароткі перыяд адсутнасці замежных гаспадароў, паміж адыходам немцаў і прыходам бальшавікоў, сяляне абралі Сямёніка ваенным камісарам Халопеніцкай воласці. Бальшавікі, якія зацята выкаранялі мясцовыя ініцыятывы і палітычную актыўнасць «тутэйшых», прадстаўніка дэмакратычнай улады арыштавалі. Пры перасылцы вязня 27 траўня 1919 года з мінскай турмы ў Барысаў ён уцёк. Рэвалюцыйны ваенны трыбунал завочна вынес яму смяротны прысуд.

Стварыўшы партызанскі аддзел з дэзерціраў Чырвонай арміі, Сямёнік па сутнасці з'яўляўся гаспадаром у сваёй Халопеніцкай і суседніх Красналуцкай і Зачысценскай валасцях.[8] Людзі часцяком шукалі ў атамана абароны ад самавольства чырвонаармейскіх камандзіраў, якія на сам рэч кіравалі справамі. Аддзел колькасцю 250 чалавек, прызначаны ў Красналуцкую воласць згодна з акупацыйным метадам барацьбы з бандытызмам здзейсніў шэраг гвалтоўных и незаконных актаў супраць грамадзян воласці. Што і стала прычынай сваркі паміж прадстауніком валаснога выканкама і ваеннымі кіраўнікамі.[9]



*Атаман Лукаш Семяняк (малюнак Алеся Пушкіна)*

З пачаткам арганізацыйнай дзейнасці Беларускай Вайсковай Камісіі (БВК), Георгій Моніч спрычыніўся да справы стварэння беларускага войска. Беларускія СМІ падалі навіну, што «начальнік штаба беларускага партызанскага аддзела падпаручнік Г. Моніч звярнуўся да БВК з паведамленнем, што ён са сваім партызанскім аддзелам хоча перайсці пад загад Беларускага ваеннага камандавання для змагання з бальшавікамі...» БВК пастанавіла паслаць у аддзел Моніча для высвятлення ўсіх абставін сябра Камісіі капітана Франца Кушаля.[10] Як склаліся адносіны паміж БВК і партызанамі, волю якіх выказаў Моніч, невядома. З матэрыялаў





выведкі штаба Заходняга фронту Чырвонай арміі ад 1 кастрычніка 1921 года аднак вынікала, што атаман заставаўся ў групоўцы Семяняка, якая на гэты час падзялілася на тры адносна самастойных аддзелы са сваімі кіраўнікамі — Севярынам, Монічам і Семянюкам. «Падчас буйных аперацый, — удакладняла крыніца, — яны аб'ядноўваюцца».[11]

Падчас падрыхтоўкі агульнага выступлення аб'яднаных партызанскіх сіл на савецкі бок, што меўся адбыцца ўвосень 1921 года, яго арганізатары (Б. Савінкаў, С. Булак-Балаховіч) на Моніча ўсклалі частку сур'ёзных абавязкаў. Гэта і мелі на ўвазе савецкія спецслужбы, калі зрабілі выснову, што «па звестках замежнага аддзела ВЧК (ИНОВЧК) ...тэрыторыя ССРБ падзелена паміж трыма знакамітымі партызанамі Монічам, Вішнеўскім і Караткевічам, якія, відаць, з'яўляюцца акружнымі атаманамі».[12] Аднак Моніч па невядомых прычынах гэту пасаду не заняў. Магчыма, што пасля паразы ў баі на пачатку жніўня пры вёсцы Другая Студзёнка монічаўцы панеслі значныя людскія і матэрыяльныя страты. Спрэс былыя балахоўцы, трыумфавалі савецкія СМІ, з пакункамі антысавецкіх агітак, патрапілі ў пастку.[13] Па інфармацыі выведкі Моніча на пасадзе кіраўніка партызанскага занальнага аб'яднання замяніў Хвядашчэня.

Але ўжо ў кастрычніку таго ж лёсавызначальнага для антысавецкай партызанкі года па «заражанасці» бандытызмам Барысаўскі павет быў другім у тэрарыстычным рэйтынгу. У лістападзе аналітычная група выведупраўлення Заходняга фронту адвяла групоўцы ўжо першае месца, дзякуючы нястомнай дзейнасці невялікіх па колькасці аддзелаў на чале з Монічам і Дземешам.[14] Калі па Беларусі супраціў губляў ранейшы размах, на тэрыторыі Моніча ён набіраў моц.

Постаць не менш вядомая ў беларускай канспіралогіі, чым наш герой, легендарны Сяргей Пясецкі раздзел «Забытыя героі» сваёй аповесці «Ніхто не дасць нам збаўлення», што выйшла ў Рыме ў 1947 годзе, прысвяціў атаману Монічу.[15] Знакаміты шпіён пакінуў шыкоўны кіношны сюжэт ў жанры партызанскай сагі, вестэрна і дэтэктыва адначасова. Іх баявыя шляхі, безумоўна, перасякаліся, інакш аўтар, малюючы склад аддзелаў, баявыя рэйды, побыт партызанскага лагера, не быў бы такім пераканаўчым.

Сяргей Пясецкі, які антыбальшавіцкую партызанку лічыў за адзін з асноўных сацыяльных і палітычных чыннікаў 20-х гадоў, засведчыў:

*«Тады праслаўіліся мянушкі беларускіх партызанскіх правадыроў Крука і Дзергача, праўдзівых прозвішчаў якіх не падам, — засцерагаўся жыццяпісец партызанкі, — Моніч меў з імі сувязь, але трымаўся асобна. Зашмат быў смелы і любіў свабоду, каб падлягаць некаторым уплывам і абмежаванням».*

Яшчэ адзін герой той эпохі, атаман Цімафей Хвядашчэня, ў рапарце, адрасаваным 2-му аддзелу Польскага генштаба, таксама крануў праблему ізаляванасці партызан Моніча. Улетку 1921 года Моніч у пошуках сувязі з іншымі дзеячамі прыслаў свайго ардынарца Галадко на сустрэчу з ім. Пасланец распавёў, што яны ізаляваны, не маюць інфармацыі аб тым, што адбываецца за межамі Міншчыны. Монічаўскія «працуюць» на свой страх і рызыку, «кіруючыся галоўным чынам антыбальшавіцкімі перакананнямі», — зрабіў выснову Хвядашчэня.[16] Ён, аднак, заўважыў, што сувязь з Лукашом Сямёнікам Моніч ніколі не парываў. Аддзелы атаманаў Рабцэвіча, Квіцінскага, Кляшчэнка, Казлоўскага і іншых гуртаваліся вакол «бандыцкага ядра», як пісалі чэкісты, маючы на ўвазе аддзел Моніча.

Партызаны імкнуліся да ўзгодненых дзеянняў і каардынацыі, пра што паведамляў і Хвядашчэня, аднак у гэты час шмат хто з палітычных гульцоў з усходу і захаду быў зацікаўлены ў знішчэнні беларускіх партызанскіх цэнтраў. Умовы Рыжскага дагавора прадвызначылі лёс Галоўнага штаба «Зялёнага Дуба». Ужо ўлетку 1921 года польскія «апекуны» пачалі працэс яго ліквідацыі. Партызанскі рух, які і раней не адрозніваўся маналітнасцю, расцерушыўся на дробныя кавалкі.

Шпіенскія і агентурныя сеткі літаральна наскрозь — з нізавых структур да арганізацыйных цэнтраў — прасякалі антысавецкі рух. Магчыма, дыстанцыя, якую трымаў Моніч ад рознага кшталту аб'яднанняў, дазволіла дастаткова доўга весці самастойную лакальную вайну — больш за пяць гадоў. Не шмат хто з атаманаў пратрымаўся такі працяглы тэрмін.

Монічаўскі аддзел яшчэ год пасля забойства атамана дзейнічаў на чале з Дзямідам Букаткіным. Васіль Шаўчэнка, гаспадар Бялыніцкага павета, атаман Абярон з Віцебшчыны (сапраўднае





імя — Міхаіл Анушчанка), Іваноў-Пруднікаў з Горацкага павета, браты Іван і Пётр Караткевічы (Мяфодзія забілі ў ліпені 1921 года) з Бабруйскага павета, лепельскі Ружынскі, яшчэ некалькі імёнаў і, канешне, Моніч — гэта тыя, з кім рэальна саветам давялося дзяліць уладу ў іх родных мясцінах да сярэдзіны 20-х гадоў.

## Соня і Марусі

Вядомы заходні псіхолаг В. Дзенкіне сцвярджаў, што ў XX стагоддзі адбылася інтэлектуалізацыя і фемінізацыя тэрору. На суседніх украінскіх абшарах у той час грымела імя не толькі знакамітага Махно, але і яго паплечніцы ў пэўны перыяд — атаманшы (дакладней атамана) Марусі (Маруські), вядомай дзяячкі анарха-тэрарызму Марыі Нікіфаравай, імя якой стала сімвалам разгулу анархіі і бандытызму.

Тая эпоха дала нямала харізматычных лідараў — мужчын, прадстаўнікоў варагуючых бакоў, якія да гэтага часу ствараюць асобую адметную персаніфікацыю сваіх ідэй. Прэтэнзіі жанчын на падобную ролю мелі выгляд гістарычнай анамаліі, прэцэдэнту, які не назіраўся з часоў сярэднявечча.

Такіх маштабных персанажаў, як Марыя Нікіфарава, у Беларусі, на першы погляд, не знаходзіцца, але і тут хапала тэрарыстак — адзінокіх дваццацігадовых дзяўчат, адукаваных і проста жыццёва дасведчаных, з розных слаёў грамадства, якія па розных прычынах прагнулі «працы» са зброяй. Беларускім жанчынам быў менш уласцівы экстрэмізм, у палітычным выбары яны кіраваліся больш пачуццямі, чым ідэалогіяй.

Як мінімум дзве прэтэндэнткі на ролю выбітных асоб гэтага гістарычнага адрэзка яскрава дэманструюць крыніцы. Да гэтага часу гісторыкі мала цікавіліся пакручастым жыццём беларускіх «валькірый». І дарэмна — колькі захапляльных сюжэтаў засталося ў невядомасці. Чаго варты толькі жыццяпіс, вельмі кароткі (у 21 год расстраляна) і вельмі незвычайны — Ганны Доўгерт, нарачонай атамана Дзергача, лепшай вывядоўцы «Зялёнага Дуба». Паслужны спіс гэтай дзяўчыны ўражвае: да прыходу ў беларускую арганізацыю служыла ў Махно, атаманаў Струка і Сакалоўскага.[17] Цікава, што пасля гібелі апошняга ўлетку 1919 года аддзел узначаліла яго сястра Маруся Сакалоўская, былая настаўніца, прыхільніца Сымона Пятлюры. Жанчына назвала аддзел у гонар

брата — Паўстанцкая брыгада імя Змітра Сакалоўскага. Ганначке было ў каго павучыцца.

Яшчэ адна Маруся была заўважана побач з атаманам у баявых рэйдах Мяфодзія Караткевіча. Спіс Марусь можна яшчэ працягнуць. Партызанскім антыбальшавіцкім аддзелам у Гарбацэвіцкай воласці Бабруйскага павета кіравала Марыя Варановіч пасля таго, як яе муж быў забіты ў сутычцы з чырвонымі. Адзін з псеўданімаў Ганны Доўгерт, дарэчы, Марыя Кавальчук.

Час, у якім апынуліся ўзгаданыя Марусі, атаман Моніч і яго каханка Соня (таксама вельмі папулярнае тагачаснае імя), цікавы не толькі рэвалюцыйнымі катаклізмамі, але і такімі праявамі, як пераарыентацыя жыццёвых ідэалаў грамадства. Жанчыны з выклікам парушалі патрыярхальныя традыцыі: пакідалі кухню, гаспадарку, сям'ю, выходзілі на поле бою. Маладыя, дзёрзкія — некаторыя з іх скіравалі сваю энергію і талент у рэчышча справы любімага мужчыны. Другія — самі прэтэндавалі на ролю харызматычных лідараў.

Сонька была як дзве ў адной. У лістападзе 1923 года — прагучала на судзе — жанчына змагла завербаваць і пераправіць праз мяжу з Польшчы 12 «бандытаў». Добра ўзброеныя, апранутыя ў польскую вайсковую форму яны накіроўваліся ў Барысаўскі павет у аддзел Моніча для аператыўнай дзейнасці. У матэрыялах следства па справе «банды» Моніча Сонька Рыбак (прозвішча да замужжа) фігуруе як кіраўнічка невялікіх узброеных аддзелаў.[19] Канешне, яна шмат што рабіла для свайго каханага, але ў баявой справе Соня магла быць абсалютна самастойнай. Жанчына, прынятая на роўных у выключна мужчынскую супольнасць, яна знайшла асяродак, дзе патраціць сваю энергію, знайшла свайго мужчыну, для якога можна было ісці на рызыку. Да месца будзе дадаць, што савецкая выведка ў гэты час неаднаразова паведамляла аб дзейнасці ў гэтых мясцінах аддзела нейкай Марус履кі.[20] Існавала рэальная Маруся ці мела месца блытаніна з імёнамі? Хутчэй апошняе. Галоўнае, што Марусь было нямала. Маруся — гэта сімвал эпохі, мадэль самарэалізацыі і прыклад жыцця.

Следчая справа прэзентуе сціплую замалёўку з багатай натуры Хаўронні Наўроцкай (сапраўднае імя і прозвішча па мужу). У эпоху знакамітай Соанькі Залатой Ручкі выбар імя быў прадвызначаны. Маладая жанчына была вельмі мабільнай. Вандравала з размахам. Геаграфія прыгодаў спрытнай сялянкі выклікае





здзіўленне: Румынія, Польшча, Каўказ, не кажучы ўжо пра Беларусь па абодва бакі мяжы. Вярнуўшыся аднойчы з Румыніі, яна адрэзала касу і пажадала звацца Сонькай. Імя, што знайшлося для дзяўчыны пры нараджэнні, жудасна ёй не пасавала.

Прыроднае абаянне і экстравагантная манера паводзін вабілі мужчын. Яна любіла «интеллигентные» выразы, каханага называла Жоржышкай. Сведка на судзе, яе сястра Агаф'я, не пашкадавала падрабязнасцей з жыцця Соні: «з чортам у галаве, кручаная, гуляць пачала з пятнаццаці» і ў гэтым узросце сышла з дому. Сялянская гаспадарка не займала яе абсалютна. Душа імкнулася на волю, прагнула кахання, прыгодаў. Для сябе Соня знайшла занятак больш цікавы. Праз мяжу вазіла кантрабанду, на савецкім баку гандлявала хусткамі, панчохамі, мылам, тытунём — усім, што яшчэ ў тую эпоху татальнага дэфіцыту карысталася попытам. Для свайго Жоржыка дастаўляла зброю і патроны, выконвала кур'ерскія абавязкі. У Беларусі вандравала па вёсках, варажыла на картах, збірала патрэбную інфармацыю. Дзякуючы сваёй прадпрымальніцкай і баявой дзейнасці, Соня набыла шырокую вядомасць.[21]

Адносіны з атаманам складваліся вельмі няпроста. Інакш і не магло быць: харызматычныя, шчодрыя на падарункі, моцныя целам і духам хлопцы прыцягвалі ўвагу жаночай паловы тэрыторыі гаспадарання і ўплыву Моніча. Тут ён быў першым, знакамітым, жаданым. Тайны агент з вёскі Вялікае Хацюхова ў чарговым даносе за верасень 1923 года падрабязна апісаў, як Таццяна Рогава, дзяўчына з няблізкай Радзіцы, апранутая какетліва і надзвычай зайздрасна для мясцовых модніц (футрачка, шаравары-галіфэ, скураныя боцікі на высокіх абцасах), ішла з атаманам у лазню Язэпа Шышко на вачах усёй вёскі. Сюды неўзабаве завітала Соня, ужо пасля разрыву з каханкам, прымусіла гаспадара пакарміць яе людзей, выпытала навіны і плёткі і зноў знікла ў лесе.[22]

Гісторыя кахання Ягора і Соні пачыналася вельмі рамантычна. Яны пазнаёміліся падчас яго настаўніцтва ў вясковай школцы — атрымліваецца, што да вайны. Каханне ўспыхнула ізноў пасля вяртання Моніча з белай арміі. З паказанняў Соні суду вынікае, што яна была побач з ім у Польшчы, дзе ён далучыўся да нейкага «жонду» (Беларускага Палітычнага Камітэта (?). Чаму Соня напрыканцы бурлівага 1920 года апынулася адна ў Беларусі, з яе блытанага расказа следчаму цяжка зразумець.

«У 1920 годзе брат мой Іван, — распавёў на допыце малады селянін з вёскі Шчаўры Язэп Наўроцкі, — ездзіў за соллю да польскай мяжы, пазнаёміўся недзе на паўдарозе за Якімаўкай з нейкай Сонькай Рыбак». Па прыездзе сваім хатнім шчаслівы Іван аб'явіў, што знайшоў сабе жонку. Праз пэўны час яна з'явілася ў Наўроцкіх. Менш чым паўгода спатрэбілася працавітай сям'і, каб зразумець, што нявестка «не здольная да працы на гаспадарцы, і прапанавалі брату яе прагнаць, але ён не пагадзіўся». Маладых адсялілі асобна. Сведка шчыра абураўся паводзінамі сваячкі. У адсутнасць мужа да іх у хату заўсёды прыходзілі нейкія людзі. На пытанне пільных сваякоў, хто гэта, Соня асабліва не задумвалася — «Брацельнік». Харчаванне са сваёй хаты і дома Наўроцкіх Соня выносіла рэгулярна. Добрыя людзі адкрылі вочы, куды і каму гэта ўсё трапляла. Сувязь нявесткі Наўроцкіх з Монічам была шырока вядомым фактам, але, як водзіцца, муж даведаўся апошнім.[23]

У Шчаўрах пад сямейным дахам Соня затрымалася каля года, увосень, прыхапіўшы мяса забітага вала, каштоўныя рэчы (сваякі з асаблівым жалем узгадвалі кравецкую машынку) сышла ў лес. Па рамантычнай версіі самой Соні, Моніч выкраў яе з дапамогаю свайго сябра, нейкага Ларывона. Апошні не то дапамагаў ім, не то кантраляваў іх з Монічам «працу» ў Польшчы.[20] Мяса вала з'елі, машынку прадалі, Соня вярнулася ў Шчаўры вясною наступнага года, 1922 года. Муж дараваў ей здраду. Сваякі папярэдзілі Івана, «каб нагі яе не было ў іх». Маладыя знялі кватэру ў Шчарах. Жыццё аднак не склалася. Іван быў арыштаваны разам з іншымі фігурантамі па справе за набыццё крадзеных рэчаў. (Соня прынесла з абрабаванага цягніка?) Увосень 1923 года сваякі і аднавяскоўцы пабачылі Соню, пра якую ведалі, «што зноў скруцілася з Монічам», на лаве падсудных. Каханне і палітыка прывялі да трагічнага фіналу. Другога сакавіка 1924 года Соня разам з іншымі шасцю паплечнікамі Моніча была асуджана да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.[24]

## Шчаўры часоў Соні

Пакуль драма жыцця Соні імкліва рушыла да свайго лагічнага фіналу, Шчаўры пакрысе саветызаваліся. Большасць вяскоўцаў





яшчэ не асэнсавала перамен, але Шчаўры ўжо падзяліла нябачная сцяна палітычнага і каштоўнаснага супрацьстаяння. Непрыхаваную варожасць адзін да аднаго дэманстравалі дзве моладзёвыя групоўкі: камсамольцы пад кіраўніцтвам сакратара і загадчыка мясцовай хаты-чытальні Ізраіля Дыкмана і «бандыты» — група моладзі, дзе верхаводзілі браты В. і К. Пліско. Моніч для апошніх быў уплывовай фігурай. Як даносіў свайму кіраўніцтву павятовы «отсек» (адказны сакратар) Трафімаў, «усё ціха, акрамя бандытызму».[25]

Камсамольцы на працягу 1922 года старанна вывучалі «азбуку камунізму», на агульных сходах спявалі «Інтэрнацыянал», чыталі патрэбныя для новага жыцця кніжкі, паводле загаду партыі заўзята вывучалі міжнароднае становішча. За тым, што чытаюць і як часта наведваюць хату-чытальню і сходы, пільна сачыў камсамольскі сакратар. Камсамолец Горбач атрымаў вымову за тое, што дазволіў сабе ўсміхацца падчас выканання пралетарскага гімна. Выпіўкі з кампаніяй Пліско былі прадметам жорсткага публічнага асуджэння. Шмат намаганняў прыкладалі камсамольцы, каб зацягнуць жанчын на камсамольскія сходы і спеўкі, але тыя ўпарта адмаўляліся: «Маркса мы любім, але трэба кудзелю прасці».[26]

Пратаколы сходаў Шчаўраўскай камасамольскай арганізацыі яскрава адлюстроўваюць перыпетыі мясцовага канфлікту. «Класавым ворагам» В. і К. Пліско былі прысвечаны большасць пасяджэнняў. Асобны сход быў прысвечаны ўжыванню ненарматыўнай лексікі — браты Пліско «камсамольцаў паслалі», чым выклікалі іх справядлівае абурэнне. Пагрозы братоў «перабіць і перарэзаць чальцоў ячэйкі і спаліць іх дамы...» камсамольцы ўспрынялі на поўным сур'ёзе і звярнуліся за дапамогаю ў асобны аддзел ЧК 4-й Смаленскай стралковай дывізіі. Але там вялікай палітыкі ў канфліктах шчаўраўскай моладзі не знайшлі і братоў Пліско доўга не трымалі. Па вяртанні раззлаваныя хлопцы паабяцалі будаўнікам камунізму «павыламваць рукі і ногі, адкруціць галовы». Свае абяцанкі няўрымслівыя браты не спраўдзілі. Тым часам камсамольскі правадыр дабіўся адхілення ад пасады валаснога сакратара тав. Беленькага за «слабую работу сярод моладзі і ... абарону інтарэсаў кулакоў і спекуляцыю».[27]

## Бандыт і герой

Раней пісалі проста, кантрасна, фарбы выбіралі чорныя і белыя — жыццёвай разнастайнай палітры нібы і не існавала. Па адзін бок той вайны крышталёва-чэсныя, мужныя змагары за савецкую ўладу, па другі — крыважэрныя бессэнсоўна жорсткія бандыты. Савецкая версія падзей, як правіла, выкладалася без іменаў палітычных апанентаў, абыходзілася абагульняльнымі тэрмінамі: ворагі, бандыты, шпіёны.

Стваральнік галерэі парадных партрэтаў выбітных дзяржынцаў Ілля Барысаў упершаню персаніфікаваў ворагаў сваіх герояў. Неаб'ектыўнасць, шчодра палітая чорнай фарбай прадузятасці, — гэта, тым не менш, лепш, чым забыццё. Георгій Моніч і Ян Крыкман, персанажы чэкісцкага летапісца, — антыподы. Хто з іх хто, герой ці бандыт, — зараз цяжка адказаць, усё не так відавочна. Заслугі славутага чэкіста Крыкмана з цягам часу пабляклі і не выклікаюць ранейшага захаплення. І наадварот, дзеянні Моніча набылі іншы сэнс, натуральную логіку і гістарычнае падцвярджэнне развіццём беларускага нацыянальнага праекта.

Гэтыя маладыя людзі сутыкнуліся ў вельмі заблытаны час, напрыканцы 1920 года. Сустрэча была не выпадковай. Атаман Моніч быў вельмі сур'ёзным праціўнікам для бальшавікоў. Аперацыя па ўкараненні чэкіста ў «логава банды» рыхтавалася загадзя і дэталёва, у жанры «шэршэ ля фам». Для спецслужбаў не было сакрэтам, што зембінскую красуню ўдаву Аўдоццю Габец наведвае атаман «зялёных». Гэтую рамантычную сувязь нястомна абмяркоўвалі ўсе мясцовыя цёткі. Дом шчырай на ласку Дусі стаў месцам развіцця чэкісцкай інтрыгі. Не паспеў у мястэчку стаць на пастой конны чырвонаармейскі аддзел «для аховы ад бандытаў» (не столькі жыхароў, колькі мясцовага спіртзавода), як камандзір з абсалютна мясцовым прозвішчам Корзун пачаў атаку на вясёлую ўдоўку.[28]

Спіртзавод, як магніт, прыцягваў мужчын самых розных палітычных поглядаў, тых, хто быў за саветы, і тых, хто быў катэгарычна супраць. Гэты аб'ект не пакідаў мясцовым абывацелям надзеі на спакойнае жыццё. Зембінцы не здзівіліся, калі ў іх размясціўся яшчэ адзін ўзвод чырвоных з Іванам Шпакоўскім на чале, а спіс Дуськіных кавалераў папоўніўся новым паклоннікам. Мясцовыя жыхары з цікавасцю сачылі за баявымі дзеяннямі





паміж чырвонаармейскімі камандзірамі за сэрца прыгажуні. Яны і не здагадваліся, што ў доме Аўдоцці згодна з тайнымі планамі беларускай ЧК разгарнулася прэлюдыя выдатна спланаванай акцыі па знішчэнні атамана Моніча.

Візіты закаханых мужчын, як і разлічвалі арганізатары інтрыгі, аднойчы супалі ў часе. Раз'юшаныя сапернікі, высвятляючы адносіны, схапіліся за зброю. Кволы на выгляд, невялічкі ростам Шпакоўскі (Ян Крыкман на самай справе), адным стрэлам заваліў мажнога Корзуна на падлогу. На ўвесь Зембін загаласіла Аўдоцця. Пакуль кіпелі жарсці, Шпакоўскі знік. Разам з групкай верных сяброў, ён збег у лес. Раненага Корзуна адвезлі ў барысаўскі шпіталь. Потым пайшлі чуткі, што ён памёр.

Пазней, успамінаючы гэтыя дні, Крыкман не без задавальнення свярджаў, што аперацыя не была бездакорнай, але ж акцыя дазволіла дасягнуць мэты — наблізіцца да кіраўніка антыбальшавіцкай партызанкі і трапіць у яго аддзел. Ведаючы, што Аўдоцця Габец — каханка Моніча і падтрымлівае з ім сталую сувязь, вайскоўцы за чаркай у яе гасціннай хаце дазвалялі сабе абмяркоўваць ваенныя «сакрэты». Спрытная жанчына перадавала інфармацыю каханку. А вынаходлівыя чэкісты радаваліся, што трымаюць развіццё падзей пад кантролем. Спектакль з перастрэлкай даў магчымасць Шпакоўскаму-Крыкману ўвайсці ў давер Монічу.

На другі дзень пасля здарэння ў доме Габец пасланнік атамана знайшоў беглага чырвонаармейскага камандзіра і перадаў яму ліст з прапановаю аб супрацоўніцтве. Моніч не хаваў захаплення ўчынкам Шпакоўскага. Пры сустрэчы каварную Аўдоццю не ўспаміналі. Шпакоўскі «пагадзіўся» са сваімі вершнікамі далучыцца да партызан.[29]

Два тыдні працягвалася аператыўная гульня. Развязка прыйшла ў начы разам з узброеным чырвонаармейскім аддзелам. Страты неабачлівых даверлівых партызан, якія трапілі у пастку чэкісцкай інтрыгі, былі велізарнымі. Моніч з часткаю аддзела ўратаваўся, але базы забеспячэння, адрасы падтрымкі ў вёсках, явачныя кватэры ў Крупках, Зембіне і Барысаве былі правалены, планы баявых аперацый не здзейсніліся.

Як засведчыў акт абследавання становішча Зембінскага валаснога ваенкамата ў лістападзе 1920 года, «у сэнсе бандытызму ў воласці спакойна». Асабісты 16-й арміі забяспечылі парадак.

Загад № 124 вайсковым часткам і ўстановам Барысаўскага павета ваенкама Бенгера и ваенрука Лезіна прадуглежваў добраахвотную яўку для дэзерціраў мястэчка 24-гадзінную, а для валасці — 48-гадзінную. 28 чалавек, калі верыць дакументу, прыйшлі з павіннай.[30] Праблема, аднак, для ўлады засталася, аддзел Моніча нікуды не знік. Вайна працягвалася.

Цікава, што ў аповесці Пясецкага, багата ілюстраванай эфектнымі прыкладамі з жыцця партызанкі Моніча, падаецца сюжэт, як аддзел патрапіў у чэкісцкую пастку і выслізнуў з яе. Герой Пясецкага, прадбачлівы разумны атаман, вывеў свой аддзел з акружэння і нават дасягнуў рэваншу. Гэта была бліскучая аперацыя, якую партызаны завяршылі нападам на павятовы выканкам:

*«...ўвайшлі ў Куляшова. Вуліцы былі пустыя. Затрымаліся. Адбылася кароткая нарада і аддзел рушыў далей па вуліцы... Моніч і яшчэ двух партызанаў ішлі наперадзе. Пясок вясковай дарогі глушыў іхнія крокі. Вартавы спасьцярог іх толькі тады, калі яны затрымаліся перад ім. Зьнялі зь яго вінтоўку і далі панюхаць дула. — «Адно толькі слова і дастанеш у лоб! Вядзі да каманданта аддзелу»! Некалькі хвілінаў пазней павыцягвалі з логаваў усю ахарону воліспалкому. Забралі ад іх зброю і амуніцыю. Захапілі таксама харчы і вялікі медзяны чайнік».*

Далей аўтар не без задавальнення тлумачыць, што такое «зрабіць парадак» па-партызанску: мясцовая ўлада пазбаўлялася зброі, афіцыйных папер, пячаткі, бланкаў. У гэты раз забралі яшчэ «каля пуда цукру і шмат махоркі». Абыходжанне з затрыманымі было жорсткім — да пазбаўлення жыцця. У аповесці падзеі разгортваюцца ў мяккім варыянце, нават камедыйна. «Наступна Моніч звярнуўся да старшыні і, паказваючы на начальніка ахароны, коратка загадаў: — Валі яго ў морду!» Пасля таго як ахоўнік атрымаў аплявуху, атаман загадаў яму пабіць старшыню.

*«Расправа была скончаная. Моніч уваўшоў у воласць і закруціў ручку палявога тэлефону, што вісеў на с'цяне...*

*— Даношу, што аддзел Моніча напаў на Куляшова, абязброіў жаўнероў, забраў харчаванне і пабіў морды начальніку ахароны і старшыні воліспалкому.*

*— Хто гавора?..*

*— Я... Моніч... У собскай асобе...*

*Наблізіў дула пісталета да тэлефону і выстраліў каля самай трубкі...»*





Вельмі знаёмы сюжэт пра «бандыта» — чырвонага камандзіра: «Я, Катоўскі...»

## Тэрыторыя атамана

«Аддзел Моніча ўжо другі месяц выкручваўся ад насьцігаючых яго бальшавіцкіх аддзелаў, — пафасна пачаў аповяд ужо ўзгаданы Сяргей Пясецкі. — Некалькі разоў быў у вакружэнні, але шчасліва вырываўся, пакідаючы за сабой трупы». Для свайго любімага героя аўтар не шкадаваў лірыкі, не пазбягаў дэталізацыі.

*Пойдзем, браткі, ў лес зялёны!*
*Зямлянку выкапаем там,*
*Ноч-маці будзе нам аслонай,*
*Лес-бацька дасць свабоду нам!*

Так спявалі партызаны Моніча, гуртуючыся вакол вогнішча. Лагер, лясны агонь, як цэнтр прыцягнення, агульная вячэра, каларытныя персанажы баевікоў і самаго Моніча выпісаны падрабязна і з густам. Аўтар так тлумачыць асаблівасці той барацьбы:

*«Гэта была «фурманкавая вайна». Бальшавікі забіралі сялян у вабозы, якія поўныя людзей езьдзілі па дарогах і вёсках, сьцігаючы «белых бандытаў» і контррэвалюцыянераў. Гэтак у той час называлі ўсіх, хто, уцякаючы ад бальшавікоў, пайшоў у лес, каб уратаваць жыццё й вольнасць».*

Дэзерціры з Чырвонай арміі, сяляне з навакольных вёсак і працоўныя гараджане — вызначыў Пясецкі асноўныя сацыяльныя складнікі партызанскага руху.

*«Людзей меў (Моніч. — Н.С.) пэўных, выбраных з сотак іншых... ягоны аддзел, які налічваў каля 50 чалавек, тварыў цесную сяброўскую грамаду».*

Аўтар партызанскіх хронік заўважыў адсутнасць у аддзелах інтэлігентаў. «Апошнія гінулі», як авечкі, пад бальшавіцкім нажом, бо былі няздольные пакінуць горад і пайсці на вольнае, дзікае, хоць і небяспечнае жыццё».

Поспех, які мелі партызаны ў пачатку антыбальшавіцкай вайны, С. Пясецкі тлумачыў іх мясцовым паходжаннем, добрым веданнем тэрыторыі баявой «працы».

Яны *«...мелі прыхільнасць мясцовага жыхарства, магчымасць шыбкага зьмяненьня месца... Бальшавікі ж, абцяжараныя абозамі*

*й вялікай колькасцю зброі, валакліся тыднямі па ўскрайках лясоў, у якіх лёгка лавіравалі партызаны...»*

З Пясецкім салідарныя савецкія чэкісты:

*«...Последний отряд 40-го батальона (войск ВЧК. — Н.С.) оперировал в районе города Борисова, — анализировали в штабе войск Минрайона. — Насколько трудно было действовать отряду, видно из их донесений. Бандитские шайки передвигаются по лесам с одного места на другое. Осуществлять их вылавливание в лесах нет возможности».*[31]

*«Моніч перакідваў свой атряд з павета ў павет, склізгаў па граніцам губерній і гуляў у шахматы са Смерцю».*

Так, з пашанаю, з вялікай літары адгукнуўся дасведчаны аўтар аб адной з актыўных тагачасных дзяячак.

Легка прыйсці да высновы, што атаманшчына гэта не проста сваволле партызан, а сродак самазахавання і варыянт самаарганізацыі насельніцтва ва ўмовах бязладдзя. Як пісаў аглядальнік газеты «Звязда» на судовым працэсе, людзі, што занялі 25 радоў у кінатэатры Барысава (большасць залы) не мелі ўяўлення пра савецкую ўладу, «и это на шестом году ее существования, — абураўся журналіст — потрясающие годы гражданской войны для них прошли незаметно». Малыя Жаберычы ён прызнаў глухаманню, цэнтрам бандытызму. Аднак сабкор, не заўважыўшы супярэчнасці, праўдзіва напісаў, што «цёмныя і забітыя» вяскоўцы ўслед за сваім лідарам выступалі за «восстановление независимой Белоруссии... за созыв Учредительного собрания, против власти пастухов».[32] Атаманскія лозунгі былі простыя і зразумелыя, паколькі тагачасныя сацыяльныя і палітычныя актывісты самі вельмі недалёка адышлі ад натоўпу.

Моц гэтак званых атаманаў была ў цеснай сувязі з людзьмі, якія стваралі вакол іх нават не войска, а садружнасць ваяроў, злучаных агульнымі мэтамі і адказнасцю. Кожны атаманскі аддзел — лакальная з'ява на сваім сацыяльнам грунце. Моніч абапіраўся на аднавяскоўцаў і людзей з наваколля. Сам абходзіў вёскі ўздоўж чыгункі, агітаваў сялян, не прапускаў магчымасці пагаварыць з людзьмі на вяселлях і кірмашах. На вясну 1924 года атаман планаваў сялянскае паўстанне.

На працэсе абвінавачваны Сідоренка распавёў:





*«Он (Моніч. — Н.С.) сидел на бревне перед народом, которого много собралось в Малых Жиберичах. Как раз была свадьба. Он агитировал... проклинал продналог, коммунистические законы и говорил, что это самое Учредительное собрание лучше всего. Старики соглашались, молодежь возражала».*

Так перадаў асноўны змест агітацыйных прамоў Моніча не вельмі пісьменны, але ўважлівы слухач. Сведка не забыўся і пра абурэнне атамана засіллем багаценькіх яўрэяў ва ўладзе.[33]

Пад час працы «асобай ударнай групы па барацьбе з бадытызмам», што шчыравала на Барысаўшчыне з восені 1923 года, былі выкрыты «пасобнікі», для якіх, па назіраннях спецкора «Звезды», «советская власть с ее налогами была горше полыни». Спісы складалі на падставе даносаў, рапартаў адпаведных службаў, агентурных дадзеных, аператыўных распрацовак. 75 чалавек на працэсе — гэта не толькі ўдзельнікі партызанкі, але і людзі, якія давалі прытулак, харчаванне, вопратку, зброю. Вяскоўцы стваралі агентурныя і камунікацыйныя сеткі. «Бандыцкія маліны» (згодна з тэрміналогіяй савецкіх СМІ) густа пакрывалі тэрыторыю дзеяння Моніча і яго паплечнікаў. Гэта — дзесяткі вёсак, хутароў, дзе жыццё бурліла па-за межамі савецкіх законаў, дзе Моніч мог арганізаваць людзей, паўплываць на ход падзей.

З аператыўнай інфармацыі:

*«В деревне Лужа граждане Андрейко имеют тесную связь с бандой Монича. Андрейко давали поручительство за известного бандита Шпильку (помощник атамана) следователю Славинскому. Андрейко имеют оружие — револьвер системы «кольт», карабин».* [34]

З рапарта мясцовага міліцыянера:

*«Моніча і дружкоў бачылі ў весцы Хацюхова. Адзін у ангельскай шынелі, скураным каптуры. Ён выдаваў сябе за ўпаўнаважанага ДПУ Вінаградава. Банда Моніча аперыруе ў гэтым раёне.*

*«Озабоченный охраннік просіл свое руководство прислать отдел в 4—5 человек в район Клён — Дакудово — Великие Жаберичи и хутар Ерашевка».*

На судзе прагучала, што «бандыты заўсёды гасцілі ў Палякових (у вёсцы Ваўкавыск. — Н.С.). Тацццяна Палякова гуляла з памочнікам Моніча Букаткіным і атрымлівала ад яго прэзен-

ты». Пільны хлопец, пастух Міцкін, што выступіў сведкай, не пашкадаваў суседак. Ён падгледзеў, што яны мыюцца польскім духмяным мылам (як выльюць ваду, так пах на ўсю вёску), абліваюцца польскімі духамі. І Моніч таксама заязджаў у гэтую вёску з падарункамі да ўдавы Уляны Мікіцінай, якая на гэтым працэсе заняла месца на лаве падсудных побач з Соняй Рыбак.[35]

На хутары Уцеха даваў прытулак партызанам яго гаспадар Васіль Апет. Гасцінна прымалі іх і гаспадары Шмытава Засценка Сарачынскія. А ў вёсцы Якімаўка, як можна зразумець з непісьменнага заблытанага даноса агента, «увесь штаб монічаўскі» — капцёр Васіль Ткачонак і раздатчык кашы Нічыпар Чорны. У весцы ведалі, дзе і хто смажыў мяса для атамана. Людзі дапамагалі не па прымусу, спраўлялі вопратку, калі збяднеўшы ўшчэнт, «абадраны», як паказала сведка Агаф'я Ліпчанка, Моніч прыходзіў з-за кардону.[36]

Колькасць вяскоўцаў, якія ўкрывалі атамана і яго людзей, яскрава сведчыць пра адносіны партнерства і адзінства палітычнага выбару. Нярэдка людзі гінулі, звязаныя словам і справаю. 15 лістапада пры спробе ўцячы быў забіты Савелій Кляшчонак, камандзір асобнага аддзела. Ён не пажадаў паказаць месца збора сваіх партызан — зямлянку ў лесе недалёка вёскі Слаўнае. Вельмі рызыкавалі жыхары вёскі Перасекі Бабруйскай воласці, прымаючы ў сябе атамана і папаўняючы аддзел новымі кадрамі.[37] У кожным раёне, падсумавалі абвінаваўцы на судзе, Моніч і яго паплечнікі мелі свой зборны пункт.

На судзе абвінаваўцы выкрылі факты падтрымкі «бандытаў» прадстаўнікамі мясцовай улады. Як высветлілі следчыя, самагонам, самаварам, яешняй і абдымкамі сустракаў партызан старшыня Кругліцкага сельсавета Чарэйскай воласці. «Кармілі людзей, вывадзілі на дарогу» ў Парасяцінках вясковы сакратар Лука Чарнуха і яго брат Захар. Сведкі распавялі пра сумесныя застоллі старшыні сельсавета гэтай вёскі А. Сцепановіча з атаманам і яго падручнымі.[38] Мясцвыя людзі, яны заставаліся часткай вясковай грамады, падпарадкоўваліся яе традыцыям і патрабаванням.

Крымінальны разгул — нярэдкі складнік партызанскага руху — быў скіраваны ў першую чаргу супраць мясцовых яўрэяў. Рабаўніцтва дробных гандляроў ажыццяўлялася не толькі дзеля эканамічнай выгады, але і з палітычным сэнсам. Праўда, мясцовы антысемітызм карэктаваўся асабістымі адносінамі і сімпатыямі.





Як крыўдліва заўважыў падчас судовага разгляду Арон Цадак, ахвяры халопеніцкай тэрарыстычнай акцыі, Левін Самуіл і Рабін Залман падчас нападу не былі абрабаваны, хаця і багатыя. Ў іх хлопцы куплялі сукно і шылі бекешы. Цадак, аднак, у гэтай гісторыі выступае не толькі ў ролі пакутніка.

На судзе не засталося па-за ўвагаю, што гандляр рэчы, якія прынеслі хлопцы пасля нападу на цягнік, адкрыта выклаў ва сваёй лаўцы на продаж. Прадпрымальнік меў свае інтарэсы ў ўзаемадачыненнях з баевікамі, і асабліва з атаманам.[39] А «баязлівец Грынштэйн, апошні асколак НЭПа», — абураўся «звяздовец», — не пажадаў сведчыць супраць Моніча. Памочнік атамана Ткачэнка да ўсяго дадаў, што «Грынштэйн утрымліваў банду на свае сродкі, забяспечваў яе харчам і аднойчы нават цалаваўся з Монічам на развітанне». Даверам шчадралюбнага Моніча карысталася и вядомая ўсім мясцовым спекулянтка Ітка (Іда Камянковіч). Як заўважыў пільны следчы, «яна мае сувязь з бандытамі і закардонам».[40]

Бізнес прадпрымальнай Іткі не ў апошнюю чаргу трымаўся на тэрарыстычнай актыўнасці аднавяскоўцаў. Продаж здабычы давала някепскі даход жанчыне. Увогуле, крыніцы пакідаюць уражанне, што яурэйскае пытанне штучна акцэнтавалася ва ўсёй гэтай справе. Большасць сведкаў, як па загаду, яго закраналі і падавалі як канфлікт з прадстаўнікамі новай улады і класавымі ворагамі, заможнымі прадпрымальнікамі. Віна атамана і яго паплечнікаў абцяжарвалася праявамі антысемітызму. Са слязамі пералічыў страты ўпаўнаважаны Барысаўскага харчкамітэта Каган:

> *«Сняли с меня и жены обручальные кольца и перстень дамский с маленьким аметистом, дамское колье, золотые сережки, часы дамские серебрянные и т. д.»*

У вёску Жукавец, дзе жыў нябедны харчкамісар, начныя візіцёры патрапілі не выпадкова. Тое, што Каган з'яўляўся яшчэ і сакрэтным агентам асобага аддзела 52-й дывізіі Чырвонай арміі, у весцы не было сакрэтам.[41] Акцыя была скіравана супраць прадстаўніка ненавіснай улады.

Жыццё, такім чынам, будавалася згодна з традыцыйнымі адносінамі, што склаліся цягам часу паміж рознымі групамі вясковай супольнасці.

## Налёт на Халопенічы

Гадавіну кастрычніцкага перавароту збіраліся святкаваць не толькі бальшавікі. Дата не круглая, тым не менш рыхтаваліся сур'ёзна. Пакуль загадка, чаму на 1923 год прыпадае пік актыўнасці Моніча, але менавіта ў гэты перыяд былі здзейснены самыя смелыя і гучныя акцыі. С самага пачатку ўзброены напад планаваўся як акцыя палітычная са спадзяваннямі на шырокі розгалас.

> *«...Перед праздником Октябрьской революции шли парни с вечерок, — вспомнил на допросе Спиридон Соболевский, — и получили предложение от Букаткина «идти на дело» — на Халопеничи, грабить Цадака. Однако Монич, которого не все и знали в лицо, напомнил про политический смысл акции — главное — не прибыль, не барахольство — приструнил он местных ловкачей, а исполнение политического акта, испортить праздник комсомольцам».*[42]

Пасля кароткай нарады 18 чалавек рушылі на Халопенічы. Са зброяй у руках уварваліся ў клуб. Нікога не знайшлі. Расчараваныя няўдачай, рассыпаліся па мястэчку, шукаючы месца сходу. Вяскоўцы паказалі хату, дзе сабралася моладзь святкаваць шостую гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі. У камсамольцаў забралі зброю, нарабілі тлуму на ўсе Халопенічы і накіраваліся да мясцовых яўрэяў. Нікога не забілі. Абрабавалі Арона Цадака. Акцыя ў першую чаргу была разлічана на палітычны рэзананс, але аб гэтым было вядома толькі вельмі вузкаму колу арганізатараў. Для маладых вяскоўцаў гэта была звычайная «падзёншчына». Як паказалі на судзе сведкі, у гэтых мясцінах падобны «бізнес», калі наймаліся для ўдзелу ў адной акцыі, практыкаваўся шырока. Хадзілі і для куражу. Улада не набрала яшчэ той моцы, каб дзейнічалі з аглядкай на яе. Нават на судзе не многія пажадалі сведчыць супраць падсудных, бо на абарону вясковай улады не спадзяваліся.

## Смерць атамана

Прыйшоў час, калі Моніч прайграў партыю Смерці. А 3-й гадзіны раніцы 23 траўня 1924 года ў лесе, недалёка ад станцыі Крупкі, як паведаміла «Звезда», Асобым аддзелам па барацьбе з бандытызмам на чале з Пінкусам быў забіты вядомы ата-





ман Моніч.[43] Газета сціпла пералічыла яго «заслугі» перад савецкай уладаю, узгадала напад на міжнародны цягнік і справу 75 удзельнікаў монічаўскай партызанкі, што слухалася ў лютым бягучага года асобай сесіяй Вярхоўнага Суда. Яго 22 паплечніка былі асуджаны на смерць.

Забітага атамана прывезлі ў родную вёску Малыя Жаберычы. Бацька і аднавяскоўцы апазналі нябожчыка. Далей труп павезлі ў Барысаўскі ДОПР для канчатковай ідэнтыфікацыі.

Праз дзень «Звезда» ўдакладніла, што паспяшалася назваць героем аперацыі па знішчэнні Моніча тав. Пінкуса. На самай справе пераследам і забойствам кіраваў нейкі А. Карнеічаў. Чэкіст атрымаў звесткі, што атаман хаваецца ў Радзіцкім лесе. На досвітку Карнеічаў з 5 чырвонаармейцамі быў на месцы. Моніч спрабаваў уцячы, але стрэламі ў шыю і спіну быў забіты. «Як гэта ён вас усіх не перастраляў!» — толькі і сказаў бацька забойцам сына, якія суправаджалі воз з целам атамана.[44]

Выканаўцаў ліквідацыі Моніча чакалі ўзнагароды. Павестка дня Прэзідыума Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР ад 29 жніўня 1924 года адлюстроўвае ўдзячнасць улады да герояў аперацыі па знішчэнні ворага. Грамадзянам Бачышчэ Дзмітрыю, Старадубцу Пятру і Антаневічу Даніілу была выдзелена матэрыяльная дапамога. Дакладна невядома, ці то яны данеслі куды трэба аб месцы знаходжання атамана, ці то застрэлілі яго падчас аперацыі. У дакуменце яны пазначаны, як грамадзяне (не чырвонаармейцы), «забіўшыя бандыта Моніча». Было таксама вырашана спрыяць уладкаванню «герояў» у навучальныя ўстановы.[45] Хадайніцтва падпісаў старшыня пасяджэння Прэзідыума і старшыня ЦВК Алесь Чарвякоў, палітык, які не менш за Моніча любіў сваю Беларусь, але спрабаваў будаваць нацыянальны дом з расейскімі хаўруснікамі. Што з гэтага атрымалася — вядома. Кар'ера Чарвякова пацярпела крах, гонар палітычнага лідара і дзяржаўнага дзеяча быў растаптаны і зняважаны яго ўчарашнімі саюзнікамі. Трагедыя яго жыцця засведчыла, што выбар быў глыбока памылковы. Сутыкненне Моніча і Чарвякова ў тагачаснай палітычнай прасторы якраз і ёсць праявы грамадзянскай вайны ў Беларусі, за якую яны змагаліся, маючы рознае ўяўленне пра яе будучыню.

Прайшлі яшчэ два гады. Напачатку красавіка 1926 года рэспубліканскія газеты абвясцілі, што праз тыдзень у Барысаве

адкрыецца другая сесія Мінскага акружнога суда, якая пачне разгляд «справы рэштkаў банды Моніча».[46] Галоўнай фігурай на лаве падсудных быў Дзямід Букаткін. Да вышэйшай меры пакарання, расстрэлу, разам з ім былі асуджаны Адам Моніч, бацька атамана, баевікі Сакаловіч і Прыгажонак. 24 баяіка атрымалі розныя тэрміны турэмнага пакарання. 13 апраўдалі.[47]

Так завершылася яшчэ адна багатая на падзеі і фігурантаў партызанская гісторыя, а па сутнасці — малая вайна супраць новай улады, у адным з рэгіёнаў Беларусі.

## Крыніцы. Заўвагі


1. *Звезда. 1925. 12 июля.*
2. *НАРБ, ф. 750, воп. 3, спр. 195, арк. 9, 7, 179, 217*
3. *Звезда. 1924. 24 февраля.*
4. *Звезда. 1924. 2 марта.*
5. *НА РБ, ф. 750, воп. 3, спр. 196, арк. 353.*
6. *Тамсама, спр. 195, арк. 218 звар., 219*
7. *НАРБ, ф. 750, воп. 3, спр. 196, арк. 353; И. С. Борисов. Бумеранг. // «Неман». 1981. № 8. С. 149.*
8. *Беларускае жыцьцё. 1920. 9 лютага.*
9. *ДАМВ, ф. 42, воп. 1, спр. 1, арк. 116 звар.*
10. *Беларусь. 1919. 3 снежня.*
11. *ДАРФ, ф. 6990, воп. 1, спр. 2, арк. 223.*
12. *НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 283, арк. 152, 166.*
13. *Звезда. 1921. 7 августа.*
14. *НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 283, арк. 152, 166.*
15. *Аповесць у перакладзе на беларускую мову надрукавана ў часопісе «Бацькаўшчына». 1953. № 7—8, № 14—15.*
16. *Joanna Januszewska-Jurkiewicz. Raport atamana Tymoteusza Chwiedoszceni dotyczacy dzialnosci partyzanckiej na terenit Bialorusi sowieckiej w okresie 10—29 czerwca 1921 r. // Bialoruskie Zesryty Historyscne, z. 14. Bialystok. 2000, s. 228—229.*
17. *Архіў Камітэта Дзяржбяспекі Рэспублікі Беларусь (КДБ РБ). Крымінальная справа савінкаўцаў і зялёнадубцаў. 1921 г.*
18. *Звезда. 1924. 24 февраля.*
19. *Тамсама.*
20. *НА РБ, ф. 4, воп. 1, спр. 283, арк. 119, 119 звар.*
21. *Звезда. 1924. 24 февраля.*
22. *НА РБ, Ф. 750, воп. 3, спр. 195, арк. 3*
23. *Тамсама, арк. 39.*
24. *Звезда. 1924. 4 марта.*







25. *ДА Мінскай вобласці, ф. 352, воп. 1, спр. 6, арк. 2, 2 звар.*
26. *Тамсама, арк. 10, 11 звар.*
27. *Тамсама, арк. 18 звар.*
28. *И. С. Борисов. стар. 150.*
29. *Тамсама.*
30. *ДА Мінскай вобласці. Ф. 294, воп. 1, спр. 29, арк. 49.*
31. *На РБ. ф. 4, воп. 1, спр. 283, арк. 121 звар., 122.*
32. *Звезда. 1924. 26 февраля.*
33. *Тамсама.*
34. *НАРБ, ф. 750, воп. 3, арк. 195, арк. 157.*
35. *Тамсама, арк. 57.*
36. *Тамсама, арк. 49 звар.*
37. *НАРБ, ф. 750, воп. 3, спр. 195, арк. 195.*
38. *Звезда. 1924. 26 февраля.*
39. *НАРБ, ф. 750, воп. 3, арк. 18, 61.*
40. *Тамсама, арк. 217.*
41. *Тамсама, спр. 197, арк. 10. 13,68.*
42. *Тамсама, арк. 80, 83.*
43. *Звезда. 1924. 25 мая.*
44. *Звезда. 1924. 27 мая.*
45. *НАРБ, ф. 4, воп. 5, спр. 89, арк. 312.*
46. *Звезда. 1926. 7 апреля.*
47. *Звезда. 1926. 14 мая.*


## 10. Ігуменскі ачаг супраціву

Прыклад упартага і працяглага супраціўлення паказала Ігуменшчына. Прычына не ў апошнюю чаргу тоіцца ў тагачасным складзе насельніцтва гэтага рэгіёна, 60% якога складала шляхта.[1] Ёй уласціва пачуццё гаспадара, нягледзячы на тое што ўласны кавалак зямлі яна апрацоўвала ці арандавала. Менавіта на гэтую акалічнасць звярнулі ўвагу пэўныя органы падчас раскулачвання ў 1931 годзе.

Як засведчыў жыхар вёскі Зафранцузская Грэбля Ісаак Герман, насельніцтва Балоцкага, Суцінскага, Грабянецкага, Лапіцкага сельсаветаў, дзе пражывала шмат шляхты, утварыла пасля Кастрычніка 1917-га асяродак «бандытызму». Амаль усе жыхары вёсак Сёмкава Слабодка, Уборак «были в банде».

Са слоў мясцовай калгасніцы Ганны Сакаловай следчы ДПУ ў 1931 годзе запісаў наступнае:

*«...В бытность бандитизма в нашей местности все лица молодого возраста из Репица, Подкосья, Ганутова, Усох, Французской и Зафранцузской Гребли поголовно были в бандитах. Дома оставались старики и малые, но и они бандитам помогали — носили в лес еду».*[2]

Ганна Сакалова, бацька якой, дарэчы, у той момант быў сасланы на Урал, як і большасць аднавяскоўцаў, мела на ўвазе, што падчас антыбальшавіцкай партызанкі ўся моладзь знаходзілася ў паўстанцкіх аддзелах.

Спісы ўдзельнікаў антыбальшавіцкай партызанкі, што захаваліся ў архіве КДБ, сведчаць аб яе выключна мясцовым паходжанні. У аддзелы прыходзілі цэлымі семьямі: з хутара Чаромуха да паручніка Вайніцкага далучыліся пяць братоў Яськевічаў. З вёскі Турная Гара прыйшлі браты Раманоўскія, з Дубравы — браты Пракаповічы і іх сваякі з Грабянца і Французскай Грэблі, тры браты Жывуцкія — з хутара Аўгустава і г. д.

Баевік Павел Доўнар, затрыманы ў жніўні 1921 года, даў следчаму ДПУ адказ на пытанне аб персанальным складзе ўдзельнікаў: «Во всех бандах — местные люди, в основном крестьяне». Згадаў яшчэ двух настаўнікаў з хутара Максімовічы і лесніка Мілюту з лясніцтва каля ракі Ольса.[3] Амаль на сто адсоткаў удзел ігуменскага сялянства ў зялёным руху тлумачыцца і некаторымі мясцовымі акалічнасцямі. Выбух нянавісці выклікалі дзеянні так званага заградаддзела пад кіраўніцтвам Песера, асноўным абавязкам якога была барацьба з бандытызмам і дэзерцірствам. Гэты чырвоны камандзір паводзіў сябе як сапраўдны бандыт: рабаваў насельніцтва, гвалтаваў жанчын, ладзіў п'яныя оргіі. Яго аддзел манеўраваў па сялянскіх палетках. Злоўжываннем Песера паклаў канец рэвтрыбунал: ён быў расстраляны ў траўні 1922 года. Але да гэтага ён паспеў узрушыць насельніцтва Ігуменшчыны і Бабруйшчыны.[4]

Велізарным рэзервам папаўнення паўстанцкіх аддзелаў былі дэзерціры. З іх амаль цалкам складалася 63-я, так званая лесанарыхтоўчая дружына пад кіраўніцтвам Уладзіміра Гаркавенкі. Капітан царскай арміі і мясцовы па паходжанні (з вёскі Сёмкава Слабада), ён змог аб'яднаць вакол сябе 1600 уцекачоў з розных армій і нават узброіць іх з дапамогай Ігуменскага ваенкамата. Знешне захоўваючы лаяльныя адносіны да савецкай улады, Гаркавенка на самай справе быў адным з арганізатараў і атаманаў зялёных аддзелаў і груп. Міхась Жылінскі, якога арыштавалі ў ліпені 1923 года, засведчыў, што склад дружыны быў найбольш спрыяльным для камплектавання аддзелаў Паўлоўскага, галоўнага баевіка Савінкава.[5] Дружыннікі стаялі ў вёсках Лачына, Снусцік, Высокая Старына, Гоманаўка.





Яшчэ да пачатку 1918 года ў згаданым раёне ўзнік аддзел спачатку ў мэтах самаабароны ў той неспакойны час, а потым для самастойных партызанскіх дзеянняў. Ініцыятыву праявілі браты Паўлюкі з хутара Тысячная Града. Антось, у недалёкім мінулым афіцэр царскай арміі, аб'ехаў далёкіх і блізкіх суседзяў, сярод якіх таксама было шмат афіцэраў. Вырашылі аб'ядноўвацца і ўзбройвацца.

У снежні 1917 года выступілі. Раззброілі полк рэвалюцыйных салдат каля вёсак Снусцік і Уборак і полк казакаў, што стаяў у вёсцы Очыжы. У ваенную арганізацыю ўвайшлі жыхары Новай і Старой Дубраў Юркевічы, Радкевічы, Лапіцкія, Пракаповічы, Лукашэвічы. Да іх далучыліся Станішэўскія з Тысячнай Грады і шмат хто з Рэпішча. У тым часе падтрымалі мяцеж Доўбар-Мусніцкага.[6] У 1920 г. у шэрагу валасцей Ігуменскага павета апераваў капітан Уладзімір Жукоўскі, які напрыканцы года са сваімі партызанамі ўліваецца ў войска генерала Булак-Балаховіча.

У снежні 1920 года (знамянальна, што аднachасова са слуцкімі падзеямі) паўсталі сяляне Пагарэльскай і Якшыцкай валасцей. Разагналі рэўкамы, раззброілі прадстаўнікоў савецкай улады, вярнулі нарабаванае харчкамісіяй — 800 пудоў збожжа гаспадарам. Галоўныя арганізатары — мясцовы ксёндз Вāрановіч, паручнік Антось Клічко, шляхціцы Янушкевіч, Трубскі і ваенкам Белічанскі. Партызанскія аддзелы заходзілі ў вёскі пад белчырвона-белым сцягам. Людзі падтрымлівалі заклікі «Няхай жыве Беларуская рада!», «Няхай жыве незалежная радзіма!».[7] Паўстанцы мелі галоўны штаб і базу забеспячэння, некалькі дробных штабоў у розных раёнах.

Да прыходу спецыяльнага карнага аддзела пад кіраўніцтвам сумнавядомага Кутафіна, савецкай улады ў вёсках не існавала. Пасля разгрому штаба ў рукі карнікаў трапілі спісы партызан. За гэтым адбыліся арышты і канфіскацыя маёмасці партызан і іх сем'яў. Партызаны-паўстанцы разбегліся па лясах групамі па 7—8 чалавек.

У выніку карнай аперацыі было расстраляна 56 чалавек, арыштавана так званых дэзерціраў 1620, у 560 сем'яў канфіскавана маёмасць, некалькі сотняў кароў, свіней, авечак.[8] Адабраным абмундзіраваннем і стрэльбамі забяспечылі Ігуменскі гарнізон.[9] Але хутка маёмасць вернецца да тых, у каго яе адабралі, паколькі з вясны 1921 года пасаду ваенкама і начальніка Ігуменскага гарнізона зойме Міхась Жылінскі, сябра «Зялёнага Дуба», «Народного союза защиты Родины и свободы», арганізатар паўстанцтва.[10]

У Ігумене была створана моцная першасная арганізацыя Народнага Саюза. Усе служачыя павятовага ваенкамата былі яго сябрамі. Афіцэры Аляксандр Ковель, Мікалай Калтовіч, Гасан Канапацкі запяспечвалі арганізацыю бланкамі са штампамі, пасведчаннямі, дадзенымі аб колькасці і стане чырвонаармейскіх аддзелаў, шляхах іх перасоўвання.

Ролю сувязных выконвалі сакратар першага ўчастка народнага суда Кастусь Сямёнаў і следчы нарсуда Барыс Ярэма. Садзейнічалі арганізацыі партызанкі служачыя ўстаноў горада Вольга Урбановіч, жонка М. Жылінскага, сакратар павятовага партыйнага камітэта Карэлін, начальнік турмы Пякарскі, тэхнік-будаўнік Віктар Замбржыцкі, які пазней узначаліць контрвыведку С. Паўлоўскага. Гэтымі людзьмі да прыходу групы Паўлоўскага была зроблена вялікая падрыхтоўчая праца.

Палкоўнік С. Паўлоўскі перайшоў мяжу ў траўні 1921 года. Галоўны штаб партызанскага злучэння размесціўся паміж вёскамі Дубрава і Сёмкава Слабада (Пагарэльская воласць).[11] Старшыня мясцовага сельскага савета Міськевіч адразу наладзіў забеспячэнне прадуктамі, скарыстаўшы прыхільнае стаўленне навакольных жыхароў да зялёных. Да таго ж асноўныя сілы партызанкі складала мясцовая моладзь. Медычную дапамогу аказваў фельчарскі пункт станцыі Градзянка. Аб зброі паклапаціліся раней, яшчэ да прыходу Паўлоўскага. З аднаго толькі хутара Дубовы Лес, чый гаспадар быў наўпрост звязаны з Жылінскім, у штаб даставілі 18 скрынак з патронамі і некалькі адзінак зброі. Везлі зброю і з другіх хутароў.

Па сведчанні ўдзельнікаў, партызанка мела выразную арганізацыю. Тэрыторыя была падзелена на пяць раёнаў дзеяння: у першым апераваў аддзел пад кіраўніцтвам самаго палкоўніка Паўлоўскага. Колькасна аддзел дасягаў 100 чалавек





і кантраляваў тэрыторыю Пагарэльскай, Пухавіцкай і Якшыцкай валасцей. Другі раён — Кліноцкая і Уздзенская валасці — «даглядаў» паручнік Вайніцкі з аддзелам у 16 чалавек. Трэці раён, што ўключаў Лагойскую, Далжанскую, Гарадзецкую і Хутарскую валасці, быў пад наглядам капітана Тронава і 20 яго баевікоў. Раён пад Мінскам курыраваў паручнік Арлоў. Яго штаб знаходзіўся ў лясніцтве на рацэ Ольса. Яму падпарадкоўваліся 18 чалавек. Аддзел паручніка Міхайлава апераваў па ўсёй тэрыторыі дзеяння, выконваючы ролю арганізатара першасных камітэтаў «НСЗРС» і невялікіх мясцовых баявых груп.[12]

Для зносінаў з галоўным штабам існавала нядрэнна адпрацаваная сістэма сувязі. Ролю сувязных выконвалі мясцовыя людзі, што добра ведалі наваколле. Так, Юркевіч Іван, жыхар вёскі Дубрава, трымаў сувязь паміж галоўным штабам і Ігуменам. Штаб у Рэпішчы звязваўся з камітэтам праз старшыню сельсавета Яровіча. Язвінскі штаб падтрымліваў сувязь са сваім чалавекам у Пагарэліцкім рэўкаме, сакратаром Лашкевічам.[13] Хутар Язэпа Зяньковіча Дубовы Лес быў месцам сустрэч сяброў камітэта НСАРіС, дружыннікаў Гаркавенкі і кіраўніцтва партызанкі. Існавала і добра наладжаная сувязь з гарадамі. З магілёўскімі і гомельскімі арганізацыямі трымалі сувязь паручнікі Міхайлаў і Сікорскі, горада Барысава — паручнік Арлоў і Жылінскі. Былі свае людзі і ў чырвонаармейскіх падраздзяленнях і ў камітэце чыгункі.

Сваю дзейнасць ігуменскія партызаны па магчымасці каардынавалі з атаманамі Кулеўскім (Хвядашчэня), Давыдавым, Драгунам, Катам, Жуком, Перакатавым. Сумесна з іншымі партызанскімі аддзеламі захапілі станцыю Градзянка. 800 пудоў солі, узятай у выніку аперацыі, раздалі сялянам навакольных вёсак.

Хутка вызначыліся атаманы з мясцовых людзей. Невялікія баявыя групы ўзначалілі Мікалай Яськевіч, Іван Ждановіч, Міхаіл Паўлоўскі, Язэп Лісоўскі, Аўгусцін Крукоўскі. Колькасць баявых аддзелаў і груповак у розныя часы дасягала ад 18 да 80.[14] Розніца ў лічбах тлумачыцца здольнасцю партызанскіх спалучэнняў у залежнасці ад абставінаў аб'ядноўвацца і наадварот — драбіцца.

Ігуменскі камітэт «Саюза» праводзіў шырокую агітацыйную кампанію па распаўсюджванні праграмных дакументаў

НСАРіС, «Зялёнага Дуба». Улёткі тлумачылі мэты і задачы гэтых арганізацый, выкрывалі бальшавіцкую палітыку:

*«В 1917 году коммунисты кричали: пора, наконец, прекратить братоубийственную войну. Они дали России Брестский мир и войну гражданскую. Страшную, беспощадную, унёсшую жертв во много раз больше, чем Германская, войну поистине братоубийственную. Они сумели натравить русского рабочего на русского рабочего, крестьянина на крестьянина, казака на казака и всех против всех. Коммунисты лгут бессовестно и нагло. Нет мира и не будет пока они существуют... Октябрьский переворот — преступный захват власти, уже вырванной у царя, но ещё не утвердившейся в руках народа. Октябрський переворот — истинная контрреволюция...*

*Вместо избранного Россией Учредительного Собрания, разогнанного штыками, возникло «Рабоче-крестьянское правительство»... Кучка преступников и безумцев, утвердившихся насилием, удерживающих жестокостями и подлостями неслыханными, ведет Россию к нищете и гибели... Они обещали народу землю. Дали ли её ему? Нет. Народ получил право трудиться на земле, но не получил права пользоваться плодами трудов своих. Помещичьи имения превратились в «советские хозяйства», эксплуатирующие крестьянский труд бессовестней и беспощадней помещиков... Кого, кроме самих себя, накормили коммунисты? Кого, кроме самих себя, сделали они богатым?..»*[15]

Трэба адзначыць, што такая агітацыя знаходзіла паразуменне ў шырокіх колах насельніцтва, бо сумная рэчаіснасць пацвярджала высновы, выкладзеныя ва ўлётках. Ігуменская арганізацыя мела на блізкай мэце захоп Ігумена, потым Мінска і ўсталяванне сваёй улады ў гэтых гарадах.[16] Спачатку ўдавалася працаваць у савецкіх установах. Жылінскі займаў пасаду начальніка гарнізона, нават узначаліў надзвычайную тройку па барацьбе з бандытызмам. Пад яго кіраўніцтвам праводзіліся ўсе нарады, мэтаю якіх была арганізацыя гэтай барацьбы. Каб не афішаваць антысавецкую дзейнасць Жылінскага і сваё галавацяпства, ЦК КПБ вымушаны быў паведаміць грамадскасці аб выключэнні яго з партыі і пазбаўленні пасады з прычыны злоўжывання маладога ваенкома... гарэлкай.[17]

У ліпені правалы напаткалі Мінскую абласную арганізацыю. Быў арыштаваны адзін з яе кіраўнікоў Туміловіч. Аб гэтым факце паведамілі Ігуменскай арганізацыі, сябрам камітэта было прапанавана схавацца ў партызан. Паспелі выйсці з горада яшчэ да аблавы Жылінскі з жонкай, В. Замбржыцкі і Г. Канапацкі. У выніку масавы зарыштаў арганізацыя згубіла 30 сяброў.[18] Разгром аддзелаў Паўлоўскага — гэта не ваенны поспех камандзіра 12-га палка Цітова, а вынік добра наладжанай агентурнай выведкі і аплочанай здрады.

Пасля выкрадання са штабу дакументаў чырвонаармейскаму камандаванню сталі вядомы спісы ўдзельнікаў, адрасы, яўкі ў гарадах Беларусі і Расіі. Паўлоўскі палічыў за лепшае распусціць людзей, але выказаў спадзяванне, што ненадоўга, і з невялікім аддзелам у жніўні 1921 года схаваўся ў Польшчы. Але дзеянні дыверсійных груповак працягваліся і далей. Не складалі зброі атаманы І. Ждановіч, Я. Лісоўскі, І. Драгун. З-за мяжы перыядычна наведваліся Мікола і Іван Яськевічы, Віктар Замбржыцкі, Аўгусцін Крукоўскі і палкоўнік Паўлоўскі.[19]

Трагічна склаўся лёс ігуменскіх партызан. Амаль усе яны былі расстраляны ці патрапілі з сем'ямі ў ссылку. У 1921 годзе, адразу пасля адыходу часткі партызан за мяжу, пачаліся рэпрэсіі. Аб некаторых падрабязнасцях стала вядома з паказанняў старшыні Балоцкага сельсавета Антося Матусевіча ў 1932 годзе. У 1921 годзе ён быў абраны старшынёй сельсавета. Напрыканцы лета ў вёсцы Заfranцузская Грэбля стаяў аддзел па барацьбе з бандытызмам. Аднойчы камандзір гэтага аддзела патрабаваў ад усіх грамадзян вёскі даведкі аб тым, дзе знаходзяцца іх сыны мабілізацыйнага ўзросту. Шмат хто не змог даць адпаведны дакумент. Сыны знаходзіліся ў паўстанцкіх аддзелах. Людзі звярталіся да старшыні, і ён даваў даведкі, што іх дзеці знаходзіліся ў Чырвонай арміі.[20]

Трэба сказаць, што хутка падман выкрыўся. Насельніцтва Заfranцузскай Грэблі было цалкам выслана ў 1921 годзе на расійскі Поўнач. Што да насельніцтва ўсяго Балоцкага сельсавета, то яно паменшылася на 80%. У 1921-м і наступных гадах выслалі жыхароў мяцежных вёсак — Рэпішча, Ганутава, Уборак, Сёмкава Слабада.

Гэтыя вёскі далі вядомых арганізатараў партызанкі. З Рэпішча паходзіў Віктар Замбржыцкі, начальнік контрвыведкі аддзела паручніка Вайніцкага. Ён вернецца ў родную вёску ў 1928 годзе, паспрабуе арганізаваць сялян для супраціву надыходзячай калектывізацыі.

Атаман Іван Ждановіч таксама з Рэпішча. З вёскі Ганутава паходзілі браты Аляксандр і Мікалай Старжынскія, актыўныя памочнікі атамана Міхася Жылінскага.

Дзейнасць апошняга з пералічаных асобаў заслугоўвае дэталёвага разгляду. На жаль, пошукі далі няшмат. Пашчасціла знайсці так званую назіральную справу брата Міхася — Жылінскага Фамы (Тамаша) Фаміча, 1893 года нараджэння, сябра партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў з 1912 года, сябра Мінскай павятовай земскай управы з 1917 года, прыхільніка, як пазначана ў справе, Устаноўчага сойму. Назва дакумента — назіральная справа — азначае, што ў момант разгляду пытання аб рэабілітацыі Тамаша Жылінскага крымінальная справа, матэрыялы следства не былі знойдзены. Пытанне вывучалася з дапамогаю іншых крыніц, гэта значыць — крымінальных спраў людзей, звязаных з ім у час разглядаемых падзей. Як правіла, такія матэрыялы малаінфарматыўныя. Тым не менш Тамаш Жылінскі даваў паказанні пра свайго брата Міхася і ўзгадаў, что брат быў першы раз арыштаваны палякамі ў 1919 годзе і сядзеў у вязніцы Беластока. Другі раз быў затрыманы ДПУ Беларусі і расстраляны ў 1924 годзе.

Можна меркаваць, што Міхась Жылінскі быў арыштаваны разам з Уладзімірам Гаркавенкам, а магчыма, і з Сяргеем Паўлоўскім, паколькі гэта адбылося адначасова, улетку 1923 года. У справе Гаркавенкі захоўваецца пратакол допыту М. Ф. Жылінскага ад 14 ліпеня 1923 года. З гэтага дакумента можна даведацца, што Міхась нарадзіўся у м. Койданава Мінскага павета ў 1898 годзе. Сябра РКП (б) з 1917 года, выключаны ў 1921-м — быццам «за выкананне абавязкаў у нецвярозым стане» (так гучала афіцыйная версія ЦК КПБ), на самай справе — «за бандытызм». Былы Ігуменскі ваенкам паказаў, што ў арганізацыю ўваходзілі «усе былыя афіцэры з мясцовых, шляхта, шкрабы (школьныя работнікі). Насельніцтва безумоўна сімпатызавала арганізацыі».

Цікава і, вядома, пэўным чынам характарызуе Жылінскага, што сярод названых ім прозвішчаў — тыя, каго ўжо забілі ці саслалі — Барыс Ярэма, Аляксандр Ковель, расстраляны ў 1921 годзе па загадзе Камбанда (Камісіі па барацьбе з бандытызмам), Кастусь Сямёнаў і Уладзімір Гаркавенка ўжо сядзелі ў турме. Міхась Жылінскі актыўна дзейнічаў у 1921—22 гадах. Зводка Выведупраўлення Заходняга фронту (кастрычнік 1921 года) засведчыла:





*«В Минской губернии временное затишье. Небольшие отделы Жилинского, Жибуля, Броневицкого, Величко, Ходотова — осуществили набеги на мельницы, противостояли сбору налогов. В северной части Игуменского повета активно действует банда Жилинского, которая всосала в себя бандитов организации Ката и Павловского. Возвращение из-за границы в сентябре поветовых руководителей Зайцева, Павловского, Мартело (Іван Мацэлі. — Н.С.) не вызывает усиления движения. Изменения в тактике бандитов: они ведут скрытую подготовительную работу в этом (минском) направлении. Активизировали деятельность в полосе Глубокое—Лунинец.*

*Подпись: нач. РУ штаба Западного фронта и военком А. Рандмер. Смоленск».*[21]

Правалы зялёнадубскіх кіраўнікоў у 1923 годзе звязаны са здрадніцкай дзейнасцю асобных савінкаўцаў — Селянінава-Аперпута, Паўлоўскага і іншых.

Цікава, што гэта гісторыя мела працяг у крымінальнай справе мясцовага жыхара Ф. Татура і іншых. Яна з'явілася ў 1932 годзе намаганнямі спецслужбаў і мела назву «Грачи». Са справы развіццё падзей выглядае наступным чынам. Улетку 1928 года вярнуўся ў родную вёску Рэпішча, што ў Чэрвеньскім раёне, былы зялёнадубец, начальнік контрвыведкі аддзела палкоўніка С. Паўлоўскага Віктар Замбржыцкі. Яму ўжо 36 гадоў, апошнія дзесяць — «перакананы вораг савецкай улады», як заявіў аб сабе падчас арышту. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі яго бацька, стары Замбржыцкі, мясцовы шляхціц, меў 50 дзесяцін зямлі. Беднымі не былі і шматлікія сваякі, што жылі навакол. Уласную зямлю мелі не ўсе, шмат арандавалі. Віктар атрымаў адукацыю спачатку ў Ігуменскай вучэльні, потым засвойваў спецыяльнасць тэхніка-будаўніка ў Маскве. Ваяваў на франтах Першай сусветнай вайны на баку белага руху. У грамадзянскую разам з расчараваннем ідэямі белых прыйшла зацікаўленасць эсэраўскай праграмай.

На роднай Ігуменшчыне Замбржыцкі быў адным з арганізатараў камітэта «НСЗРС».[22]

Арганізацыя, якая пазней атрымала назву «Сялянская партыя» ці «Народны саюз здаровай Радзімы», як вынікае з матэрыялаў следства, пачала ўтварацца летам 1928 года, адразу пасля вяртання В. Замбржыцкага дамоў. Увесь час ён хаваўся ад уладаў у лесе,

але трымаў цесную сувязь з аднавяскоўцамі, карыстаўся іх дапамогаю.

Першы арганізацыйны сход сабраўся ў доме Язэпа Захарэвіча. Прысутнічалі браты Ждановічы і Раманоўскія з Рэпішча, Старжынскія і Яськевічы з Ганутава, прыйшлі людзі з Зафранцузскай Грэблі, хто вярнуўся да гэтага часу з расійскай Поўначы. Усяго 16 чалавек. Вырашылі пачаць працу па стварэнні арганізацыі з мэтай згуртаваць вакол сябе ўсіх незадаволеных, колькасць якіх з кожным днём узрастала. У вёску ішла новая навала — калектывізацыя, сэнс якой сяляне зразумелі па-свойму: у вяскоўцаў адбіраюць зямлю, ствараюць новую паншчыну. Улада курочыла жыццё вёскі, рэзала па-жывому, ламала лёсы і душы. Да ўзгаданага часу моцы на актыўны пратэст не ставала. Тым не менш людзі рыхтаваліся да ўзброенага выступлення. Зброю амаль кожная сям'я хавала яшчэ з часоў барацьбы зялёных з Саветамі. Хто ў пуні, хто на могілках, хто ў лесе.

Вёска жыла, чакаючы вайны. Тлумачэнне гэтаму простае: савецкая прапаганда трымала людзей у пастаянным напружанні. Вакол — адны класавыя ворагі. Як сведчыла настаўніца Захарэвіч, у Чырвоную армію ў выпадку вайны ніхто не збіраўся, рыхтаваліся ісці ў лес, у партызаны для самастойнай барацьбы з камуністамі. Міленцій Бранавіцкі распавядаў:

> *«Мы добра рыхтаваліся, чакалі вайну на пасху, доўга чакалі і цярпелі ад савецкай улады, але спадзяваліся, што хутка ўсё скончыцца, людзі вернуцца з ссылкі і будуць жыць так, як жылі раней...»*

У 1928 годзе арганізацыя мела да тысячы чалавек. Так падлічыў следчы Лісоўскі. У асноўным гэта былі людзі з вёсак Чэрвеньскага, Асіповіцкага, Пухавіцкага раёнаў. Людзі перадавалі адзін аднаму, што (цытата з матэрыялаў следства):

> *«Ёсць звёнзак ці партыя, у якім шмат палякаў і рускіх (дакладней, каталікоў і праваслаўных. — Н.С.), якія чакаюць хваляванняў ці вайны, адразу бальшавікоў павыганяюць».*

Варожы настрой да ўладаў панаваў не толькі сярод шляхты, але і «мужыкоў».

На працягу 1928—29 гадоў, пакуль улады не пачалі раскулачваць, сябры арганізацыі часцяком збіраліся на тайныя сходы:





у млыне Фрыдлянда, у хаце Захарэвічаў, сваякоў В. Замбржыцкага, а то і проста ў лесе.

Партыйную праграму, па версіі следства, распрацаваў Франц Фаміч Татур — 39-гадовы селянін з вёскі Рэпішча, беларус-католік, з сям'і арандатараў. Сам арандаваў зямлю ў дзядзькі Віктара Замбржыцкага. Ён быў адным з тых нямногіх, хто ў гэтых мясцінах адразу падтрымаў савецкую ўладу, нават дапамагаў мясцовым сельсаветам. Але хутка яго спасцігла расчараванне. На змену здзіўленню з безгаспадарчасці новых уладароў прыйшло абурэнне несупынным гвалтам. Раскулачванне, высылкі, арышты праследавалі яго сваякоў, аднавяскоўцаў, знаёмых з наваколля. Таму Франц Фаміч адразу даў згоду на прапанову Замбржыцкага ўступіць у сялянскую партыю.

У матэрыялах следства захаваліся дзве невялікія кніжачкі з рукапісным тэкстам праграмы. Змест сведчыць, што пісаў чалавек адукаваны, з філасофскім складам мыслення, схільны да глыбокага аналізу і абгрунтавання. Бальшавізм — хвароба, да такой высновы прыйшоў Франц Фаміч. Яго праграма — пошукі шляхоў выздараўлення. Будаваць «здаровую радзіму», на думку ўкладальніка праграмы, можна, прытрымліваючыся сямі асноўных лозунгаў-заклікаў:

1. *За дэмакратычны самастойны лад жыцця!*
2. *За волю і справядлівасць, любоў і прастату!*
3. *За гняздо роднае!*
4. *За развіццё навукі і культуры!*
5. *Супраць эксплуатацыі!*
6. *За мірнае жыццё!*
7. *Рабі дабро людзям!*[23]

Адчуваецца, што складаў гэты цікавы дакумент чалавек веруючы, з болем успрымаючы разбурэнне спрадвечнага ладу жыцця, шчыра жадаючы змен да лепшага. Безумоўна, на некаторыя прапановы наклала адбітак савецкая рэчаіснасць.[24] Гэта бачна ў той частцы праграмы, дзе выказаны погляды на дзяржаўнае будаўніцтва, але ў аснову клаўся галоўны прынцып: улада належыць не класу, а народу ў асобе выбраных прадстаўнікоў. Форма дзяржаўнай улады — савецкая, але без камуністаў. Лозунг паўстанцаў 20-х гадоў, як бачым, не згубіў сваёй актуальнасці. Вярхоўная ўлада — народнаму з'езду; паміж з'ездамі — выбра-

наму народам (не менш як 75% выбаршчыкаў) — Выканаўчаму камітэту. Кантрольныя функцыі паводле праграмы належалі так званаму Цэнтральнаму камітэту, таксама выбарчаму органу, які павінен быў сачыць за адпаведнасцю жыцця галоўным сямі прынцыпам. Праграма адстойвала ўласнасць на зямлю — «Пляцы перадаваць ва ўласнасць сялянам, рабочым і служачым без выкупу...» Партыйныя дакументы дакляравалі бясплатную адукацыю дзяцей да 5 класаў, свабоду веравызнання. І яшчэ Франц Татур запісаў і падкрэсліў:

*«Ніхто не мае права пазбавіць чалавека радзімы. Ніхто, нават дзяржава».*

Так азваўся боль сасланых...

У 1930 годзе зноў на расійскую Поўнач, за Урал і шмат яшчэ куды паехалі ахвяры калектывізацыі. У лютым 1930 года далёка ад Ганутава апынуліся браты Аляксандр і Мікалай Старжынскія, выслалі некалькі сем'яў з Рэпішча, у тым ліку і Захарэвічаў. Напалову апусцелі вёскі Уборак і Тысячная Града.

З ліпеня 1931 года ў Пухавіцкім і Асіповіцкім раёнах сталі з'яўляцца ўлёткі антысавецкага контррэвалюцыйнага зместу. Улёткі заклікалі актыўна супрацьдзейнічаць арганізацыі калектыўных гаспадарак, у якіх аўтары звароту бачылі толькі фармальны сродак для ажыццяўлення галоўнай задумы ўладаў — пазбаўлення сялянства зямлі і ўсталявання новага прыгоннага права.

Адпаведныя дзяржаўныя органы адрэагавалі хутка. У небяспечнай мясцовасці з'явіўся следчы Лісоўскі, які доўгі час рабіў выгляд, што шукае золата. Пастанова па агентурнай справе «Грачи» аб арышце 150 чальцоў арганізацыі (27 чалавек толькі з Рэпішча) выйшла 5 мая 1932 года. Хваля арыштаў пракацілася па вёсках Ганутава, Высокая Старына, Зафранцузская і Французская Грэблі, Падкоссе, Суціна, Блужскі Бор, Малінаўка Пухавіцкага раёна, Турная Гара Чэрвеньскага раёна, у шмат якіх вёсках Асіповіцкага раёна, у мястэчку Пухавічы. 22 мая 1932 года быў затрыманы Віктар Замбржыцкі. Яго як «польского шпиона ожидал расстрел». Ён спрабаваў скончыць жыццё самагубствам — не атрымалася. Шраговыя сябры партыі былі асуджаны на дзесяць год папраўча-працоўных лагераў. Але амаль усё жыццё правялі ў заключэнні. Раманоўскі Аляксандр Міхайлавіч з Турнай Гары быў арыштаваны ў 1932 годзе, атрымаў тэрміну дзесяць год, апынуўся спачатку ў Марыінску, потым у Паўночнаўсходнім лагеры ў Магадане. На волю выйшаў у 1947 годзе. У студзені 1949 быў арыштаваны зноў па справе сумнавядомай «Працоўнай сялянскай партыі» («Трудовой крестьянской партии» — ТКП). І зноў этапам у Новасібірск...





У 1952 годзе ў пракуратуру са скаргай звярнуўся Антон Паскробка, былы селянін з вёскі Зацітава-Слабада Пухавіцкага раёна:

*«Уже 20 лет я несу незаслуженное наказание. Имею возраст 60 лет и очень плохое состояние здоровья. Прошу понять моё старческое положение, пересмотреть дело... Дайте возможность отвезти старые кости на родину, здесь в высылке некому досмотреть, а на родине три дочки».*

У пераглядзе справы было адмоўлена, так і памёр стары ў пасёлку Рагаўскія Грывы Новасібірскай вобласці.

Жорстка былі пакараны гэтыя людзі за тое, што паспрабавалі супрацiўляцца бязглуздай авантурнай палітыцы сацыялістычнай «перабудовы» вёскі. Аналізуючы падзеі 1920-х гадоў на Ігуменшчыне, можна прыйсці да высновы, што ў гэты час пратэст меў арганізаваны і аформлены характар. Напрыканцы дзесяцігоддзя настроі мясцовых людзей кардынальна не змяніліся. Але, хутчэй за ўсё, стыхійнае абурэнне сялян дапамаглі аформіць спецслужбы, якія, выкрываючы «новыя арганізацыі» ў небяспечных мясцінах з баявым мінулым, выкаранялі любыя праявы незадаволенасці Саветамі.

## Крыніцы. Заўвагі

1. *Архіў КДБ РБ. Крымінальная справа Ф. Татура, В. Замбржыцкага і іншых (усяго 95 чалавек).*
2. *У выніку рэпрэсій у 1931 г. шляхты засталося менш за 30% ад агульнай колькасці насельніцтва.*
3. *Архіў КДБ РБ. Крымінальная справа П. Доўнара.*
4. *Тамсама. Крымінальная справа Ул. Гаркавенкі.*
5. *Тамсама. Крымінальная справа Т. Жылінскага.*
6. *Тамсама.*
7. *НА РБ, ф. 60, воп. 3, спр. 827, арк. 34.*
8. *Тамсама, спр. 826, арк. 11.*
9. *Звезда. 18 снежня 1920 г.*

10. *Архіў КДБ РБ. Назіральная справа Т. Жылінскага.*
11. *Таксама каля вёсак Дубрава, Усохі, Рэпішча, Язвіна. Архіў КДБ РБ. Крымінальная справа К. Сямёнава.*
12. *Тамсама.*
13. *Тамсама. Крымінальная справа Ул. Гаркавенкі.*
14. *Тамсама. Крымінальная справа М. Яськевіча.*
15. *Тамсама. Крымінальная справа П. Старжынскага.*
16. *Тамсама. З дадзеных контрвыведкі асобнага аддзела 8-й дывізіі.*
17. *Звязда. 19 чэрвеня 1921 г.*
18. *Тамсама.*
19. *Архіў КДБ РБ. Крымінальная справа Ф. Татура... С. Паўлоўскі быў арыштаваны ў 1923 г. Нейкі час чэкісты выкарыстоўвалі яго ў сваіх мэтах. Менавіта ён дапамог выманіць Б. Савінкава з-за мяжы. Застрэлены пры спробе ўцячы.*
20. *Тамсама.*
21. *ДА РФ, ф. 6990, воп. 1, спр. 12, арк. 10.*
22. *Архіў КДБ РБ. Крымінальная справа Ф. Татура.*
23. *Тамсама.*
24. *Тамсама.*


ЧАСТКА V

# Беларускі тэрарыст узору 1927 года

## Барыс Каўэрда

Гэта тэрарыстычная гісторыя — адна з шэрагу самых гучных гісторый XX стагоддзя. Яна доўга не знікала са старонак прэсы еўрапейскіх краін яшчэ некалькі год пасля стрэлу Барыса Каўэрды на варшаўскім вакзале 7 чэрвеня 1927 года. Пра яе не забыліся ні ў 30-я, ні ў 40-я ваенныя гады.

Савецкаму чытачу добра знаёмае імя ахвяры тэракта, вернага бальшавіка-ленінца Пятра Войкава, які менавіта ў апошняй якасці ўвайшоў у савецкія падручнікі і энцыклапедыі. Але мінула крыху больш за 70 год, і ў сувязі з перазахаваннем царскай сям'і расійскае грамадства ўжо з ганьбаю ўспомніла камісара Войкава як аднаго з забойцаў манаршых асобаў.

Выпадкова ці не, але ў 1998 годзе імя Каўэрды прагучала ў адной з мінскіх кватэр, гаспадыня якой, 90-гадовая Зоя Апанасаўна Грыц вучылася разам з Барысам у Беларускай віленскай гімназіі ў першай палове 1920-х гадоў. «Усхваляваныя навіною з Варшавы, навучэнцы збегліся да будынка гімназіі, — узгадала карціну мінулага спадарыня Грыц, — і горача загаманілі, выказваючы розныя думкі аб прычынах учынку свайго сябра».

Трэба ўлічваць, што забойства савецкіх прадстаўнікоў, як акт пратэсту супраць камуністычнага рэжыму, у 1920-я гады было даволі распаўсюджанай з'явай. Але ў дадзеным выпадку віленчукоў узрушыла пытанне, чаму тэракт здзейсніў чалавек з іхняга асяродку, знаёмы хлопец, сын вядомай усім беларусам у Вільні міласэрнай пані Ганны, загадчыцы беларускага сіроцкага прытулку.

І сапраўды — чаму? Пытанне тады і цяпер вельмі няпростае.

Інтарэс да гісторыі тэракта, у выніку якога загінуў паўнамоцны прадстаўнік СССР у Варшаве Пётр Войкаў, быў настолькі вялікім, што ў асабістых архівах такіх палітычных дзеячаў той эпохі,

як В. Мілюкоў, В. Бурцаў, Б. Савінкаў, адклаліся цэлыя стосы дакументаў і публікацый пад назваю «Справа Барыса Кавэрды». (Цяпер яны захоўваюцца ў адпаведных фондах аддзела белай эміграцыі Дзяржаўнага архіва РФ у Маскве.)

Адразу пасля працэсу з'явілася кніга з матэрыяламі следства і суда, а потым і яе рускі пераклад з дадаткамі вядомага ў той час журналіста Сяргея Вайцахоўскага. Наўрад ці інтарэс гэтага чалавека, у мінулым атамана, да асобы юнага тэрарыста быў выпадковым.

Невядома, па плану ці па збегу абставін малодшы брат журналіста Юрый Вайцахоўскі праз год пасля падзеі ў Варшаве паўтарыў учынак Кавэрды. Як пісала эмігранцкая газета «Руль», «напружаная нянавісць, якая ніколі не сціхала, выбухнула тэрарыстычным актам». Бацьку братоў Вайцахоўскіх — карнілаўскага афіцэра — забілі ў кіеўскай ЧК. У траўні 1928 года Юрый Вайцахоўскі прыехаў у Варшаву з намерам забіць савецкага паўнамоцнага прадстаўніка Кацюбінскага, але намер не здзейсніў. Выпадковай ахвярай стрэлу Вайцахоўскага стаў клерк савецкай амбасады, нехта А. Лізараў. Яшчэ не скончыцца тэрмін зняволення малодшага брата, як рука тэрарыста з ломам апусціцца на галаву старэйшага — Сяргея, аўтара кнігі пра Кавэрду.

Гэты тэрарыстычны ланцужок пляцецца на фоне ўзрушанай Еўропы 1920—30-х гадоў, якая, па сутнасці, і не выходзіла са стану грамадзянскага супрацьстаяння, пакуль не абрынулася ў Другую сусветную вайну.

Традыцыйна ў былой Расійскай імперыі ўплыў ідэй тэрору быў вельмі вялікім. Суіснавалі і развіваліся розныя версіі тэрарызму: народавольская, эсэраўская, анархісцкая, бальшавіцкая, антыбальшавіцкая і іншыя. Ажыццяўляліся розныя віды гвалтоўных актаў: выбухі, забойствы, экспрапрыяцыі (эксы), захопы транспартных сродкаў, закладнікаў і г. д. Іх не цураліся не толькі эсэры і анархісты, але нават і сацыял-дэмакраты. Не асуджалі іх да пэўнага часу і лібералы.

«...Прынцыпова мы ніколі не адмаўляліся і не можам адмаўляцца ад тэрору», — выказаўся на гэты конт правадыр Кастрычнікай рэвалюцыі Ленін.

І сапраўды, тэрор у СССР быў адным з актыўных, калі не галоўных сродкаў дзяржаўнай палітыкі. Бальшавікі крывадушна ганьбілі гэты сродак барацьбы, але антысавецкія эмігранты





былі заўсёды аб'ектам забойства. Такія гісторыі даволі вядомыя. А шляхам масавага тэрору сталінскі рэжым знішчыў мільёны людзей у былой савецкай краіне; час той засведчыў, што грамадства прызвычаілася да гвалту, насілля. Забойства ўспрымалася як нармальны сродак барацьбы.

Аднак і тыя, хто змагаўся з савецкай уладаю, для каго грамадзянская вайна яшчэ не скончылася, разглядалі тэрор як інструмент умацавання ідэалу, а не толькі як сродак падаўлення, запалохвання і помсты. Яны былі ўпэўнены, што добра арганізаваная група людзей можа дасягнуць мэты, якой бы неверагоднай яна ні здавалася б спачатку.

7 чэрвеня 1927 года ў 9 гадзін раніцы пасланнік СССР у Польшчы Пётр Войкаў у суправаджэнні супрацоўніка амбасады Юрыя Грыгаровіча прыбыў на галоўны вакзал Варшавы для сустрэчы паўнамоцнага прадстаўніка ўрада СССР у Лондане Аркадзя Разенгольца. Сустрэўшыся, абодва рушылі ў чыгуначны буфет піць каву, а потым выйшлі на перон да хуткага цягніка, які адыходзіў з Варшавы ў 9 гадзін 55 хвілін. Гэтым цягніком Разенгольц накіроўваўся у Маскву. У той момант, калі пасланнік Войкаў і Разенгольц знаходзіліся каля спальнага вагона, выбухнуў стрэл. Страляў невядомы мужчына. Войкаў адскочыў і кінуўся бегчы, нападаючы страляў яму ўслед.

У адказ на гэта Войкаў выхапіў з кішэні рэвальвер і некалькі разоў стрэліў у нападаючага, затым нахіліўся і ўпаў на рукі паліцыянта.

Нападаючы добраахвотна здаўся ў рукі паліцыі. Заявіў, што ён Барыс Кавэрда і што страляў, маючы на мэце забіць Войкава — пасланніка СССР, з тым, каб адпомсціць за Расію, за мільёны людзей. Войкаў пасля аказання яму медыцынскай дапамогі на вакзале быў пераведзены ў шпіталь Немаўляці Ісуса. Ў 10 гадзін 40 хвілін у той самы дзень ён памёр у прысутнасці міністра замежных спраў Польшчы Залескага, які наведаў шпіталь ад імя польскага ўрада.

Са шпіталя цела нябожчыка было перавезена ў расійскае прадстаўніцтва, якое выкарыстала гэты выпадак для арганізацыі ў Варшаве камуністычнай дэманстрацыі. На працягу двух дзён труна з целам была выстаўлена ў зале прадстаўніцтва.



**Амбасада СССР у Варшаве. 1927 г.**





Польскі ўрад выказаў удаве Войкава і ўраду СССР спачуванні і выканаў усе фармальныя абавязкі, звязаныя з наяўнасцю дыпламатычных адносінаў паміж Польшчай і Расіяй.

10 чэрвеня труну перавезлі на Варшаўскі вакзал і адтуль адмысловым цягнікам — у Маскву. За трunoю па вуліцах Варшавы ішлі ўсе мясцовыя камуністы, прадстаўнікі дыпкорпуса Расіі і Польшчы, польскага ўрада, а таксама аддзел польскага войска, які адначасова аддаваў знакі вайсковай пашаны і ахоўваў парадак настолькі жорстка, што працэсія ішла па абсалютна пустых вуліцах.

Нягледзячы на праявы афіцыйнага шкадавання, амаль усе газеты засведчылі сімпатыі польскага грамадства, якія выклікаў Барыс Кавэрда сваёй маладосцю і патрыятызмам. Яму даравалі палітычныя складанасці, выкліканыя яго ўчынкам.

Хто быў гэты малады чалавек, які ў тыя чэрвеньскія дні стаў цэнтрам увагі ўсіх сродкаў масавай інфармацыі, палітыкаў рознага колеру і памераў, пісьменнікаў, грамадскіх і нават фашысцкіх арганізацый? Чаму лёс звёў яго ў смяротным паядынку з прадстаўніком іншага свету і маралі?

Са справы Барыса Кавэрды.

*«Стрелял в Войкова Борис Коверда, 19-ти лет, ученик гимназии Русского общества в Вильно, который был допрошен в качестве обвиняемого и признал себя виновным в сознательном убийстве посланника Войкова и заявил, что он, противник существующего в России социального и политического строя, решил убить последнего, как представителя этой власти в России. Ранее он имел намерение выехать в СССР с тем, чтобы принять активное участие в борьбе против советского режима. За разрешением на выезд он обратился в представительство СССР в Варшаве. Когда ему отказали в его просьбе, он решил осуществить акт наказания и мести в Варшаве. При этом уже на первом допросе еще в помещении вокзала, куда съехались все представители судебной, полицейской и административной власти Польши, Коверда засвидетельствовал, что с посланником Войковым он никогда не разговаривал, никаких претензий к нему лично не имел, к политическим организациям не принадлежал и свой поступок осуществил самостоятельно».*[1]

Безумоўна, ні адзін з палітычных бакоў не паверыў заявам маладога тэрарыста. Яшчэ ў 1924 годзе, пасля прызначэння

паўнамоцным прадстаўніком Войкава ў Варшаву, у заходнім друку з'явіліся пагрозы белаэмігрантаў-манархістаў знішчыць царскага забойцу. І сапраўды, Пётр Войкаў, у сваім юнацкім мінулым Навум Вейкін, меў зусім непрывабную для еўрапейскага абывацеля біяграфію. Вельмі рана ён далучыўся да рэвалюцыйных спраў. 2 сакавіка 1906 года яго малодшы брат скончыў жыццё самагубствам.

Наступным днём дырэктар Керчанскай гімназіі, дзе вучыліся браты, перад строем гімназістаў зняў парэзаны ўздоўж парадны партрэт Мікалая II. У разрэзе тырчэла запіска: «Нікога не вінавацце, гэта зрабіў я». І подпіс самазабойцы. Ці ведаў у гэты момант старэйшы брат, стоячы ў шэрагах вучняў, што спрычыніцца да сапраўднага знішчэння цара Мікалая II і яго сям'і? Але адразу ўстаў на тэрарыстычны шлях.

Пасля таго як загінуў брат, Пётр прыняў удзел у замаху на ялцінскага граданачальніка генерала Думбадзе. Баевікі збіраліся ўзарваць памяшканне паліцэйскага пастарунку, калі туды прыбудзе генерал, аднак акцыя правалілася. Як заўсёды, знайшоўся правакатар, і герояў пачала шукаць паліцыя. Войкаў змог выехаць у Швейцарыю, дзе скончыў фізіка-матэматычны факультэт і пазнаёміўся з Леніным. У траўні 1917 года другім «пламбіраваным вагонам» разам з Мартавым і Луначарскім ён вяртаецца ў Расію. У жніўні афіцыйна ўступае ў партыю бальшавікоў. Расійская кастрычніцкая смута застае яго ў Самарскім гарнізоне. Гарнізон камандзіруе яго ў Петраградскі савдэп. Тут ён стане вядомы сваёй прамоваю ў першым кулямётным палку, — прамова скончылася масавым збіццём салдатамі афіцэраў.

Потым Войкаў паступіць у асабістае падначаленне Свярдлова і заменіць апошняга на яго пасадзе ў Екацярынбургу. Пры яго актыўным удзеле спецыяльны камісар з мандатам Леніна В. Якаўлеў (Мячын) перавёз сям'ю Мікалая II з Табольска ў Екацярынбург.

Мінулае Войкава шырока выплюхнулася на старонкі эмігранцкай прэсы ў чэрвеньскія дні 1927 года падчас следства і суда над маладым мсціўцам. Амаль усе газеты цытавалі старонкі кнігі судовага следчага па асабліва важных справах Мікалая Сакалова «Забойства царскай сям'і», якая выйшла ў Берліне ў 1925 годзе: «17 ліпеня 1918 г. у аптэчную краму Екацярынбурга зайшоў





служачы камітэта забеспячэння Зімін і ад імя абласнога камісара Войкава прад'явіў ліст наступнага зместу:

*«Предлагаю быстро без всяких оговорок и задержек выделить с Вашего склада пять пудов серной кислоты предъявителю сего. Областной комиссар обеспечения Войков».*

Кіслата Зіміну была выдадзена. Копія патрабавання Войкава змешчана на фота за № 78 у кніжцы Сакалова.

*«Комиссар Войков... всегда отличался своей склонностью к театральным жестам, глупостям и излишней болтовне, особенно среди дам. В таком кругу его однажды спросили о судьбе царской семьи. Он, надувшись, ответил: «Мир никогда и не узнает, что мы сделали с ними»»* (с. 249).



П. Войкаў (Н. Вейкін)

Тым не менш свет даведаўся, і ката не абмінуў лёс ахвяры.

На самым пачатку 1924 года Саветы спрабавалі накіраваць Войкава прадстаўніком у Канаду. У той час яна лічылася дамініёнам Вялікабрытаніі. Але ангельскі кароль Георг V быў кузенам Мікалая II. Войкаву адмовілі ў агрэмане, назваўшы «царазабойцам». Тады Саветы згулялі інакш, прызначыўшы новаспечанага дыпламата ў Польшчу. Аднак і польскі ўрад, перш як даць згоду на гэта прызначэнне, патрабаваў публічна пацвердзіць няўдзел Войкава ў расстрэле царскай сям'і. Народны камісар Чычэрын адказаў, што «Войкаў — чалавек неваенны, не меў адносінаў да выканання прысуду».

Палякі, безумоўна, удзячныя бальшавікам за Рыжскі падзел, з вялікаю неахвотаю, але ж пагадзіліся.

У кастрычніку 1924 года Пётр Войкаў прыехаў у Варшаву і прад'явіў Пілсудскаму вярыцельныя граматы. Тут ён апынуўся ў атмасферы жыцця, якое адпавядала яго густу. Прыёмы, шмат прыгожых і даступных пані і паненак... Паводле сцвярджэнняў сучаснікаў, Войкаў у самы цяжкі і галодны час вылучаўся

дэманстратыўным франтаўством. Ён заўсёды насіў брыджы з шаўковымі панчохамі і шчодра паліваў сябе французскім адэкалонам. Маласімпатычны партрэт новага пасланніка дапаўняла яго жонка, у мінулым дачка капялюшніка Роза Лімонік, падчас службы мужа ў Екацерынбургу сумнавядомая забойца ЧК па мянушцы Кветка (Цветок).

Безумоўна, еўрапейскае грамадства было абурана з'яўленнем у Варшаве гэтай жахлівай пары. Незадаволенасць і пагрозы дэманстравалі тагачасныя газеты.

Гэты стомлены ад бальшавіцкага аскетызму былы камісар выклікаў сваімі паводзінамі незадаволенасць самога Сталіна. Тым больш што дазволіў сабе ўмяшацца ў справу савецкай замежнай выведкі, паклаўшы вока на прыгожую эфектную жанчыну і вопытную выведчыцу, засланую ў Польшчу, М. Скакоўскую. Кветкі, падарункі, візіты савецкага дыпламата да прыгажуні не пакінула па-за ўвагаю польская дэфензіва. Выведчыцу Войкаў праваліў, а разам з ёю правалілася і ўся агентурная сетка. Пасля тэрміну ў вязніцы Скакоўскую дэпартавалі ў СССР, а потым, як было заведзена, без перасадкі яна апынулася ў ГУЛАГу.

За маральнае разлажэнне партыйныя кантралёры Яраслаўскі і Сольц выключылі «старога бальшавіка» Войкава з партыі і рэкамендавалі Наркамату замежных спраў адклікаць яго з пасады паўнамоцнага прадстаўніка. Але пакуль варочалася партыйна-наркамаўская бюракратычная машына, грымнуў стрэл Кавэрды.

26 траўня 1927 года Чэмберлен разарваў дыпламатычныя дачыненні з СССР і выслаў з краіны ўсіх савецкіх дыпламатаў. Высланы з Лондана Разенгольц ехаў праз Варшаву. Каб сустрэцца з калегам, на вакзал прыехаў Пётр Войкаў. Тут сустрэў ён і сваю смерць.

Але ж стрэл Кавэрды выратаваў рэпутацыю Войкава. Усё закруцілася ў адваротны бок. У Варшаву паляцелі пагражальныя ноты з патрабаваннем выдаць забойцу «палымянага рэвалюцыянера». Акцыя Кавэрды разглядалася як праява сістэмнай і планавай барацьбы англійскага і польскага імперыялізму. Другая нота ўзгадвала генерала Булак-Балаховіча і іншых змагароў з саветамі, якія, нягледзячы на Рыжскую дамову, не былі высланы з Польшчы.

Наркам замежных спраў Літвінаў патрабаваў дапусціць да следства новага паўнамоцнага прадстаўніка СССР у Польшчы Ульянава.





нава. Загадам па Наркамаце замежных спраў была аб'яўлена двухтыднёвая жалоба. 11 чэрвеня Войкава хавалі ў Маскве, сабраўшы стотысячны натоўп. Гаварыліся прамовы пра «гідру сусветнай контррэвалюцыі», «непахіснага бальшавіка» і г. д.

Імя Войкава атрымала вуліца і металургічны камбінат у Керчы, сяло ў Крыму, заводы і параход, станцыя метро ў Маскве, шматлікія калгасы і саўгасы, у тым ліку і ў Беларусі.

Не дзіўна, што на гэтым фоне фальшывага героя па-за ўвагаю савецкага чытача засталася галоўная дзеючая асоба тэракта. Савецкія энцыклапедыі і падручнікі ўзгадвалі «белагвардзейца



***Войкаў і Чычэрын. Здымак 1925 г.***

і белаэмігранта» Кавэрду. Дарэчы, ні першым, ні другім ён не быў. Як не быў і фігураю выпадковаю ў гэтай гісторыі.

*Са справы Барыса Кавэрды.* Пратакол судовага пасяджэння ад 15.06.1927 года. Надзвычайны суд у Варшаве. Старшыня суда — I. Гумінскі, пры ўдзеле пракурора К. Рудніцкага. Адвакаты: Павел

Андрэеў, Марыян Нядзельскі, Францыск Пасхальскі, Мечыслаў Эцінгер. Пасяджэнне адкрылася ў 10 гадзін 45 хвілін.

*Агульная карціна суда.* З раніцы будынак суда акружаны натоўпам. Аддзелы паліцыі вельмі слабыя, каб яго стрымаць. Выклікалі дапамогу. Некалькі дам з букетамі кветак. Прыехала мадам Арцыбашава, жонка вядомага пісьменніка. Зала перапоўнена. Прысутнічаюць прадстаўнікі польскай адміністрацыі, суда, пракуратуры, паліцыі. Руская эміграцыя прадстаўлена невялічкімі групкамі на чале з кіраўніком Расійскага камітэта ў Варшаве панам Сямёнавым. Прысутнічала таксама некалькі бальшавікоў з прадстаўніцтва СССР на чале з новым кіраўніком Ульянавым. Сярод сведак — таксама бальшавік, «завхоз» прадстаўніцтва Грыгаровіч. Адказваючы, ён злымі вачамі з-пад ілба разглядаў суд і публіку, якая не шкадавала заўваг у яго адрас, называючы «тыпова крымінальнаю асобаю».

Прысутнічала 120 прадстаўнікоў прэсы, у тым ліку «Правды» і «Известий», якія трымалі далёка ўбаку ад «буржуазнай прэсы». У зале былі таксама прадстаўнікі беларускіх грамадскіх арганізацый і беларускай прэсы, што, аднак, дружна не заўважылі ні рускія, ні польскія газеты.

Пад моцным канвоем Б. Кавэрду ўвялі ў залу суда. Ён адразу заваяваў сімпатыі сваёй усмешкай і выразам твару. У чыстай кашулі і сціплым гарнітуры ён выглядаў зусім хлопчыкам.

*«Падсудны Барыс Кавэрда, сын Сапрона і Ганны, нарадзіўся ў Віленскай губерні 21 жніўня 1907 года, праваслаўны, хрышчоны ў Індурскай царкве. Месца жыхарства — Вільня. Вучань гімназіі і служачы рэдакцыі штотыднёвіка «Беларускае слова». Судзімы раней не быў».*

Першае слова падсуднага:

*«Прызнаю, што забіў Войкава, але вінаватым сябе не лічу. Я застрэліў Войкава за ўсё тое, што здзейснілі бальшавікі ў Расіі. Асабіста я яго не ведаў».*

З паказанняў сведак: Марыян Ясінскі і Кастусь Дамброўскі, паліцэйскія, якія затрымалі Б. Кавэрду:

*«...быў абсалютна спакойны, сказаў: я адпомсціў за Расію, за мільёны людзей».*





Пры ім былі пісталет сістэмы «маўзер» без нумара з пустой абоймай, пісталет браўнінг № 80481 і абойма з патронамі, 4 патроны да маўзера.

Ганна Кавэрда:

*«Аб забойстве я даведалася з газет. Гэта было нечаканасцю. Барыс заўсёды быў ціхім і сціплым, добрым, рабіў усё, каб маці не пакутавала. Мы віленскія, жылі ў Вільні перад вайной. У 1915 годзе былі эвакуіраваны ўладамі ў Тамбоў, потым выехалі ў Самару, дзе жылі да 1920 года.*

*Я вярнулася ў Польшчу з дзецьмі, муж яшчэ заставаўся ў Расіі. Галоўным нашым апекуном і кармільцам быў Барыс. Ён працаваў у рэдакцыі «Беларускага слова», быў экспедытарам, а апошні час — і карэктарам...*

*Барыс шмат чытаў, па сваіх поглядах — дэмакрат. Веруючы. Тое, што ён бачыў у Самары, пакінула моцнае ўражанне. У той час мы жылі ў пасёлку Зубчанінскае Самарскай губерні. Яго праследавалі як буржуазнае дзіця. Бальшавікі зруйнавалі школу, у якой ён вучыўся, і царкву, здзекаваліся на вачах дзяцей над святаром, трымалі яго ў хляве. Сын маёй сястры быў там забіты бальшавікамі.*

*Расстралялі шмат знаёмых. Барыс быў сведкам разгула чрэзвычайкі».*

З паказання падсуднага. Барыс Кавэрда:



**Барыс Кавэрда. Здымак зроблен у Варшаве, у будынку суда ў дзень працэсу 15 чэрвеня 1927 г.**

*«Я быў сведкам злачынстваў, што здзяйснялі банды бальшавікоў. Па дарозе дамоў з Расіі ў Польшчу я шмат чуў пра ЧК. Я быў малы, але памятаю, што жыццё было іншым, быў нейкі парадак, а потым наступіў хаос... Я зразумеў, хто вінаваты ў тым, што людзі ператварыліся ў людажэрцаў».*

З прамовы абароны. Марыян Нядзельскі:

*«У Расіі бальшавікі запусцілі рухавік знішчэння. Па падліках С. Мельгунова, 1 700 000 чалавек забітыя толькі па распараджэнні ЧК. Ленін, Троцкі, Бухарын,*

*Дзяржынскі ўхваляюць масавыя забойствы, выказваюцца за тэрор як сродак распаўсюджання камуністычных ідэй. Чым адказала эміграцыя на масавы тэрор? У 1923 годзе Конрадзі забіў у Швейцарыі савецкага прадстаўніка Вароўскага. А Кавэрда — гэта маленькая трэсачка, прынесеная на хвалях мора крыві з усходу на захад».*

Супрацоўнік газеты «Грамадскі голас», у мінулым баевік, зялёнадубец Іўжэнка, вучань Беларускай віленскай гімназіі і сябра Барыса Сямён Захаронак і іншыя адзначылі, што ён у першую чаргу быў антыкамуністам. Увесь час меў канфлікты з гімназістамі камуністычных поглядаў. На судзе ўспаміналі эпізод, як Барыс выгнаў з памяшкання, дзе праходзіў з'езд Заходняй Беларусі, вучняў Саковіча і Салагуба, якія былі прыхільнікамі савецкай улады.



**Браўнінг Кавэрды**



**Пісталет сістэмы «маўзер» 1910 г.**

Дарэчы, менавіта Юльян Саковіч адыграў сваю жахлівую ролю ў жыцці ўжо згаданай упачатку Зоі Грыц. Ён угаварыў яе, тады зусім маладзенькую дзяўчыну, перайсці ў Савецкую Беларусь, «краіну агульнага шчасця». 15 год яна потым шукала гэта савецкае шчасце ў ГУЛАГу. І Зоя Апанасаўна была не адзінай ахвярай камуністычнай агітацыі вярбоўшчыкаў, агентаў, што працавалі сярод гімназістаў і студэнтаў. З гэтым злом Барыс спрабаваў змагацца, публічна выкрываючы бальшавіцкіх агітатараў. Нават такія газеты, як «Беларускія ведамасці», «Беларуская думка», ён лічыў блізкімі да савецкіх і дэманстратыўна пакінуў працу ў іх.

Такім чынам, глыбокае пачуццё нянавісці кіравала юнаком. Ён абраў нерацыянальны на першы погляд сродак барацьбы. Абмежаваць савецкую ўладу забойствам было немагчыма, паколькі яна сама шырока практыкавала знішчэнне людзей. Але гэта была





магчымасць для адзінокага змагара прыцягнуць шырокую ўвагу грамадскасці. І прамовы перад прэсай і ў судах былі не сродкам абароны, а публічным агалашэннем сімвала веры, давядзеннем да людзей сваіх перакананняў і жаданнем ускалыхнуць несправядлівы і няпраўдзівы свет.

Зразумела, тэракт без шырокага розгаласу — нонсенс. Людзі, выкарыстоўваючы індывідуальны тэрор для паскарэння жыццёвага працэсу і ўзбуджэння народа, у першую чаргу разлічваюць на публічны эфект. І не памыляюцца. Тэрор, як сведчыць гісторыя Б. Кавэрды, не толькі эфектны сродак вырашэння палітычных задач, ён яшчэ і вельмі эфектны. Тэрарысты — самыя натхняючыя постаці ў гісторыі рэвалюцый, контррэвалюцый і пераваротаў. Самаахвярнасць гэтых людзей, як правіла, надоўга замацоўваецца ў свядомасці грамадства і раз-пораз усплывае на хвалях гістарычнай непарыўнай памяці.

Не апошнюю ролю ў выбары сродку барацьбы адыграў ахвярны матыў. Барыс паходзіў з беларускай сям'і і рана спрычыніўся да беларускай справы. І бацька, і маці мелі пэўную палітычную і грамадскую біяграфію і вядомасць у беларускіх і рускіх эмігранцкіх колах.

Маці, пані Ганна, была загадчыцай беларускага прытулку для дзяцей-сірот у Вільні. Дзве яе дачкі і сын былі навучэнцамі Беларускай віленскай гімназіі, і толькі ў 7-м класе Барыс перайшоў у гімназію Рускага грамадства, патлумачыўшы свой пераход фінансавымі цяжкасцямі (на самай справе — з-за канфліктаў з вучнямі, што сімпатызавалі саветам). Як засведчыла пані Ганна на судзе:

*«Мы былі рускімі па культуры, але Беларусь ніколі часткай Расіі намі не лічылася».*

Бацька быў больш дакладным:

*«Я — беларус і жонка таксама. Дома мы гаворым па-беларуску, па-польску і па-руску».*

Сапрон Кавэрда паходзіў з сялян Бельска-Падляшскага павета Гродзенскай губерні. Падчас Першай сусветнай вайны быў цяжка паранены пад Смаргонню. На працягу чатырох месяцаў лячыўся ў Маскве, там назіраў кастрычніцкі пераварот. Быў мабілізаваны ў Чырвоную армію, але ўцёк і перайшоў мяжу ў раё-

не Нясвіжа. Яшчэ да вайны — актыўны сябра партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. У 1922 годзе быў галоўным рэдактарам газеты «Крестьянская Русь», якую фінансаваў Барыс Савінкаў. Некаторыя дакументы з архіва КДБ РБ (дакументы замежнага аддзела АДПУ, агентурныя дадзеныя) сведчаць аб пільнай увазе савецкіх спецслужбаў да гэтай постаці. У 1924—1925 гадах Кавэрда-старэйшы актыўна займаўся вярбоўкай баевікоў-добраахвотнікаў у «Зялёны Дуб». Такім чынам, беларуская справа была сямейнаю справаю Кавэрдаў.

Руская белая эміграцыя прыклала шмат намаганняў, каб зрабіць з малодшага Кавэрды сапраўднага патрыёта Расіі, усяляк падкрэсліваючы яго быццам бы рускае паходжанне і прыналежнасць да праваслаўя.

Відавочна, што гэта самае мелі на мэце давесці і аўтары шматлікіх артыкулаў у эмігранцкіх газетах «Возрождение», «Руль», «Русь», «За свободу», якія падрабязна асвятлялі ход следства, судовага працэсу, біяграфію тэрарыста і абставіны здарэння. Журналісты рускіх выданняў навязліва цікавіліся, на якой мове размаўлялі ў сям'і Кавэрдаў, кім сябе лічылі сямейнікі, чаму дома карысталіся польскай, беларускай і рускай мовамі. Ужо ўзгаданы журналіст Сяргей Вайцахоўскі, дарэчы, беларускага паходжання, але рускі нацыяналіст па перакананнях, так патлумачыў беларускасць Кавэрдаў:

> *«Отец и мать Бориса разошлись. Мать была в тяжелом материальном положении и, возможно, искренне, а возможно, больше в поисках заработка, перастала называть себя русской, а стала называть себя белорусской. Именно она отдала Бориса в 3-й класс Белорусской гимназии. Он очутился в среде, в которой русское имя не пользовалось ни любовью, ни уважением» («Возрождение», 23 июня 1927 г.).*

Мякка кажучы, смешнае тлумачэнне. Беларускай справе аднолькава не спрыялі ні польскія акупацыйныя ўлады, ні рускія вялікадзяржаўнікі. Нацыянальнае самавызначэнне ніякім чынам не садзейнічала паляпшэнню матэрыяльнага становішча Ганны Кавэрды. Хутчэй наадварот.

Эмігранцкае вядомае выданне «Руль» пастаралася пазбегнуць тэндэнцыйнасці ў гэтым далікатным пытанні і спаслалася на матэрыялы следства:





> *«Каверда на допросе заявил, что ён не является русским эмигрантом, а ощущает себя беларусом» («Руль», 11 июня 1927 г.).*

Польскія крыніцы сведчылі, што малады тэрарыст — сын полькі і рускага, нягледзячы на тое, што Сапрон Кавэрда ўвесь час падкрэсліваў сваю беларускасць, а пані Ганна ніколі не лічыла сябе полькай. Трэба сказаць, што пытанне аб нацыянальнай прыналежнасці Б. Кавэрды паўстала зусім не выпадкова. Адчуваецца, яно было вельмі няпростым і балючым для маладога чалавека. Адзін з аглядальнікаў судовага працэсу адзначыў стрыманасць і невыразнасць пытання нацыянальнасці і мовы падсуднага і патлумачыў гэта асаблівымі мясцовымі ўмовамі. Пад «мясцовымі ўмовамі» ён меў на ўвазе гнюсную практыку ўлад абвінавачваць беларускую апазіцыю ў сімпатыях да бальшавіцкага рэжыму. Польская акупацыйная прапаганда ілжыва сцвярджала, што беларус — гэта абавязкова камуніст.

На самай справе антыдэмакратычная антыбеларуская палітыка польскіх улад забяспечвала хуткі рост антыпольскіх настрояў сярод беларускага насельніцтва і вымушала беларускую апазіцыю шукаць сабе саюзнікаў нават у камуністычных колах.

З другога боку — беларускі рух, да якога спрычыніўся малады Кавэрда, перажываў не лепшыя часы. Беларуская антысавецкая апазіцыя дэманстравала слабасць, адсутнасць адзінства, буйныя палітычныя памылкі і паражэнні.



Барыс Кавэрда.
Здымак 1937 г.

Гэта і рашэнні Берлінскай канферэнцыі аб прызнанні БССР адзінай і легітымнай формай беларускай дзяржаўнасці, і ад'езд у БССР некаторых вядомых беларускіх дзеячаў, і наяўнасць некалькіх супрацьлеглых плыняў у беларускім лагеры: паланафільскай, прарасійскай, пракамуністычнай. Па сутнасці, прынілася баявая дыверсійная дзейнасць беларускіх арганізацый.

Маладосць не паважае слабасць і свой выбар робіць, якправіла, на карысць сілы. Да таго ж юнака ўвесь час палівалі брудам

беларускія газеты, якіх падтрымоўваў афіцыйны Мінск. Былі сур'ёзныя падставы, каб пакінуць беларускі рух.

Учынак Барыса быў выклікам недальнабачнасці і баязлівасці дарослых, але не сталых палітыкаў, пратэстам супраць фатальнай асуджанасці. Ён засведчыў усю глыбіню расчаравання і болю маладых. Гэта была спроба ператварыць слабасць у моц, надаць акту забойства характар сацыяльна-гістарычнага ахвяравання.

Да канца чэрвеня 1927 года быў вядомы прысуд. Нягледзячы на тое што абаранялі Кавэрду лепшыя юрысты Польшчы, ён атрымаў па максімуму — 15 год турэмнага зняволення. Яшчэ адзін рэверанс удзячнай Польшчы ў бок бальшавіцкай Расіі.

Амністыя дазволіла скараціць тэрмін да 10 год. Апошнія звесткі пра беларускага тэрарыста далі еўрапейскія газеты ў жніўні 1931 года, спасылаючыся на сведчанне дэпутата Сейма Станіслава Мацкевіча. Барыс Кавэрда спрабаваў скончыць жыццё самагубствам. Пасля чатырох год ізаляцыі, у стане глыбокай дэпрэсіі перарэзаў сабе вены на руках, але быў выратаваны.

Тым не менш Кавэрда пражыў не малы век, пасля выхаду з польскай турмы настойлівымі намаганнямі рускай эміграцыі перайшоў на бок расійскага антысавецкага руху.

Памёр у Злучаных Штатах Амерыкі ў лютым 1987 года.[2]

### Крыніцы. Заўвагі

1. *Тут і далей цыт. па: С. В. «Убийство Войкова и дело Бориса Коверды». Париж. 1927.*
2. *Беларускі голас. 1987. Травень. № 334 (Таронта).*

# ДАДАТАК

## Матэрыялы і дакументы

Беларуская гісторыя, асабліва савецкага часу, амаль бязлюдная. Шмат імёнаў было пад забаронаю. Учынкі, падзеі замоўчваліся. Творы знішчаліся. Таму вельмі важна для разумення той эпохі ўзнавіць імёны ўдзельнікаў падзей, носьбітаў ідэй і перакананняў, адчуць подых часу праз палітычныя дакументы і літаратурныя творы.

Спіс паўстанцаў (першым яго пачаў аднаўляць прафесар А. Грыцкевіч) складаўся на падставе шматлікіх крыніц. У першую чаргу трэба было ўшанаваць памяць случакоў, што змагаліся за незалежную Бацькаўшчыну. Слуцкая падзея вызначыла лёс шмат тысячаў людзей: у адных забрала жыццё адразу, на полі бою, іншых прымусіла пакінуць бацькоўскую хату — хто застаўся ў Польшчы, хто быў сасланы на Поўнач ці ў Сібір. І мала хто вярнуўся. Насельніцтва мяцежнай мясцовасці ў 1920—30-я гады амаль цалкам змянілася. Падчас святкавання 74-х угодкаў паўстання ў Грозаве тыя, што прыйшлі на свята, пацвердзілі гэтую выснову. Прозвішчаў добраахвотнікаў, што запісваліся ў Грозаўскі полк, яны не ведаюць. Старэйшыя ўспаміналі, што некаторых з узгаданых сем'яў выслалі яшчэ ў 30-я гады. Толькі адзінкі вярнуліся пасля вайны. Таму наш спіс, на жаль, далёка не поўны.

Гэта толькі частка людзей, імёны якіх захаваліся ў памяці сваякоў (вельмі нямнога) і ў архівах: Нацыянальным архіве РБ, Дзяржаўным архіве Мінскай вобласці, Беларускім дзяржаўным архіве музыкі, літаратуры і мастацтва, у крымінальных справах КДБ.

Інфармацыя аб героях розная і па змесце і па аб'ёме. У адных выпадках крыніцы захавалі толькі прозвішча, у другіх — месца і дату нараджэння, даныя аб маёмасным стане сям'і, адукацыйным узроўні, аб фінале жыцця.

Як бачым, удзельнікі падзеі, у асноўным, людзі маладыя, яны нарадзіліся ў апошняе дзесяцігоддзе XIX стагоддзя ці на самым пачатку XX. Значна менш тых, каму ў тым 1920-м было больш за 30. Гэта, у асноўным, палітычныя і ваенныя кіраўнікі. Яшчэ раз пераконваемся, што «контррэвалюцыю», як і рэвалюцыю, рабілі маладыя.

Пераважная бальшыня слуцкіх паўстанцаў — сяляне, як шараговыя, так і афіцэры, са Слуцкага і суседніх з ім паветаў. У асноўным небагатыя ці сярэдняга дастатку, уладальнікі 5—12 дзесяцін зямлі. Заможных, што мелі па 30—40 і болей дзесяцін зямлі, — адзінкі.

Такім чынам, ацэнка Слуцкага паўстання як «кулацкага» — няпраўдзівая. Колькасць прадстаўнікоў сярэдняга слою і служачых розных дзяржаўных устаноў, выкладчыкаў, настаўнікаў, гандляроў і прадпрымальнікаў у адносінах да асноўнай масы ўдзельнікаў невялікая. У шэрагах паўстанцаў — прадстаўнікі духавенства, шмат дзяцей святароў.

Назіраецца даволі высокі адукацыйны ўзровень удзельнікаў разглядаемых падзей. Сярод моладзі шмат навучэнцаў устаноў Слуцка, гімназіі, рэальнай і камерцыйнай вучэльняў, духоўных семінарый Мінска і Нясвіжа. Афіцэры, у асноўным, мелі за плячыма вайсковыя вучэльні. На светапоглядзе і паводзінах случакоў моцна адбілася Першая сусветная вайна, з франтоў якой дамоў яны прынеслі і паспрабавалі выкарыстаць багаты баявы і палітычны досвед. Цікава, што ў савецкі час шмат хто з былых мяцежнікаў скончыў ці вучыўся ў ВНУ.

Што да нацыянальнага складу Брыгады, дык няцяжка зрабіць выснову, што паўстанцы ў асноўным — беларусы. У некаторых выпадках імя і прозвішча даюць падставы думаць, што сярод іх былі палякі (беларусы-каталікі?), татары, яўрэі.

Як сведчаць архіўныя крыніцы, жыццёвы шлях большасці паўстанцаў пралёг праз ГУЛАГ. Савецкая ўлада не даравала нікому з мяцежнікаў. Першыя арышты і высылкі пачаліся ў 1921 годзе, але прысуды яшчэ не былі жорсткімі — не больш за 2 гады зняволення ці штраф. У другой палове 1920-х гадоў пачаліся даволі гучныя і шматлюдныя працэсы, тэрміны пакарання ўсё павялічваліся. У 1930-я гады мала хто змог пазбегнуць расстрэлу. За ўдзел у паўстанні ўлада судзіла па 2—3 разы. На знішчэнне былі асуджаны і сем'і.





Савецкая ўлада знішчала не толькі людзей, але і здабыткі іншай эканамічнай, палітычнай культуры, іншы светапогляд. Як з нябыту паўстаюць цяпер імёны, творы, палітычныя праграмы, лозунгі — арганічная частка той гісторыі.

## Удзельнікі паўстання

Абрамаў, афіцэр Брыгады.

Адамовіч Стэфан, шараговы Брыгады.

Аляхновіч Павел, шараговы 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

Андрусевіч Якуб, шараговы 1-га Слуцкага палка. Нарадзіўся ў 1891 г. у в. Сарогі, меў 30 дзесяцін зямлі. У 1932 г. арыштаваны, асуджаны на 10 год лагераў.

Анцыповіч Анастас, капітан, сябра Рады Случчыны, камандзір Першай Брыгады стральцоў БНР, сябра «Зялёнага Дуба».

Арэбіна Нестар, шараговы 4-й роты 2-га Грозаўскага палка.

Арцыман Лукаш, шараговы Брыгады.

Арцыховіч Філімон, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1900 г. ў в. Селішча. Вучыўся ў вайсковых школах Лодзі і Варшавы. Падчас арышта ў красавіку 1929 г. студэнт Белдзяржуніверсітэта і сябра ЦВК БССР. Асуджаны на 3 гады канцлагераў, сасланы на Салаўкі.

Арцышэўскі, паручнік, афіцэр Беларускай Вайсковай камісіі, адзін з арганізатараў 2-га Грозаўскага палка, ад'ютант камандзіра Брыгады.

Асвяцімскі Марк, старшыня Слуцкай арганізацыі БПС-Р, сябра ЦК БПС-Р. Нарадзіўся 24 красавіка 1886 г. у Слуцку. Беларускатолік. Да кастрычніка 1917 г. уваходзіў у расійскую партыю эсэраў. Апякун і выхавацель моладзі. Накіроўваў дзейнасць арганізацыі «Папараць-кветка». Ад БВК летам 1920 г. у Слуцку праводзіў запіс добраахвотнікаў у беларускае войска, збіраў моладзь для навучання ў вайсковых школах. Адметную ролю адыграў у гаспадарчым жыцці Слуцка. Адзін з арганізатараў і сябра праўлення кааператыва «Зара». Нарыхтоўка прадуктаў, збор сродкаў для бежанцаў і маламаёмасных, адкрыццё настаўніцкіх беларускіх курсаў, выхад газет праходзіў пад яго пільнай увагай і з яго непасрэдным удзелам. Прыхільнік і абаронца белару-

скай мовы. Арыштаваны 11 лютага 1938 г. у Гомелі. Расстраляны 10 лістапада 1939 г. у Мінску.

**Асіповіч Фелікс**, шараговы 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Астаповіч Антон**, шараговы Брыгады.

**Астаповіч Вінцук**, шараговы Брыгады.

**Астрэйка Антон**, шараговы Брыгады. Слухач настаўніцкіх курсаў.

**Аўтка Кастусь**, шараговы Брыгады.

**Бабарэка Пётра**, сябра Рады Случчыны. Нарадзіўся ў 1898 г. у в. Старыцы Пукаўскай воласці. Бацька меў 8 дзесяцін зямлі. У 1917 г. скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, потым Кіеўскую школу прапаршчыкаў. У чэрвені 1917 г. быў накіраваны ў 11 запасны полк у горад Іркуцк, потым на фронт. Дэмабілізаваўся ў снежні 1917 г. Настаўнічаў у Вялешынскай школе Цэлядавіцкай воласці. З верасня 1918 г. па сакавік 1920 г. — студэнт Мінскага педагагічнага інстытута. З канца 1918 г. — сябра БПС-Р. У чэрвені 1920 г. быў абраны загадчыкам аддзела народнай адукацыі Пукаўскага валаснога выканкама. Быў мабілізаваны ў Чырвоную армію, але пры наступленні палякаў дэзерціраваў і застаўся ў роднай вёсцы. Быў абраны дэлегатам ад Пукаўскай воласці на з'езд Случчыны. Як сябра Рады арганізаваў Нацыянальныя камітэты ў Грозаўскай, Пукаўскай, Грэскай, Ленінскай і Цімкавіцкай валасцях. Быў абраны камендантам Грозава; адзін з арганізатараў 2-га Грозаўскага палка. Пасля паражэння Слуцкага паўстання працягваў палітычную і культурна-асветніцкую дзейнасць у Клецку і Баранавічах. Садзейнічаў адкрыццю беларускіх школ, арганізацыі гурткоў моладзі. Арыштаваны польскімі ўладамі, адбываў пакаранне ў лагеры ваеннапалонных у Брэст-Літоўску. У красавіку 1921 г. быў высланы ў Савецкую Расію. Зноў мабілізаваны ў Чырвоную армію, служыў камандзірам роты, у Магілёве, у вайсковай часці арганізаваў гурток «Асьвета» і хор выканаўцаў беларускіх песень. За ўдзел у слуцкіх падзеях упершыню арыштаваны ў жніўні 1922 г. Быў асуджаны на тры гады ўмоўна. 8 ліпеня 1938 г. арыштаваны зноў за контррэвалюцыйную дзейнасць. Загінуў у ГУЛАГу.

**Багдановіч Кастусь**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Багрыцэвіч Ігнат**, шараговы Брыгады.





**Багушэвіч Язэп**, капітан, узнагароджаны камандаваннем Брыгады за баявыя заслугі.

**Бадылевіч Якуб**, шараговы 1-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Бакіноўскі Антон**, шараговы 1-й роты 2-га Грозаўскага палка.



*Якаў Бадылевіч. 1921 г.*

**Балацэвіч Адам**, шараговы Слуцкага палка.

**Балвановіч Павел**, шараговы Брыгады.

**Балвановіч Раман**, шараговы Брыгады.

**Бандарэвіч Васіль**, шараговы Брыгады.

**Бараноўскі Адам**, шараговы 4-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Бараноўскі Аляксандр**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1900 г. у засценку Яроўка (каля в. Машчыцы). Вучыўся ў Слуцкай гімназіі і вайсковай школе Лодзі. Пасля вяртання на радзіму настаўнічаў у в. Задоліна Астрашыцка-Гарадоцкага раёна. Арыштаваны 18 чэрвеня 1929 г. і асуджаны на 3 гады канцлагераў.

**Бараноўскі Андрэй**, сакратар Слуцкай арганізацыі БПС-Р. Нарадзіўся ў 1895 г. у в. Машчыцы Слуцкага павета. Вучыўся ў Слуцкай духоўнай вучэльні. У 1914 г. трымаў іспыты на званне народнага настаўніка. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі вярнуўся дамоў. Працаваў справаводам у Слуцкім ваенкамаце. У 1919 г. быў абраны кіраўніком «Папараць-кветкі». Адзін з арганізатараў Слуцкіх настаўніцкіх курсаў, выдання часопіса «Наша каляіна». Непасрэднага ўдзелу ў паўстанні не прымаў, разам з ваенным камісарыятам эвакуіраваўся ў Рослаўль. Разам з Палутай Бадуновай дамагаўся прыёму ў народным камісарыяце замежных спраў у Маскве з мэтай абмеркаваць становішча Слуцкага павета (безвынікова). У пачатку 1920-х гадоў выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Слуцкай сямігодцы. Удзельнік апошняга, ліквідацыйнага з'езду БПС-Р. З 1924 г. па 1920 г. выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Аб'яднанай Бела-

рускай вайсковай школе. Прымаў удзел у складанні літаратурнай хрэстаматыі для навучэнцаў школы, уваходзіў у склад камісіі па выданні слоўніка беларускай ваеннай тэрміналогіі. Кіраваў драматычным гуртком вайсковай школы. Пасля цяжкага нервовага захворвання пакінуў выкладчыцкую працу. Арыштаваны ў ноч з 25 на 26 студзеня 1938 г. 1 верасня 1938 г. расстраляны ў Мінску. Сям'і паведамілі, што асуджаны на 10 год і памёр у 1943 г.

**Бараноўскі Дзяніс**, шараговы Брыгады, нарадзіўся ў 1895 г. у в. Белае Балота. Вучыўся ў ваенных школах Лодзі і Быдгошчы. Арыштаваны 28 траўня 1929 г., асуджаны на 3 гады канцлагераў.

**Бараноўскі Фёдар**, шараговы 3-й роты 1-га Слуцкага палка. Паходзіў з в. Машчыцы. Вучыўся ў вайсковай школе Лодзі.

**Барысавец**, сябра Рады Случчыны, афіцэр Брыгады, настаўнік з Раманаўскай воласці.

**Барысевіч Павел**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Барысевіч Пётра**, шараговы Брыгады.

**Барысевіч Рыгор**, шараговы Брыгады.

**Барысевіч Якуб**, шараговы Брыгады.

**Баткоў Сямён**, шараговы 4-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Бачко Іван**, шараговы Брыгады. Жыхар в. Лапацічы. Вучыўся ў вайсковых школах Лодзі, Быдгошчы.

**Бачко**, штабс-капітан, сябра ваеннай тройкі, афіцэр Брыгады.

**Баязетаў Незам**, шараговы Брыгады.

**Берасневіч Франц**, шараговы 1-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Берлінаў Тамаш**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Бернат Пётра**, капрал Брыгады.

Борай Мірон, шараговы Брыгады.

**Борык А.**, капітан, начальнік агульнага аддзела БВК, начальнік штаба Брыгады. У 1939 г. працаваў у дырэкцыі Віленскай чыгункі.

**Бранавіцкі Іпаліт**, афіцэр Брыгады, зялёнадубец.

**Бранавіцкі Павел**, паручнік, камандзір 5-й роты 1-га Слуцкага палка, зялёнадубец, атаман аддзела. Апераваў у Слуцкім, Бабруйскім паветах.

**Бржазоўскі Мацвей**, шараговы 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Будзілаў Дарафей**, сяржант Брыгады.





**Бусел Сяргей Нікіфаравіч**, сябра Рады Случчыны, сябра Слуцкай арганізацыі БПС-Р. Нарадзіўся 19 лютага 1901 г. у в. Сухаўчыцы Быстрыцкай вол. З сялянскай сям'і, бацька меў 7 дзесяцін зямлі. Скончыў пачатковую вучэльню ў м. Леніна. У 1917—1920 гг. — навучэнец Слуцкай гімназіі. Адзін з лепшых гімназістаў. Актыўны ўдзельнік усіх падзей і палітычных акцый. У партыю эсэраў уступіў вясною 1920 г. Падчас паўстання прытрымліваўся эсэраўскай пазіцыі. Актыўна рыхтаваў з'езд, выязджаў інструктарам па арганізацыі сходаў для выбараў дэлегатаў з'езда Случчыны (у Быстрыцкай і Ленінскай валасцях). Пасля паражэння паўстання працягваў партыйную працу ў Вільні. Нейкі час узначальваў роту Беларускага батальёна войска генерала Жэлігоўскага, але затым засяродзіўся на партыйнай працы. Па загадзе ЦК БПС-Р вёў агітацыйную працу сярод слуцкай моладзі ў Лодзі, вербаваў у партыю (май 1921 г.). У чэрвені 1921 г. вярнуўся ў Вільню. Антыпольская праца падчас выбараў у сейм выклікала рэпрэсіі з боку польскіх уладаў, таму вымушаны быў уцякаць у Коўна, дзе працаваў у Міністэрстве беларускіх спраў. З красавіка 1922 г. у Празе, дзе далучыўся да беларускай працы. У пачатку 1930 г. пераехаў у Вільню. Працаваў тэхнічным рэдактарам часопіса «Саха». Сябра «Цэнтрасаюза». З Міколам Чарнецкім спрабаваў адрадзіць арганізацыю «незалежных сацыялістаў». Выдаваў часопіс — 1932—1938 гг. Арыштаваны 27 кастрычніка 1939 г. у Вільні. 19 лютага 1940 г. Ваенным трыбуналам прыгавораны да 15 год зняволення.

**Бяспалы Сямён**, шараговы Брыгады.

**Вайцаховіч Ігнат**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Валаткевіч Ілля**, шараговы Брыгады. Вучыўся ў вайсковай школе Лодзі.

**Валоцька Піліп**, сябра Рады Случчыны, загінуў у першым баю.

**Варанецкі Васіль**, шараговы Брыгады.

**Васілевіч Кузьма**, шараговы 2-й роты 1-га Грозаўскага палка.

**Васілевіч Пётра**, шараговы 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Васілевіч Сяргей**, шараговы 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Васюк Ілля**, ст. шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Ваўчок Пётра**, шараговы Брыгады.

**Велімовіч Міхась**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Вечар Сцяпан**, шараговы 4-й роты 2-га Грозаўскага палка. Нарадзіўся ў 1892 г. у в. Шулякі Грэскай вол. Арыштаваны ў 1937 г. Загінуў у ГУЛАГу.

**Вечар-Шчарбовіч**, шараговы Брыгады. Вучыўся ў рэальным вучылішчы Слуцка і вайсковых школах Лодзі і Варшавы.

**Віткоўскі Пётра**, шараговы 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Волат Антон**, шараговы 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Волат Ануфрый**, капрал 1-га Слуцкага палка.

**Волат Мартын**, шараговы Брыгады.

**Волат Павел**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1894 г. у в. Замосце.

**Всціслo Язэп**, капрал Брыгады.

**Вышамірскі Лявон**, шараговы 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Вярбіцкі Гаўрыла**, узводны 1-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Вяргейчык Васіль**, шараговы 1-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Вяргейчык Макар**, шараговы Брыгады.

**Гайдук**, штабс-капітан, загадчык арсенала Брыгады.

**Гайдукевіч Платон**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Ганчар Васіль**, шараговы Брыгады.

**Ганчарык Рыгор**, шараговы Брыгады. Вучыўся ў вайсковай школе Лодзі.

**Гапановіч Васіль**, узводны Брыгады.

**Гарасевіч Людвік**, шараговы Брыгады.

**Гарбаты Язэп**, шараговы 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Гаўрыловіч Ахрэм**, падпалкоўнік, афіцэр царскай арміі, удзельнік Першай сусветнай вайны, служыў у атамана Краснова. У 1920 г. трапіў у палон, быў мабілізаваны ў Чырвоную армію. Падчас адступлення чырвоных застаўся ў роднай вёсцы Дзюдава, прымаў удзел у фарміраванні Брыгады. Спачатку камандаваў 1-м батальёнам, з 28 лістапада 1-м Слуцкім палком. Сябра «Зялёнага Дуба». Арганізоўваў партызанскія антыбальшавіцкія аддзелы ў Клецку. У 1924 г.[24] перайшоў у Савецкую Беларусь. Быў асуджаны ў снежні 1925 г. да пяці гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы.

**Гедзіч Мікалай**, шараговы Брагады.





**Гнароўскі**, капітан, намеснік камандзіра 2-га Грозаўскага палка.

**Гофман Ян**, шараговы Брыгады.

**Грынкевіч Адам**, шараговы Брыгады.

**Грынюк Пётра**, шараговы Брыгады.

**Грыцкевіч Ян**, шараговы Брыгады.

**Гузней Якуб**, паручнік, камандзір 1-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Гурленя Сямён**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Гурскі Дамянік**, шараговы Брыгады.

**Гурыновіч Антон**, шараговы Брыгады.

**Гурыновіч Давід**, шараговы 4-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Давідовіч Ілля**, шараговы Брыгады.

**Давідовіч Стэфан**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Давыдоўскі Васіль**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1899 г. у в. Шышчыцы.

**Давыдоўскі Сцяпан**, шараговы. Паходзіў з в. Каліта. У 1930 г. быў арыштаваны і сасланы.

**Данілевіч Стэфан**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Данілюк Фёдар**, паручнік, афіцэр Брыгады, святар Беларускай Аўтакефальнай царквы ў Амерыцы, памёр у 1960 г.



Мітрафорны пратаерэй айтец Фёдар Данілюк

**Дарэўскі Аляксандр**, шараговы Брыгады.

**Даўладны Ахмет**, шараговы Брыгады.

**Даўшэўчык Астап**, узводны Брыгады.

**Дварэцкі Аляксей**, шараговы 1-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Дзілендзік Мікалай**, капрал 1-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Дзмітраў**, шараговы Брыгады.

**Дзянісаў Сцяпан**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Добржанскі Язэп**, капрал 1-га Слуцкага палка.

**Доўбік Міхась**, капрал 1-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Дробыш Васіль**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1892 г. у в. Ленькі Грэскай вол. Арыштаваны ў 1937 г.

**Дробыш Іван**, шараговы 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Дубіна Міна**, сябра Слуцкай Рады, сябра Слуцкай арганізацыі БПС-Р. Адзін з арганізатараў баявых пяцёрак у в. Гнойны Рак.

**Дубіна Улас**, сябра Слуцкай Рады; сакратар Нацыянальнага камітэта; сябра Слуцкай арганізацыі БПС-Р. Нарадзіўся ў 1888 г. у в. Ісерна Слуцкага павета. Да рэвалюцыі сям'я мела 3 дзесяціны ворыўнай зямлі і 8 дзесяцін сенажаці. У 1903 г. скончыў трохгадовую народную школу ў м. Пагост. З 1905 г. працаваў ст. пісарам у Слуцкай мужчынскай гімназіі. З 1909 г. па 1917 г. — служба ў Севастопальскай крапасной артылерыі. У 1919 г. вярнуўся дамоў, працаваў у Слуцкім ваенкамаце. Па загадзе БПС-Р арганізоўваў баявыя пяцёркі для барацьбы з польскімі акупантамі ў вёсках Ісерна, Гнойны Рак, Мелкавічы. За партыйную працу ўпершыню арыштаваны ў 1919 г. асобым аддзелам Заходняга фронту, быў асуджаны на 3 гады турэмнага зняволення. Вызваліўся з прыходам польскай арміі. Адзін з актыўных арганізатараў Слуцкага палка ў Семежава. Пасля ліквідацыі паўстанцкай акцыі працаваў інструктарам беларускіх школ у Вільні. Праследаваўся палякамі за арганізацыю антыпольскай партызанкі. Праходзіў па працэсу «33-х» і высланы ў Літву. У 1923 г. нелегальна вярнуўся ў родную вёску. Уступіў у камсамол, стварыў пажарную дружыну. У 1925 г. быў арыштаваны зноў па «лістападаўскай справе» за распаўсюджанне антысавецкіх улётак, але віна не была даказана. Вясной 1933 г. вымушаны быў хавацца ў лесе ад новага арышту. Затрыманы быў 4 мая 1933 г. У ліпені 1933 г. высланы з Беларусі за антыкалгасную і антысавецкую агітацыю. Лічыў, што «калгас — другі панскі двор, дзе сяляне адпрацоўваюць паншчыну». У 1940 г. вярнуўся з Урала ў Бабруйск.

**Дубінін Філімон**, шараговы Брыгады.

**Дубовік Іван**, шараговы 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Дутка**, паручнік, афіцэр Брыгады.

**Ельніцкі Сымон**, шараговы Брыгады.

**Есіповіч Піліп**, шараговы 1-га Слуцкага палка, паходзіў з хут. Селішча.





**Есьман Антон**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Жаўняровіч Амельян**, узводны 1-й роты 2 Грозашскага палка.

**Жаўрыд Павел**, кіраўнік паўстання. З 1921 г. у Вільні ўваходзіў у Віленскі БНК, быў адным з закладнікаў Таварыства беларускай школы, уваходзіў у яго Наглядальную Раду. З 1923 г. у БССР працаваў выкладчыкам у Мар'інагорскім сельскагаспадарчым тэхнікуме, супрацоўнікам Інбелкульта, рэдактарам газеты «Звязда». 18.07.1930 г. арыштаваны па справе «СВБ». 10 красавіка 1931 г. асуджаны на 3 гады спецлагераў. Пасля вызвалення працаваў бухгалтарам у Сарапуле (Татарстан), падтрымліваў шчыльныя сувязі з вяцкімі ссыльнымі літаратуразнаўцам Адамам Бабарэкам, Генадзем Багдановічам ды інш. У 1937 г. паўторна арыштаваны, засуджаны на 10 год канцлагераў, расстраляны.



***Павел Жаўрыд. Фота з судовай справы. 1930-я гг.***

**Жаўрыд Юльян**, шараговы Брыгады, нарадзіўся у 1900 г. у м. Старобін, сын ветфельчара. Вучыўся ў вайсковых школах Лодзі і Варшавы.

**Жмайлік Язэп**, шараговы Брыгады. Жуковіч, афіцэр Брыгады.

**Жываглодаў Аляксей**, шараговы Брыгады.

**Жышкевіч Кастусь**, капрал 1-га Слуцкага палка.

**Забродскі Фёдар**, шараговы 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Забродскі Ян**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Залесскі Кастусь**, шараговы Брыгады. Жыхар Слуцка. Вучыўся ў вайсковых школах Лодзі і Варшавы.

**Залесскі Язэп**, капітан, афіцэр Брыгады. Узнагароджаны за баявыя заслугі.

**Заранчук Макей**, шараговы 1-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Заяц Антон**, шараговы 1-й роты 2-га Грозаўскага палка. Нарадзіўся ў 1899 г. у в. Лянькі Грэскай воласці. Сям'я мела 12 дзесяцін зямлі.

**Заяц Зміцер**, шараговы 1-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Заяц Ян**, капрал 1-й роты 2-га Грозаўскага палка. Паходзіў з в. Лесішча.

**Зубовіч**, шараговы Брыгады. Вучыўся ў вайсковых школах Лодзі і Варшавы.

**Зялевіч Іван**, шараговы 4-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Зялевіч Макар**, шараговы 4-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Зялевіч Павел**, шараговы 4-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Зяневіч Антон**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка. Нарадзіўся ў 1892 г. у в. Вялікія Баравыя. Расстраляны ў 1938 г. у Слуцку.

**Зяневіч Іван**, шараговы Брыгады.

**Зяневіч Рыгор**, шараговы Брыгады.

**Ігнатовіч Сцяпан**, шараговы 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Ігнатовіч Сямён**, шараговы 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Ігнацьеў Мікалай**, малодшы мед. фельшар 3-й роты 2 Слуцкага палка.

**Ілюкевіч Пётра**, капрал 2 роты 2-га Грозаўскага палка.

**Ісаенка Андрэй**, шараговы Брыгады.

**Кавальскі Вікенцій**, шараговы. Нарадзіўся ў 1897 г. у в. Набушава.



*Франц Казак. 1921 г.*

**Казак Палікарп**, шараговы Брыгады.

**Казак Станіслаў**, шараговы Брыгады.

**Казак Франц**, шараговы 1-га Слуцкага палка. Нарадзіўся ў 1895 г. у в. Рудня Грэскай вол. У снежні 1921 г. вярнуўся з Польшчы на радзіму. Адразу быў арыштаваны і судзімы.

**Казак Язэп**, шараговы 1-га Слуцкага палка. Нарадзіўся у в. Рудня Грэскай вол. Скончыў народную вучэльню. Сям'я мела 5 дзесяцін зямлі. Улетку 1920 г.





мабілізаваны ў Чырвоную армію. Дэзерціраваў і далучыўся да аддзела зялёных, якім кіраваў атаман Грынкевіч. Потым гэты аддзел уліўся ў Брыгаду. З Польшчы вярнуўся ў снежні 1921 г. Адразу быў арыштаваны і судзімы.

**Казека**, паручнік, афіцэр Брыгады.

**Казлоўскі Адам**, шараговы Брыгады.

**Каляда Фёдар**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Калядзінскі Антон**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Калядка Рыгор**, шараговы Брыгады. Вучыўся ў вайсковых школах Лодзі і Варшавы.

**Канаплянік Язэп**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Кандыбовіч Пётра**, шараговы Брыгады. Слухач настаўніцкіх курсаў.

**Канторскі**, афіцэр Брыгады, былы артыст Беларускага тэатра.

**Капелюш Вінцук**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Карабельнік Максім**, шараговы Брыгады.

**Караневіч Майсей**, ст. медфельчар 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Карэлька Іван**, шараговы 4-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Карафа-Корбут Іван**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1899 г. у в. Кулакі, шляхціц. Удзельнік белага руху. Дэзерцір з Чырвонай арміі. Вучыўся ў вайсковых школах Лодзі, Быдгошчы, служыў у польскай арміі. У 1922 г. вярнуўся на радзіму. Арыштаваны 30 траўня 1929 г., асуджаны на 3 гады канцлагераў.

**Каржанеўскі Мікалай**, шараговы 1-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Каролік Адам**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Карповіч Мікалай**, шараговы 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Карынкевіч Аляксандр**, шараговы 4-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Каханові**ч, паручнік, ад'ютант штаба 1-га Слуцкага палка.

**Кашкарэвіч**, прапаршчык, начальнік гаспадарчай часці 1-га Слуцкага палка.

**Кернажыцкі Лявон**, шараговы Брыгады.

**Кернажыцкі Н.**, паручнік, камандзір 6-й роты 1-га Слуцкага палка. Узнагароджаны за баявыя заслугі. У 1939 г. высланы ў Сібір.

**Кірко Ілля**, шараговы Брыгады.

**Кірко Юльян**, шараговы 1-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Кісель Нічыпар**, шараговы 1-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Кісель Пётра**, шараговы 1-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Кіслюк Пётра**, шараговы 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Кітовіч**, паручнік, афіцэр Брыгады.

**Кітуновіч Несцер**, шараговы 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Кіш Сяргей**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1898 г. у в. Грывень (побач з м. Грозава). Загінуў у баі.

**Клачкоў Аляксандр**, шараговы 1-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Клебановіч Антон**, шараговы Брыгады.

**Клебановіч Міхась**, шараговы Брыгады.

**Клішэвіч**, падпаручнік, афіцэр Брыгады.

**Клюка**, капітан, афіцэр Брыгады.

**Ключановіч Міхась**, шараговы Брыгады. Паходзіў с м. Старобін, Вучыўся ў вайсковай школе Лодзі.

**Ключановіч Трыфан**, шараговы Брыгады.

**Кобель Франц**, шараговы. Нарадзіўся ў 1898 г. у в. Лянькі Грэскай вол. У 1930 г. сасланы ў Сібір як антысавецкі элемент.

**Коберец Міхась**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в. Кажушкі. Вучыўся ў Слуцкай гімназіі і вайсковай школе Лодзі. Памёр у 1927 г. у Празе.

**Каўпак Аляксей**, паручнік, камандзір 3 батальёна 1-га Слуцкага палка. Старшыня Старыцкай арганізацыі БПС-Р. Нарадзіўся у в. Старыца. Настаўнік.

**Копец Іван**, паручнік, камандзір роты.

**Корбут Стэфан**, шараговы Брыгады.

**Корзун Антон**, шараговы 4-й роты 2-га Грозаўскага палка. Нарадзіўся ў в. Шышчыцы.

**Корзун Віктар**, шараговы Брыгады.

**Коршак Ян**, сержант 1-га Слуцкага палка.

**Косцел Васіль**, шараговы Брыгады.

**Коўган Агей**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Коўган Даніла**, капрал 1-га Слуцкага палка.





**Кракасевіч Алексей**, шараговы Брыгады.

**Крот Герасім**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Крук Цімафей**, узводны 1-га Слуцкага палка.

**Крукоўскі Антон**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Крукоўскі Васіль**, паручнік, камандзір 4-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Крываль Мікалай**, ст. ыпадафіцэр 1-га Слуцкага палка.

**Крыж Сямён**, узводны 1-га Слуцкага палка.

**Крыжаноўскі**, капітан, афіцэр Брыгады, настаўнік.

**Крыжаноўскі Цімафей**, узводны 1-га Слуцкага палка.

**Крышэўскі Іван**, шараговы 3-й роты, 2-га Грозаўскага палка.

**Кузьменка Рыгор**, шараговы Брыгады.

**Кулікоўскі Стэфан**, шараговы Брыгады.

**Курбыка Дзям'ян**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1900 г. у в. Замосце.

**Курыловіч А.**, паручнік, камандзір 2-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Кухто Іван**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в. Лучнікі. Вучыўся ў вайсковых школах Лодзі і Варшавы.

**Лабкоўскі Ян**, шараговы Брыгады.

**Лагун**, шараговы 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Лагун Аляксей**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Лагуновіч Ігнат**, капрал 1-га Слуцкага палка.

**Ламак Нічыпар**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Лапковіч-Корчык Язэп**, ст. пісар 2-й роты 1-га Слуцкага палка. Нарадзіўся ў 1891 г. у в. Заўшчыцы Старобінскай воласці ў сям'і дробнага арандатара. У 1907 г. скончыў Слуцкую гарадскую вучэльню, у 1921 г. — віленскія беларускія настаўніцкія курсы. У 1919 г. — камісар саўгаса «Круговічы», у 1920 г. — кіраўнік саўгаса «Старыца». Сябра БПС-Р. У 1920—30-я гады — вядомы дзеяч КПЗБ. Арыштаваны ў лютым 1939 г. Загінуў у ГУЛАГу.

**Лапковіч Ян**, шараговы Брыгады.

**Ласько Пётр**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в. Цараўцы. Вучыўся ў вайсковай школе Лодзі.

**Леановіч Кузьма**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Леановіч Сцяпан**, шараговы роты 2-га Грозаўскага палка.

**Лебедзевіч Іван**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в. Кажушкі. Вучыўся ў вайсковай школе Лодзі.

**Лемеш Піліп**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1892 г. у в. Падлессе. Вучыўся ў рэальным вучылішчы Слуцка і вайсковай школе Лодзі. Арыштаваны 26 траўня 1929 г. і асуджаны на 3 гады канцлагераў.

**Лямбовіч Іван**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в. Амговічы. Зялёнадубец.

**Лярух Якуб**, шараговы Брыгады.

**Лясун Зміцер**, сяржант Брыгады.

**Ляташ Захар**, шараговы Брыгады.

**Ляшчанка Адам**, ст. шараговы 1-га Слуцкага палка. Нарадзіўся у 1903 г. ў в. Замосце. З Польшчы вярнуўся ў 1922 г. Арыштаваны ў сакавіку 1930 г. і сасланы.

**Ляшчанка Аляксандр Адамовіч**, узводны Брыгады. Нарадзіўся ў 1893 г. у в. Замосце. Сям'я мела 5 дзесяцін зямлі. З Польшчы вярнуўся ў 1922 г. Арыштаваны ў сакавіку 1930 г. і сасланы.

**Ляшчанка Аляксандр Антонавіч**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1904 г. у в. Замосце. Сям'я мела 13 дзесяцін зямлі. З Польшчы вярнуўся ў 1922 г. Арыштаваны ў сакавіку 1930 г. і сасланы.

**Ляшчанка Аляксандр Іванавіч**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1899 г. у в. Замосце. Сям'я мела 5 дзесяцін зямлі. З Польшчы вярнуўся ў 1922 г. Арыштаваны ў сакавіку 1930 г. і сасланы.

**Ляшчанка Аляксандр Людвігавіч**, ст. падафіцэр 1-га Слуцкага палка, камандзір узвода. Нарадзіўся ў 1897 г. у в. Замосце. Сям'я мела 5 дзесяцін зямлі. З Польшчы вярнуўся ў 1922 г. У 1933 г. судзімы за антыкалгасную агітацыю.

**Ляшчанка Гаўрыла**, шараговы Брыгады.

**Ляшчанка Іпаліт**, узводны Брыгады. Нарадзіўся ў 1892 г. у в. Замосце. Сям'я мела 4 дзесяціны зямлі. З Польшчы вярнуўся ў 1922 г. Арыштаваны ў сакавіку 1930 г. і сасланы.

**Ляшчанка Мікалай**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Ляшчанка Міхась**, шараговы. Нарадзіўся ў 1898 г. у в. Замосце. Арыштаваны ў сакавіку 1930 г. і сасланы.

**Ляшчанка Палікарп**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1893 г. у в. Замосце. Сям'я мела 5 дзесяцін зямлі. У 1922 г. вярнуўся з Польшчы. Арыштаваны і сасланы ў 1930 г.





**Ляшчанка Фёдар**, шараговы Брыгады.

**Ляшчанка Франц**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1894 г. у в. Рудня. У снежні 1921 г. вярнуўся з Польшчы (з Нясвіжскага павета) у родную вёску. Арыштаваны ў 1922 г. за нелегальны пераход мяжы. Зноў судзімы ў 1930 г. і сасланы.

**Ляшчанка Юльян**, шараговы 1-га Слуцкага палка. Нарадзіўся ў 1904 г. у в. Замосце. У снежні 1921 г. вярнуўся з Польшчы. Арыштаваны ў сакавіку 1930 г. і сасланы.



Франц Ляшчанка. Здымак 1921 г

**Ляшчанка Язэп**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Ліхадзіеўскі Антон**, шараговы Брыгады. Вучыўся ў рэальным вучылішчы Слуцка, вайсковых школах Лодзі і Варшавы.

**Лосік Аляксей**, шараговы Брыгады.

**Лосік Андрэй**, шараговы Брыгады.

**Лосік Павел**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Лук'янчук Фёдар**, паручнік Брыгады.

**Лушчыцкі Міхась**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1900 г. у м. Семежава. Сын настаўніка. Вучыўся ў слуцкай гімназіі, вайсковых школах Лодзі і Быдгошчы. Быў вязнем Нясвіжскай турмы. У 1923 г. вярнуўся на радзіму і быў асуджаны за нелегальны пераход мяжы. Арыштаваны зноў у траўні 1929 г. і асуджаны на 3 гады канцлагераў.



Вікенцій Макоўскі. Здымак 1937 г.

**Маеўскі Ян**, шараговы Брыгады.

**Мажэйка Стэфан**, шараговы Брыгады.

**Макарэня Навум**, шараговы Брыгады.

**Макоўскі Вікенцій**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1897 г. у в. Каліта. Сям'я мела 45 дзесяцін зямлі. Скончыў камерцыйную вучэльню. У 1920 г. дэзерціраваў з Чырвонай арміі, добраахвотнікам уступіў у Брыгаду (аддзел штабс-капітана Няронскага і паручніка Яновіча). У 1921 вярнуўся з Польшчы. У 1930 г. сям'ю раскулачылі і саслалі. Расстраляны ў лютым 1937 г.

**Макоўскі Іван**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в. Каліта.

**Макоўскі Ілля**, шараговы Брыгады 1-га Слуцкага палка.

**Макоўскі Рыгор**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1899 г. у в. Каліта. Сям'я мела 10 дзесяцін зямлі. У 1920 г. дэзерціраваў з Чырвонай арміі. Добраахвотнікам уступіў у Брыгаду. Прымаў удзел у баі пад Вызнаю. У 1921 г. вярнуўся ў родную вёску. У 1929 г. сям'ю раскулачылі і саслалі. Расстраляны ў жніўні 1937 г.

**Макоўскі Язэп**, шараговы Брыгады.

**Маліноўскі Пётра**, шараговы 1-га Слуцкага палка. Нарадзіўся ў 1902 г. у в. Ульянаўка ў беднай сям'і.

Малыш Наум, камандзір 2-ой роты 1-га Слуцкага палка.

Малыш Фёдар, шараговы Брыгады.

**Маркевіч Аляксандр**, каптэнармус Брыгады. Нарадзіўся ў 1896 г. у Слуцку. Пасля паўстання вучыўся ў Лодзінскай вайсковай школе, якую арганізавала БВК. У 1922 г. вярнуўся з Польшчы дамоў. У 1925 г. быў працягнуты да адказнасці разам в А. Гаўрыловічам «за ваенныя дзеянні супраць савецкай улады», але віна не была даказана. У красавіку 1929 г. арыштаваны зноў, асуджаны на тры гады канлагераў. Загінуў у ГУЛАГу.



*Рыгор Макоўскі. Здымак 1937 г.*

**Масілевіч Леонцій**, шараговы 4-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Маскалевіч Іван**, малодшы падафіцэр Брыгады 1-га Слуцкага палка.





**Маскалевіч Павел**, капрал Брыгады.

**Мацэлі Іван (Ян)**, камандзір 2 батальёна 2-га Грозаўскага палка, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў слуцкай народнай міліцыі. Нарадзіўся ў 1892 г. у Лунінецкім павеце. Зялёнадубец. Працягваў антысавецкую партызанскую дзейнасць да канца 20-х гадоў.

**Маціс Уладзімір**, шараговы Брыгады.

**Машчыцкі Іван**, капрал 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Мікіцюк Франц**, шараговы Брыгады.

**Мінькевіч Кліменцій**, шараговы 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Мірановіч А.**, ротмістр, начальнік контрвыведкі Брыгады. Пасля паўстання служыў у БВК у Лодзі, потым у польскай паліцыі. Зялёнадубец. Атаман аддзела.

**Мірановіч Юльян**, шараговы Брыгады, нарадзіўся ў 1900 г. у Слуцку. Вучыўся ў вайсковай школе Лодзі.

**Міскевіч Іван**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в. Каліта. Асуджаны ў 1937 г. на 10 год лагераў.

**Міхайлоўскі Мікалай**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1900 г. у в. Селішча. Арыштаваны 27 мая 1929 г., асуджаны на 3 гады канцлагераў.

**Міхайлоўскі Рыгор**, капрал Брыгады.

**Міхасёнка Трахім**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Міхневіч Пётра**, шараговы Брыгады.

**Міхневіч Язэп**, шараговы Брыгады.

**Мурашка Фёдар**, шараговы Брыгады, жыхар в. Селішча.

**Мыслівец Сцяпан**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Мялешка Цярэнцій**, малодшы медфельчар 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Мяшэчак Цімафей**, адзін з арганізатараў паўстання.

**Навіцкі Васіль**, шараговы Брыгады. Паходзіў з м. Семежава. Вучыўся у вайсковых школах Лодзі і Быдгошчы.

**Навумовіч Уладзімір**, шараговы 1-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Насенка Аляксандр**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Новік Андрэй**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Новік Віктар**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Новік Купрэй**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Новік Павел**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Нямковіч Аляксандр**, капрал Брыгады.

**Няронскі Ануфрый (Анупрэй)**, штабс-капітан, начальнік гаспадарчай часткі. Адзін з арганізатараў Брыгады. Нарадзіўся ў 1887 г. у в. Сарагі ў сялянскай сям'і. Сям'я мела 6 дзесяцін зямлі. З 1909 г. па 1917 г. служыў у царскай арміі. У 1920 г. камандаваў батальёнам Чырвонай арміі. Дэзерціраваў і перайшоў на бок паўстанцаў. У 1922 г. вярнуўся з Польшчы. Жыў і працаваў у в. Набушава на сельскай гаспадарцы. З 1931 г. старшыня калгаса «Авангард». У 1932 г. асуджаны «тройкай» на 5 год лагераў.

**Нячай Уладзімір**, капрал 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Пазнякевіч Павел**, шараговы Брыгады, нарадзіўся ў 1892 г. у в. Замосце. Сям'я мела 8 дзесяцін зямлі.

**Памашынскі**, сяржант.

**Пархімовіч Ян**, узводны 1-га Слуцкага палка.

**Паўлюкевіч Арсень**, доктар Брыгады, арганізатар і кіраўнік шпіталя. Нарадзіўся ў 1889 г. у сям'і слуцкага святара. Далучыўся да беларускага руху ў 1920 г., у лістападзе нейкі час ўзначальваў Нацыянальны камітэт у Слуцку, удзельнік з'езда Случчыны, дзе быў сапернікам Ул. Пракулевіча ў барацьбе за пасаду старшыні Беларускай Рады Случчыны. У 20-я гг. жыў у Вільні, адзін час узначальваў там Беларускую Раду, быў палітычным апанэнтам Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ). З'яўляўся двайным агентам польскай дэфензівы і савецкага ДПУ. У 1928 г. як савецкі шпіён асуджаны польскім судом на 12 год катаргі. Далейшы лёс невядомы.

**Пацкевіч Аляксандр**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1898 г. у в. Замосце.

**Пацкевіч Антон**, узводны Брыгады. Нарадзіўся ў 1891 г. у в. Замосце. Сям'я мела 7 дзесяцін зямлі. Сасланы на Украіну ў сакавіку 1930 г.

**Пацкевіч Фларыян**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1892 г. у в. Замосце.

**Пашкевіч Сцяпан**, шараговы 2-га Грозаўскага палка.

**Пенязь Ануфрый**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в. Падлошыца Амговічскага сельсавета. Сасланы ў 1937 г.

**Пісарык Афанасій**, шараговы Брыгады.





**Петручэня Сідар**, шараговы Брыгады.

**Пешка-Густалес Іван**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1898 г. у в. Грывень у сям'і святара. У 1919 г. скончыў Мінскую духоўную семінарыю. У 1920 г. вучыўся на слуцкіх настаўніцкіх курсах. З восені 1920 г. сябра «Зялёнага Дуба», выконваў абавязкі ад'ютанта і сакратара штаба. З 1924 г. сябра антысавецкай арганізацыі «Братство Русской Правды». З 1924 па 1939 г. выконваў абавязкі псаломшчыка царквы на Звярынцы ў Вільні. У 1939 г. арыштаваны як польскі шпіён. У лютым 1940 г. ваенным трыбуналам прыгавораны да 10 год лагераў. Памёр 10 лістапада 1944 г. у Інцінскім лагеры.

**Пілецкі Рыгор**, шараговы 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Понтус Антон**, паручнік 1-га Слуцкага палка, потым афіцэр Беларускага батальёна войск генерала Жэлігоўскага.

**Понтус Міхаіл**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

Пракаповіч Арцём, узводны Брыгады.

**Пракаповіч Лаўрэнцій**, шараговы 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Пракаповіч Рыгор**, шараговы Брыгады.

**Пракулевіч Уладзімір**, кіраўнік паўстання. З 1921 г. у Вільні ўваходзіў у Віленскі БНК. У 1922 г. у ліку «33-х» высланы польскімі ўладамі ў Літву; быў кааптаваны ў склад урада БНР Вацлава Ластоўскага на пасаду дзяржаўнага сакратара. З восені 1922 г. пераязджае ў Прагу, дзе быў адным з лідараў Беларускай Рады. З 1925 г. у БССР, працаваў у Інбелкульце і Беларускай акадэміі навук. Арыштаваны ДПУ па справе «Саюза вызвалення Беларусі» 18. 07. 1930 г. У красавіку 1932 г. на 5 год высланы ў Перм. У 1938 г. пасля паўторнага арышту расстраляны.

**Пратасевіч Кірыла**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1898 г. у в. Селішча. Вучыўся ў вайсковых школах Лодзі і Быдгошчы. Арыштаваны ў красавіку 1929 г. і асуджаны на 3 гады канцлагераў.

**Прахарэвіч Андрэй**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Працэвіч Ян**, шараговы Брыгады.

**Пушкайла Пётр**, шараговы Брыгады.

**Прохараў Васіль**, шараговы Брыгады. Сын каўбасніка са Слуцка. Вучыўся ў вайсковай школе Лодзі. У 1921 г. падхарунжы Віленскага гарнізона. У 1927 г. пераехаў у Прагу. У 20-х добраахвотна вярнуўся ў СССР. Далейшы лёс невядомы.

**Пякарчык Максім**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Пянеха Кастусь**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Пярко Стэфан**, капрал 4-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Рабцаў Ціт**, шараговы Брыгады, паходзіў з в. Каліта.

**Рабы**, сябра Рады Случчыны.

**Рагасевіч Аляксей**, шараговы Брыгады.

**Радзюкевіч Міхась**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в. Востраў-Боркі. Меў 24 дзесяціны зямлі. У 1933 г. ад арышту ўцёк.

**Ражанец Пётр**, шараговы Брыгады. Вучыўся ў вайсковай школе Лодзі.

**Рамановіч**, начальнік каравульнай роты 1-га Слуцкага палка.

**Рачыцкі Уладзімір**, шараговы Брыгады.

**Рогач Сяргей**, падпаручнік Брыгады, Нарадзіўся ў 1891 г. у в. Шышчыцы, камандзір 2-й кампаніі падчас інтэрнавання 1-га Слуцкага палка. У 1922 г. узнавіў палітычную і ваенную дзейнасць у Літве. У 1923 г. пераехаў у Прагу, дзе скончыў агранамічны факультэт Вышэйшай тэхнічнай школы. У 1927 г. легальна вярнуўся ў СССР. Далейшы лёс невядомы.

**Русак Васіль**, сябра Рады Случчыны. Нарадзіўся ў 1896 г. у Слуцкім павеце. Удзельнік Першай сусветнай вайны, адзін з лідараў Беларускай Рады беларусаў-вайскоўцаў на Паўночным фронце. Падчас з'езда Случчыны абраны яго старшынёй, увайшоў у склад прэзідыума Беларускай Рады Случчыны. Пасля ліквідацыі Слуцкага паўстання прызначаны лектарам Беларускай вайсковай камісіі, нелегальна вёў агітацыю сярод беларускага сялянства. У траўні 1922 г. пераехаў у Коўна (Літва), займаўся арганізацыяй партызанскіх аддзелаў на Віленшчыне супраць палякаў, быў у цеснай сувязі з літоўскімі стралецкімі арганізацыямі. У канцы 1922 г. выязджае на вучобу ў Чэхаславакію. З 1931 г. узначальваў Пражскі Беларускі нацыянальны камітэт. Пасля прыходу ў 1944 г. у Чэхаславакіі да ўлады камуністаў быў выданы савецкім уладам і вывезены ў Мінск. Асуджаны на канцлагер, памёр у зняволенні ў пачатку 1950-х гг.

**Рыдлеўскі**, шараговы Брыгады. Жыў і вучыўся ў Празе, потым у Францыі.

Рынеўскі Антон, шараговы 1-га Слуцкага палка.





Рэўт Яўген, афіцэр выведкі Брыгады. Нарадзіўся ў 1899 г. у Слуцку. У 1921 г. быў завербаваны ЧК, адначасова з'яўляўся агентам польскай выведкі. Асуджаны ЧК па г. зв. «савінкаўскай справе» ў жніўні 1921 г. у Мінску, расстраляны ў лютым 1922 г.

**Савановіч Аляксандр**, падпаручнік, камандзір 3-й роты 1-га Слуцкага палка. Нарадзіўся ў 1893 г. у в. Лучнікі. Сям'я мела 5,5 дзесяціны зямлі. Скончыў 2 класы народнага вучылішча ў роднай вёсцы. У 1919 г. школу прапаршчыкаў у Пецергофе. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Улетку 1920 г. мабілізаваны ў Чырвоную армію. Падчас адступлення чырвоных ад Варшавы застаўся дома. Добраахвотна запісаўся ў Слуцкі полк. Рота, якой ён камандаваў, была абязброена ў Ляхавічах і накіравана ў Беластоцкі лагер, потым у Дарагагуск. У красавіку 1921 г. вызваліўся і працаваў на польскім баку ў арцелі па рамонту тэлеграфных ліній. Нелегальна перайшоў мяжу. У 1923 г. быў асуджаны на высылку ў Самару на два з паловай гады. Зноў арыштаваны як былы «балаховец» і антысаветчык у красавіку 1933 г., асуджаны на 5 год лагераў. У траўні 1989 г. рэабілітаваны.

**Савельеў Алесь**, шараговы Брыгады.

**Савіцкі Валяр'ян**, мал. медфельшар 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

Сак Юльян, шараговы Брыгады.

**Сакалоўскі Станіслаў**, шараговы 1-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Салавец Стэфан**, шараговы Брыгады.

**Самойлік Стэфан**, шараговы Брыгады.

**Самусевіч Андрэй**, мал. падафіцэр 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.

Самусевіч Антон, капітан, афіцэр арміі генерала Булак-Балаховіча і Брыгады БНР. Нарадзіўся ў жніўні 1892 г. у Слуцку. Удзельнік Першай сусветнай вайны. У 1919 г. займаў пасаду каменданта Томскага губваенкамата. У студзені 1920 г. арыштаваны ЧК за «спекуляцыю», асуджаны на 5 год прымусовай працы, але дабіўся амністыі і быў накіраваны на Заходні фронт. З Чырвонай Арміі дэзерціраваў. Прыняў удзел у арганізацыі баявых адзінак паўстанцаў. У канцы 1920 г. па загадзе атамана «Зялёнага Дуба» ўзначаліў так званую рабочую дружыну ў Клецку, на самай справе дыверсійны аддзел. У 1921—22 гг. актыўна ўдзельнічаў у анты-

савецкай партызанскай барацьбе. Расстраляны ў кастрычніку 1922 г. пры трэцяй спробе ўцячы з мінскай турмы.

**Самусевіч Ілля**, шараговы Брыгады.

**Самусевіч Ілля Іванавіч**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Самусевіч Ілля Сямёнавіч**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Самусевіч Пётра**, шараговы 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Санько Мітрафан**, шараговы 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Сараговец Тодар**, шараговы Брыгады.

**Сарокін Сяргей**, шараговы Брыгады.

**Сасіноўскі Базыль**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Сасіноўскі Мікалай**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Сасіноўскі Павел**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Сасноўскі Іван**, шараговы Брыгады, паходзіў з в. Набушава.

**Семянюк Ваўруц**, шараговы Брыгады.

**Семяняка (ці Сямёнік) Лукаш**, капітан, камандзір 2 Грозаўскага палка.

**Сідарэвіч Алесь**, шараговы Брыгады.

**Скуцэна Саўва**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Славашэвіч Максім**, шараговы 4-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Славінскі Стэфан**, шараговы 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Слябцэвіч Цімафей**, шараговы 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Смірноў Аляксандр**, шараговы Брыгады.

**Смоліч Кастусь**, узводны 1-га Слуцкага палка.

**Сокал-Кутылоўскі Антон**, камандзір Брыгады. Нарадзіўся 7 лютага 1892 г. на хут. Паравалокі-Дарагішча (пазней в. Чырвоная Горка) Чучавіцкай воласці Лунінецкага павета. Шляхціц. У 1910 г. скончыў Панявежскую настаўніцкую семінарыю. Працаваў у школах Літвы. У 1914 г. скончыў геаграфічны факультэт Петраградскага ўніверсітэта, у чэрвені 1915 г. — Казанскую вайсковую вучэльню. Прызваны ў царскую армію. Удзельнік Першай сусветнай вайны, ваяваў у Галіцыі, Літве. Узнагароджаны салдацкім Георгіеўскім Крыжам. Пасля развалу старой арміі вярнуўся дамоў.





Удзельнік грамадзянскай вайны, ваяваў у войсках Дзянікіна, Юдзеніча. У 1920—30-х гг. выкладаў у школе ў в. Жалезніца, Востраў. Служыў у царкве. 19 чэрвеня 1941 г. упершыню арыштаваны. Сям'я была выслана. У перыяд нямецкай акупацыі працаваў школьным інспектарам у Ганцавічах, выкладаў геаграфію і беларускую мову ў беларускай вайсковай школе, так званым Першым кадравым батальёне. 18 красавіка 1945 г. прыняў камандаванне батальёнам беларускага палка, з якім 30 красавіка 1945 г. здаўся амерыканскім войскам. У жніўні 1945 г. адпраўлены ў Савецкі Саюз. З 25 снежня 1945 г. па кастрычнік 1947 г. знаходзіўся ў Паўночнапячэрскім лагеры. 20 красавіка 1948 г. Ваенным трыбуналам МУС Беларускай акругі быў асуджаны на 25 год зняволення. Пакаранне адбываў у лагеры. У жніўні 1956 г. тэрмін зняволення быў скарочаны да 13 год. Напярэдадні 40-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі вярнуўся ў Ганцавічы, затым пераехаў у Польшчу, у Шчэцін да жонкі і дачкі. Памёр 7 сакавіка 1983 г.

**Статкевіч Пётра**, мал. падафіцэр 1-га Слуцкага палка.

**Сташэўскі Антон**, капрал 1-га Слуцкага палка. Нарадзіўся ў 1898 г. у в. Каліта. Сям'я мела 10 дзесяцін зямлі. У 1919 г. дэзерціраваў з Чырвонай арміі. Добраахвотна ўступіў у Брыгаду. У 1921 г. асуджаны на 3 гады турмы за дэзерцірства, у 1925 г. — за зрыў вытворчага плана на паўтара года, у 1933 г. за антыкалгасную агітацыю. У 1929 г. гаспадарка была раскулачана. 27 лістапада 1937 г. расстраляны ў Слуцку як «польскі шпіён».

**Струкоўскі Ян**, шараговы Брыгады, паходзіў з м. Грозава.

**Стружынскі Ян**, сяржант 1-га Слуцкага палка.

**Сукала Язэп**, шараговы Брыгады. Сябра БПС-Р. Нарадзіўся ў 1902 г. у в. Гулевічы. Вучыўся ў Нясвіжскай семінарыі, ваеннай школе Лодзі. У 1922 г. скончыў педтэхнікум, потым настаўнічаў у роднай вёсцы і вучыўся на літаратурным аддзяленні БДУ. Арыштаваны 30 траўня 1929 г. і асуджаны на 3 гады канцлагераў.

**Сулкоўскі Іван**, шараговы Брыгады, сын святара, паходзіў з-пад Слуцка. Вучыўся ў вайсковых школах Лодзі і Быдгошчы.

Сумар Пётр, шараговы Брыгады.

**Супрыяновіч Зміцер**, шараговы 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Сухоцкі Пётр**, капрал Брыгады.

**Сучкоў Павел**, капрал 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Сучкоў Цімафей**, сяржант 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Сучкоў Цярэнцій**, шараговы 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Сцепурко Пётр**, шараговы 4-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Сямашка Ян**, афіцэр Брыгады, узнагароджаны за баявыя заслугі.

**Сянюк Васіль**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в. Гулевічы, вучыўся ў вайсковай школе Лодзі.

**Сяўрук Васіль**, ст. падафіцэр 1-га Слуцкага палка.

**Сяўрук Якаў**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в. Набушава. У 1933 г. асуджаны на 5 год папраўча-працоўных лагераў.

**Таран Кірэй**, мал. падафіцэр 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Таранаў Навум**, шараговы 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Тарасевіч Адам**, шараговы Брыгады, паходзіў з в. Замосце.

**Тарасевіч Аляксандр Адамавіч**, шараговы Брыгады, нарадзіўся ў 1892 г. у в. Замосце. Асуджаны на высылку ў 1930 г.

**Тарасевіч Аляксандр Дзям'янавіч**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1898 г. у в. Замосце. Асуджаны на высылку ў 1930 г.

**Тарасевіч Антон**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Тарасевіч Ануфрый (Анупрэй)**, шараговы Брыгады, нарадзіўся ў 1899 г. у в. Замосце. Асуджаны на высылку ў 1930 .

**Тарасевіч Казімір**, шараговы 1-га Слуцкага палка, нарадзіўся ў 1898 г. у в. Замосце. Асуджаны на высылку ў 1930 г.

**Тарасевіч Людвік**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Трахімовіч Мікіта**, шараговы 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Трахімовіч Стэфан**, капрал 2-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Трушко Іван**, шараговы Слуцкага палка, жыхар хутара Селішча.

**Тупік Васіль**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Тупік Іван**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.

**Тычына Язэп**, шараговы Брыгады.

**Урбановіч Іван**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1900 г. у в. Кажушкі. Вучыўся ў гімназіі Слуцка, вайсковых школах Лодзі і Варшавы. Застаўся служыць у польскай арміі.

**Фалей Ян**, шараговы Брыгады.

**Федаровіч Алесь**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Федаровіч Аляксандр**, шараговы 3-й роты 2-га Грозаўскага палка.





**Федаровіч Павел**, шараговы 1-га Слуцкага палка.

**Федасеня-Хвядашчэня**, афіцэр Брыгады, арганізатар партызанскага руху, зялёнадубец.

**Філіповіч Міхась**, шараговы Брыгады.

**Філіповіч Раман**, шараговы 3-й роты 1-га Слуцкага палка.

**Фядзюшка Язэп**, шараговы Брыгады. Паходзіў з хут. Селішча. Вучыўся ў вайсковай школе Лодзі.

# СТАТУТ БЕЛАРУСКАЙ СЕЛЯНСКАЙ ПАРТЫІ «ЗЯЛЁНЫ ДУБ»

§ 1

ГАЛОЎНАЯ МЭТА

Беларуская сялянская партыя «Зялёны Дуб» ставіць сваёй глаўнай мэтай вызваленьне Беларусі ад маскоўска-бальшавіцкай навалы і адбудаваньне свайго незалежнага гаспадарства.

Партыя лічыць, што дзеля дасьціжэньня гэтай мэты патрэбна:

А) Вясці непрэрыўную партызанскую вайну з бальшавікамі, заняўшымі болей як палавіну тэрыторыі Беларускай зямлі.

Б) Вясьці проці бальшавікоў, камуністаў і тых партый, праграма якіх зБліжаецца ў сваіх лёзунгах з бальшавіцыкай, інтэнсіўную агітацыю пуцём выданьня асобых адозв, лістовак і кніжак.

В) Пашыраць сярод насяленьня нацыянальную сьвядомасьць, беларускую літэратуру, беларускіе мастацтва і культуру.

Г) Устанаўліваць з тымі суседзямі, якія прыхільна адносяцца да Беларусі і да яе незалежнага існаваньня цесную дружаскую сувязь.

## АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ

§ 2

Партыя «Зялёны Дуб» складаецца з чатырох аддзелаў:

Першы — Баевые партызанскіе дружыны і пяцеркі.

Другі — Агенты Цэнтральнага Камітэту (Ц. К.)

Трэці — Мастацтва «Зялёнага Дуба»

Чацьверты — Аддзел дыпламатычны для зносін з іншымі партыямі, існуючымі на Беларусі, а так сама і з суседзямі.





§ 3

На чале партыі стаіць Атаман «Зялёнага Дуба», які з'яўляецца глаўным кіроўнікам усіх чатырох аддзелаў.

§ 4

Пры Атамане «Зялёнага Дуба» знаходзяцца:

I. «Глаўны Штаб» партызанскіх аддзелаў, які трымае ў сваіх руках першы, другі і чацверты аддзелы.

II. «Цэнтральны Камітэт» з трох сяброў пад кіраўніцтвам Атамана.

Дзейнасць Ц. К. :

1) Вядзе палітычные зносіны з іншымі партыямі, арганізацыямі і установамі.

2) Вядзе агітацыйную працу.

3) Распрэдзяляе па аддзелам партыйных працаўнікоў.

4) Судзіць па наказу Атамана віноўных сяброў Партыі.

5) Вядзе дыпламатыю з інастраннымі гаспадарствамі.

6) Заведуе партыйнай гаспадаркай і казной.

7) Заведуе разведкай в'усіх кірунках.

§ 5

Арганізатар «пяцеркі» павінен замальдавацца ў Ц. К. і атрымаць нумэр сваёй пяцеркі.

§ 6

Кожная «пяцерка» павінна выпаўняць усе заданьні Ц. К.

Увага 1. За выпаўненьне даручэній Ц. К. арганізатар «пяцеркі» адказывае сваім жыцьцем.

Увага 2. «Пяцерка», не выпаўніўшая загаду Ц. К., ліквідуецца.

§ 7

Партыя мае сваіх сэкрэтных прадстаўнікоў в'усіх арганізацыях, партыях і установах, існуючых ня толькі на Беларусі, але і за граніцай. Гэтые прэстаўнікі лічацца сэкрэтнымі агентамі Ц. К. і павінны час ад часу даваць у Глаўны Штаб усе патрэбные вядамосьці.

Агенты ва ўсякі час могуць быць Ц. К. адозваны з свайго мейсца.

§ 8

Прыём у Партыю

У Партыю прымаюцца толькі Беларусы, веруючыя ў Бога, даўшые прэд трэмя сведкамі зеленадубцамі абецанку свята выпаўняць «дзвенаццаць запаведзяў Зялёнага Дуба» і тые абавязкі і наказы, якія на

яго будуць накладацца Атаманам ці Ц. К., маючыя рэкамэндацыю ня меньш як чатырох зялёнадубцаў.

Увагі:

1). Людзі іншых нацыянальнасьцей могуць прымацца у партыю толькі тады, калі яны з'яўляюцца актыўнымі барцамі за незалежнасьць Беларусі і аказалі якіе кольвек паслугі партыі.

2). Асобы асабіста знаёмыя Атаману, альбо двум сябрам Ц. К., залічаюцца ў партыю.

3). Арганізатар «пяцеркі» мае права залічыць у сваю пяцерку, адказываючы за залічаных прад Атаманам і Ц. К. сваім жыцьцем.

4). Выхад з партыі для ўсіх сяброў забаронены. Калі хто захоча ухіліцца ад працы у партыі, дык ён падае аб гэтым заяву ў Ц. К. Апошні можа прыняць ці не прыняць пад увагу гэтую заяву.

5). Сябры партыі, зволеные Ц. К. ад партыйнай працы, усё ж павінны ў сваім жыцьцю прытрымывацца «дзвенаццаці запаведзей «Зялёнага Дуба».

## БАЯВЫЯ ДРУЖЫНЫ ЗЯЛЁНАДУБЦАЎ

§ 9

Баявыя дружыны зялёнадубцаў складаюцца з ахвотнікаў, якія прылучаюцца да яе першага арганізатара (старшыні), атрымаўшага дэрэктывы ад Ц. К.

§ 10

Арганізатар з'яўляецца старшыней дружыны, яе поўным кіраўніком. Ён павінен:

1). Спаўняць наказы Глаўнага Кіраўніка Вайсковай справы, Атамана «Зялёнага Дуба» і Глаўнага Штабу.

2). Трымаць сувязь і кантакт з іншымі дружынамі, знаходзяючыміся ў данным району.

3). Даваць суседнім дружынам помач, калі гэта будзе патрэбна.

4). Весьці разведку ў сваім районе.

5). Данасіць аб усім у Глаўны Штаб.

6). Бараніць у сваім районе селян ад бальшавіцкіх рэквізыцый, ад наездаў камісараў і чрэзвычайкі.

7). Падтрымываць, чым можа, працу агентаў Ц. К.

8). Падтрымываць кантакт і дружаскую сувязь з прыхільнай да нас Польскай Уладай, гдзе яна існуе.





Старшыня з'яўляецца адветнай асобай прад Ц. К. за сваіх людзей, якія могуць і ня лічыцца сябрамі партыі.

§ 11

Уся дабыча, захопленая ад бальшавікоў, з'яўляецца уласнасьцю Дружыны, але частка грошаў (не меней 30%) перэдаецца у Ц. К. на выдаткі па друкаваньню літэратуры, утрыманьне Глаўнага Штабу і агентаў Ц. К., на закупку патрэбных матэрыялаў.

§ 12

Старшыня Дружыны у мейсцах, асвобожаных ад бальшавікоў, падтрымывае тую цвільную Уладу, якая будзе назначана Часовым Урадам Беларускай Народнай Рэспублікі.

§ 13

Зялёнадубцы за сваю працу не атрымываюць жаднай пэнсіі, але Ц. К. па магчымасьці дапамагае тым сябрам партыі, якіе ня маюць уласнасьці і грошаў.

§ 14

Зялёнадубскі пароль

Сякрэтны зялёнадубскі пароль устанаўляецца Атаманам.

Пароль даецца дзеля таго, каб пазнаць сваіх сяброў.

Увага 1. Пароль павінны ведаць: сябры Ц. К., Глаўны Штаб, старшыні дружын, арганізатары «пяцерак» і агенты Ц. К.

Увага 2. За разглашэньне пароля віноўны адказвае сваім жыцьцём.

Увага 3. Атаман можа у усялякі час замяніць стары пароль новым.

## ГАНАРОВЫЯ СЯБРЫ

§ 15

Асобы, маючыя заслугі, тые ці іншые, прад Бацькаўшчынай, альбо аказаўшые матэрыяльнае ці маральнае падтрыманьне партыі, могуць быць залічаны па пастанаўленьню Атамана і Ц. К. ганаровымі сябрамі партыі.

§ 16

Зялёнадубцы заўсёды павінны памагаць, чым толькі могуць, ганаровым сябрам партыі.

Асабіста, на усіх сходах і пры уселякіх выбарах зялёнадубцы сваімі галасамі падтрымываюць кандыдатуру ганаровых сяброў.

§ 17

Пры выбарах у Сойм ганаровыя сябры залічаюцца у кандыдатскіе спіскі.

## МАТЭРЫЯЛЬНАЯ СПРАВА ПАРТЫІ

§ 18

Увесь бальшавіцкі скарб і грошы, гдзе бы яны не знахадзіліся, лічацца уласнасьцю партыі «Зялёны Дуб».

Увага: Аднятая ад бальшавікоў уласнасьць мейсцовых жыхароў перэдаецца ім пад квітанцыі.

§ 19

Партыя «Зялёны Дуб» шукае дапамогі у гаспадарств, якіе заінтэрэсованы у тым, каб бальшавізм не пашыраўся на матэрыке Эўропы.

Найболей усяго партыя спадзеваецца, што брацкая Польшча, звязаная гістарычна з Беларусьсю асвабадзіўшаяся сама ад Маскоўскага іга, акажа і нам дапамогу у Святой справе вызваленьня ад таго жа іга Бацькаўшчыны.

§ 20

Прыватныя афяры ад асоб, прыхільных ідэям і глаўнай мэце партыі, паступаюць у распаражэньне Ц. К.

§ 21

Ні якіх абавязковых сяброўскіх узносаў не устанаўліваецца. Але тыя сябры партыі, якіе маюць уласнасьць, ці шмат грошаў, павінны час ад часу рабіць афяры у партыйны фонд.

## ПАРТЫЙНЫЯ СХОДЫ

§ 22

Партыйныя сходы па наказу Атамана, вялікіе і малые, збіраюцца Ц. К.

§ 23

На вялікі сход кожная «пяцерка» можа паслаць свайго дэлегата.

Апроч гэтага, на сходзе прымаюць учасьце і сябры Ц. К., все агенты Ц. К., прэдстаўнікі ад Дружын, Мастацтв і усіх іншых зеленадубскіх арганізацый.

Старшынею сходу з'яўляецца Атаман ці яго паўнамоцны — адзін із сяброў Ц. К.

§ 24

На Сходзе могуць быць прысутнымі гонаровые сябры партыі і прыватные асобы па запрашэньню Атамана.





§ 25

Вялікіе сходы збіраюцца дзеля:

1) Выбароу Атамана і сяброў Ц. К.

2) Ізмяненьня Статуту.

3) Развязаньня тых спраў і пытаньняў, якіе перэдае Атаман ці Ц. К. на волю вялікаго сходу.

Увага: Атаман лічыцца бязсменным, але галасамі вялікаго сходу можа быць залічаны ў гонаровыя сябры і тады выбіраецца новы атаман. Сябры Ц. К. выбіраюцца на год.

§ 26

Рэшэньня Вялікога сходу пастаўляюцца большасьцю галасоў.

§ 27

Малые сходы збіраюцца па наказу Атамана (ці Ц. К.) для развязаньня іншых меньш паважных спраў і пытаньняў.

§ 28

На малых сходах з'яўляюцца прысутнымі толькі тые сябры партыі, якіе адатрымываюць запрашэньне на сход ад Атамана.

§ 29

Мейсца і час сходу назначаюцца Атаманам.

## ЗЯМЕЛЬНАЕ ПЫТАННЕ

§ 30

Прызнаючы прыватную уласнасьць, партыя «Зялёны Дуб» лічыць, што уся зямля павінна быць выкупляна па справядлівай ацэнке урадам і перэдана людзям, якіе займаюцца сельскай гаспадаркай.

Ні якой разніцы паміж памешчыкам і селянскім гаспадаром партыя ня бачыць. Як першы, дык і другі павінны мець правы на зямельную уласнасьць у той норме, якая будзе устаноўленая Устаноўчым Соймам.

Увагі: 1) Не чакаючы развязаньня зямельнага пытаньня Устаноўчым Соймам, кожны павет арганізуе свой зямельны камітэт, які павінен устанавіць часовую норму зямельнай плошчы сярод гаспадароў і тых людзей, якія жадаюць жыць сельскай гаспадаркай.

2) Духоўныя асобы і сельскія вучыцеля маюць права атрымаць у сваю часовую уласнасьць вучастак зямлі па часавай норме.

4) Тые гаспадары, якіе самі ня жывуць на сваёй гаспадарке, ці маюць гаспадарку гдзе у іншым мейсцэ, трацяць права на зямельную уласнасьць.

## РАБОЧАЕ ПЫТАНЬНЕ

§ 31

У кожным павеце арганізуецца «працоўны камітэт». У склад яго уходзяць прэстаўнікі працоўнага люду усіх катэгорый. Гэты камітэт устанаўляе minimum заработнай платы і maximum рабочага дня згодна з эканамічнай сітуацыей і варункамі жыцьця кожнай мейсцовасьці і разглядае жальбы працаўнікоў і гаспадароў і пастанаўляе сваі пастановы.

§ 32

Дзеля матэрыяльнага забезпечэньня працаўнікоў павінна быць уведзена страхаваньне на дажыцьце страціўшых працэспасобнасьць і сірот.

§ 33

Усі працоўнікі маюць права гуртавацца ў прафэсыанальныя звязкі і іншыя арганізацыі, але пад варункам, каб яны не з'яўляліся апаснымі, з гаспадарчыннага пагляду.

## СВАБОДА СОВЕСЬЦІ

§ 34

Партыя «Зялёны Дуб» стаіць за поўную свабоду совесьці.

## СВАБОДА ДРУКУ І СЛОВА

§ 35

Партыя «Зялёны Дуб» стаіць за свабоды друку і слова.

Увага 1. Выданьня, прапаведуючыя бальшавізм і камуністычную тэорыю, павінны бацъ забаронены, каб не збіваць з розуму і ня ашуківаць Беларускі народ.

Увага 2. Павінна быць забаронена бальшавіцкая агітацыя і прапаганда бальшавіцкіх ідэй і лозунгаў.





## АБУЧЭНЬНЕ ДЗЯЦЕЙ

§ 36

Партыя «Зялёны Дуб» прынцыпова стаіць за агульнае нізшае і сярэдняе безкаштоўнае абучэньне.

Увага: В'усіх нізшых і сярэдніх вучылішчах дзеці абавязкова павінны абучацца Закону Божаму.

§ 37

У першы чарод павінны быць адчынены прафэсыанальныя вучылішча і вучыцельскіе сэмінарыі дзеля падгатоўкі кадраў прафэсыанальных працаўнікоў і вучыцеляў.

## ПРАВА НАЦЫАНАЛЬНАСЬЦЯЎ

§ 38

Партыя «Зялёны Дуб» лічыць, што першае мейсца сярод нацыанальнасьцяў у Беларускай Народнай Рэспубліцэ належыць Беларусам і Палякам-Крэсоўцам, якіе звязаны зь Беларусьсю гістарычна і выняслі на сваіх плячох разам с Беларусамі Маскоўскае іга.

## АДНОСІНЫ ДА СУСЕДЗЯЎ

§ 39

Партыя «Зялёны Дуб» лічыць, што Савецкая Расія з'яўляецца такім жа ворагам Беларускай Народнай Рэспублікі, якім была для яе Царская Самадзяржаўная Расія.

Ісходзючы з гэтага, «Зялёны Дуб» трымаецца арыентацыі на Захад і лічыць, што толькі цесная сувязь і дружба з аднаго боку з Польшчай, з другога з Украінай, могуць стварыць палітычную каньюнктуру, пры якой можэбна істнаваньне незалежнага Беларускага Гаспадарства.

## АДБУДОВА БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

§ 40

Партыя «Зялёны Дуб» лічыць, што віноўнікамі зруінаваньня Бацькаўшчыны у часы вайны з Немцамі і бальшавіцкай акупацыі з'яўляецца Рускае Гаспадарства. Ісходзючы з гэтага пагляду, партыя будзе дамагацца, каб Рускае Гаспадарства выплаціла БеларускайНа-

роднай Рэспубліцы усю суму, патрэбную на адбудаваньне і каб была звярнута уся уласнасьць, вывязяная бальшавікамі з Беларусі.

ЗАЛАТЫ ФОНД

§ 41

Партыя «Зялёны Дуб» лічыць, што частка залатога фонда, захвачанага Савецкай Расіей ад Царскай Расіі, з'яўляецца законнай уласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

Увага: Дзепутаты ад «Зялёнага Дуба» павінны падняць пытаньне аб залатым фондзе у Беларускім Устаноўчым Сойме.

Статут чытаў і згодзен з ім Атаман ЗД (Дзяргач)

Сьцверждаю падпісам і прыкладаю печатку

Ад'ютант Глаўнага Штаба «Зялёны Дуб» (М. Корч)

(Суправаджальны запіс)

Гэты статут разглядаў і зацьверджаю.

Лічу, што партыя «Зялёны Дуб» ідзе па пэўнаму шляху і з'яўляецца праўдзівай нацыянальнай Беларускай селянскай партыяй, якая адпавядае цяжару варункаў, у якіх знаходзіцца наша Бацькаўшчына у тэразнейшы час.

*Міністр унутраных спраў (В. Адамовіч)*

*26 лістапада 1922 г.*

*Нацыянальны архіў РБ. Стыль і правапіс дакумента захаваны*

# Зяленадубцы!

Настау гістарычны, адпаведны час вызваленьня роднай зямелькі ад бальшавіцкай апекі, ад зьдзеку і гвалту камісарау, ад таго крывавага тэрору, які запанавау з таго часу, як прыйшлі да нас маскоуские бальшавікі.

25 кастрычніка, праудзівы сын Беларусі, камандуючы Народнай Ахвотніцкай Арміяй—Беларускі Бацька Булак-Балаховіч, якога яшчэ з прошлага году чакалі усе Зяленадубцы, перайшоу дэмаркацыйную граніцу, установленую Рыжскім прэлімінарным мірам, загрузіу наш штандар на асвабаджонай Беларускай зямлі і ідзе далей, каб выгнаць з нашай Пакутніцы—Беларусі заядлых яе ворагоу—камуністау—бальшавікоу і заявіць усяму сьвету, что мы, Беларусы, так сама як і іншыя народы здатны да незалежнага жыцьця і больш не пусьцім нікога чужога гаспадарыць на нашай зямельцы.

Дык весь у гэты момэнт трэба усім, у чыіх грудзех б'ецца беларускае сэрца, хто жадае бачыць сваю матку—Беларусь—Незалежнай і не разарванай на кавалкі, хто не хоча вухнуць з голаду, мучыцца ад чужацкага гвалту і зьдзеку, ды паміраць у чужой няволі, трэба усім чым найхутчэй ляцець да нашага Правадыра—Бацькі Булак-Балаховіча, становіцца у шэрэнгі беларускага войска і біць апошнім сьмяртэльным боем найгоршых нашых ворагоу—камуністау-бальшавікоу

Вы, Зяленадубцы, праз у весь час біліся з чужынцамі за незалежнасьць нашай дарагой Бацькаушчыны!

Вашыя слауныя падзеі, поуныя адвагі і спрыту—у лясох і балотах Палесься, у Барысаускім павеце, у Смаленшчыне і іншых мясцох—добра ведомы і знаны і за граніцамі Беларусі.

Вашые сябры—дружыннікі уже з самога пачатку сталі у шэрэнгі Беларускага войска і льюць сваю кроу за адбудову Бацькаушчыны, за яе свабоду, за яе шчасьце.

Дык моцна клічэм і тых, якіе да гэтага часу яшчэ засталіся у весках, мястэчках, а то у лясох і балотох—ідзіце да Нашаго Правадыра—Бацькі Булак-Балаховіча!

Усе ідзіце хутчэй; каб ні адзін Зяленадубец не застауся без работы! Каб гісторыя на сваіх страніцах залатымі літэрамі выдрукавала імя Зяленадубцау, ратавaушых сваю Бацькаушчыну ад чужынцау і паднявшых штандар яе вольнасьці і незалежнасьці.

Усе ідзіце—вас клічэ наша Пакутніца Беларусь, вас заве наш Правадыр—Бацька, вам прыказывае ісьціі моцны голас беларускага сэрца і народнага сумленьня.

Нехай жа ад гэтага часу іствуе Незалежная Беларусь! Нехай Яна, як дзіця, расьце з кожным момэнтам і вырасьце у грозную, вялікую сілу!

Хай жыве наш Маршал Правадыр Бацька Булак-Балаховіч!

Ідзіце усе і не выпушчайце з рук стрэльбау, покуль хоць адзін аршын нашай зямлі будуць таптаць чужынцы—бальшавікі—камуністы!

Беларусь клічэ Вас—ідзіце!!

Бел. Пал. Кам.

## ЗЯЛЁНАДУБЦЫ !

Настаў гістарычны, адпаведны час вызвалення роднай зямелькі ад бальшавіцкай апекі, ад здзеку і гвалтаў камісараў, ад таго крывавага тэрору, які запанаваў з таго часу, як прыйшлі да нас маскоўскія бальшавікі.

25 кастрычніка, праўдзівы сын Беларусі, камандуючы Народнай Ахвотніцкай Арміяй — Беларускі Бацька Булак-Балаховіч, якога яшчэ з прошлага году чакалі ўсе Зялёнадубцы, перайшоў дэмаркацыйную граніцу, устаноўляную Рыжскім прэлімінарным мірам, вагрузіў наш штандар на асвабаджонай Беларускай зямлі і ідзе далей, каб выгнаць з нашай Пакутніцы-Беларусі заядлых яе ворагаў — камуністаў-бальшавікоў і заявіць усяму свету, што мы, Беларусы, таксама, як і іншыя народы, здатны да незалежнага жыцця і больш не пусцім нікога чужога гаспадарыць на нашай зямельцы.

Дык вось у гэты момэнт трэба ўсім, у чыіх грудзях б'ецца беларускае сэрца, хто жадае бачыць сваю матку-Беларусь неразарванай на кавалкі, хто не хоча пухнуць з голаду, мучыцца ад чужацкага гвалту ды паміраць у чужой няволі, трэба ўсім чым найхутчэй ляцець да нашага Правадыра — Бацькі Булак-Балаховіча, станавіцца ў шэрэнгі беларускага войска і біць апошнім смяртэльным боем найгоршых нашых ворагоў — камуністаў-бальшавікоў.

Вы, Зялёнадубцы, праз увесь час біліся з чужынцамі за незалежнасць нашай дарагой Бацькаўшчыны!

Вашыя слаўныя падзеі, поўныя адвагі і спрыту — у лясах і балотах Палесся, у Барысаўскім павеце, у Смаленшчыне і іншых месцах — добра вядомы і знаны і за граніцамі Беларусі.

Вашыя сябры-дружыннікі ўжо з самога пачатку сталі ў шарэнгі Беларускага войска і льюць сваю кроў за адбудову Бацькаўшчыны, за яе свабоду, за яе шчасьце.

Дык моцна клічам і тых, якія да гэтага часу яшчэ засталіся ў вёсках, мястэчках, а то ў лясах і балотах — ідзіце да Нашага Правадыра — Бацькі Булак-Балаховіча!

Усе ідзіце хутчэй, каб ні застаўся Зялёнадубец без работы! Каб гісторыя на сваіх страніцах залатымі літарамі выдрукавала імя Зялёнадубцаў, ратаваўшых за сваю Бацькаўшчыну ад чужынцаў і падняўшых штандар яе вольнасці і незалежнасці.





Усе ідзіце — вас кліча наша Пакутніца Беларусь, вас заве наш Правадыр-Бацька, вам прыказвае ісці моцны голас беларускага сэрца і народнага сумлення.

Няхай жа ад гэтага часу існуе Незалежная Беларусь! Няхай яна, як дзіця, расце з кожным момантам і вырасце ў грозную, вялікую сілу!

Хай жыве наш Маршал Правадыр Бацька Булак-Балаховіч!

Ідзіце ўсе і не выпушчайце з рук стрэльбаў, пакуль хоць адзін аршын нашай зямлі будуць таптаць чужынцы—бальшавікі-камуністы!

Беларусь кліча Вас — ідзіце!!!

**Бел. Пал. Кам.**

**Архіў КДБ РБ**

ЗАГАД № 1

Згодна загаду галоўнага атаману «Зялёны Дуб» ад 10.06.21 г. за № 07/11 усе партыйныя камуністы і камісары, каторыя ў 7-дзённы тэрмін не выйдуць з партыі, аб'яўляюцца па-за законам і падлягаюць тэрору. Тыя, хто выйшаў з партыі і спыніў сваю шкодную для насельніцтва дзейнасць, тэрору не падлягаюць.

Даводзячы гэта да агульнага ведама, аб'яўляю:

1. Усякаму, хто да ... б. г. выйдзе з партыі, гарантуецца ад пакушэнняў на яго жыццё на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

2. Асобы, якія ў гэты тэрмін не выйшлі з партыі, падлягаюць тэрміноваму знішчэнню незалежна ад таго, вялікую ці малую шкоду яны прынеслі насельніцтву сваёй дзейнасцю на карысць бальшавікоў.

3. Асобы, якія не састаяць у партыі, але служаць у карных аддзелах ЧК, як і тыя беспартыйныя служачыя, якія наносяць шкоду насельніцтву, будуць разглядацца як партыйныя камуністы і знішчацца, калі ў 7-дзённы тэрмін не спыняць сваю дзейнасць і не пакінуць службу.

4. У час тэрору дазваляецца скарыстоўваць усе сродкі, якія ёсць у нашым распараджэнні, да газаў і атруты ўключна.

*Начальнік тэрарыстычных груп,*
*Палкоўнік Шуляк*
*Загадчык хімічным аддзелам д-р Сікора*
*Члены ЦК «Зялёны Дуб» Снегір*
*Сазановіч*

Архіў КДБ РБ

## ІНСТРУКЦЫЯ

Начальнікам Беларускіх Партызанскіх Атрадаў
«Зялёнага Дуба», існуючым на тэрэне
Беларускай Народнай Рэспублікі

§ 1

Кожны начальнік падтрымлівае ў сваім аддзелзе моцную дысцыпліну і беспашчадна карае смерцю партызанаў, якія не спаўняюць яго службовыя наказы.

§ 2

Начальнік ня дапускае ніякіх самаўласных рэквізіцый у сялян, захватаў прыватнай уласнасці і іх прыватнага дабра.

Увага: Уся бальшавіцкая ўласнасць, дзе б яна ні знаходзілася, можа быць рэквізавана ва ўсякі час і разглядаецца як вайсковая здабыча.

§ 3

Усе аддзелы стараюцца заставацца ў тых раёнах, якія назначаны дзеля іх дзейнасці. Але ў момант дзейнасці дзеля каардынавання супольных дзеянняў могуць выбіраць месца па свайму разуменню.

§ 4

Начальнікі аддзелаў падтрымліваюць сувязь з суседнімі партызанскімі аддзеламі, аб чым і аб сваёй дзейнасці пасылаюць данясенні да Галоўнага штабу.

§ 5

Пры разаружэнні чырвонаармейцаў усе камуністы і палiткомы караюцца смерцю, жаўнеры распускаюцца па хатах. Вайсковая маёмасць, вааружэнне і снаражэнне і ўвесь абоз паступае ў поўную ўласнасць партызан. Лішка аружжа перадаецца сялянам дзеля арганізацыі народных дружын.

§ 6

Камуністы, паліткомы, агенты чэка, члены РТ, бальшавіцкія агітатары без усялякай пашчады знішчаюцца ўсе і што пры іх знаходзіцца канфіксуецца.

§ 7

Грамадзяне, выступаючыя з аружжам процi партызан, караюцца смерцю.





§ 8

Заняўшы населенае месца, начальнік аддзелу зараз жа ліквідуе ўсе іспалкомы і іншыя бальшавіцкія інстытуты і арганізацыі і прызывае насельніцтва арганізаваць цывільную ўладу, якая існавала да часоў бальшавіцкай навалы, і народныя дружыны дзеля барацьбы з бальшавікамі.

§ 9

Начальнік аддзела па магчымасці падтрымліваець агентаў ЦК ЗД працуючых у яго раёне.

§ 10

Пры заняцці раёнаў беларускімі рэгулярнымі войскамі начальнік партызанскіх аддзелаў павінен спаўняць вайсковыя наказы, выданыя Начальнікам рэгулярных войск.

§ 11

Наконт дастаўкі прадуктаў начальнік аддзела знаходзіцца ў сувязі з сельскімі ўладамі, якія па магчымасці павінны даваць партызанам дапамогу.

§ 12

За невыкананне гэтай інструкцыі начальнікі аддзелаў будуць падлягаць ваенна-палявому суду.

*Атаман Беларускіх партызанскіх Дзяргач*
*Ад'ютант, капітан Корч*

*М. п.*

Архіў КДБ РБВ. Адамовіч

# АДЗІН ДЗЕНЬ У АРМІІ «ЗЯЛЁНАГА ДУБА»

## Варта

Ціха, ціха кругом, толькі дзе-ня-дзе зашуміць вецер паміж галін дрэваў ды зноў ціха, як у магіле.

Уецца грэбля скрозь гушчарню Палесся, паўзе, як гадзюка, і гіне гдзесь сярод частага грабняку. Здаецца, што гэта дарога зроблена не для жывых людзей, бо нікога на ей ня відаць.

А ці-ж гэта так? Не, вось у цяні галін едлы стаіць чалавек з вінтоўкаю за плячыма і пільна глядзіць у канец грэблі, гдзе тая гіне з вачэй у гушчарні лесу.

Хто гэты чалавек? Хто яго тутака паставіў, каго ён пільнуе? Ці можа гэта разбойнік вышаў на дарогу, каб забіць каго? Ці можа паляўнічы жджэ дзіка, каб меткай куляй зваліць яго? Не, усё гэта ня так. Паставіла гэтага чалавека тут, сярод грэблі, нядоля, уклад усяго нашага цяперашняга жыцьця.

Прыгледзьцеся добра ў яго малады твар! Ці не пазнаеце у ём таго, каго гоніць жыцьце у лес ад людзкай няпраўды? Ён моцна сьціснуў вінтоўку рукамі і плача душою ад горкай крыўды. Моцна бьецца сэрцо ў грудзях... Ня ведама толькі, ці доўга? Няхай хоць гадзінку, абы яно білося за праўду, за родны край!

А вецер ціха калыша галіны едлы, а тые, як шырокіе лапы сьмерці, прыгарнулі да сябе гэтага маладога байца за сваю Бацькаўшчыну. Вось усе бліжай і бліжай, вось і вырас усаднік на белым каню. Упіўся у яго вачыма чалавек з вінтоўкай пад елкай, і ціхая радасьць засьвяцілася у яго вачох. Свой! Вось ужо добра відаць малады твар і шапку, а на ёй тры дубовых лісткі, а за поясам заткнуты «маўзер». Вось ён стрымаў каня, і моцны гвізд завыў на лесе.

— Гві, гві, гві! — адазваўся маладою вуткай чалавек с-пад елкі, і ўсаднік пагнаў каня, і яшчэ хвіснуў і — ен пад'ехаў для елкі.

— Ну, Семка, здароў! — сказаў ён, злазячы з каня.

— Нічога, добра. Звадзі барджэй каня з грэблі.

Усаднік зьвёў каня з грэблі, правязаў да маладой асінкі і падышоў да вартаўніка.

— Ну, здароў яшчэ раз, Сёмка!





І два чалавекі абняліся, як браты, і моцна пацалаваліся.

— Ну, вось я і дома! А гдзе стан? — спытаў усаднік. — Трэба хутчэй бегчы ды сказаць, што «башлыкі» хочуць іці на нас аблавай.

— Ці-ж?

— Але, браток, — можа нават заўтра.

— Вось як! — сказаў Сёмка.

Всаднік адвязаў каня і чуць прыкметнай сьцежкай нашыўся ў гушчарню лесу. А Сёмка астаўся ізноў на сваім месцы пад ценям ялінкі. Ізноў глядзіць у канец грэблі і чакае...

## У стане

Прайшоўшы шагоў трыста, усаднік пачуў каласы гамонячых людзей і хутка вышаў на палянку. На ёй, на розных куткох, сядзело і стаяло чалавек каля дзесяці аружаных людзей. Насярэдзіне на трох колах, на тоўстым дроце, вісеў вялікі чыгун, а у ём булькаўся крупень, Тутака-ж адзін малады хлапец сёк сякерай шакалі, другі надкідаў іх у вагонь, трэці рэзаў сало, смачна аблізваючыся. Усаднік аглядзеў усю палянку быстрым вокам, зьняў з каня сядло, павесіў яго на сук і зьняўшы вобруц пусьціў каня на траву, а сам накіраваўся к найбольшай грудзе людзей, адкуль ішоў найбольшы гоман.

— Ці здаровы, сябры, як маецеся? — зычным голасам гукнуў ён да іх. Колькі галоў азірнулося, хутка падняўся цэлы гвалт галасоў.

— А, Дзяргач, здароў! Як, што чуваць? Гдзе бальшавікі?

І людзі абступілі прыбыўшага чалавека.

— Ціха, ціха! — замахаў ён на іх рукамі. — Закаркалі, як крумкачы! Чаго добрага, і Лейбу Троцкага збудзіце ў Маскве гэтакім гвалтам. А гдзе-ж Піліп? А вось ён! Ну, здароў! Здаровы і вы ўсе, сябры! — сказаў ён, накалаваўшыся з Піліпам.

— Ну, ну, добра! Кажы, кажы, што чуў, гдзе быў? — загаманілі ізноў наукол яго.

— Але ж ціха, ціха, каб вас цямцюр! — замахаў на іх рукою Дзяргач. — Усе скажу.

Усе сьціхлі.

— Ну, вось, сябры, я прышоў да вас сказаць, што бальшавікі ідуць на нас па двух шляхох. Адзін аддзел ідзе па Пятракоўскаму шляху, другі па бабруйскаму. Яны ўжо каля Дзяковіч. Мы ўжо аб гэтым далі знаць і ў галоўны наш штаб «Качая балото». Вось і ўсе навіны! А цяпер, паны старшыны, пойдзем пагамонім гдзе у баку аб усіх справах,

як спаткаць нашых ворагаў, скончыў ён, і людзі разступіліся, даючы дарогу яму і Піліпу. Падышоўшы да сьсечанага дуба, яны селі на яго. Зараз да іх падышлі яшчэ тры чалавекі. Гэта былі старшыны: капітан Морын, паручнік Шадраў і Воран. Доўга гаманілі яны меж сабою, а посьле узьлез Воран на пень і клікнуў: «Гэй, сябры, сюды!» Са ўсіх канцоў зьбегліся людзі і абкружылі звалевы дуб і пень стаяўшага на ем бяз шапкі Ворана.

— Браты мае родныя! Час барацьбы прабіў. Вораг ідзе на нас, каб адабраць у нас волю, каб забіць у нас дух нацыянальнага адраджэньня. Браты, чы сьцерпім мы гэта, чы сможам маўчаць? Не! Кожны з нас ведае, чаму мы тут, сярод лясоў; чаму у руках моцна мы трымаем стрэльбы і за якое жыцьцё мы бьёмся. Так няхай-жа наш вораг спаткае с-пад кожнага пня і куста кулю і моцны прадсьмертны клік кожнага паўшага байца: «Хай жыве Вольная Беларусь!»

— Хай жыве! — гукнулі людзі ўсе ў вадзін голас, і яліна далёка, далёка панесла гэты клік.

— А цяпер, паны дзесятнікі, хай людзі палуднуюць і адпачваюць. Бог адзін ведае, што заўтра будзе, сказаў Воран і зскочыў з пня.

— Ну, дык бывайце здаровы! — сказаў Дзяргач, устаўшы з дуба. — Трэба ехаць у свой стан.

— Троху стрывай, папалуднуеш з намі, тагды і паедзеш, — адказаў Воран. — Вось ужо і нам нясуць крупень.

Малады хлопец паставіў міску з крупеняю на пень і адышоўся.

— Ну, бяры, браце, лыжку і прашу чым Бог паслаў! — сказаў ён, зьнімаючы шапку.

Старшыны абступілі пень з міскаю і пачалі есьці.

Усюды сьціхла гутарка, толькі і было чуваць бразганьне лыжак аб міскі ды хурканьне коняў. Усе елі, — хто ведае? — можа астатні раз...

— Ну, дзякую, бывайце здаровы! — сказаў Дзяргач, абняўшыся з старшынамі, і пашоў да свайго каня. Асядлаўшы, ён азірнуўся і гукнуў да ўсіх:

— Шчасьліва, сябры, біцца! Бывайце здаровы! Барані вас, Божа!

— Дзякуй, бывай здароў! — загулі людзі, махаючы, хто лыжкай, хто кавалкам хлеба, а хто і шаблюгай.

Дзяргач узяў каня за повад і пайшоў вядомай сьцежкай на грэблю. За імі ішоў малады зеленадубец зьмянаць Сёмку з варты. Вось ужо і елка, а пад ёю верны вартаўнік.

— Ну, бывай, Сёмка, здароў! Хавай цябе Маці Божа! — абняў яго Дзяргач. — Глядзеце-ж, ня пускайце ворага тутака! Няхай ён





згіне і ня ўвойдзе праз гэтую браму да Палесься! — сказаў Дзяргач. Вывеўшы каня на грэблю.

— Ну, бывайце здаровы! — крыкнуў ён, сеўшы на каня, і паехаў.

— Шчасьлівы пуць! — сказаў Сёмка і пайшоў у стан, пакінуўшы на сваім месцы свайго сябра.

## На грэблі

Зноў ціха на грэблі. Сонцо ўжо спаўзло ніжай і хутка саўсім хаваецца за дрэвы, а там спусьціцца яшчэ ніжэй і схаваецца за край зямлі. Вось ужо і зоркі вышлі на небо і мігаюць сваімі размытымі аганькамі і будзяць шмат думак у галаве маладога вартаўніка. А ён стаіць, апершыся аб стрэльбу і — хто ведае, пра што думае? Можа прашчаецца з тымі, хто далёка адсюль...

А ў лесе калі-не-калі закрычыць сава, альбо крыкнець дзяргач у балоце за лесам, ды ізноў ціха, ціха... А хто ведае, можа праз хвілю запукаюць тутака выстралы, застогнуць людзі, загагоча кулямёт... Ды ізноў сьціхне, ізноў узыдзе сонцо і асьвеціць трупы людзей, а над імі радасна закаркаюць крумкачы, лятаючы над смачным чалавечым мясам. Але не: ціха ўсё наўкола, сьпяць жыхары леса, сьпіць і лес, шэпчучы цудную казку маладому вартаўніку...

Стой-жа, браце, на варце, моцна стой! Бо ўжо чуваць тупат ног ідучага ворага. Мацней сьцісьні вінтоўку ў маладых руках і гукні да сяброў: «Хутчэй сюды на бой, хутчэй! Час прабіў!» Няхай вораг знае, што тут стаяць тые, што ўміраючы кажуць: «Хай жыве вольная Беларусь!»

*«Звон». — 19, 22 верасьня 1919 г.*

*Стыль і правапіс аповесці В. Адамовіча захаваны*

## В. Адамовіч

# З ДНЕЎНІКА АРМІІ ЗЯЛЁНАГА ДУБА

## Ноч у стане

Вось ночка пакрыла паляву, гдзе чуць мігаў астатні шакаль у вогнішчы. Пры дагараючым агні сядзело чалавек з дзесяць зеленадубцаў і пільна слухалі аднаго сябра, які, важна размахваючы рукамі, аб нечым гаманіў. Здалёку здавалося, што гэты расказчык гаманіў аб чым-то паважным, але добра прыгледзеўшыся, на тварах слухачоў можна было разабраць, што гутарка ідзе аб вельмі сьмешным выпадку, бо ня усьпеў ён кончыць сваю гутарку, як падняўся такі рогат, што стары Сымон, каторы спаў недалеч каля агню, падняў галаву, паслухаў і вылаяўся: «А каб вас нячыста сіла падушыла! Спакою няма на вас... Годзі ужо!» Але гэты нездаволены голас яшчэ болей паддаў жару, і зарагаталі ужо ня толькі седзючые каля агню, але пачуўся рогат адкульсь з цемнаты.

— «Ну, на сягодні годзі, хлопцы!» — сказаў Піліп, падымаючыся з зямлі. «Гайда спаць, або бачыце Сымона пабудзілі, — бурчыць, як мядзьведзь у бярлозе», сьмяючыся сказаў ён і адышоў ад вяселае кампаніі.

Памаленьку ўсе разышліся. Каля агню асталося чалавек са тры, але і тые, пакурыўшы, паляглі, палажыўшы пад головы свае мяшкі з адзежай. Хутка быў чуваць толькі храп адпачываючых людзей... Ня спалі адны вартаўнікі, стоячы ў капцок паляны, пільна прыслухоўваючыся да кожнага шуму. А лес спаў. Ціха шамацелі галінкі між сабой, змаўляліся аб таемных справах свайго жыцьця. Сьвяцілі зоркі з высокага неба, глядзелі на адпачываючых людзей і, здаецца, песьцілі іх чуць прыемнымі праменьнямі. Спалі людзі, але ня доўга.

## Сыгнал

Вось у начной цішы пачуўся плач савы, і вартаўнікі навастрылі вушы, вось яшчэ і яшчэ. Так і есьць: вораг ідзе! Пабудзіліся людзі, пачалі штурхаць пад бокі тых, каторые яшчэ не прачнуліся. Хутка усе былі гатовы... Страшна было чуць, як сярод ночы лязгацелі вінтоўкі, і цяжка уздыхалі людзі.

Вось над грамадай людзей высунуўся некі чалавек у касматай шапцы. Гэта быў Дзяргач. Ціхім голасам ён пачаў гаварыць: — Сялясоў, магілу! Час настаў! Вораг ідзе, дык няхай жа знайдзе сабе тутака, сярод бры! Пастаім за родную справу! Хай кожны добра ведае, што вораг ня будзе мець літасьці, калі звагае нас, — дык біцеся да астатняга уздоху... Хай Бог нам дапаможа! — скончыў ён. «А цяпер, старшыны, да мяне!» І колькі людзей абступілі Дзергача.

— Ну, вось што, нашы старшыны: трэба зрабіць так, каб вораг не пасьпеў апамятавацца, покуль будзе зьніштожан, альбо разбаронены. А дзеля гэтага трэба вось што: вы, пане Ёрш, пайдзеце са сваімі людзьмі і кулямётам і падпалеце кучы шакалю, што ляжаць каля грэблі пры Воўчай Сьцежцы, агонь адкрыеце з другога боку грэблі. Усе гэта зробіце, як пачуеце гвізд.

— Добра, — сказаў Ёрш, — і хутка са сваімі людзьмі згінуў у цемнаце лесу.

— А вы, пане Громаў, са сваімі людзьмі разьбярэце масток на грэблі і першы адкрывайце агонь. А я з сябрамі нападу на іх з двох бакоў грэблі. Ну, у добры час, сябры, з Богам!

І старшыня Громаў з малайцамі ўплыў у цемнату.

— А вы, пане Сымон, баранеце стан сваей камандай! — скончыў Дзяргач.

На паляне засталіся толькі Сымон ды яго людзі.

## Вораг ідзе

Прытаіліся зеленадубцы па бакох грэблі, у кустох за пнямі, за высокімі дубамі і ждуць... Ужо чуваць вялікі шум ад тупату коней і людзей. Скрыпяць калёсы вазоў і чуваць, як людзі часалі гамоняць адзін да аднаго... Усе бліжай і бліжай. Вось ужо да мосту пад'ежджаюць... Яшчэ міг і пачуўся крык. Нехта паляцеў у воду.

«Стой! Куда прош! Моста нет!» — разносіцца голас ворага, і некалькі чалавек сьпяшаюцца памагчы свайму правадыру. Але ў гэты міг з другога боку канавы загаманіў нехта зычным голасам: «Здавайцеся, калі жыцьце міла, а не — згінеце, як дым у паветры!» То крычаў ім Громаў.

— Таварышчы, ні с места! К оружию! Сюда пулемёты! — чуваць каманду сярод ворагаў.

У гэты міг загаманіў кулямёт, але ня уражы. А разам панесся моцны гвізд, і вялікі пломень запалаў ззаду ворага... Трашчаць стрэльбы, гамоніць кулямёт: «бах, бах, бах».

Пачуліся сьмяртэльныя крыкі і лаянка начальнікаў. Сунуліся людзі у гушчарню лесу, але і адтуль загрымелі выстралы, засьвісталі кулі.

— «Здаемся, здаемся!» — загалялі ашалелые людзі, абнятые з усіх бакоў і пачалі кідаць стрэльбы на землю.

Вось зноў зычыць гвізд, і сьціхлі выстралы. Запалаў агонь, і Дзяргач з людзьмі вышаў з засады. Са ўсіх бакоў беглі зеленадубцы і адбіралі ад ворага яго баявые прыпасы. Шмат забралі вінтовак, набояў, тры куляметы і ўсе гэта зьнесьлі з вачэй стаяўшых, як нежывых, ворагаў.

— Ну, а цяпер, — зьвярнуўся да іх Дзяргач: можаце іці туды, адкуль прышлі, і сказаць сваім, што так пагінуць усе, хто пойдзе сюды, хто падыме руку на свабоду нашай Бацькаўшчыны! Скажэце сваім, што тут спаткалі вы тых, хто уміраючы крычыць: «Хай жыве Вольная Беларусь!»

— Хай жыве! — гукнулі зеленадубцы у вадзін голас.

— Ну, ідзеце сабе, — кіунуў Дзяргач на ворагаў.

Нясьмела рушыліся людзі і пайшлі, апусьціўшы задуманные головы, ад таго месца, гдзе колькасць іх сяброў асталося ляжаць на векі.

## Пасьля бітвы

Дагаралі агні, гасьлі зоркі ў небе адна за другой. Прачнуліся птушкі і засьпявалі насустрэчу раньняй зоркі... А зеленадубцы шпарка капалі яму дзеле забітых ворагаў. Другіе рапавалі мост, трэціе знасілі дабычу ў стан. Усе скончано. Схавалі забітых ворагаў... Але у старонцы над елкай ляжалі два забітых сябры, і над імі стаяў бяз шапкі Громаў. Вось сябры зложылі з вінтовак носкі, палажылі на іх забітых і панясьлі ў стан...

А у цемнай яшчэ пушчы галіны хвояў гойдаліся, як бы кланяючыся забітым, і ціха шамацелі, як бы апошняе разьвітаньне пасылалі.





## Хаўтуры сяброў

Не званілі на іх ў звоны, не сьпявалі сьвятых песьняў; не ў дамавіну паклалі іх, — паклалі іх у магілу, пакрылі вянкамі з дубовых галін усе бакі гэтай магілы і апусьцілі ў яе двух згінуўшых за родны край байцоў.

Брат мой родны, прашчай навекі! Прашчай і ты, сябар яго неадлучны!» — крыкнуў ён і заплакаў, адыйшоўшы ад магілы. Кінулі ўсе старшыны на тры горсьці зямлі. Зрабілі тое і ўсе сябры.

І вось хутка вырасте капец, а на ем крэст з вянком дубовым.

А сонцо ужо узыйшло. Птушкі радасна сьпявалі ў гушчары галін. Здавалося, што не магло гэтага быць, каб пакуль сонца прайшло сваю дарогу, тут ужо спалі сном вечнасьці два байцы за родную Бацькаўшчыну.

Хмурые разыйшліся людзі, і толькі адзін Громаў стаяў, абапершысь аб крэст над магілай.

Гэй, браток, ня плач! Ня рві душы маей сьлязьмі! Хай лепей мацней рука твая сьцісьне меч... бо барацьба яшчэ ідзе! Хай згінулі яны, але сэрцо іх білося за родны край, за Бацькаўшчыну сьвятую!

## Бура і мары

Трашчаць, ломяцца галіны. Бушуе вецер. Стогне лес. Па чорнаму небу бліскае доўгімі гадзюкамі маланка, і рагоча пярун. Кроплі дажджу моцна сякуць малады твар вартаўніка, але не паддаецца непагадзі малады баец. Далека, далека яго мары адсюль, ад лесу, ад буры... Вось ён бачыць вёску, а з краю — хацінку. Вось маці дала вячэру. Зыйшлася ўся сям'я. Прышоў брат-настаўнік со школы. Усе сядзяць і смачна ядуць зацірку. Скончылі, і брат пачаў чытаць кніжку. Усе слухаюць, а малы браток Яська аж рот разявіў, глядзіць і дзівуецца, як гэта шпарка і так добра выходзіць чытаньне ў брата, а ў яго вось ідзе ня гладка... Сястра сядзіць і шые камусь з братоў кашулю. А каля яе — Аксана, і на сумным твары відаць глыбокая думка... Аб чым сумуеш, мая далекая краска? Аба мне?.. Ня сумуй!» Як шчыра прыгарнуў бы ён цяпер яе да сваіх грудзей! Аддаў бы жыцьце, каб хоць зірнуць на сваю зорыньку ясную. Мары плывуць адна за другою, і ня чуе ён, як з грэблі нясецца плач дзіцячы. Маргнула страшэнная маланка: усьлед за ею грымнуў пярун і вялікая галіна з трэскам паляцела з дрэва, пад каторым стаяў задуманы вартаўнік. У той міг пачуўся крык: «Ратуйце, ратуйце!..» — «Божа міласэрдны,

што гэта?!» — прагаманіў да сябе вартаўнік і, зьняўшы шапку, перажагнаўся. Але крык зноў... Некім вострым болем сьціснуло яму сэрцо. «Божа, хто гэта крычыць? Якое дзіця прыблудзіло сюды ў тасую страшэнную ноч?.. «Вось зноў... Ня вытрымаў ён і пабег на крык. Ужо блізка падбягае. Асьвяціла маланка, і угледзеў ён...»

— «Сьпіце, сябры дарагіе, сьпіце! Мы помніць будзем аб вас!» З гэтымі словамі кінуў Громаў дубовы вянок і тры горсьці зямлі. «Прашчай!»

## За дапамогай!

— Божа мой! Мілы Ясечка, адкуль ты тут?

— Петрык, родненькі! Гэта... гэта я! — закрычаў ён. Але ўжо акруціў вартаўнік сваю дарагую находку шынелем, і моцна цалуе твар дрыжачага дзіцяці, і пытае яго:

— Хто паслаў цябе сюды, мой родны браток, такога малога сярод ночы і буры?

Плача малы Яська і дрыжачым галаском кажа.

— Петрык, родненькі! Сягодні ў вечар прыехалі «бальшакі», заарыштавалі Лявона, а заўтра, чуць свет, павязуць яго ў Слуцак і там забьюць. »

Мацней заплакаў хлопчык і прытуліўся да брата.

— Божа, памажы! Хутчэй, хутчэй у стан!» Ня чуе ён ношы, бяжыць знаёмай сьцежкай. Вось хвіля, і ён бачыць агонь пад навесам і чуе гоман сяброў. Падбег да агню, апусьціў на землю хлопчыка і ад вялікага жалю заплакаў:

— Сябры, сябры, памажыце!

Заплакаў і малы Яська. Абступілі «зеленадубцы» двух плачучых і дзівяцца: што за праява? Уцёк з варты і прынёс некага заплаканага хлопчыка, а сам раве, як карова! Але вось зьявіўся Морын. Расступіліся людзі, даючы дарогу.

— Пётра, што табе? Адкуль гэты хлопчык? — пытае ён яго і ласкава бярэ за плячо». Заспакойся, Пётра!

Ледва-ня-ледва абладаў сабою Пётра і стаў перад начальнікам, як кажа іх вайсковы урад.

— У чым справа? Кажы, браток, хутчэй! — ласкава спытаў Морын. Пётра расказаў, што даведаўся ад брата. Узяў Морын на рукі Яську, пагладзіў па мокрай галаве і пачаў распытывацца аба ўсім, што рабілі «бальшакі» у іх хаце. Нічога не утаіў Яська, усе расказаў: як прымусілі маці гатаваць ім есьці і як злавілі у гумне брата, Лявона, бо выскачыў ён з сена, куды захаваўся, каб убараніць ад зьдзекаў сястру. Расказаў, як яго пабілі, зьвязалі, — і вось ён, малы Яська, пабег за помаччу да Пётры.





## Слава малому

Моцна пацалаваў галоўку Яські Морын, сьціснуў руку Пётры і зычным голасам зьвярнуўся да сяброў.

— Сябры! Прад вашымі вачыма стаіць малое дзіця. Яно прыбегло да нас сярод буры і непагоды, шукаць ратунку. Нічога яно не баялося, бегло праз балоты і лес, ня чуло страху. Любоў, вялікая любоў да сваіх гнала яго ўперад; ня чуў ён страху, бо хацеў выратаваць свайго брата. Дык будзем помніць гэту хвіліну жыцьця нашага і шанаваць яе, бо яна нас вучыць, як трэба любіць адзін аднаго і не шкадаваць свайго жыцьця для ратунку сваіх братоў. Пойдзем на помач зараз! Хай шчырая любоў малога хлопчыка да брата будзе прымерам для нас. Слава малому! — закончыў ён і падняў Яську на рукі, каб бачылі ўсе.

— Слава! — гукнулі ўсе ў вадзін голас.

— А цяпер дайце яму зьесьці і другую адзежу, а яго уласную трэба высушыць... І хутчэй зьбірацца на помач!

— Вялікае дзякуй вам, пане старшыня! — прагаманіў Пётра, з любоўю гледзячы на свайго атамана.

Праз хвілю Яська сядзеў у сухой кашулі і смачна еў хлеб з салам, а людзі зьбіраліся ў паход, каб выратаваць ад сьмерці яго брата і ўсю сямью.

## Помач ідзе

Гатовы ўсе зборы, і чалавек шэсьцьдзесят зеленадубцаў, пад камандай Шнуроўскага выйшло на грэблю. Шпарка йшлі яны.

Бура уціхла. Дождж перастаў. На небе гдзе-ня-гдзе праз хмары былі відны зоркі. А на усходзе ўжо сьвятлело, і хутка шэрая імгла стала гінуць гдзесь у гушчыне лесу, а яшчэ праз хвілю засьпявалі ў лесе птушкі на розные лады.

Кончыўся лес, і прад вачыма людзей закалыхалося, як мора, жоўтае жыто. Пасьля пацягнуўся авес, бульба, грэчка, лён, — усе багацьце селяніна.

Ярка бліснуло сонцо. Сіні туман пабег ад яго і згінуў у гары... Вось зноў лес, а за ім ужо добра відаць невялічкую вёску... Моцна забілося сэрцо ў грудзех Пётры. Сьціснуў ён вінтоўку і глядзіць на вёску. Прывычные вочы знайшлі знаёмую хату і шэпча ён. «Божа памажы! Дай Божа пасьпець у пару!»

## Вораг пацяшаецца

Сядзіць зьбіты Лявон у каморы, чуе, як плача старая маці, чуе як стогне бацька, — і рвецца сэрцо на кавалкі. Ня чуе ён, што баліць яму моцна зьбітая галава, — аб сястры гаруе. Чорная дума ня выходзе ў яго з галавы... А што, як яна не пасьпела уцячы ў тую хвілю, як кінуўся ён на краснаармейца? Што, калі не пасьпела яна ўцячы, што тагды здарылося з ею? А вораг баляваў у хаце: самагонка лілася рэчкаю, і дрэнные песьні насіліся ўсю ноч па вёсцы. Разьбегліся людзі, хто куды, а пьяные краснаармейцы грабілі хаты, зьдзекаваліся з людзей... Вось заіграло сонцо. Вышаў іх начальнік ЧК з хаты і гукнуў сваіх апрычнікаў: «Таварішчі, запрагать лошадей!» Жаласно заржалі коні, як ваўкі тузалі іх азьвярэлые людзі, з чырвонымі гвездамі на шапках.

— Выводи контр-революционера! — зноў скамандаваў іх старшы з ЧК.

Некалькі чалавек увайшлі ў хату са стрэльбамі і праз хвілю вывелі Лявона з закручанымі рукамі назадзе. За ім выбегла матка, плачучы і ломячы рукі, кінулася на калені перад чалавекам, абвешаным з ног да галавы зружжам, і стала маліць, каб адпусьцілі сына на волю. Але ўсьмяхнуўся Юда і крыкнуў: «Убрать старую ведьму!» А Лявон стаяў і думаў. «Маці, маці! Перад кім ты трациш свой гонар? — і злосьць прыдала яму сілы: трэснула вяроўка, сьціскаўшая яму рукі. «Але што гэта? Пачаўся некі крык, і з хлява выцягнулі Зосю — яго сястру.

— А, вот красавица! — радасна крыкнуў начальнік.

— Куда прыкажаце яе, таварыш Вендраў, падбег да яго, пытаючы, адзін краснаармеец. — На сено, іли в ізбу?

— Тащи на сено! — падаў ён каманду, і бедную дзяўчыну пацягнулі ў гумно, а за пьянай ватагай, ухмыляючыся, пашоў Вендраў, але чуць толькі ён параўняўся з Лявонам, як той з пракляцьцямі кінуўся на яго і схапіў зладзея за горло.

— Сюда! — пасьпеў крыкнуць зладзей. Каля дзесяці рук навалілісa на Лявона, а высвабаджаны член ЧК з пенаю у роце закрычаў: «А, ты нападать? Так вот-же тебе, контр-революціонер! — і выхваціў з-за паяса лявäрвэр.

— Ратуйце! — закрычала ня сваім голасам матка Лявона, і няжывая пала на землю.

## Бог на помач

Усе гэта бачыў Шнуроўскі са сваімі людзьмі, прытаіўшыся ў канаплях па агародах навокала хаты, і вось калі ўжо сьмерць глядзела ў вочы Лявона, і загаласіла яго маці, грукнуў стрэл. Пакаціўся на землю член ЧК. У той-жа міг панесся зычны голас:

— Сябры! Лупі нехрысьцяў! Як анёлы сьмерці, наляцелі зеленадубцы на ашалеўшых і нічога ня сьцяміўшых красных д'яблаў. Адзін за адным гінулі яны пад цяжкімі ўдарамі зеленадубцаў. Праз хвілю трупамі ляжалі ўсе абідчыкі. Кінуўся Пётра да Лявона; абняліся, заплакалі браты; падбегла Зося; вышаў стары айцец з хаты; адлілі вадою старую маці. Убачыла яна сваіх дзетак і заплакала, але ужо сьлёзы радасьці цяклі па яе старому твару. Жагнаўся на сонцо стары бацька і вітаў сыноў і збавіцеляў сваіх.

## Вялікае дзякуй

А Шнуроўскі сабраў усіх людзей сваіх і яго зычны голас дрыжаў у раньнім паветры:

— Прымеце, хлопцы, гэтых сабак ды закапайце за аколіцай у балоце!

Хутка сьцягнулі забітых, хутка закапалі і сышліся ўсе перад хатай Пётры, а Шнуроўскі крыкнуў усім:

— Вялікае вам дзякуй, сябры, за добрую работу!

— Рады старацца, пане старшыня! — адмовай грукнулі зеленадубцы. Далёка, далёка панесьліся адгалоскі збавіцеляў.

Хай ведае кожны з нашых ворагаў: за аднаго нашага сябра згіне іх са сьвету болей як сто.

*Беларусь. — 29, 30 кастрычніка 1919 г.*

